*Апанас Цыхун*

# СКАРБЫ НАРОДНАЙ МОВЫ

*З лексічнай спадчыны насельнікаў Гарадзенскага раёну*

**Гародня 2014**

*ГАРАДЗЕНСКАЯ* БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца
*той Гародні, якой мы ганарымся.*
*Дзякуем* усім, хто з *намі.*

**Каардынатар кніжнай серыі**
**«ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»:**
**Павал** Мажэйка (p.mazheika@gmail.com)
**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

**Укладальнік:** Іван Буднік
**Здымкі:** з архіваў Івана Будніка, Міхася Цыхуна, Янкі Лялевіча, Уладзіміра Хільмановіча

**Дызайн вокладкі і верстка:** Зміцер Гупянец.

**Апанас Цыхун** – нарадзіўся 5 траўня 1910 года ў вёсцы Кунцаўшчына Гарадзенскага раёна. Педагог, краязнавец, пісьменнік. Усё сваё жыццё аддаў змаганню за беларускае школьніцтва на Гарадзеншчыне. Даследаваў жыццё і дзейнасць Яўхіма Карскага. Вывучаў Гарадзеншчыну – збіраў народныя гаворкі, фальклор, этнаграфічныя матэрыялы, звесткі пра вядомых людзей рэгіёну, пра яго гістарычнае мінулае.

Апанас Цыхун ніколі не казаў пра непаўнавартаснасць або, наадварот, богаабранасць беларусаў, не лічыў патрэбным сыпаць праклёны ў адрас суседзяў, але адначасова быў настолькі перакананы ў святасці словаў «незалежнасць, мова, дэмакратыя», што часам можа было падумаць, быццам ён жыў у незалежнай Беларусі не з 1991-га, а як мінімум з 1918-га года.

Памёр у Гародні ў 2005 годзе.

Ён належаў да тых нямногіх старых інтэлігентаў з беларусаў-заходнікаў, што назаўсёды застануцца часткаю Гародні.

## Ад укладальніка

*"Скарбы народнай мовы" – гэта слоўнік гаворкі насельнікаў Гарадзеншчыны – заходняй часткі Беларусі, памежжа, дзе жылі народы, розныя па этнічным паходжанні і рэлігійных вераваннях. Стракаты этнічны склад паўплываў на мову жыхароў, прывёў да яе ўзаемаўзбагачэння. І гэтую асаблівасць гаворкі заўважыў і адлюстраваў у слоўніку "улюбёны ў сваю зямлю" Апанас Пятровіч Цыхун. Ён шмат павандраваў, пахадзіў, паездзіў па Гарадзеншчыне, наведаўшы амаль усе населеныя пункты рэгіёна, і ўсюды пільна і прагна прыслухоўваўся да народнай гаворкі, занатоўваў яе багацці ў свой паходны сшытак. У 1993 г. яму ўдалося з вялікімі цяжкасцямі выдаць сабранае лексічнае багацце асобнай кніжкай, але ў яе было ўключана трохі больш за палову ад сабранага. У наступныя гады ён настойліва дапаўняў і дапрацоўваў слоўнік. Аб гэтым сведчаць і ягоныя рукапісныя папраўкі і дадаткі ў машынапісныя тэксты, зробленыя ў апошнія гады жыцця яго памочнікамі – сынамі Генадзем і Пятром. Недарэмна шматгадовую і плённую працу А.П. Цыхуна назваў Народны пісьменнік Беларусі Ніл Гілевіч "патрыятычным подзвігам настаўніка".*

*Цяперашняе выданне "Скарбаў народнай мовы" змяшчае каля 10 000 словаў, словазлучэнняў, фразеалагізмаў, прыказак, трапных выразаў з народнай гаворкі.*

*І я глыбока задаволены тым, што ўдалося давесці справу жыцця Апанаса Пятровіча Цыхуна да канца – падрыхтаваць, адрэгаваць і выдаць поўнасцю сабраныя ім скарбы народнай мовы. Яны праілюстраваны мноствам прыкладаў жывой гаворкі, што надае слоўніку асаблівую каштоўнасць і пацвярджае думку, што беларускае слова жыло, жыве і будзе жыць.*

*У 2010 годзе да 100-годдзя Апанаса Цыхуна пабачыла свет кніга "Улюбёны я ў сваю зямлю...", куды ўвайшлі ўспаміны, артыкулы, замалёўкі, вершы нашага славутага настаўніка і краязнаўцы.*

*Іван Буднік*

# А

**Абабіра'ць** незак. Выбіраць муку з жорнаў. *Бало, я кручу жорна, а тато абабірая муку, сыпля ў сявенку.* **Круглікі.**

**Абабі'цца** зак. Навучыцца ад людзей, як жыць, як сябе паводзіць. *Думалі, што з яго чалавека ні будзя, а зноў абабіўсо каля людзей і вунь якім стаў.* **Аульс.**

**Аба'біцца** зак. Згубіць мужчынскую годнасць, стаць бабай. Сцяпан зусім абабіўсо, бульбу скрэбя, пялюшке ходзіць на рэчку паласкаць. Пагараны.

**Абагна'ць** зак. 1. Апярэдзіць. Як вадзілі коні пасвіць, та ўсе навыпярадкі ездзілі, хто каго абгоніць. Кунцаўшчына. 2. Абдзерці шалупінне з зерня. Спярша грэччыну трэбо патсушыць, каб лупіны атставалі, а ўжэ потым абагнаць у жорна. Лапенкі.

**Абагу'ліць** зак. Абагуліць, зрабіць уласнае калектыўным, грамадскім. Як першы рас пры тых саветах уступалі ў хаўхоз, та коні абагулілі, а каровы засталіса. Батароўка.

**Абадра'нец** м. 1. Галадранец, бедны чалавек. Хто ж за гэтаго аба-дранца пойдзя замуж, так і звэйдаецца старым кавалерам. Рагачы. 2. Дрэнна апрануты чалавек. Куды гэтаму абадранцу на фэст ехаць, каптана нават ні мае. Сапоцкін.

**Абадра'ны** прым. Дрэнна апрануты. Гэ, грошы мая, а ў лахманах заўсёды ходзіць, абадраны. Грабяні.

**Абадра'ць** зак. Абарваць з чужога дрэва садавіну; аблаташыць. Халера на іх, з адной яблыні нехто чысто яблыкі абадраў, тулькі дроб-ныя накінуў. Копанькі.

**Абалака'ць** незак. Надзяваць чыстую бялізну. Заўтра Зельна, а абалакаць німа чаго, усё ні мыта. Кунцаўшчына.

**Абалва'ніць** зак. Абдурыць. Як даверліваго чалавека, то заўсёды абалваняць, выманяць усё, што мае. Вусенікі.

**Абало'нка** ж. Вонкавы слой драўніны ў дрэве. Як даў пярун — усю сарцавіну ў вярбе высмаліў, адна абалонка засталаса. Батароўка.

**Абало'нь** ж. Абалонь, слаі драўніны паміж карой і стрыжнем. Но, сасна — гэта матарыял, много абалоні, а ні ёлка. Карозічы.

**Абамбе'рыць** зак. Неакуратна падстрыгчы нагала. Абамберыў ножніцамі хлопца, брытко на гуліцу выйсці, сміяцца будуць. Кунцаўшчына.

**Абанкро'ціцца** зак. Абанкруціцца; не здолець пакрыць даўгі. Зусім абанкроціўсо, напазычаў, ні магу паквітаваць. Гарачкі.

**Аба'пал** м. Аполак. Абапалаў прывёз, будзе чым загарадзіць, і дрова будуць. Батароўка.

**Аба'пал** прысл. Абапал, з абодвух бакоў. Абапал дарогі стаялі сакарэ, ціпер і следу німа. Свіслач.

**Абармо'т** м. Неразумны, тупы чалавек. Што пра гэтаго абармота гаварыць, або што талковаго ён зробіць. Кунцаўшчына.

**Абаро'г** м. Падзёмная стрэшка на чатырох слупках для складання і захоўвання на зіму сена. Каля жалезнай дарогі, з Гродна на Парэчча як едзяш, усё абарогі стаяць с сенам. Сабаляны.

**Аба'ч** у знач. выкл. Бач. Абач, які ты мондры зрабіўсо, адкуль такі ўзяўсо? Пагараны.

**Аббраха'ць** зак. Абгаварыць, аблаяць, зняважыць. Яна кожнаго аббрэша, лепей яе ні руш. Батароўка.

**Абвяза'цца** зак. Падвязацца /фартухом/. Абвязалаcа хвартухом, стаіць каля печы, нешто шэпча сабе. Пагараны.

**Абганя'ць** незак. Абганяць, акучваць сошкой. Пара абганяць буль-бу, а то перарасце, ні улезяш. Баранава.

**Абго'рваць** незак. Абворваць. На сухі рок бульбу трэбо абгорваць глыбей. Зялёная.

**Абгры'зак** м. Агрызак; недаедзены яблык або груша. Гэта хто абгрыскаў панакідаў, ні пройдзеш. Караневічы.

**Абдары'ць** зак. Абдарыць; надзяліць

падарункамі. Гэта трэбо быць міліянерам хібо якім, каб абдарыць усю гэту радню. Цыдзікі.

**Абдзіра'нтус** м. Чалавек, які хутка зношвае і ходзіць у рваным адзенні. Ходзіць гэты абдзірантус па сяле ў парваных ганавіцах і людзей ні ўстыдаяцца. Лікоўка.

**Абдзі'ртус** м. 1. Дзіця, якое вельмі хутка зношвае адзенне, абутак. Некі абдзіртус ні дзіця, адзежы ні настарчысса. Хамякі. 2. Ашуканец, махляр. Некалі быў крамар, абдзіртус, абдзіраў людзей, як мог. Лазы.

**Абдры'паны** дзеепрым. Абарваны, неахайны /пра чалавека/. Усяго мая, а абдрыпаны цёнгле ходзіць. Капцёўка.

**Абду'рваць** незак. Абманваць, ашукваць. Ціпер ні той час, каб абдурваць, усе граматныя. Селюкі.

**Абе'дня** ж. Абедня; набажэнства ў царкве пасля ютрані. Закупілі па нібошчыку тату абедню, сорак дзён будзя. Кашэўнікі.

**Абе'руч** прысл. Аберуч, абедзьвюма рукамі. А дзіця схапіло матку аберуч за шыю, плача, ат сібе ні атпуская. Каменная Русота.

**Абе'чак** м. Бакавіца рэшата. Абечкі да рэшатаў і сітаў выраблялі некалі з распаранай асіны, ці ліпы. Рудавіцы.

**Абе'чко** н. Скрыня з дошчак, у якой памяшчаліся жорны. У нас абечко было добра, мука нігды ні рассыпаласа, добро было выбіраць. Бакуны.

**Абібо'к** м. Гультай, лежабок.Такого абібока свет ні бачыў, людзі наробяцца, а ён завалай ляжыць, ні збэткаеш. Лаша.

**Абіра'цца** незак. Чысціцца /пра курыцу/. Усероўно, як курыца на дождж абіраецца. Рацічы.

**Абіра'ць** незак. 1. Выбіраць муку з жорнаў. Адной рукой круціш млён, другой абіраяш муку, кап ні рассыпаласа. Каханова. 2. Лаяць, прабіраць, даваць узбучку. За нешто мужыка, як пачне абіраць — страх слухаць. Загорцы. 3. Скрабаць /бульбу/. Трэбо хучэй бульбу абіраць, пакуль хлеп садзіць — уварыцца. Кунцаўшчына.

**Абі'ручны** нож. Бандарскі струг для вырабу клёпак. Клёпкі спярша колюць з дзерава, потым абіручным нажом стругаюць, як трэбо, выгінаюць. Бандары.

**Абія'кі** мн. Абутак на драўлянай падэшве. Я сама пры паляках і немцах у абіяках хадзіла. Эйсманты. Мой тато самі рабілі абіякі, нікаторыя куплялі гатовыя ў Індоры. Кунцаўшчына.

**Абкалупа'ць** зак. Абшчыпаць пальцамі хлеб, змарнаваць. Дала дзі-цяці булку, та тулько абкалупало, ні ело. Караневічы.

**Абкалупа'чыць** зак. Ашукаць, абмануць. Ён ні аднаго апкалупачыў, пусціў с торбай, а цібе німа што. Аульс.

**Абквэ'цацца** зак. Забрудзіцца. Дзіця пусці да воза, то яно апквэцаецца шмаравідлам, ні пазнаеш. Ферма.

**Абкіда'ць** незак. Абшываць берагі тканіны. У хустцы берагі трэбо апкідаць, кап ні цёпкаліса. Адэльск.

**Абкі'нуты** дзеяпрым. Абшыты, аблямаваны ніткамі. Як добро апкінута пятліца ў каптане, то яна мацнейша, гузік спраўней зашпільваецца. Клачкі.

**Абкруці'ць** зак. Абматаць. Як ні ўмеяш добро апкруціць гнучкамі ногі, та цэлы дзень будзяш мэнчыцца. Рагачы.

**Аблаву'хі** прым. З абвіслымі вушамі. Я кралёў аблавухіх сабе завёў. Бакуны.

**Аблахма'ніцца** зак. Абадрацца, знасіць вопратку. Зусім аблахманіўсо чалавек, відаць, жонка ні глядзіць. Пагараны.

**Абле'злік** м. Той, у каго ад сонца аблезла з твару скура. Аблезлік ты, чысто з носа скура злезла. Кунцаўшчына.

**Аблупі'ць** зак. 1. Абарваць з чужога дрэва садавіну. За ноч нехто чысто анісаўку аблупіў, ні яблычка ні засталоса. Пагараны. 2. Ачысціць ад лупіны, абабраць. Кап добро аблупіць яйцэ, кінь, як зварыш, у халодну воду. Пагараны. Аблупі дзіцяці яблычко, мо будзя есці. Жылічы.

**Аблу'плены** дзеепрым. Абарваны; дрэнна апрануты. Ходзіць вечно аблуплены, аблахманяны, як жабрак. Кунцаўшчына.

**Абля'дры** мн. Частка конскай вупражы /драўляныя накладкі на пастронках, каб не націралі бакі каню / Аблядры

робяць з асіны, яна лёхкая і моцна. Кунцаўшчына.

**Аблямо'ўваць** незак. Аблямоўваць; абшываць краі тканіны. У цібе рукавэ паапцёпкваліса, трэбо заўша аблямоўваць. Эйсманты.

**Аблямо'ўка** ж. Абкідка ніцьмі прарэшкаў ў адзенні. Наша Ядзя малой сама ўжэ умела аблямоўку рабіць. Эйсманты.

**Абмазгава'ць** зак. Добра абдумаць. Гэту справу трэбо добро абмазгаваць, тады мо што і будзя. Рацічы.

**Абмала'хтаць** зак. Абмануць, ашукаць. Братэ зусім меншаго абмалахталі, саму горшу землю далі. Свіслач.

**Абмахна'ціцца** зак. Абрасці барадой, валасамі. Хлопяц зусім абмахнаціўсо, на чалавека ні падобны. Пагараны.

**Абме'жак** м. Край нівы, палетка; узмежак. У другіх сёлах пасьвілі на абмешках, у нас нігды ні пасьвілі, моды такой ні было. Свіслач. На абмешках рутка, бывало, паўецца, сярпом жалі, насілі каровам. Кунцаўшчына.

**Абме'нак** м. Слабое, рахітычнае дзіця. У Ганулі нашай дзіця абменак некі, адна галава велька, само міззрна. Пагараны.

**Абмы'лак** м. Дэфект у самаробнай тканіне. 1. Нітка парваласа як ні згледзіш — зробіш абмылак. Свіслач. 2. Змылак, кусочак мыла. Абмылак недзе ў воду ўпаў, ні знайсці. Каленікі.

**Абмылі'цца** зак. Памыліцца. Абмыліўсо, ні пазнаў сваго загона. Баяры. Абмыліўсо, зусім пераблытаў дні, думаў — пятніца. Капцёўка.

**Абмя'кнуць** зак. Аслабець. Ні думалі, што будзя паміраць, а зноў ён зусім абмякнуў, галава павісла. Рацічы.

**Абно'жка** ж. Пылок з кветак, які пчолы прыносяць на лапках. Пчолы абножку носяць, недзе вярбалоз цвіце. Грынёўка.

**Або'два** ліч. Абое. Абодва ні прышлі з вайны, адна маці за сталаса. Некрашы.

**Або'йчык** м. Ключыца. У яго абойчык быў зламаны, але зросса і ціпер, бачыце, нічого ні відапь. Каменка.

**Або'лтус** м. Ёлуп, бесталковы, недаразвіты чалавек. Некі аболтус, яму нічого ні ўталкуяш, галава слабая. Каўпакі.

**Або'ра** ж. 1. Вялікае памяшканне для жывёлы ў панскіх маёнтках кароўнік. Аборы будавалі с каменю і цэглы, былі аборы і с сыроўкі. Навасёлкі. 2. Тонкая вяровачка, якой прымацоўвалі да нагі лапаць. Самыя моцныя аборы — канапляныя, я сам віў некалі. Рацічы.

**Або'рса** ж. Тое, што і абора ў знач 2. Лёхка было хадзіць у пасталах, апкруціш ганучкі аборамі і ідзеш сабе, як пан. Казіміроўка.

**Або'чына** ж. Ускраек дарогі. Фурманкі ехалі па дарозі, а мы ішлі па абочыні. Свіслач.

**Або'я** ліч. Абое, абодва. Абоя рабое — як адно. Пра іх німа чо казаць, дабраліса да пары. Ахрымаўцы.

**Абрабі'цца** зак. Забрудзіцца, запэцкацца. Вазьмі дзіця падатры, а то абрабіласо. Кунцаўшчына.

**Абрабі'ць** зак. Забрудзіць, запэцкаць. Ні ўспяваеш мыць, так і зноў недзе ўпрэцца, рубашку абробіць. Сухая Даліна.

**Абра'з** м. Абраз, ікона. Помню, як тато за абраз грошы хаваў, кап хто ні ўхапіў. Лаша.

**Абрака'цца** незак. Абавязвацца, даваць зарок. Яшчэ Настуся ў тым року абракаласа схадзіць да Грыбава, пакланіцца святому Ілы. Кунцаўшчына.

**Абрамы'зіць** зак. Зняважнць. Ён ні рас сваю Гандзю абрамызіў перад людзьмі, як тулькі яна церпіць. Рагачы.

**Абро'жак** м. Нашыйнік для цяляці. Аброжак цяляці шыюць с тоўстаго палатна, кап шыі ні муляў. Свіслач.

**Абро'к** м. Сечка з саломы і канюшыны з прымяссю аўса; корм у дарогу для каня. У дарогу бралі торбу з аброкам, кап каня пакарміць, як прыстаня. Каўпакі.

**Абру'б** м. Вялікі кусок ворнай зямлі. Некалі ў пана купілі цэлы абруп пшанічнай зямлі, аш сем чалавек. Батароўка.

**Абру'с** м. Абрус, настольнік. Ды якая слава была той, якая вытча ў восім нічальніцаў абрус. Эйсманты.

**Абру'сак** м. Святочны настольнік. Абрускі былі з майхрамі, пекныя такія. Караневічы.

**Абры'днуць** зак. Абрыднуць, надакучыць. Абрыдла, глядзець на яе ні магу. Губінка.

**Абры'нда** ж. Пра жанчыну, якая ходзіць у заношанай, бруднай адзежы. Абрында нека, ні глядзіць за сабой, спадніца вечна ў яе абрындана. Гумнішча.

**Абры'ндацца** зак. Абтрапацца, знасіцца, забрудзіцца. Здымі, сынок, ганавічкі, а то забрындаліса яны ў цібе, вось папраўлю зараз. Лікоўка.

**Абрыня'ць** зак. Уздуцца, успухнугь. Кап ты абрыняла, як Магілянска гара (праклён). Круглікі.

**Абры'скнуць** зак. Пачаць кіснуць. Малако мусі абрыскло, зварыцца. Гродна.

**Абто'ркаць** зак. Абсадзіць, абставіць чым-небудзь. Лён, кап кротэ ні парылі, абторкваем дубчыкамі, мо ні падлезуць. Агароднікі.

**Абубні'ць** зак. Нагола абстрыгчы на галаве валасы. Зусім абубніў, ні аднаго валаска на галаве ні пакінуў. Прыгодзічы.

**Абу'так** м. Абутак. Ціпер дзецям аднаго тулькі абутку ні настарчысса, босыя ні ходзяць, ні тое, што калісьці было. Рагачы.

**Абхілі'ць** зак. Абкруціць. Абхілі добро шалікам дзіцяці шыю, кап ні прадуло. Рудавіцы.

**Абхо'д** м. Абход; участак лесу, за якім назірае ляснік. Абход ў міне велькі, на кане ні аб'едзяш за ноч. Зарубічы.

**Абхо'дзіцца** зак. Накарміць, напаіць жывёлу на ноч. Абходзіўсо ўжэ, ціпер можно ісці на пасядушкі да мужчын. Зарубічы.

**Абцё'пканы** прым. Растрапаны край тканіны. У маго гаспадара клешні ў нагавіцах заўсёды апцёпканы, ходзіць як мокра курыца. Свіслач.

**Абцэ'нгі** мн. Абцугі. Кап цвік дастаць, трэбо мець абцэнгі, пальцамі ні дастаняш. Рацічы.

**Абцяса'ць** зак. Абчасаць, абсклюдаваць. Склютам абцясаць сцену жывей было, як апілаваць. Дзекалавічы.

**Абша'р** м. Абшар, вялікі ўчастак зямлі. Гэта ш такая пагода, а апшар жыта нічэпаны стаіць. Лаша.

**Абшарпа'нец** м. Абадранец, дрэнна апрануты чалавек. Гэ, некі абшарпанец да Гэлі ў сваты прыехаў. Адэльск. Ці будзянь, ці свято — заўсёды апшарпанцам ходзіць. Квасоўка.

**Абша'стаць** зак. Абрэзаць зусім, дашчэнту.Ты што гэта каню хвост апшастаў, адна макаўка засталаса? Рагачы.

**Абшму'ляць** зак. Намуляць. Хамут замалы, чысто конь лапатку апшмуляў, мясо чырваніць. Рацічы.

**Абшны'рыць** зак. Абшукаць дэталёва. Усе кішане паліцман апшнырыў, а пракламацыяў у Капыцкаго ні нашоў. Загорцы.

**Абштарцава'ць** зак. Даць наганяй, аблаяць. Стась яго як апштарцаваў, век будзя помніць. Квасоўка. Верхнія Пагараны.

**Абы'-дзе** прысл. Дзе папала. Кіне шапку абы-дзе, а тады круціць голаў, шукае. Батароўка.

**Абы'** з рук прысл. Абы-як, абы-жывей / зрабіць/. Ты што ні робіш, то ўсё абы з рук, і зноў да дзяўчат. Быльчыцы.

**Абы'** рух прысл. Абы ішла справа. Купіў, прадаў — абы рух, а зарабіць — як пападзе. Аульс.

**Абысці'са** зак. Пражыць без чаго-небудзь. Без мяса можно абысціса, калі бульба і хлеб есць. Батароўка.

**Абы'-як** прысл. Абы-як; не так, як трэба. Ён гэты плот паставіў абы-як, таму і паваліўсо. Гожа.

**Абэ'рда** ж. Недарэчны будынак вялікіх памераў. Выставіў хату, як абэрду, а жыць у німа каму. Загорцы.

**Абэ'рджа** ж. Тое, што і абэрда. Узяў жонку, як абэрджу, у хату ні ўлезя. Стральцы.

**Абэ'ржа** ж. Тое, што і абэрда. Ці гэта адрына патрэбна на такую гаспадарку? Што Антось будзя ў гэту абэржу класці? Свіслач.

**Абэ'ржня** ж. Тое, што і абэрда. У Васіля была кабыла, што абэржня, у аглоблі ні ўлазіла. Рыбніца.

**Абяца'нка** ж. Абяцанне. Абяцанка —

цацанка, а дурному — радасць (прымаўка). Сухая Даліна.

**Авадзё'н** м. Авадзень. Кароў дзісь ні выганялі — авадзён ні дае жыць. Малая Жорнаўка.

**Авацава'ць** незак. Пладаносіць /пра садовыя дрэвы/. Яблыні павырасталі, а ні авацуюць, цвету аж усыпано, а яблыкаў німа. Круглікі.

**Агаро'джваць** незак. Абгароджваць. Агароджваць трэбо, бо ат качак ратунку німа. Радзівілкі.

**Аге'р** м. Ае'р. Як на агеры хлеп спячэш, то натто скарынка пахла. Свіслач. Некалі с сачком патопчасса ў агеры і шчупачкоў наловіш. Верцялішкі.

**Агі'да** ж. і м. Шкодны, надакучлівы чалавек. Агіда гэта ні чалавек, ні с кім ні можа зжыцца, задзіраецца. Кунцаўшчына.

**Агі'дны** прым. Брыдкі, шкодны. Агідны ён чалавек, усюды ўлезя. Ляпей на сабаку глядзела б, чым на яго. Малая Альшанка.

**Агла'дкі** мн. Аладкі. Помню, маці напячэ агладак з рошчыны, кіславатыя такія, і мы ямо. Белева.

**Агле'дзіны** мн. Паездка бацькоў засватанай дзяўчыны да жаніха. Агледзіны — гэта, як бацьке маладой едуць да хлопца, глядзяць, што ў як есць, як жыве. Пад"ятлы.

**Агло'бля** ж. Аглобля, дэталь у возе. Заводзь Дарэшку ў аглоблі, запрагай, паедзямо да сваіх. Сухая Даліна.

**Аглядзі'ны** мн. Тое, што і агледзіны. Паедзямо ў аглядзіны, хай пакажа, што мая. Клінчаны.

**Агро'днік** м. Садоўнік у панскім маёнтку. Да вайны ў Свіслачы быў добры агроднік. Як пойдзямо абіраць яблыкі, то ён да нас лёстачкамі, ніяк ні называў, тулькі «Мая душэ'чка», а потым як скажа брыткае слова, та хоць вушы затыкай. Свіслач.

**Агры'зак** м. Агрызак. Дзеці ні ядзяць яблыкаў, а толькі марнуюць, агрыскамі кідаюцца. Зялёная.

**Агрыза'цца** незак. Агрызацца; груба пярэчыць. Ні агрызайса лепш, усероўна ведаю, што гэта твая работа. Пракопавічы.

**Агрэ'ць** зак. Стукнуць каго-небудзь. Але ш і агрэў кіём па хрыпце карові, аш прысела. Зарубічы.

**Адбіва'цца** незак. Адрыгацца. Наеўсо замнoго, цэлы дзень адбіваецца, нідобро. Лэйгаболі.

**Адбі'цца** зак. Пакрыцца /пра кабылу/. Кабыла адбілаcа, ні патрабуе, да жарабца ні павяду. Кунцаўшчына. 2. Аддаліцца; парваць сувязь. Шурык зусім адбіўсо ат хаты, другі рок як ні паказваецца. Коматава.

**Адбі'ць** зак. Адбіць шнурам, перад распілоўкай бервяна размеціць яго шнурам, нацёртым галавешкай ці крэйдай. Перат тым, як лажыць штуку на сталюгі, пільшчыкі націраюць галавешкай шнур, нацягваюць і адбіваюць шнурам, дзе трэбо пілаваць. Дзекалавічы.

**Адбія'на** ж. Звычай у часе танцаў: хлопец задыходзіў да пары танцуючых, пляскаў у далоні, кажучы: «Адбіяна». Танцор павінен быў затрымацца і аддаць сваю партнёршу, а сам выйсці з кола. Звычай быў пашыраны ў Заходняй Беларусі да 1939 гада і з»яўляўся прычынай для абразы і боек. Стась, каб завясціса біцца, падыходзіў па некулькі разоў і даваў адбіяна. Рацічы.

**Адбо'рнік** м. Сталярная прылада для выбірання пазоў у аконных рамах. Як нагострыш адборнік, як належыць, то добро і бярэ. Дзекалавічы.

**Адбраха'цца** зак. Адгаварыцца. Гені нашай ні адбрахацца ад гэтых жулікаў, вышчаканцаў. Адэльск.

**Адбуксава'ць** зак. Моцна пабіць, натрапаць. Хлопцы, не лазьце ў сад, а то злаўлю каго і добро адбуксую. Лікоўка.

**Адбыдлава'ць** зак. Стаць цельнай, апладніцца, пабегаць /пра карову/. Дзякаваць Богу, карова адбыдлавала, з другім целям будзя. Каменка.

**Адвалі'ць** зак. Адрэзаць. Адваліў тумар хлеба і ясі, пачакаў бы — вячэра зараз будзя. Жытомля.

**Адве'даць** зак. Наведаць, пабываць у сваіх. Хочацца сваякоў адведаць, даўно ні бачыліса. Хамякі. Трэбо адве-

даць малодшу сястру, даўно ні бачыў. Сабаляны.

**Адве'дзіны** мн. 1. Наведванне жанчыны пасля родаў родзічамі і знаёмымі. Учора на адведзінах былі, у Гэлі другі сын. Адэльск. 2. Паездка бацькоў засватанай дзяўчыны да жаніха. Ездзілі ў адведзіны да Галаўніч, глядзелі, дзе жыць будзе наша Верка. Казіміроўка.

**Адво'дак** м. Новая пчаліная сям»я, што атрымалася ад штучнага падзела пчалінага роя. Ад моцнай сям'і можно зрабіць адводак, гэта ні нашкодзіць, раіцца ні будзя. Рацічы.

**Адвэ'нт** м. Вялікі пост у католікаў перад калядамі. У нас у адвэнт ніхто ні браў шлюбаў. Занявічы.

**Адвя'зіч** м. Кусок палатна, які накручваецца на навой кроснаў, чапляецца за аснову, каб даткаць кужаль і не пакідаць доўгіх канцоў асновы. Калі мало асновы, бяру адвязіч і датыкаю кужаль. Свіслач.

**Адвячо'ркам** прысл. Пад вечар. Ён тулько адвячоркам з»явіўсо ў хату, а так чорт ведае дзе прападаў. Путрышкі.

**Адга'каць** зак. 1. Пабудаваць добрую хату ці іншы будынак. Але ш і хату сабе файну адгакаў. Лаша. 2. Прайсці многа кіламетраў. Здаецца, столькі вёрст адгакалі, і ногі ні баляць. Рагачы.

**Адгану'ць** зак. Адгадаць. Адгані загатку: «У лазе на адной назе — грыб. Што гэта? Пагараны.

**Аддалё'к** прысл. Здалёк. Свой сваго аддалёк пазнае, здагадаецца, хто гэта. Кунцаўшчына.

**Адда'ць** зак. Аддаць. Аддалі яго ўчыцца, але галава, відаць, слабая, нічого з яго ні будзя. Шэмбеляўцы. Схадзіў да касцёла, аддаў усе грахе, і зноў можно грашыць. Адэльск.

**Аддуба'сіць** зак. Адлупцаваць. На гуляні аднаго рызыканта так аддубасілі, што ледво палез. Лаша.

**Аддыду'ліць** зак. Адставіць, выпучыць. Жвот, як начоўкі, аддыдуліў і стаіць, ні прайсці. Карозічы. Каўнер у бурцы аддыдуліўсо, ні аблягае, стаіць. Сяцкі.

**Аджыма'ць** незак. Праць бялізну. Плаце ў гарачай вадзе аджымала, а паласкаць трэбо ісці на рэчку. Рудавіцы. У нас мяшке, як грязныя, аджымалі на рэчцы. Рацічы.

**Адзе'жа** ж. Адзенне. Адзежы на наш век будзя, ні трэбо купляць. Бросты.

**Адзіна'ццацёро** ліч. Адзінаццаць. Свіня аш адзінаццацёро парасят прывяла. Лаша.

**Адзіню'ткі** прым. Адзіны. Ясько адзінюткі застаўсо ў бацькоў, нікого німа. Пракопавічы.

**Адкапы'ліць** зак. Адставіць. Адкапыліў задніцу і стаіць, ні пралезці. Баранава.

**Адкара'бкацца** зак. Пазбавіцца, адчапіцца. Як прыстаў некі жулік, ледво ад яго аткарапкаласа. Гродна.

**Адкара'хтацца** зак. Адчапіцца, адстаць. Як прывязаласа нека сабака, ледво ад яе аткарахтаўсо. Жукевічы.

**Адкача'ць** зак. Адпрасаваць бялізну з дапамогай спецыяльных драўляных прылад. Валко і качалко недзе на гарэ, можно ўзяць і адкачаць плаце, як маці некалі качала. Баброўнікі. 2. Прывясці да прытомнасці чалавека, які захлыснуўся вадой. Выцягнулі Івана з вады ніжывого, ледво адкачалі. Грандзічы.

**Адкі'нуцца** зак. Адмовіцца, адрачыся. Быў чалавек старгаваў карову, задатак даў, а пасля аткінуўсо. Круглікі.

**Адкро'іць** зак. Адрэзаць. Аткрой хлеба дзіцяці, хай есць. Рагачы.

**Адло'г** м. Незасеенае некаторы час поле. Як прыехалі з бежанства, то ўсё поле адлогам ляжало, лесам парасло, ледво мама с Паўлам выкарчавалі, гараць ні было як. Свіслач. Як прыехалі з Расеі, усюды адлог быў, ніхто ні гараў. Кунцаўшчына.

**Адлупцава'ць** зак. Адлупцаваць, набіць. Нізашто хлопца адлупцаваў, ён ні пры чым тут быў. Літвінкі. Яго ні раз ужэ адлупцавалі, а ён усяроўно лезе ў сат. Радзевічы.

**Адлю'днік** м. 1. Скрыты, замкнуты ў сябе чалавек. Адлюднік гэты, вечно сядзіць у сваёй хаці, людзей ні бачыць. Белева. 2. Той, хто жыве на водшыбе, далёка ад населенага пункта. Пастроіў сабе хату пад самым лесам і жыве гэты адлюднік, як воўк. Клінчаны.

**Адмалястава'ць** зак. Адрэзаць. Узяў адмаляставаў с паўхунта сланіны і есць с хлебам, усероўно як ён галодны. Кругляны.

**Адме'нны** прым. Адменны, адметны, своеасаблівы; не такі, як усе. Гэта яблыня адменна ад ўсіх, на ёй кожны рок яблык як усыпана. Ласосна.

**Адмянці'ць** зак. Адлупцаваць, аддубасіць. Я сваго адмянціў, як мая быць, хай ведае, як на бабу бзікаць. Кунцаўшчына.

**Адне'квацца** незак. Нясмела адмаўляцца, адказвацца ад чаго-небудзь. Ён заўсёды аднекваецца, але калі возьмецца за работу, то зробіць як трэбо. Грыўкі.

**Адно'йчы** прысл. Аднаго разу. Аднойчы ідзем па дарозі, аж бачымо, нека старая баба сядзіць і свішча, мусі дурная якая. Казловічы.

**Адня'ць** зак. Адабраць/мову/. Перат смерцю Хрысціні зусім адняло мову, ні слова ні сказала, так і скончылаcorrect. Свіслач.

**Адо'ляць** зак. Адолець, асіліць, перамагчы. Ледво гэтаго быка адоляў, зваліў, такі дужы быў. Адэльск.

**Адо'нкі** мн., м. Апошнія снапы збожжа ў адрыне ці стозе. Як малацілі, я падняў адонак, так шашок і выскачыў. Нагой прыцісnуў, а ён зубамі за бот, выкруціўсо, уцёк, тулькі смуроду нарабіў на ўсю адрыну. Кунцаўшчына.

**Адпаве'дны** прым. Вельмі добры, здатны /пра чалавека/. Для твае Яніны хлопяц атпаведны, німа што казаць, добра будзя пара. Адэльск.

**Адпаласава'ць** зак. Адрэзаць. Атпаласаваў с паўкумпяка свіного, і ўжэ будзя чым закусваць. Няцечы.

**Адпалява'ць** зак. Стаць цельнай; апладніцца; пабегаць /пра карову/. У гэтым року карова ізноў мусі ні атпалявала, перадойкай будзе. Круглікі.

**Адпалянтава'ць** зак. Адрэзаць, адарваць вялікі кусок чаго-небудзь. Атпалянтаваў нехто ў кажусі кусок палы, і хадзі, як хочаш. Кунцаўшчына. Тулькі прышыла кішэнь хлопцу, а ён ізноў атпалянтаваў, вырваў з мясам. Рацічы.

**Адпіры'ць** зак. Адлупцаваць. Здаецца атпірыў кабылу, як трэбо, а яна ізноў у шкоду. Лаша.

**Адпява'ць** незак. Адпяваць /нябожчыка/. Калі бедны быў чалавек і бацюшка ні прыехаў, та бабы самы атпявалі па нібошчыку. Лаша.

**Адры'нішча** н. Месца, дзе раней стаяла адрына. На адрынішчы нічого ні расло, мы ўсе паляныя цвіке там збіралі. Гібулічы.

**Адсадзі'ць** зак. Аддзяліць ад каровы цяля, каб не ссала карову. Пасля трох нідзель мы цяля атсадзілі ат каровы. Усенікі.

**Адсе'ў** м. Вымакшае або вымерзшае месца азімых пасеваў, засеянае вясной яравымі. На загончыках, відаць, ізноў будзя атсеў, вада стаіць, вымакне. Баброўнікі.

**Адсе'яць** зак. Другі раз засеяць поле, калі не ўзышло або вымакла збожжа. Відаць, кепска насене было, ні ўзышло, мусялі атсеяць. Рацічы.

**Адско'чыць** зак. Адстаяцца. Ужэ сок бярозавы атскочыў, стаў белы, можно піць. Зялёная.

**Адста'віць** зак. Выставіць, выпучыць. Ты што жваціско атставіў, стаіш, як начвач які. Лаша.

**Адсту'пнае** н. Плата, якую адзін пакупнік прапануе другому, каб той уступіў тавар /адступіўся/. Даў купцу атступнаго, а так і ні купіў бы гэтай каровы. Дубоўка.

**Адтапі'гь** зак. Падаграваючы, прымусіць згарнуцца, аддзяліцца; стварожыць /пра малако/. Малако, што ў гэтых збанках, аттапі, на сыр пойдзя. Гумбачы.

**Адубе'ць** зак. змерзнуць на холадзе. Чысто адубеў, стоячы на марозі, зуб на зуб ні нападае. Пракопавічы.

**Адудзе'ньчыць** зак. Адплаціць за паслугу. Калі хто мне добро зробіць, то я ўдубальт адудзеньчу. Квасоўка.

**Аду'ра** м. ж. Той, хто дурное гаворыць. Нека адура ні чалавск, сам ні ведае, што пляце. Рагачы.

**Аду'раны** дзеепрым. Абмануты. Стаіш гэдак, зусім адураны, у галаве ўсё пе-

рамяшаласо, ні ведаеш, што і рабіць. Перстунь.

**Адхла'ны** прым. Скупы. Нашы панэ вельмі атхланыя былі, нігды нікому нічога ні пазычалі. Адэльск.

**Адхля'біць** зак. Шырока адчыніць. Ты што дзверы атхлябіў, у хаці і так хоць ваўкоў ганяй. Свіслач.

**Адхля'шчыць** зак. Расшпіліць. Зашпілі пальто, а то атхляшчыў і стаіш на марозі, дрыжыш. Рагачы.

**Адху'каць** зак. Адагрэць рукі, дуючы на іх. Змёрз у рукі, хукаў, хукаў, пакуль трохі атхукаў. Пагараны.

**Адцадзі'ць** зак. Адцадзіць. Як зварыцца свіная бульба, та аццэдзіш і патаўчэш у цэбры. Зялёная.

**Адша'стаць** зак. Адрэзаць. Добро ні памераў, атшастаў, а ціпер ні прыточыш. Радзевічы.

**Адшчыпну'ць** зак. Адшчыпнуць, адарваць. Атшчыпну я ружу-кветку і пушчу на воду, плыві, плыві, ружа-кветка, аж да маго роду/ з нар.песні/. Свіслач.

**Ае'р** м. Аер. Сено з аерам натто ж моцно пахне, спіш на ім — аж у галаве верне. Карозічы.

**Ажахо'вы** прым. Карычневы. У той час бабы ткалі андараке ўсе ажаховыя, наймаднейшыя тады былі. Агароднікі.

**Аза'дак** м. Задняя частка тушы. Азадак бараніны купіў, файна мясо. Зарыца.

**Аказа'цца** зак. 1. Апынуцца. От так мы і аказаліса ў Расіі. Зарубічы. 2. Азвацца, падаць голас. Сядзіш адзін у хаці, а ён прыдзе і да цібе кап хоць славечко якое аказаўсо. Лаша.

**Акалаці'ць** аак. Абмалаціць снапы збожжа першы раз, г.зн. не поўнасцю. Акалаціў паўтары капы жыта, будзе з чым ехаць да мліна. Балічы.

**Акале'ць** зак. Адубець, змерзнуць. Чысто акалеў, стоячы на дварэ, аш трасе. Бакуны.

**Акало'т** м. Сноп жыта пасля першага абмалота. З акалота файна сечка, з зернямм, добро коні ядуць. Лікоўка.

**Акало'чанік** м. Тое, што і акалот. Акалочанікаў нарэзаў на сечку, будзе на пару дзён. Рацічы.

**Акірна'чыць** зак. Сесці верхам на што-небудзь і ахапіць нагамі. Акірначыў слон нагамі, сядзіць, як на кане. Караневічы.

**Аклада'ць** незак. Лупцаваць, біць. Дастаў біча і давай акладаць каня, а ён ні з месца, наравісты, тулькі галавой круціць. Каленікі.

**Акла'дзіна** ж. Дубіна. Узяў акладзіну і давай акладаць, аднаму як даў, та той ані кінуўса. Дарашэвічы.

**Акла'дніцы** мн., ж. Шырокія дошкі, якія закладаюць паміж ручкамі воза для перавозкі гною. Кап больш гною накласці на воз, акладніцы падымалі. Пагараны.

**Ако'ліца** ж. Шляхецкае пасяленне, засценак. У аколіцах шляхта казала: «Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе». Лаша. Дзе самыя лепшыя землі, там шляхецкія аколіцы былі, шляхта сядзела. Баброўнікі.

**Ако'льнік** м. Сталярная прылада для надання фігурнай формы аконным рамам. Дзерава да акольніка сам зрабіў, жаляско старое, ашчэ дзедава. Дзекалавічы.

**Ако'ман** м. Аканом /службовец у панскім маёнтку/. Некалі Альшэўскі ў Ляхнове акоманам быў, каровы занімаў з руні. Кунцаўшчына.

**Ако'п** м. Земляны вал з траншэяй у канцы палеткаў. З канцэ кожнаго палетка быў акоп, кап у шкоду жывіна ні лезла. Кунцаўшчына.

**Акра'ец** м. Кавалак хлеба. Акраец — гэта даволі добры кусок хлеба. Ніжнія Пагараны.

**Акра'йчык** м. Невялікі кавалачак хлеба. З бохана толькі акрайчык застаўсо, на палудзень ні стане хлеба. Агароднікі.

**Акру'га** ж. Мясцовасць, якая мае агульную гаспадарчую сувязь, адны інтарэсы. Гэ, ён на ўсю акругу гаспадар быў, што і казаць. Хліставічы.

**Акрыва'нка** ж. Вялікая хустка, якой жанчыны акрываліся ў дарозе, асабліва ў непагадзь. Без акрыванкі бабы ў дарогу ні ехалі, кожная брала. Пракопавічы.

**Акрыяць** зак. Ачуняць; паправіцца пасля хваробы. Быў зусім дайшоў, ціпер

трошкі акрыяў, стаў папраўляцца. Гродна. Як тулькі ўнясла ў хату кураня, так і акрыяло, ззымало дух. Рагачы.

**А'ксны** мн. Асцюк, шып. У курыцы аксны трэбо было павырваць, бо, як астыне, та ні дасі рады. Грандзічы.

**Акуля'ры** мн. Спецыяльнае прыстасаванне на вуздэчцы на ўзроўні вачэй у выглядзе скураных паўкруглых латак, якое не дае магчымасці каню глядзець у бакі. У аднаго гаспадара палахлівы конь быў, насіў, і акуляры ні памагалі. Пагараны.

**Аку'це** н. Металічныя дэталі, неабходныя для акоўкі драўляных земляробчых прыладаў /плуга, бараны і г.д./.Пры паляках натта ж акуце было дарагое, ні даступіцца. Ферма.

**Аку'ця** вон! Выкл. Воклiч, якім выганяюць авечак з хлява. Акуця вон! Акуця вон! Пайші ў поле! Лойкі.

**Акцы'зны** м. Чыноўнік у былой царскай Расіі і Польшчы да 1939 года. Карчмарэ натта ж баяліса акцызнаго, ён глядзеў, каб ні абманвалі людзей, ставіў на кручке штэмпяль. Дзекалавічы.

**Але'** часц. Але, так, ага. Але, можа ты і праўду кажаш, хто яго ведае. Круглікі.

**Але'пстрыка** ж. Электрычнае святло. Бачым, як у Вінцуковай хаці алепстрыка свеціць. Пагараны.

**Алё'з** м. Мокрае месца, парослае рэдкім лесам. Найбольш алёз зарастае лазняком і альхой. Сабаляны.

**Аліга'нт** м. Ганарысты, фарсісты хлопец. Алігант — на ўвесь кант /выслоўе /. Ланявічы.

**Аліга'нтны,** аліга'нтскі прым. Стройны, прыгожы; фарсісты. Вылюдзіўсо, стаў алігантным хлопцам, стройным. Лугавая. Алігантскі, а да працы — нораў панскі /прыказка/. Квасоўка.

**Алінге'рка** ж. Верхняе жаночае адзенне з шэрага сукна, з чорным каўнерам. У алінгерках жанке да касцёла хадзілі. Русота. Помню, ашчэ ў мамы была алінгерка. Круглікі.

**Алу'ха** ж. Канец, пагібель. Каб ні асвабадзілі нашы, та ўсім тут алуха была б. Пагараны.

**Альбо'** злуч. Ці, або. Альбо гэта праўда была, што ты кажаш? Вішнявец.

**Альшына'** ж. Альшына, алешнік. У Смузе над рэчкай альшына павырастала пад небо, ні пралезці. Сухая Даліна.

**Аляктро'ўня** ж. Электрастанцыя. Першу аляктроўню пастроілі пры саветах ў Вайтаўшчыні, на ўсю акругу свяціла. Ціпер некі растаран зрабілі ў ёй. Кунцаўшчына.

**А'ман** м. Чалавек, якого нанімалі ў дарэвалюцыйны час багатыя яўрэі на свае свята: яго вадзілі па вуліцы, піхалі, насміхаліся і г.д. Што вы міне піхаеце, як амана? Індура.

**Амарыка'нка** ж. Гатунак бульбы, якую садзілі сяляне пры польскай уладзе. Некалі амарыканку садзілі, яна с такімі чырвонымі ямачкамі была, добро разварваласа. Пад»ятлы.

**А'маць** незак. Есці /дзіцяч.слова/ Можа ты, унучачку, амаць ужэ хочаш? Скамарошкі.

**А'мба** ж. Канец, пагібель. Мусі зараз усім тут амба будзе, ні вытрымаюць. Рагачы.

**Аме'шкацца** зак. Абжыцца, усталявацца. Не паспелі мы тут і амешкацца, як зноў вайна надышла. Кунцаўшчына.

**Амэрыка'нка** ж. Тое, што і амарыканка. У нас была картофля-амэрыканка, садзілі да вайны. Сапоцкін.

**Амялу'ха** ж. Амялушка /птушка/. Узяў бабу, як амялуху, тулькі паглядзі. Капцёўка.

**Анаві'цы** мн. Штаны. Надзеў святочныя анавіцы, а ў будзень ходзіць. Ліхачы.

**Анге'лькі** мн. Святочныя боты з дарагой скуры з высокімі заднікамі, якія насілі вайскоўцы і заможныя гаспадары пры польскай уладзе. Ні кожны шавец мог добрыя ангелькі зрабіць, яны дараго каштавалі.Рацічы.

**Андана'рнік** м. Парабак, які атрымоўваў за гадавую службу аплату збожжам. Ён на анданарыі быў — анданарнік. Цыдовічы.

**Андара'к** м. Самаробная спадніца ў клетачку або ў палоску рознага колеру. Андарак, андарак — у андараку дзірка, ні я твой кавалер, ні ты мая дзеўка /прыпеўка/. Свіслач.

**Андуля'цыя** ж. Завіўка валасоў. Маня як

зрабіла андуляцыю, та выглядая ціпер маладая авечка. Лікоўка.

**Андына'рац** м. Ардынарац. Як служыў у польскім войску, та андынарцам быў у паручніка, добра было, ні ганялі як другіх. Гібулічы.

**Анё'л** м. Анёл. Ідзі с панам богам, хай анёл цібе сцяражэ. Лойкі.

**Ані'гдачкі** прысл. Ніколі /узмацн./ Анігдачкі больш рабіць так ні буду, хай яно пропадам прападзе. Каменка.

**Ані'гды** прысл. Ніколі. Больш анігды да вас ні паедзямо, хай вы згарэце з вашай гасцінай. Малая Альшанка.

**Анія'к** прысл. Ніяк. Аніяк ні хоча памірыцца з бацькамі, як ні ўгаворвалі, што ні казалі. Кунцаўшчына.

**Ано'да** ж. Эфірнае масла, якое бедныя сяляне ўжывалі замест гарэлкі. Ка'пнеш на цукар аноды, з»ясі — так у мазгах і заверне. Ліхачы. Аноду куплялі ў аптэках. У Новай Рудзе людзей і ціпер называюць аноднікамі. Я адзін рас папробаваў, узяў з ложачку, та мусі з нідзелю смярдзело, а яны просто так і лакталі. Сабаляны.

**Ано'дым** м. Тое, што і анода. Анодым капалі на цукар і бралі ў рот. Я помню, мая цётка Тэкля піла. Загорцы.

**Ан'одыя** ж. Тое, што і анода. Пры Польшчы паедзям да Гродна, быў знаёмы аптакар.»Дай чакушку анодыя!» — і дасць. Азёры.

**Антлэ'ф** м. Канец, пагібель. Антлэф мусі зараз ім будзя, ні вытрываюць. Індура.

**Антыля'рыкі** мн. Брыжы, карункі /на адзенні/. Маленькія брыжачкі такія тоненькія, называліса антылярыкамі, прышывалі да сарачок у два радэ. Клачкі.

**Апа'дкі** мн. Ападкі. Якія тут яблыкі, адны апаткі, хто іх купляць будзя. Зялёная.

**Апала'не** н. Ачыстка круп правейваннем. Надаело гэта апалане, на хоць ты трохі паапалай. Баброўнікі.

**Апала'ць** незак. Ачышчаць крупу ад смецця, дробнай мякіны пры дапамозе апалушак /маленькіх начовачак/. Як хто ў жорна рабіў крупэ, та пасля апалаў апалушкамі, каб чыстыя былі. Каўпакі.

**Апало'нік** м. Хвастатая лічынка жабы. Апалонікаў гэтых у сажалцы! Ад іх вада аж гіжыць. Кунцаўшчына.

**Апало'нік** м. Вялікая лыжка для наліванння стравы. Помню, дзед мне малому як даў апалонікам па лобі, та аш прысеў. Раўкі.

**Апалу'шкі** мн. Сельскагаспадарчая прылада для ачысткі круп у выглядзе невялікіх начовачак. У нас у сенях стаяць ашчэ старыя апалушкі, ціпер ніпатрэбныя. Круглікі.

**Апанта'ны** прым. Шалёны, звар"яцелы. Лётае апантаны, як бровар запаліўшы. Хліставічы.

**Апанча'** м., ж. Няўклюдны, бесхарактарны чалавек. Ні мужык, а нека апанча, са сваёй жонкай ні справіцца. Дарашэвічы.

**Апаражні'ць** зак. Апаражніць, выпіць да дна. Глядзі, ужэ другую бутэльку апаражнілі, і яшчэ ім мало. Гарны.

**Апа'рыць** зак. Апарыць; абліць кіпенем. Маці, як хто апарыць рукі, так зразу прыкладае цёртай бульбай. Балічы.

**Апары'шчыць** зак. Зварыць, прыгатаваць ежу. Кап што кольвек апарышчыць, накарміць, ды хай ішлі б малаціць. Кавалічы.

**Апасты'ць** зак. Абрыднуць, надаесці. Ты ўжэ мне апастыў, глядзець ні хачу. Кунцаўшчына.

**Апачы'на** ж. Доўгае вясло для кіравання плытом /апачыны дзве: спераду і ззаду/. Закідай апачыну ўлево! Трымай, кап ні знясло! Свіслач.

**Апе'нія** ж. Аўтарытэт. Апенію зусім згубіў з-за гэтых бабаў, ніхто з ім ні лічыцца. Скрыннікі.

**Апе'шыць** зак. Спалохацца, струсіць. Хлопец як глянуў, што робіцца, так і апешыў, стаў, як укопаны. Дарашэвічы.

**Апіво'ш** м. Ашуканец, прайдзісвет. Хіба ж хто гэтаго анівоша ні ведае, ён ні аднаму насаліў. Кунцаўшчына.

**Апіна'стар** м. Вожык, прылада, якую надзяваюць цяляці на мырсу, каб не ссала карову. Надзенеш апінастар, цяпя ткнецца да лымя, а карова яму — бонц нагой. Грандзічы, Азяркі.

**Апі'ня** ж. Аўтарытэт. Ён ніякай апініі ні мае, які з яго начальнік. Круглікі.

**Апляву'ха** ж. Аплявуха. Ён, доўго ні ждучы, так і даў яму аплявуху. Белева.

**Аплята'ць** незак. Са смакам есці. Бачу, кот прытаіўсо каля печы і нешто аплятае. Лаша.

**Апо'лак** м. Крайняя дошка з аднаго боку выпуклая, якая атрымліваецца пры падоўжнай распілоўцы берваяна. Аполкамі гародзяць у хлявах, робяць насціл, каб цяплей у хлявах было. Пяслі.

**Апо'лец** м. Вялікі кавалак свіногa сала. Паршука такрок закалолі добраго, ашчэ апольцаў тры маям сланіны. Дарашэвічы.

**Апо'ліны** мн. Адходы ад правейвання круп. Збяры аполіны, дый кінь пат свіня, хай перабіраюць. Бакуны.

**Апо'на** ж. 1. Шына. Апону, мусі, на цвік прабіў, дух спускае. Жукевічы. 2. Вялікі кавалак аўчыны або грубага сукна, якім укрывалі ногі ездакі ў санях, экіпажах. Найбольшы марос, а як укрыясса добро апонай, та і ён ні страшны. Гродна.

**Апо'ркі** мн. Старыя боты з адрэзанымі халявамі. Каля сваей хаты добро і ў апорках хадзіць. Панямунь.

**Апо'ўзлік** м. Бесхарактарны, марудлівы, бязвольны чалавек /пагард./. Каб ён ні быў такім апоўзлікам, та пат старасць можно было б і на яго спадзявацца. Бaброўнікі.

**Апо'ўзлы** прым. Бесхарактарны, марудлівы, бязвольны. Лазіць, як апоўзлы, ледво ногі валачэ. Рудавіцы.

**Апрандава'ць** незак. Паважаць, шанаваць. Ён зусім свае жонкі ні апрандуе, за ніщто мае. Круглікі.

**Апрану'цца** зак. Адзець вопратку. Я гэта і бес цібе ведаю, што, як у дарогу едзяш, та трэбо добро апрануцца. Карозічы.

**Апрану'ць** зак. Адзець. Ціпер шторок мода другая, гэта раней адзеў фуфайку і хадзі сабе. Асочнікі.

**Апра'таць** зак. Ачысціць; вызваліць ад ўсяго непатрэбнага. Трэбо адрыну апратаць, заўтро снапэ будзем вазіць. Балічы.

**Апсі'к!** выкл. Воклiч, якіы адганяюць ката. Апсік! Німа ад цібе спакою. Лаша.

**Апу'цканы** дзеепрым. Вымазаны, запэцканы, забруджаны. Дзіця апуцкано, стварэня на ім ні знаць. Ферма.

**Апу'цкацца** зак. Вымазацца, забрудзіцца, запэцкацца. Вытры бараду, а то апуцкаўса, як малы. Баранавічы.

**Апу'цкаць** зак. Вымазаць, забрудзіць, запэцкаць. Скінь каптан, бо апуцкаеш ядучы. Бандары.

**Апяхну'ць** зак. Адказацца ад сваіх намераў. Узяўса спачатку за работу, а пасля чамусьці апяхнуў. Старая Руда. Пасля смерці жонкі хацеў жаніцца, а пасля апяхнуў. Кавалічы.

**Ара'ва** ж. Вялікі гурт. Адкуль узяць такую араву накарміць, ні выдлужыш. Кунцаўшчына.

**Арапо'рт** м. Аэрапорт. Якраз двойка ідзе да арапорта, сядай жывей, паедзям. Калбасіна.

**Ара'тай** м. Араты. Які з яго аратай, з-за ручок плуга ні відаць. Грандзічы, Азяркі.

**Армо'нік** м. Гармонік. Іван добро іграў на армоніку, прас сібе іграць навучыўса. Грандзічы, Азяркі.

**Армя'к** м. Доўгая мужчынская вопратка з сукна. У дарогу мужчыны заўсёды бралі армяке. Галаўнічы.

**А'рфа** ж. Арфа; сельскагаспадарчая машына для ачысткі зерня ад мякіны і смецця. Рукі адбярэ, круцячы арфу. Забагонікі.

**Арфава'ць** незак. Арфаваць; ачышчаць арфай зерне ад мякіны і смецця. Як намалоцяць жыта, та мы арфавалі і ноччу, пры фанарэ. Забагонікі.

**Аршы'н** м. Старая мера даўжыні, роўная 71см. Некалі метра ні ведалі, мералі на аршыны. У адным аршыні 16 вяршкоў. Клачкі.

**Арышта'нт** м. Арыштант. Хіба хто ні ведае гэтаго арыштанта, ён прайшоў агонь і чортавы зубы. Свіслач. Бачыла, як вялі на суд арыштантаў? Карозічы.

**Асаве'ць** зак. Асалавець; стаць расслабленым, санлівым. Здаецца, і німного выпілі, а чалавек зусім асавеў, стаў га-

варыць абы-што. Дарашэвічы.

**Асаві'к** м. Падбярозавік, абабак. У нашым лесе асавіке растуць тулькі пад бярозамі і асінамі. Зарубічы.

**Асавя'к** м. Тое, што і асавік. Гэта асавяк, ён робіцца такі разлезлы, як адварыш. Свіслач.

**Асадзі'ць** зак. 1. Надзець, умазаваць што-небудзь, прымацаваць. Мой дзед, Сівенькі, як асадзіць касу, та не чуеш у руках, касі і толькі пасвіствай. Рудавіцы. 2. Перан.: паставіць на месца. Ён разышоўса, скочыў, як шалёны, але мушчына некі ўміг яго так і асадзіў. Палаткова. Аса-дзіць рой — пасадзіць рой, які выраіўся, у новы вулей. Ззымаў тато велькі рой, асадзіў **у** новы ўлей, а назаўтро яго і след прастыў, паляцеў. Ласосна.

**Асака'** ж. Асака. Асакі каровы ні ядуць, языке могуць парэзаці, яе тулькі коні зімой ядуць. Сухая Даліна.

**Асака'р** м. Тапаля. За цесцям, каля Стасюка, рос асакор, ціпер спілавалі, пень адзін астаўсо. Пагараны.

**Аса'шкі** мн. Выязныя сані з фігурным верхам. Асашкі былі тулькі ў багатых гаспадароў, бедныя ні мелі. Бакуны. Некалі ў нас, у Альшаніцы, прывозілі ў асашках бацюшку свянціць карапке, ездзілі да цэрквы. Вялікая Альшанка.

**Асе'ліца** ж. Ваколіца, акруга. О, ён у нас быў музыкант на ўсю аселіцу. Баброўня.

**Асё'лка** ж. Асялок, брусок. Ён, бывало, мне наменьцічь асёлкай касу, та яна аж ліжа, косіць траву. Свіслач.

**Аске'рыцца** зак. З'едліва ўсміхнуцца. Ты што на міне аскерыўсо, глядзіш выўком? Пагараны.

**Аско'міна** ж. Аскома. Пасля яблыкаў аскоміну набіла, хлеба ні ўкушу. Рагачы.

**Аславу'хі** прым. Аблавухі. Аславухія свіня файныя, яны добрыя на сало, пародзістыя. Бакуны.

**Асма'лак** м. Абгарэлы кавалак дрэва; галавешка. У вайну немцы Пузавічы спалілі, тулькі адны асмалкі засталіса з будынкаў. Стральцы.

**Асмі'на** ж. 1. Асьміна /старая мера сыпкіх цел, роўная 105л./. Некалі лічылі, што ў асміне дзесяць вёдзяр. Клачкі. У нас у засеку асмін с пяць ашчэ лонскаго жыта ляжыць, перасушвалі. Лаша. 2. Высокая пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы для захоўвання збожжа. У асміну як залезяш, та ні вылязяш; я сам адзін раз залез, та матка ледво выцягнула. Дзекалавічы.

**Асмо'лак** м. Тое, што і асмалак. У нікаторых вёсках называлі галавешкай, а ў нас — асмолкам, ім сувальскія пільшчыкі націралі шну-ры, значылі калоду. Караневічы.

**Аснісе'ко** н. Доўгая пуга, якой паганялі валоў /устар./ Тады Сцяпан Бычок падняў аснісеко, што валоў паганяюць, і давай сцёбаць жонку, што сляпому жабраку нічого ні дала. Капцёўка.

**Асно'ва** ж. Падоўжныя ніткі ў тканіне. Калі шарсцяную радзюшку ці радно тчэш, та аснова і ўток шарсцяныя, а можа быць аснова парцяная, а ўток — шарсцяны. Свіслач.

**А'сны** мн. Маленькія, недаразвітыя зачаткі пярынак, якія застаюцца пасля скубання курыцы, качкі, гуся. Як аскубеш курыцу, та застаюцца аснэ, іх тулькі нажом можно павырваць ці асмаліць на агне. Круглікі.

**Астраво'к** м. Сухі грудок з сенажаццю або лесам сярод поля ці балота. Нідалёка Гожы есць вёсачка Астравок; так называецца, бо яна паміж лесу, як на астраўку. Гожа.

**Асу'шак** м. Кавалак сухога хлеба. Ці старому чалавеку асушкі есці, хай маладыя ядзяць. Кавалічы.

**Асушы'ць** зак. Выпіць, апаражніць. Як селі, так тры бутэлькі і асушылі. Рагачы.

**Асы'паць** зак. Акучыць /бульбу, буракі/. Ні ўспеў, халера, бульбу асыпаць, а ціпер перарасла, ні ўлесці. Капцёўка.

**Асыпа'ць** незак. Акучваць. Пасля гэтаго дажджу ні шкодзіло б буракі асыпаць. Хамякі.

**Асы'пка** ж. Мука грубага памолу з аўса і ячмяню для жывёлы. Як асыпка есць, та і паршука можно выкарміць, як кажуць: «Карміі свіню мукой, та пойдзя рукой». Дарашэвічы.

**Асэ'сар** м. 1. У дарэвалюцыйнай Расіі судовая службовая асоба. Таго асэсара баяліса, як агню: як скажа — так і закон. Вялікае Дзямідкава. 2. Важная асоба, высокі чын /іран./ А ты што тут мне за асэсар, распаражаясса? Вялікае Дзямідкава.

**Асяні'на** ж. Звычай у сялян восенню /на дзеды/ даваць папу, пастуху, карчмару, настаўніку сельскай прыхадской школы збожжа і бараніну /устар./. На дзеды калісьці ў нас пастыр хадзіў па асяніне, давалі яму па лусце хлеба, па сем хунтаў жыта, нікаторыя гаспадарэ давалі па лапатцы бараніны. Лаша.

**Асяню'к** м. Баранчык, які нарадзіўся восенню. З асянюка тонкая гаўчынка, на кажух ні гадзіцца. Свіслач.

**Асянючо'к** м. Тое, што і асянюк. Асянючка пакідалі на зіму, кап падрос. Карозічы.

**Ат** выкл. з адмоўным значэннем. Ат, ні пайду на сход, чаго там ні бачыў. Лікоўка.

**Атво'й** м. Плынь ракі, якая адносіць ад берага на сярэдзіну. Папаў на атвой, чысто выбіўсо с сіл, думаў, ні даплыву да берага. Селюкі.

**Ато'са** ж. Цяж, звычайна з тоўстага дроту, ад аглоблі да пярэдняй восі для выраўноўвання ходу калёс. Ашчэ помню, як вазы былі на дзяравяннум ходу, атосы ў іх рабілі з лазы. Кунцаўшчына.

**Ато'чыны** мн. Унутранае сала з кішак свінні. Аточыны некалі ператаплялі і на салі пяклі аглаткі. Зарыца.

**Аўсю'г** м. Аўсюк /пустазелле/. Даўней ніяк аўсюгу ад гаўса ніхто ні аддзяляў, ціпер паліваюць і прападае. Пагараны.

**Аўсюга'** ж. Тое, што і аўсюг. Аўсюга як завядзецца ў гаўсе, цяшко вывясці, насене трэбо мяняць. Рагачы.

**Аўтанабі'ль** м. Аўтамабіль, аўтамашына. Ля, некі аўтанабіль затрымаўсо каля Мудрыкавай хаты. Круглікі.

**Афэ'йданы** дзеепрым. Замазаны, забруджаны. Гэта такого ўжэ складу чалавек, вечно афэйданы лазіць. Салаўі.

**Афэ'ндацца** зак. Забрудзіцца. Зусім афэндаласа каля свіней. Рацічы.

**Афэ'рма** м. Уродлівы чалавек. Але і афэрма, хто за яго замуж пойдзя. Караневічы.

**Афя'ра** ж. Ахвяра. Мне твая афяра ні патрэбна, я ні жабрачка. Балічы. Афяру даваць — рэлігійны абрад, у пятніцу, перад Вялікаднем, прыносіць у царкву кужаль, ручнікі, настольнікі і лажыць каля плашчаніцы. Мы, дзяўчата, хадзілі спяваць на клірас, а афяру давалі тулькі старыя бабы. Коматава.

**Афярава'цца** зак. Даць клятву, абяцанне. Некалі афяраваліса схадзіць ў Журовічы пакланіцца іконі Божай маццяры, хадзілі і старыя, і малыя. Клачкі.

**Аха'йваць** незак. Абгаворваць, чарніць. Падло, нідобра баба, усіх падчыстую ахайвае, адна яна добра. Рудавіцы.

**Аха'йны** прым. Ахайны, акуратны. У ахайнай гаспадыні ўсё чыста, і сама акуратна, любо паглядзець. Рацічы.

**Ахвіцэ'р** м. Афіцэр. Ляваня Маня за ахвіцэра вышла, недзе ў Гродні жыве. Кунцаўшчына.

**Ахламо'н** м. Цёмны, неразвіты чалавек. Ахламон ты дый годзі, нідзе ты ні быў, нічого ні бачыў. Саволеўка.

**Ахо'джвацца** незак. Упраўляцца па гаспадарцы, даглядаць жывіну: даваць нанач, падсцілаць. Наш тато заўсёды аходжваўсо да цямна, а вечарам плёў кошыкі альбо вязаў волак. Рагачы.

**Ацара'піць** зак. Ачарэпіць, абняць рукамі. Налізаўса, як трэбо, ацарапіў дзерава і стаіць, пакуль ні зваліцца. Зарыца.

**Ацё'пкацца** зак. Растрапаць краі тканіны, адзежы. Рукавэ зусім ацёпкаліса, німа як хадзіць. Лікоўка.

**А'ціца** ж., мн. Аўсянік, крылатае насякомае, якое жыве ўсяго некалькі дзён; падзенка. На аціцу рыбу добра лавіць, як закіняш вудачку, так і схопіць, тулькі цягай. Прывалка.

**Ацю'піш!** выкл. Вокліч, якім адганяюць куранят. Ацюпіш! Ацюпіш! Пашлі пат курыцу! Лугавая.

**Ачалаве'чыцца** зак. Стаць чалавекам. Нарэшце і ён ачалавечыўса, стаў, як усе людзі. Баброўнікі.

**Ачамярэ'ць** зак. Надаесць. Усё гэта ача-

мярэло, углядацца ні хачу. Зялёная.

**Ачарэ'піць** зак. Абняць нагамі або рукамі што-небудзь. Помню, ачарэпіш каня нагамі і нясенсса с хлопцамі навыператкі. Круглікі.

**Ачмялі'ць** зак. Аглушыць. Паліцман — за печку, а ён яго як ачмяліў таўкачом па галаве, так той і сеў. Зарубічы.

**Ачну'цца** зак. Апрытомнець. Ледво ачнуўсо пасля ўчарашняго, у галаве муціць, нідобро. Каленікі.

**Ачуме'ць** зак. Ачмурэць, адурэць. Зразу ні пі много, а то ачумеяш. Лаша.

**Ачуня'ць** зак. Выздаравець, паправіцца. Праляжаў тры нідзелі, ледво трохі ачуняў, думаў, што ні падымусо. Квасоўка.

**Ачухацца** зак. Ачуняць, прыйсці ў сябе. Хлопец доўгі час ляжаў, ні ўставаў, ледво неяк ачухаўсо, стаў вылазіць с хаты. Сухая Даліна.

**Ачуці'ць** зак. Вярнуць прытомнасць. Баба ўпала ў обмарак, ледво ачуцілі халоднай вадой. Пагараны.

**Ачэ'пы** мн. ж. Два бервяна ў будынку, на якіх мацуюцца кроквы. Адрыну майстры ні кончылі, матэрыялу на ачэпы ніяк ні дасталі. Агароднікі.

**Ашаке'** мн. Адходы пры ачыстцы збожжа ў выглядзе мякіны, каласкоў, пустазелля. Як ні чыста пшаніца, яе скружваюць на рэшато, збіраюць ашаке. Свіслач.

**Ашале'ць** зак. Ашалець, звар"яцець, страціць розум. Ты куды гэта лезяш, ці ты ашалёў, што ты сабе думаяш? Адэльск.

**Ашкі'ля!** выкл. Вокліч, якім адганяюць авечак. Ашкіля! Ашкіля! Пашлі ў поле. Сцяцкі.

**Ашму'ляць** зак. Нацерці, прычыніць боль трэннем. Хамут замалы, конь чысто лапатку ашмуляў, мясо чырваніць. Балічы.

**Ашу'га** ж. Галавакружэнне пры павышаным крывяным ціску. У галаве муціць, мусі, ашуга прыстае, водзіць у баке, як станяш на ногі. Круглікі.

**Ашчапе'нец** м. Пра малое дзіця, якое хапаецца рукамі за што-небудзь. Ашчапенец некі, як учэпіцца ручанятамі, ні адарвеш. Свіслач.

**Ашчэ'рыцца** зак. Паказаць зубы. Ні падходзь да сабакі бліско, бачыш, як ашчэрылася, укусіць можа. Салаўі.

**Аю'сь!** выкл. Вокліч, якім адганяюць свіней. Аюсь! Вон, холернікі, вы куды гэта ўлезлі. Лойкі.

**Аю'ські!** выкл. Тое, што і аюсь. Аюські! Аюські! У хлеў пашлі. Кунцаўшчына.

# Б

**Ба'ба** ж. 1. Дэталь калодзежнага жураўля, стоўб в развілінай, на якім трымаецца рычаг — не вельмі тоўстае бервяно **з** процівагай на канцы. Некалі пры студні нашай была дубовая баба, ні гніла. Сабаляны. 2. Капар, спецыяльная прылада для забівання свай у грунт у выглядзе чы- гуннай балванкі з тросам, перакінутым цераз блок. Даўней ні было такога прыспасаблення, каб забіваць сваі, забівалі бабай жалезнай, цяшнай такой. Бакуны. 3. Баба. Сорт грушы. Бабы вырастаюць велькія, але даўкія, нісмашныя, доўго ні ляжаць. Рацічы.

**Ба'ба** ж. Замужняя жанчына. Мая баба добро ўмела пячы піраге, суседзі прыносілі, каб ім спякла. Каўпакі. Баба ў саку — жанчына ў самай сіле, гадоў 30–35. Баба ў саку, як кажуць, толькі дай мужчыну. Радзевічы.

**Баба'хнуць** зак. Цяжка ўпасці на зямлю. Стары ішоў ды як бабахнуў, та ледво паднялі. Лугавая.

**Бабё'р** м. Бабёр. Заб'еш бабра — ні будзя дабра /павер'е/. Баброўнікі.

**Бабзно'** ж. Тоўстая, здаравенная жанчына. Тая тоўстая бабзно ізноў нечаго прыходзіла, гаварыла з Агатай. Лаша.

**Бабі'нец** м. Пярэдняя частка царквы перад паперцю. Як цяпло, жабраке сядзелі пад званіцай, а зімой стаялі

ў бабінцы, ні прайсці, столькі было. Кавалічы.

**Ба'біч** м. Донжуан, бабнік. Стары падло, а ўсё яму на ўме адно — бабы, нідарма ш празвалі бабічам. Кунцаўшчына.

**Ба'бка** ж. 1. Прылада для адбівання кос. Помню, як ехалі касіць, татко браў с сабой бапку с калодачкай, каб на балоці касу пакляпаць Жылічы. 2. Жалезка ў выглядзе падкоўкі з адтулінай для ўстаўкі лучыны. Я сам помню, як на сцяне была прыбіта бапка, у яе ўстаўлялі лучы-ну, свяцілі. Навасёлкі. 3. Страва з дранай бульбы з скваркамі, запечаная ў форме. Напаліла печку моцно, трэбо бапку паставіць на палудзень. Каленікі. 4. Назва пастаўленых разам у час жніва дзевяці сна-поў і накрытым дзясятым ад непагадзі. Калі дождж, та жанцы ў бапкі пахаваюцца і ні прамокнуць. Табольская Будка. 5. Страказа, драпежнае насякомае з доугім брушкам і дзвюма парамі празрыстых сеткаватых крылаў. Бабка такая сіня, усе над вадою лётае, круціцца, на кустэ сядае. Табольская Будка.

**Ба'бка** ж. Падарожнік. Як палец нарывае, та бапкай прыкладалі, каб гной выцягало, бо гэта зелье лякарственае. Пышкі.

**Бабо'к** м. Бабоўнік; лекавае зелле, якое расце на мокрых лугах. Як каму жвот забаліць, та парылі бабок і пілі. Занявічы.

**Бабу'ня** ж. Бабуля. Бабуню, мы вас правядзем прас клатку, ні бойцяса. Клачкі.

**Бабу'хнуць** зак. Упасці ў воду. Здаецца, і ніглыбокае месца ў Ласасянцы, а Жэнік як бабухнуў у воду і ні вышаў, на трэці дзень паказаўсо. Ласосна.

**Ба'віцца** незак. Затрымлівацца; праводзіць час. Дзе гэта мой сын бавіцца, ужэ ш поўнач, а яго німа. Вішнявец.

**Ба'віць** незак. Траціць час; праводзіць час. Задоўго ў гасцях бавілі, забыліса пра хату. Вішнявец.

**Багадз'ельня** ж. Дом для састарэлых і інвалідаў. Пані маёнтка Мігова Шлегярыха, расказваюць, у багадзельні памярла, ні было каму даглядаць. Мігова. Як німа каму даглядаць, та ў багадзельню здаюць. Казловічы.

**Багамо'л** м. Багамол; той, хто часта ходзіць у царкву. Бала, як настае восень, так багамолы і цягнуцца праз нашу вёску да Грыбава. Кунцаўшчына.

**Бага'цтво** н. Багацце. Якое там у нас багацтво было, конь і карова. Рацічы.

**Бага'ч** м. Рэлігійнае свята 8 верасня. Багач — кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку /прымаўка/. Лаша. Той рок, якраэ на багача, дзядзько з цёткай прыязджалі, аж два дні былі. Мігова.

**Ба'ген** м. Бакен; плывучы знак для абазначэння фарватара. Багены на Нёмні запальваў Капыцкі з Мазанаўцаў. Селюкі.

**Ба'гер** — машына ж. Багер; днопаглыблялльнае судна, земснарад. Прошлы рок багер-машына як чарпянула, та неку гармату выцягнулі, казалі француска ці польска нека. Загараны.

**Баго'н** м. 1. Тарфяное балота /дзе капаюць торф/. Даўней дроў ні было, палілі саломай, ездзілі ў багон па торпу. Круглікі. 2. Мокрае, балоцістае месца. Трэбо сухого року, кап праехаць праз багон. Табала. Праз багон познай восеню сам чорт не прабярэцца. Галаўнічы. 3. Высахшае балоцістае месца, на якім расце жорсткая, сухая трава.На багоні свіная трава, ні каровы, ні коні ні хочуць есці. Малая Альшанка.

**Багу'н** м. Балотная расліна сямейства верасовых з адурманьваючым пахам. Наша баба багун у куфар клала, кап моль ні заводзіласа. Ліхачы.

**Бада'й** часц. злучн. Бадай, каб. А бадай цібе качкі стапталі, ты гэта адкуль ўзяўса? Кунцаўшчына.

**Бада'й** пабочн. Бадай, глядзі. Бадай, каб дождж ні быў, нешто хмурыцца. Рагачы.

**Байба'к** м. Гультаяваты чалавек /лаянк./. Сядзіць гэты байбак, а ты на яго рабі, кармі. Баброўнікі.

**Байбачы'ско** м. Тое, што і байбак./ узмацн./. Ты гэтаго байбачыска ні накорміш, крычыць, усе яму мало. Рагачы.

**Ба'йбус** м. Фізічна добра развіты, але

дурнаваты чалавек. Гэты байбус мне ўсё здароўе забраў, каб жывей забралі хоць у якое войско. Марцінаўцы.

**Ба'йка** ж. Байка; мяккая, варсістая баваўняная тканіна. Сваму дзеду як пашыю рубашку з байкі, та ходзіць, як у хаці, цяпло. Пракопавічы.

**Ба'йкі** мн., ж. Выдумкі, пустыя размовы. Хай гэтыя байкі сваёй бабі расказвае, а ні мне. Радзівілкі.

**Байко'т** м. Байкот; ігнараванне хлопцамі дзяўчат на гулянні. Як пападзеш у байкот — бяда, стаіш адна і плачучы дахаты пойдзеш, ніхто скакаць ні бярэ. Лаша. Казалі, што нашых дзяўчат часто садзілі ў байкот, ні дапускалі сватоў. Свіслач.

**Баке'ш** м. Кароткая мужчынская вопратка з сукна. Новы бакеш Копель на свято пашыў, файно будзя хадзіць. Пракопавічы.

**Бакі'ншчык** м. Бакеншчык; чалавек, які наглядае за бакенамі. Доўгі час бакіншчыкам на Нёмні быў Сцяпан Чарнецкі з Дарошавіч, пакуль яго ні ўтапілі, потым стаў Захарко с Селюкоў. Дарашэвічы.

**Бакла'жка** ж. Біклага. Напіліса мы, ашчэ ў баклашкі набралі і думаем: «Ціпер будзем жыць». Загорцы.

**Бако'ўка** ж. Невялікі пакойчык па правай руцэ пры ўваходзе ў сялянскую хату. У бакоўцы аж душно было ад людзей, насапуць, накураць, лямпа гасла. Квасоўка.

**Балаго'л** м. Балагол; возчык грузаў пры панскай Польшчы. У балаголаў былі заложныя, ламавыя коні, перавозілі цянжары. Гродна.

**Балагэ'йло** м. Бесталковы чалавек. Нейкі балагэйло, ні чалавек: як скажа што, та німа на што слухаць. Карозічы.

**Баламу'т** м. Той, хто сваімі размовамі ўносіць разлад у справу; абманшчык. Хлопцы, што вы слухаеця гэтаго баламута, што ён тут вам пляце. Абухава. Баламут, цягнуў суку прас хамут /выслоўе/. Кунцаўшчына.

**Балаха'н,** балахо'н м. Старая, парваная вопратка. Павесь свой балахан, хай ні валяяцца пад нагамі. Агароднікі.

**Балба'н** м. Высечаная або вылепленая фігура чалавека. Пчолы чысто скусалі хлопца, ляжыць, як балбан. Рагачы. Вун, дзеці балбаноў наляпілі с снегу. Лікоўка.

**Балбану'ць** зак. Зваліцца нечакана, упасць у воду, раку, сажалку. Ён паслізнуўсо на кладцы і балбануў у рэчку з галавой. Лаша.

**Балбата'ць** незак. Гаварыць абы-што, нясці безглуздзіцу. Нікому слова ні дасць сказаць, тулько сам балбоча і балбоча. Каўпакі. Салацце.

**Балбату'х** у знач. выкл. Боўць, шабулдых. Чую — нехто балбатух у воду і паплыў на другі бераг. Балічы.

**Балбе'с** м. Дурань, ёлуп, бесталковы чалавек. Балбес і будзя балбесам, колькі яго ні вучы. Сухая Даліна.

**Балбяну'ць** зак. Упасці неснадзявана ў ваду. Нага паслізнуласа, так і балбянуў с клаткі, тулькі булькаўкі пашлі. Лугавая.

**Бале'я** ж. Круглая, нізкая пасудзіна з драўляных клёпак для мыцця бялізны. Даўней ніякіх баняў ні было, мыліса ў балеях; бабы мыліса, калі мужчын у хаці ні было. Бандары.

**Ба'ло** пабочн. сл. Бывала. Бало, людзі ні так жылі і здаровыя былі. Круглікі. Бало, і ў нас буяло, а ціпер і сухое ні гарыць /прымаўка/. Рагачы. Бало, і ў нас рыкало, а ціпер і ні мычыць / прымаўка/. Свіслач.

**Бало'то** н. Сенажаць. У нас было балото аж у Ланявіч, як пойдзямо грабіць сено, там і заначуям, баімосо, кап хлопцы ні напалохалі. Свіслач.

**Баль** м. Вечарына, гулянне, танцы. У Гандзі заўтра баль будзя, пяцьдзісят рок спраўляе. Лікоўка.

**Балэ'нтацца** незак. Матляцца, целяпацца. У яго, старого, заўсёды канец дзягі балэнтаяцца, ні можа зашпіліць. Рагачы.

**Балю'шчы** прым. Балючы. А рана тая доўго ні гавіласа, балюшчая, што хоць на сцену лезь. Салаўі.

**Балява'ць** незак. Гуляць, піраваць. Панэ зноў балююць, пагібяль сваю чуюць /прымаўка/. Сухая Даліна. Папапіў за свай век, баляваў, колькі хацеў. Дзертніца.

**Баляно'ўка** ж. Даваеннай маркі веласіпед з драўлянымі абадамі, з шырокімі шынамі. У нашаго Стася ашчэ польская баляноўка есць, добро ездзіць па пясчанай дарозі. Квасоўка.

**Баля'чка** ж. Скула, фурункул. Балячка села ў такім месцы, што брытко людзям паказаць. Каленікі.

**Бамбале'** мн. Пухіры на целе ад укуса камара. Камарэ панакусвалі ногі, аж бамбале павыскоквалі, ні вытрываць. Адэльск.

**Бамбі'за** м. Высокі мужчына моцнага складу. Такому бамбізе каменя варочаць, а ні квас прадаваць у будцы. Віцькі.

**Бамбэ'рас** м. Шматгадовая расліна, каля метра вышыні, з прадаўгаватымі лісткамі, цвіце ружова-сінімі кветачкамі, утвараючы жывую агароджу. Праз бамбэрас ні пралезяш, густы, колецца. Кунцаўшчына. На гарэ каля старога замка такі бамбэрас, што як пралазілі, та чысто ногі паабдзіралі. Ласосна.

**Банкачэ'** мн. Авадні. Банкачэ жыць ні даюць, каровы гілазуюць, уцякаюць у кустэ. Сабаляны.

**Ба'нкі** мн. 1. Бурбалкі на вадзе ў час дажджу. Мусі, задажджыцца, на лужах банкі стаяць. Кунцаўшчына. 2. Мыльныя бурбалкі. Дзяцьмі збярэмса, наробім мыла і давай пускаць банкі на воду, чые даўжэй прастаяць. Луцкаўляны.

**Бантала'цца** незак. Матляцца; тое, што і балэнтацца. Карові, каб дахаты ні ўцякала з пашы, на шыю вешалі на вяроўцы калок. Калок банталаецца, б'е па нагах, і карова ні ўцячэ. Кунцаўшчына. Прывяжы ляпей вяроўку да воза, хай ні банталаецца. Кавалічы.

**Бараба'н** м. Мачавы пузыр з свінні, выкачаны ў попелі, надуты паветрам і высушаны, з гарошкам у сярэдзіне для забавы дзецям. Помню, як заколюць паршука, та тато с посіка нам рабіў барабан. Кунцаўшчына.

**Барабо'ха** ж. Тоўстая істота. Во кошка наеласа, як барабоха, ледво ходзіць. Лікоўка

**Барабу'ля** ж. Бульба. На вячэру звары барабулі, с квасам паямо. Бычкі. Караневічы.

**Баразна'** ж. Вузкая градка бульбы. Спачатку бульбу выбіраюці з баразён, а тады перагорваюць. Рагачы.

**Бара'н** м. Гэбель з дзвюма ручкамі. Даўней сцены сакерай раўнялі, гэта ціпер майстрэ баранам габлюць, каб глаткія былі. Рыбніца.

**Баранцо'вы** прым.; баранцовае небо — пакрытае перыстымі хмаркамі неба. Небо стало зусім баранцовым; мусі, непагадзь будзя. Бакуны.

**Барба'ра** ж. Вяроўка з кручаных дубцоў для прывязвання плыта да берага ў час стаянкі. Скідай ганавіцы, скачы на барбару, трымай гарволь! Селюкі.

**Барві'нец** м. Барвенак, шматгадовая травяністая расліна. Барвінец зялёны ды па саду паслаўсо, а мой мілы чарнабровы па людзях сланяўсо / з народ. песні/. Адэльск.

**Барджэ'й** прысл. Жывей, хутчэй, шпарчэй. Барджэй ідзі, каб ні спазніўсо на аўтабус. Табала. Барджэй сядай ды паедзям. Верцялішкі.

**Барку'н** м. Баркун, меданосная расліна з белымі і жоўтымі кветкамі. Пад Аўгустоўкам баркуну таго, як хто насеяў, пчолы да самых маразоў лёталі. Ласосна.

**Барліно'чак** м. Барвенак; тое, што і барвінец. У нас у гародзі заўсёды барліночак рос, мама сеяла. Як хто замуж ішоў — бралі. Круглікі.

**Баро'даўка** ж. Бародаўка. Я бародаўкі загаворам зганяла; патпільнуяш, калі два коннікі едуць, і кажаш: «Едуць два дураке, забярэця мае барадаўке». Малая Жорнаўка.

**Баро'цца** незак. 1. Бароцца, дужацца. Давай бароцца, хто каго пакоціць. Кунцаўшчына. 2. Бароцца, бадацца /пра рагатую жывёлу /. Ермашукоў бык натто бароўсо, ні пройдзяш каля кароў, нават пастух баяўсо. Кунцаўшчына.

**Бару'кацца** незак. Бароцца, дужацца, мерацца сілай. Давай, Янак, барукацца, хто каго пабора. Маркаўцы.

**Бары'лка** ж. Невялікая пукатая бочачка.

На дзеды піво развозілі, тато нябярэ цэлу барылку і п»емо. Рагачы.

**Бары'ло** м. Тоўсты, непаваротлівы чалавек. Некі барыло прышоў. Мусі, які начальнік. Гожа.

**Бары'ш** м. Пачастунак пасля куплі-продажу. Пытаеш пра карову? Даўно прадаў і барыш выпіў. Новая Дубавая.

**Бару'шчы** прым. Бадлівы /пра рагатую жывёлу/. Тато неку барушчу карову купілі — нагой у дайніцу як бэнцнула, так з рук і паляцела. Белева.

**Ба'с** м. Посуд у выглядзе высокай кадушкі для захоўвання збожжа, выдзяўбаны з дрэва. У нас і ціпер бас стаіць пат хлявом, ні згніў. Даўней у яго сыпалі жыто. Грандзічы, Азяркі.

**Баса'к** м. Бусак, багор. Хаці ні далі зусім згарэць, басакамі сцены расцягнулі. Пыра.

**Басо'та** ж. Галота, бедната, беднякі. Ой, ні хадзі ты, дзяцько багаты, дзе басота п'е /нар. песня /. Гродна.

**Ба'ста** выкл. Канец. Бацько паглядзеў, што з сынавай кашы ні зварыш, аддзяліўсо і баста. /. Дзекалавічы.

**Бастру'к** м. Байструк, пазашлюбнае дзіця /разм. груб./ Даўней на баструка казалі: «Гэй ты, баструк, а дзе твой тато?" А другі атказваў: «Сабакам на сено паехаў!» Брузгі.

**Басэ'тля** ж. Беларускі народны музычны інструмент нізкага рэгістру, кантрабас. Паглядзі, як на басэтлі ў ціляўізары смыком пілуя. Круглікі.

**Басэ'тля** ж. Тоўстая, высокая, мажная жанчына /іран./ Іван узяў неку басэтлю жонку, нічога ні варта. Пагараны.

**Бат** м. Вялікая лодка. Нешто бат пацёк, трэ латаць, вадэ набірая. Дарашэвічы.

**Батарэ'йка** ж. Кішэнны ліхтарык. Вазьмі батарэйку, на гуліцы цёмно, пасвеціш сабе. Свіслач.

**Батле'йка** ж. Каляднае прадстаўленне з лялькамі. Як тулькі паявяцца ў вёсцы з батлейкай, так мы, ўсе дзеці, бяжымо ўглядацца. Клачкі.

**Баты'ст** м. Тонкая белая тканіна. Батыст, ён цененькі, з яго шылі блюскі і сукенкі. Эйсманты.

**Баўто'к** м. Баўтун, наседжанае без зародка яйцо. Курыца нідобро сядзела, кошкала, пераварочвала яйца — ні аднаго кураняці, усе баўтке. Лаша.

**Баўту'н** м. Баўтун, тое, што і баўток. Купіла яец, разбіла адно, гляджу — баўтун. Кавалічы.

**Баўту'н** м. Балбатун, пустаслоў. Чалавек старшы ўжэ, а некі баўтун, гаворыць абы-што. Верцялішкі.

**Ба'хнуцца** зак. Стукнуцца, ударыцца. Некалі Додзік пераходзіў Нёман, пакаўзнуўсо, патыліцай бахнуўсо аб камень і ні аказаўсо. Дарашэвічы.

**Баху'р** м. Малое дзіця. Пашла б на работу, ды дзе гэтых бахуроў падзеняш, з кім пакінеш. Гібулічы. Маці памярла, а хто бахуроў будзе гадаваць? Індура.

**Бахураня'** н. Малое дзіця. Бахураня падлезло пад воз, чуць конь ні наступіў. Старая Дубавая.

**Баху'рка** ж. Маленькая дзяўчынка. Самы паехалі, а бахурку пакінулі з малым дзецям. Пракопавічы.

**Бацьві'не** мн. Страва з маладых буракоў, запраўленая смятанай. На снедане матка падала спачатку бацьвіне, потым забелены крупнік. Сухая Даліна.

**Ба'цько** м. Бацька. Скажы свайму бацьку, хай заўтра да нашых зойдзе. Галавачы.

**Бацяʼн** м. Бусел. На чыёй стадолі бацян вядзецца, та ўжэ ні згарыць /павер»е/. Батароўка.

**Башлы'к** м. 1. Башлык, суконны востраканечны капюшон, які надзяваецца на шапку. Пашыў сукман з башлыком, добро будзе зімой паехаць у дарогу. Рацічы. 2. Суконны жоўтага колеру галаўны ўбор з доўгімі канцамі, частка адзення салдат царскай арміі. У нас і ціпер башлык есць, бацько, як едзе дзе, бярэ закручваць галаву. Навумавічы.

**Бе'гаць** незак. Пра перыяд палавой актыўнасці ў кароў; тое, што і быдлаваць. Карова, мусі, і зноў бегае, трэбо да быка вясці. Жукевічы.

**Бедната'** ж. Беднасць, нястача. У Баўтруковых заўсёды была бедната, хлеба ўдоваль ні елі, пазычалі. Кукалі.

**Безгало'ўе** н. Пагібель, няшчасце, бяда.

А кап на яго якое безгалоўе прышло, кап ён ні вытрымаў, як нам уеўсо. Клачкі.

**Безрабо'тны** м. Беспрацоўны. У нас безработных німа, кап тулькі хацеў рабіць, работа знойдзецца. Караневічы.

**Без'язы'кі** прым. Бясслоўны, нямы. Ты, мусі, Колік, без'языкі, язычка німа, бо ні гаворыш. Карозічы. Свіня ў рэпі, свіня ў рэпі, парасята — у рэццы, а музыка без языка едзе на гавеццы /з нар. песні/. Кунцаўшчына.

**Бе'лка** ж. Вавёрка. Белка дзіцей ні баіцца, нават і падрачваецца з імі. Дуброва.

**Бе'льма** мн. Вялікія светлыя вочы /іран./. Адышоў, бельма на міне вытрашчыў і стаіць, як вупар. Горніца.

**Бельмачэ'** мн. Тое, што і бельма. Паліваюць гарэлкай бельмачэ, што ім тыя дзеці. Хамякі.

**Беляхце'ць** незак. Бялець. Нешта далёко ў полі беляхціць, а што — і сам ні знаю. Барбарычы.

**Берагу'лька** ж. Берагавая ластаўка. Малымі, помню, гэтых берагуляк рукамі даставалі з норак. Занявічы.

**Беражо'к** м. Каляровая палоска па краю хусткі. Дзісь прадавалі ў магазіні файныя хусткі, я адну купіла з жоўценькім беражком.Калбаскі.

**Беразіна'** ж. Бярэзнік. У беразіну як пойдзяш, так падбярозавікаў і набярэш кош, файных такіх. Зарубічы.

**Бе'раст** м. Бераст, дрэва сямейства вязавых. У нас, у Свіслачы, і берастам, і грабам называлі, як хто хацеў. Свіслач.

**Берасце'нь** м. Збанок без ручкі. Берасцень кіслаго малака за дзень выпіў, смажыло піць. Бандары.

**Бе'рдо** н. Бёрда, ткацкая прылада для набівання нітак утку па аснове. Берда і сталёвыя і дзеравяныя былі, мы дзеравянымі мешкавіну ткалі. Гліняны.

**Беркулё'з** м. Туберкулёз. Антася німа, на беркулёз усе хварэў і памёр. Яскевічы.

**Беспрасы'пу** прысл. Не прачынаючыся. Як лёг, так і спіць беспрасыпу другія суткі. Гліняны.

**Бзі'к** м. 1. Дзівацтва, капрыз. Нікуды ні дзенецца, паганяе бзіка і зноў да жонкі вернецца. Эйсманты. 2. Нявытрыманы чалавек, дзівак. Мікалай наш некі бзік, з ім талково ні пагаворыш. Квасоўка.

**Бзы'каць** незак. Грубіць, агрызацца. Ціпер дзеці ні толькі ні слухаюць бацькоў, а бзыкаюць на іх, слова ні скажы. Каўпакі.

**Бібліятэ'карка** ж. Бібліятэкарка. Калі ні зойдзяш, та бібліятэкаркі ні застанеш, усе замок вісіць. Жытомля.

**Бібу'ла** ж. Прамакатка. У добраго вучня і бібула чыста, прывязана на нітаццы. Лугавая.

**Бібу'лка** ж. Тонкая, празрыстая папера. У магазіні такую пяцёрку ні прымуць, трэбо бібулкай склеіць. Калбасіна.

**Біздзю'х** м. Порхаўка. Грыбоў німа, адны біздзюхе павырасталі. Дзекалавічы.

**Бізу'н** м. Бізун, плеценая пуга. А немяц як свіснуў бізуном па твары, так гоко і пацякло. Свіслач. Голы, як бізун — бедны чалавек. У яго нічого ні было і ні будзя, голы, як бізун. Грабяні.

**Біке'ш** м. Доўгая суконная мужчынская вопратка, падагнаная ў таліі і з распоркай ззаду. Гэта як прыехалі з беженства, з Расеі, то ўсе шылі бікешы. Караневічы.

**Бі'ло** н. Папярэчная перакладзіна /іх чатыры/ для злучэння станін кросен. Замацуй білы клінкамі, а то кросна раз»едуцца. Каленікі.

**Бі'мбус** м. Бімбус, здаровы, тоўсты, гультаяваты падростак. Гэтакі бімбус вырас, а бацькам нічого ні памагая. Сапоцкін.

**Бі'рка** ж. Бірка. Біркі, калі аддавалі гаўчыны вырабляць, добро прывязвалі, кап пазнаць, чые яны. Грандзічы, Азяркі.

**Бі'тка** ж. Моцнае ведікоднае яйцо. Той рок у міне бітка добра была, много яец навыбіваў, пакуль на смаляное нарваўсо. Рагачы.

**Бі'тка** ж. Прылада са свінца ці жалеза для гульні ў грошы, якой б»юць па манетах. Я гэту бітку сам выліваў, ею, знаяш, колькі грошай выіграў. Калбасіна.

**Бітко'м** прысл. Бітком набіцца — набіцца да адказу, без меры, перапоўніцца. Дзе тут улезяш, людзей бітком набілaсо, дзверы ні зачыняюцца. Каўпакі.

**Біту'шчы** прым. Бойкі, агрэсіўны. А ніхай яго, натта ш пятух бітушчы, нікому прайсці ні дасць, ногі паабдзёўбваў. Струбка.

**Бі'ць** незак. Вырабляць масла. Ты смятану трошкі падагрэй, та масло ляпей біць будзя. Квасоўка.

**Бі'ч** м. 1. Ударная частка цэпа. Добры біч, шмагло б»е, аш салома курыць. Кунцаўшчына. 2. Кіёк з патаўшчэннем на канцы ў выглядзе булавешкі. Бічом як урэзау па ваўку, та той скруціўса на месцы. Зарубічы.

**Бла'га** прысл. Дрэнна, кепска. Майстрэ могуць зрабіць добро, а могуць зрабіць і благо, нікудышне. Гродна.

**Благаве'шчане** н. Благавешчанне, веснавое рэлігійнае свята. У нас на благавешчане бусел да гнязда прылятае. Зарубічы. "На благавешчане, да ўсхода слонца, дзеці, збегайце на рэчку ўмывацца, пакуль крук дзіцей ні купае «, — казала маці. Свіслач.

**Благі'** прым. 1. Кепскі, не адпавядаючы патрабаванням. У гэтым року жыто зусім благое, каласке, як мухі. Адэльск. 2. Шкодны, дрэнны. Я казала, што гэта благі чалавек, з ім піва ні зварыш. Адэльск.

**Блазн'ота** ж. Непаўналетнія хлопцы і дзяўчаты. У карчму ўперш прыходзілі старэйшыя, потым дзяцюке, а пасля — уся блазнота ўвальвалаеа. Лаша. Ні ведаю, куды мне гэту блазноту падзець. Рацічы.

**Блаха'** ж. Блыха, паразітычнае насякомае, скочка. Блаха скача, дзыгае. Адзін пан паслаў парабка ў горад і кажа: "Купі мне шчасце". Парабак паехаў і думае, што купіць пану. Думаў, думаў і прыдумаў. Злавіў блаху, пасадзіў у каробачку, прывёз пану і кажа: "Я вам, пане, шчасце прывёз". Пан узяў каробачку, адчыніў і ні ўспеў глянуць, як блаха выскачыла. З той пары блаха пану жыць ні дае, кроў з яго п"е. Во якое шчасце парабак пану прывёз. Забагонікі.

**Блаш'ыцы** мн. Клапы. Блашыцы завяліса ў хаці, рады німа. Бакуны.

**Блё'віны** мн. Ваніты. Дзе ён начаваў — ні ведаю, прышоў у хату ў блёвінах. Брузгі.

**Блё'кат** м. Блёкат. Ты што, мусі, блёкату наеўсо, нешто ў цібе ні тое. Караневічы.

**Блі'зма** ж. Дэфект у тканіне. Блізмаў нарабіла, брытко будзя людзям паказаць. Зарубічы.

**Блі'зна** ж. Тое, што і блізма. Сляпая, ні бачыла, што нітка парваласа, блізнаў нарабіла. Свіслач.

**Бліскаві'ца** ж. Маланка. Усю ноч ні магла заснуць, грымело, бліскавіца была. Карашава.

**Блі'скаць** незак. Блішчаць, ззяць, зіхацець. Як блісне, та аш у гачу пацямнее, у хаці стане відно. Шабаны.

**Блішча'ты** прым. Бліскучы, зіхатлівы. Натто пекная сукенка была ў адной дружкі, блішчатая такая. Жукевічы.

**Бло'тнік** м. Балотнік, дэталь веласіпеда. Кап ні блотнікі, та па той дарозі не праехаў бы, калам закідало б усяго. Каўняны.

**Блю'зка** ж. Блузка. Там блюскі бывалі ўсялякага колеру, якія тулькі ўздумаеш, такія і былі. Адэльск.

**Блю'зніць** незак. Блюзніць, зласловіць, гаварыць глупства. Што ты блюзьніш на сваякоў, як табе ні брытко. Рацічы.

**Блюзэ'чка** ж. Блузачка. Некалі шляхцянкі блюзэчкі насілі з крамнай матэрыі, пекныя такія. Занявічы.

**Блява'ць** незак. Ванітаваць. Мусі, малако з мухамі было, нешто нідобро, блявацьверне. Солы.

**Бля'т** м. Верхняя частка стала. Маці кожную суботу мыла блят гарачай вадой, бо за тыдзень дзеці чысто ўквэцаюць. Чашчаўляны.

**Бля'ўзгаць** незак. Блявузгаць, гаварыць абы-што. Што ты бляўзгаеш, людзей паўстыдаўса п старэйшых. Баброўнікі.

**Бляха'н** м. Бляшаны бідон, конаўка для малака. Цэлы бляхан малака паставіла ў студню, кап ні скісло да раніцы. Малая Альшанка.

**Бляша'нка** ж. Бляшаная банка, кубак. Падай бляшанку, хай чалавек вады нап»ецца. Свіслач.

**Бо'бехі** мн. Тое, што і бобяхі. Некалі

і гной клалі, а бульбы ні было, начнем выбіраць — адны бобехі. Чашчаўляны.

**Бог** м. Бог. Адзін бог ведае, як хто абедае /прыказка/. Чарнуха..

**Бог** помач — Дапамажы Бог высл. Праходзіш каля жанцоў, трэбо сказаць: "Бог помач", а то абгавораць, што свіней прашоў. Сухая Даліна.

**Бо'жа** каро'ўка ж. Кароўка сямікрапінкавая. Божа кароўка, ляці на небо. Там твае дзеткі кушаюць канфэткі. Усім па адной дала, а табе ні адной /дзіцячыя выслоўі /. Кунцаўшчына. Божа кароўка вельмі карысна, яе і птушкі ні ядуць, баяцца. Яна тлю паядае. Табольская Будка.

**Бо'жкаць** незак. Стагнаць, бедаваць, упамінаючы часта імя Бога. Што тут мне ўсе бошкаеш. Бошкай ні бошкай, нічого ні паможаш, што будзе, тое і будзе. Дзекалавічы.

**Бо'йка** ж. Бойка, прылада для збівання масла. І ціпер на Скідаль скім рынку часамі бойкі прадаюць. Бандары.

**Бом** м. Шост для праверкі глыбіні ракі і спіхвання плытоў з мелі. Паглядзі бомам, ці далёко дно, а то сядзем. Селюкі.

**Бо'міць** незак. 1. Стукаць па вадзе шастом, наганяць рыбу ў невад. Мы будзем цягнуць сетку, а ты боміць, каб рыба ішла. Дзекалавічы. 2. Бубніць, паўтараць адно і тое ж. Даволі боміць ужэ, галава пэнкае ад цібе. Свіслач. 3. Плакаць, раўсці /пра дзяцей/. Ты чо гэта боміш, маці прыдзе, нідзе ні дзенецца. Балічы.

**Бо'мк** м. Авадзень; тое, што і бонк. Бомк як нападзе на коні, та ні ўтрымаяш, круцяцца, матырхаюць галавамі, храпуць. Свіслач.

**Бо'мка** ж. Авадзень. Бомка напала на коняй, круцяцца, німа як гараць. Хвайняны.

**Бо'нда** ж. Невялікі хлябец, ляпшка. Помню, маці выскрабе з дзешкі цесто і спячэ бонду. Пагараны.

**Бо'нда** ж. Карова, якую бацькі давалі дачцэ ў пасаг. Добру бонду прывяла Маня, цэла вядро малака дае. Каўпакі.

**Бо'ндачка** ж. Невялікая булачка. Ні плач, Колік, я табе бондачку спяку, будзяш есці, а тато вернецца. Грыўкі.

**Бо'нк** м. Авадзень. Пат палудзень натта ж бонкі коняй тнуць, ні ўтрымаць. Кунцаўшчына.

**Бо'нка** ж. Авадзень; тое, што і бомк. Як пойдзя бонка гуляць, та коняй у плузі ні ўтрымаяш. Капцёўка. Бонка нападая на коні і на людзей. Бывае, што і на свіней нападая. Табольская Будка.

**Бо'рсаць** незак. Таптаць, ламаць, псаваць пасевы. Коні жыто борсаюць, а ты спіш, халернік. Ханявічы.

**Бо'ртнік** м. Бортнік, пчаляр. Раней хто пчолы трымаў, бортнікам называлі. Бакуны.

**Бо'рць** ж. 1. Борць, калода з пчоламі. У лесі ў нас было дзве борці з пчоламі. Бакуны. 2. Дуплявае дрэва, у якім жывуць пчолы. Помню, у Ляхноўскім парку спілавалі борць, та мы паткурвалі, кап мёд дастаць. Рагачы.

**Бо'ты** мн., бот м. Боты. Добры гаспадар заўсёды ў ботах хадзіў. Кодзеўцы. Крывыя боты — боты з крывымі халявамі, модныя ў былой Заходняй Беларусі. Антось заўсёды на гуляне ў крывых ботах прыходзіў, галёпа скакаў. Кунцаўшчына.

**Бо'тка** ж. Стрэмка. Ботку забіў пад нагаць, ледво дастаў. Батароўка.

**Бо'ўдзіло** н. Боўдзіла, недарэка. Боўдзіло, ты сам ні ведаеш, што пляцеш, ляпей маўчаў бы. Гродна.

**Бо'ўт** м. Шост з перакладзінай на канцы, якім наганяюць рыбу ў волак. Боўтам боўтаеш ў асацэ, каб рыбу нагнаць. Балічы.

**Бо'ўт** м. Балбатун, пустаслоў. Сядзіць ды што як баўтане, та хоць вушы затыкай, ну, вядома, боўт. Сухая Даліна.

**Бо'хан** м. Бохан. Як самы пяклі хлеб, та адразу ў печ садзілі па шэсць-сем боханаў. Рудавіцы.

**Бо'хаць** незак. 1. Ліць больш, чым трэба. Што ты бохаеш малако, а дзеці што будуць есці. Рагачы. 2. Моцна кашляць. Бохае на ўсю хату, аш страх слухаць. Кунцаўшчына.

**Бо'чка** ж. Старая мера аб"ёма. У адной бочцы лічыласо сорак вёдзер. Клачкі.

**Брава'рка** ж. Бравэрка, мужчынская вопратка з сукна, падбітая футрам. Некалі да маго тата прыходзілі ўсе хлопцы пазычаць браваркі ехаць да вянца. Клачкі.

**Бра'гель** м. Шчэбень, друз. Брагелю навязлі, відаць, дарогу будуць праводзіць. Галаўнічы.

**Бра'згаўка** ж. Бразготка. Дзіцяці як дасі бразгаўку, яно і забаўляецца. Ялаўшчына.

**Бразгаце'ць** незак. Рабіць шум ударамі аднаго прадмета аб другі, стукацець, звінець. Нешто ў возі бразгаціць, і сам ні ведаю што. Брузгі. У багатаго ў кішане грошы бразгацяць, а ў беднаго што? Свіслач.

**Бра'згаць** незак. Стукаць прадметам аб што-небудзь. Дзеці міску зацеркі выпугалі і зноў лошкамі бразгаюць, ашчэ хочуць. Жылічы.

**Бра'знуцца** зак. Моцна, з сілай упасці, грымнуцца, грукнуцца. Здаецца, і мізэрны чалавек быў, і ніхто ні падумаў, што ён мох так бразнуцца аб зямлю, што ні мох сам падняцца. Балічы.

**Бра'мка** ж. Брамка, веснічкі. Брамка рыпне, так і знай, што нехто ідзе. Тумашы.

**Бранзале'та** ж. Бранзалет. Былі і тады бранзалеты, але хто іх насіў? Кульбакі.

**Брата'нак** м. Братаў сын. Братанак часто бывае ў нас, памагае старым. Кулёўцы.

**Брата'нка** ж. Дачка братава. Братанка, мусі, замуж пойдзя — хлопяц быў у сватах. Некрашы.

**Бра'ткі** мн. Расліна сямейства фіялкавых з фіялетавымі, белымі або рознакаляровымі кветкамі. У нас, у Пагаран, браткі ўсе называлі анюцінымі гласкамі. Пагараны.

**Браха'ць** незак. Брахаць, ілгаць, хлусіць. Брэшаш ты ўсё, ні так было, як кажаш. Каўпакі.

**Браці'ха** ж. Братава дачка. Учора браціха памагала бульбу садзіць. Бакуны.

**Бра'ць** незак. 1. Браць. Мы цібе, Ванік, с сабой браць ні будзем, малы ашчэ. Лікоўка. 2. Красць. Трэбо браць тысячы, кап было за што высечы. Путрышкі. 3. Лавіць /пра сабаку/. У нас была сучка Ледзя, умела браць зайцоў. На раніцы як павядзеш коні, так зайца і прывалачэ. Свіслач. 4. Браць шлюб — жаніцца, выходзіць замуж. Шлюп пат плотам, а вяселя потым /прымаўка/. Каранявічы. 5. Браць на понт — ашукваць, падманваць /груб./. Ён, халернік, хацеў браць на понт міне, але нічого ні вышло, ні на такого нарваўсо. Гродна.

**Брод** м. 1. Брод, пераход, пераезд. Ні знаеш броду — ні суньса ў воду / прымаўка/. Занявічы. 2. След, пракладзены на сенажаці, каб размежаваць участкі. У высокай траве і брод лягчэй зрабіць, яго добро відаць. Каленікі.

**Бро'вар** м. Бровар, вінакурны завод. Лётае, як жыд бровар запаліўшы. / прымаўка/. Свіслач. У тую вайну нехто бровар патпаліў, людзей много згарэло. Хто гарэў — ніхто ні выжыў. Карозічы.

**Бро'хаць** незак. Грукаць абуткам. Пасля дванастай усё нехто брохаў, хадзіў па падворку, сабакі брахалі. Жукевічы. Ні брохай ботамі, дзіця спіць. Каўпакі.

**Бруі'цца** незак. Бруіцца; цячы, пераліваючыся. У нашай крыніцы вада, як жывая, бруіцца і зімой ні замярзая. Гожа.

**Бру'к** м. 1. Брук, дарога, вымашчаная каменнем. Як едуць, бало, на кірмаш у гаўторак, та брук аж гудзе ад вазоў. Навасёлкі. 2. Каменная агароджа. У Кунцаўшчыні ўсе палеткі абнесеныя брукам, каб жывіна ў шкоду ні лезла. Лаша. Штабель торфу. Як торпа трошкі патсохне, яе складаюць у брук. Круглікі.

**Брука'р** м. Брукар, рабочы па ўкладцы бруку. Брукарэ і даўней і ціпер добрыя грошы зарабляюць. Зарубічы.

**Бруко'ўка** ж. Брукаванка, брукаваная дарога. Здаецца, тут брукоўка добра была, ні ведаю, нашто яе раскідалі. Дзекалавічы.

**Брусні'ка** ж. Брусніца. Брусніка ў лесі чырваніць, ніхто яе ні збірае. Рыбніца.

**Бру'шка** ж. Бручка. Ціпер брушкі ніхто ні варыць, а матка часто варыла, смашна была. Белева.

**Брушкаве'не** н. Бручкоўнік; бручка-

вае бацвінне, лісце бручкі. Брушкі ні відаць, адно брушкавене вырасло. Агароднікі.

**Брыда'** ж. м. Гадасць, паскудства, дрэнь /пра чалавека/. Брыда нека, а ні баба, на ёй адзежа і тая ні так ляжыць. Зарубічы.

**Бры'дзіць** незак. Быць брыдкім. Мне ён брыдзіць, ні магу на яго глядзець. Жукевічы.

**Бры'дкі** прым. Гадкі, непрыемны, дрэнны. Але і брыткі хлопяц, і ў каго ён удаўсо; ні ў бацьку, ні ў матку. Стрыеўка.

**Бры'дко** прысл. Сорамна, непрыемна, агідна. Брытко так рабіць, людзі сміяцца будуць. Баброўнікі.

**Бры'жы** мн. 1. Брыжы, вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборачкі, якой аздабляюць адзенне. Зайграйце, музыкі, у міне брыжы вялікі. Міне хлопцы любілі, та мне брыжы купілі / прыпеўка/. Лаша. 2. Вязаны чэпчык з карункамі, які насілі замужнія жанчыны на галаве пад хусткай. Як толькі вышла замуж, так на галаву і надзела брыжы. Клачкі.

**Бры'згаўка** ж. Авадзень, тое, што і банкач. Брызгаўкі на коні нападаюць, страшэнна тнуць, ні ўтрымаць. Парэчча.

**Брызгачэ'** мн. Скручаныя ў пучкі ніткі па краях настольніка, хусткі; дробныя кутасікі. Брызгачэ ў настольніках абвязалі, кап ні цёпкаліса. Лікоўка.

**Брызго'та** ж. Слота, мокрая пагода. На дварэ нека брызгота, ні хочацца з хаты выходзіць. Сухмяні.

**Брызго'тна** прысл. Сыра, мокра /пра пагоду/. Як выганялі каровы раніцай, халадно было, брызготна неяк, ціпер пацяплело. Гарны.

**Брызгу'ліна** ж. Брызгуліна. З брызгуліны цыганэ варылі неку масць, шмараваліса, кап блохі ні кусалі. Кунцаўшчына.

**Брызгу'ль** м. Драўляны самаробны гузік у выглядзе кароткай палачкі. Калісьці, як адарвецца брызгуль ат світкі, ні бяда, купляць ні трабо, сам зробіш. Брузгі.

**Брызгу'льчыкі** мн. Біркі. Брызгульчыкі прывязвалі да гаўчын, каб ні паблытаць. Рыбніца.

**Бры'лік** м. 1. Посуд, сплецены з саломы і лазы для вымярэння і рассявання збожжа; тое, што і сявенка. Набярэш поўны брылік збожа і сеяш памаленьку, пакуль ні кончыш, тады зноў набіраеш. Батароўка.

**Бры'лік** м. Услончык, зэдлік, тапчанік. Стары наш возьме брылік, сядзе каля печы і грэе плечы. Прыгодзічы.

**Бры'лік** м. Казырок. Мы табе, Генік, шапку з брылікам купілі, кап слонца ні пякло, нос ні аблазіў. Скідаль.

**Бры'ль** м. 1. Саламяны капялюш. У нас толькі бацюшка адзін насіў брыль, ціпер кожны ходзіць. Азёры. 2. Казырок. Пры паляках некалі моднымі былі шапкі с такімі велькімі брылямі. Гродна.

**Бры'мкаць** незак. Іграць няўмела на музычным інструменце. Ні ўмееш іграць — кінь брымкаць пад вухам. Ханявічы.

**Бры'нда** ж. Неахайная жанчына. Хто ні казаў, але ні гэта брында, сама вечна абрындана поўзае. Прывалка.

**Брындачэ'** мн. Растрэпаныя ніці па краях абруса, ручніка, хусткі. Чысто брындачэ ў настольніку паабрываліса, німа як на стол засцілаць. Рудавіцы.

**Брындуля'ць** незак. Няўмела іграць на струнным інструменце. Узяў балалайку і брындуляе нешто. Гродна.

**Брынча'ць** незак. Нездаволена мармытаць, бубніць. Сказала яму дзіця пільнаваць. Ні ідзе, стаў і нешто брынчыць сабе пад нос. Балічы.

**Бруско'тно** прысл. Мокра, сыра. Нека імжа на гуліцы, брыскотно стало. Каленікі.

**Бры'сці** незак. Ісці па глыбокім снезе. Столькі снегу навалілo, што чалавек ледво брыдае па ім. Зарыца.

**Бры'сы** мн. Вусікі ў пшанічным коласе. Да вайны нікаторыя брысатую пшаніцу сеялі, у яе такія брысы доўгія былі. Свіслач.

**Брыта'ць** незак. Заблытваць /пра ніці /. Брытаць матке вы ўмееце, а хто раз-

матваць іх будзе? Карозічы.

**Брэ'дзень** м. Невад. Як выцягнулі брэдзень на бераг, так рыба залапатала ў кулю. Жукевічы.

**Брэ'дзіць** незак. Трызніць. Стары зусім аслаб, брэдзіць, гаворыць сам да сібе. Агароднікі.

**Брэ'ндацца** незак. Хадзіць, сланяцца без патрэбы. Цэлы дзень недзе брэндаецца, каля хаты ні прыпыняецца. Гродна.

**Брэ'ндаць** незак. Няўмела іграць на струнным інструменце. Узяў мандаліну і брэндае; здаецца, ні ўмеяш — ні бяры. Лікоўка.

**Брэ'чкі** мн. Карункі. Даўней дзяўчата апшывалі брэчкамі рушніке, рукавэ ў блюсках. Струбка.

**Бу'бавіца** ж. Выгарэўшыя, выпаленыя сонцам выган, паша. Хібо на гэтай бубавіцы кароў напасеш і малако мецьмеш? Лікоўка.

**Бу'бка** ж. Асобнае зерне гароху ці фасолі /дзіцяч. слова/. Ціха, ні плач, Пецік, на табе бубу. Свіслач.

**Бу'бачка** ж. Адно зярнятка. Вазьмі сабе, Ванячка, адну бубачку гароху і ззеш, тулькі ў носік ні садзі, бо ні дастаняш. Дарашэвічы.

**Бу'дзень** м. Будзень, не святочны дзень. У будзень можно хадзіць у быля якой адзежы, сміяцца ні будуць. Палаткова.

**Будо'ўля** ж. Забудаванне, будынак. На Абухаво аўтабус затрымліваецца каля будоўлі, там трэбо сходзіць. Абухава.

**Бу'дто** прысл. Нібы, нібыта. Іван наш бутто на смех людскі ўсё робіць, абы жывей. Свіслач.

**Буза'** ж. Сумесь розных рэчываў /пра яду/. Наварыла некай бузы — сама і еш. Жытомля.

**Бузіна'** ж. Бузіна. Ягады чорныя з бузіны нават есці можно, ні шкодзяць. Свіслач.

**Бу'йда** ж. Няпраўда, хлусня. Гэта буйда, ні вер нікому. Квасоўка.

**Бу'йка** ж. Бойка. Буйка есць і добро, часамі масло зб»еш свае. Рацічы.

**Бу'кіш!** выкл. Вокліч, якім дражнілі барана. Букіш! Букіш! Баран, бэ-бэ-бэ! Белева.

**Буксава'ць** незак. 1. Буксаваць, круціцца, не рухаючыся з месца /пра колы аўтамабіля, паравоза і пад./ Каля праезду машына як засела ў кал, та паўдня буксавала, пакуль выцягнулі. Індура. 2. Не вярцецца, стопарыць / пра колы воза /. Як еду ў дарогу, заўсёды бяру ключ, адно калясэ чамусьці буксуе. Лугавая.

**Булаве'шка** ж. Галава дзіцяці /іран./. Ты што гэта зрабіў, галавешка твая дурная. Кунцаўшчына.

**Булё'н** м. Бульбяны суп, засквараны салам. Маці на вячэру варыла булён ці зацерку, забеляну малаком. Агароднікі.

**Бу'льба** ж. Бульба. Як бульба ўродзіць, та і мясо будзя. Лікоўка. Бульба з мундзірамі — бульба ў мундзірах, звараная з лупінамі бульба. Як зайшоў я ў хату, папрасілі сесьці, паставілі бульбу з мундзірамі есці / нар. песня/. Кунцаўшчына. Свіная бульба — дробная бульба для жывёлы. Адной свіной бульбы гэты рок насыпалі дзве ямы, будзе чым карміць. Кругляны.

**Бульбаве'не** н. Бульбоўнік, бульбянік. На бульбавене бульба вырасла, а пат кальвам німа — адна, дзве бульбачкі. Скамарошкі.

**Бульбатке'** мн. (бульбаўкі). Бурбалкі. Як шуснуў у воду, тулькі бульбатке пашлі. Азёры.

**Бу'льбаўкі** мн. Бульбаўка ж. Бурбалкі. На лужах бульбаўкі пасталі — задажджыцца. Баранава.

**Бу'льбіна** ж. Бульбіна, адзін клубень бульбы. Помню, маці зварыць бульбы ў гаршчэчку, возьме бульбіну і есць. Свіслач.

**Бульбяна'я** каша ж. Таўканіца, беларуская нацыянальная страва. Навары бульбяной кашы, даўно ні варыла. Кунцаўшчына.

**Бу'лькаўка** ж. Бурбалка. А балото там страшнае, ступіш нагой — тулькі бульбаўкі пойдуць. Каленікі.

**Бу'ля** ж. Бульбачка /дзіцяч. слова/. Ні плач, зарас маці булю дасць, будзяш есці. Рудавіцы.

**Бунава'ць** незак. Буяніць, скандаліць. Зяць як пачаў бунаваць, ні было рады, мусяў да вас начаваць ісці. Баброўнікі.

**Бу'ра** ж. 1. Бура, вецер вялікай сілы звычайна з дажджом. Як надышла бура, тулькі вербы трашчалі, а з Дзюрдзявай адрыны стрэху ззарвало, панясло. Сухая Даліна. 2. Шум, крык, скандал. Ціпер ні п'е, напіўсо, а раней такую буру ў хаці п'яны падыме, што жонка з дзецьмі па хатах начуе. Гродна.

**Буракаве'не** н. Бацьвінне, лісце і сцёблы буракоў. Як німа часу збіраць зелье, наломіш буракавеня, кіняш — і свіня ядуць. Рудавіцы.

**Бураке'** мн. Страва, прыгатаваная з буракоў, запраўленая смятанай. Зімой бураке і капуста былі першая яда. Ланявічы.

**Бура'н** м. Моцны вецер са снегам. Як падняўсо буран, тры дні шалеў, не ўціхаў, усё пазаносіло. Навадзель.

**Бурачко'вы** прым. Лілова — чырвоны, колеру бурака. На бурачковы колер хварбавалі хто што хацеў, найбольш матке. Круглікі.

**Бурдо'вы** прым. Бардовы, цёмна — чырвоны. Пражу на дыванэ хварбавалі на бурдовае або зялёнае. Кунцаўшчына.

**Бурды'га** ж. Вялікі кусок, кавалак. Не дачакаўшыса вячэры, узяў бурдыгу хлеба і ўсухамятку есць. Баброўнікі.

**Бу'рка** ж. Доўгая мужчынская вопратка з даматканага сукна з башлыком. Зімой у бурцы ні страшно, ніякі вецер не прадуе. Хамякі.

**Бу'ркаўка** ж. 1. Ваўчок. Дзед наш рабіў нам буркаўкі, распілуе шпульку, усадзіць шпеньчык і — буркаўка. Бубны. 2. Дзіцячая забава, вялікі гузік, насаджаны праз дзіркі на падвоеную нітку. Таму і называецца буркаўкай, што гузік круціцца та туды, та сюды і бурчыць. Рагачы.

**Бурно'с** м. Бурнос, доўгая мужчынская з даматканага сукна без каптура вопратка. Помню, ашчэ мой дзед насіў бурнос; ніз, рукавэ і кішане апшыты чорным. Бакуны.

**Бурскану'ць** зак. Кінуць на зямлю. Здаецца, малы, а як схапіў за грудзі, так і бурскануў фацата аб землю. Лаша.

**Бурча'ць** незак. Бурчаць, нездаволена мармытаць. Стаіць, голаў унурыўшы, як вупар, і нешто бурчыць сабе. Баяры.

**Бу'рыць** незак. Падбухторваць. Верка ўсе міне бурьць, кап карову прадала. Свіслач.

**Буршты'н** м. Бурштын. Як хто на горло хварэў, казалі, кап пацёркі з бурштыну насіў, памагала. Глушнева.

**Буса'к** (і баса'к) м. Бусак, багор. Пры паляках пры каждуй хаці бусак стаяў на выпадак якого пажару. Дарашэвічы.

**Бу'ська** ж. Пацалунак. Дай мамі буські, сынок, і ідзі спаць. Белева.

**Бутара'жыць** незак. Бударажыць, узрушваць, узбуджаць. Мало таго, што сваіх, та ашчэ і суседзяў стаў бутаражыць кожны дзень. Гарны.

**Бу'таль** м. Бутля, вялікая бутэлька. У нас усе ў бутлях газу трымалі, набярэш поўны, больш як месяц паліш. Малахавічы.

**Бутэ'лька ж.** Старая мера аб'ёма вадкасці. У бутэльцы шэсць дзісятых літра, даўней бутэлька ні гэдакая была, як ціпер. Клачкі.

**Бухто'рыць** незак. Падбухторваць, баламуціць, натраўляць. Гэта, відаць, жонка яго бухторыць, кап з нам ні гаварыў. Пралейкі.

**Бу'ча** ж. 1. Буча, верша, нерат. Бучу я паставіў пат карчэ вечарам, кап ніхто ні ўбачыў, а то рыбу чужыя выбіралі. Кузьмічы. 2. Сварка, скандал. За ганучу падняў бучу. /прымаўка/. Балічы.

**Бушва'лак** м. Важкі дручок, дубіна. Я схапіў некі бушвалак і думаю: "Хай тулькі зачэпіць». Белева.

**Буя'ніць** незак. Буяніць, скандаліць. Мой Іван ні гэдакі, ён і выпіўшы ні будзе буяніць. Баяры.

**Буя'ць** незак. 1. Буяць, бурна расці. На нашай ніўцы, як дасі гною, та жыто будзя расці аж буяць. 2. Гудзець. На гурках нашых было столькі цвету, што пчолы аж буялі над імі. Ласосна.

**Быдлава'ць** незак. Пра перыяд палавой актыўнааці ў кароў; тое, што і бегаць. Учора пастух наказваў: карова

быдлуе, трэбо да быка вясці. Лугавая.

**Бы'дло** н. Быдла. Ашчэ цёмно, а пастух крычыць: "Выганяй!" Віцькі.

**Бы'ле-куды'** прысл. Куды папала, абы-куды. Надаело ўсё, пайду быле-куды, каб і вочы ні бачылі. Круглікі.

**Бы'ле-што** прысл. Абы-што, што папала. Пляце быле-што, а ты, як дурны, сядзі і слухай. Гушчыцы.

**Бы'ле-як** прысл. Абы-як, як папала, неахайна, нядбала. Ён і майстар такі, робіць быле-як, а грошы бярэ добрыя. Пракопавічы.

**Быстра'к** м. Быстрыня, імклівая плынь у рацэ. Як плывеш, та глядзі, кап на быстрак ні занясло. Солы.

**Бэ'бахі** мн. Бэбахі, вантробы, кішкі. Бык як патсадзіў яму рогам у жвот, так бэбахі і выпусціў. Баранава.

**Бэ'йбус** м. Поўнае, крыклівае, надакучлівае дзіця. Гэты бэйбус начамі ні дае заснуць, чысто матку дабіў. Індура.

**Бэ'кас** м. Бакас, балотная птушка. Да вайны ў балоці бэкасаў было, а ціпер ні чуваць, недзі прапалі. Зарубічы.

**Бэ'каць** незак. Няўмела чытаць. Ашчэ і ў школі вучыласа, а чытаць, ні ўмее, ледво бэкае. Гайкі.

**Бэ'мбель** м. Пухір. На руцэ некі бэмбель выскачыў, свярбіць. Адэльск. Камароў процьма, чысто скусалі, ногі ў бэмбялях. Кунцаўшчына.

**Бэ'нтацца** незак. Матляцца, целяпацца. Бэнтаяцца, як у сабакі хвост. Гожа. Адваяваў наш Янак, левай рукі німа, адзін пусты рукаў бэнтаяцца. Гродна.

**Бэ'нцнуць** зак. Ударыць, выцяць. А паліцман як бэнцнуў мне ў морду, аж у гачах пацямнело, і кажа: «Большэвік!» Баброўня.

**Бэ'рсаць** незак. Блытаць, пераблытваць, запутваць. Ты добро матай, ні бэрсай нітак, потым ні распутаяш. Малая Жорнаўка. Грэх, дзеці, бэрсаць жыто, бо жаць цяшко будзя. Навасёлкі.

**Бэ'сціць** незак. Лаяць, зневажаць, ганьбіць. Нівестка сваго дзеда за ні што мая, бэсціць, кажа: «Даўно трэбо паміраць.» Круглікі.

**Бэ'ткаць** незак. Штурхаць, падымаць, будзіць. На раніцы бэткаяш яго, бэткаяш, а ён спіць як пшаніцу прадаўшы. Ферма.

**Бэ'хі** мн. Бэхі. Малыя дзеці /разм. іран./. Забірай сваіх бэхаў, надаелі за цэлы дзень, як горка рецька. Дубоўка.

**Бязглу'здзіца** ж. Бязглуздзіца, глупства, недарэчнасць. Пляцеш неку бязглуздзіцу, ніхто табе ні паверыць. Коматава.

**Бязглу'зды** прым. Бязглузды чалавек, нічого талковаго ў ім німа. Пыра.

**Бязлю'днік** м. Нелюдзім. Сядзіць гэты бязлюднік, як воўк, на сваім футары. Вусенікі.

**Бязме'н** м. Бязмен, рычажная вага. Даўней нават дзеравяны'я бязмены былі, самы мужчыны рабілі іх. Круглікі.

**Бялё'ўка** ж. Белая даматканая паўшарсцяная спадніца. У бялёўцы кепско было хадзіць, натта ш урабляласа. Струбка.

**Бялі'зна** ж. Бялізна. Некалі бялізну мылі ні з мылам, а ў лузі, яго рабілі з бярозаваго попелу. Струбка.

**Бялі'ць** незак. Бяліць, адбельваць кужаль. Маці расцеля бяліць кужаль, пасыпля попелам, а мы, дзеці, паліваям вадой, каб быў белы. Вулькаўцы.

**Бяля'вы** прым. Бялявы, белаваты. Да Гандзі нашай хлопец прыехаў у сваты, бялявы такі, пекны. Ланявічы.

**Бянтэ'жыцца** незак. Бянтэжыцца, хвалявацца, губляцца. Ні трэбо, хлопцы, бянтэжыцца, ніякаго тут страху німа, усё будзе добро. Літвінкі.

**Бяро'зка** ж. Бярозка, травяністая расліна з павойным сцяблом і белымі ці ружовымі кветкамі. Бяроска расце ў полі і ў гародзі, дзе хочаш расце, свіням збіралі. Бычкі.

**Бярэ'мя** н. Бярэмя, ахапак. Кінуў бярэмя саломы пат каровы, кап сушэй было. Жытародзь.

# В

**Ва'бік** м. Невялікі вулей для заманьвання пчол. Вабік павесіў на ліпу, можа які рой прыляціць. Зарубічы.

**Вага'рыць** незак. Прагуліваць, прапускаць урокі. Вясной мы часто вагарылі, хадзілі на Нёман, у лес. Гродна.

**Ва'гацца** незак. 1. Вагацца, гойдацца. Паложым дошку, сядзем на канцэ і давай вагацца. Вусенікі. 2. Быць у нерашучасці, сумнявацца. Я доўго вагаўсо, ці ісці здаваць экзамен, ці не, а пасля рашыўса. Жукевічы.

**Ва'да** ж. Загана, хіба, недахоп. Чужыя вады бачыш, а сваіх і знаць ні хочаш. Лугавая.

**Ва'дзіць** незак. Вадзіць, у час гульні выконваць самыч цяжкія абавязкі. Як пачнем гуляць у лапту, та Толік вадзіць і вадзіць, ніяк ні адгуляецца. Свіслач.

**Вады'р** м. Пухір. Некі вадыр выскачыў на руцэ, сама ні ведаю ад чаго. Вострава.

**Важда'цца** незак. Важдацца, нянчыцца. З п'яніцамі німа чаго важдацца, трэбо выводзіць ўсіх на чыстую воду. Луцкаўляны.

**Вазні'ца** м. Вазніца, рамізнік, фурман. Вазніца бацюшку прывёс, свянціць будзе. Малая Альшанка.

**Вазо'ўня** ж. Спецыяльнае памяшканне для захоўвання вазоў. Пасля вайны ашчэ стаяла ў Ляхнове вазоўня, пакуль ні разабралі. Луцкаўляны.

**Вайта'ць** незак. Наракаць, выказваць крыўду, незадавальненне. Яны хай ні вайтаюць на сваіх дзіцей, яны і так добрыя вэдлук іх. Ферма.

**Ва'кса** ж. Вакса, гуталін. Як добро: начысціш ваксай чаравікі, та аж ляхчэй ісці да цэрквы. Вішнявец.

**Ва'л** м. Ніці нізкага гатунку шэрсці. Пры паляках мы ўжэ з валу ні ткалі, у нас воўна была. Новая Руда.

**Ва'лавіна** ж. Ялавічына. Свініна рэтко бывае, а валавіны можно браць, колькі хочаш. Гродна.

**Валаво'д** м. Вяроўка, на якой водзяць карову. Падаткі былі такія, што бяры карову за валавод і вядзі прадавай. Бубны.

**Валаво'дзіцца** незак. Валаводзіцца, цацкацца, цырымоніцца, няньчыцца. Німа чаго з імі валаводзіцца, трэбо канчаць з гультаямі. Дзекалавічы.

**Ва'лак** м. Прыстасаванне для разгладжвання, качання бялізны. У нас і ціпер есць валак, што дзед зрабіў з дуба. Зялёная.

**Валаке'** мн. Прылада для перавозкі драўлянага плуга /устар./. Бывало, плух паложыш на валаке, сядзяш і едзяш на палудзень. Каменка.

**Валакі'та** ж. Валакіта, цяганіна, бюракратызм. Надаела гэта валакіта, хадзі ад аднаго да другого і нічого ні даб'еса. Агароднікі.

**Валако'ннікі** мн. Валаконнік м. — Валачобнікі. Валаконнікі недзе спяваюць, хутко да нас прыдуць. Лойкі.

**Валасе'нь** м. Валасень. Паразітычны вадзяны чарвяк, падобны на волас. Бывае, што ад валасня гніе нага, нават косці выпадаюць. Забагонікі.

**Валасні'к** м. Валасень, паразітычны вадзяны чарвяк, падобны на волас. Хвароба скуры ног у чалавека. Валаснік жыве і ў халоднай вадзе. Яго можна знайсці і зімой, ён, як вуж, круціцца. Пышкі.

**Валасяні'ца** ж. 1. Тое, што і валасень, валаснік. Маці палохала нас: "Ні купаўцеса доўго, а то валасяніца ўлезе ў ногу". Кунцаўшчына. 2. Хвароба, якую выклікае валасень. У міне ў самого была валасяніца, месца ні знаходзіў, пакуль баба Ганууся ні выліла на жытнія каласэ. Кунцаўшчына.

**Валацу'га** м. ж. Валацуга; той, хто любіць валачыцца без справы. Гэта валацуга, ён нігды ні прыпыняецца, усе недзі ходзіць. Пагараны.

**Валацу'жны** прым. Валацужны, бадзяжны. Прыбіўсо некі валацужны сабака, накармілі, праспаў ноч і зноў недзі павалокса. Рагачы.

**Валацэ'нга** м. Валацуга. Ты дзе быў, валацэнга, ці ў цібе дзіцей німа і жонкі, валочысса? Лойкі.

**Валача'шчы** прым. Валацужны, бадзяжны. Кот валачашчы прыстаў, хай жыве, шкада. Лойкі.

**Валачо'нна** мн. Фарбаваныя яйкі, якія даюць дзецям на вялікдзень. Хрышчона матка шторок давала нам валачонна, нігды ні забывала. Быльчыцы.

**Валачо'ннікі** мн., валачоннік м. Валачобнікі. Як учуеш, што спяваюць валачоннікі, так і гатовіш яйца і пірог. Брузгі.

**Валачы'цца** незак. Валачыцца, не адставаць. Прыстаў да нас некі чалавек і валочыцца, нашто ён нам патрэбны. Галавачы.

**Валачы'ць** незак. Валачыць, красці. Як настане ноч, так салому ад стога і валачэ. Свіслач.

**Валяр'я'нка** ж. Валяр'ян. Ашчэ мая баба рабіла настойку на карэнях валяр»янкі, памагала ад нэрваў. Пагараны.

**Валё'н** м. Вэлюм, дзявочы галаўны вясельны ўбор. А валён у маладой быў харошы, доўгі, канец у руцэ трымала. Лікоўка.

**Валі'зка** ж. Чамадан. Даўней з валіскамі ездзілі тулькі панэ і ўжэнднікі, а ціпер кожны з валіскай. Квасоўка.

**Валі'ць** незак. Валіць, выходзіць /пра дым/. Глядзі, як дым валіць з коміна, мусі, сажа загарэласа. Караневічы.

**Валкава'ты** прым. Сыраваты, не высахшы. Жыто валкавата, ашчэ німа як вазіць. Саломенка.

**Валкава'ць** незак. Зграбаць сена ў валкі. Сено падсохло, можно валкаваць. Сухая Даліна.

**Валкаўні'ца** ж. Прыстасаванне для разгладжвання, качання бялізны; тое, што і валак. Раней возьме маці валкаўніцу, пакачае плаце, і такое глаткае было, ніякіх жаляскаў ні знālі. Прыгодзічы.

**Ва'лко** н. Тое, што і валкаўніца, валак. Рушнік накруціш на качалко, а валкам качаеш, пакуль ні выкачаяш. Дзекалавічы.

**Вало'вы** прым. Валовы, які мае адносіны да вала', такі, як у вала'. Ён столькі напазычаў грошай, што на валовую скуру ні спішаш. Скідаль. Валовыя вочы — пупок, палявая кветка. Пшаніца ні ўрадзіла, адны валовы вочы беляхцяць. Ліцьвінкі. Валовае мясо — ялавічына, тое, што і валавіна. З аднаго валоваго мяса катлетаў ні зробіш, трэба сланіны, а яе німа. Гродна, Пышкі.

**Вало'к** м. Валок, града зграбленага сена. Дзяўчата хай зграбаюць сено ў валке, а мы зараз пойдзям у капке лажыць. Балічы.

**Вало'кальнікі** мн., валокальнік. Валачобнікі. Валокальнікі спявалі дзяўчатам: «Добры вечар, панянэчко «, а хлопцам — «Добры вечар, кавалежэ". Талочкі.

**Вало'каць** незак. Валачобнічаць, хадзіць з песнямі на вялікдзень. Як толькі прыцямнее на першы дзень веліканца, так хлопцы і пашлі па хатах валокаць. Талочкі.

**Вало'ся** ж. Жаночы вечар-свята ў канцы лютага –пачатку сакавіка з часоў паганства /устар./. На Валосю бабы як разыдуцца, та гуляюць да 2-х гадзін ночы, скачуць, спяваюць, дурэюць. Клачкі. Бацюшка быў проціў Валосі, казаў: гэта ні свято, выдумкі некія. Кунцаўшчына.

**Вало'шка** ж. Валошка, васілёк. Даўней валошкі ў жыці много было, здалёк сінела, ціпер ні відаць, вытравілі. Кругляны.

**Валту'зіцца** незак. Валтузіцца, важдацца, корпацца. І так ты доўго валтузіўсо з ім, трэбо было жывей канчаць. Каленікі.

**Валту'зіць** незак. Валтузіць, тармазіць, тузаць. А Бобік як схапіў яго за клешню і давай валтузіць, цягаць. Занявічы.

**Валы'нка** ж. Мітусня, сумятня, трывога, мітрэнга. Я бачу, што пашла тут валынка, шапку на вушы ды с хаты. Дарашэвічы.

**Ва'льц** м. Вальс. Заграй нам вальца «Пі, браце, пі! На старасць — торба і кій «. Міцкевічы.

**Вальго'тно** прысл. Прывольна. Ціпер дзецям на вёсцы вальготно жывецца, ні тое, што даўней. Мішкенікі.

**Валэ'ндацца** незак. Валэндацца, бадзяцца, валачыцца. От, валэндаяцца сабе с хаты ў хату, абы нічого ні рабіць. Батароўка.

**Валю'ш** м. Валюш, валюшня; майстэрня, у якой валяць сукно. Самы бліскі валюш быў у Пужычах, туды тато і ездзілі. Загорцы.

**Валя'г** м. Гультай. Валях страшэнны, анічого ні хоча рабіць. Стральцы.

**Ва'ляц** м. Вальс. Я як малады быў, натта ж любіў валяц скакаць, даспадобы быў. Бакуны.

**Валя'ць** незак. Качаючы, размінаючы, рабіць шэрсць, сукно больш шчыльным, цвёрдым. Дзед казаў, што некалі сукно вазілі валяць аж у Нізбудак, а ў нас валілі ў Фолюшы. Баранавічы.

**Ванге'ля** н. Евангелле. Вангеля хлеба ні намеля /прымаўка/. Пагараны.

**Ванге'рка** ж. Вянгерка, сорт слівы. Пасля тык маразоў усе вангеркі вымярзлі, рэтко ў каго засталіса. Рагачы.

**Ванглі'на** ж. Вяндліна. Вангліна — гэта добро для маладах, здаровых, а старому яна нават шкодзіць. Сухая Даліна.

**Ванго'р** м. Вугор. Дзед казаў, што вангор чуе гарох здалёк, ноччу па расе так і паўзе туды. Лугавая.

**Ванджэ'га** м. Цяльпук, цюхцей, кіжлай. Некі ванджэга, ні мужык. Каб ні жонка, зусім прапаў бы. Рудавіцы.

**Вандзі'дло** н. Цуглі. Дай каню вандзідло ў зубы, каб ні панёс. Саннікі.

**Вандля'рня** ж. Вяндлярна. У нас была свая вандлярня, вэндзілі кумпяке і каўбасы. Мількаўшчына.

**Вандо'лы** мн. Выбоіны, калдобіны. Дарога зусім разбіта, адны вандолы, ні праехаць. Занявічы.

**Вандрава'ць** незак. Вандраваць. Гэты чалавек ўсё свае жыце вандруя, ні прыпыняяцца на адным месцы. Ланявічы.

**Ванзэ'лак** м. Клунак. Узяў свой ванзэлак і пашоў у дарогу, нічого ні сказаўшы. Пяслі.

**Ванітава'ць** незак. Ванітаваць, рваць, бляваць. Нешто ззеў нідобрае, цэлы дзень ванітую, рады німа. Малое Дзяміткава.

**Вантабу'ра** ж. Скандал, сварка, дэбош. Зайшоў да дачкі, та зяць як падняў вантабуру, ледво с хаты выскачыў. Бaброўнікі.

**Вантрабя'нка** ж. Вантрабянка, каўбаса з вантробаў. Вантрабянка мне нават лепша за каўбасу. Квасоўка.

**Вантро'бы** мн. Вантробы. Спіш і спіш, у цібе ўжэ ат сну ўсе вантробы перагнілі. Аульс.

**Ва'нтух** м. Вялікі жывот. Як начальнікам стаў, та і вантух наеў, ледво поўзае бедны. Эйсманты.

**Ва'р** м. 1. Спёка, гарачыня. Ну, і вар быў, усё высмаліло на полі, пагарэло. Гібулічы. 2. Кіпяток. Ашчэ як малым быў, варам апарыўсо, і ціпер знак застаўсо. Белева.

**Варкава'ць** незак. Буркаваць. Голуб варкуе — галупку чуе /прымаўка/. Карозічы.

**Варо'нін** прым. Варонін, варонячы. Сарокі ні толькі вароніны яйца крадуць, яны крадуць нават і курыныя. Каленікі. Варонін зуб — галаўня, хвароба збожжавых злакаў. Ціпер варонін зуб ў Малым Мажэйкаві спецыяльно разводзяць, робяць лякарство, кажуць, памагае ад закупоркі вен. Пагараны.

**Варо'нка** ж. Душнік у склепе. Кожны рас затыкай добро варонку саломай, каб марос ні ўвабраўсо. Бакуны.

**Варо'цячкі** мн. Веснічкі, брамка. Варацячкі зачыняйце, кап сві'ня ні ўлезлі. Бакуны.

**Варо'чацца** незак. Вяртацца. Хоць што і забыўсо ўзяць, а з дарогі ні варочайса /прымаўка/. Каробчыцы.

**Варо'чаць** незак. Варочаць, пераварочваць. Пагода стаіць, трэ сено ісці варочаць. Хамякі.

**Вартавы'** прым. Вартавы. Да жураўлёў бліско ні падыдзеш, вартавы журавель так і закрычыць. Круглікі. Вартавы'я пчолы — пчолы, якія абараняюць уваход у вулей. Вартавыя пчолы ў поле ні лётаюць, яны пільнуюць, каб ні ўлезлі пчолы-зладзейкі. Грынёўка.

**Вартаўне'йшы** прым. Каштоўнейшы. Жытня зямля, можа, нават вартаўней-

ша за пшанічну, пшаніца вырасце ці не, а жыта — заўсёды вырасце. Квасоўка.

**Варста'к** м. Варштат, дрэваапрацоўчы станок. Як маяш варстак, так пчаліных рамак наробіш умомант. Лікоўка.

**Ва'рты** прым. Варты, добры. Хлопец ён быў варты, але зямлі ні меў, так бабылём і звэйдаўсо. Лаша. 2. Дастойны. Ён ні варты, каб яго так дзеці глядзелі. Каўпакі.

**Вар'я'т** м. Вар'ят; той, хто дзейнічае безразважна, шалёны. Вар'яту гэтаму німа што верыць, ляпей з ім ні звязвайса. Хліставічы.

**Вары'ць** незак. Разумець, цяміць, кеміць. Як галава ні варыць, та кідай вучыцца, ідзі на работу. Лэйгабалі.

**Васарва'га** ж. Ватэрпас. Васарвагу я сам зрабіў, шкельца з вадой дастаў з німецкаго танка. Дзекалавічы.

**Васісё'р** м. Прайдоха, прайдзісвет, дробны жулік. Хлопцы, некі васісёр паявіўсо, круціцца каля нашых дзяўчат. Кунцаўшчына.

**Васкава'ць** незак. Васкаваць, насычаць пражу адварам з льнянога семя. Перш чым ткаць, пражу трэбо было васкаваць, каб ніці былі глаткія і мацнейшыя. Рагачы.

**Васма'хтар** м. Пасрэднік у час продажы ці куплі жывелы /каня, каровы да 1939 г./. О, браце, даўней без васмахтара каня ні прадасі. Рацічы.

**Ва'спан** м. Васпан, ваша міласць /форма звароту сярод шляхты/. Ці, васпан, жанаты, ці ў кавалерах ешчэ ходзі? Занявічы.

**Ва'сь!** выкл. Вокліч, якім клікалі свіней. Вась! Вась-вась!.. Усе да карыта! Луцкаўляны. Круглікі.

**Васьміру'чка** ж. Гатунак і размер касы. Для міне васьміручка — самы рас каса, добро косіць. Струбка.

**Ваўну'шка** ж. Ваўнянка. Ваўнушкі трэба добро адварваць, каб горкія ні былі. Казіміроўка.

**Ваўчаке'** мн. Вострыя клычкі ў парасят. Трэбо ваўчаке абцэнгамі пазломваць, а то парася зусім схудло, ні можа есці. Свіслач.

**Вачаня'та** мн. Вочкі. Аніяк дзіця ні засне, вачанята вытрашчыло і ляжыць. Баброўнікі.

**Вашава'ць** незак. Навальваць. Перасыпаць збожжа. Вашаваў, вашаваў жыто і ўсероўно спрэло, сырое натта ж было. Пракопавічы.

**Вашапру'д** м. Вашапруд, неахайны, брудны чалавек. З вашапрудам гэтым нават сядзець ніхто ні хоча, ні тулько справу мець. Кульбакі.

**Ваяво'да** м. Ваявода, начальнік акругі, ваяводства. Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе /прыказка/. Казловічы.

**Ве'дзьма** ж. Ведзьма, жанчына, якая водзіцца з "нячыстай сілай», злая чараўніца. У нас была адна ведзьма, яе чамусьці Кіяўскай ведзьмай называлі. Парэчча.

**Ве'дзьма** ж. Даволі вялікі матыль цёмнага колеру, які вечарамі ўлятае ў хату і кружыць каля лямпы, у святле. Зачыняй акно, а то ізноў ведзьма ўляціць у хату. Рацічы.

**Ве'дзьма** ж. Рапуха, палявая жывёліна сямейства бясхвостых земнаводных, падобная на жабу, з бугрыстай скурай, шэрага колеру. У нас старыя людзі на рапуху казалі ведзьма, бо яна страшна. Адрубай ведзьмі ногі, та табе здаецца, што адрубаў сабе рукі. Кунцаўшчына.

**Век** м. Век, вельмі доўгі час, усё жыццё. Век сваго дзядзькі ні забуду, добры быў чалавек. Сухая Даліна. Век векаваць — жыць усё жыццё. Я тут век векаваць ні буду. Паеду на бацькаўшчыну. Вусенікі.

**Ве'к-ве'кам** прысл. Заўсёды, спрадвеку. Век-векам яны нічого ні мелі і мець ні будуць. Дарашэвічы.

**Ве'ка** н. Паве'ка. На веку ячмень сеў, нічого ні бачу. Балічы.

**Векава'ць** незак. Жыць увесь час, існаваць. Хіба ж ён тут думае векаваць, што так адбудоўваецца? Луцкаўляны.

**Ве'ле** прысл. 1. Многа. Так веле было народу, што ў хату ні змясціліса, стаялі пад вокнамі. Кузьмічы. 2. Колькі? А веле гэта каштаваць будзе? Вулькаўцы.

**Велька'нац** м. Вялікдзень. Вельканац быў той рок халодны, яйкі памерзлі. Баранавічы.

**Ве'лькі** прым. Вялікі. Ты, мусі, вельку пенсію палучыў, ні такую, як я? Верцялішкі. Велька мадэ'ра — вялікая справа. Падумаяш, велька тут мадэра — зрабіць вулей, я і сам зраблю. Васілевічы.

**Ве'льмі** прысл. Надта, надзвычайна, дужа. З яго быў натта ж велькі рызыкант, пакуль на сваго ні нарваўсо. Шэмбелеўцы.

**Ве'нцер** м. Венцер, рыбалоўная сетка ў выглядзе мяшка, нацягнутага на абручы.Той рас, як паставілі венцер, та цэла вядро рыбы прыперлі дахаты. Пракопавічы.

**Ве'рас** м. Верас звычайны, сям'і верасовых. У нас з верасу ўсе венікі рабілі хату мясці. Свіслач.

**Верасо'к** м. Верас, нізкая вечназялёная расліна з ружовымі кветкамі. З вераску пчолам добры ўзятак, але мёд ніважны, на ім яны ні паразімуюць. Ласосна.

**Верашча'ка** ж. Страва з дробных кавалачкаў тонкай саланіны і прыпраў. Як толькі прыходзілі на коляды з цэрквы, маці зразу падавала на стол верашчаку. Ферма.

**Ве'рбніца** ж. Вербная нядзеля. На вербніцу хто заспіць даўжэй, таго білі вярбой і прыгаворвалі: "Ні я б'ю, вярба б'е, ні спі доўго, уставай рано валэ гнаць, ні забуцьса пугі ўзяць". Рудавіцы.

**Верх** м. Верхні бок адзення. Верх ашчэ добры, а падбіўка зусім знасіласа. Грыўкі.

**Верхаво'дка** ж. Верхаводка, прэснаводная рыба. Якая там верхаводка рыба, у ёй нічога німа, ні смажыць яе, ні варыць. Дарошавічы.

**Ве'рхнік** м. 1. Фрамуга, оберлюфт. У старых хатах верхнікаў ні было, трэбо было атчыняць акно або дзьверы. Каменка. 2. Квадратная адтуліна ў тыльнай сцяне курнай хаты для дыма. Верхнік атчынялі на Дзеды, каб душачкі змерлыя прышлі на вячэру. Лаша. Трэбо верхнік атчыніць, кап хучэй сканаў чалавек, ні мэнчыўсо. Кавалічы. 3. Верхняя дэталь ільномялкі, церніцы. Яшчэ цёмно, а дзяўчата ўжэ ляскацяць верхнікамі, труць лён. Бакуны.

**Ве'рцяха** ж. Макацёр, макатра, гліняная пасудзіна, у якой труць /мелюць/ мак, ільняное семя. У верцясі мак аднаму ні змалоць, трэбо, каб хто трымаў, а другі — малоў. Балічы.

**Ве'сні** прым. Веснавы. Дзякаваць Богу, веснія дні насталі, цяпло. Баброўня.

**Весялу'ха** ж. Вясёлка, радуга. Глядзі, весялуха воду п»е, патопу больш ні будзя. Галавачы.

**Весялю'сенькі** прым. Падвыпіўшы /перан./ Мой учора весялюсенькі прышоў, кажа: "Прэмю далі, трэбо было замачыць". Луцкаўляны.

**Ве'траны** прым. 1. Ветраны, з ветрам, які суправаджаецца ветрам. Хацеў пчолы паглядзець, але некі дзень ветраны, німа як. Грынёка. 2. Легкадумны, пусты. Жонка ветраная была, круціласа, а ён, бедны, гараваў адзін з дзяцьмі. Сыпаная Гара.

**Ве'ха** ж. Вяха, тычка. Як занясе снегам дарогу, та глядзіш, дзе вехі стаяць, каб не зваліцца ў аткос. Каранявічы.

**Ве'хаць** м. Скручаны жмут саломы. Дроў ні было, печы палілі саломай, скруціш вехаць і — у печ. Так і кідаеш, пакуль ні напаліш. Верцялішкі.

**Вецяна'р** м. Ветэрынар. За вецянара вышла, добры хлопец, толькі што нісцітут кончыў. Дарашэвічы.

**Вечары'нкі** мн., вечарынка ж. Вячоркі. Як маладыя былі, та на вечарынках праседжвалі да познай ночы, часто світаючы прыходзіў дахаты. Малая Альшанка.

**Ве'чко** н. Вечка, накрыўка. Каб адзежа прасохла, здымалі вечко і выносілі кубел на двор, на вецер. Круглікі.

**Ве'ялкі** мн. Вейкі вачэй. А яна стаіць і веялкамі моргая, як дурная. Клачкі.

**Вжо'д** м. Скула, балячка, фурункул. Прастыла, вжоды апанавалі, ратунку німа. Лугавая.

**Вігі'лія** ж. Урачыстая вячэра напярэдадні каляд у католікаў, тое, што

і куцця ў праваслаўных. На Вігілію на стол клалі сено, засцілалі абрусам, чакалі, аш пакуль зорка пакажацца. Казловічы. На Вігілію падавалі куцю з макам, ся'ледцы, ламанцы — усяго дванаццаць страў. Кузьмічы.

**Віднюʼсенько** прысл. Светла. Пакуль наварыла ў пячэ, стало віднюсенько. Лікоўка.

**Відняʼць** незак. Віднець, світаць, святлець. Яшчэ добро ні відняло, а немец ужэ ляцеў бамбіць Гродно. Гібулічы.

**Відэʼлец** м. Відэлец. Спачатку прырода дала пальцы, а потым відэльцы. Лаша.

**Віляʼць** незак. Хітраваць, ухіляцца. Ён таўкач, заўсёды віляе, стараецца, кап хто за яго зрабіў. Круглікі.

**Віʼр** м. Вір. Ён і плаваў добро, але як папаў у вір — так і ні аказаўсо, на трэці дзень толькі выплыў. Пышкі.

**Віславуʼхі** прым. Віславухі, з абвіслымі вушамі. У дварэ былі такія віславухія свіня, пародзістыя, на сало добрыя. Свіслач.

**Віслоʼ** н. Рычаг — вага, дэталь калодзежа-жураўля, якая апіраецца на стойку. Што хочаце, на цэлу вёску толькі дзве студні, вісло не пераставало скрыпець. Зарубічы.

**Вісоʼк** м. Скронь.Чалавек, здаецца, і ні стары, а віске зусім белыя. Барбарычы.

**Вітаʼцца** незак. Вітацца, здароўкацца. У дарозі, сынку, с кожным чалавекам трэбо вітацца, ні праходзіць маўчуном. Баліненты.

**Віціʼна** ж. Віціна, крытае судно для перавозкі збожжа па рацэ. Ашчэ мой тато казаў, што збожа некалі віцінамі па Нёмну вазілі. Пагараны. Віціны цягну'ць цяшко было, адны ішлі па беразі і лінкамі цягнулі, другія стаялі на віцінах і атпіхвалі бомамі, кап ні прыставалі віціны да берага. Дзекалавічы.

**Вішнёʼвы** прым. Цёмна-чырвоны, колеру вішні. Маці матке фарбавала найбольш на вішнёвы коляр або на бурдовы. Баркі.

**Воʼчасц.** Во, глядзі, паглядзі. Во, лянь, які ты чалавек, увяць возьмяш, а аддаць, як бог дасць. Рацічы.

**Воʼбмарак** м. Непрытомнасць. Як сказвлі, што сына німа, так у вобмарак і ўпала, ледво вадой адлілі. Славічы.

**Воʼбмацкам** прысл. Вобмацкам, пры дапамозе дотыку. Я вобмацкам ледво дзверы знайшоў, думаў, ні выду с хаты надвор. Кавальцы.

**Воʼбшчаство** н. Грамадства, таварыства, суполка. Тут, брат, нічого ні зробіш, вобшчаство так пастанавіло. Баброўня.

**Воʼгнік** м. Дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца пачырваненнем скуры і высыпкай на губах. Дзе'цятко, ні плюй на агонь, а то вогнік прыпадзе, захварэяш. Лаша. Як у дзіцяці вогнік, та баба з маткай возьмуць с печы вуглёў, пасякуць каля выхаду дзіцяці, і тады баба пытала: «Што сячэш?" — "Агонь сяку,»- атказвала маці. «Сячы, сячы, каб мінаўсо"- прыгаварвала баба. Селюкі.

**Воʼгер** м. Жарабок, непакладаны конь; конь-самец. Учора вадзіў кабылу да вогера. Лойкі. Хлопяц як вогер, хоць у плуг запрагай, такі здаровы. Лаша.

**Воʼжах** м. Вожаг, дзяржальня вілак, качаргі. Каб ні ўраклі дзіця, казалі: «Соль табе ў гочы, вожах — у зубы, а гарачы камень — на пуп". Лаша.

**Воʼжык** м. Прылада з вострымі цвічкамі, якую вешаюць на мысу цяляці, каб не ссала карову. Цяля чысто карову дабіло, трэбо, мусі, адлучаць, вожык вешаць. Лужкі.

**Воʼз** м. Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Глядзі, воз зусім перахіліўсо, світаць мусі будзе. Забагонікі.

**Воʼздзека** прысл. Тут. Во, сядзь воздзека, каля міне, пагаворым, як жыць будзямо. Баброўнікі.

**Воʼзьдзе** прысл. Тут. Ты, мусі, шапку шукаяш, а яна возьдзе ляжыць. Батароўка.

**Воʼйдзе** прысл. Тут. Войдзе рэчку і ў брод можно перайсці, ні вельмі глыбока. Ласосна.

**Воʼл** м. Вол, кастрыраваны самец буйнай рагатай жывёлы. У яго німа ні кала ні вала, і як ён думае жыць? Цвіклічы. Ён робіць, як вол, ні мая ніякага спачынку. Сіўкава. Вол ралявы'— вол, які

ў час ворыва хадзіў у баразне. Вол ралявы заўсёды слабейшы быў, яму лягчэй было хадзіць. Сабаляны. Вол верхавы' — вол, які ў час ворыва хадзіў па раллі /узаранай глебе/. Вол верхавы дужайшы павінен быць, бо яму трэбо было хадзіць па ўзаранай зямлі, ногі страглі. Баранава. Вол палавы' — вол пало'вай /бледна-жоўтай/ масці. Валэ палавыя, чаму ні гарэця, лета мае маладыя, чаму марна йдзеця. /з нар. песні/. Лаша.

**Вало'вы** прым. Які мае адносіны да вала. Ён напазычаў столькі, што на валовую скуру ні спішаш. Скідаль. Вало'выя во'чы — травяністая расліна з кветкамі, якія маюць белыя пялёсткі і жоўтую сярэдзіну. Валовыя вочы на рамонак падобныя, тулько ні так пахнуць. Жукевічы. Валовае мя'со — ялавічына. Мы, можно сказаць, свініны мало ямо, больш з валовым мясам варым, яно здаравейша. Батароўка.

**Во'лак** м. Волак, сетка рыбалавецкая ў выглядзе клінападобнага мяшка з прымацаваным да яе шастом. Волак свой трэбо мець, ніхто табе ні пазычыць, за зіму звяжаш. Кунцаўшчына.

**Во'ле** н. Валлё, пашыраная частка стрававода ў птушак для накаплення ежы. Ты бачыш, як жоўта курыца наелася, аж воля перабэчылася. Зарубічы.

**Во'лкі** прым. Вільготны, вагкі /вохкі/. Сено волкае, добро ні высахло, нашто яго вазіць. Рудавіцы.

**Воля'** часц. Во, вось бачыш, вось табе і маеш. Воля, нікуды ні дзеўсо, усероўно да свае хаты прышоў. Гродна.

**Во'ляк** м. Расол з-пад селядцоў. У вялікі пост маці паставіць у місцы трошкі воляку, і мы мачаем у яго бульбу, ямо. Лужкі.

**Во'парак** /обарак/ н. Прашча; прылада з вяровачкі і раменьчыка для кідання невялікіх каменняў. Як малыя былі, та ўсе з вопаракаў каменя кідалі; як кіняш, та аж засвішча, ляціць. Балічы.

**Во'пцасам** прысл. Нахабна, бесцырымонна. Ты чо гэта вопцасам на людзей лезяш, як табе ні брытко. Літвінкі.

**Во'рак** м. Мяшок. Картопля хай ашчэ ў ворках пастаіць, а потым ў склеп высыплем. Ланявічы.

**Во'рса** ж. 1. Кароткія валаскі на целе чалавека, якія паўстаюць пры паніжэнні тэмпературы. Змерзла, глядзі, як ворса на руках папаўставала. Сцяцкі. 2. Кароткі начос на паверхні некаторых тканін. Моцно ні шаруй шчоткай, а то, бачыш, як ворсу паздзіраў, зараз дзірка будзя. Аульс.

**Воўкаўня'** ж. Месца або дарога, па якой часта праходзяць ваўкі. Учора ізноў у воўкаўні ваўке жарэпчыка зарэзалі, адны вантробы пакінулі. Кунцаўшчына.

**Во'ўчы** прым. Воўчы; які мае адносіны да ваўка, належыць ваўку. Воўча шапка цёпла, ніякі мароз мне ні страшны. Гожа. Воўча натура /перанос./ — пра шкодны, грубы /звярыны/ характар. У яго воўча натура, ён, каб прымеў, чалавека ззеў бы. Струбка. Воўча вяселе — перыяд гона ў ваўкоў. Як пападзеш на воўча вяселе, та жывым ні выдзяш, разарвуць. Рудавіцы. Воўча лыко — воўча ягада, ядавітая кусцікавая расліна з ружовымі кветкамі і чырвонымі ягадамі. Помню, як малымі былі, та нам старэйшыя казалі: "Ні ешча, гэта воўча лыко, можно атруціцца». Пагараны. Воўча ягада — нейкая кустарнікавая расліна з чорнымі ягадамі. У нашым лесе воўчыя ягады растуць, та ніхто іх ні збірая, так і растуць. Зарубічы.

**Во'чкі** мн. Вочко н. Зародкі парасткаў на клубнях бульбы. Я стараюса бульбу так рэзаць, кап у кожнай частцы было ні менш, як па два вочкі. Кругляны.

**Вуго'р** м. Бычы падскурнік, невялікі бугарок на спіне ў рагатай жывёлы, утвораны лічынкамі авдня-падскурніка. Як націсняш пальцамі, так вугор с-пат скуры і вылязя, упадзе. Я сама вугры выціскала. Рагачы.

**Вугры'** мн., вугор м. Вугры, невялікія бугаркі на скуры, утвораныя тлушчавой пробкай. Дзеўка — адным словам, тулькі фэлер мае — вугрэ на твары. Рагачы.

**Ву'ек** м. Дзядзька; брат бацькі або маці.

Я добро помню, як вуек нам на велька-нац яйка маляваў. Эйсманты.

**Ву'жык** м. 1. Вужык; раменьчык, якім мацуецца да цапільня біч /ударная частка цэпа/. Я вужык як зрабіў с сурамяці, так яму і зносу німа, ашчэ ні парваўсо. Літвінкі. 2. Змеявік; металічная трубка ў смалакурным катле для кандэнсацыі шкіпінару. Чым даўжэйшы вужык у катле, тым ляпей скіпідар выходзіць. Рыбніца.

**Вужы'шча** н. Вужышча, тоўстая кручаная вяроўка, якой уціскаюць вазы ў час перавозкі сена або саломы. У міне доўга вужышча было, жэртку прывяжаш і мо разоў два апкруціш кругом воза, кап сено ні растрасаласо. Літвінкі.

**Ву'н** часц. Вунь. Вун там ляжыць мяшок, хіба ты ні бачыш? Лугавая.

**Ву'нака** часц. Вунь там. А вунака твая кабыла ходзіць, нідалёко лесу. Жукевічы.

**Ву'ньдзяка** часц. Вунь там. А вуньдзяка брод, там можаш перабрысці на той бок. Свіслач.

**Ву'пар** м. Пра ўпартага падлетка. Ты чо гэта стаў у кутку вупарам, слова ад цібе ні даб'есса. Свіслач.

**Ву'праж** ж. Вупраж. Мой тато вупраж заказваў у Карозічах, там добры рымар быў. Квасоўка.

**Ву'тка** ж. Качка. Колькі вутка ні мудры, а лебядзем ні будзяш /прымаўка/. Батароўка.

**Ву'тлы** прым. Хваравіты, слабы. Ён зусім у міне некі вутлы, абы чуць дзе прадуло, так і хварэя. Вялікая Жорнаўка.

**Вухна'ль** м. Вухналь, плоскі цвік, якім прыбіваюць падковы. Мусі, вухналь каваль загнаў у жывое месца, бо кабыла кульгая. Старая Дубава.

**Ву'ці-ву'ці-ву'ці!** выкл. Вокліч, якім падзываюць качак. Вуці-вуці-вуці! Вуцячкі вы мае, хадзеце есці дам. Кашэўнікі.

**Вучыце'лька** ж. Настаўніца. Да нас нека нова вучыцелька прыехала, дзіцей вучыць будзя. Кулёўцы.

**Вушаня'та** мн. Вушы /памянш., ласк./. Ляпей шапку цягні, а то вушанята адмерзнуць. Лукавіца.

**Ву'шко** н. Вушка; ручка ў збанку. Хвароба на яго, у збанку вушко адбіласо, німа за што трымаць. Навасёлкі.

**Ву'шлы** прым. Пра хітрага, лоўкага чалавека. О, вушлы быў чалавек, я яго добро знаю, любого мох абмалахтаць. Баранава.

**Вы'бавіцца** зак. Вызваліцца. Як зойдзяш да Мікалаевых, та ад дзіцей выбавіцца ні можаш, усё просяць: "Раскажэце, дзеду, як вы з немцам ваявалі". Прыгодзічы.

**Вы'біцца** зак. Выйсці, выбрацца. Як заблудзіўсо ў лесе, та ледво неяк удалосо выбіцца на дарогу, думаў: прападу. Путна. Выбіцца з грошай — аказацца без грошай; растраціцца. Быў неяк зусім выбіўсо з грошай, а ціпер, дзякаваць Богу, ізноў маю, ні трэбо пазычаць. Каменка. Выбіцца ў людзі — дабіцца поспехаў у жыцці. Як уступіў у парцію, та і хутко выбіўсо ў людзі. Путрышкі.

**Вы'блякнуць** зак. Выцвісці, страціць першапачатковы колер; зліняць. Гэтаго матэрыялу на касцюм ні бяры, ён можа выблякнуць на слонцы. Пруды.

**Выбо'іна** ж. Выбоіна, калдобіна, выбітая яма на дарозе. На Рыдзялі дарога кепска, ні праедзяш, адны выбоіны. Галаўнічы.

**Выбрыка'ць** незак. Выбрыкваць. Конь мой як папастаяў без работы, так і пачаў выбрыкаць, у хлеў ні зажанеш. Бірулічы.

**Вы'брыкі** мн. Нечаканыя ўчынкі, якія супярэчаць агульным правілам паводзін. Ты што тут мне свае выбрыкі паказваяш? Луцкаўляны.

**Вы'будавацца** зак. Выбудавацца, закончыць будавацца; пабудавацца. Яны ўсе маглі пабудавацца, бо лес свой мелі, ні тое, што ў нас. Азёры.

**Вы'бухаць** зак. Выліць, выпіць усё адразу. Ты нашто гэта ўсю воду з вядра выбухаў, напіцца нават ні пакінуў. Горніца. Выбухаў паўзбанка малака. Палаткова.

**Вы'вадак** м. Вывадак. Я пат карчом цэлы вывадак ваўчанят знашоў, так у кошыку да хаты і прынёс. Зарубічы. Адне-

куль цэлы вывадак курапят з»явіўсо, та мы іх абярагалі, кап каларацкіх жукоў нішчылі. Губінка.

**Вывалака'ць** незак. Вывалакаць, выцягваць, выносіць. Перат тым, як патпаліць нашу вёску, немцы пачалі вывалакаць с хатаў куфрэ з адзежай, выганяць жывіну. Скідаль.

**Вы'валкаваць** зак. Моцна пакараць, пабіць. Як вывалкую добро, та ў чужы сад больш ні палезяш. Каўпакі.

**Выва'льгіс** м. Гультай, лодар, лежабок. Сынэ нашаго Адама некія вывальгісы, анічого ні хочуць рабіць. Скідаль.

**Вы'варат** м. Выварат; вываpацень, вываpаць. У гэтым месцы пасля буры выварат ляжаў, па дарозі ні можно было праехаць, аб' játджалі. Струбка.

**Вы'вернуцца** зак. Вывернуцца, пераваярнуцца, перакуліцца. Глядзі, памалу едзь; бачыш, якая дарога — вывернуцца можно. Малая Капліца.

**Вы'веяць** зак. Вывеяць, ачысціць збожжа веяннем. Пакуль вязці да мліна, трэбо жыто добро вывеяць, тады і хлеп добры будзя. Навасёлкі.

**Вы'віднець** зак. Вывіднець, добра развіднець. Так і вывіднець можа, пакуль збярэсса са сваімі чамаданамі. Хваты.

**Вы'гінуць** зак. Загінуць, прапасці, знішчыцца. На полі снегу зусім мало, пшаніца можа выгінуць, вымярзне. Аленічы.

**Вы'глянсаваць** зак. Выглянцаваць; нацерці да бляску. Але ж і выглянсаваў боты, усероўно як новыя. Мігова.

**Вы'гнаіць** зак. Угноіць. Ён кожны рок як добро выгнаіць зяемлю, та і пшаніца расце, аш паляжа. Літвінкі.

**Выго'да** ж. Прыволле, раздолле. Усе лезуць у гэтыя велькія хаты, а я от ні хачу, ніякай выгоды там німа, мне ў сваёй выгода. Ласосна. 2. Дастатак; дабрабыт. Дзе ў хаці выгода, там і згода / прымаўка/. Капцёўка.

**Выго'рваць** незак. Выворваць. Бульбу трэбо было выгорваць, а то потым коней ні дастаняш. Луцкаўляны.

**Вы'дварыць** зак. Выгнаць, выправадзіць, выселіць. Я сваго кватаранта с хаты ні мог выдварыць, надаеў ўсім. Гродна.

**Вы'дзірак** м. Узараная цаліна. На выдзірку добро жыто родзіць, мы ў той рок коп дзесяць нажалі. Галаўнічы.

**Вы'длужыць** зак. Асіліць, адолець. Панабіралі ўсюды даўгоў, ні ведаю, ці ён выдлужыць, кап іх выплаціць. Галавенчыцы.

**Выдумо'ўваць** незак. Выдумваць, прыдумваць. Ціпер сталі ўсялякія моды выдумоўваць, трохі паходзіць — і ўжэ выкідае, кажа — ні моднае. Адэльск.

**Вы'жалабкаць** зак. Выхлебтаць, выжлуктаць /груб./. Як дабраўсо да малака, та с паўзбанка адразу выжалапкаў. Лаша.

**Вы'жла** ж. 1. Выжла, гончая сука. У міне выжла была, та кожны дзень зайца прыносіла, аж надаелі яны. Кавальцы. Пераnос. — хітры, лоўкі, пранырлівы чалавек /лаянк./ Выжла ён ні чалавек, усюды ўлезе, усё разнюхае. Баяры.

**Вы'звярыцца** зак. Накінуцца з грубай лаянкай. Я ні магу ўслухацца, як гэты шпанюк сют-тут так і зноў на дзеда накінецца, вызвярыцца. Баранава.

**Вызі'кацца** зак. Вылаяцца, нагаварыць грубасцей. Ён у міне такі, можа на цібе вызікацца, але крыўды ні зробіць, праз мінуту якую адыдзе, добры. Дзекалавічы.

**Вызіра'ць** незак. Выглядаць, нагляд-ваць. Яна прывыкла тулькі з-за вугла вызіраць, хто куды пашоў, хто с кім загаварыў. Каменка.

**Вы'зубаць** зак. Выбраць моцнае яйцо, лёгка пастукваючы аб зубы. Стольکі ў цібе яец, і ты ні можаш сабе вызубаць моцнае. Агароднікі.

**Вы'капаны** дзеяпрым., перан. Падобны, такі самы; ідэнтычны. Наша Алеся — выкапаны бацько, нават характар ў яго пераняла. Гродна.

**Выкаркулё'ўваць** незак. перан. Разліваць, размяркоўваць. Трэбо было добро выкаркулёўваць, каб да вясны на такой гаспадарцы пратрымаць каня і карову. Славічы.

**Вы'каціць** зак. 1. Выкаціць, коцячы перамясціць. Выкаці воз с-пат шопкі, ні

бойса, ні слонцы калёса ні рассохнуцца. Белева. Выкаціць вочы — здзіўлена выпучыць вочы. Што я кепско сказаў, што ты выкаціў на міне вочы. Грандзічы.

**Выка'чваць** незак. 1. Качаць; разгладжваць качаннем /пра бяллізну/. Хвароба на яго, як стала выкачваць бялізну, та і забыласа, што вячэру трэбо варыць. Хамякі. 2. Выкачваць мёд— пры дапамозе цэнтрыфугі даставаць мёд з пчаліных рамак. Трэбо выкачаць мёд, пакуль свежы, а то можа застыць, тады ні выкачаяш. Грынёўка.

**Вы'кленчыць** зак. Выпрасіць, дамагаючыся пастаяннымі просьбамі. Як прыстаня, та ўсероўно выкленчыць; ні адыдзе, пакуль ні дасі. Рацічы.

**Вы'круціць** зак. 1. Выкруціць; круцячы, выціснуць воду. Ясю, трэбо выкруціць хусце і павесіць, хай сохне. Клачкі. 2. Высвідраваць. Во тут трэбо выкруціць дзірку і ўбіць тэбель. Грыўкі.

**Вы'лажыць** зак. Кастрыраваць; вылегчыць. Я і сам магу сваіх паршучкоў вылажыць, ні трэбо прасіць. Навасёлкі.

**Вы'лапатаць** зак. перан. Выпіць. Выхлебтаць. Коля, глядзі, кот малако з ладышкі вылапатаў, нічого ні пакінуў. Лаша.

**Вы'ластажыць** зак. Вылупцаваць, моцна пабіць, адлупіць. Здаецца, ужэ так выластажыў хлопца, а ён усероўно ні слухае, свае выробляе. Пагараны.

**Вы'лахаць** зак. Выесці, з»есці поўнасцю. Я і сама дзіўлюсо, куды ўсё дзяваецца; што ні дасі — усё вылахае, а поправы яму німа. Селіванаўцы.

**Вы'лахтаць** зак. Тое, што і вылахаць. Паршук у міне добры, што ні дасі, стараяцца ўсё вылахтаць. Дубоўка.

**Вы'ляцець** зак. перан. Імкліва выбегчы, выехаць. Выляцяў с хаты, як шалёны, і давай усіх біць, хто пад рукі ні пападаецца. Рацічы. Выляцець з галавы — забыцца. Усё выляцець з галавы можа, нічого помніць ні будзеш, бо стары. Малая Капліца.

**Вы'лівак** м. Вылівак; яйцо, знесенае без шкарлупіны. Курыца аднекуль прыбіласа, адны выліўкі нясе. Жукевічы. Курам нечаго ні дастае, сталі выліўкі нясці. Горніца.

**Вылі'звацца** незак. перан. Прыхарашвацца, прыбірацца /неадабр./ Што ёй бракуя, стаіць перад люстэркам ды тулькі вылізваецца, нічого ні робіць. Лугавая.

**Вы'людак** м. Вылюдак, вырадак; найгоршы сярод людзей; бандыт, кат. Гэта ні хлопяц, а вылюдак некі, ніхто з ім рады ні даваў, пакуль ні папаўсо. Луцкаўляны.

**Вы'людзіцца** зак. Вылюдзець, стаць рослым, прыгожым, выхаваным. Усе быў некі нігеглы, а ціпер паглядзецця, які хлопяц стаў, як патрапіў вылюдзіцца. Старая Дубавая.

**Выляго'ўвацца** незак. Вылежвацца. За яе ўсё паробяць, а яна тулькі вылягоўваецца сабе, як якая пані. Дзекалавічы.

**Вы'маглявань** зак. Выпрасаваць, выгладзіць. Некалі ніякіх гэтых жаляскаў ні было. Маглявалі валкам і качалкам, і ўсё глаткае было. Свіслач.

**Вы'маклі** мн. Пасевы, якія загінулі ад празмернай вільгаці. Гэтыя вымаклі, шторок, і ціпер трэбо будзя атсяваць ячмень, кап пустое поле ні ляжадо. Рудавіцы.

**Вы'маліставаць** зак. Вымаліць, выпрасіць. Ледво вымалістава, аніяк ні хацеў даць сошкі бульбу абгараць. Дзекалавічы.

**Вы'мантажыць** зак. Вымаліць, набыць хітрыкамі, падманам. Як прыстане да чалавека, та усероўно хоць што-небудзь вымантажыць у яго, так ні пойдзя. Саннікі.

**Вы'мантаць** зак. Тое, што і вымаліставаць. Дошчак ужэ дастаў, а як гэта было б ашчэ ў яго вымантаць кахлі на печку. Дзекалавічы.

**Вы'манчыць** зак. Вымаліць, выпрасіць настойлівай просьбай. А хай яго, ледво неяк выманчыў, аніяк ні хацеў атпускаць дроў. Баранава. Ён у кожнаго выманчыць, што яму трэбо, усё дастане. Лікоўка.

**Вынё'слы** прым. Гонкі, высокі, рослы. У гэтым лесі, глядзі, якія вынёслыя

сосны, а ні адной німа разложыстай. Ласосна.

**Вы'падак** м. 1. Выпадак, здарэнне, з'ява. У такім выпатку трэбо быць рысковым, адважным, а чуць празяваў — прападзеш! Чарток. 2. Зручны момант. Быў у міне адзін такі выпадак, але ні скарыстаў. Сухаўляны.

**Вы'палавець** зак. Пажаўцець, зліняць, зблякнуць, выцвісці. На слонцы валасэ і тыя выпалавець могуць, ні тулькі што другое. Зарубічы

**Вы'перці** зак. 1. Выперці, выціснуць. Ні пакідай бочкі з вадой на марозі, а то дно можа выперці. Цыдовічы. 2. Перан.: выгнаць. Трэбо было іх с хаты выперці, хай на гуліцу ішлі п курыць. Сухмяні. Вы'перці во'чы, выперці зеграчэ' — страціць зрок; аслепнуць / груб/. Як ні дасі сляпому жабраку хлеба, та табе самой можа выперці вочы. Капцёўка. Усе браў чужое, аш пакуль яму зеграчэ ні выперло. Рагачы.

**Выплыва'ць** незак. Пускаць колас; пакрывацца каласамі. Ужэ жыто пачало выплываць, во якое роўнае стало. Жылічы.

**Вы'пляжыць** зак. Высекчы; знішчыць, зглуміць. У апошню вайну немцы чысто лес выпляжылі, нічого ні засталосо. Зарубічы.

**Вы'пугаць** зак. Выхлебтаць. Як паставіла міску зацеркі, так дзеці ўміх і выпугалі. Баранава.

**Вы'рабіцца** зак. Выйсці, выбрацца са складанага становішча; выкруціцца. З адной бяды ўдалосо вырабіцца, та ў другую папаў, ашчэ горшую. Кукалі.

**Вы'рабіць** зак. 1. Вырабіць, апрацаваць. Як добро вырабілі землю, та, глядзі, і пшаніца якая вырасла, сярпом ні зрэзаць. Калбасіна. 2. Аформіць, атрымаць /пра дакументы/. Кап паехаць у Польшчу, трэбо спачатку вырабіць загранічны пашпарт, тады паедзяш, а так ніхто цібе ні пусціць. Адэльск.

**Выракa'цца** незак. Выракацца, адмаўляцца; не прызнаваць сваіх. Некалі гэтаго ні было, а ціпер і дзеці сталі выракацца сваіх бацькоў, ні прызнаюць. Жукевічы.

**Вы'садкі** мн. Высадкі, насеннікі; леташнія корнеклубняплоды, пасаджаныя на насенне. Ужэ высадзіла высаткі буракоў, усе будзя свае насене, ні трэбо будзя купляць. Цвіклічы.

**Вы'салапіць** зак. Высунуць з рота язык. Але ж і гарачыня, сабака і той высалапіў язык, здыхацца ні можа. Калбасіна.

**Вы'сахнуць** зак. перан. Схуднець. Але ж і высахла, ні пазнаць дзеўчыны, мусі, у сухотах. Каменка.

**Вы'свянціць** зак. 1. Асвяціць; выканаць царкоўны абрад надання святасці. Хату трэбо было б высвянціць, а то ўсе некія беды да нас прыстаюць, чапляюцца. Гліняны. Учора ў саборы некаго маладого на бацюшку высвенчвалі; можа дзе ў Коматаво пашлюць. Пагараны. 2. Перан.: моцна набіць, адлупцаваць /жарт./. Але ж і высвянціў, другі раз будзя ведаць, як дзеда ні слухаць, падрочваць. Літвінкі.

**Вы'скаліцца** зак. Паказаць зубы, вышчарыцца. Я тулькі адчыніла вароцечкі — а там сабака як выскаліцца, думала: загрызе. Лікоўка.

**Вы'скрабак** м. Перан.: малодшае, апошняе дзіця ў сям»і. Другія дзеці во якія павырасталі, а гэтаму выскрапку бог рошчы ні дае, ад зямлі ні адрос. Круглікі.

**Вы'смаліць** зак. Выпаліць, знішчыць агнём, сонцам. Як сухі рок, та выган слонца так высмаліць, што і травінкі ні знойдзяш, каровы ў хляве кормім. Літвінкі.

**Вы'снякаць** зак. Высмаркаць. Ідзі да бабы, хай табе носік высьнякая, а то сапці ні можаш. Дарашэвічы.

**Вы'спіраць** зак. Выбіць пранікам / пра бялізну /. Паласкаць плаце я ўсе на рэчку хадзіла, палажу на камень, пранікам выспіраю, папалашчу і чыстае. Кунцаўшчына.

**Вы'старчыць** зак. Хапіць; быць ў дастатковай колькасці. Я думаю, што гэтых грошай табе на месяц выстарчыць, а потым прышлю зноў. Пракопавічы.

**Высціго'вы** прым. Верхавы. Гэты конь высціговы, ім тулькі на высцігі ездзіць,

а ні ў плуг запрагаць. Занявічы.

**Вы'сыпка** ж. Сып. Пасля гэтай грыпы нека высыпка пашла на губах; кажуць, аслажненя дала. Калеты.

**Вы'сярбаць** зак. Выхлебтаць. Маіх дзіцей ні трэбо было падганяць есці; колькі ні налі — усё высярбаюць і ашчэ папросяць. Каленікі.

**Вы'сяўкі** мн. Высеўкі /пра тое, што адлучана ў працэсе прасейвання /. На гэта рэшато натто много высяўкаў, палова адыдзе, вазьмі вось гэта, гусцейша. Карозічы.

**Вы'трываць** зак. Вытрываць, выцярпець, сцярпець. Ні магу вытрываць, гэта кап хто чужы рабіў, а то ж родны сын. Доргунь.

**Вы'турыць** зак. Выгнаць, выправадзіць /груб./. А ён хто табе, трэбо было вытурыць с хаты, каб і духу яго ні было. Віцькі.

**Вы'франціцца** зак. Франтавата адзецца; прыбрацца, прыадзецца. Глядзі, кожную нідзелю сэбе выфранціцца і ўсе недзе ідзе, у хаці ні сядзіць. Палаткова.

**Вы'фураваць** зак. Тое, што і вытурыць. Нараві, браток, а то с хаты можа выфураваць, і нічого ні зробіш, закон такі. Сапоцкін.

**Выхава'нка** ж. Прыёмная дачка. Выхаванка — гэта хто чужую дзеўчыну бярэ на выхаванне, дзіцей сваіх ні мая. Хамякі.

**Вы'хіліцца** зак. Паказацца, высунуцца. Наша баба зімой баіцца і с хаты выхіліцца, усе ёй халадно, знабіць. Каўпакі.

**Выцавэ'ркі** мн. Ласункі, прысмакі, марцыпаны. Мой мужык на адных выцавэрках жыве, быля чаго ні хоча есці. Кунцаўшчына.

**Вы'цадзіць** зак. Выцадзіць, паволі выпіць. Мой нігды ў бутэльцы ні пакіне, усё да каплі выцадзіць. Індура.

**Вы'цвічыць** зак. Вымуштраваць. Яна так сваго мужыка выцвічыла, што той як па нітаццы перад ею ходзіць. Шабаны.

**Вы'цек** м. Выток. Кажуць, выцек Ласасянкі недзе аж у Польшчы, нідалёко Кузніцы. Бакуны.

**Вы'церабіць** зак. 1. Выцерабіць, высечы, ссячы. Трэбо было лес выцерабіць, та ягады і грыбэ былі б, а ў гушчарэ нічого ні хоча расці. Каробчыцы. 2. перан. Выесці, з»есці ўсё. Што і казаць, здаровы чалавек як сядзя, так міску капусты і выцерабіць.Пракопавічы.

**Выцілі'нгваць** незак. Іграць на струнным музычным інструменце. Бало, сядзе пат хату і давай выцілінгваць на мандаліні усялякія полячкі, любо слухаць. Жукевічы.

**Вы'цыганіць** зак. Выпрасіць. У гэтаго скнэры цяшко чаго выцыганіць, як жыве, ён нігды нікому нічого ні даў.Сухая Даліна.

**Вы'ць** незак. 1. Выць, працяжна і тужліва скуголіць. Чуяш, як сабакі выць сталі, мусі, якую беду чуюць? Каменка. 2. Утвараць падобныя на выццё гукі. Відаць, непагадзь якая будзя, бо вецяр за вуглямі стаў выць, патсвістваць. Падліпкі.

**Вы'цяпкаць** незак. Выцягнуць ніткі з тканіны для вышыўкі /мярэжкі/. Пакуль вышываць, та я спачатку стараюса выцяпкаць ніці, а тады ўжэ вышываю. Грыўкі.

**Вы'цераб** м. Выцераблены, прарэджаны лес. Мы на выцяраб усе па грыбэ хадзілі, кожны раз набярэш. Струбка.

**Вычаўпля'ць** незак. Выраблядь, тварыць, вычвараць, дурэць. Эх, гарэліца мая, што ты вычаўпляеш, ты над намі, мужыкамі, літасці ні маеш /прыпеўка /. Баброўня.

**Вычвара'ць** незак. Тое, што і вычаўпляць. Ні трэбо тут мне вычвараць, жыві так, як усе людзі жывуць. Круглікі.

**Вы'чухацца** зак. Справіцца з цяжкімі абставінамі, хваробай; акрыяць, ачуняць. Як прычапіласа да хлопца трасца, та ледво неяк вычухаўсо, месяцаў тры трасла. Зарубічы.

**Вычы'тваць** незак. Прычытваць, прычытаць, галасіць. Яна як убачыла тату, так і стала на ўсю хату вычытваць, рукі ламаць. Жылічы.

**Вы'шмыгаць** зак. Астудзіць хату, часта адчыняючы дзверы. Дзеці чысто хату вышмыгалі, хоць ваўкоў ганяй, халадно. Лаша.

**Вышчака'ны** дзеепрым. Балбатлівы, гаваркі. Гэты хлопяц даволі вышчаканы, з ім і сабакі ні збрэшуцца. Сяцкі.

**Вы'шчарбіць** зак. Вышчарбіць, вызубіць, нарабіць шчарбін. Паволі рубай: там цвіке, сакеру вышчарбіць можаш. Чашчаўляны.

**Вы'шчарыцца** зак. Засмяяцца, пака-заўшы зубы. Я ёй праўду кажу, а яна думае, што жарты, вышчарыцца, як дурная, і глядзіць. Рацічы.

**Выя'да** м., ж. Той, хто надакучвае сваімі частымі дакорамі, папрокамі, напамінкамі. Выяда ні чалавек, і як ты з ім жывеш? Палаткова.

**Вэ'бак** прысл. Побач, поруч. Сядайце вэбак, так больш месца будзя. Малая Жорнаўка.

**Вэ'длуг** прысл. У параўнанні, супраць / каго-небудзь/. Вэдлуг сваей жонкі ён даволі стары, ні пара ёй. Старая Дубавая. Вэдлуг той зімы гэта намного цяплейша, ні такая і снежная. Жытародзь.

**Вэ'йдацца** незак. Сноўдацца, сланяцца; хадзіць без справы. На работу яго ні хочуць браць, так і вэйдаецца, марнуе час. Белева. Замуж ні вышла, так і вэйдаецца адна, нікого ні мая. Круглікі.

**Вэ'ксаль** м. Вэксаль, пісьмовае абавязацельства заплаціць пэўную суму грошай ва ўстаноўлены тэрмін. Я сам грошы браў на вэксаль і працэнты плаціў велькія, ледво паквітаваў. Пракопавічы.

**Вэ'лён** м. Вэлюм, шлюбны убор нявесты. Усе дзяўке пад вянец у вэлёнах ішлі, гэта тулькі ўдовы без вэлёнаў, як другі раз бралі шлюб. Рацічы.

**Вэ'нгяр** м. Той, хто кастрыруе жывёлу. Вэнгяр у сяле, ідзі пакліч, хай і нашаго паршучка вылажыць. Бакуны.

**Вядзьма'р** м. Вядзьмар; пра таго, хто, паводле забабонаў, займаецца вядзьмарствам, заклінаннямі. Я сам бачыў, як вядзьмар прас калоду пралазіў. Сухая Даліна.

**Вядо'ма** у знач.вык. 1. Вядома. Усім вядомо, што ні ціпер, та ў чацвер, а паміраць трэбо /прымаўка/. Лаша. 2. У знач. пабоч. сл.: зразумела, канечне. Гэта, вядома, добро мець много сваякоў, але як іх усіх абдарыць? Лукавіца. 3. У знач. часц.: бясспрэчна, так. Судзя міне тады пытая: « Быў ты там?» — «Вядома, быў і ўсё бачыў,"- атказваю. Скрыннікі.

**Вядране'ц** м. Кароўка сямікрапінкавая; тое, што і божа кароўка. У нас нікаторыя старыя вядранец на божу кароўку казалі. Як хто хоча, так і называя. Кунцаўшчына.

**Вядро'нка** ж. Кароўка сямікрапінкавая; тое, што і божа кароўка. Вядронка бывае з чорнымі кропачкамі, жоўтымі, а бывае і з чырвонымі. Забагонікі.

**Вядро'** н. Мера вадкасці, роўная 12,3 літра /устар./. У адном вядрэ лічыцца дзесяць штофаў, я гэта добро помню. Клачкі.

**Вяжа'ляс** м. Выязныя, упрыгожаныя санкі. Як па-беларуску называюцца — ні скажу, а ў нас — вяжаляс. Азяркі, Грандзічы.

**Вя'кнуць** зак. Падаць слабы голас. Як даў немцу камянем, та той тулькі вякнуў.Скідаль.

**Вялі'кі** прым. Вялікі; значны па велічыні і памерах. Адэльск, кажуць, некалі быў вялікі горад, а ціпер звычайна вёска. Жытародзь. Вялікая пятніца — апошняя пятніца ў тыдні перад вялікаднем. У вялікую пятніцу ўсе пасцілі, ніхто ў рот нічого ні браў. Баранава. Вялікі пост — сямітыднёвы пост перад вялікаднем. У вялікі пост трэбо было посціць і дзецям, малако і таго ні можно было даваць. Зарубічы.

**Вяне'ц** м. Карона, якую трымаюць над галавамі маладых у час вянчання. Як я жаніўса, та ён дружбантам быў, вянец нада мною трымаў. Лаша. Браць вянец — вянчацца. Мы як бралі вянец, та ў Дзярэчыні ашчэ бацюшкай Надарынскі быў. Свіслач.

**Вянча'льны** дзеепрым. Вянчальны, шлюбны. Во гэта вянчальнае плаце ашчэ пакойніцы-мамы, мама ў ім вянчаласа. Азёры.

**Вярабя'тнік** м. Дзікае шчаўе. Якое ў нас там поле было, адзін вярабятнік рос, чырванеў. Караневічы.

**Вярста'** ж. Вярста, мера даўжыні, роўная

1,06 км /устар./. Сем вёрст да нябёс, ды ўсё лесам /прымаўка/. Гарны. Адгэтуль да Гродна вёрст дванаццаць будзя. Гожа.

**Вясе'льнік** м. Удзельнік вяселля. Але ж і вясельнікаў панаяжджало адусюль, у хату ні ўмесцяцца. Капцёўка.

**Вясё'да** ж. Забава, пацеха, гульня, вясёлае правядзенне часу /устар./. На мярліны — гэта табе ні на вясёду ехаць, каму хочацца? Кунцаўшчына.

**Вясня'ны** прым. Вясенні, веснавы. Вясняны дзень рок корміць /прымаўка/. Рыбніца. Ужэ вясняны вецяр павеяў, можа і цяпло будзя. Малая Капліц.

**Вясці'** незак. Весці. Гаспадарку вясці — ні барадой трасці /прымаўка/. Лаша. Вясці гутарку — гутарыць, размаўляць. Некалі мужчыны збяруцца пат чыю хату і пачнуць гутарку вясці, як даўней людзі жылі. Пяслі.

**Вясці'са** незак. Гняздзіцца. У ліхого чалавека і бусел вясціса ні будзя, ні будзя, пакіне. Цыдовічы.

**Вятра'к** м. Вятрак, ветраны млын. Да той вайны тулькі ў адным Адэльску вятракоў мо дванаццаць было, а ціпер ні аднаго німа. Вялікая Жорнаўка.

**Вятро'ўка** ж. Ятроўка; жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата. Німа, брат, такіх вятроўкаў, каб у адной хаці ды мірно жылі, усе сварацца.Клачкі.

**Вятро'ўкі** мн. Басаножкі. Во, купіла сабе файныя вятроўкі, хоць ногі ні будуць прэць. Батароўка.

**Вятры'ско** м. Моцны вецер. Падло, вятрыско некі ўзяўсо, усё павыдувае, павысушвае. Казловічы.

**Вячэ'рацьь** незвк. Вячэрацьь; спажываць ежу вечарам. Дзеткі, хадзеця жывей, вячэраць будзямо. Балічы.

**Вячэ'рні** прым. Вячэрні. Ціпер у вячэрні час рабіць німа чаго, та мы ўсе целявізар глядзімо. Дзекалавічы. Вячэ'рня зорка — вячэрняя зорка, заранка. На куцю, пакуль вячэрня зорка на небі ні пакажацца, ніхто і за стол ні сядаў. Бакуны.

**Вячэ'рня** ж. Вячэрня; вячэрняя царкоўная служба. На вячерні зусім мало людзей было, адны старыя бабы. Лаша.

**Вяша'к** м. Вешалка. Павесь пальто на вяшак, вун там, каля самай шафы. Эйсманты.

# Г

**Га'б** м. Бераст. Нечаму наш габ у гэтым року засох, кажуць, усюды павысыхалі габэ. Свіслач.

**Габлява'ць** незак. Габляваць, стругаць драўніну рубанкам. Сасновыя дошкі габляваць добро, ні тое, што бярозавыя або дубовыя. Адэльск.

**Габру'ч** м. Абруч. Габруч на бочцы іржа пераела, спаў, трэбо глядзець, каб дно ні выпало. Рыбніца.

**Габэ'ляк** м. Рубанак. Габэляк файны папаўсо, добро стружку бярэ. Хамякі.

**Гавару'н** м. Гаварун, чалавек, які многа гаворыць. Гаварун быў, велькі шутнік, інцярэсно было час з ім правясці. Бакуны.

**Гаве'ць** незак. Гавець, пасціць /у веруючых /. Перад вялікаднем трэбо было сем нідзель гавець, бульбу с квасам есці, галею нават ні было. Балічы.

**Гаве'чка** ж. Авечка. Адна гавечка можа стадо ўсё узбунтаваць /прыказка/. Кунцаўшчына.

**Гавё'с** м. Авёс. Ні жані каня кнутом, а жані яго гаўсом /прыказка/. Лаша. Пры дарозі рос вялікі гавёс, а ў тым гаўсе вяласа перапёлачка /з нар. песні/. Пагараны.

**Гаві'цца** незак. Гаіцца, зажываць, залечвацца. Рана ніяк ні хацела гавіцца, што мы з ею ні рабілі, куды ні ездзілі. Кунцаўшчына.

**Гавэ'нда** м. Гутарка, размова. Які чалавек, такая з ім і гавэнда /прыказка/. Лугавая.

**Га'га,** гега ж. Крэмень, які выкарыстоўвалі для высякання агню. Знойдзяш сабе добру гагу і красаяш, каб агню дабыць. Пракопавічы. Знайшоў добрую гегу, файно будзя красаць. Рыбніца. 2. Маленькі, кругленькі каменьчык. Давайце, дзеці, у гегі будзям гуляць, хто выіграя. Кунцаўшчына.

**Га'гавіца** ж. Рот, глотка, горла /лаянк./. Ты чо сваю гагавіцу раскрыў, дзярэсса, думаяш, хто цібе баіцца? Кунцаўшчына. Я табе гагавіцу зараз заткну, ні пісняш. Лаша.

**Гага'нец** м. /устар./. Самаробная лямпа, газоўка, газніца. Гаганец запаліш, паставіш на гзымс — і ў хаці відно. Квасоўка.

**Гагата'ць** незак. Гагатаць. Дзікія гусі начамі пачалі гагатаць, вясну нясуць. Галавачы.

**Га'гаўка** ж. Рот, глотка, горла /лаянк./. Гагаўка ў яго велька, можа крычаць. Кунцаўшчына.

**Гад** м. Агідны, шкодны чалавек. Гад ні чалавек, тулькі і глядзіць, кап табе наўрэд зрабіць. Круглікі.

**Гада'не** н. Гутарка, размова. Якое тут гадане можа быць, гэтаму ніхто ні паверыць. Парэчча.

**Гадзі'ць** незак. 1. Наймаць на працу на пэўны перыяд. Кожны рок трэбо было гуртам гадзіць гавечаго пастуха, самы гавец ні пасвілі. Каранявічы. Дагаджаць, рабіць прыемнае. Стараласа старому гадзіць, але яму сам чорт ні дагодзіць, усе яму ні так, як хоча. Гібулічы.

**Га'дзіць** незак. Шкодзіць, рабіць подласці. Уеўсо на чалавека, стараяцца яму га'дзіць, дзе тулькі можа. Круглікі.

**Га'дкі** прым. Подлы, агідны. Ты яго ні ведаяш, гэта гаткі чалавек, асцярагайса яго. Луцкаўляны.

**Га'дко** прысл. Агідна, непрыемна, прыкра. Гатко глядзець на гэтаго абібока, да чаго дажыўсо. Дзекалавічы.

**Гаё'вы** м. Ляснік, даглядчык лесу. Як добры гаёвы, та парубкі ў лесі ні будзя. Скідаль.

**Гаёўка** ж. Хата лясніка. У Дуброўцы гаёўка была, ляснік з жонкай і дзяцьмі жыў, ціпер німа — разабралі. Скідаль.

**Га'за** ж. Газа, гаручая вадкасць. Пры паляках газа дораго стоіла, ні кожны гаспадар мох купіць. Лаша.

**Газо'ўка** ж. Самаробная лямпа, газніца. Гэта ціпер усюды аляктрычаство, а калісьці тулькі газоўкамі свяцілі. Каленікі.

**Газе'та** ж. Газета. Газету як прачытаяш — ведаеш, дзе што робіцца. Караневічы.

**Гаі'ць** незак. Гаіць, залечваць раны. Гаіць рану было цяшко, тато, мусі, гадоў тры лячыўсо, пакуль загаіў. Свіслач.

**Гай** м. Гай, невялікі лес. Цешыўсо старац, што пражыў марац, а прышоў май — і паняслі ў гай /прыказка/. Гліняны.

**Гайда'** выкл. Заклік ісці куды-небудзь. "Пойдзем!". Гайда, хлопцы, на рэчку! Дарашэвічы.

**Гайда'ць** незак. Гайдаць. Дзед цібе любіў, малым пасадзіць у калубель і гайдае. Ахрымаўцы.

**Гайду'к** м. Гайдук, слуга; выязны лакей памешчыка ў час прыгоннага ладу. У Лашы і ціпер Гайдуке жывуць, кажуць, што дзядэ гайдукамі служылі ў паноў. Лаша.

**Га'й-да-да'!** выкл. Вокліч, які ужываецпа пры гойданні калыскі. Гай-да-да! Гайда-да! Паедзям да Скідля — па быдло, да Росі — па гусі, да Ражанкі — па баранкі! /прыспеў / Кунцаўшчына.

**Гайса'ць** незак. Рухацца туды-сюды без пэўнай мэты, гойсаць. Ён, бало, сядзя вярхом на жарэпчыка і давай гайсаць па выгані, пакуль бацько ні стане крычаць. Лугавая.

**Гак** м. Гак, крук. Вось на гэтым гаку твая калубель некалі вісела. Кунцаўшчына.

**Гак** м. Мель, непрыкметны астравок, небяспечнае месца для плытагонаў. Глядзі, каб на гак плыт ні сеў, а то бяда будзя, прападзем. Дарашэвічы.

**Гакно'** н. Акно. Слонца заглянуло ў гакно, весялей неяк у хаці стало. Галынка.

**Галава'** ж. Дэталь у кроснах у выглядзе драўлянага круга з жалезнымі зубамі, пры дапамозе якой здольны. Галавасты хлопяц быў, кажуць, ашчэ да вайны ў гімназіі вучыўсо. Свіслач.

**Галаве'нь** м. Той, хто мае вялікую па па-

меры галаву /ужываецца з пагардай/. Галавень некі: галава як цэбар, які там чалавек. Рагачы.

**Галаве'шка** ж. 1. Галавешка, абгарэлы або тлеючы кавалак дрэва. Агонь даўно пагас, тулькі адна галавешка ашчэ курыць. Кунцаўшчына. 2. Асмаленае палена, якім пільшчыкі націралі шнур для разметкі бярвенняў. Ляпей націрай галавешкай, кап шнур добро значыў, дзе пілаваць. Белева.

**Галаго'ны** мн. Бомы, званочкі ў выглядзе пустых металічных шарыкаў, якія прымацоўваюцца да хамута ці дугі. Як зімой у дарогу ехалі, каню на шыю вешалі галагоны, іх здалёк было чуваць. Прывалка.

**Галадню'ткі** прым. Зусім галодны. Коні прывёў галаднюткія, дзе тут імі гараць. Сухая Даліна.

**Гала'й** м. Бедны чалавек. Галай гэты, хто за яго дочку аддасць, нічого ні мая. Гібулічы.

**Галалё'д** м. Тое, што і галалёдзіца. Галалёд на дарозі, нікованым канем ні паедзяш, сліско. Брузгі.

**Галалё'дзіца** ж. Галалёдзіца, галалёд. Галалёдзіца, страшно ў дарогу выяжджаць, конь добро ні паткуты. Гібулічы.

**Галалу'пы** прым. Бязвусы, чалавек без вусоў. Галалупы ксёндз дзіця ў касцёлі хацеў перахрысціць, але ні ўспеў, Люда ні дала. Гродна.

**Гала'нка** ж. Карова галандскай пароды. Галанка больш малака дае, але яно радзейша, як ат нашай каровы. Сапоцкін.

**Галапу'пак** м. Неаперанае птушаня. У гняздзе галапупкі, як падышоў, так дзюпкі і паразяўлялі. Зарубічы.

**Га'лас** м. Бязладны, шматгалосны крык; шумная размова. У хаці некі галас, мусі, дзеці што зрабілі, галасуюць. Хамякі.

**Галаўке'** мн. Пярэдняя частка саней. Як галаўке ў санях высокія, та ляпей ехаць на выбоінах, снег ні так ляціць. Белева.

**Галаўке'** мн. Вычаскі ў выніку апрацоўкі лёну на спецыяльных шчотках. Маці спачатку давала прасці галаўке, а тады ўжэ давала прасці і лён. Сухая Даліна.

**Галаўні'чы** м. Плытнік, які надае плытам кірунак. Наш галаўнічы — спрактыкаваны плытнік, ён Нёман добро ведае. Свіслач.

**Галга'н** м. Галадранец, нягоднік /зневаж./. Галган, з ім ніхто гаварыць ні хоча, за чалавека ні мая. Занявічы.

**Галдзе'ць** незак. Гучна размаўляць, гаманіць. Мужчыны ззыдуцца ў хату, як пачнуць галдзець, да поўначы сядзяць. Навасёлкі.

**Гале'й** м. Алей, раслінны тлушч. За якінібудзь галей хай будзя так валей / прыказка/. Лікоўка.

**Галё'каць** незак. Гучна крычаць. На другім баку Нёмна нехто галёкае, чайку кап падалі. Пагараны.

**Галё'нка** ж. 1. Гадёнка, частка нагі ад калена да ступні. Галёнкі валовыя на квашаніну прадаюць, учора набрала. Гродна. 2. Панчоха без пяткі. Каб ні галёнкі, усе лытке жнучы папарола б на пожні. Панямунь.

**Галё'п** м. 1. Галоп, бег каня наўскач. Хлопцы трушком баяліса ехаць, а потым і галёп ім ні страшны быў, навыпяраткі ездзілі. Кунцаўшчына. 2. Галоп, даўнейшы танец у хуткім тэмпе. Як пойдуць галёп скакаць хлопцы з дзяўчатамі, тулькі пыл курыць. Карозічы.

**Галё'шы** мн., м. Галёшы, гумовы абутак. Да вайны ніхто тых галёшаў ні знаў, у абіяках хадзілі. Белева.

**Галіфэ'** н. Галіфэ, штаны спецыяльнага крою, зверху шырокія, у каленях — вузкія. Некалі модныя былі галіфэ, кавалеры насілі. Пракопавічы.

**Галі'цца** незак. Галіцца, брыцца. Да нас заўсёды Міхалко прыходзіў галіцца, свае брытвы ні меў. Кунцаўшчына. Як добра брытва, та самому галіцца можно, ні трэбо хадзіць у парыхмахерску. Клачкі.

**Гало'бля** ж. 1. Аглобля. Адзін раз галобля паламаласа ў дарозі, рады ні было, пакуль у вёсцы ні папрасілі сакеры зрабіць новую. Пад»ятлы. 2. Перанос.: высокая, тонкая жанчына /ужываецца ў іранічным сэнсе/. Узяў бабу, неку га-

лоблю, у хату ледво ўлезла. Каўбасіна.

**Гало'кальнік** м. Валачобнік. Некалі галокальнікі па хатах хадзілі, вялікодныя песні спявалі: "Хадзіў Хрыстос сам па зямлі», а дзяўчатам — «Канапельку». Кунцаўшчына. Як прыцямнея, так галокальнікі і пачнуць галокаць, і песні спяваць. Рагачы.

**Гало'каць** незак. Спяваць валачобныя песні. За вечар некулькі парціяў галокальнікаў пройдзя, усё галокаюць. Лаша. Я сам хадзіў галокаць, голас файны меў, і хлопцы бралі. Кунцаўшчына.

**Гало'нзка** ж. Галінка. Той рок яблык было, аж галонзкі ламаліса. Хліставічы.

**Гало'та** ж. Бедната, галеча. А куды нам, галоце, было тады дзецца? Лаша.

**Гало'ўка** ж. Адзін клубень цыбулі, качан капусты. Галоўка ўсяляка бывая, малая і велька, я на галаўке цыбулі ні купляю. Рудавіцы. Пасадзіла дваццаць галовак літоўскай цыбулі. Калбасіна.

**Гало'ўка** ж. Дэталь у калаўроце, на якой трымаюцца ручкі са шпулькай. Мне як майстру злажыць галоўку ў калаўротку — гэта палова работы. Канюхі.

**Галу'за** м. Бедны чалавек. Гэ, маўчаў бы гэты галуза, а то і ён нешто пляце, век нічого ні меў. Сухая Даліна.

**Галу'шкі** мн. Галушкі, страва ў выглядзе дробных клёцак з дранай бульбы. Маці на вячэру часто галушкі варыла, часам у сярэдзіну клала мясо, смашныя былі. Баброўнікі.

**Галы'ш** м. 1. Бядняк, галадранец. Галыш, нават святочнага каптана ні мая, ходзіць у апшэрпаным. Кавалічы. 2. Па павер'ю, асоба ў выглядзе голага чалавека, якая сядзіць у жыце і хапае малых дзіцей. Ні лесце, дзеткі, у жыто, там галыш сядзіць, ухопіць. Казіміроўка.

**Галье'** н. Галлё. Даўней дроў ні было, па галье егдзілі ў Зарубіцкі лес, кубікі куплялі. Лікоўка.

**Га'лька** ж. Жаночая ніжняя спадніца з карункамі. Надзеня гальку і ідзе сабе, як пані. Сухая Даліна.

**Галямацы'я** ж. Бяссэнсіца, бязглуздзіца, лухта. Нека ў нас галямацыя творыцца, нічого ні разбярэш, што да чаго. Кунцаўшчына.

**Га'ляч** ж. 1. Адкрытае, незаслоненае ад вятроў месца. Каб дзе ў зацішку, а то на гэтай галячы паставіў хату, вецяр тулькі свішча. Жылічы. 2. Пустэча, месца без расліннасці. Журневіч пачаў сеяць на галячы, дзе нічого ні расло, угнаіў і такое жыто расце. Квасоўка.

**Галя'шка** ж. Галёнка, частка нагі ад калена да ступні. Але ж і высцябаў дубцом па галяшках, будзя ведаць, як у чужы сад лазіць. Сіўкава.

**Гамава'ць** незак. Тармазіць. Як коцісса з горкі, та трохі гамуй, цісні на педалі, а то паляціш разам з роварам. Лікоўка.

**Га'марны** прым. Нязручны, празмерна вялікі; няўклюдны. Калун некі папаўсо гамарны, ніяк ні прыспасобісса калоць. Ніжнія Пагараны. Дзяцько некі гамарны ўпёрса ў аўтобус, ні павярнуцца. Квасоўка.

**Гаматны'** прым. Нязручны, празмерна вялікі. Некі гаматны каўнер у бурцы зрабіў, галавы ні паверняш, стаіць аддыдуліўшыса. Свіслач.

**Га'маць** незак. Есці /дзіцячае слова/. Колік, можа, гамаць кашку будзяш, я дам. Кунцаўшчына.

**Га'мба** ж. Загана, хіба. Людзі, купляйце карову, у ёй ніякай гамбы німа, добра карова. Індура.

**Гамбава'ць** незак. Абгаворваць; абмяркоўваць, шукаючы заганы. Пачалі дзеўку гамбаваць, ціпер ніхто дзвярэй да яе ні адчыніць. Круглікі.

**Гамзэ'лька** ж. Камізелька, кароткая адзежына без рукавоў. Некалі ў маго тата гамзэлька была, ціпер ніхто гамзэляк ні носіць, з моды вышлі. Пракопавічы.

**Гамо'ліна** ж. Высокарослы, грузны чалавек, граміла. Гэта ні дзяцька сюды ўпёрса, а цэла гамоліна, паўаўтабуса заняў, ні павярнуцца. Квасоўка.

**Гамярэ'шка** ж. Драўляная папярэчная накладка на чаранку рыдлёўкі або вілаў. Як гамярэшка на чаранку рыдлёўкі есць, та і капаць ямчэй, руку ні намуляяш. Сухая Даліна.

**Гана'** ж. Раздолле, раскоша. Вось ім тут будзя гана, зажывуць на ўсю ногу. Кунцаўшчына.

**Га'нак** м. Ганак. Выйдзяш на ганак, паслу-

хаяш, як салоўкі шчабечуць у ровi — і ўжэ табе весялей. Свіслач.

**Ганары'сты** прым. Ганарысты, самаўпэўнены. Хоць бедны быў, але ганарысты, лічыў сябе лепшым за другіх багатых. Сухая Даліна.

**Гангры'на** ж. Гангрэна. Гангрына ўпала ў ногу, спачатку паляц счарнеў, а потым і ўся нага. Карозічы.

**Гандара'к** м. Андарак, саматканая паласатая або клятчастая спадніца. Я ў гэтым гандараку пад вянец ішла. Круглікі.

**Ганду'рыць** незак. Размаўляць, вясці гутарку. Стаімо гэта мы і гандурым сабе паціху. Гродна.

**Гандэ'лак** м. 1. Крама, магазін. Давай пайшлі ў гандэлак, можа, прывязлі што. Крыўляны. 2. Посуд для піцця гарэлкі, крыху большы за чарку. Сядай, браце, мы ўжэ па адным гандэлку кінулі. Сапоцкін.

**Гандэ'лаўка** ж. Піўная. Каб ні гэта гандэлаўка, так і бяды ні ведалі п. Пагараны.

**Га'ніць** незак. Ганіць, асуджаць, абгаворваць. Сваго ні хвалі і чужого ні гань /прыказка/. Лазы.

**Гансё'р** м. Шкляная бутля з вузкім горлам, аплеценая лазой. Прывязеш гансёр газы і паліш месяцаў два-тры. Цыдовічы. У гансёр пяць бутэляк гарэлкі ўлазіло. Літвінкі.

**Гансё'р** м. Спецыяльнай формы чарапіца для накрыцця верха стрэхі. Гансёры паложыш на строп, пазамазваяш глінай, каб ні дуло — і ўжэ добро. Круглікі.

**Ганта'ль** м. Ганталь, цвік, якім прыбіваюць гонту. Гонту прыбіваюць толькі ганталямі, другія цвіке яе псуюць. Сухая Даліна.

**Гану'ча** ж. Ануча. За ганучу — падняў бучу /прымаўка/. Ферма.

**Гану'чнік** м. Анучнік. Той, хто збірае або скупляе анучы. Ганучнікаў гэтых праз вёску за дзень некулькі праедзя. Кунцаўшчына.

**Гану'чы** мн., ж. Анучы, якімі абмотвалі ногі. Як замного накруціш ганучы, то цісня, а як замало — у ногу халадно. Квасоўка.

**Га'ньба** ж. Ганьб, загана, недахоп. Адна ганьба ў яго — п»е, а так добры хлопяц, масцеравы. Лабна-Агароднікі.

**Ганье'** н. Зграя сабак, ваўкоў. Ганье напало на цяля, ледво выратавалі. Рагачы. Усю ноч ганье ні давало заснуць, грызліса пад вокнамі. Навікі.

**Га'па** ж. Разява, разявака. Кап ты ні быў гапай, та да гэтаго ні дайшло п. Сапоцкін.

**Га'пка** ж. Гафтачка, прарэшак, пяцелька. Прарваў усе гапкі, цігер будзяш хадзіць расхрэстаным. Мігова.

**Гаплю'к** м. 1. Аплік, металічны кручок для зашпільвання адзення. Некалі на гаплюк ганавіцы зашпільваліса, гузікаў ні было. Каленікі. Раскажу я вам скаску, як мужык гаплюком землю гараў. Кунцаўшчына. 2. Переанос.: маларослы, худы конь. Купіў некаго гаплюка, чым гараць ён будзя. Балічы.

**Гара'** ж. Гарышча, падстрэшша. У іх заўсёды гара каўбас вісіць, па два паршуке не рок калолі. Рагачы.

**Га'ра** ж. Гарэлка. Здаецца, выпіў бы трошкі, а то набярэцца гэтай гары, як свіня, і лезя дахаты. Зарубічы.

**Гарабе'й** м. Верабей. Гарабей — с канапель, а пташачка — з лёну /з нар. песні/. Свіслач.

**Гарабі'на** ж. Рабіна. Як гарабіны много, будзя бульба малая /народ. прыкмета/. Круглікі.

**Гарабі'нец** м. Рабіннік. На полі Журневічавым адзін гарабінец рос, нічого ні было, ціпер жыто, як сцяна, расце. Квасоўка.

**Гарадзі'ць** незак. Гарадзіць, абгароджваць. Трэбо было б гарадзіць, але жэрдак німа дзе дастаць. Каленікі.

**Гарахаве'не** н. Гарохавінне, гарохавая салома. Як канюшыны мало было, та да сечкі гарахавеня прырэзвалі. Баброўнікі.

**Гарахаві'ско** н. Гарохавінне. Гарахавіско пад гоўца кідалі, кап пепабіралі. Круглікі.

**Гара'ць** незак. 1. Араць. Ой, пайду я шугам-лугам, дзе мой мілы гарэ плугам /з нар. песні/. Малая Альшанка. Гарадь узагон — агаць пад пасеў азімых. Га-

раць узагон трэбо як найраней, тады і азімыя будуць добрыя. Капцёўка.

**Гара'ч** м. Араты; той, хто арэ зямлю. Які там з яго гара'ч, з ручок плуга ні відаць. Бакуны.

**Гарачэ'** прысл. Горача, спякотна. Слонца з неба смаліць, гарачэ, ні вытрымаць. Капцёўка.

**Гарба'ч** м. Гарбун. Так ён хлопец нічого сабе, масцеравы, але ж гарбач. Баброўнікі.

**Гарбе'ль** м. Гарбун. У яе тулькі адзін сын быў і той калека, гарбель. Кунцаўшчына.

**Гарбу'с** м. Гарбуз. Як ляцеў, як ляцеў праз тры я гароды, заблытаўса ў гарбузе, нарабіў я шкоды /з нар. песні/. Казіміроўка.

**Гарбузаня',** гарбузяня' н. Поўнае дзіця / жарт./. Ах, ты гарбузаня, ты ку-ды гэта лезяш? Кашэўнікі. Гэта чые гарбузяня тут пад рукамі таўчэцца, ніхто ні забірая. Круглікі.

**Гарга'ра** ж. 1. Недарэчны будынак вялікіх памераў. Яму, мусі, грошай ні было куды дзеці, што такую гаргару пастроіў. Кунцаўшчына. 2. Перан.: нязграбная жанчына або жывёліна. Кабыла — нека гаргара, у хлеў ні ўлазіць. Кругляны.

**Гаргіта'ць** незак. Гаварыць на незразумелай мове. Немцы пачалі нешто гаргітаць, чорт іх ведае што. Індура.

**Гардадэ'ля** ж. 1. Вялікая нязграбная рэч. Гардадэлю паставіў, а ні адрыну. Што класці ў яе будзя? Баяры. 2. Перан.: высокая няуклюдная, жанчына, жывёліна. Ні розуму у яе німа, ні выгляду, нека гардадэля. Казіміроўка.

**Гардзе'ль** м. Прывязка з кручаных дубцоў, якой змацоўваюцца бярвенні ў плыце. Давай набярэм гэтых гардзялёў, добро будзя на хлеп паліць. Дарашэвічы.

**Гардзе'ль** ж. Глотка, горла /груб./. Што ты сваю гардзель раскрыў, крычыш? Круглікі.

**Гардзе'люс** м. Прывязка з кручаных дубцоў, якой змацоўваюцца бярвенні ў плыце. Гардзелюс пачэпім на дзераве, зробім гушкаўку і гушкаемсо. Азяркі, Грандзічы.

**Гардзё'лка** ж. Горла, глотка /груб./ Я яму гардзёлку заткнуў, а ні піснуў. Кунцаўшчына.

**Гарды'ба** ж. Высокая, нязграбная жанчына. Села баба на воз, гардыба нека, ледво конь цягня. Верцялішкі.

**Гардэ'ба** ж. Тое, што і гардыба. У яго баба, як гардэба, гаспадарку аб'есць. Ланявічы.

**Га'ркаць** незак. Прыкрыкваць, груба крычаць. Прывык на дзеда вечна гаркаць і гаркая. Грандзічы.

**Гарку'шка** ж. Гарчак, невялікая рыбка сямейства карпавых. Гаркушкі ўсялякія бываюць: залатыя, чырвоныя, нават чорныя бываюць. Лаша.

**Гарлапа'н** м. Крыкун. Гарлапан некі, вечно горло дзяре. Круглікі.

**Гарлапа'ніць** незак. Моцна, на ўсё горла крычаць, спяваць; гарланіць. Зачапі яго, та як пачне гарлапаніць, хоць с хаты ўцякай. Балічы.

**Гарла'ч** м. Тое, што і гарлапан. Але ж і гарлач, заўсёды стараяцца перакрычаць другога. Пракопавічы.

**Гарміда'р** м. Гучная, бязладная гаворка. Гэта што тут за гармідар у хаці паднялі? Кавалічы.

**Гармо'нік** м. Гармонік, духавы музычны інструмент. У нас у аднаго хлопца гармонік быў, сам прас сібе навучыўсо іграць. Белева.

**Гармо'ня** ж. Тое, што і гармонік. Як добра гармоня, та і добро іграя, на кепскай і добры музыкант ні заграя. Палаткова.

**Гарму'шка.** ж. Ежа з накрышанага хлеба і вады. Наша баба наробіць гармушкі ў місцы, сядзя і есць. Свіслач.

**Гармя'к** м. Армяк, старадаўняя сялянская адзежына з саматканага сукна. Як у дарогу ехалі, заўсёды с сабой бралі гармяк, ці пагода, ці ніпагода. Прыгодзічы.

**Га'рнец** м. 1. Гарнец, старая мера сыпкіх рэчываў, роўная 3,26 л. На ноч коням да сечкі ўсыпляш гарнец гаўса, і коні дужаюць. Свіслач. 2. Мера гарэлкі ў дарэвалюцыйнай Беларусі і Літве. У адным гарнцы лічыласо тры літры гарэлкі. Клачкі. 3. Мера платы за

памол зерня ў млыне. За памол збожа бралі па два гарцы за мяшок, а ў вятраках — па адным гарцы.Бакуны.

**Гарно'** н. 1. Месца на плыце для агню. Пад гарно на плыт клалі дзярно, каб ні загарэласо дзераво. Дарашэвічы. 2. Горан у кузні. Пастой цэлы дзень каля гарна, папамахай молатам — будзяш ведаць, што за хлеп каваля. Белева.

**Гарну'ць** незак. Гарнуць; збіраць у адно месца. Ён добры чалавек, усіх да сібе горня, памагая. Жукевічы.

**Гарну'шак** м. Маленькі гаршчок. Каша дзіцяці будзя ў пячэ, у гарнушачку, у палудзень дасі. Прыгодзічы.

**Гаро'д** м. Агарод. Я ўсе гляджу, каб гарод зельям ні зарос, лебяда ні пакрыла. Лаша.

**Гаро'дчык** м. Агародчык, месца перад вокнамі хаты, дзе раслі кветкі і лекавыя расліны. У нас заўсёды поўны гародчык усялякіх кветак, усялякая мята расла, барлінец. Рацічы.

**Гартво'ль** м. Дубовы кол з суком, які выкідаюць на бераг для затрымкі плыта. Гары гартволям ляпей, трымай, кап стаў. Свіслач.

**Гару'дзія** ж. Гармата. Як я ашчэ служыў у войску, та гарудзію коньмі цягалі, а ціпер ўсе машынамі. Стральцы.

**Гарцава'ць** незак. Гарцаваць, па-маладзецку ездзіць верхам. Тут і шведы, і палякі гарцавалі, а ціпер і след іх прапаў. Галавачы.

**Гарцава'ць** незак. Гаварыць на незразумелай мове. Немцы збегліса і пачалі нешто гарцаваць, а што — чорт іх ведае. Лаша.

**Гарцо'ўка** ж. Невялікая бочачка, у якую ўваходзіла 3 літры піва. Піво вазілі на дзеды па вёсках, бацько возьмя гарцоўку, і нам даволі было. Казіміроўка.

**Га'рчык** м. Маленькі гарнец. Некалі гарчыкам збожа мералі, найбольш гавёс, калі коням сыпалі. Пышкі.

**Гаршчэ'чнік** м. Ганчар. Някі чалавек пераехаў у Азёры, хату купіў, мусі, гаршке ляпіў. Та яго гаршчэчнікам і празвалі і ціпер празываць. Азёры.

**Гаршчэ'чніца** ж. Жонка або дачка ганчара. У Капцёўцы замужам баба была з Альшаніцы, гаршчэчніцай празвалі, бо ў Альшанцы гаршке ляпілі. Капцёўка.

**Гарэ'ліца** ж. Гарэлка. Пеця, людзі, гарэліцу, а вы, гусі, воду /з народ. песні/. Свіслач.

**Гарэ'х** м. Арэх. Як бліскавіца, та гарэхі, кажуць, пустыя будуць, папаліць. Пагараны.

**Гаса'ць** незак. Бегаць, гайсаць /пра жывёл/. Сабака гасае па жыці, мусі, зайца вынюхаў. Квасоўка.

**Гастры'ць** незак. Вастрыць. Трэбо гастрыць разаке, а то пачалі, клочыць. Баранава.

**Гасце'** н. 1. Восці. Раней ніхто ні забараняў біць рыбу, возьмяш гасце і пашоў на рэчку. Лаша. 2. Асцюкі. Як малоціш босым, та гасця паналазіць у клешні і коляцца. Кунцаўшчына.

**Гато'ўка** ж. Наяўныя грошы. Пры палякох як хто меў гатоўку, той і землю купляў. Зарубічы.

**Гаў-гаў!** Выкл. Вокліч. У дачыненні да дзяцей у значэнні назоўніка — сабакі. Ля, паглядзі, Колік, які гаў-гаў да цібе бяжыць харошанькі. Кунцаўшчына.

**Гаўнае'д** м. Вельмі скупы чалавек. Гаўнаед ён, падсцілку с-пат сібе еў бы, яму ўсё мало. Кунцаўшчына.

**Гаўня'к** м. 1. Памёт жывёлы. Гною, мусі, на гарод ні мая, што гаўняке збірая. Карозічы. 2. Перан.: падлетак, які не выклікае павагі сваімі паводзінамі. Гаўняк некі, і ён сюды лезя. Лойкі.

**Гаўся'ніско** н. Аўсянішча; поле, дзе рос авес. Гаўсяніско згараў, мо лубіну трошкі пасею. Рагачы.

**Гаўся'нішча** н. Аўсянішча. Па гаўсянішчы канюшына пашла, пакрыла, касіць пара. Лаша.

**Гаўся'нка** ж. Аўсянка, аўсяная салома. Гаўсянка добра каровам на корм і на сечку таксама добра. Пракопавічы.

**Гаўся'ны** прым. Аўсяны. Гаўсяны кісель вельмі карысны, нават малым дзецям даюць есці. Кавалічы.

**Гаўто'рак** м. Аўторак. Кожны гаўторак у Індоры торг быў, людзей з»яжджаласо адусюль. Пракопавічы.

**Гаўца'** ж. Аўца. Гаўца нешто кашляя, мусі,

матыліцы завяліса. Адэльск.

**Гаўча'рнік** м. Аўчарня, авечы хлеў. Ваўке, бывае, і ў гаўчарнік улезуць, паткапаюць пад фундамент і гавец парэжуць. Свіслач.

**Гаўчы'на** ж. Аўчына. Добра гаўчына, будзя на каўнер да кажуха. Квасоўка.

**Гаўчы'ннік** м. Аўчыннік, майстар па вырабу аўчын. У Скідалі быў добры гаўчыннік, файно вырабляў гаўчыны. Свіслач.

**Гафт** м. Гафт, від ажурнай вышыўкі. Гафт прышывалі да блюскаў, да спадніцаў, кап пекно было. Лойкі.

**Гафтава'ць** незак. Гафтаваць, рабіць узор на тканіне спецыяльным відам вышыўкі. Гафтаваць я добро ўмею, научыласа ат свае маткі, яна научыла. Лойкі.

**Гаці'ць** незак. Гаціць, запруджваць ваду ў рэчцы плацінай. Як пасвілі коні, пачнем купацца і давай гаціць рэчку, каб глыбей была. Кунцаўшчына.

**Га'ць** ж. 1. Гаць, насціл для праезду цераз балота. Да мліна можно было праз гаць праехаць, але велькай вадой яе прарвало, ціпер ні праедзяш. Балічы. 2. Запруда, плаціна. Каб глыбей было ў рэчцы, зрабілі гаць, запрудзілі. Кунцаўшчына.

**Гашт** м. Флёкс, кветка. Гашт — гэта такія кветкі, бываюць сінія, белыя, рознаго коляру бываюць. Пад'ятлы.

**Гваздану'ць** зак. Моцна ўдарыць. Як гвазданув яму па кепалах, та шапка і паляцела на дарогу. Лікоўка.

**Гва'знуцца** зак. Стукнуцца. Як ступіў на лёт, так і гвазнуўсо патыліцай. Лаша.

**Гвалт** м. Крык, лямант. У хаці такі падняўсо гвалт, што аж на дварэ чуваць. Свіслач.

**Гвалт** выкл. Кліч паратунку ў выпадку небяспекі. «Гвалт! Гвалт! Людзі, ратуйце, б»юць". Індура.

**Гва'лтам** прысл. Сілком, прымусова. Гвалтам міне ні возмяш, ні тая я. Белева.

**Гавары'ць** незак. Ціха гаварыць, размаўляць. Сядзяць сабе старыя, як галупке, і нешто гавораць. Свіслач.

**Гвяздурэ'** мн. Калянднікі. Помню, як гвяздурэ хадзілі па хатах, календы спявалі. Пад»ятлы.

**Гвя'кнуцца** зак. Упасці на зямлю, моцна стукнуцца. Як гвякнуўса аб зямлю, та насілу ўстаў. Зарыца.

**Гды'ка** ж. Кадык, выпнутая храстковая частка гартані ў мужчыны. Гдыка ў яго вытыркая наперад, аж нідобро глядзець. Бакуны.

**Ге'гні** мн. 1. Пальцы /неадабр./. Хоць бы гегні памыў, суняш німытыя. Свіслач. 2. Рыбалоўная снасць з драўлянай асновай у выглядзе палазоў. Пасля вайны, помню, гегні як возьмяш, та торбу рыбы валачэм дахаты. Парэчча.

**Гела'з** м. Авадзень; тое, што і банкач, брызгаўка, бомк, бонка. Гелаз, каровы гелавуюць, во як хвастэ пападымалі. Адэльск.

**Ге'лзанка** ж. Цуглі. Палахліваму каню гелзанку заўсёды ў зубы давай, а то калёс ні збярэш. Гібулічы.

**Ге'ліцца** незак. Прыкідвацца хворым, ленавацца. Геліцца, бо рабіць ні хоча. Каўняны.

**Гельд** м. Грошы / у іранічным сэнсе/. Купіў бы каня, ды гельд німа /прыказка/. Пракопавічы.

**Гемз** м. Вышэйшы гатунак шавецкай скуры. Гемз дарагі быў, мне заказвалі гемзавыя туфлі, а Любі — хромавыя. Свіслач.

**Гешэ'фт** м. Даход ад выгаднай, спекуляцыйнай здзелкі. Што я, хіба які гешэфт з гэтаго мецьму? Малая Жорнаўка.

**Гжмо'ты** мн. Грымоты, раскацістыя гукі грому. Усю ноч гжмоты, баба наша ні спала, жагналаса, свечку паліла. Баранавічы.

**Гзымс** м. Выступ над прыпечкам у хлебнай печы. Газоўку мая маці паставіць на гзымсі, лямпы ні запальвала, і робіць што трэбо. Кунцаўшчына.

**Гібе'ць** незак. Мучыцца, пакутаваць ад нястачы, голаду. Пры немцах чалавек ні жыў, а тулькі гібеў ад страху. Свіслач.

**Гіва'лт** выкл. Кліч аб паратунку; тое, што і гвалт. Гівалт! Люткове, ратуйця, жулікі б'юць. Індура.

**Гіжа'ць** незак. Рухацца безупынку, круціцца. Рыба ў завадзі аж гіжыць,

ходзіць. Сіўкава. Чэрві на дзераве аж гіжаць, выкручваюцца на слонцы. Батароўка.

**Гіжу'чы** дзеепрым. Рухавы, жывы. Мужык у Галі маленькі некі, але гіжушчы, усе недзі бяжыць, нешто робіць. Рудавіцы.

**Гіз** м. Авадзень; тое, што і банкач, брызгаўка, бомк. Ну, брат, гіз і пячэ, каровы ўцякаюць, іх ні ўтрымаяш. Караліна

**Гізава'ць** незак. І. Уцякаць ад укусаў аваднёў. Каровы як пачалі гізаваць, та ледво пазбіраў усіх. Галынка. 2. Цяжка ісці, ледзь цягнуць ногі. Здаецца, мой і зноў набраўсо, ледво гізуя, мерая дарогу. Кунцаўшчына.

**Гі'каўка** ж. Іканне; тое, што і ікаўка. Нека гікаўка напала, гікаяцца, хібо хто пракліная. Балічы.

**Гі'каць** незак. Ікаць. Дзіця змерзло, пачало гікаць і гікаць. Свіслач.

**Гілазава'ць,** гілізаваць незак. Уцякаць ад укусаў аваднёў. А потым каровы пачалі гілазаваць, гілёз напаў. Рацічы. Каровы гілізуюць, у воду лезуць. Рацічы.

**Гілё'з** м. Авадзень. Гілёз страшно пячэ ў палудзянь, кароў ні ўтрымаяш, уцякаюць дахат. Рацічы.

**Гіль** м. Авадзень. Гіль напаў на каровы, у кустэ хаваюцца. Стральцы.

**Гілява'ць** незак. Уцякаць ад укусаў аваднёў. Каровы гілююць, гілі сякуць, рады німа. Стральцы.

**Гі'мка** ж. Гатунак бульбы жаўтаватага колеру, якую сяляне культывавалі ў Заходняй Беларусі да вайны. Гімка ўкусна была, жоўта, рассыпіста. Дзекалавічы.

**Гіргата'ць** незак. Гаварыць на незразумелай мове. Нямчурыско нешто пачаў гіргатаць, а я кажу: «Пане, я нікс партызан! Нікс!" Ліцвінкі.

**Гіргяле'ць** незак. Мерзнуць, стыць. Я тут гіргялею на халадзі, а ён валэндаяцца сабе ў хаці. Лікоўка.

**Гі'рса** ж. Гірса, пустазелле сямейства злакавых. Ціпер гірсы і заіскам ні знойдзяш, а некалі з гірсай хлеб елі. Жукевічы.

**Гі'хар** м. Рабіць на гіхар — рабіць абы-як, як папала. Зараз, браце, усё робіцца на гіхар, абы хучэй, абы больш. Батароўка.

**Гі'ццаль** м. 1. Скуралуп, скурадзёр; чалавек, які ў польскі час лавіў сабак. Сабакі, як учуюць, што гіццаль паявіўсо, та ўсе ўцякаюць як могуць. Гродна. 2. Нягоднік /лаянк./. Пры немцах гэты гіццаль людзей прадаваў, і ашчэ жыве. Пагараны.

**Гішпа'нска** му'шка ж. Шпанская муха, невялікі жучок, шкоднік дрэў і кустоў. Гішпанскую мушку на бэзі лавілі. Кажуць, нека лякарство з яе вырабляюць. Рацічы. Адзін раз напарылі гароху з гішпанскай мушкай, далі пятуху. Ён так пайшоў, што ўсіх курэй перадушыў. Гродна, вёска Гаркавічы.

**Гішэ'фт** м. Даход ад спекуляцыйнай, выгаднай здзелкі. Каб ён гішэфта ні меў, та ні купляў бы машыны. Гродна.

**Глава'р** м. Старшы ў дзіцячай гульні, якога выбіралі перад гульнёй удзельнікі кожнай каманды са свайго склада. Міне заўсёды главаром выбіралі, бо моцно бегаў, далёко кідаў качолку. Копанькі.

**Гладамо'р** м. Пражэрлівы, ненасытны чалавек. Гладамор некі, сам худы, а прэ ні ў свае духе, дзе гэта ўсё дзеняцца. Прывалка.

**Гла'дкі** прым. Адкормлены, сыты. Як даў каню гаўса, та і стаў глаткі. Кунцаўшчына.

**Гла'дко** прысл. Якасна, вельмі добра. Глатко зроблены дзверы, нічого ні скажаш. Старая Руда.

**Глamaну'ць** зак. Хапануць. Як галодным канём гарэш, та той толькі стараяцца гламануць зубамі траву ці які асот. Кунцаўшчына.

**Гламы'знуць** зак. Хапануць. У кавалерыі як служыў, та ўсялякія коні былі, другі так і стараяцца гламызнуць цібе зубамі за плечы або за руку. Рудавіцы.

**Глей** м. Глей, адклады на дне вадаёмаў. На дне Свіслачы пад Шырокімі адзін глей, ногі застрагалі, ледво выцягняш. Занявічы.

**Гле'йкі** прым. Глейкі, вязкі, ліпкі. Хлеб некі глейкі, ні ўдаўсо зусім. Балічы.

**Глінава'ты** прым. Гліністы. У адным па-

летку глінаваты кавалак зямлі быў, на ім сеялі сачэўку, добро расла. Кунцаўшчына.

**Глі'ндзік** м. Гніда /з літ.мовы/. Паглядзі, во і зноў да Прымаковых гліндзік пасунуўсо. Зарубічы.

**Глі'нішча** н. Глінішча, месца здабічы гліны. За сялом глінішча было, усе бралі гліну на печы. Лаша.

**Гліня'к** м. Гліняны гаршчок. Як чыгуноў ні было, варылі ў гліняках, страва смашнейша была. Парэчча.

**Гло'тка** ж. Глог, куставая расліна з ядомымі ярка-чырвонымі, жоўтымі пладамі. У рові гдотка расла, мы ўсе яе рвалі і елі, але нісмашна была, нека прэсна. Кунцаўшчына.

**Глу'бацца** незак. Калупацца. Дзіця сядзіць сабе ў куточку і нешто глубаецца. Круглікі.

**Глу'зд** м. Розум, развага. Глузду ў хлопца мало, пляце нека глупства. Рагачы. З глузду з»ехаць — страціць розум, звар»яцець. Ты што, місі, з глузду з»ехаў, ці што? Лаша.

**Глум** м. Псаванне, марнаванне, марнатраўства. Гэта глум, хлопцы, рваць зялёныя яблыкі. Зарубічы.

**Глумі'ць** незак. Псаваць, марнаваць. Прывыклі глуміць пры дарозі жыто, рады німа; пакуль жаць, чысто патопчуць. Балічы.

**Глухандзя'** ж. Чалавек, які кепска чуе. Глухандзя, ты яму гавары адно, а ён табе другое пляце. Круглікі.

**Глухі'** прым. Глухі, часткова або поўнасцю пазбаўлены слуху. Ты мацней кажы, яна глухая, добро ні чуя. Мігова. Глухая дарога — закінутая дарога. Гэта, брат, глухая дарога, па ёй ніхто ні ездзіць. Лаша.

**Глуша'к** м. Чалавек, які кепска чуе. У нас каваль быў — глушак, добро ні чуў, глушаком празываяі. Сухая Даліна.

**Глушма'н** м. Тое, што і глушак. Глушман некі, яму кажы, ні кажы, усероўно па-свойму зробіць. Літвінкі.

**Глушы'ць** незак. Ударамі па лёдзе даводзіць рыбу да стану здранцвення. Зімой пойдзямо на рэчку глушыць рыбу, як удэрыш шлягай на лёдзі, так рыба і вывярняцца. Кунцаўшчына.

**Глым** выкл. Цап, чам /у значэнні: есці/. Рады німа, кабыла сют-тут і зноў зубамі глым за бульбавене. Рагачы.

**Глымазну'ць** зак. Хапануць. Там і закуска такая была, глымазнуў два разы гурка і ўсё. Дубніца.

**Глы'мнуць** зак. Тое, што і глымазнуць. Карова, як жанеш каля жыта, так і стараяцца хоць раз глымнуць зубамі. Свіслач.

**Глэ'маць** незак. Хапаць зубамі, губамі; выбіраць. Сечкі конь ні хоча есці, тулькі прывык глэмаць, выбіраць гавёс. Круглікі.

**Гляк** м. Гляк, нізкая гліняная пасудзіна з вузкім горлам. У гэтым гляку я ашчэ воду насіла жанцам у поле. Рагачы.

**Гляу'ш** м. Слабы конь. Конь гляуш, ім і за суткі да Гродна ні даедзяш, рукі адбярэ паганяючы. Цыдовічы.

**Глячо'к** м. Невялікі гляк. Маяш дачку — трымай гарэлку ў глячку. /прымаўка/. Зарубічы.

**Гна'ты** мн. Сцёгны. Я табе, гіцлю, гнаты паперабіваю, будзяш знаць, як чужое браць. Баброўнікі.

**Гнаць.** незак. Гнаць, прымушаць рухацца. Ні трэбо каня так гнаць, ён дыхавічны, бегчы ні можа. Кунцаўшчына. Гнаць плыты — сплаўляць плыты па рацэ. Летам плытнікі як пачнуць, бало, гнаць плытэ па Нёмну, та плыт за плытом ідзе і ідзе. Дарашэвічы.

**Гная'рка** ж. Шырокая дошка /іх дзве/, якая застаўляецца ў возе, калі возяць на поле гной. Гнаяркі падымяш і кладзеш гной вышэй ручок, наложыш, аж ледво конь зварухне з месца. Кунцаўшчына.

**Гні'ба** ж. Клюшня. Рак сваімі гнібамі можа нават паляц атшчыпнуць. Сапоцкін.

**Гні'да** ж. І. Гніда, яйцо вошы. Дзе гніда есць, там і вош будзя /прымаўка/. Малахавічы. 2. Перан.: скупы чалавек. Гэта гніда вадэ чалавеку ні дасць напіцца, ні тулькі, кап што другое даў. Селюкі.

**Гніле'ц** м. Гнілец, хвароба пчаліных лічынак. Калі ў пчол гнілец, лічы, што ўлей прапаў, касаваць трэбо. Грынёўка.

**Гні'лкі** мн., ж. Гнілушкі, ляжалыя дзікія грушы. У дзеда Ясюка заўсёды на гарэ ляжалі гнілкі, дастаня і нас частуя. Кунцаўшчына.

**Гніля'к** м. Гніляк, гнілушка, абломак гнілога, спарахнелага дрэва. Гніляке кончыліса, німа чым пчол паткурваць. Ласосна.

**Гнэ'мбіць** незак. Мучыць, караваць, здзеквацца. Кат некі, а ні чалавек, дзіцей сваіх гнэмбіў, дзеўчына калекай засталаса. Круглікі, а то кепско будзя. Тарусічы.

**Го'бздзі** мн. Агрубелыя пальцы /у іранічным сэнсе/. Ты дзе гэта садзіш свае німытыя гобздзі, адыдзі. Кунцаўшчына.

**Го'бруць** ж. Аброць, вуздэчка. Жарабяці німа, а на яго ўжэ гобруць шыюць / прыказка/. Бакуны.

**Го'дзі** прысл. Годзе, хопіць, досыць, даволі. Годзі, хлопцы, вотку піць, пойдзем на работу, будзем грошы палучаць кожную суботу /з нар. песні/. Баброўня.

**Го'жы** прым. Гожы, прыгожы, слаўны. Гожы быў хлопяц, але прапаў нізашто. Гожа

**Го'йна** прысл. Багата, заможна. Яны гойна жылі, усяго было ў дастатку. Балічы.

**Го'ка** н. Вока. Гочы відалі, што купавалі / прымаўка/. Круглікі.

**Го'лень** ж. Галёнка, частка нагі ад калена да ступні. Жнучы чысто голені паапорвала пожняй, прышчаць. Пракопавічы.

**Го'лка** ж. Іголка. Ні бачу добро, аніяк ніткі ў голку ні зацягну. Лойкі.

**Го'лы** прым. Голы разбою ні баіцца /прыказка/. Лойкі.

**Го'ляк** м. Расол з-пад селядцоў. Некалі бульбу у голяк макалі, елі, а ціпер с скваркамі ні хочуць. Стральцы.

**Голя'ндра** ж. Каляндра, расліна, якая скарыстоўваецца як прыправа да мяса. Голяндра ў нас у гародзі расце, да мяса добра, пахня на ўсю хату. Калбасіна.

**Го'міло** н. Дзіцячая гульня з лучынкамі. Малымі мы ўсё ў гоміло гулялі, наробім з лучынак такіх рамак, ходзім і спяваям: "Гоміло, гоміло, упала баба с коміна, а дзед — с печы, пабіў бабі плечы". Кунцаўшчына.

**Го'ншчык** м. Смалакур; чалавек, які паліць смаляную печ. Я ўжэ больш трыццаць рок у смалярні гоншчыкам. Сабаляны.

**Го'ны** мн. Вялікі падоўжны кавалак поля. У нас весь палетак засявалі пшаніцай, толькі адны гоны жытам. Сухая Даліна.

**Го'пцас** прысл. Нахабна. Ашалеў ці што, гопцас на людзей прэцца; ні глядзіць ні гока, ні бока. Баброўнікі.

**Гоп-ца-ца!** Выкліч. Вокліч, які ўжываецца, калі падкідваюць малое дзіця на руках уверх. Гоп-ца-ца! Гоп-ца-ца! Во, як мы высока. Свіслач.

**Го'рба** ж. Куча. Цэла горба бульбы засталаса на полі ні накрыта, памерзне. Круглікі. Цэлу горбу снегу накруціло каля плота. Луцкаўляны.

**Го'ркнуць** незак. Рабіцца і горкім. Масло нісмашна, пачало горкнуць. Лаша.

**Го'рны** прым. Ворны, прыгодны для ворыва. Усяго ў нас было зямлі шэсць дзісяцін, а горнаго поля тулькі дзве. Зарубічы. Горная зямля — зямля, прызначаная для ворыва. У нашай вёсцы зямлі много было, але ніўдобіца, горнай зямлі зусім мало. Навасёлкі.

**Го'стры** прым. Востры. Нож у плузі як гостры, та і гараць лёхко, спраўпей ідзе. Кукалі.

**Го'ўтаць** незак. Ледзь варушыць. Дзісь вецер слабы, вятрак крыламі ледво гоўтае, малоць ні будзя. Грыўкі.

**Гоц** выкл. Скок, гоп. Вокліч, якім суправаджаецца пераадоленне перашкоды. Ні кажы гоц, пакуль рову ні пераскочыш /прыказка/. Індура.

**Го'цкаць** незак. Падкідаць на руках малое дзіця. Кінь дзіця гоцкаць, у яго ўжэ духе заняло ат тваго гоцканя. Балічы.

**Го'цкі** мн. Танцы, скокі, гульні. Дзісяй гоцкі, заўтра — гоцкі, будзям хадзіць бес сарочкі /прымаўка/. Круглікі.

**Грабе'лькі** мн. Жалезныя планкі з зубамі на канцах аглобляў для нацяжкі атосаў. Як грабелькі добрыя, та і атосы добро трымаюць аглоблі. Нямейшы.

**Грабе'льня** ж. Грабілка, сельскагаспадарчая машына для зграбання сена.

Грабельня ні ў кожнага гаспадара была, тулькі самыя багатыя мелі. Квасоўка.

**Грабі'льне** н. Грабільна, ручка ў граблях. Грабільне найлепша з асіны, яно лёхкае такое, файно грабіць. Тапалёва.

**Гра'біць** незак. Зграбаць сена. Німа такіх грабель, каб грабілі ат сібе /прыказка/. Мількаўшчына.

**Гра'бсці** незак. Грэбці, грабці. Як добрыя граблі, та сено добро грапсці, складаць у капке. Сухая Даліна.

**Грабштэ'йн** м. Назва аднаго з гатункаў яблык. Ашчэ дзед пагаранскі ўшчапіў дзікую яблыню грапштэйнам, і ціпер грапштэйны маям. Свіслач.

**Градавы'** прым. Градавы. Той рок быў цяшкі, градавы, тры разы град лажыў збожа. Каўпакі. Градавая серада — свята ў першую нядзелю пасля вялікадня. Градавую сераду ні ўсе святкавалі. Старыя казалі, калі хто будзя ў градавую сераду рабіць, та грат паб»е ўсё збожа. Свіслач.

**Гра'дка** ж. Палічка ў курнай хаце для ложак і місак. Я сама ашчэ помню, як маці паложыць на гратку лошкі, міске і яны так сохнуць. Канчатка.

**Гра'ды** мн. Дзве жэрдкі, падвешаныя пад бэлькамі ў курнай хаце. На грады вешалі каўбасы, і яны ў дыме вэндзіліса, цыбулю маці вешала. Каханова.

**Гразіна'** ж. Гразкае, багністае балота. У нас была такая гразіна, што праз яе ніхто ні праходзіў, дзікія качкі тулькі вадзіліса, крычалі. Табала.

**Грайзэ'га** ж. Круглая піла з вялікімі зубамі для падоўжнай і папярэчнай распілоўкі. У яго была грайзэга з добрай сталі, файно рэзала. Дзекалавічы.

**Грамабо'й** м. Высокарослая, грузная жанчына /іран./. Гэта баба грамабой, яе нават мужчыны баяцца, ні тулькі бабы. Свіслач.

**Грамзо'ліць** незак. Пісаць дрэнным почыркам, няўмела. Што ты грамзоліш, ты такі пісака, што ні разбярэ сабака. Літвінкі.

**Грамні'цы** мн. Свята ў хрысціян, якое прыпадае на 15 лютага па новаму стылю ў праваслаўных, 2 лютага — ў католікаў. Як на грамніцы пятух нап'ецца вадзіцы, та на Юр'я вол наесца травіцы /народ. прыкмета/. Свіслач. На грамніцы — хлеба палавіца, а корму — траціна /нар. прыкмета/. Зарубічы.

**Грамні'чны** прым. Грамнічны, які мае адносіны да грамніц. Грамнічны дзень бывая з марозікам, бывая зусім цёплы. Кунцаўшчына. Грамнічная свечка — свечка, якую асьвячаюць на грамніцы. Калі хто памірая, та грамнічную свечку ў рукі даюць. Сухая Даліна.

**Гранато'вы** прым. Цёмна-сіні. На гранатовы цвет пафарбавала, другой фарбы ні мела. Луцкаўляны.

**Гра'ндзіць** незак. Скандаліць, буяніць. Што вы тут грандзіця, зараз участковаго паклічу. Квасоўка.

**Гранды** мн. Сані з шырокімі, раскладзістымі драбінамі, у якіх перавозілі цяжары. На грандах больш вазілі сено. У грандах ні павярнуцца, яны так зроблены. Круглікі.

**Грані'чыць** незак. Быць сумежным, межаваць. Хутаранцаў поле якраз гранічыць з намі. Лаша.

**Гра'са** ж. Матыка, ручная прылада для рыхлення глебы. Як граса гостра, та палоць добро, усё зелье перасякая. Кунцаўшчына.

**Грасава'ць** незак. 1. Матычыць, рыхліць глебу матыкай. Учора ездзілі грасаваць бураке, чысто папрыставалі. Свіслач. 2. Таптаць, нішчыць. Коні жыто грасуюць, а ён ні бачыць, сядзіць сабе. Лугава.

**Гра'ска** ж. Матыка. Граску трэбо гастрыць, зусім ступіласа. Стральцы.

**Гра'ты** мн. Хлам. Выкідай ты с хаты гэтыя граты, яны ні модныя. Гродна.

**Графіро'ўка** ж. Гафрываная жаночая спадніца. І ў міне была графіроўка зялёна і сіня. Як вышла замуж, та па будні хадзіла ў графіроўцы. Жылічы.

**Гра'фка** ж. Аграфка, англійская шпілька. Графкі некалі бабы куплялі ў ганучнікаў, іх много ездзіло па сёлах. Кунцаўшчына.

**Грацко'ўе** н. Салома пасля абмалота грэчкі. Грацкоўе каровам давалі,

з грацкоўем нават сечку рэзалі, як канюшыны ні было. Гібулічы.

**Груд** м. Груд, сухая сенажаць, сухадол. На груд мы вадзілі пасвіць коняй, там трава добрая. Галаўнічы.

**Гру'да** ж. 1. Груда, засохлая гразь. У сухі рок, як пасеюць пшаніцу, грудаў многа, хадзілі і разбівалі даўбешкамі. Сухая Даліна. 2. Груда, замёрзлая на дарозе гразь, няроўнасці. На дарозі груда, хутко ні паедзяш, вос кідая. Табала.

**Гру'да** ж. Хвароба ног ў коней. Груда на капыці ў каня, кульгая. Рацічы.

**Грудавы'** прым. Які мае адносіны да груда. Той рок на грудавым выгане травы ні было, усё высмаліло слонца. Літвінкі. Грудавое сено — сена з груда. Грудавое сено еткае, добро коні і каровы ядуць. Рагачы.

**Грудзі'ло** н. Цуглі. Дай каню грудзіло ў зубы, каб ні панёс, машыны палохаяцца халернік. Брузгі.

**Гру'дкі** мн. Грудзі /памянш. — ласк./. Як прастыня дзіця, та патрэш груткі касторкай і перастаня. Струбка.

**Грузіна'** ж. Гразкае, балоцістае месца. Грузіна страшэнная, каровы завальваліса, вяроўкамі мужчыны выцягвалі. Верцялішкі.

**Грузлі'ца** ж. Туберкулёз, сухоты. На грузліцу як хто зварэў раней, рады ні было, так і паміраў. Рагачы.

**Грука'т** м. Грукат. Рано як выдзяш на гуліцу, та тулькі грукат ідзе па шашэ, хурманкі да Гродна едуць. Баяры.

**Груma'да** ж. Грамада, група людзей, натоўп. У нас была цэлая грумада людзей, аж дзесяць душ, пяць братоў і пяць сёстраў было. Эйсманты. У іх велька грумада людзей, есці не мелі чаго, нішчэмніца страшна была. Эйсманты.

**Гру'нт** н. Ворная зямля. Грунту мало было, ні было на чым жыць, хадзілі на заропкі. Рацічы.

**Грыва** ж. Нявыкашаная трава. Як касілі, мне бацько казаў: "Ні пакідай грывы, людзі сміяцца будуць." Лаша.

**Грыво'** н. Частка грывы на спіне ў каня. Як сядаяш на каня, адной рукой трымаясса за грыво, каб ні ўпасць. Круглікі.

**Гры'ка** ж. Грэчка. Грыка як цвіце, та пчолы над ёй аж звіняць. Сапоцкін.

**Гры'к-вытo'чка** ж. Мядзведка, насякомае, якое жыве ў зямлі, шкоднік раслін. Грык-выточка ў ямінах складае ікру, з яе выходзяць малыя грыкі. Крыўляны.

**Грыма'к** м. Удар кулаком, кухталь. Антось як даў грымака ў плечы, та той аж вякнуў. Верцялішкі.

**Грыме'ць** незак. Моцна, надрыўна кашляць. Перастань грымець, заснуць ні магу. Кунцаўшчына.

**Гры'мнуцца** зак. Ударыцца, стукнуцца. Ішоў, знячэўку як пакаўзнуўса, так і грымнуўса аб землю, ледво паднялі пад рукі. Бакуны.

**Грымо'ты** мн. Грымоты, раскацістыя гукі грому. Усю ноч грымоты былі, ні магла заснуць, страшно бліскало. Балічы.

**Грэ'баваць** незак. Грэбаваць, адносіцца з пагардай. Ні трэбо грэбаваць работай, кожная работа аплачваяцца і ў пашані. Сухая Даліна.

**Грэ'бень** м. Верх страхі. Грэбянь заўсёды замацоўвалі латамі, каб вецер ні знёс. Бакуны.

**Грэ'бля** ж. Грэбля, гаць. Шумяць вербы каля грэблі, што я пасадзіла /з народ. песні/. Свіслач.

**Грэ'йзаць** незак. Няўмела пісаць. Навучыўсо трошкі грэйзаць і грэйзая, фамілю сваю напіша. Свіслач.

**Грэ'йса** ж. Старая, няўклюдная, з доўгім носам жанчына /іран./. Грэйса гэта і зноў да нас нечаго суняцца. Кунцаўшчына.

**Грэ'мзаць** незак. Тое, што і грэйзаць. Хлопяц ні піша, а грэмзая, німа на што глядзець, ніяк навучыць ні магу. Карозічы.

**Грэ'мзы** мн. Пальцы /ужываецца ў неадабральным сэнсе/. Ты дзе гэта свае грэмзы садзіш, спярша памыць трэбо, а тады садзіць. Кунцаўшчына.

**Грэ'та** ж. Крэйда. Грэты німа, трэба было б хату пабяліць.Стральцы.

**Грача'нікі** мн. Піражкі з грэцкай мукі і цёртай бульбы, закручаныя ў капус-

ныя лісты і перавязаныя саломкай. Грачанікі пяклі ў пячэ, на дзеды, я сама ела, смашныя былі. Адэльск

**Грэ'ччына** ж. Грэчка. Дзе грэччына, там і мёд /прыказка/. Грынёўка.

**Губі'ца** ж. 1. Мера даўжыні кужалю ад сцяны да сцяны хаты. У адной аснове дзесяць губіць кужалю, цэлы свойчык. Сіўкава. 2. Старая мера палатна. У аднай губіцы лічыласо шэсць аршын кужалю. Жылічы.

**Гу'бка** ж. Мера асновы, палатно даўжынёй на хатнюю сцяну. Губкі бываюць розныя, у адной можа быць шэсць аршын, а можа і больш сямі. Каханова.

**Гу'бка** ж. Губка, высушанае цела губыгрыба, якое служыло для здабывання агню. Запалак ні было, возьмяш кавалачак губкі і крэсіво і красаяш, кап прыкурыць папяросу. Зарубічы.

**Губяня'ткі** мн. Губы /памянш. — ласк./ Ты што гэта губяняткі наставіў, мусі, амаць хочаш? Свіслач.

**Гу'галь** м. Тушаная бульба з бручкай, морквай на гусіным тлушчы. Помню, як яўрэі гугаль у медных каструлях у печках тушылі; дастануць, тулькі пара ідзе, жоўты такі. Пракопавічы.

**Гу'да** м. Мянушка беларусаў, якія жывуць у аколіцах Друскенік і Парэчча. Як на мушчыну — літовец кажа: "Вун гуда пашоў." А на бабу: "Во гудзе пашла." Парэчча.

**Гу'дас** м. Мянушка беларусаў, якія жывуць у аколіцах Прывалак Гожскага сельсавета. Літоўцы на нас кажуць гудас, а мы іх называям клюмпікі, бо яны ў клюмпах ходзяць. Прывалка.

**Гуда'ска** ж. Мянушка беларусак сярод літоўцаў. Гудаска з Парэча прышла да нас замуж. Казіміроўка.

**Гуз** м. Гуз, пукатасць на целе ад ўдару. Як стукнуўсо, так гуз на лобі і выскачыў. Лаша.

**Гуза'к** м. Тое, што і гуз. Некі гузак пад пахай узяўсо, і сам ні ведаю атчаго. Казіміроўка.

**Гу'зел.** Вузел, месца, дзе звязаны канцы вяроўкі, шнура. Гузел засмаргнуўсо, ціпер ні развяжаш. Зарубічы.

**Гу'зял** м. Тое, што і гузел. Як добра завяжаш гузял, та ўжэ ні развяжацца, вяроўка парвецца, а гузял ні развяжацца. Свіслач.

**Гу'каць** незак. Гукі, якія свіння выдае ў перыяд палавой актыўнасці. Свіня, мусі, гукаць будзя, ні есць, усё перавярнула, тулькі гукая. Свіслач.

**Гу'ла** ж. Вузел з закручаных валасоў на галаве ў жанчыны. Некалі дзяўчата косы заплятали, закручвалі ў гулы; у каго косы велькія, та гула велька. Стрэльчыкі.

**Гу'лі** мн. Гулянне, забава. Гулі яго змарнавалі, круціўса, пакуль галаву ні скруціў. Рудавіцы.

**Гуліца** ж. Вуліца. Гуліца ў нас была брукаваная, хоць бокам каціса. Кунцаўшчына.

**Гультаі'ско** м. Гультай /лаянкавае слова/. Падло, гэты гультаіско, людзі робяць, а ён возьмя вудачку і рыбу ловіць. Балічы.

**Гуля'не** н. Гулянне; забавы, танцы пад адкрытым небам. На гуляне хлопцы пры паляках бралі нож ці спружыну з гірай. Як тулькі што, так і завядуцца біцца. Лаша.

**Гу'мба** ж. Вузел з закручаных валасоў на галаве ў жанчыны. Даўней дзяўке косы закручвалі ў гумбы, гэта ціпер апстрыжаныя ходзяць. Стрэльчыкі.

**Гу'мза** ж. 1. Вузел, скрутак, пакунак. Здаецца, і бедны чалавек, а як выцягнуў з-за пазухі гумзу грошай, та ўсе аж ахнулі. Балічы. 2. Нарасць на дрэве. Думаў, грыб расце на бярозі, а зноў нека гумза. Зарубічы.

**Гу'мнішча** н. Месца, на якім стаяло гумно. На гумнішчы ставілі снапэ дасушваць, як сырыя былі, потым ў адрыну насілі. Кунцаўшчына.

**Гумно'** н. 1. Гумно для складвання і абмалота збожжа. У нас гумно велька было, усе снапэ ўлазілі. Клінчаны. 2. Пляцоўка перад будынінай, гумка. На гумне заўсёды стаяў воз, дзеравяны плуг, бораны. Клінчаны.

**Гу'нка** ж. Гунька, зрэбная посцілка, пакрывала. Як конь спацея, накрывалі гункай, каб ні прастыў, вадэ халоднай ні давалі. Дарашэвічы.

**Гунцво'т** м. Нягоднік, паганец /устар./. Гунцвот гэты і зноў нешто натварыў, недзя ўлес. Загорцы.

**Гу'нька** ж. Гунька, зрэбная посцілка, пакрывала. Гунька ў дарозі патрэбна, можаш сам накрыцца, каня накрыць, каб ні прастыў. Цыдовічы.

**Гур** м. Баваўняныя ніці, якія куплялі ў польскія часы ў крамах. Я сама купляла гур у Індоры, ткала мужыку і дзецям на каптане. Грыўкі.

**Гура'й** м. Гермафрадыт, арганізм, які мае адзнакі абодвух палоў /часцей у жывёл/. Гурай, мусі, ні курыца, ні пятух, ні спявае і ні нясецца, чорт яго ведае што куліла. Рацічы. Ходзіць, кажа, як гурай, ні мушчына, ні баба. Рацічы.

**Гу'рба** ж. Гурба, куча снегу, намеценага ветрам. За ноч гурбы снегу панамятало, усё пазаносіло. Батароўка.

**Гургале'** мн., м. Лёд, намёрзлы на шыбах. Праз вакно нічога ні відаць, гургале намерзлі. Парэчча.

**Гуро'к** м. Агурок. Некалі гурке тулькі для сібе садзілі, ціпер садзяць на продаш, машыны за гурке купляюць. Рагачы.

**Гурт** м. 1. Гурт, статак буйнай рагатай жывёлы, чарада птушак. Адзін пастух цэлы гурт кароў ні ўпасе, давалі патпаска, калейніка. Кунцаўшчына. 2. Натоўп, група людзей. Гуртам і бацьку біць ляхчэй /прымаўка/. Кульбакі.

**Гуры'стасць** ж. Пад'ём, выпуклая верхняя частка ступні нагі. У міне гурыстасць ні велька, чаравікі кожныя пададыдуць. Свіслач.

**Гуры'сты** прым. Высокі ў пад'ёме. І міне ногі гурыстыя, ботаў ні магу падабраць, тулькі трэбо рабіць на заказ. Балічы.

**Гурысціна'** ж. Пад'ём, тое, што і гурыстасць. Дзе тут чаравікі ёй падбярэш, такая гурысціна ў дзеўкі. Клачкі.

**Гу'сьтаўка** ж. Гушкалка, арэлі. У нас гусьтаўка была, дзед ашчэ зрабіў, мы ўсе гусьталіса. Сапоцкін.

**Гуся'ціна** ж. Гусяціна, гусінае мяса. Гусяціна добра мясо, але качына ашчэ лепша, смашнейша. Ферма.

**Гуся'чы** прым. Гусіны, які мае адносіны да гусі. Гусячы пух лепшы ат курынага, каштаўнейшы. Кунцаўшчына. Гусячы зносак — меншае яйцо, чым звычайна. Ля, гусячы зносак, гусь рабая знясла. Рагачы. Той вялікдзень у яго быў гусячы зносак, та ўсе яйца павыбіваў. Клінчаны.

**Гу'та** ж. Гута, даўнейшая назва шклозавода. Дзе пры Польшчы гута была, ціпер шклозавод разбудавалі, тае гуты і ні пазнаць. Гродна.

**Гуталі'на** ж. Гуталін, вакса. Гуталіны ні шкадуе, чаравікі заўсёды блішчаць. Новая Дубавая.

**Гутарлі'вы** прым. Гутарлівы, гаваркі. Гутарліва ў цібе жонка, ні заснеш. Парэчча.

**Гу'тарыць** незак. Гутарыць, размаўляць. Сядзяць і гутараць, а работа стаіць. Некрашы.

**Гутня'к** м. Гутнік, рабочы, які працаваў на гуце. У гутнякоў цяшкая праца была, яны ўсё больш на лёхкія хварэлі. Гродна.

**Гуц** м. Гультай. Гуца выгадавала на сваю галаву, а ціпер мэнчуса з ім. Галавачы.

**Гу'шальніца** ж. Гушкалка, арэлі. Ён, кажуць, ашчэ малым упаў з гушальніцы, ногу вывіхнуў. Зарубічы.

**Гу'шацца** незак. Гушкацца. Наш Толік баяўсо гушацца, галава кружыласа. Навасёлкі.

**Гу'-ша-ша!** выкл. Вокліч старэйшых, калі гушкалі малое дзіця ў калысцы. Гу-ша-ша! Гу-ша-ша малого Коліка. Кругляны.

**Гу'ля,** гыля выкл. Пазыўныя да гусей. Гуля, гыля, шэры гусі. Гыля, гыля ў лебяду. Павязалі галованьку — дый да дому ні прыду /з нар. песні /. Карозічы.

**Гы'-ля** выкл. У сэнсе: ты глядзі. Гы-ля — кажуць у Жукевічах, а у нас так ні кажуць, а кажуць: паглядзі. Пагараны.

**Гы'цаль** м. 1. Скуралуп, скурадзёр; чалавек, які ў даўнейшыя часы лавіў сабак. Гыццаль як пакажацца з будой на рынку, так сабакі аш пад ногі лезуць, хаваюцца. Індура. 2. Нягоднік /лаянк./. Гыццаль гэты, усюда ён ўпрэцца, рады німа. Аульс.

**Гэ'баль** м. Гэбель. Гэбаль ў міне быў з двума жалескамі, ашчэ дзедаў, файно габляваў. Дзекалавічы.

**Гэ'дак** прысл. Так. Гэдак ні добро рабіць, брытко, людзі сміяцца будуць. Хамякі. Гэдак веле — столькі многа. Гэдак веля ваша карова малака дае, а кажацця, што перадойка. Ланявічы.

**Гэ'дакі** займ. Такі. Гэдакі чалавек, браце, ні прападзе, будзя жыць, у яго ўсё будзя. Свіслач.

**Гэ'дулькі,** гэ'дулько прысл. Столькі. Гэдулькі чалавек усялякай бяды паражыў, адкуль будзя здароўе. Сцяцкі. Мы з ім гэдулько біліса, каб ён чалавекам стаў, і ўсё прапало. Свіслач.

**Гэ'йдалка** ж. Гушкалка, арэлі. Гэйдалку пачапілі на вярбе і гойдаямсо, пакуль ні надаесць. Сапоцкін.

**Гэйдаўка** ж. Гушкалка, арэлі. У нас гэйдаўка была, збярэмсо і давай гэйдацца, пакуль хто ні зваліцца. Гібулічы.

**Гэ'мка** ж. Гатунак бульбы жаўтаватага колеру, якую сяляне культывавалі да вайны у Заходняй Беларусі. Калісьці мы ўсё гэмку садзілі, ціпер німа ўжэ, звяласа. Каханова.

**Гэ'ркаць** незак. Груба адказваць; пакрыкваць. Прывык гэркаць на кожнаго і гэркае; ні глядзіць, ці стары, ці малы. Кунцаўшчына.

**Гэрц** м. Задзіра, забіяка. Гэрц быў навокруг, пакуль галавы ні скруціў, рады ад яго ні было. Кульбакі.

**Гэрш** м. Забіяка, драчлівы чалавек. Гэ, у Сабалянах ён цэлы гэрш, без яго ні вяселе, ні забава ні абыдзяцца. Рыбніца.

**Гэ'ршкі** мн. Браць на гэршкі — садзіць дзіця на шыю ці на плечы і насіць. Мой тато любіў міне браць на гэршкі, як малы быў. Рагачы.

**Гэ'стка** ж. Карункі. Кедысьці шляхцянкі шылі сукенкі з гэсткамі, ціпер гатовыя купляюць. Занявічы.

**Гэ'тарашні** прым. Сёлетні. Гэтарашні бычок горшы, але гадаваць будзямо. Ферма.

**Гэ'ттака** прысл. Тут. Гэттака і паўгактара балота ні будзя, а ты кажаш гактар. Карозічы.

**Гэ'шэфт** м. Даход ад выгадкай спекуляцыйнай здзелкі. Я з гэтаго ніякаго гэшэфту ні мецьму, нашто мне гэта. Азеркі, Грандзічы.

# Д

**Дабрадзе'ю** м. Дабрачынец. Дабрадзею — форма сяброўскага звароту ў былой мясцовай шляхты /устар./. Дзень добры, пане дабрадзею, а куды пан буг провадзі? /куды едзеш?/. Ланявічы.

**Дабраду'шны** прым. Дабрадушны, лагодны, прыхільны да людзей. Нябошчык быў дабрадушны чалавек, кап прымеў, та ўсё аддаў бы людзям. Юзафоўка.

**Дабра'нац** выкл. Пажаданне спакойнай ночы. Дабранац вам! Я ужэ пайду дахаты, позно. Ланявічы.

**Дабра'цца** зак. Дабрацца, з цяжкасцю дайсці. Ледво на трэці дзень дабраўсо дахаты, дарогі зусім ні было. Кунцаўшчына.

**Дабудзі'цца** зак. Дабудзіцца, з цяжкасцю разбудзіць. Аніяк ні магла дабудзіцца, спаў як забіты. Маркішы.

**Даво'лі** прысл. У значнай ступені, у вялікай меры. Ціпер даволі прыстойно жывуць і на вёсках, старыя пэнсю палучаюць, маюць свае грошы. Лэйгабалі.

**Даво'лі** выкл. Досыць, хопіць. Даволі ўжэ гуляць, цёмно на дварэ. Хамякі.

**Дагадзі'ць** зак. Дагадзіць; задаволіць, зрабіўшы патрэбнае. Дагадзіў, як ксёндз Магдусі /прыказка/. Квасоўка. Яму цяжко дагадзіць, гэта такі чалавек. Скамарошкі. Цяшка бабі дагадзіць, ты ёй адно, а яна — другое. Лікоўка.

**Дагэ'туль** прысл. Дагэтуль, да гэтага часу. Дагэтуль усё было добро, нівядомо, як далей будзямо жыць. Агароднікі.

**Дае'нка** ж. Дайніца, даёнка. У нас рабілі дзешкі, каткі, даёнкі, вазілі прадаваць да Індоры. Бандары.

**Дажджаві'к** м. Чырвоны чарвяк, які пасля цёплага дажджу выпаўзае з зямлі на яе паверхню. Нікаторыя людзі ка-

жуць, што дажджавік падае з дажджом на зямлю з неба. Пышкі. На дажджавік рыба добро бярэцца. Забагонікі.

**Дажы'нкі** мн. Абрадавае свята ў дзень заканчэння жніва. Учора дажынкі былі, паўпіваліса — наш прадсядацель ні скупы. Лаша.

**Дазарэ'зу** прысл. Крайная неабходнасць, вельмі патрэбна. Мне назаўтро трэбо рублёў сто дазарзэу, ні ведаю, дзе ўзяць. Кунцаўшчына.

**Дайні'ца** ж. Дайніца, даёнка. Добра карова, як пойдзяш, так поўну дайніцу і надоіш малака. Лаша.

**Дакана'ць** зак. Даканаць, загубіць, давесці да пагібелі. Звязаўсо стары з маладой бабай, яна яго хутко даканая. Індура.

**Дакара'ць** незак. Дакараць, папракаць. Жонка сюд-туд і зноў пачне дакараць, якім ён калісьці быў, што вычаўпляў. Караневічы.

**Даку'ль** прысл. Дакуль, да якога часу. Гэга ж дакуль будзем цярпець усё гэтыя здзекі? Баранава.

**Дакуча'ць** незак. Надакучваць, назаляць. Ні трэбо было так дакучаць жонцы, жыла б, ні пакінула б. Віцькі.

**Да'леч** ж. Далечыня, далячынь. Ты што, здурэў, такую далеч буду ісці пяшком, ляпей пачакаю на алтабус. Лаша.

**Даліво'г** выкл. У значэнні запэўнівання, пацверджання чаго-небудзь. Далібог, я там ні быў, нічого ні бачыў. Кунцаўшчына.

**Дальбо'** выкл. Тое, што і дальбог /у скарочанай форме/. Дальбо, гэта праўда была, каб я так жыла. Дарашэвічы.

**Дальбо'х** выкл. Тое, што і далібог. Дальбох, я сама бачыла, як на Баламутаву хату агонь ляцеў. Кунцаўшчына.

**Даляга'ць** незак. Непакоіць, турбаваць, трывожыць. Каму ні баліць, таму і ні далягая /прымаўка/. Белева. Нешто далягае дзіцяці, плача, ні спіць, а што — ні ведаю. Карозічы.

**Дамаві'к** м. Дамавік, злы або добры дух у народных павер'ях. Каб выратаваць ад дамавіка каня, трэбо застрэліць на ляту сароку і павесіць у хляве. Лаша.

**Дамавы'** м. Тое, што і дамавік. Дамавы як ні ўзлюбіць каня, та цэлу ноч на ім ездзіць будзя, рано с каня тулькі пара валіць. Загорцы.

**Дамага'цца** незак. Дамагацца, дабівацца пастаўленай мэты. Як мужыке пачалі дамагацца сваго, так пан і ніўзлюбіў, пачаў прыдзірацца, дарогу загарадзіў, каб ні ехалі праз двор. Канчатка.

**Даня'ць** зак. Даняць, вывесці з раўнавагі. Цешча стараласа на каждым кроку даняць зяцю, збыткаваласа над ім. Кульбакі.

**Дапасава'ць** зак. Падагнаць, прыладзіць. Здаецца, дапасаваў дзверы як трэбо, усероўно холад ідзе ў хату. Дзекалавічы.

**Дапа'сці** зак. Дарвацца. Свіня дапалі да яды, лэхаюць, аж вушы трасуцца. Круглікі.

**Дапусці'ць** зак. Дапусціць, прыладзіць, падагнаць. Рамы стараўсо дапусціць да вокан, як трэбо, каб камар носа ні патсунуў. Лаша.

**Дапяка'ць** незак. Данімаць, надакучваць, выводзіць з раўнавагі. Цешча з нівесткай як пачалі дапякаць хлопцу, та ні мог жыць, кінуў і прышоў да бацькоў. Славічы.

**Дар** м. 1. Падарунак; тое, што дадзена ва ўласнасць дарма. А гэта дар ад майго дзяцькі Максіма, ён мне падарыў. Кунцаўшчына. 2. Дар за дар, дарма — ніц; ведай, браце, як ты мне, так і я табе. Свіслач.

**Дарава'ны** дзеепрым. Падараваны, падораны. Даравенаму каню ў зубы ні глядзяць /прыказка/. Каленікі.

**Дара'дзіць** зак. Даць параду, параіцы. Дарадзілі скулу семям гарачым прыкладаць, каб жывей нарывала. Ферма.

**Даражыня'** ж. Дарагавізна, дарагоўля. Там такая даражыня, што з нашымі грашыма ні патступіцца. Пракопавічы.

**Дары'ць** незак. Даваць падарункі, абдорваць. У нас маладая дарыць усіх братоў, сёстраў маладого падаркамі. Рацічы.

**Дарэ'заць** зак. Дарэзаць, канчаткова пазбавіць жыцця. Парася нешто было захварэло, мусяў дарэзаць. Гарны.

**Дарэ'мшчына** ж. Дармовае, бясплатнае, вельмі таннае. Ціперака жалество стало дарагое, а пры саветах дарэмшчына была, танно прадаваласо. Зарубічы.

**Дасе'ўкі** мн. Дасеўкі, завяршэнне сяўбы. У нас на дасеўкі петуха білі, маці вячэру добру рабіла, а гарэлку рэтко калі пілі. Лаша.

**Даспадо'бы** прысл. Даспадобы, да густу. Ён мне зразу даспадобы прышоўсо, такі мяхкі чалавек па характару. Малышчына.

**Дастава'ць** незак. Даставаць, раздабываць. Даставаць заўсёды цяжэй, чым, даваць, а дасі — ні збяднеяш. Грынёўка.

**Дасці'пны** прым. Старанны, руплівы, вынаходлівы. Ён ні такі спасобны быў да вучэння, але натта ш дасціпны, таму і нісцітут кончыў. Дарашэвічы.

**Датало'пкацца** зак. Сцяміць, скеміць, зразумець. У цемнаце ні ведаў, дзе я, а потым ледво даталопкаўсо, ў якім месцы. Свіслач.

**Датка'ць** зак. Даткаць, завяршыць тканне. На гэтым тыдні думаю даткаць кужаль, на свято выкінуць с хаты кросна. Лаша.

**Датла'** прысл. Датла, дашчэнту. Усё згарэло, немцы спалілі датла вёску, тулькі адны камінэ стырчалі. Скідаль.

**Датыка'ць** незак. Датыкаць, завяршаць тканне. Пакінула на заўтро датыкаць, ніня німа часу. Свіслач.

**Даты'кач** м. Прылада для завяршэння ткання кужалю ў выглядзе куска палатна з двума пруткамі. Датыкач прывязвалі да асновы і датыкалі, каб канцэ асновы карацейшыя былі. Кругляны.

**Даўба'к** м. Тупы, някемлівы чалавек. Даўбак некі, вучыцца ніяк ні хоча, тулькі бегая цэлы дзень, як дурны. Лікоўка.

**Даўбе'шка** ж. 1. Вялікі драўляны малаток для разбівання грудаў у полі. Як сухі рок, грудаў много, бралі даўбешкі і білі груды, каб пшаніца ляпей усходзіла. Сухая Даліна. 2. Перан.: тупы, някемлівы чалавек. Даўбешка, што яму ў голаў ні даўбуць, нічого ні прыстае. Літвінкі.

**Даўбні'ца** ж. Ступа. У даўбніцу насыпляш ячменю, папарыш кіпятком і таўкачом даўбеш, пакуль ні абаб'еш, каб была куця. Путрышкі.

**Даўбня'** ж. Цяслярская прылада ў выглядзе драўлянай калоды з ручкай, якую выкарыстоўвалі для пасадкі сцен будынкаў. І ціпер пат хлявом даўбня ляжыць, ею набіваюць сцены, кап шчыльней прыставалі. Сабаляны.

**Даўбяні'ца** ж. Ступа. У нас на гарэ ашчэ даўбяніца ляжыць, нікому ні патрэбная, валяяцца. Путрышкі. 2. Карыта з накрыўкай, выдаўбленае з дрэва, для захоўвання сала і мяса. Даўбяніца такая доўгая, накрываласа вечкам, зверху звужана. Пышкі.

**Даўво'д** м. Паездка маладажонаў цераз тыдзень пасля вяселля да бацькоў жонкі. На даўвод паехалі, да бацькоў маладой, у хаці іх німа. Рацічы.

**Даўгавя'з** м. Высокі і худы чалавек. Даўгавяз велькі пад небо, а дурны, як трэбо. Кунцаўшчына.

**Даўгавя'зы** прым. Высокі і худы; цыбаты. Даўгавязы і жонку сабе даўгавязую падабраў. Карозічы.

**Даўгано'сік** м. Даўганосік, жук, шкоднік сельскагаспадарчых раслін. Мой бацько жыто па некулькі разоў перасушваў, баяўсо, каб даўганосік ні завёўсо. Луцкаўляны.

**Даўжы'р** м. Даўжыня. Такі даўжыр; як гляняш — канца ні відаць. Свіслач.

**Да'ўкі** прым. Даўкі; які засядае ў горле, выклікае аскоміну. Яблыкі файныя на выгляд, але даўкія, ні можно есць, аскому набіваяш. Белева.

**Даўме'цца** зак. Зразумець, дадумацца. Я нават ні даўмеўсо, што так можно будзя зрабіць. Кругляны.

**Даўне'йшы** прым. Даўнейшы, мінулы. Ні ўспамінай пра даўнейшы час, што было, каб яно век ні вярнуласо. Круглікі.

**Даўны'м-даўно'** прысл. Вельмі даўно. Гэта, брат, было даўным-даўно, ні за нашай памяцю. Белева.

**Даха'т** прысл. Дахаты, дадому. Хопіць гуляць, пара дахат збірацца. Лаша

**Дахвато'вы** прым. Хваравіты, схільны да захворванняў. Конь некі дахватовы: вады халоднай як нап'ецца, так і зноў залазуя. Вялікая Жорнаўка.

**Дахо'даваць** зак. Зжыць са свету, давесці да смерці. Відаць, старого хоча даходаваць, а хату прадаць. Гродна.

**Дахо'дзіць** незак. Слабець, траціць сілы. А ніякай рады німа, чалавек даходзіць, доўго ні працягне. Лаша.

**Да'цца** зак. Змарнець, схуднець. За зіму чалавек зусім даўсо, ні пазнаць. Луцкаўляны.

**Даць** зак. Даць. Даць дзецям волю — сам пападзеш у ніволю /прымаўка/. Рагачы. Даць бярозавай кашы — пакараць, адлупцаваць. Ой, мусі, і даў бярозавай кашы ім, будуць ведаць. Свіслач. Даць драпака'— пусціцца наўцёкі, уцячы, даць дзёру, драла, лататы. Але ж і даў драпака, толькі яго і бачылі. Палаткова. Даць ду'ху — хутка зрабіць, выканаць работу. Ну, вы і далі духу; думалі, на некулькі дзён будзя выбіраць бульбы, а вы за дзень амаль кончылі. Гібулічы. Даць ды'хту — пасварыцца, расправіцца, прабраць каго-небудзь. Я яму такого даў дыхту, што дзісятаму закажа. Квасоўка. Даць лататы — уцячы, даць драпака. Хлопяц паглядзеў чым пахня і даў лататы. Пракопавічы. Даць махнідрала — пусціцца наўцёкі. Пакуль тыя агледзяліса, та ён даў ўжэ махнідрала. Рагачы. Даць нурца' — нырнуць у ваду. Хацеў просто з мосту даць нурца, але здрэйфіў: натта ж высоко. Балічы. Даць фефяру — пакараць, адлупцаваць. Але ж і даў свайму хлопцу фефяру, будзя знаць, як другі раз бзыкаць на дзеда. Свіслач. Даць храпака'— добра паспаць. Як прыехаў тады, та як даў храпака, аж да палудня спаў. Балічы. Даць цу'гу — уцячы. Паглядзеў на ўсё гэта, ды як даў цугу, тулькі міне і бачылі. Луцкаўляны.

**Да'чка** ж. Горшы гатунак фабрычнага белага палатна. Дачка ідзе на прастыні, ціпер дачкі німа, каб была, бралі п. Гайкі.

**Дачу'шка** ж. Дачка /памянш. — ласк./. А дачушка, а я ўсе думаю, чаму цібе так доўго німа, дзе падзеласа. Свіслач.

**Дашчэ'нту** прысл. Начыста, датла, ушчэнт, поўнасцю. Гаспадарку зруйнавалі дашчэнту, усё пазабіралі. Малахавічы.

**Дбаць** незак. Дбаць, праяўляць клопаты, турбавацца. Хто дбая, той і мая / прыказка/. Абухава.

**Два** чаты'рыста лічэб. Дзве тысячы чатырыста. За кабылу, што загранiцу пашла, мне палякі заплацілі два чатырыста злотых. Зарубічы.

**Двор** м. Двор, сялянскі дом, хата з усімі пабудовамі. У Кунцаўшчыні некалі дваццаць адзін двор быў, ціпер больш сарака хат. Кунцаўшчына.

**Дво'рны** прым. Дваровы; прыслуга пры панскім двары, парабак. З дворным пан, што хацеў, мог зрабіць; мог зімой выгнаць з двара. Свіслач.

**Двузі'мак** м. Жарабя, якое перазімавала дзве зімы. Двузімак у воз ашчэ ні запрагалі, малады. Рудавіцы.

**Двухво'стка** ж. Палёвы прус, невялікае насякомае з дзвюма вострымі выпусткамі на канцы тулава, якімі шчыпае. Паяўляецца пад падвешанымі на плоце анучамі. Як падымяш ганучу, так двухвостка і загіжыць, забегая, бо яна свету баіцца. Свіслач.

**Джвэ'нгнуцца** зак. Моцна ўдарыцца, стукнуцца. Цемнавата было, ішоў, та як джвэнгнуўсо галавой аб вушак, аж іскры з гачу пасыпаліса. Карозічы.

**Джгаць** незак. Біць, сячы. Як пачаў джгаць каня пугай, та аш шкада стало, а ён наравісты, ані з месца. Бакуны.

**Джы'гаўка** ж. Балячка. Нека джыгаўка на шчацэ выскачыла, і сам ні ведаю ат чаго. Адэльск.

**Джынго'л** м. Кутас. У нас аднаго празывалі джынгол, бо ён насіў ашчэ кавалерам пояс з джынгаламі. Кунцаўшчына.

**Джэ'мгало** м. Чалавек, які назойліва, дакучна паўтарае адно і тое ж надаедлівы чалавек. Джэмгало некі, надаеў за цэлы дзень, усе джэмгая адно і тое. Свіслач.

**Джэ'мгаць** незак. Надаедліва паўтараць адно і тое ж. Пакінь джэмгаць, надаеў,

як горка рэдзька, усе адно і тое джэмгая. Свіслач.

**Дзвіжэ'не** н. Рэлігійнае свята 14 верасня па ст. стылі. На дзвіжэне фэст у нас быў у Дзярэчыні. Людзі з'яджаліса з усіх вёсак. Рудавіцы.

**Дзвіжо'к** м. Матор, бензінавы рухавік. Дзісь кіна, пэўно, ні будзе: дзіжок ні заводзіцца, хібо зламаўсо. Лікоўка.

**Дзе'вер** м. Дзевер, мужаў брат. Гэта мне Іван прыходзіўсо дзевярам, ціпер німа, памёр. Свіслач.

**Дзевяціра'нка** ж. Лекавая расліна. Дзевяціранка — такое зелье, памагало ад дзівяці хвароб, таму і дзвяціранка. Гліняны.

**Дзед** м. Прыстасаванне, у якое ўтыкалася лучына для асвятлення ў курнай хаце. Дзед браў лучыну ў зубы і свяціў — казалі старыя людзі. Парэчча. Дзед у нашай старой хаці і ціпер прыбіты на сцяне. Азяркі. У дзеда можно было ўставіць адну лучыну, а можно і больш. Бакуны.

**Дзе'дзіч** м. Уладар маёнтка, землеўладнік. О, ён дзедзіч быў, у яго аднаго лесу было гактараў сто. Малое Дзямідкава.

**Дзе'ды** мн. Дзяды, абрад памінання нябожчыкаў; дзень, калі выконваецца гэты абрад. Дзеды бываюць восеню, за шэсць нідзель перат колядамі, другія дзеды — перад вялікдзень за сем нідзель. На дзеды падавалі на стол дзевяць патраў. Зарубічы.

**Дзе'жка** ж. Дзежка, драўляная пасудзіна з клёпак для заквашвання хлеба. Дзешка ў кожнай хаці была, у ёй рашчынялі хлеб, мясілі, трымалі квас. Бандары. Дзешкі куплялі ў Лунай, былі файныя дзешкі с сасновых і дубовых клёпак. Сухая Даліна.

**Дзень** м. Дзень. Цэлы дзень смаліло слонца, усё пасохло. Баранава. Бе'лы дзень — працоўны дзень. Дзе гэта хто бачыў, белы дзень — а ён, халернік, заваліцца і спіць. Кунцаўшчына. Дзень до'бры — танец або песня, якую музыканты выконваюць у час вяселля па заказу за індывідуальную аплату. Як заграюць музыканты аднаму дзень добры, так кожны грошы і гатовіць, як да яго прыдуць, каб заплаціць. Талочкі. Дзень до'бры — прывітальны зварот пры сустрэчы. Дзень добры! Як маяцяса, як здароўя жонкі, дзетак? Квасоўка.

**Дзеньку'е** часц. Дзякуй; дзякую. Ты думаеш, табе за гэта дзенькуя хто скажа? Гожа.

**Дзеньку'ю** у знач. наз. Дзякуй. За дзенькую ніц ні купую /прымаўка/. Талочкі.

**Дзепута'т** м. Дэпутат. Ціпер ён дзепутат, можа памахчы шыферу дастаць, усім памагая. Кавалічы.

**Дзе'раво** н. 1. Дрэва /расліна/, драўніна. Добраго дзерава на хату навазіў. Ліцвінкі. Яблыко ад дзерава далёко ні падая /прыказка/. Свіслач. 2. Дзераво н. Стрэмка. Дзераво забіла пад ногаць, а ніяк ні дастану. Рацічы.

**Дзеравя'ны** прым. Драўляны, зроблены з дзерава. У нас некалі дзеравяны плуг быў, бацько гараў, сператком такім. Кунцаўшчына. Дзеравя'ныя вілы'— вілы, зробленыя з рагуліны дрэва. Дзеравяныя вілы добрыя былі сено варочаць, трасянку трасці, снапэ падаваць. Сухая Даліна. Дзеравя'ны вуга'ль — вугаль, атрыманы са спаленага дрэва ў смалярні ў працэсе дабычы смалы і шкіпінару. Дзеравяны вугаль выпальвалі с сасновых карчоў для кузняў. Бліскія кавале прыязджалі да Рыбніцы хурманкамі, бралі. Рыбніца.

**Дзераза'** ж. Дзераза, расліна з паўзучым сцяблом. Як малыя былі, хадзілі ў лес па дзеразу, вілі вянкі, затыкалі святам за абразэ. Пагараны.

**Дзеся'туха** ж. Рэлігійнае свята ў дзясятую пятніцу пасля вялікадня. Дзісятуху ні ўсе святкавалі, у нас нікаторыя святкавалі, як работы такой ні было. Галавачы.

**Дзесяці'на** ж. Дзесяціна, старая мера зямельнай плошчы, роўная 2400 кв. сажаням, або 1,09 га. За польскім часам дзісяціна зямлі дораго стоіла, больш як 1000 злотых. Лаша. Як дзеўка выходзіла замуж, давалі ў пасаг дзісяціну зямлі, а то ніхто ні браў. Круглікі.

**Дзе'ўка** ж. Дзяўчына. Як шаснаццаць рок міне, та лічылася ўжэ дзеўка, бацьке стараліса замуж аддаць, каб у хаці ні была. Прыгодзічы.

**Дзе'ўчына** ж. Дзяўчына-падлетак. Дзеўчына ў нас адна служыла, прышла з-за Нёмна, казала — сірота. Квасоўка.

**Дзе'ці** мн. Дзеці. Дзеці, дзеці, добро з вамі ў леці, а зімой — хоць ап печ галавой /прымаўка/. Дарашэвічы. Дзеці — радасць, дзеці і гора /выслоўе/. Завадзічы.

**Дзе'цка** мн. Дзеці. Гэта дзецка ўсё так натварылі, параскідалі — так казалі ў Пагаранах. Як я сказаў "дзецка" ў Гібулічах, та ўсе з міне сміяліса, сталі празываць «дзецко». Пагараны.

**Дзіві'цца** незак. Здзіўляцца. Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца /прыказка/. Жукевічы.

**Дзівя'тнік** м. Рэлігійнае свята ў дзявяты чацвер пасля вялікадня. Ціпер хто той дзівятнік святкуя, нават ні ведаюць, што такое свято было. Хамякі.

**Дзі'кі** прым. 1. Не культываваны /пра расліну/. Даўней на кожнуй мяжэ па некулькі дзікіх грушаў расло, а ціпер ні відаць. Балічы. 2. Дзікі — не прыручаны /пра жывёлу, птушак/. Дзікія галубы вядуцца на гарэ, аднекуль узяліса. Гродна. Дзіка рожа — мальва. Каля хаты дзіка рожа расце, такім ружовым цветам цвіце, а бывая і бела. Кунцаўшчына. Дзікае мясо — балючая нарасць на ранах, якія доўга не гоіцца. Нека дзіка мясо нарасло, баліць, аш прышчыць. Лікоўка.

**Дзіра'** ж. Дзіра. У хаці ні вытрымаць, халадно, пат падрубамі — дзіры, вецяр свішча. Старая Дубавая.

**Дзіра'вы** прым. Дзіравы. У дзіравы мяшок сколькі ні сып, ні насыпляш /прыказка/. Славічы.

**Дзі'рка** ж. Дзірка. Патрэбна гэта мне, як у мосці дзірка /прымаўка/. Славічы.

**Дзі'сей** прысл. Сёння, цяпер. Дзісяй рабіць ні пойдзям: велька свято. Кавальцы.

**Дзі'сь** прысл. Тое, што і дзісей. Дзісь работы хватая, кап толькі хацеў рабіць. Хліставічы.

**Дзі'сяка** прысл. Сёння, цяпер. Дзісяка ні так людзі адзяваюцца, як раней, усё ў фабрычнум ходзяць. Зарубічы.

**Дзісято'к** м. Бабка, дзевяць снапоў, пастаўленых у кучку і прыкрытых дзясятым снапом. Жыто ставілі ў дзісятке, каб ні замокло пад дажджом, ні парасло. Лаша.

**Дзы'гаць** незак. Скакаць. Трэці дзень дзыгаю на адной назе, паляц скалечыў. Балічы.

**Дзы'нгаць** незак. Дзынкаць, дзінькаць. Пакінь дзынгаць на блясі, а то ў вушах ўжэ дзынгая. Кунцаўшчына.

**Дзю'ра** ж. Дзіра, дзірка. Хата старая, дзюра на дзюры, зусім цяпла ні трымая. Сцяцкі.

**Дзюркаце'ць** незак. Цурчаць, дзюрчэць, цячы. Вада ў склепі дзюркаціць, недзя прабіласа з зімы. Круглікі.

**Дзюрка'ч** м. Тоненькі струменьчык. Вада дзюркачом праз дзірачку цячэ, бульбу затопіць. Круглікі.

**Дзюрча'ць** незак. Цурчаць. Як помню, та гэты ручай тут дзюрчаў і ціпер дзюрчыць. Кунцаўшчына.

**Дзябё'лы** м. Дзябёлы, дужага целаскладу, поўны. Здаецца, такі дзябёлы чалавек быў, а хвароба ўрас скруціла. Пракопавічы.

**Дзя'га** ж. Дзяга, рэмень, папруга. Вунь дзяга вісіць, а ён круціць голаў, шукая. Лікоўка. Дзягу ахвіцэрску сабе прыдбаў, ужэ фарсіць у вёсцы. Кавалічы.

**Дзя'дзіна** ж. Дзядзіна, дзядзькава жонка. Дзядзіна міне і выгадавала, маці памярла. Брузгі.

**Дзядзі'нец** м. Дзядзінец, агароджаны вялікі двор пры пабудове. Каля клябані на дзядзінцу паставяць хурманкі, а самыя ідуць у цэркву. Лаша.

**Дзяды'** мн. Продкі. Я атсюль нікуды ні паеду, тут мае дзяды жылі, і я буду жыць. Пруды.

**Дзяк** м. Дзяк, ніжэйшы царкоўны служыцель у праваслаўнай царкве. Дзяк жыў у клябані, дзе ціпер магазін. Лаша.

**Дзя'лка** ж. Дзялянка, участак зямлі, адведзены для апрацоўкі ці забудовы. Якрас папаласа добра дзялка, лес бліско, рэчка. Караліно.

**Дзяпо'** н. Дэпо, будынак для стаянкі, рамонту лакаматываў і вагонаў. Мой тато больш дваццаць рок у дзяпе рабіў і на пэнсю аттуль пашоў. Гродна.

**Дзярга'ўка** ж. Дзяркач, драч. Дзяргаўку ні тулько злавіць, а нават і ўбачыць цяшко, так шыяцца ў траве. Новая Руда.

**Дяржа'ць** незак. 1. Трымаць. Ён так аслаб, што нават лошку ў руцэ ні можа трымаць. Лаша. 2. Гадаваць. Дзяржаць на трацяку дзве каровы ні ў сілах: ні пракорміш. Сухая Даліна.

**Дзярка'ч** м. 1. Дзяркач. Дзяркач зашыяцца недзя ў траве і дзярэцца, а знайсці ніяк ні знойдзяш. Рудавіцы. 2. Стары венік. Возьмяш дзяркач і шаруяш падлогу, каб бела была. Квасоўка.

**Дзяўбсці'** незак. Дзяўбаць дзюбай. Пятух бітушчы, прывык за ногі бабаў дзяўбсці, рады німа. Струбка.

**Дзяўзно'** н. Дзяўчына-падлетак /пагард./. Гэта ш такая дзяўзно, а рабіць нічого ні ўмея, заваліцца сабе і сядзіць. Дзекалавічы.

**Дзя'ўкаць** незак. Цяўкаць. Малы сабака да здыхаты дзяўкая. Горніца. Прывык вечно дзяўкаць, начальству заўдаваць, так і жыве. Вялікая Альшанка.

**Дзяўчо'** ж. Дзяўчына-падлетак. Якая з яе дзеўка, ашчэ дзяўчо, у школу ходзіць. Аульс.

**Дзяўчу'к** ж. Дзяўчынка; тое, што і дзяўчо. Яна малая ў нас, дзяўчук ашчэ, дзе ёй замуж ісці. Лаша.

**Дзя'целіна** ж. Дзяцеліна, дзікая канюшына, дзяцельнік. Дзяцеліна як зацвіце — беляхціць, мёдам пахня. Батароўка.

**Дзяцю'к** м. Юнак, хлопец. Дзяцюк ужэ, на забавы ходзіць, скача. Грандзічы.

**Днічо'к** м. Дзянёк. Дзякаваць Богу, ночку прамэнчыўсо, днічок святы настаў. Верцялішкі.

**До'гляд** м. Догляд, нагляд, клопат. Ціпер зусім другое, дзеці догляд добры маюць, ні тое, што калісьці было. Славічы.

**До'йло** н. Вымя. Дойло ў каровы добрае, а малака чамусьці німа. Кунцаўшчына.

**До'ля** ж. Доля, частка. Зямлі зусім мало мелі, старшы прадаў сваю долю, пашоў па дварах служыць. Кавалічы

**До'ля** ж. Доля, лёс, становішча. Нічого добраго ні бачыла, відаць, доля такая. Грандзічы.

**До'рага** прысл. Дорага. Дораго заплаціў за карову, яна гэдулькі ні стоіць, перадойка. Бандары.

**До'рнік** м. Прабойнік, мыслік. Дорнік з добрай сталі, ашчэ дзедаў, у любым жалезі дзірку праб'е. Рыдзелі.

**До'сыць** прысл. Досыць, даволі, дастаткова. Досыць тады мы нагараваліса, хай ён гарыць, з тым часам. Саволеўка.

**До'ўбянка** ж. Даўбёнка, пасудзіна ў выглядзе бочачкі, зробленая з суцэльнага куска драўніны. Доўбянка добра для круп, у ёй яны доўго ні псуюцца. Азяркі, Грандзічы.

**До'ўго** прысл. Доўга. Ці доўго я буду тут с табой валаводзіцца, ты што сабе думаяш? Жытомля.

**До'ўжыцца** незак. Доўжыцца, здавацца даўжэйшым, чым звычайна. Доўжыцца аднаму ў хаці, дзень станя рокам. Рыбніца.

**До'хтар** м. Урач, лекар. Ля, яго сын на дохтара вучыцца, дохтарам станя. Лаша.

**До'чачка** ж. Дачка /памянш. — ласк./, дачушка. А, мая ты дочачка, ты чаму так змізарнела; мусі, хвора. Раўкі.

**До'чка** ж. Дачка. Яго дочка была файная, на ўсю акругу, але пасагу ні мог гаць. Зарубічы.

**Дошч** м. Дождж. Цалютку ноч дошч цубаніў, ні сціхаў. Жытомля.

**Драбі'на** ж. Драбіна, драўляная прыстаўная лесвіца. Доўгу драбіну прышлоса ставіць, ніяк ні маглі ўсе грушы абабраць. Малая Альшанка.

**Драбо'к** м. Драбок, крупінка, маленькі кусочак. Ашчэ бабушка наша казала: "Дай драбок солі». Соль такімі крышталікамі была. Кавалічы.

**Драбча'к** м. Воз з гнутымі невялікімі драбінкамі, застаўленымі спераду і ззаду сплеценымі з лазы паўкашамі. Драбчак у кожнаго гаспадара быў, ездзілі да Індоры на торг. Лаша.

**Дра'бчык** м. Тое, што і драбчак. У драпчык наложыш збожа і вязеш да Крынак прадаваць. Бакуны.

**Дра'бы** мн. Доўгі воз з драбінамі па баках для перавозкі снапоў, сена, саломы. У нас велькія драбы былі, больш дзьвух коп снапоў можно было ўлажыць. Кунцаўшчына.

**Драк** м. Цяслярская прылада, драчка, драка. Некалі сцены ў хатах лажылі пад драк, пілаваных ні было. Дзекалавічы.

**Дракава'ць** незак. Падганяць пры дапамозе драчкі адно бервяно да другога. Гэтыя сцены наш Янак дракаваў, бачыце, як роўно дапусціў. Рацічы.

**Дра'нка** ж. Дранка, тонкія дошчачкі для крыцця даху або абівання сцен пад тынкоўку. Дранку самы рабілі, калолі, ціпер гатову прадаюць, тулькі купляй. Скамарошкі.

**Дрантве'ць** незак. Дранцвець, дзеравянець, нямець. Адна нага нечаму дрантвея, ні чуяш, як мёртва. Грандзічы.

**Дранцве'ць** незак. Тое, што і дрантвець. На правым баку аніяк ні магу спаць, нешто рука дранцвея. Кузьмічы.

**Дра'паць** незак. Драпаць, паспешліва ўцякаць. Немцы той рок як пачалі драпаць, та ўжэ ні прыпыняліса. Гродна.

**Драпа'ч** м. Драпак, прымітыўны культыватар з драўлянай асновай і жалезнымі зубамі /устар./. Драпач як пусціш глыбяй, так коні і ні пацягнуць, пыраю много было. Караневічы.

**Драпачава'ць** незак. Культываваць, апрацоўваць зямлю драпач. У нас спружыноўкі ні было, драпачом поле драпачавалі. Кунцаўшчына.

**Дра'тва** ж. Дратва, тоўстая, моцна прасмоленая нітка для шыцця абутку. Ні кожны шавец умеў добро дратву зрабіць, гэта ні так просто. Індура.

**Дра'хма** ж. Драхма, адзінка аптэкарскай вагі, роўная 3,75 г./устар. У аптэках ўсялякія парашке мералі на драхмы і прадавалі. Клачкі.

**Дра'цца** незак. Моцна крычаць. Пакінь драцца, тут цібе ніхто ні баіцца. Баранавічы.

**Драць** незак. Драць, раздзіраць. Назбіраласо пер'я, трэбо драць, на подушку будзя. Рацічы.

**Драч** м. Цеслярская прылада, драчка, драк. Нашу хату майстрэ ставілі пад драк, дзерево было ніроўнае. Адамавічы.

**Драч** м. Жалабок, вырубаны ў бервяне, у які заходзіць другое бервяно /пры ўзвядзенні будынка/. Вырубаць ў сцяне драч ні так просто, трэбо мець добру знароўку. Дзекалавічы

**Драчы'цца** незак. Дражніцца. Стары чалавек, а ўзяў звычай з малымі драчыцца, кожнаму дасць мянушку. Пагараны.

**Дро'бны** прым. Дробны. Дробны дожджык другія суткі сыпля, грыбэ будуць. Зарубічы.

**Дро'бязь** ж. Дробязь, дробныя жывыя істоты. Якая ў нашай рэчцы рыба, адна дробязь. Кунцаўшчына.

**Дро'ва** мн. Дровы. Дрова маям, пазанапашвалі, будзя на цэлу зіму. Зарубічы.

**Дронг** м. Доўгі жалезны вал, які злучае малатарню з конным прывадам і прыводзіць яе ў рух. Як малоцяць у машыну, глядзяць, кап салома на дронг ні накручваласа, а то цяшко коням. Малая Альшанка.

**Дро'па** ж. Драфа, буйная стэпавая птушка. Дропа цяшко ўздымаяцца з зямлі, тато як нагнаў, та чуць за хвост ні схапіў. Кунцаўшчына.

**Дружба'нт** м. Шафер. Першай друшцы файны дружбант папаўсо, пекны хлопяц. Малая Альшанка.

**Дру'жка** ж. Дружка, шаферка, таварышка нявесты ў вясельным абрадзе. Адна друшка ні можа быць, найменш — дзве друшкі, а можа і чатэры быць і больш. Свіслач.

**Дружко'** м. Шафер. Ні помню, хто мой друшко быў, як Раіса замуш ішла, мусі, Барыскоў. Свіслач.

**Дружы'на** ж. Сям'я. У нас валька дружына была: і бацько, і маці, і шасцёро сыноў. Круглікі.

**Дружыць** незак. Дружыць, сябраваць. Я с Соняй даўно пачала дружыць. Мігова.

**Дру'нка** ж. Жэрдка ў драбіне воза / іх дзве/, на якой мацуюцца канцамі папярэчныя планкі. У драбіні дзве дрункі, на друнку можно едучы сядаць. Кунцаўшчына.

**Дручо'к** м. Кіёк, палка. Як пападзе конь наравісты, і дручок ні паможа. Пракопавічы. Добро, што дручок якраз у рукі папаўсо, а то сабакі заелі б. Белева.

**Дрыгві'сты** прым. Дрыгвяністы, багністы. Страшэнна дрыгвісты луг быў, каровы засядалі, вяроўкамі трэбо было выцягаць. Мінкаўцы.

**Дры'жыкі** мн. Дрыжыкі. Як убачыла немца, та аж дрыжыкі пашлі па целі, думала — ўсё. Дарашэвічы.

**Дрыль** м. Дрыль, слесарны інструмент. У жалезі можно дзірку тулькі дрылем пракруціць, больш нічым. Партызанская.

**Дры'нда** ж. Стары, разбіты воз або брычка. На гэтай, брат, дрындзі да касцёла ні даедзяш, калёса пагубіш. Занявічы. Дрында нека, ні каляска, брытко з паненкамі ехаць. Ланявічы.

**Дрындале'т** м. Стары, разбіты веласіпед. Купіў стары дрындалет і памалу ежджу сабе. Круглікі.

**Дры'паць** незак. Ісці, ступаючы часта і дробна. Вун, нека дзіця сцежачкай дрыпая, чые — ніхто ні ведая. Адэльск.

**Дрыпту'н** м. Той, хто дрыпае, ступае дробнымі крокамі. Стары дрыптун суняцца да нас, адзін ні хоча сядзець у хаці. Рудавіцы.

**Дрэ'нчыць** незак. Турбаваць, не даваць спакою. Гэта такі ўжэ ўрадзіўсо чалавек, яго аж дрэнчыць, каб каго ўкусіць. Рудавіцы.

**Ду'бальт** прысл. Удваўне больш. Мы з ім разлічыліса, ён з міне ўзяў нават дубальт. Прывалка.

**Дубальто'вы** прым. Падвойны, які складаецца з двух прадметаў. Ён на весну дубальтовыя окна ні дастае, і летам стаяць. Пералом.

**Дубаса'** прысл. Дыбам, тарчма, старчаком. Ат страху аж валасэ дубаса сталі, думаў: конь ні выплывя. Свіслач.

**Дубе'ц** м. Дубец, розга. Дзед возьмя дубец і страшыць дзіцей: "Я вас дупцом, распуснікі." Зарубічы.

**Дуда'** ж. Дуда, народны духавы музычны інструмент. Я на смык — ні прывык, а на дуду — граць ні буду /з нар. песні/. Лаша.

**Дудары'** мн., м. Народныя музыканты-скрыпачы, якія гралі ў корчмах /устар./. Дудары сядуць на слоні на горбі кажухаў і давай рэзаць, аш карчма ходырам ходзіць. Лаша.

**Ду'дка** ж. Дудка, народны музычны інструмент. Малымі мы самы рабілі дуткі, больш з белаго бэзу ці трасціны. Кавалічы.

**Ду'жы** прым. Дужы, значнай сілы. Дужы, як свіня ў лужы /прымаўка/. Сухая Даліна.

**Ду'лькі** мн. Пыл, які ўтвараўся пры часанні лёну. Чэшучы лён, дуляк наеласа, ні дыхнуць, сядзяць у грудзях. Баброўнікі.

**Ду'ля** ж. 1. Дуля, сорт ігрушы. У Сідаравых груша дуля расла, я сам бегаў раніцай падбіраць дулі. Кунцаўшчына. 2. Кукіш, фіга. А што я за гэта атрымаў? Дулю ў нос. Свіслач.

**Дуна'й** м. Як дунай — у значэнні вельмі прыгожы, вялікі, высокі /нар. — паэт. выраз/. Хлопяц, як дунай, высокі, файны, любо паглядзець. Галаўнічы. Пшаніца, як дунай, вырасла, сярпом ні зрэзаць. Сабаляны. Лён, як дунай, стаіць, любо паглядзець. Вялікая Альшанка.

**Дупё'лко** н. Невялікая бочачка з клёпак для піва, квасу. Некалі дупёлкі такія бандарэ выраблялі, прадавалі на кірмашах. Жытомля.

**Дуплава'ты** прым. Дуплісты, дуплаваты. Топаль, здаецца, здаровы быў, а аказаўсо дуплаваты, сарцавіна згніла. Казловічы.

**Дупля'вы** прым. Дуплісты, дуплаваты. Каля Парэча дуб есць, такі дуплявы, яму, кажуць, больш як пяцьсот рок. Рыбніца.

**Дурале'й** м. Дураслівец, свавольнік, дуронік, гарэза. Дуралей ні хлопяц, на месцы ні ўседзіць, усе круціцца. Круглікі.

**Ду'рань** м. Дурань. Нічого талковаго ў ім німа, дурань дый годзі. Квасоўка. Дурня корчыць — прыкідвацца дурным, неразумным. Што ты с сібе дурня корчыш, мы цібе ведаям. Лаша.

**Дурата'** ж. Дурасць. Дурата хлопцу

ў голаў улезла, і каго ён бярэ замуж? Круглікі. Дурата галавы — лішнія клопаты, непатрэбны занятак. Нашто мне яно патрэбна, гэта тулькі адна дурата галавы. Луцкаўляны.

**Дуры'ць** незак. Дурыць, дурманіць, падманваць. Стары цыган люльку курыць, а цыганка людзей дурыць /прыказка/. Зарубічы.

**Дурэ'ць** незак. Дурэць, сваволіць, забаўляцца. Дзеці, ні трэбо дурэць, ідзеця с хаты на двор. Літвінкі.

**Дух** м. 1. Паветра. Тулькі ад'ехаў ад хаты, гляджу — коло спусціло, духу німа. Кругляны. 2. Цяпло. Зачыняй печ, бо весь дух выдзя. Кавалічы. Дух заня'ць — спыніць дыханне. Нешто як шасня ў кустах, та ў міне аж дух заняло. Сухая Даліна.

**Духата'** ж. Духата, гарачае надвор'е. Духата страшэнна, смаліць увесь дзень. Старая Дубавая.

**Духва'ць** незак. Быць упэўненым, перакананым. Духваю, што ўсё будзя добро, німа чо баяцца. Путна.

**Дуча'й** м. Адтуліна ў верхнім камені жорнаў, у якую сыпалі збожжа. Адной рукой круціш млён, другой сыпляш ў дучай зерня.Стрэльчыкі.

**Душагрэ'йка** ж. Цёплая безрукаўка. Як сваго цяпла ні маяш, та і душагрэйка ні паможа. Казіміроўка.

**Душні'к** м. Душнік, адтуліна ў сцяне ў курнай хаце для праходу дыма. Баба казала: як аччыніш душнік, так дым і пойдзя с хаты. Бакуны.

**Ду'шна** прысл. Душна. Нека паркасць на дварэ, душно; мусі, дождж будзя. Свіслач.

**Ды'бам** прысл. Дыбам, тарчма, старчаком. Ад страху валасэ на галаве дыбам усталі; думаў — прапаў, але немцы прайшлі. Караневічы.

**Ды'баць** незак. Ісці дробнымі крокамі, няўпэўнена. Ён хоць дыбаць навучыўса, яму хадзіць яшчэ рано. Дубоўка.

**Ды'бачкі** мн. Кончыкі пальцаў ног. Я на дыбачках падабраўсо, глянуў туды, а там нікого німа. Баброўнікі.

**Ды'бкі** мн. Пальцы ног. Колік навучыўсо станавіцца на дыбкі, на паліцу нічого ні палажы, усё дастаня. Кунцаўшчына. Яму гэдак ні відаць, та ён станя на дыбкі і глядзіць на гуліцу. Гібулічы.

**Дыгна'ты** прым. Цыбаты, даўганогі, высокі. Сам дыгнаты, а жонка зусім маленька, як барылачка. Цыдовічы.

**Дыжу'рка** ж. Верхняе мужчынскае адзенне даўжынёй да кален, з дарагога матэрыялу. Некалі шляхта насіла дарагія дыжуркі, на медныя гузікі зашпільваліса, пекныя такія. Эйсманты.

**Ды'кта** ж. Фанера. Некалі ў Мастах на фабрыцы файну дыкту выраблялі. Гібулічы.

**Ды'лда** ж. Высокі, нязграбны чалавек / пагард./. Я на гэту дылду глядзець ні хачу, ні тулькі справу мець. Зарубічы.

**Ды'лі-ды'лі!** Гукаперайманне ігры на скрыпцы /дзіцяч./. Дылі-дылі, скрыпачка, а ў норцы — лісачка, а ў лісіцы новы двор, тры паненкі на выбор /з нар. песні/. Лаша.

**Ды'ліна** ж. Доўгая тоўстая дошка. Ашчэ ў прошлым року гэтыя дыліны прывёз, думаю новыя вокна рабіць. Славічы.

**Дыма'р** м. Дымар, прылада для падкурвання пчол. Як добры дымар і паволі дыміць, ні адна пчала ні ўкусіць. Грынёўка.

**Ды'мка** ж. Насенне бульбы, цыбулі, яравізаванае шляхам утрымання ў цёплым месцы. Дымка-цыбуля ляпей расце, чэрві ні так нападаюць. Рудавіца.

**Ды'хавіца** ж. 1. Дыхавіца, упадзіна ў ніжняй пярэдняй частцы грудной клеткі. Коні галодныя, вун як дыхавіцы паўпадалі, дзе тут гараць будзяш. Сухая Даліна. 2. Дыхавіца, хвароба бронхаў, цяжкае дыханне, задышка. Дыхавіцу можно каню ўвагнаць, а дыхавічнаго каня ўжэ ні вылячыш, ні паедзяш ім. Пералом.

**Дыхаві'чны** прым. Які мае адносіны да дыхавіцы. Дыхавічны конь цаны ні мае, яго ніхто ні купіць, можа, тулькі цыганэ, кап чалавека якого потым абмануць. Кунцаўшчына.

**Дыхт** прысл. У самы раз, якраз. Але

і атпілаваў дошку, дыхт падышла, як мая быць. Малая Жорнаўка.

**Ды'хта** ж. Фанера. Як выбілі хату дыхтай, зусім стало іначай: і харашэ, і цяпло. Ласосна.

**Дыхто'ўны** прым. Добры, надзейны, стойкі. Дыхтоўныя боты зрабіў мне Трахім, будзе ні брытко і па сяле прайсціса. Лікоўка.

**Ды'шаль** м. 1. Дышаль, жэрдка у параконным возе, прымацаваная да восі пярэдніх калёс. Куды дышаль коні павернуць, туды і воз ідзе. Балічы. 2. Дышаль, дэталь плуга. Гэты рок такое бульбавене вырасло, што пад дышаль патпірало, выгорваць цяжко было. Літвінкі.

**Ды'шла** н. Тое, што і дышаль у параконным возе. Закон як дышло, куды павярнуў — туды і вышло /прыказка/. Сухая Даліна.

**Дыя'бал** м. Д'ябал, чорт, нячысты дух. Чысты дыябал: увесь вымазаўсо сажай і стаіць на гуліцы. Перстунь.

**Дэ'баць** незак. Ісці дробнымі крокамі, нязграбна. Стары наш з кіёчкам ледво можа дэбаць каля хаты, да адрыны ні дойдзя. Каўпакі.

**Дэ'нко** н. 1. Драўлянае вечко, накрыўка. Мясо як пасоляць у цэбры, та дэнкам накрываюць, кап што ні ўлезло. Белева. 2. Кухонная дошка з ручкай. Гэта дэнко ашчэ Ігнась зрабіў пры немцах, палічэця, колькі рок служыць нам. Пагараны.

**Дэ'нтка** ж. Веласіпедная камера. Дэнтка недзі прабіта, дух спуская. Вялікая Альшанка.

**Дэ'раш** м. Конь шэрай масці з прымессю чырвона-цёмнага колеру. У Івана дэраш быў, наравісты такі, як станя, з месца ні зрушыш. Квасоўка.

# Е

**Еванге'ле** ж. Евангелле. Евангеле хлеба ні намеле /прыказка/. Радзевічы.

**Е'гдзіць** незак. Ездзіць. Нашы ўсе да Лунай егдзяць па парасята, танней купіць, як у Індоры. Лаша.

**Е'дкі** прым. 1. Едкі, які выклікае моцнае фізічнае раздражненне. З ялаўца натта ж еткі дым, гочы выядая. Свіслач. 2. Добра прынімае ежу /пра жывёлу/. Еткі паршучок удаўсо: што ні дасі, ўсё вылахая. Круглікі.

**Е'днасць** ж. 1. Еднасць, адзінства, згуртаванасць. У нас, у Кунцаўшчыні, еднасць была: хай каго зачэпяць, так ўсе падымуцца. Кунцаўшчына. 2. Еднасць інтарэсаў. Каб ва ўсіх людзей еднасць была, та вайны ні было б. Круглікі.

**Ездавы'** прым. 1. Ездавы, прызначаны для язды. Ездавого каня ў плуг ні запрагалі, на ім тулькі вярхом егдзілі. Рагачы. 2. У значэнні "ездавы салдат", які правіў коннай запрэжкай. Наш Кастусь ездавым быў, як служыў у анцілерыі. Кунцаўшчына.

**Езуі'т** м. Езуіт. Езуіты багатыя былі, нават маёнткі мелі свае. Каханова.

**Е'лкі** прым. Ёлкі, прагорклы /пра нясвежы тлушч/. Гэту сланіну мы ні ямо, яна даўнейша, елкая стала. Лікоўка.

**Е'нк** м. Енк, крык ад болю, пакуты, адчаю. Я схапіўсо, чую енк некі на дварэ, глянуў — гумно гарыць. Дарашэвічы.

**Е'нчыць** незак. Стагнаць, крычаць ад болю. Нека скула хлопцу села на шыю, месца ні знаходзіць, ўсё енчыць. Капцёўка. 2. Сварыцца, крычаць. Гэта такі ён: на кожнаго прывык енчыць, ці есць за што, ці не. Грыўкі.

**Erапла'н** м. Самалёт.У тую вайну некі ераплан на Гаукову адрыну сеў, старого чуць ні прыдушыў. Рудавіцы.

**Е'рзаль** м. Неакуратны, неахайны чалавек. Што гэта ў цібе ганавіцы заўсёды спушчаны, ходзіш, як які ерзаль. Свіслач.

**Е'рзаць** незак. Круціцца, неспакойна сядзець. Ён і ў школі на месцы ні ўседзіць, усе ерзая. Свіслач.

**Е'сці** незак. 1. Есці, прымаць ежу. Ашчэ ў році ні расіначкі ні мела, і есці ні хочацца. Квасоўка. Ежмо, дзеці, зацерку, пакуль цёплая. Каленікі. 2. Кусаць, грызці /пра насякомых/. Моль есць пальто і рады німа, аднекуль узялаca. Гібулічы. 3. Перан.: даймаць, назаляць, не даваць спакою. Гэта цёшча яго ела, ела, пакуль ён сам с хаты ні ўцёк. Капцёўка. Мала кашы еў — у значэнні: слабы фізічна. Ты, брат, мало кашы еў, кап такі мяшок узяць на плечы. Круглікі.

**Е'ціца** ж. Аўсянік; тое, што і яціца, крылатае насякомае. Паложыш бляху на лотку, разложыш агонь, і еціца ляціць на яго, падая. Ласосна. Бывала, столькі еціцы насыпляцца на мост, што машыны слізгаюцца, ісці ні могуць. Пышкі.

# Ё

**Ё'жык** м. Вожык. У тым року ёжык чысто яблыкі панасіў, як завёўсо ў саду. Грыўкі

**Ё'лачка** ж. Елачка. 1. Маленькая елка. Ёлачка аднекуль узялаca, вырасла за адрынай. Рудавіцы. 2. Спосаб вышыўкі ніткамі. Абшыяш хустачку ёлачкай і добро, ужэ нітакая. Баброўнікі.

**Ё'лка** ж. Елка. Бацюшка Надарынскі шторок пры паляках ставіў ёлку для дзіцей. Свіслач.

**Ё'луп** м. Бесталковы, тупы чалавек, дурань, асталоп /лаянк/. Ах ты, ты ёлуп стары, куды табе раўняцца з маладымі. Кунцаўшчына.

**Ё'лупень** м. Тое, што і ёлуп. Паслухаяш яго — пляце нешто, вядома, ёлупень. Круглікі.

**Ё'місты** прым. Ёмісты, здольны змясціць у сабе вялікую колькасць. Саган даволі ёмісты купіла, больш, як кошык, бульбы лезя. Каранявічы.

**Ёмкі** прым. Ёмкі, зручны. Ёмкі кій пад рукі папаўсо, лягчэй будзе ісці. Квасоўка.

**Ёрш** м. 1. Дробная прэснаводная касцістая рыба з калючымі плаўнікамі. Якая ў нас рыба, адны яршэ пападаюцца ў волак. Балічы. 2. Мужчынская кароткая стрыжка. Наш Міхалко любіў пад ярша патстрыгацца, яго Яршом і празывалі. Лаша. 3. Сумесь гарэлкі з півам. Як зробіш ёрш, та ад адной шклянкі ачумеяш, у мазгах закруціць. Гібулічы.

# Ж

**Жаба** ж. 1. Жаба. У лузе жабы крумкаюць — пара лён сеяць /прык-мета/. Кунцаўшчына. Гэтай хіміяй усіх жабаў патравілі, буслам німа чаго есці. Круглікі. 2. Дэфект у самаробнай тканіне. Як я ткала, та ў міне кужаль глаткі такі, ні адной жабы ні было. Свіслач. Грудная жаба — сардэчная хвароба, стэнакардыя. Ён казаў, што ў яго грудная жаба, а зноў да 90 рок дажыў з гэтай жабай. Жукевічы. Жаба малая — дакорлівае абзыванне дзяцей. Ах ты, жаба малая, ты куды гэта лезяш? Навасёлкі. Жаба цыцкі дасць — ужываецца ў значэнні: вельмі позна. Пакуль вы гэты загон дажнеця, та вам жаба цыцкі дасць. Дарашэвічы.

**Жа'бінец** м. Жабнік звычайны, водная шматгадовая травяністая _ расліна сям'і жабнікавых. Мая баба казала, што жабінцам некалі лячылі, як сабака шалёны пакусая. Кажуць, памагаў. Лаша.

**Жабра'й** м. Лекавая расліна. Жабрай такі невысокі, ён у бульбі расце, памагае ад многіх хваробаў. Клінчаны.

**Жабурэ'не** мн. Жабіна ікра. Дзе жабурэне ў сажалках, там рыбы німа, так і знай. Кунцаўшчына.

**Жада'ць** незак. 1. Жадаць, хацець. Кожны жадае быць харошым, а дзе ніхарошыя дзенуцца. Галавачы. 2. Зычыць. Жадаю табе троя — шчасця, долі і здароўя /прымаўка/. Пяслі.

**Жа'дны** займ., прым. Ніякі. Жадная жабрачка да нас ні заходзіла, ні была. Ніхто яе ні бачыў. Зарубічы.

**Жа'кавіца** ж. Малое рухавае, настырлівае дзіця. Забяры ты гэту жакавіцу, ні дае нічога рабіць. Свіслач.

**Жале'зны** прым. Жалезны, зроблены з жалеза. Помню, у маго бацькі жалезны плуг быў, а ўсе гаралі дзеравянымі, ні было жалезных. Кунцаўшчына. Жалезнае пута — пута ў выглядзе ланцужка з жалеза. Каб зладзея з балота коняй ні кралі, путалі жалезнымі путамі, замыкалі. Рагачы. Жалезная дарога — чыгунка. У нас ні называлі чыгунка, а ўсе — жалезная дарога. Гродна. Жалезны ход — пра воз на жалезных восях. Ціпер німа вазоў на дзеравяным хаду, усе на жалезным. Баброўнікі.

**Жале'ства** мн. Непатрэбныя жалезныя рэчы, жалезны лом, жалеззе. Жалества гэтага ў нас усюды валяецца, тулькі збірай. Зарубічы.

**Жалё'за** ж. Залоза. Маладыя пчолы такіх жалёзаў ні маюць, каб выраблядь мёд, яны вашчыну тулькі цягнуць. Грынёўка.

**Жа'ліць** незак. Джаліць, кусаць. Як п'яны, да пчол лепш ні лезь, бо будуць жаліць, заядзяць. Грынёўка.

**Жа'ло** н. Джала. Пальцамі жало ні даставай, трэбо збоку чым паткалупнуць. Грынёўка.

**Жало'пкаць** незак. Прагна піць. Што ты жалопкаяш халодну воду, зноў горло заложыць. Малая Альшанка.

**Жаля'зко** н. Прас. Гэта жаляско ў Індоры купіла, яму больш як сорак рок. Кунцаўшчына.

**Жалязні'ць** незак. Наводзіць глянец на паверхні бетона, пакрываючы яго слоем стопрацэнтнага цэменту. Мікалай хадзіў да вайсковых жалязніць ходнікі, грошы добрыя браў. Баброўнікі.

**Жандаро'вы** прым. Светла-чырвоны. Бабы некалі насілі рознага колеру андараке, былі андараке рабыя, зялёныя, жандаровыя. Сухая Даліна.

**Жані'ло** н. Жаніх. Жаніло стары, ніяк ні падбярэ сабе дзеўкі, ні ажэніцца. Пагараны. Жаніло паехаў па мыло / прымаўка/. Свіслач.

**Жані'х** м. Жаніх. Як жаніх есць, та і вяселе будзя /прымаўка/. Сухая Даліна.

**Жар** м. Гарачае вуголле. Чужымі рукамі добро і жар заграбаць /прыказка/. Ласосна.

**Жара'** ж. 1. Гарачыня, спёка. Жара страшэнная, усё павысмальвало, ні дыхнуць. Кульбакі. 2. Павышаная тэмпература цела ў час хваробы. Добро, што тады жару збілі, а то хлопяц мог ні вытрымаць. Каменная Русота.

**Жарабе'ц** м. Жарабец. У Навіковых да вайны ашчэ быў жарабец, дэраш такі, пасля немцы забралі. Карозічы.

**Жарабі'ца** ж. Жарабіца, жаробка. Перш чым у воз запрагаць, жарабіцу трэбо ў плузі навучыць хадзіць. Лаша.

**Жарант** м. Сведка. Грошы табе ніхто так ні дасць, давай жаранта, тады і пазычу. Зарубічы.

**Жарло'** н. Месца ў крыніцы, адкуль б'е вада. У нашай крыніцы нават у самы большы мароз жарло ні замярзая, тулькі пара валіць. Караневічы.

**Жаро'бна** прым. Жарэбная. Кабыла жаробна, боязно ў такую слізгавіцу ў дарогу выяжджаць, каб ні ўпала. Саломенка.

**Жа'ртачкі** мн. Жарты /памянш./. Кату жартачкі, а мышцы слёзы /прыказка/. Кунцаўшчына. Гэта табе ні жартачкі — гаспадарку вясці. Круглікі.

**Жарэ'бчык** м. Жарабок /да двух гадоў/. Ля, жарэпчык некі адбіўсо ат коней, бегая, іржэ. Дарашэвічы.

**Жа'тка** ж. Жняярка. У нашым сяле тулькі ў аднаго чалавека была жатка. Кунцаўшчына.

**Жаўру'к** м. Жаваранак. Жаўрук прыляцеў — вясна будзя /нар. прыкмета/. Сонічы.

**Жаўта'вы** прым. Жаўтаваты, светлажоўты. Пекную жаўтавую блюзачку купіла сабе на таўкучцы. Жукевічы.

**Жаўта'чка** ж. Жаўтуха, хвароба печані. Даўней, маці казала, ад жаўтачкі лячыліса самы, пілі нека зелье. Лаша.

**Жаўту'ха** ж. Тое, што і жаўтачка. Мусі, у Вацюка жаўтуха, зусім зжаўцёў, рады німа. Батароўка.

**Жвацяня'** н. Жывот /пакянш. — ласк./. Дзіця зусім схудло, тулькі жвацяня адно наставіласо. Кавалічы.

**Жвінда'** ж. Нудны, надакучлівы чалавек, ныцік. Жвінда нека, усе жвіндзіць і жвіндзіць адно і тое, надаело слухаць. Віцькі.

**Жвіндзе'ць** незак. Дакучаць нуднымі размовамі. Кінь жвіндзець, ты ўжэ нутро мне пераеў. Гарны.

**Жвір** м. Жвір. Якая там у нас зямля была, адзін жвір, нічого ні расло. Падліпкі.

**Жвіро'ўня** ж. Месца, дзе бяруць жвір. З Журневічавай жвіроўні ўсе жвір бралі, круге да студняў рабілі. Квасоўка.

**Жвірча'к** м. Зямля, у якой пераважае жвір. У нас кепска зямля была, як гарэш, та плуг аж звініць па жвірчаку. Кавалічы.

**Жвот** м. Жывот. Як жвот забаліць, та перша лякарство было бабок, нап'есса — і перастаня. Свіслач.

**Жвя'каць** незак. Надакучліва паўтараць адно і тое ж. Характар у яе дурны: як начне жвякаць, та галава пэнкае ад ўсяго гэтаго. Дарашэвічы.

**Ждаць** незак. Ждаць, чакаць. Ждала мясаеду — думала паеду, мясает прайшоў, і ніхто ні зайшоў /прыказка /. Славічы.

**Жжахну'цца** зак. Перапалохацца. У воду як шаўбусну'ла, та аж жжахнуласа. Адэльск.

**Жло'паць** незак. Прагна есці. Паршучок удачны, як пачне жлопаць, та пакуль усяго ні выесць, ат карыта ні адыдзя. Лаша.

**Жме'ня** ж. 1. Жменя /у значэнні: далонь і пальцы/. Адгадай, што у міне ў жмені. Карозічы. 2. Пучок сарваных, зжатых раслін, якія можна абхапіць далонню і пальцамі. Яна хутко жала, як замахне сярпом, як замахне, так і зноў жменя жыта. Малая Жорнаўка. За вечар жменяў дваццаць лёну вытраш і ідзеш спаць. Гарны.

**Жмінда'** м. Скнара, скупы чалавек. Гэта такі быў жмінда, што есці сабе шкадаваў, ні тулькі каму даць. Кунцаўшчына.

**Жмот** м. Скнара, скупы чалавек. З гэтым жмотам ні толькі знацца, а і чуць аб ім ні хачу. Рагачы.

**Жму'ркі** мн. Жмуркі. Я з табою ў жмуркі гуляць ні буду, ні на такого ты нарваўсо. Лікоўка.

**Жмут** м. 1. Невялікі скрутак. Я тады цэлы жмут папераў спаліў, баяўсо, што немцы знойдуць. Гродна. 2. Скнара, скупы чалавек. Жмут, ён нігды капейкі сваймy дзіцяці ні дасць. Балічы.

**Жмыха'** ж. Макуха, рэшткі семя /ільняного, канаплянага/ пасля выціскання з яго алею. Даўней галей выціскалі, а жмыхой свіня кармілі, кругамі такімі прадавалі. Жылічы.

**Жмя'каць** незак. Мяць, камячыць, ціснуць. Як ясі, та еш, а то возьмя і тулькі жмякая грушу. Свіслач.

**Жмяя'** ж. Змяя. Жмяя ядавіта, як ужаліць у руку ці ногу, та трэбо хучэй перавязаць, каб яд да сэрца ні дайшоў. Табольская Будка.

**Жнец** м. Жнец, той, хто жне ўручную, сярпом. Пры паншчыні казалі: калі хлопцу дванаццаць рок, та ўжэ лічыўса жанцом, а жнец павінен выжынаць норму. Рудавіцы. Мы аднаго тулькі жанца нанімалі, а так апходзіліса сваей дружынай. Свіслач.

**Жніва'рка** ж. Жняярка, жатная машына. Пры паляках жніварка дораго каштавала, ні кожны гаспадар мог купіць. Вялікая Альшанка.

**Жніво'** н. Жніво, уборка збожавых культур. Той рок жніво гарачае было, усё наспело: і жыто, і пшаніца. Машталеры.

**Жнія'рка** ж. Жняярка. Бондараў Васіль неку жніярку быў купіў "Вікінг», та больш яе строіў, а ні жаў. Кунцаўшчына.

**Жо'лудзь** м. Жолуд, плод дуба. Пасля вайны бабы ўсе хадзілі ў Румлёўку жолудзі збіраць, свіней кармілі. Салы.

**Жо'мяць** ж. Вельмі дробная, маленькая /пра бульбу/. У гэтым року бульба зусім ні ўрадзіла, адна жомяць, німа чаго выбіраць. Дзекалавічы.

**Жо'рна** мн. Жорны, ручны млын. У Гаўрылікавых і ціпер жорна стаяць у прымні, свіням мелюць. Пагараны.

**Жох** м. Костка пры гульні ў бабкі /шашкі /, якая ўпала на зямлю ўвагнутым бокам. За жох выігрывалі менш грошай, як за лоц. Караневічы.

**Жу'йка** ж. 1. Жвачка, паўторнае перажоўванне жывёламі ежы. Глядзі, Міхась, мусі, карова захварэла, жуйкі ні жуе. Жытомля. 2. Пераржованая булка ці хлеб для кармлення малога дзіцяці. Помню, маці пажуе хлеб, возьмя на палец і ў рот дзіцяці: "Еш, сынок, жуйку." Кунцаўшчына.

**Жук-гнаяві'к** м. Жук-гнаявік. Гэтых жукоў-гнаявікоў на лузі много, дзе каровы ходзяць. Капцёўка.

**Жуле'йка** ж. Жалейка. Жулейку гэта ўжэ с пераборамі рабілі, ні так на просто. У нас пастух усе на жулейку іграў. Хамякі.

**Жульма'н** м. Жулік, прайдзісвет. Ён з малого жульмано'м быў, так і глядзеў, дзе што кепско ляжыць. Дарашэвічы.

**Жупа'н** м. Даўнейшае верхняе мужчынскае адзенне з каляровага самаробнага сукна. Іле майго маянтэчку — шапка ды жупан /в нар. песні/. Ланявічы. У нас, як хто хоча, і жупан кажуць, і жупонас. Азяркі. Старыя людзі і ціпер на каптан кажуць: жупан. Сабаляны.

**Жур** м. Ежа, прыгатаваная з запаранай жытняй мукі і вады. Я сама ела жур, маці варыла, такі салотка-кіславаты, смашны. Бакуны.

**Жураўлі'ны** мн. Журавіны. Мы жураўліны распарвалі ў пячэ, расціралі ў місцы, варылі і кісель быў. Ліхачы.

**Журча'ць** незак. Журчаць, вурчаць. Той рок як удэрыло цяпло, та ні журчала, а просто раўла ў рыштоках. Брузгі.

**Жу'тко** прысл. Страшна, жудасна. Неяк жутко стало, як учула тыя стрэлы. Канчатка.

**Жу'тны** прым. Пранырлівы, спрытны дзялок, ушлы. Гэта такі жутны чалавек, што з-пад зямлі дастаня, як трэбо. Зарубічы.

**Жучо'к** м. 1. Заколка для валасоў з упрыгожаннем у выглядзе жучка. Дзяўкамі наўшчапляям жучкоў у валасэ і здаваласо, штонатто ўжэ харашэ. Кульбакі. 2. Жук /памянш. — жучок/. Збожа трэбо прасушыць, а то некі жучок завёўсо. Гожа. Свентаянскі жучок — светлячок. Гэта ні сам корч свеціцца, а свентаянскія жучке, яны такія, як ліхтарыкі. Прывалка..

**Жывадзё'р** м. Жорсткі, бязлітасны чалавек, абдзірала. Хто ні кляў гэтаго жывадзёра, а яго халера ні бярэ, жыве сабе. Млахавічы.

**Жывакост** м. Жывакосхт, лекавая расліна з цёмна-сінімі кветкамі. Жывакост ад усялякіх хваробаў памоцны; нават ат сухотаў, кажуць, вылечвае. Калбасіна.

**Жыватабо'льнік** м. Бабок трохлісты. Шматгадовая травяністая расліна сямейства бабковых. Жыватабольнік дробны, з прадаўгаватымі лісточкамі, як жвот баліць, памагая. Пад'ятлы.

**Жыве'й** прысл. Хутчэй, скарэй. Жывей ідзі ў хату, дзяцько з дзядзінай прыехалі. Лікоўка.

**Жыве'ц** м. 1. Жывец, маленькая жывая рыбка, якая насаджваецца на кручок для лоўлі буйнай драпежнай рыбы. Летам добро шчупак ішоў на жыўца. Балічы.

**Жыве'ц** м. Тоўстая нітка, якая змацоўвае нічальніцы кроснаў. Глядзі, бо жывец як парвецца, та нічальніцы зусім раскідаюцца. Лаша.

**Жыві'на** ж. Жывёла, скаціна, быдла. На весну жывіна зусім слабая, на пашу як выжануць, та ледво адгайкаяцца. Селюкі.

**Жыві'ца** ж. Жывіца, вадкая празрыстая смала. У Рыбніцы жывіцы німа, яе збіраюць, патсочваюць у Парэчы. Рыбніца.

**Жывіцапрыё'мнік** м. Вертыкальны надрэз на дрэве, па якому сцякае жывіца ў посуд. Як дзераво смольнае, та жывіцапрыёмнік поўны, на вачах жывіца цячэ. Парэчча.

**Жыві'цца** незак. Жывіцца, карміцца, харчавацца. Ён увесь час тулькі каля бацькоў і жывіцца, каб ні яны — прапаў бы. Зарубічы.

**Жыжа** ж. 1. Агонь /дзіцяч/. Ні садзі, Генік, ручкі ў печку — там жыжа, укусіць за пальчык. Альшанка. 2. Жыжа, рэдкі гной з-пад жывёлы. Недагледзялі — і ўся жыжа пашла ў рэчку, ні дзіво, што рыбы ў ёй німа. Цыдовічы.

**Жы'жаўка** ж. Балячка. Нека жыжаўка на барадзе выскачыла, сам ні ведаю ад чаго. Балічы.

**Жы'лка** ж. Жылка, лёска. Гэта жылка хаця і тонка, любого шчупака ўтрымая. Кузмічы. 2. Сасудзіста-валакністае патаўшчэнне ў лістах раслін. Той рок чэрві на яблынях усе лісця пааб'ядалі, адны жылкі засталіса. Гродна.

**Жыра'нт** м. Абажур. Як лямпа з жырантам, та ў хаці неяк святлей і нават утульняй. Сапоцкін.

**Жы'тні** прым. Жытні. Жытні хлёб здаравейшы нават ат пшанічнаго, больш карысны. Круглікі.

**Жы'то** н. Жыта. Як лубін прыгарэш, та жыто расцё, як дунай. Сабаляны. Як малацілі жыто, бывало, насыплем поўны засек, і ўсероўно да новаго хлеба ні хватало. Кунцаўшчына.

**Жыўцо'м** прысл. Жывым, у жывым стане. Кажуць, французы гэтых жаб жыўцом ядуць. Струбка.

**Жы'ці** незак. Жыць. Табато ж, дзеткі, табато ж, а як без тата жыці будзям, хто хлеба дасць? Гарны.

**Жэ'жка** ж. Від крапівы з малымі лісточкамі. Свіням жэшкі як дасі, та аж давяцца, ядзяць. Капцёўка.

**Жэ'зло** н. Жазло, посах, палка асобай формы — сімвал улады. Архірэй так ні ішоў у сабор, а з жэзлам, а за ім усе прыслужнікі ішлі. Лаша.

**Жэ'рдачка** ж. Прыстасаванне ў курнай хаце ў выглядзе жэрдкі, на якое вешалі адзенне. Сцены ў курнай хаці ўсе ў сажы, адзежы ні павесіш, та вешалі на жэрдачку. Лаша.

**Жэ'рці** незак. Жэрці, прагна і многа есці. Сам ён чалавек худы, жарэ ні ў свае духе, і дзе ўсё гэта дзяваяцца. Рагачы.

**Жэ'ўжык** м. Свавольнік, гарэза. Ах ты, жэўжык, ты чаму маці ні слухаяш, усюды лезяш. Кавалічы.

# З

**Заадры'нішча** н. Загуменне, месца за гумном, адрынай. Можно ехаць прас сяло, а ляпей ехаць па заадрынішчы. Бакуны.

**Забабо'ны** мн. Забабоны, прымхі. Гэта забабоны старой вароны /прымаўка/. Каменка. Дзед у забабоны верыў, чорных бабаў баяўсо, кажа: ведзьмы. Копанікі.

**Заба'ва** ж. 1. Гулянне, вечарынка. На забаву да нас хлопцы аж з Верцялішак прыходзілі. Забагонікі. 2. Гульня, пацеха. Вясной дзеці заўсёды сабе знойдуць забаву. Скідаль.

**Забаві'цца** зак. Затрымацца, запазніцца. Ні ведаю, колькі ён там забавіцца, як удасца залатвіць справы. Сцяцкі. Думаў, доўго ні забавіцца, а зноў і ноч наступіла. Зялёная.

**Забараба'ніць** зак. Застукацець часта, дробна. Ля, нехто забарабаніў у акно і схаваўсо, падрачваецца. Дзекалавічы.

**Заба'ўка** ж. За'баўка, цацка. Запалак, дзеткі, ні рухайця, гэта вам ні заба'ўка. Мількаўшчына.

**Забаўля'цца** незак. Пацяшацца, праводзіць час у гульнях. Дзіця любіць забаўляцца, дай якую цацку і плакаць ні будзя. Навумавічы.

**Забаўля'ць** незак. Весяліць, пацяшаць. Прывыкла, каб яе забаўлялі, мінуткі адна ні пасядзіць. Шчачынова.

**Забічкава'цца** зак. Забрацца, схавацца. Недзе кураня забічкаваласо, аніяк ні знайду. Дзекалавічы.

**Заблудзі'цца** зак. 1. Заблудзіцца, збіцца

з дарогі. Тато на крыжавой дарозі як заблудзіўсо, та тулькі на раніцы ўвесь мокры прышоў. Кунцаўшчына. 2. Заблукацца, выпадкова аказацца дзенебудзь. Некі чалавек, ні жабрак, а так нехто, заблудзіўсо, да нас пераначаваць просіцца. Гожа.

**Забо'ры** мн. Манжэты. Ганулья пекно вышывала заборы ў сарачках і каўнярэ мужчынам. Адэльск.

**Забры'таны** дзеепрым. Заблытаны, запутаны. Маток забрытаны, канца ніткі ні знойдзяш. Адэльск.

**Забры'таць** зак. Заблытаць. Клубок дзеці як забрытаюць, та дзень будзяш сядзець разбрытваць. Малая Альшанка.

**Забулды'га** м. Гуляка, распуснік, п'яніца. Хіба гэта чалавек, і як Гандзя з такім забулдыгай дае рады жыць. Рагачы.

**Забулды'жнік** м. Тое, што і забулдыга. Забулдыжнік ні мужык, глядзіць тулькі, каб дзе набрацца. Лаша.

**Забы'ты** дзеепрым. 1. Забыты, не захаваны ў памяці. Гэты дзень, браце, хаў будзя забыты, больш аб ім ні ўспамінай. Баброўнікі. 2. Закінуты, астаўлены. Гасцінец гэты забыты, па ім больш ніхто ні ездзіць і ні ходзіць. Свіслач. Забыты гэй — забыўчывы чалавек, са слабай памяццю. Забыты гэй, шапку павесіць, а потым круціцца, шукая. Зарубічы.

**Забэ'рсаць** зак. Заблытаць. Ніці ў матку' забэрсаць хутко можаш, але разбэрсаць ні так просто. Рудавіцы.

**Забялі'ць** зак. Прыправіць страву малаком. Помню, маці трошкі забеліць крупнік малаком і мы, дзеці, ямо, і смашны быў. Канюхі.

**Завадзкі'** прым. Пародзісты, добрага заводу /пра жывёл/. У Петрусявых завадзкія свіня былі, з абвіслымі вушамі. Кунцаўшчына.

**За'вадзь** ж. Завадзь, невялікі заліў, затока ў рэчцы. На зіму рыба ў завадзь заходзіць, там і зімуя. Солы.

**Завадыя'ка** м. Завадатар боек, задзіра. Завадыяка гэты, хто яго ні ведае, да кожнаго прычэпіцца. Сухая даліна.

**Завадыя'ш** м. Тое, што і завадыяка. Казалі ёй: ні ідзі за гэтаго завадыяша, прападзеш, а ціпер плача. Свіслач.

**Завадэ'вуш** м. Завадатар боек, задзіра, задзірака. Завадэвуш страшны быў, у яго аш кулаке свярбелі, каб з кім пабіцца. Карозічы.

**Заважа'ць** незак. Перашкаджаць, замінаць. Ні заважай, ні таўчыса пад нагамі, ідзі на гуліцу. Рагачы.

**Завакава'ць** зак. Схіліць на свой бок, перацягнуць, прыблізіць да сябе. Хацелі бацьку завакаваць да сібе, кап той хату прадаў, пераехаў у Гродно, але ні ўдалосо. Горніца.

**Зава'л** м. 1. Завала, жалезны стрыжань або палка для запірання дзвярэй. З бежанства як прыехалі, коней натто кралі, та хлеў на ноч на завал замыкалі. Каленікі. 2. Франтон, шчыт будынка. Завал добро рабіць з дошчак у наклатку, але як іх ні было, та паркамі завешвалі. Галаўнічы.

**Зава'ла** м. ж. Лежабок, лянівы чалавек. Гэта ні хлопяц, а нека завала, толькі спіць. Пагараны.

**Завалачы'** зак. 1. Зацягнуць. Набраў столькі, што ні мог завалачы дахаты. Лаша. 2. Пакрыць. Хмары завалаклі ўсё небо, дождж будзя. Пагараны.

**Завалі'цца** зак. Залегчы спаць. Усе людзі робяць, а ён заваліца сабе і спіць. Баранавачы.

**Завалі'ць** зак. Закрыць на завалу дзверы. Ні забудзьса гараж заваліць, кап хто мішыны ні сцягнуў. Гарны.

**Зава'лкі** мн. Ангіна. Завалкі некалі самы лячылі, мачалі пальцы ў мёд і выціскалі. Жарослаўка. Пры завалках да горла прыкладалі гарачым гаўсом, намочаным у гарэлку. Лаша.

**Завандзі'ць** зак. Закілзаць, укласці каню цуглі ў рот. У нас казалі: завандзі каня, у другіх казалі: закелзай. Копанькі.

**Заве'я** ж. Снежная бура, мяцеліца, завіруха. Завея ўзнялася, на двор страшно выйсці, усё пазаносіло. Скідаль.

**Заве'яны** дзеепрым. Засыпаны, занесены снегам. Ну і пагода, гасцінец зусім завеяны снегам, следу ні відаць. Грыўкі.

**Завіва'нкі** мн. Піражкі з макам, якія пяклі на куццю перад калядамі. Завіванкі маці пякла, такія смашныя былі, салоткія. Казіміроўка.

**Завіва'нцы** мн. Тое, што і завіванкі. Завіванцы пяклі, як з кудзелямі хадзілі. Цыдовічы. Завіванцы — гэта ўжэ прысмакі былі, іх толькі на куцю і на свято рабілі. Копанікі.

**Заві'даваць** незак. Зайздросціць. Усе глядзяць і завідуюць, што я добро жыву. Міцкевічы.

**Заві'дкі** мн. Зайздрасць. Іх завіткі бяруць, бо самы нічого ніколі ні мелі. Свіслач.

**Завіна'цца** незак. 1. Завіхацца, спешна і старанна выконваць работу. Як пачалі завінацца, так загон жыта і зжалі. Бакуны. 2. Старацца. Усёй дружынай завінаюцца, відаць да зімы хочуць хату кончыць, увайсці. Вялікая Альшанка.

**Завіна'шчы** прым. Руплівы, энергічны. О, гэты стары завінашчы, усё нешто робіць, ні прысядзя. Свіслач.

**Завіну'цца** незак. Расхадзіцца, разбушавацца. Антось як завінуўса, так з хаты ўсіх вясельнікаў і павыганяў. Літвінкі.

**Завіну'шкі** мн. Тое, што і завіванкі. Некалі завінушкі такія пяклі, з макам, я сама і ціпер ззела б. Гібулічы.

**Завія'нкі** мн. Піражкі з пшанічнай мукі з тварагом і грыбамі. Завіянкі рабілі на куцю перад самымі калядамі. Пышкі.

**Заво'дзіцца** незак. Шукаць прычыны для бойкі. Паўлюк, як прыдзя на гуляне, так і заводзіцца біцца. Мішкенікі.

**Заво'дзіць** незак. Голасна плакаць, прыгаворваючы. Заводзіць, прычытвае па сыну на ўсю хату, аш страшно неяк. Жылічы.

**Заво'з** м. Завоз. Збожжа, прывезенае ў млын для памолу. У Грыўках вятрак некалі быў, завоз ні велькі; як завязеш, так і змеляш. Баранава.

**Заво'што** прысл. За што, па якой прычыне. Завошто ты на яго так напаў, аблаяў перад людзьмі? Лаша.

**Завэ'дзгаць** зак. Запэцкаць, зашмальцаваць. Чысто рукавэ завэдзгала, свіням мяшаючы. Салаўі.

**Завяза'ць** зак. Надзець /хустку/ на галаву. Ціпер ні адна баба ні ўмея завязаць на вухо хустку, а некалі старэйшыя ўсе завязвалі. Ніжнія Пагараны.

**Завяз'ка** ж. Вяровачка, шнурок, якім завязваюць мяшок. Завяскі слабыя, стаў класць мяшке на воз, усе паразвязваліса. Калбасіна.

**За'вязь** ж. Завязь, зародак плода ў раслін. Гэты рок на грушах завязі было ўйма, а грушаў чамусьці німа. Круглікі.

**За'га** ж. Пякотка. Каб зага ні пякла, трэбо крэйду есці, ні будзя пячы. Кунцаўшчына.

**За'гавіны** мн. Апошні дзень перад пачаткам паста. Пасля загавінаў сем нідзель посту было, дзеці малыя і тыя посцілі. Новая Дубавая.

**Загаві'цца** зак. Зажыць, зарубцавацца. Старая рана аткрыласа ў Івана, што ні рабілі, а ніяк ні магла загавіцца. Гродна.

**Загаво'ры** мн. м. Загаворы, замовы. Адна баба ў нас ведала загаворы, каб зубы ні балелі, казала: "Ой вы, зубы, зубы, чаму ж вы ні белы, да руды. Лаша.

**Загада'ць** зак. 1. Загадаць, даць загад. Загадваць усе любяць, тулькі рабіць німа каму. Каўпакі. 2. Прапанаваць загадку. Загадаю загатку: выму з рота ягатку, абліжу, абліжу і зноў у рот палажу /загадка/. Сухая Даліна. 3. Задумаць. Як задумаў, загадаў, ні па сэрцу жонку ўзяў. Кахаў белу бяляначку, а ўзяў чорну цыганачку /з нар. песні/. Свіслач.

**Загадзё'ў** прысл. Загадзя. Гэта трэбо было рабіць загадзёў, а ні ціпер. Свіслач.

**Загадзя'** прысл. Загадзя, зараней, наперад. Мікалай загадзя ведаў, што з немцам вайна будзя. Свіслач. Ты мне загадзя скажы, што гэта будзя каштаваць, колькі грошай? Ферма.

**Загалё'каць** зак. Гучна закрычаць. Пастух як загалёкае, так усе і жанем кароў с хлявоў на гуліцу. Каленікі.

**Загалі'цца** зак. Загаліцца, падняць вопратку, адкрыць частку цела. Старыя бабы заголяцца і брыдуць прас Свіслач, вады за калено ўсяго было. Свіслач.

**Загану'ць** зак. 1. Запрасіць цану, ацаніць. Добра карова, але ж і цану добру загануў. Круглікі. 2. Загадаць, прапанаваць загадку. Загану загатку: у лазе на адной назе стаіць грыб. Што гэта такое? Баброўнікі.

**За'гарадак** м. Загарадка. Загарадак гаўцам зрабіў, можа, ні павылазяць. Пералом.

**Загара'ны** дзеепрым. Зааранны, завораны. На лузі ўсе коні пасвілі, ціпер німа, загараны, жыто сеюць. Кунцаўшчына.

**Загарду'шка** ж. Расліна з дробнымі лісточкамі і ружовымі кветкамі, тое, што і любчык. Нашы дзяўчата загардушку парылі, паілі хлопцаў, каб любілі. Калі перастаняш паіць, сэрца ў хлопца абрасце мохам. Селюкі. Загардушку, хто на сэрца хворы быў, мачылі ў водцы і пілі. Пад'ятлы.

**Загастры'ць** зак. Завастрыць. Загастрыць алоўка хлопяц ні можа, во ўжэ да чаго давучыўса. Рацічы.

**Зага'та** ж. Прызьба, уцяпленне вакол падрубаў. Загату нікаторыя робяць з хварасту, сена, або цермяці. Адэльск. Загатай, як хто хоча, па вокна абложыць, а хто і вышай, каб цяпло было. Адэльск.

**Зага'чваць** незак. Гаціць, перакрываць. Дзеці збяруцца ў смузе і давай загачваць дзёрнамі рэчку, кап купацца глыбей было. Кунцаўшчына.

**Зага'чыць** зак. Зачапіць, закрануць. Хлопцы, можаця гуляць смело, тут вас ніхто ні загачыць. Аульс.

**За'гваздка** ж. Шпянёк, які ўстаўляецца ў дзірку калёснай восі, каб не спала кола. Я загваздку заўсёды прывязваў, каб ні згубілаcа. Круглікі.

**Загі'баны** прым. Загнуты. Папагараў у каменях, ціпер нож загібаны ў плузі, трэбо гастрыць. Зарубічы.

**Загіго'р** м. Той, хто ходзіць з задзёртай галавой, крыху схіліўшы на бок. Некі загігор ідзе задраўшы галаву, нічога перад сабой ні бачыць. Рудавіцы.

**Загігу'ліна** ж. Складаны выгіб, загіб, кручок. Замест літараў некіх загігулінаў навыводзіў, сам чорт ні прачытая. Дубоўка.

**Загламажда'ць** незак. Загрувашчваць. Звык загламаждаць хату ніпатрэбным, да печы ні далесці. Свіслач.

**Заглямбава'ць** зак. Загнаць, забіць. Заглямбаваў клін у корч, ціпер думай, як дастаць. Боброўнікі.

**Загнё'т** м. Агонь, які падтрымліваецца на прыпечку ў час пасадкі хлеба, каб не астыла печ. Загнёт стараліса ні спускаць, салому палілі, каб ні вышаў дух з печы. Лаша.

**Загнята'ць** незак. Падтрымліваць перад печчу агонь у час пасадкі хлеба. Трэбо печ добра загнятаць, каб ні астудзіць, бо хлеб ні ўпячэцца. Кунцаўшчына.

**Заго'н** м. Паласа ворнай зямлі, поле. У нас такі загон быў, што як сабака сядзя, та хвост на чужым ляжаў. Табала.

**Загра'зці** зак. Загразнуць, засесці, завязнуць. У Беляўскім балоці карова як загразла, ледво вяраўкамі мужчыны выцягнулі. Новікі.

**Загро'да** ж. Комплекс шляхецкай забудовы, сядзіба. Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе /прыказка/. Занявічы.

**Загуме'не** н. Загуменне, месца за гумном. На загумені добро ячмень радзіў, канюшына расла. Ліцвінкі. На загуменным палетку натта ж много камень было, ніяк ні маглі вызбіраць. Жукевічы.

**Загу'снуць** зак. Загусцець. Трэбо свежу зацерку есці, а то як загусня, та і малаком ні развядзеш. Палаткова.

**Зад** м. Задняя частка воза. Зад ашчэ добры, а перад зусім з»ездзіўсо, новы трэбо. Пракопавічы.

**Задава'ка** м. Фанабэрысты, ганарысты чалавек. Задавака некі, нос дзярэ, хоць сам ні да бога, ні да людзей. Нямейшы.

**Задава'цца** незак. Важнічаць, фанабэрыцца, ганарліва сябе паводзіць. Трохі аджыў, та зноў задавацца пачаў. Радзевічы.

**Задажджы'цца** зак. Занепагодзіцца. Задажджыцца, відаць: булькаўкі на лужах пасталі. Падкрыжакі.

**За'дак** м. Азадак, задняя частка тушы. Учора цэлы задак бараніны купіў, на свята хопіць. Сапоцкін.

**Задарма'** прысл. Задарам, бясплатна. Спачатку ў хаўхозах, лічы, задарма рабілі, тулькі палачкі пісалі. Лойкі.

**Зада'ўніцца** зак. Зацягнуцца, застарэць. Хвароба як задаўніцца, та ўжэ цяшко лячыць, і дохтар, бывая, ні паможа. Горніца.

**Задба'ць** зак. Прыдбаць, набыць. Задбаць кожны стараяцца, каб больш мець, але ні каждаму ўдаецца. Карозічы.

**Задзяры'галава'** м., ж. Той, хто ходзіць задраўшы галаву. Ля, той задзярыгалава пашоў, што да Мані нашай сватаўсо. Кунцаўшчына.

**Задратава'цца** зак. Пакалечыць ногу /пра каня/. Конь, падло, задратаваўсо; наступіў, відаць, шыпам патковы сабе на ногу, кульгая. Лаша. Як конь задратуецца, та рану рамонкам прамывалі, пакуль ні зажыве. Балічы.

**Задра'ць** зак. 1. Падняць угору. Задраў нос, як начальнікам стаў, людзей ні пазнае. Луцкаўляны. 2. Забіць, разарваць /пра драпежніка/. Каршун белу курыцу задраў, тулькі пер»е ляжыць за адрынай. Рагачы. Задраць капыта — здохнуць /пра жывёлу/. Пытаешса пра Дарэшку? Даўно задрала капыта, ашчэ той зімой. Квасоўка. Задраць ногі — Перан.: памерці. Паліцыянт той, мо, дзе і жыве, як уцёк, а можа даўно ногі задраў, хто яго ведае. Свіслач.

**Задры'га** м., ж. Няўклюда. Задрыга, а ні дзеўка, на яе ні адзін хлопяц ні глядзіць. Луцкаўляны.

**Задры'па** м., ж. Неахайны чалавек. Каб жонка яго глядзела, та ён ні хадзіў бы такім задрыпай. Рацічы.

**Задры'паны** прым. 1. Заношаны. Куды лезяш да людзей ў гэтым задрыпаным андараку? Лікоўка. 2. Неахайны. Скінуў бы гэты лах, а то ходзіш задрыпаны, як жабрак які. Рацічы.

**Заду'ха** ж. Парнасць, духата. Задуха страшна, мусі, дождж будзя. Рагачы.

**Зае'нчыць** зак. Заенчыць, закрычаць ад болю, страху. Немец кажа: " Ком, ком!" А ты як заенчыш і за міне дзержышса. Дзекалавічы.

**Зажа'ць** зак. Пачаць жаць, зрабіць зажынкі. Учора зажалі жыто, паспело ўжэ. Жукевічы. Зажаць руку — наверадзіць руку жнучы. Зажала руку ўчора, напухла, пальцамі ні варухну. Кавалічы.

**Зажму'рыць** зак. Зажмурыць. У яго совесці на капейку німа, вочы зажмурыць і лезя, як свіня. Лойкі.

**Зажуры'цца** зак. Засумаваць, замаркоціцца. Па табе, дзяўчына, хлопяц зажурыўса. /з нар. песні/. Свіслач.

**Зажы'нкі** мн. Пачатак жніва. Ужэ жыто паспело, заўтра зажынкі будуць. Капцёўка.

**Зазё'хацца** зак. Задыхацца. Чысто зазёхаўсо, пакуль да аўтабуса дабег. Скамарошкі.

**Зазро'ны** прым. Зайздросны, зайздрослівы. Гэта зазроны чалавек, ён ні можа глядзець, як хто добро жыве. Палаткова.

**Заіва'нцы** мн. Піражкі з макам ці павідлам. Заіванцы ні заўсёды пяклі, а тулькі на свято. Копанікі.

**Заі'ка** м., ж. Заіка. Яна ў міне ашчэ малой спалохаласа сабакі, заікай стала. Навасёлкі. І нас у класі адзін заіка быў, чытаць станя — усе сміюцца. Лаша.

**Займа'ць** незак. Перапыняць, заварочваць /пра жывёл/. Займай кароў, бо ў шкоду залезуць. Карозічы.

**Займі'сты** прым. Шыроказахватны. Займістым сярпом і жаць хучэй, шмарганеш некулькі разоў, глядзіш — і сноп. Сухая Даліна.

**Зайсці'ся** незак. Нястрымна, голасна плакаць. Дзіця ад плачу аж зайшлосо, а ён сядзіць і ні чухаяцца. Караневічы.

**Зайчанё'** н. Зайчаня. Бачыла, як варона на зайчанё напала, та крычало тое, як дзіця. Каўпакі.

**Зайчы'ско** м. Вялікіх памераў заяц. Як выскачыць такі зайчыско і просто на міне, чуць з ног ні збіў, а сабака за ім. Батароўка.

**Закава'ць** зак. Няправільна падкаваць каня. Закаваў каня, кульгая, ціпер зноў трэбо вясці да кузні, перакоўваць. Баброўнікі.

**Зака'лец** м. Непрапечаная ніжняя скарынка хлеба. Закалец — на цэлы па-

лец, во якая з яе гаспадыня. Азяркі, Грандзічы. Як свякроўка хлеп пякла, та закалец быў на палец, а як я спякла, та закалец на тры пальцы /прымаўка/. Гожа.

**Закалмуцэ'не** н. Ачмурэнне, часовае зацямненне свядомасці. Нека закалмуцэне ў галаве, нічого ні помню. Кунцаўшчына.

**Закантале'жыць** зак. Забіць, зарэзаць. Ужэ і зноў, мусі, пятуха закanталежыў, хай жыў бы. Кунцаўшчына.

**Закану'рак** м. Глухі куток, закінутае месца. У гэтым заканурку чаго тулькі німа, тут сам чорт голаў зламаў бы. Табала.

**Закарэлы** прым. Закарэлы, заскарузлы. Суша была, зямля закарэлая, нагой ні ступіш, колецца. Літвінкі.

**Закарэ'ць** зак. Закарэць, засохнуць, зацвярдзець. Дзіця паабліваласо ядою, заскарэло, куды тая маці глядзіць. Рагачы.

**Закаса'ны** дзеепрым. Закасаны, загорнуты /пра адзенне/. Даўней з закасанымі рукавамі ніхто ні хадзіў, ні было такой моды. Гушчыцы.

**Зака'т** м. Захад. Слонца чырвонае на закаці, мусі, заўтра зноў вецяр будзя. Кругляны.

**Заке'лзаць** зак. Зацугліць. Як ні закелзаяш палахліваго каня, та ён табе пры першай сустрэтай машыні аглоблі паломіць. Лікоўка.

**Зак'нуць** зак. Закінуць, занядбаць. Дзіця чамусьці бацьке закінулі, зусім ні глядзяць. Агароднікі.

**Закіпе'ць** зак. Закіпець. Бульба ў саганчыку закіпела, можно адцэджваць. Баброўнікі. Закіпела кроў — у значэнні: запяклася кроў, загусцела. Як зачыняў дзверы, та палец так прышчаміў, што аш кроў закіпела. Капцёўка.

**Закіса'ць** незак. Закісаць, рабіцца кіслым. Мусі, вада добро ні выпарылаcа, што мёд пачаў закісаць. Сыпаная Гара.

**Закладзі'ны** мн. 1. Закладка новага дома, пачатак будаўніцтва.Учора закладзіны былі, нову хату ставім. Кавалічы. 2. Частаванне пасля закладкі хаты. Закладзіны былі, гарэлку пілі, каб хата шчасліва была. Грыўкі

**Закла'днік** м. Сталярная прылада для апрацоўкі аконных рам. Дзераво да закладніка я сам зрабіў, а жалеско старое, ашчэ дзедава было. Дзекалавічы.

**Закляката'ць** зак. Загінуць, прапасці. Як пайшоў на тую вайну, так і заклякатаў, ні слуху, ні духу. Рагачы.

**Зако'ннік** м. Чалавек, які прытрымліваецца законаў. Лічыць сібе законнікам, у касцелі прападая, а сам чалавека забіў. Адэльск.

**Закра'са** ж. Заправа для лепшага смаку ежы. Закраса вышла ўся, німа чым бульбу засквaрыць. Круглікі.

**Закрунта'сы** мн. Вычурнае, невыразнае пісьмо. Закрунтасаў некіх нарабіў, сам чорт ні разбярэ, што тут напісано. Рагачы.

**Закруці'ць** зак. Закруціць. Конь спакойны быў, закруціш лейцы за ручку воза і стаіць, пакуль ні прыдзяш. Балічы. Закрутціць носам — выказаць незадавальненне. Бачу, яму ні па нутру, бо закруціў носам, пашоў. Жукевічы.

**Закру'чванка** ж. Вялікага памеру суконная хустка. Закручванка ў кожнай бабы была; як ехаць куды, та заўсёды з сабой брала. Баяры.

**Закрыстыя'н** м. Хлопец, які дапамагае ксяндзу ў час касцельнай сужбы. На закрыстыяна паглядзець было інцярэсно, як ён патслужваўсо. Ліхачы.

**Закуры'цца** зак. Закурыцца, задыміцца. Хата як закурыцца, та і бяліло ні паможа. Белево.

**За'лаб** прысл.Ужываецца ў значэнні: за валасы, за чуб /узяць/. Захапілі адзін аднаго залаб і давай цягацца па гуліцы, як пятухе. Рагачы.

**Залаві'ца** ж. Залоўка, мужава сястра. У міне залавіца была, як родна сястра, ні разу ні пасварыліса. Бакуны.

**Залаго'дзіць** зак. Задобрыць. Да суда ў нас ні дайшло, я неяк яго залагодзіў, паміріліса. Калбасіна.

**Залажы'ць** зак. Закласці. Тут фундамент трэбо добры залажыць, хата муравана, ценжар велькі. Гумнішча. Залажы'ць горло — захварэць ангінай. Зусім залажыло горло, ні дыхнуць. Луцкаўляны.

**Залазава'ць** незак. Хварэць на запаленне міндалападобных залоз /пра каня/. Як конь залазуя, нікаторыя нават апкручваюць шыю гаўчынай, каб жывей прайшло. Кунцаўшчына.

**Залапата'ць** зак. Забіць, залопаць крыламі. Пятух залапатаў, заспяваў ні ў пору, мусі, перамена пагоды будзя. Баброўнікі.

**Зала'паць** зак. Злавіць, захапіць. Ты, шофер, дай білет, а то могуць залапаць, скажуць, зайцам едзяш. Індура.

**Зала'піць** зак. Залатаць. Трэбо залапіць кажух, хоць на ім лата на лаці і шва ні знаці. Круглікі.

**Зала'савацца** зак. Занадзіцца, увайсці ў смак. Дай тулькі коням заласавацца гаўсом, та рады ні будзя, ні аджанеш. Літвінкі.

**Зала'твіць** зак. Уладзіць справу з дапамогай хабару. Гэ, браце, наконт дроў я ўжэ з лясніком залатвіў, казаў — дрова будуць. Зарубічы.

**Залатні'к** м. Старая мера вагі, роўная 1/96 фунта, каля 4,26 г. У залатніку дзевяносто шэсць долей. Клачкі.

**Залато'ўка** ж. 1. Царская манета коштам ў 15 капек. Ашчэ ў маго таты былі залатоўкі; казаў, як дадуць залатоўкамі, та нясеш здаваць у банк, а то кішане паабрываюць. Свіслач. 2. Назва манеты коштам 1 злоты пры панскай Польшчы. За залатоўку можно было кілё цукру купіць. Галавачы.

**Залату'ха** ж. Дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца агульнай змарнеласцю, высыпкай і нарывамі на целе. Панкрат з маленства на залатуху хварэў, так і ні мог вылячыцца, памёр. Хамякі.

**Зале'зці** зак. Залезці, забрацца. Залез у нерад — ні ўзад, ні ўперад /прыказка/. Рыдзелі.

**Зале'тась** прысл. Залетась, два гады назад. Залетась добры быў узятак, тры вядры мёду дасталі. Кавальцы.

**Залё'га** ж. Не выплачаны ў тэрмін падатак /пры панскай Польшчы/. Як прыдзя саквастатар залёгу збіраць, та ўся вёска аш плача. Ніжнія Пагараны.

**Залімо'ніць** зак. Ударыць, стукнуць /груб./. Нехто як залімоніць ззаду, так шапка з галавы і паляцела. Дарошавічы.

**Заліўны'** прым. Заліўны, які заліваецца вадой. Наша балото заліўное, шторок займало вадой, таму і сено добра было. Навасёлкі.

**Заліхва'цкі** прым. Удалы, хвацкі. Дзяцюк ён заліхвацкі быў, што і казаць, але бедны, зямлі ні было. Кунцаўшчына.

**Залі'ць** зак. Заліць, затапіпь. Даўней мыла ні было, бялізну залівалі вадой з бярозавым попялам і гэдак у ёй мылі. Рагачы.

**Зало'жны** прым. Цягавіты, вынослівы ў працы. У яго конь быў такі заложны, як захрапе, так воз з цяжарам і выпра. Баброўнікі. Тут трэбо заложнага мужчыну, каб ўсё гэта перарабіць. Галаўнічы.

**Зало'зы** мн. Пухліна на шыі пад сківіцамі, выкліканая запаленнем залоз у жывёлы. Як у каня залозы, та вады халоднай ні давай, горш будзя, трэбо цеплую даваць. Пракопавічы.

**Зало'м** м. Залом, заламаныя сцеблі збожжа з мэтай чаравання /устар./ Як залом на полі, та гэта ўжэ кепско: памрэ хто з радні, або хвароба прыстаня. Круглікі. У нас, як залом быў, яго выжыналі левай рукой і тапілі ў рэчцы, каб бяда атступіласа. Галаўнічы.

**Залуві'ца** ж. Залоўка, мужава сястра. Залувіца такая, што тулькі і думаяш, каб які сват прыехаў ды забраў хучэй. Клачкі.

**Залэ'мпіць** зак. Выпіць гарэлкі /груб./. Дзісяй, брат, я ўжэ залэмпіў з паўлітра і ашчэ выпіў бы з добрым чалавекам. Пракопавічы.

**Заляца'не** ж. Заляцанне, залёты. Цяжка тое панска было заляцане / з нар. песні/. Свіслач.

**Заляца'цца** незак. Заляцацца. Ведаю, што твой Франак стаў заляцацца да Гэлі, але з гэтаго нічого ні будзя. Занявічы.

**Замага'ць** незак. Планаваць, разлічваць на будучае. Замагаць на много ні прыходзіцца, сколькі тут засталосо жыць. Ланявічы.

**Замалады'** прым. Маладзейшы, як па-

трабуецца. Што і казаць, вэдлук Франі ён замалады, ні падыходзіць у мужыке. Гушчыца.

**Замалы'** прым. Меншы, чым трэба. Ты ашчэ замалы, каб з хлопцамі на забаву ісці. Хліставічы.

**Замальдава'ць** зак. Заявіць, данясці ў паліцыю /устар./. Як тулькі што, так солтыс і крычаў: «Замальдую ў паліцыю, усіх пасаджу." Зарубічы.

**Замардава'ць** зак. Замучыць, закатаваць. Яго бандыты замардавалі, толькі на весну пастух знайшоў, дзе закопаны быў. Цыдовічы.

**Замары'цца** зак. Замарыцца, стаміцца, знясіліцца. А мае ж вы, дзеткі, мусі, жнучы зусім замарыліса. Дубніца.

**Замарэ'ніць** зак. Схіліпь да сну. Як сядзяш прасці, так і замарэніць, вочы зліпаюцца, нічого ні бачыш. Баранава.

**Замаўля'ць** незак. Замаўляць, загаворваць. У нас Сергавіцкая ўмела замаўляць, каб сві'ня ні хварэлі, чытала неку запіску з малітвай. Копанікі.

**Замітусі'цца** зак. Замітусіцца, забегаць. Коні як замітусіліса, так мне адразу стукнуло ў голаў, што тут нешто ні так. Балічы.

**Замо'жны** прым. Заможны, багаты. У заможнаго гаспадара ўсё свае, пазычаць нічого ні трэбо. Квасоўка.

**Замо'рак** м. Кволая, фізічна недаразвітая істота. Заморак некі ні хлопяц, рошчы яму ніяк німа. Зарыца.

**Заму'дзганы** дзеепрым. Забруджаны. Ты чаму такая замудзгана, табе што, часу німа ўмыцца? Балічы.

**За'муж** прысл. Замуж, стаць чыёй-небудзь жонкай. Пайсці замуж — трэбо знаць: позно легчы, рано ўстаць /з нар.песні/. Панямунь.

**Заму'рзаны** прым. Запэцканы, забруджаны. Дзеці ў яе вечно замурзаныя, усе ні мая часу, па хатах бегая. Зарыца.

**Заму'ство** н. Замужжа. Замуство мае было цяжкае, панаплакаласа, панагараваласа, усяго было. Свіслач.

**Замухры'шка** м. Непрыглядны, неахайны чалавек /пагард./. Які там у яе мужык, замухрышка некі, нідацёпа. Кунцаўшчына.

**Замшэ'лы** прым. Замшэлы, заімшэлы, аброслы мохам. Помню, у нас на адрыні стрэха зусім была замшэлая, аж зялёная такая, але дошч ні прапускала. Баброўня.

**Замяша'ць** зак. Замяшаць, зрабіць мешанку жывёле. Тут у цэбры я свіням замяшала, у палудзень дасі, хай ядзяць. Квасоўка.

**Занаве'ска** ж. Занавеска, фіранка. Некалі ніякіх занавесак у хатах ні было, гэта ціпер усё закрываюцца. Луцкаўляны.

**Зана'дто** прысл. Занадта, задужа, залішне. Нібошчык занатто даверлівы быў чалавек, кожнаму верыў, праз гэта і прапаў. Дубаўка.

**Занемагчы'** зак. Захварэць, занядужаць. Ашчэ прошлу зіму стары неяк трымаўсо, а ціпер зусім занімог. Лаша.

**Заніду'жыць** зак. Занядужаць, захварэць. Пасля хваробы мой зусім занідужаў, хадзіць ні можа. Іванаўцы.

**Заніма'цца** незак. Занімацца на свет, світаць. Ля, пачало ўжэ на свет занімацца, зараз пастух загалёкая. Саннікі.

**Заніма'ць** незак. Занімаць, займаць. Сын Ляваня, кажуць, вучоны, занімае вельку пасаду. Баброўнікі.

**Зано'зы** мн. Жалезныя пруцікі для замацавання ярма. Каб валэ ні расходзіліса, у ярмо закладвалі такія занозы. Стрыеўка.

**Зано'хацца** зак. Замучыцца, знемагчыся, знясіліцца. За дзень чысто занохаясса, здаецца, і нічого цяжкаго ні рабіў, а ледво ногі валачэш. Лаша.

**Зану'да** ж.Слабы, заняпалы чалавек або жывёла. Нека зануда ні паршучок, ні есць, усё выверня з карыта, што ні дасі. Рагачы. 2. Зануда, надакучлівы, шкадлівы чалавек. З-за гэтаго зануды яна і здароўя ні мая, дабіў яе. Сухая Даліна.

**Заня'це** н. Занятак, справа, праца. Як чалавек заняця мая, та ніякі дур яму ў голаў ні ўлезя. Радзевічы.

**Заня'ць** зак. Заняць, атрымаць якую-небудзь пасаду. Ён месца тулькі старацца заняць, а толку з яго ні на голку.

Пруды. Заняць духе — перапыніць дыханне. Пакуль дабег да хаты, духе ўсе заняло. Кавалічы.

**Запале'не** н. Запаленне, хвароба, якая суправаджаецца павышэннем тэмпературы. Мой тато два разы хварэў на запалене лехкіх, але ўсё перанёс. Свіслач.

**Запальні'чка** ж. Запальнічка. Пры немцах самы запальнічкі рабілі, запалкаў ні было. Пракопавічы.

**Запа'рваць** незак. Запарваць, заліваць варам сухі корм. Сечку як запарыш, та яна мяхчэйша, каровы ляпей ядзяць. Рагачы.

**Запару'шыць** зак. Прысыпаць, зацерушыць. Мусі, зіма ўжо стане, бо снег запарушыў поле, ляжыць. Лаша.

**Запа'рце** н. Запор, працяглая затрымка стулу. У хлопца, мусі, запарце, другія суткі на двор ні ідзе. Белева.

**Запа'с** м. 1. Запас, тое, што назапашана. Запас бяды ні чыніць /прымаўка/. Кавалічы. 2. Лішак чаго-небудзь, перавышэнне нормы. Боты завелькія купіў,_ногу ўсадзіш, і запас яшчэ есць. Індура.

**Запаты'лак** м. Патыліца. Ты там натто ні выстаўляйса, а то надаюць у запатылак і пойдзяш як мыло з'еўшы. Рагачы

**За'пек** м. Запечак, месца паміж сцяною і печчу. Як замерзняш, та залезяш на запек, глядзіш, і адагрэўсо. Стральцы.

**Запе'ніцца** зак. 1. Запеніцца, пакрыцца пенай. У нас малако добрае, як доіш, та аж запеніцца, пенай станя ў дайніцы. Бброўнікі. 2. Перан.: разлютавацца, раз'юшыцца, усхадзіцца. Ты чаго гэта запеніўсо, скачаш, думаяш, што цібе тут баяцца? Каленікі.

**Запе'рці** зак. 1. Занесці /груб./. Мяшок збожа як звалілі на плечы, та ледво запёр да каморкі. Гарны. 2. Хутка даставіць, даімчаць. Конь у яго добры, выяздовы, як сеў, та за гадзіну да Гродна запёр. Круглікі.

**Запе'чак** н. Запечак, месца паміж сцяною і печчу. Зімою наш дзед больш у запечку сядзіць, на двор рэтко выходзіць. Запечак у нас для старых быў, там яны і спалі. Селюкі.

**Запіса'цца** зак. Аформіць дакументы аб уступленні ў шлюб. Ім даўно трэбо было запісацца, а так ніякай пенсіі па мужыку ні палучыць. Верцялішкі.

**Заплаці'ць** зак. Вярнуць сватам грошы, затрачаныя на гарэлку ў выпадку адказа дзяўчыны выходзіць замуж. Як тулькі выпілі гарэлку, та тато, доўго ні чакаючы, дастаў грошы, заплаціў і кажа: «Едзьце з Богам». Свіслач.

**Заплё'нтаць** зак. Заблытаць. Катэ гулялі, заплёнталі клубок, та ціпер во сяджу, расплёнтваю паўдня. Бакуны.

**Запну'ць** зак. Падвязаць. Трэбо запонку запнуць, каб андарак каля печы ні завэдзгаць. Дарашэвічы.

**Запо'іны** мн. Сватанне. У нас заручынаў ніякіх ні было, а былі запоіны, як у сваты першы рас прыязджалі да дзеўкі. Хамякі. Учора ў Пракопавых запоіны былі, мусі, вяселя будзя. Зарубічы.

**Запо'нка** ж. Фартух для работы з самаробнай тканіны /устар./. Запонку ў нас падвязвалі, каб андарак на рабоці ні завэдзгаць. Няцечы.

**Запру'та** ж. Драўляны шпень з завостраным канцом для вязання снапоў. Пад запруту сноп як звяжаш, та ці стаў яго, ці кідай, ужэ ні развяжацца. Дарашэвічы.

**Запрыду'х** м. Чалавек, які ўпарта, без падстаў, адстайвае свае погляды і ўчынкі. Запрыдух некі, яму кол на галаве цяшы, нічого ні дакажаш.Табала.

**Запу'ганы** прым. Забруджаны, запэцканы. Яна ні толькі дзіцей ні дагледзіць, а і сама вечно запуганай ходзіць. Каленікі.

**Запуска'ць** незак. Перастаць даіць перад ацёлам. Карову трэбо запускаць, малака дзецям ні будзя. Вялікая Жорнаўка.

**Запуске'** мн. Запускі, апошні дзень перад постам /устар./. Пасля запускоў сем нідзель посту, да самаго вялікадня посцілі. Зарубічы.

**Запу'сты** мн. Загавіны ў католікаў. У нас пасля запустаў у сватэ ніхто ні едзя, бо пост. Ланявічы.

**Запусці'ць** зак. Пакінуць без догляду, занядбаць. Запусціла гарод адразу,

та ціпер корпаюса, ні вылажу з яго. Рудавіцы.

**Запу'цкацца** зак. Запэцкацца, забрудзіцца. Дзеці, ядучы зацерку, чысто запуцкаліса, паабліваліса. Карозічы.

**Запя'сце** н. Частка кісці рукі паміж перадплеччам і пясцю. Як навярэдзіш запясце жнучы, та жабу прыкладалі жывую, каб гарачку адцягнуло. Клачкі.

**Зара'з** прысл. Адразу, адначасова, за адзін раз. Зараз гэтаго сена ні забяру, прыдзецца другі раз ехаць. Нямейшы.

**Зарака'цца** незак. Заракацца, даваць зарок, абяцанне. Ні раз я заракаўсо з ім кампані ні мецъ, але што зробіш, свой усё-такі. Падкрыжакі.

**За'раслі** мн. Зараснік. Зараслі такія ў балоці, што тулькі ваўкам вадзіцца, ніхто туды ні далезя. Верцялішкі.

**Заро'слі** мн. Зараснік. Зарослі былі такія, што дзікія качке адны вадзіліса. Табала.

**Заро'хацца** зак. Забрудзіцца, запэцкацца. Ходзячы каля печы, зусім зарохаласа, на гуліцу брытко высці. Круглікі.

**Зарубі'ць** зак. Загнуўшы, падшыць краі тканіны. Трэбо нову хусцінку зарубіць, кап канцэ ні цёпкаліса. Капцёўка.

**Зару'чыны** мн. Абрад аб»яўлення жаніхом і нявестай. Учора ў Гэлі на заручынах былі, за добраго хлопца дзеўка ідзе. Пышкі.

**Зарэ'заць** зак. Загрызці /пра жывёл/. Ты куды гэта ўлез, каб цібе ваўке зарэзалі. Мігова.

**За'саўка** ж. Засаўка. Даўней ніякіх замкоў ні ведалі, дзверы зачынялі на засаўкі. Кунцаўшчына.

**Засахары'цца** зак. Зацукравацца. Як добры мёд, та праз тыдзень часу так і засахарыцца, цвёрдым стане. Грынёўка.

**Засе'к** м. Засек, адгароджанае месца ў каморцы або ў свірне для захоўвання збожжа. У нас заўсёды поўны засек жыта было, хоць свае зямлі і ні мелі, бралі ў арэнду. Круглікі.

**Засе'ўкі** мн. Пачатак сяўбы і звязаныя з ім звычаі і абрады. Перад засеўкамі гаспадар умываўсо, надзяваў чыстую кашулю, каб жыто было чыстае, еў кашу, каб жыто было густое, браў з сабой хлеб, які называлі «засяваным». Лаша.

**Засі'ніць** зак. Прыправіпь крыху страву малаком. Малака мало было, маці засініць трошкі зацерку, і так елі. Дарашэвічы.

**Заскава'ць** зак. Зацкаваць, напусціць сабак. Як ступіць парася на гарод, так і стараяцца заскаваць сабакай. Бакуны.

**Заскару'злы** прым. Агрубелы, шорсткі, шурпаты. Пакуль выбяраш гэтыя бураке і бульбу, та рукі, як граблі стануць, заскарузлыя. Белева.

**Заскарэ'ць** зак. Стаць шорсткім, шурпатым, агрубець. Як папабудзяш дзень у полі на дажджэ і ветры, та і твар заскарэя і рукі закарчанеюць. Капцёўка.

**Засква'рваць** незак. Засквярваць. У нашых заўсёды было чым страву засквярваць, бо і паршука добраго калолі. Кунцаўшчына.

**Заске'ма** ж. Упарты, помслівы чалавек. Заскема некі, што за чалавек, тры дні будзя хадзіць, ні акажацца да цібе. Свіслач.

**Заске'рыцца** зак. Яхідна, з'едліва ўсміхнуцца. Яна і засміяцца ні ўмея як трэбо, толькі заскерыцца, гляня з-пад лоба і зноў маўчыць. Пагараны.

**Заскрыгіта'ць** зак. Заскрыгатаць, азвацца скрогатам. Свіня нешто захварэла, зубамі заскрыгіча і зноў лажыцца, ні есць. Бакуны.

**За'сланка** ж. Засланка, заслонка, прыстасаванне для закрывання печы. Кап хлеб добро пёкса, у нас засланку нават глінай залепвалі, каб дух ні выходзіў. Лаша. Былі дзеравяныя засланкі, а ў нікаторых — жалезныя, з ручкамі Кавалічы.

**За'смарга** ж. Зашмарга. Мяшке завязваюць завяскай на засмаргу, каб ляхчэй было развязаць. Капцёўка.

**Засмаргну'ць** зак. Зашмаргнуць, завязаць вузел зашмаргай. Супоню ў хамуце добро засмаргні, а то ў дарозі развяжацца. Пагараны.

**За'стаўка** ж. Застаўка, шчыт для затрымання вады, якая падае на кола

вадзяногa млына. Як велька вада, та застаўку вынімаюць, кап плаціну ні парвало. Сухая Даліна.

**Заста'цца** зак. Застацца, астацца на ранейшым месцы. Я застаўсо на сваёй гаспадарцы, а брат пашоў у прымаке. Путна. Застацца на высадку — застацца ў старых дзеўках, не выйсці замуж. Малотшу ўзялі замуж, а старша так і засталаса на высатку, ніхто ні ўзяў. Кавалічы.

**Застра'гнуць** зак. Загразнуць. Сюдою ні ідзецця, тут балото, застрагнуць можно. Круглікі.

**Заступа'ць** незак. 1. Засланяць, заступаць, загараджваць, закрываць. Ні заступай лямпы, нічого ні відаць. Кунцаўшчына. 2. Зацяжараць, стаць цяжарнай. Мусі заступіла, і зноў будзя дзіця. Балічы.

**Засупо'ніць** зак. Завязаць супонь на хамуце. Ты хоць добро засупоніў хамут, а то конь распражэцца. Лікоўка.

**Засцё'баць** зак. Прафастрыгаваць, прашыць вялікімі шыўкамі. Засцёбаю ціпер трошкі, а потым, як час будзя, прышыю, як трэбо. Пыра.

**Затаі'ць** зак. Затаіць, утаіць. Зата'іць пазычанае і, як ні скажаш, сам ні аддасць. Балічы.

**Затараба'ніць** зак. Даставіць, данесці, давезці. Велькі мяшок узяў, ледво да адрыны затарабаніў. Кунцаўшчына.

**За'таўка** ж. Заправа, закраса са свінога нутраного сала. Возьмяш дзве-тры ложкі затаўкі, кіняш ў капусту — і мяса ні трэбо. Бакуны.

**Затка'ць** зак. Заткаць, пачаць ткаць. Кросна паставілі, трэбо кужаль будзя заткаць. Літвінкі.

**Затлуме'не** н. Затлумленне, ачмурэнне, часовая страта прытомнасці. На яго як надыдзя затлумене, та ходзіць як сам ні свой. Пагараны.

**Зато'ка** ж. Затока. У Свіслачы есць адна затока, у ёй, кажуць, рыба зімуя. Дзекалавічы.

**Затрусі'ць** зак. Зацерушыць, запарушыць, прысыпаць. Затрусілі саломай увесь падворак, так і ляжыць, ніхто ні падграбе. Рагачы. Думалі снег велькі будзя, а ён нават зямлі ні затрусіў. Лікоўка. Затрусіць вока –запарушыць вока. Затрусіў сабе воко, нічого ні бачу. Пальніца.

**Затры'нкаць** зак. Забрынкаць, забрынчаць. Так на гітары і я магу затрынкаць, але добро зайграць рэтко хто можа. Капцёўка.

**За'тхласць** ж. Затхласць, гнілы пах. Ад вады нека затхласць ідзе, аж нідобро робіцца. Хамякі.

**Зау'траня** ж. Ютрань, ранішняя служба ў царкве. Будзя заутраня, а тады ўжэ будзя служыцца абедня па тату. Лаша.

**Заўдава'ць** незак. Даносіць, рабіць данос, тайна паведамляць. Гэты шляхціц прывык заўдаваць людзей, ён быў нашаго сына заўдаўшы. Адэльск.

**Заўзё'нты** прым. Заўзяты, настойлівы, напорысты. Натта ш такі заўзёнты быў чалавек, сваго ні папусціць, даб'ецца. Адэльск.

**Заўзіма'цца** незак. Крыўдзіцца. Што хочаш кажы, заўзімацца ні буду. Кавалічы.

**Заўзя'ты** прым. Заўзяты, зацяты, заядлы. Гэта заўзяты курэц, люлькі з зубоў ні выпуская, пэкая і пэкая. Лікоўка.

**Заўсё'ды** прысл. Заўсёды, заўжды. Ён заўсёды такі вясёлы, на адных прыкасках жыве. Бычкі.

**За'ўша** прысл. Заўсёды, заўжды. Каб ты была добра жонка, та сядзела б заўша дома. /з нар. песні/. Зарыца.

**Зафанду'ла** ж. Неакуратная, неахайная жанчына. /зневаж./ Зафандула ў Янка ні жонка, да яе ў хату ні ўлезці. Лойкі.

**Зафундава'ць** зак. Пачаставаць, зрабіць пачастунак з выпіўкай. Ён павінен сягоння нам зафундаваць, яму прэмю далі. Калбасіна.

**Зафэ'нданы** дзеяпрым. Забруджаны, заношаны. Скінь зафэнданы каптан, яго даўно трэбо аддаць ганучніку, а яна ў ім ходзіць. Лойкі.

**Захалды'к** м. Глухі куток, закінутае месца. Чаго тут у гэтым захалдыку німа, усё зваляна, ніякаго паратку німа. Стральцы.

**Захалуша'к** м. Тое, што і захалдык. Там захалушак быў такі, залезяш туды

і сядзіш сабе, цяпло. Гліняны.

**Захамхо'ліць** зак. Неакуратна завязаць хусцінку. Дзеўка, а хусцінкі завязаць ні можаш, захамхоліла і ходзіш. Дарашэвічы.

**Захры'плы** зак. Ахрыплы. Голас стаў зусім захрыплы, нічого ні разбярэш, што кажа. Баранава.

**Заце'рка** ж. Зацірка. Ціпер дзеці зацерку і на малаце ні хочуць есці, а некалі і нізабелену елі. Дарашэвічы.

**Заце'нты** дзеепрым. Заўзяты, настойлівы, напорысты. Зацэнты хлопяц, як упрэцца, усероўна на сваім паставіць. Навасёлкі.

**Зацё'рыч** м. Бандарская прылада, якой робяць выразы ў клёпках для ўстаўкі дна. Як гостры зацёрыч, та ўторы як мая быць выражаш і дно добро дапасуяш. Бандары.

**Заці'шна** прысл. Зацішна, бязветрана. Неяк зацішно ў хаці стало, як дубэльты ўставілі. Коматава.

**Зацямні'ць** зак. Засланіць /святло/. Зацямніў свет, адыдзі ад акна, ні заступай. Віцькі.

**Зачасці'ць** зак. Пачаць часта хадзіць. Нешто хлопцы да Гандзі зачасцілі, едуць і едуць у сваты. Кунцаўшчына.

**Зашвэ'ндаць** зак. Запэцкаць, забрудзіць, занасіць. У нас на фермі даюць халатэ, але яго за пару дзён так і зашвэндаяш. Жылічы.

**Зашмальцава'ць** зак. Зашмальцаваць. Ганавіцы пры машынах хлопяц зашмальцаваў, аж блішчаць. Баброўнікі.

**Зашмаргну'ць** зак. Зашаргнуць, зацягнуць. Гіццаль як кінуў смык, так пятлю на шыі сабаццы і зашмаргнуў. Гродна.

**Заштапо'рыць** зак. Заткнуць загвоздку ў адтуліну калёснай восі. Здаецца і добро заштапорыў загваздкі, але як панясла кабыла, та калёса ўсероўно паспадалі. Рацічы.

**Зашчамі'ць** зак. Зашчаміць, сціснуць. Такое право было: ён цібе бэсціць, а ты зашчэміш зубы і маўчыш. Райста.

**Зашы'ліцца** зак. Зашыцца, схавацца, затаіцца. Кураня як зашыліцца ў дзірачку, та будзяш паўдня шукаць, пакуль нойдзяш. Жытомля.

**Зашыпу'ліцца** зак. Зашыцца, схавацца, затаіцца. Яна ў нас спакойная, зашыпуліцца сабе ў куточак і гуляя. Дзекалавічы.

**Зашы'цца** зак. Зашыцца, схавацца, затаіцца. Як нападзе строк, та каровы зашыюцца ў кустэ і там, да вечара стаяць. Зарубічы.

**Зая'да** м. Заўзяты, заядлы чалавек. Натта ш заяда да работы быў, як возьмяцца што рабіць, та есці ні даклічашса. Навасёлкі.

**Зая'длы** прым. Злосны, задзірысты. Жучок наш натта ж заядлы, нікого ў хату ні ўпусціць, ні дасць увайсці. Гродна.

**За'ячы** прым. Заячы. Заечы. У яго нюх добры, як нападзе на заячы след, так зайца і выжаня. Загорцы. У яго заячы страх, ён каждаго баіцца. Лаша. Заячы сон — нейкая кветка. Заячы сон — гэта перша кветка асення. Пагараны. Заячы хлеб — хлеб, які жанцы не з'ядалі ў полі і прыносілі дахаты: "Наця, дзеткі, заячаго хлеба, гэта зайчык вам пруслаў,— "казала маці, і мы верылі. Кунцаўшчына. Заячы часнык — дзікі часнок. На Схадоўскім полі заячы часнык ўсё рос, много было. Літвінкі.

**Зба'бець** зак. Зморшчыцца /пра скуру/. Пакуль усе перасцірала і памыла, та рукі чысто збабелі. Лаша.

**Збажына'** ж. Агульная назва хлебных злакаў. Збажына ў гэтым року нікепская, хлеба будзя. Баброўня.

**Збе'гчыса** зак. Стваражыцца /пра малако/. Малако ні свежае, збегласо, мусі, учарашняе. Вішнявец.

**Збі'цца** зак. 1. Збіцца, ссунуцца, з»ехаць з месца. Якая там была хата — падрубы падгнілі, стрэха збіласа на бок. Балічы. 2. Збіцца, сабрацца разам у адно месца. Як гарачыня, та гоўца зб'юцца ў адну горбу і стаяць, насэ паўтыкаўшы ў пясок. Кунцаўшчына. 3. Збіцца, адхіліцца, сысці ўбок. Зімой збіцца з дарогі любы можа, занясе снегам, следу ні відаць. Лаша. 4. Збіцца з панталы'ку — Зблытацца, памыліцца, тое, што і збіцца з ладу, толку. Галава слабая стала, збіўсо з панталыку, ні ведаю, што рабіць. Сухая Даліна.

**Збіць** зак. 1. Збіць ударам, штуршком прымусіць упасці. Ён такі, што адным махам можа збіць з ног любога, ні ўтрымаяцца. Баранава. 2. Моцна пабіць. Збіў хлопца нізашто, аш шкада стало. Рагачы. Збіць на горкае яблыко — вельмі моцна пабіць, знявечыць. Ты яго адлупцуй, мне скажы, а збіваць дзіця на горка яблыко — гэта ўжэ залішне. Бабраўнікі.

**Заблудзі'ць** зак. Заблудзіць, згубіць дарогу. Як слонца німа, та ў лесі заблудзіцца ні штука. Пыра.

**Зблю'дак** м. Недаростак. Ціпер дзецям догляд добры, та яны і павырасталі, гэта раней усе зблюдкі былі. Свіслач.

**Збо'іны** мн., ж. Дэталі, якімі змацоўваюцца станіны кроснаў. Збоіны ўстаўлялі ў станіны і клінкамі яшчэ забівалі, кап кросна добро стаялі. Лікоўка.

**Збо'йні** мн., ж. Тое, што і збоіны. Як кросна хістаюцца, та ўжэ ведаеш, што добро збойні ні змацавала. Зарубічы.

**Збо'йца** м. Завадатар боек, задзіра, забіяка. Такого збойцы, як Ніканор, у акрузі ні было, гэта яго і згубіло. Рагачы.

**Збру'я** ж. Збруя, вупраж. Збруя ў бацькі добра была, заказваў у рымара, што ў Карозічах жыў. Квасоўка.

**Збры'дзіць** зак. Абрыднуць, апрыкраць, апастылець. Збрыдзеў мне, ляпей на сабаку глядзела б, чым на яго. Дзекалавічы.

**Збры'днуць** зак. Тое, што і збрыдзіць. Гэта работа мне збрыднула, кожны дзень адно і тое ж рабі. Жытомля.

**Збрысці'** зак. Прыйсці ў галаву. Што яму збрыло ў голаў — пакінуць старых бацькоў, сам ні ведаю. Сапоцкін.

**Збрэ'нкнуць** зак. Успухнуць, апухнуць. Ад гарэлкі ў нідавярка ўся морда збрэнкла, ні пазнаць чалавека. Круглікі.

**Збудара'жыць** зак. 1. Узбударажыць. Як прыдзя дахаты, та ўсю сям'ю збударажыць, дзеці ад яго плачуць. Вялікая Альшанка. 2. Учыніць беспарадак, перавярнуць бязладна ўсе рэчы. За дзень дзеці ў хаці ўсё збударажаць, ні знаяш, дзе што стаіць. Лаша.

**Збузава'ць** зак. Перамяшаць усё, прывёўшы ў стан непрыгоднасці. Коні ўлезлі ў жыто, усё збузавалі за ноч, жаць німа чаго. Кавалічы.

**Збу'рыцца** зак. Уздумаць, надумаць. Стары наш збурыўсо жаніцца, ніяк адгаварыць ні можам. Каленікі.

**Збутне'ць** зак. Збуцвець, сапрэць, струхлець. Дзераво можа збутнець, ужэ каторы рок ляжыць пад адкрытым небам. Гарны.

**Збу'х-табура'х** прысл. Раптоўна, ні з таго ні з сяго, з бухты-барахты. Абы-што ляпне збух-табурах, а потым вачыма лупая, брытко самому. Кунцаўшчына.

**Збуцве'лы** дзеепрым. Збуцвелы, сапрэлы, струхнелы, спарахнелы. Хоць памятнік па бацьку пастаўце, а то крыж збуцвелы стаіць адзін у бур'яне. Караневічы.

**Збыткава'цца** незак. Здзекавацца, мучыць. Халернік, прывык над малымі збыткавацца, ні дае ім прыпыніцца, ганяе. Лаша.

**Збэ'рсаць** зак. Зблытаць, пераплесці ў беспарадку. Куры чысто жыто збэрсалі, німа як жаць. Каўпакі. Збожа збэрсаюць так, што ні ведаяш, як да яго прыступіць жаць. Каленікі.

**Збэ'сціцца** зак. Распусціцца, аддацца распусце, стаць распустай. Гэтыя маладыя ціпер збэсціліса, ад роскашы самы ні ведаюць, што ім трэбо. Грыўкі.

**Збэ'сціць** зак. Груба аблаяць, зняважыць. Нізашто збэсціць чалавека перад людзьмі, а тады зноў хоча быць добрым. Дзекалавічы.

**Збэ'ткаць** зак. Разбудзіць, расштурхаць. Людзі даўно паўставалі, нарабіліса, а яго, гультая, ні збэткаяш. Сухая Даліна.

**Збянтэ'жаны** дзеепрым. Збянтэжаны, разгублены, атарапелы. А мы стаім збянтэжаныя і ні ведаем, што рабіць, каго ратаваць. Грыўкі.

**Звагава'ць** зак. 1. Зрушыць з месца, скрануць. Як сядзя, та яго цяжко с месца звагаваць, як прыкіпіць да лавы. Зарубічы. 2. Перацягнуць, схіліць на свой бок. Удалосо звагаваць старого да сібе, аніяк ні хацеў ехаць да Гродна. Круглікі.

**Зва'да** ж. Звада, склока, сварка. Як пайшла звада, та хто там разбярэ, хто праў, а хто вінаваты. Зарыца. У іх хаці заўсёды нека звада, крык. Рагачы.

**Зважа'ць** зак. Звяртаць увагу. Ні трэбо на яго зважаць, гэта такі ўжэ чалавек. Гліняны.

**Звакава'ць** зак. Пераканаць, дамагчыся, прыцягнуць. Хоць доўго ўгаварвалі, але ж звакавалі каваля ў наша сяло. Лаша.

**Звалі'ць** зак. 1. Палажыць /што-небудзь цяжкае/. Ледво тую калоду ўдваіх на воз звалілі. Ліхачы. 2. Перан. Ужываецца ў значэнні: збавіць сябе ад чаго-небудзь цяжкага, непрыемнага. Міхась наш заўсёды стараяцца віну зваліць на другого, хоць сам вінаваты. Рыбніца.

**Зваля'ць** зак. Зваліць, зрабіць з шэрсці шляхам валення. Як была воўна, та я сам сабе звалю чосанкі, і зімою цяпло ў ногі. Свіслач.

**Звана'р** м. Званар. Помню, ашчэ званаром Якуб быў, та як зазвоніць ва ўсе званэ, та любо было паслухаць. Лаша.

**Званча'к** м. Частка вобада каляса ў возе. Найлепшыя званчаке былі з бярозы, бо яна ні рассыхаяцца, ні пэнкая. Струбка.

**Звары'цца** зак. Стваражыцца пры кіпячэнні /пра малако/. Малако, мусі, даўнеўша было, зварыласо, сабаццы трэбо выліць. Зялёная.

**Звар'яцець** зак. Звар'яцець. З усяго гэтаго ён, мусі, звар'яцеў, ходзіць як сам ні свой. Квасоўка.

**Звестава'не** н. Рэлігійнае свята ў католікаў 25 сакавіка па ст.ст., адпаведнае благавешчанню ў праваслаўных. Звеставане дзісей, а бацяна німа, ні прыляцеў, мусі, ў дарозі прапаў. Станявічы. У нас на звеставане вярба ўжэ распускаяцца. Занявічы.

**Звінча'ць** незак. Звінець. Нешто ў вушах пачало звінчаць, мусі, які шклярос прыстаў. Бакуны.

**Зво'дзіць** незак. Зводзіць, знішчаць, ліквідаваць. Жыто ніважнае родзіць, трэбо зводзіць, другое насене купляць. Дарашэвічы.

**Зво'ды** мн. Ужываецца ў значэнні: вочная стаўка. Ты што тут мне зводы робіш, думаяш, ніпраўду казала? Верцялішкі.

**Зво'зка** ж. Звозка, працэс перавозкі снапоў з поля ў гумно. Як пачнецца звоска снапоў, то і спаць німа калі, вазі, пакуль сухія. Кунцаўшчына.

**Зво'зчык** м. Рамізнік, возчык. Некалі звошчыкаў было, як ціпер шафяроў, на кожнай гуліцы стаялі. Эйсманты.

**Звэ'йдацца** зак. Пражыць век дарэмна, не так, як трэба; прасноўдацца. Чалавек ні жыў, а так звэйдаўсо, ні сабе, як кажуць, ні людзям. Селюкі.

**Звя'га** ж. Надакучлівы брэх сабакі. Воўк сабакі ні баіцца, але звягу нінавідзіць / прыказка /. Кульбакі.

**Звя'гаць** незак. 1. Надакучліва брахаць. Як сабака пачне звягаць, та ўжэ нехто ходзіць, так і знай. Навасёлкі. 2. Перан. Назойліва прасіць, патрабаваць. Аддай яму грошы, а то жыць ні дасць, усе будзя звягаць і звягаць. Адэльск.

**Звязда'** ж. Зорка. Во, глянь, якая звязда на небі ўзышла, свеціць. Забагонікі.

**Звязці'** зак. Ударыць, выцяць, стукнуць. Пастух як звёс быку бічом, та той аж галавой закруціў. Адэльск.

**Звя'каць** незак. Надакучліва брахаць. Нешто сабака звякая і звякая, мусі, нехто ходзіць каля адрыны. Баброўнікі.

**Згале'ць** зак. Збяднець. На шыроку ногу жыў, ціпер зусім згалеў, усё прагуляў. Кунцаўшчына. У нас на хлопцаў згалело, адны дзяўчата засталіса. Круглікі.

**Зга'ніць** зак. Аганьбаваць, зняславіць. Гэты нідавярак дзеўку можа так зганіць, што ні адзін сват да яе ні загляня. Белева.

**Зга'ньбіць** зак. Зганьбіць, зняважыць, зняславіць. Ці ж можно, ні знаўшы чалавека, і гэдак яго зганьбіць, ачарніць. Свіслач.

**Зга'піць** зак. Празяваць, не сцяміць, праваронiць. Я, можно сказаць, тут трохі згапіў, трэбо было зусім іначай зрабіць. Адэльск. Я мог большу пэнсю палучыць, але згапіў, ні ведаў, куды кінуцца. Грандзічы.

**Згара'ць** зак. Узараць, апрацаваць зямлю плугам. Ужэ даўно трэба было

згарацць пад жыто, ляпей было б. Галавачы.

**Згаргяле'ць** зак. Адубець, скарчанець, акалець, застыць ад холаду. Стоячы на гэтай галячы, можно зусім згаргялець, вецер пранімая. Мігова.

**Згастры'цца** зак. Затупіцца. Нож зусім згастрыўсо, аніяк ні рэжа. Жытомля.

**Згатава'ць** зак. Згатаваць, зварыць, прыгатаваць /пра ежу/. Вячэру я і сам патраплю згатаваць, ні трэбо і бабы. Свентаянск.

**Зге'йліцца** зак. Здохнуць, акалець. Сабака зусім стары, мусі, згейліцца, з буды ні вылазіць. Гродна.

**Згі'бель** ж. Пагібель, смерць. А чаму на вас якая згібель ні прыдзя, як вы надаелі ўсім. Лаша.

**Згізава'цца** зак. Узабрацца, узлезці. Стары на печ ні можа згізавацца, аслаб зусім. Лікоўка.

**Згіно'та** ж. Гібель, смерць, пагібель. Мусі, згінота на нас прышла, ні вытрымаямо. Дарашэвічы.

**Зглумі'ць** зак. Зглуміць, папсаваць, загубіць. Сад такі файны быў, а вайною зусім зглумілі. Вялікая Жорнаўка.

**Згніло'це** н. Гніль, гніллё. Гэта згнілоце нікому ні патрэбна, з яго ні тулько хаты, а нават хлява ні паставіш. Агароднікі.

**Згнэ'мбіцца** зак. Прытварыцца няшчасным, прыкінуцца пакрыўджаным. Згнэмбіўсо, як чорт пат крыжам /прымаўка/. Каўпакі. У хаці ён гогалем ходзіць, а дзе трэбо паказаць сібе, та згнэмбіцца, ні пазнаяш яго. Гарны.

**Зго'мтаць** зак. Скамячыць, змяць.Чысто рубашку недзя згомтаў, німа як надзець. Рагачы.

**Згон** м. Партыя, чарада плытоў. Ён плытагон спрактыкаваны, ні адзін згон плытоў па Нёману правёў. Селюкі.

**Згра'бны** прым. Зграбны, спрытны, стройны. Зграбны хлопяц, нічого ні скажаш. Гібулічы.

**Зграбсці'** зак. Згрэбці, абхапіць. Доўго ні чакаючы, я згроб немца і як кіну на зямлю, та ён аж вякнуў. Бандары.

**Зграсава'ць** зак. Стаптаць, папсаваць, знішчыць /пра пасевы/. Як пусцілі кароў на рунь, та за дзень чысто зграсавалі, с карэньмі вынясслі. Рагачы.

**Згра'я** ж. Зграя, банда, шайка. Яшчэ доўго пасля вайны адна зграя бандытаў цягаласа па лесі, ні маглі вылавіць. Шылавічы.

**Згрызо'та** ж. Пакута, спрэчкі, душэўная мука. У хаці адна нека згрызота, здзаецца, пашоў бы куды, каб вушы ні чулі. Каўпакі.

**Згрэ'біло** н. Металічная шчотка для чысткі каня. У кожнаго гаспадара некалі было згрэбло, як конь укачаяцца, бярэш згрэбло і чысціш. Квасоўка.

**Згу'ба** ж. Смерць, гібель. Як надыдзя на чалавека згуба, та яму ніякія дахтарэ нічого ні памогуць. Сухая Даліна.

**Згэ'дулькі** прысл. Стolькі, гэтулькі. Во, згэдулькі вазьму, глядзі, ні замного будзя? Кашэўнікі.

**Здава'цца** незак. Уяўляцца. Ён мне здаваўсо разумным чалавекам, а аказаласо, што німа з кім гаварыць. Селіванаўцы.

**Здагада'цца** зак. Здагадацца, зразумець. Я ўжэ потым здагадаўсо, на што ён намякаў. Дубоўка.

**Здараві'на** м. ж. Чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы, здароўя. Але ж і здаравіна быў чалавек, а хвароба зваліла. Ласосна.

**Здаро'ве** н. Здароўе. Здарове ў чалавека слабое было, ні жыў, тулькі мэнчыўса бедны. Бычкі.

**Здаро'жыцца** зак. Здарожыцца, стаміцца, змарыцца ў дарозе. Гэта ні дзіво, што чалавек здарожыўса, такую далеч прайсці. Баранава.

**Зда'тна** прысл. Прыгожа, хораша. Век здатно ні праходзіш і смашно ні пераясі /прымаўка/. Горніца. Яна і адзяваласа здатно, і сама была здатная дзеўка. Баранавічы.

**Зда'тны** прым. 1. Прыгожы, харошы. Хлопец здатны, хоць вады напіса / прымаўка/. Дзекалавічы. Іх маці здатная была, і дзеці ўдаліса ў матку. Дарашэвічы. 2. Здольны, умелы. Хлопец да ўсяго здатны, і да рыканячка, і да валанячка, а запражы ў саху — возьме ды ляжа /выслоўе/. Свіслач. Яна ні да чэго

ні здатна: ні да танца ні да ружанца. Падкрыжакі.

**Здацыдава'цца** зак. Адважыцца, асмеліцца. Доўго думаў і ніяк ні мог здацыдавацца падаць справу ў суд. Казловічы.

**Здранцве'ць** зак. Здранцвець, адзеравянець, амярцвець. Ад холаду рукі здранцвелі, пальцы ні разгорняш. Батароўка.

**Здратава'ць** зак. Стаптаць, папсаваць, знішчыць /пра пасевы/. На тым загоне, што каля луга, і сеяць німа рахунку, усёроўно жывіна здратуя. Баброўнікі.

**Здраявы'** прым. Крынічны. У нас вада здраявая, ні с студні, тут нідалёко здрой с кадаўбцом есць. Караневічы.

**Здрой** м. Крыніца. У нас здраёў гэтых много, таму і вада ледзяная ў

**Ласасянцы.** Брузгі.

**Здруй** м. Крыніца. Гэты здруй, што на лушку, нават у найбольшы мароз ні замярзае. Сапоцкін.

**Здрэ'йфіць** зак. Спалохацца, разгубіцца. Страху тут было столькі, што тут ні я адзін здрэйфіў бы. Пракопавічы.

**Здубе'ць** зак. Адубець, скарчанець, акалець. Стоячы на такім холадзі, можно зусім здубець. Зялёная.

**Зду'ха** ж. Халодная неўрадлівая глеба. Як здуха, та гной лажы ні лажы — усероўно нічого ні вырасця. Сабаляны.

**Зды'мшчык** м. Чалавек, які загатаўляе жывіцу. У нас Станіслаў Церабей больш як дваццаць год здымшчыкам робіць, жывіцу здымая. Парэчча.

**Зды'рдзіцца** зак. Памерці, здохнуць / груб./. Халернік гэты і ні здырдзіцца, людзі яго ўжэ даўно праклялі. Адэльск.

**Здыхлі'на** ж. 1. Труп здохлай жывёлы. Здыхлінай некай нясе, як павея з лесу. Рацічы. 2. Слабы, худы, хваравіты чалавек /пагард./. Здыхліна нека, скольк жыве, столькі і хварэя. Лікоўка.

**Здыхля'к** м. Слабы, худы чалавек. Здыхляк ні мужчына, дзе тут у яго тая сіла будзя. Панямунь.

**Здыхля'ціна** ж. 1. Труп здохлай жывёлы. У вайну гэтай здыхляціны па ўсіх дарогах валяласо, ні было каму закопваць. Лаша. 2. Слабы, худы, хваравіты чалавек або жывёла. Ці ж гэту здыхляціну ў воз запрагаць, яна ледво ногі валачэ. Рагачы.

**Здэ'цца** уводн.сл. Здэцца, здаецца. Здэцца, пана і ні пакрыўдзіў, а ён міне аблаяў хамам. Баброўня.

**Зе'вы** мн. Жабры, шчэлепы. Як схапіў шчупака за зевы, так і выкінуў на бераг з вады. Сухая Даліна.

**Зеграчы'** мн. Вочы /груб./. Ты чо гэта вытрашчыў на міне зеграчэ, думаяш, баюса. Адэльск.

**Зе'гры** мн. Тое, што і зеграчы. Яна табе зегры павыпорвая, ляпей з ею ні задзірайса. Свіслач.

**Зе'лье** н. Зелле, пустазелле. Зелье ўкрыло весь гарод, прапалоць ні маю часу. Батароўка.

**Зе'льна** ж. Рэлігійнае свята 15 жніўня па ст. ст. Учора зельна была, насілі свянціць яблыкі, грушы. Балічы.

**Зеляні'во** н. Недаспелая садавіна. Мусі, наеўсо зеляніва, так жвот і забалеў. Гожа.

**Зелянка'вы** прым. Зеленаваты. Мне найбольш зелянкавы колер падбаяцца, на такі і трэбо фарбаваць. Кавалічы.

**Зеляно'к** м. Рэлігійнае свята ў чэрвені. На зелянок хаты прыбіралі ў зелень, аптыкалі маладымі бярозкамі, падлогу аерам пасыпалі, кап пахло. Круглікі.

**Зе'мка** ж. Зямля /дзіцячае слова/. Ідзі, сынку, на земку, а то рукі адабрало, цібе трымаючы. Ферма.

**Земкачэ'** мн. Вочы /груб./. Калі ні дасі сляпому жабраку, та табе самому земкачэ выпра. Капцёўка. З"е'сці зак. З'е'сці. Усяго, брат, на гэтым свеці ні з»ясі, пакіняш. Пяслі. З"есці з духаме'нтам — з»есці з вантробамі, з трыбухамі. Каб ён мог, та з духамёнтам ззеў бы яго, але баіцца, што зубы паламая. Радзевічы.

**Зеў** м. Зеў, прастора паміж двума сла- ямі асновы ў кроснах, дзе праходзіць чаўнок. Як большы зеў, та ляпей чаўнок прасоваць, лепш ідзе. Рагачы.

**Зё'хапь** незак. Цяжка дыхаць. Як мы да яго падбеглі, та ён ашчэ зёхаў, жывы быў. Сухая Даліна.

**Зжына'ць** незак. Зжынаць. На весну,

як пшаніца файна, та яе трэбо зверху зжынаць, бо паляжа. Кузьмічы.

**Зжыць** зак. Зжыць, пазбыцца ад чаго-небудзь. Гэта ні начальнік быў, а цэла бяда, кожнаго стараўсо зжыць, выгнаць з работы. Гродна.

**Ззабра'ць** зак. Сабраць. Ззабраць рой ні так лёхко, а найгорш, як сядзя высоко на дзераво. Струбка.

**Ззавідна'** прысл. Да змяркання. Ашчэ ззавідна прыехалі з кірмашн і вават сечкі коням нарэзалі. Свіслач.

**Ззарві'галава'** м., ж. Свавольнік, гарэза, сарві-галава. Гэта ні хлопец, а некі ззарвігалава, усюды яго поўна, усюды ўлезя. Свіслач.

**Ззо'сну** прысл. Спрасонку. Ззосну ні ведаў, што рабіць, кінуўса туды-сюды, ледво дзверы знашоў. Рагачы.

**Ззуме'цца** зак. Збянтэжыцца, разгубіцца, атарапець. Людзі аж ззумеліса, адкуль ён і зноў узяўсо; казалі, памёр даўно. Палаткова.

**З-з-з-ы!** выкл. Гукаперайманне гудзення аваднёў, каб напалохаць кароў. Як пачнеш: з-з-з-ы!.. — так каровы хвастэ і пазадзіраюць. Каўпакі.

**Ззыма'ць** зак. Злавіць. Конь як парве путо, та будзяш за ім хадзіць усю раніцу, пакуль ззымаяш. Баброўнікі.

**Зі'каць** незак. Пакрыкваць, крычаць, зыкаць. Ты што ўзяў моду на старэйшых зікаць, яны што — табе раўня? Каленікі.

**Зімаго'р** м. Бабыль, халасцяк. У Берштах знаў аднаго зімагора, та ён жыў адзін ў лесі, як воўк, у такой хатцы маленькай. Скідаль.

**Зімо'ўнік** м. Зімоўнік, памяшканне для захоўвання пчол зімой, імшанік. Зімоўнік можно зрабіць самому: выкапаў яму, паслаў насціл — і ўжэ зімоўнік. Бакуны.

**Зі'пнуць** зак. Ён свайму паробку і зіпнуць ні даваў, усё ганяў і ганяў. Круглікі.

**Зіпу'н** м. Зіпун, старадаўняя верхняя сялянская вопратка з самаробнага сукна. У нас зіпуноў ні насілі, можа, ў якіх Бубнах ці Глінянах. Свіслач.

**Зіхаце'ць** зак. Зіхацець, блішчаць, ззяць пералівістым святлом. Як едзяш, бывала, возам, та ўжэ за вёрст сем бачыш, як агні над Гроднам зіхацяць. Сінявічы.

**Зладзю'га** м. Злодзей /пагард./. Зладзюга, што і казаць, яму рукі аж свярбяць, каб чужое ўзяць. Сколабава.

**Злажы'ць** зак. 1. Палажыць ў адно месца. Злажыць сено ў стог ні цяшко, каб тулькі сухое было. Лугавая. 2. Пабудаваць, скласці. Майстрэ ўжэ злажылі зруб хаты, да вечара, можа, і крохвы паставяць. Кунцаўшчына. Злажыць склад — правясці пасярэдзіне загона дзве першыя баразны. Злажыць склад аднаму цяшко, коні круцяцца, ні роўны будзя. Балічы.

**Зла'зіць** незак. Выходзіць. Каля Глінян трэбо было злазіць, а ён праехаў, ціпер хай ідзе назад. Абухава.

**Злапа'ць** зак. Злавіць, затрымаць. Ашурка, што паліцыянтам быў, аж у Польшчы злапалі, там, кажуць, і судзілі. Галавачы.

**Злезава'цца** зак. Ліквідавацца, скасавацца. У Кругліках было дзесяць участкаў зямлі, з іх тры злезаваласо, бо людзей з іх выгнаў, засталаса пустка. Круглікі.

**Зле'ціцца** зак. Падагрэцца, чуць нагрэцца. На такім агне вада толькі злеціцца, а ні нагрэяцца. Бычкі.

**Зліга'ць** незак. Слабець, памяншацца. Мароз пачаў злігаць, одліга будзя. Скідаль

**Злі'пак** м. Хлеб з клейкім мякішам. Зліпак некі атрымаўсо ні хлеб, муку мусі замного запарыла. Пагараны.

**Злі'тавацца** зак. Злітавацца, змілавацца, злітасцівіцца. Можа, Бог злітуецца ды які дождж пашле, а то ўсе высмаліло, пажоўкло. Зарыца. Злітуйса, чалавеча, памажы старой сесці. Калбасіна.

**Злыбяда'** ж. Бяда, ліха. Злыбяда прыстала да нас і, мусі, ні адчэпіцца. Баброўня.

**Злы'гацца** зак. Злыгацца, звязацца, зблізіцца, завесці агульныя справы, часцей нядобрыя. Злыгаласа з гэтай бабай, та ціпер па цэлых днях сядзяць і трэплюць языкамі. Круглікі.

**Злы'гаць** зак. Праглынуць, прагна з»есці. Што ні дасі, ўсё качке злыга-

юць і ашчэ стаяць голавы задраўшы. Свіслач.

**Злы'дзень** м. Ліхадзей, шкодны чалавек. З гэтым злыднем ляпей ні звязвайса, ён цібе да халоднай вады давядзе. Баброўня.

**Злы'днік** м. Тое, што і злыдзень. Злыднік, ён нікому ў бядзе ні паможа, глядзіць, каб сам тулькі жыў. Гліняны.

**Злыду'х** м. 1. Тое, шго і злыдзень. Злыдух гэты, ён та да аднаго, та да другого, а ўсероўно за нешто прычэпіцца. Адэльск. 2. Д»ябал, чорт, злы дух. Чуеця, вунь, як у коміні злыдух завывая, плача. Селюкі.

**Злэ'гацца** зак. Злыгацца, звязацца, зблізіцца, завесці агульныя справы /часцей нядобрыя/. Бабы як злэгаюцца, та і вадой свянцонай ні разжанеш. Пракопавічы. Ясь быў злэгаўсо з бугалтаркай, жонку сваю кінуў. Адэльск.

**Злядава'ць,** зладава'ць зак. Палажыць на воз пры дапамозе спецыяльнага прыстасавання /ляды/ цяжкае бервяно. Я адзін мог злядаваць дзерава на воз, нават самае тоўстае. Эйсманты.

**Змагчы'ся** зак. Змагчыся, аслабець, выбіцца з сілы. Пры такой пякельнай рабоці можно змагчыса, здарове палажыць. Азёры.

**Зма'лку** прысл. З маладых гадоў, з маленства. Ён змалку хлябнуў гора, напакутаваўсо. Гарны.

**Змалянко'сці** прысл. З малых гадоў, з маленства. Ён і змалянкосці ні меў добраго здаровя, а ціпер і тым больш ні мая. Дарашэвічы.

**Змамзлі'ць** зак. Прагна з»есці, зжэрці /груб./. Маладым я мог адразу змамзліць з паўкіля кракаўскай кілбасы, але за што яе купіць было. Баброўня.

**Змануць** зак. Унадзіцца, узяць звычай, моду. Як змане дзіця рано ўставаць, та рады німа, крычыць, нікому ўжэ спаць ні дасць. Гарны. Зманую на вечарынкі хадзіць, у хаці ні прыпыняяцца. Віцькі.

**Змарне'ць** зак. Змарнець, схуднець. Зусім хлопяц змарнеў, нешто ў голаў узяў сабе, усе думае аб нечым. Дайлідкі.

**Змахлява'ць** зак. Ашукаць, зжульнічаць. Яму, брат, ні вер, ён можа змахляваць. Круглікі.

**Зме'ік** м. Змеявік, металічная трубка ў смалярным катле для кандэнсацыі шкіпінару. Як гоніш шкіпідар, та глядзіш, каб змеік быў поўнасцю ў вадзе. Рыбніца.

**Зме'на** ж. Змена, перамена. Пачакай з прадажай хаты, мо якая змена будзя. Хліставічы.

**Змікі'ціць** зак. Зразумець, здагадацца. Ты павінен зразу быў змікіціць, што тут робіцца, да чаго хіліцца. Хліставічы.

**Зміласці'віцца** зак. Злітавацца, змілавацца. Думалі, што прападзем, а зноў пан зміласцівіўса і пакінуў нас ашчэ на адзін рок у маёнтку. Зарыца.

**Змы'лак** м. Змылак, астатак ад куска мыла. Змылак быў і той недзя падзелі, німа чым рук памыць. Рагачы.

**Змы'льнік** м. Тое, што і змылак. Гэта с такого велькаго куска тулькі змыльнік адзін застаўсо. Зялёная.

**Змы'сне** прысл. Наўмысна, з намерам, свядома. Мы ўжэ даўно ведалі, што ён гэта ўсё змысне робіць. Копанікі.

**Змы'цца** зак. Уцячы, знікнуць. Трэбо адгэтуль змыцца, пакуль галава цэла. Аульс.

**Змэ'нчыцца** зак. Змучыцца, стаміцца, знясіліцца. Жнучы, як змэнчымса, та вечарам ледво дахаты далезям, і вячэраць ні хочацца. Балічы.

**Змяні'ць** зак. Змяніць, перамяніць. Заўтро свято, бялізну трэбо змяніць, чысту надзець. Занявічы. Падрубы ў хаці зусім знілі, даўно трэбо было змяніць, ды часу німа. Перстунь.

**Змя'ны** мн. Змена квадры месяца. Учора змяны былі, пагода пераменіцца. Рацічы

**Змярка'цца** незак. Змяркацца, цямнець. Змяркацца пачало, а гарачыня стаіць, ні дыхнуць. Дарашэвічы.

**Змясі'ць** зак. Перан.: моцна пабіць, пакалечыць. Яго так тады змясілі, што думалі, ні выжыве, але неяк выкарапкаўса. Зарубічы.

**Знабі'ць** незак. Трасці, калаціць. Нешто знабіць, кідая ў холад, мусі, злягу. Бычкі.

**Знату'рыцца** зак. Прывыкнуць, узяць звычку. Як знатурыцца ўдзень спаць, рады німа, сядзіць і спіць. Квасоўка.

**Зна'хар** м. Знахар, лекар-самавучка. У Каўпаках быў знахар Барташ, у прошлую зіму памёр, кажуць, многім памагаў. Каўпакі.

**Знаха'рка** ж. Знахарка. У нас знахарка была — Гліндзічыха Параска, загаворвала, нават пераломом касцей састаўляла. Загорцы.

**Зна'чыцца** незак. Паказваць прыкметы хуткага ацёлу /пра карову/. Карова значыцца, праз дзве нідзелі ацеліцца, малодзьво будзя. Горніца.

**Зне'куль** прысл. Аднекуль. Знекуль хвароба да чалавека прыстаня, ніякай рады ні дасі. Галавачы.

**Зніна'цку** прысл. Знянацку, раптоўна, нечакана. Сабака як напаў знінацку на нашаго хлопца, та чысто перапалохаў. Цвіклічы.

**Зно'сак** м. Зносак, маленькае яйцо. Ля, паглядзі, які зносак бела курыца знясла. Тумашы.

**Знібо'жыцца** зак. Прытварыцца бязвінным. Як трэбо, та ён знібожыцца, стане такім, хоць да раны прыкладай. Адэльск.

**Зніве'чыць** зак. Знявечыць, пакалечыць. Як тады вызілі ў Германію, та і ён папаў, там яго і знявечылі. Хамякі.

**Znімо'глы** прым. Зняможаны, стомлены, знясілены. С плену ён прышоў такім знямоглым, што ад ветру valiўсо. Адэльск.

**Зніна'цку** прысл. Знянацку, нечакана, раптоўна. Шуляк у палудзень знянацку на курэй напаў, та добро, што дзеці адагналі. Рудавіцы.

**Зніхэ'нціць** зак. Адбіць ахвоту. Зняхэнцілі хлопца да навукі, таму і школу кінуў. Кунцаўшчына.

**Znічэ'ўку** прысл. Знянацку, раптоўна, нечакана. Знячэўку падкрадзецца да чалавека смерць, і нічым ад яе ні аткупішса. Літвінкі.

**Зо'лак** м. Золак, пачатак світання. У міне тут рай, на золку жаўруке аж залліваюцца, звіняць на ўсё поле. Баброўня.

**Зо'рка-вячэ'рніца** ж. Венера, вячэрняя зорка. Ля, зорка-вячэрніца ўзышла, блішчыць. Бакуны.

**Зрачы'** зак. Сурочыць, урачы; па павер'ю, нанесці шкоду людзям поглядам, нядобрым вокам. Ні паказвай Ганулі дзіця, у яе нідобра воко, можа зрачы. Кавалічы.

**Зраявы'** прым. Крынічны. Успацеўшы, як напіўса зраявой вады, так назаўтро горло і залажыло. Караневічы.

**Зрой** м. Крыніца. У канцы нашаго палетка быў зрой, як жалі, та ўсе туды хадзілі па воду. Караневічы.

**Зру'мзацца** зак. Сплакацца, знемагчыся ад слёз. Пакінулі дзяўчука ў хаці, та чысто зрумзаласа, пакуль прышлі. Кунцаўшчына.

**Зру'шыцца** зак. Зрушыць пазваночнік пры падыманні цяжару; моцна навярадзіць спіну. Відаць, чалавек зрушыўсо, бо мяшка ні можа сам з воза зняць. Луцкаўляны.

**Зрэ'бніна** ж. Зрэб»е; палатно, вытканае з самага горшага гатунку лёну. У нас з зрэбніны мяшке шылі. Эйсманты. Зрэбніна ішла на конскія торбы, радюшке зрэбныя былі. Караневічы.

**Зрэ'бны** прым. Зроблены са зрэб»я. Зрэбны мяшок моцны, некулькі рок можно вазіць збожа, ні парвецца. Зарыца.

**Зрэ'зак** м. Зрэзак, астатак, абрэзак. З маей касы тулькі зрэзак астаўсо, але косіць ляпей, як новая. Рудавіцы.

**Зрэ'нка** ж. Зрэнка. Зрэнкі наставіць свае чортавы і глядзіць на міне, зладзюга. Пракопавічы.

**Зрэ'піцца** зак. Счапіцца, схваціцца. Пятух у нас задзірысты, як зрэпіцца з другім біцца, за хвост ні адцягняш. Агароднікі.

**Зрэ'шты** /супраціўны злучнік/. Аднак, усё ж. Зрэшты нам туды і ні выпадало заходзіць, там нашых ні было. Стрыеўка.

**Зуба'р** м. Гульня хлопчыкаў з ножыкам. Заб'юць зубар, такі калочак маленькі, у землю, а ты даставай зубамі. Кунцаўшчына.

**Зубаска'л** м. Любіцель пасмяяцца, пажартаваць, перасмешнік. Гэта зуба-

скал, ён заўсёды рагоча, зубы прадае. Дарашэвічы.

**Зуба'ць** незак. Правяраць яйкі на моц лёгкім пастукваннем аб зубы /на вялікдзень/. Якаў ашчэ за дзве нідзелі да вялікадня аб'яжджаў усю шляхту, зубаў яйца, каб выбраць мацнейшыя. Кунцаўшчына.

**Зубі'ць** незак. Насякаць зуб»е ў сярпах. Найлепей зубіў сярпэ гэта ў Беляве каваль, туды мы і насілі. Чэхаўшчына.

**Зу'бкі** мн. Брыжы, карункі. Даўней да спадніцаў дзяўке зубкі прышывалі, каб пякней было. Галаўнічы.

**Зубо'к** м. Долька ў галоўцы часнаку. Наша маці як варыла бульбу, любіла зубок часныку палажыць, кап смашнейша была. Літвінкі.

**Зубро'ўка** ж. Зуброўка, шматгадовая травяністая расліна. Пагаранскі дзед, бывала, кіня тры травінкі зуброўкі ў бутэльку, пабоўтая і кажа: "Во, зуброўка будзя!» Гродна.

**Зумы'сне** прысл. Наўмысна, з намерам, свядома, знарок. Зумысне я табе ні хацеў зрабіць гэтаго, так папаласо, ні сярдуй. Пагараны.

**Зусю'ль** прысл. Зусюль, адусюль, з розных месцаў. Буслэ, мусі, будуць адлятаць, зусюль сталі злятацца на наш выган. Ліцвінкі.

**Зух** м. Бойкі, удалы, маладзецкі хлопец. Баба казала: "Як дзіця малое моцно крычыць, та гэта будзя зух, бойкі чалавек." Індура.

**Зухава'ты** прым. Зухаваты, бойкі, удалы. Ох, зухавата была дзеўка, ні кожны хлопец мог да яе падысці. Лаша

**Зы'ба** ж. Тонкі лёд, які прагінаецца пад нагамі. Зыба гэта тады, калі лёд гнецца пад нагамі, але ні правальваецца. Давайце коўзацца, пакуль зыбу ні зробім. Лаша.

**Зы'даль** м. Услон. Помню, дзед пасадзіць нас, малых, каля сібе на зыдаль і давай расказваць страшныя байкі. Эйсманты.

**Зыска'ць** зак. Вярнуць доўг, забраць назад пазычанае. Ён любіць пазычаць, але зыскаць у яго цяшко. Рацічы.

**Зэ'гер** м. Насценны гадзіннік /устар./. У нас даўно зэгер на сцяне вісіць, ні ідзе, ашчэ дзед некалі купіў. Кунцаўшчына. Як зэгер — у значэнні: вельмі добра, якасна, акуратна, як звон. Хату, як зэгер, выстраіў, любо паглядзець. Індура.

**Зэ'даль** м. Услон. Мая баба любіла парадак, вышаруя стол або зэдаль, та беляхцяць, як новыя. Бандары.

**Зэ'длік** м. Услончык, то ты стаіш, вазьмі зэдлік і сядзь каля печы. Завадзічы.

**Зю'зя** ж. Холад /дзіцяч. слова/. Ні адчыняй, дзетачка, дзверы, там зюзя, прастудзішса. Хамякі.

**Зяб** м. Зябліва, асенняе ўзворванне поля пад пасеў яравых. Зяб пачыналі рано, як толькі снапэ звязуць, так і зябяць. Квасоўка.

**Зябле'не** н. Зябліва. Чым раней зяблене пачнеш, тым ляпей, зямля перапрэя. Карозічы.

**Зягра'ты** прым. Вірлавокі, чалавек з вялікімі вачыма. Сын, як капля вады, у татка ўдаўсо, такі самы зяграты. Адэльск.

**Зягра'ч** м. Чалавек в вялікімі вачыма, вірлавокі чалавек. Гэты зяграч і зноў паўзе да нас, патрэбны ён нам як у мосці дзірка. Адэльск.

**Зязю'лін** прым. Зязюлін. Зязюліных гнёздаў ні знойдзяш, бо яна яйца ў чужыя гнёзда кладзе. Карозічы. Зязюліна мыла — травяністая расліна. Як малыя былі, та назбіраям гэтаго зязюлінаго мыла і мыямсо ў рэчцы. Парэчча.

**Зязю'льчын** прым. Зязюлін. Зязюльчына пара як настаня, та яны з усіх бакоў куюць. Жукевічы. Зязюльчын лён — расліна з жоўтымі кветкамі. У балоці нашым гэтаго зязюльчынаго лёну много, ён такі даволі высокі рос. Свіслач.

**Зяле'пуха** ж. 1. Зялёны, недаспелы плод. Наеўсо зялепухі, а ціпер жвот мэнчыць. Баброўнікі. 2. Худое, кволае дзіця. Нека зялепуха, ні дзіця, ледво жыве. Кавалічы.

**Зялё'нае** н. Нейкая лясная расліна, з жоўтымі кветкамі, з якой робяць венікі. Зялёнае больш на ўскрайку лесу расло. Як пойдзям, бывало, та

венікаў дваццаць навяжаш, нясеш дахаты. Пагараны.

**Зялё'ны** прым. Зялёны. Зялёны дубочак, чаго пахіліўсо, малады малойчык, чаго зажурыўсо /з нар. песні/. Свіслач. Зялёны машок — расліна з дробнымі лісцікамі. Кажуць, гэты зялёны машок добро памагая ат крываўкі. Парэчча.

**З'ялча'ць** зак. З'ялчаць, прагоркнуць, зжаўцець /аб тлушчах/. Слаціну трэбо добро саліць, кап соль пакрывала, тады яна ні з'ялчая. Рудавіцы.

**Зя'па** ж. 1. Рот звера, пашча. Ну, і гарачыня, сабака і той зяпу раскрыў, язык вываліўшы. Кругляны. 2. Рот чалавека /груб./. Зяпу раскрываць вы ўсе майстры, а як да работы — ўсе ў кусты / выслоўе/. Квасоўка.

**Зяць** м. Зяць, мужык дачкі. Зяць любіць узяць /прымаўка/. Бакуны.

# І

**Іглі'ца** ж. Ігліца. 1. Папярочны, клінападобны брусок для змацавання дошчак у дзвярах. Як узяты дзверы на ігліцы, та мацнейшыя, шчыльныя, ні раз'едуцца. Рацічы. 2. Іголкападобнае лісце хвойных дрэў. Ігліцы сухой назграбаям і добро на падсціл каровам. Зарубічы. 3. Прылада для вязання рыбалавецкай сеткі ў выглядзе драўлянай іголкі. Як з Расеі прыехалі, та тато вечарамі возьмя ігліцу і давай вязаць сачок. Кунцаўшчына.

**Ігры'шча** н. Ігрышча, збор моладзі для гульняў, вечарынка. Учора ігрышча было як мая быць, хлопцы ўдоваль наскакаліса. Баброўня.

**Ізба'ч** м. Загадчык хаты-чытальні. Іван пасля курсаў стаў рабіць ізбачом ў Батароўцы. Эйсманты.

**І'каўка** ж. Іканне, ікаўка. Ікаўка напала, мусі, нехто ўспаміная. Балічы.

**Ікра'** ж. 1. Ікра, яечкі рыб, земнаводных, водных жывёл. Ужэ цяпло стало, жабы квакаюць, ікры панапускалі ў сажалку. Рагачы. 2. Яда з дробна пасечанай агародніны. Ікра — гэта, брат, ні закуска, ні магу цярпець яе. Гродна.

**Ілья'** м. Ілля, рэлігійнае свята 20 ліпеня ст. ст. Прышоў Ілья — нарабіў гнілля /прыказка/. Баранава. Прышоў Пятрок — адпаў лісток, прышоў Ілья — адпало два, прышоў Іспас — і лето ад нас /прыказка/. Гожа.

**Іма'ць** незак. Лавіць. Некалі рыбу пат карчамі імалі рукамі, ціпер і сеткай ні зловіш. Баброўнікі. Як парве конь путо, та цэлы дзень будзяш імаць, хадзіць за ім. Лаша.

**Імбры'чак** м. Чайнік для заваркі чаю / устар./. Помню, і ў нас быў імбрычак, матка з Расеі прывязла. Кунцаўшчына.

**Імгла'** ж. Імжа, ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці. Імгла нека павісла, нічого ні відаць. Галавачы.

**Імглі'ць** незак. Імжыць, падаць дробнымі капелькамі. Каторы ўжэ дзень пагоды німа, усе дождж імгліць і імгліць. Гібулічы.

**Імжа'** ж. Імжа, тое, што і імгла. Імжа нека на дварэ, грыбэ будуць. Зарубічы.

**Імжыць** незак. Імжыць, падаць дробнымі капелькамі /пра пождж/. Чысто прамок, імжыць і імжыць некі дождж. Навасёлкі.

**Імперато'рка** ж. Сорт бульбы жаўтавата-белага колеру. Да трыццаць дзевятаго року ў нас усе імператорку садзілі, файна бульба была. Літвінкі.

**Імша'** ж. Каталіцкая абедня. Нешто тато і зноў прысніўсо, трэбо імшу закупіць. Лойкі.

**Іна'кшы** прым. Іншы. Інакшы час ціпер настаў, усе ў горад пруцца. Каўпакі.

**І'ней** м. Іней, шэрань. Густы іней як аблепіць дзераво, та галіны аж гнуцца, ломяцца. Казіміроўка. Калі зімой на дзераве ад інею суке гнуцца, та жыто будзя ядрона, ат каласоў гнуцца. Дзекалавічы.

**Інтэ'рас** м. Справа, дзелавая патрэба.

Адчапіса, чалавеча, я с табой ні хачу ніякага інтэрасу мець. Горніца.

**Іншпэ'ктар** м. Інспектар. Надзя казала, што жонка Са'нчынага сына недзі іншпэктарам робіць. Свіслач.

**Іржа'** ж. 1. Чырвона-буры налёт на паверхні жалеза. Іржа чысто ззела бляху, перакрываць трэбо будзя. Індура. 2. Прымесь вокіслаў жалеза ў балотнай вадзе. У Рудавіцкім балоці іржа нека, вада іржава. Рудавіцы. 3. Жоўта-аранжавыя плямы на жыце. Як густы туман выпадзе, та на жыто іржа нагадая, чырванея. Свіслач.

**Іржаве'ць** незак. Іржавець. Ці ў добраго гаспадара будзя плуг валяцца на дварэ, іржавець? Старая Дубавая.

**Іржа'ць** незак. 1. Адзывацца ржаннем. У нас конь Мумей быў, як паклічаш, так і адазвецца, іржэ. Кунцаўшчына. 2. Перан.: гучна смяяцца, рагатаць. Чаго ты іржэш, што тут смешнаго бачыш? Пяслі.

**І'рха** ж. 1. Вузкая палоска скуры або аўчыны, якая закладваецц ў шво кажуха. Выраж палоску гаўчыны, апскубі воўну, і ужэ табе будзя ірха. Пракопавічы. Ірху ў кажусе ўстаўляюць, бо вада можа зацячы паміш шва. Брузгі. 2. Перан.: худая жанчына. І што з ею сталасо, высахла зусім, ірха нека. Бакуны.

**Іска'ць** незак. Шукаць. Я яго іскаць і ні думаю, хай ідзе, адкуль прышоў. Гарны. Іскаць за'іскам — шукаць старанна, пільна, уважліва. Яго заіскам іскалі — прапаў як камень у воду. Лаша. Голка ўпала, заіскам іскала — ні магла знайсці. Балічы.

**Іспо'шка** ж. Рэлігійнае парафіяльнае свята 27 жніўня па ст.ст. На Іспошку ў Верцялішках фэст быў, як з'едуцца пад цэркву, та прайсці ні можно з-за фурманак. Путрышкі.

**Ісці'** незак. Ісці, крочыць. Мой Антось усе недзі ідзе і ідзе, ні прыпыняяцца. Балічы. Ісці блізкі свет — ісці вельмі далёка. Гэта ні жарты — ісці бліскі свет, дзе тое Грайно. Рагачы. Ісці ў заклад — спрачацца на грошы, або на што-небудаь. Ні верыш мне, давай ісці ў заклад. Лаша. Ісці, як на паншчыну — ісці неахвотна, ледзьве цягнуцца. Халернік, ідзе, як на паншчыну, людзі нарабіліса, а ён тулькі паўзе. Круглікі. Ісці як назаўтра — ісці павольна, марудна. Здаецца, і ні стары, а ідзе як назаўтра, ледзьве ногі валачэ. Каленікі. Ісці з торбай — пачаць жабраваць. Гуляй, брат, але глядзі, каб з торбай ні прышлоса ісці.Рагачы.

**І'ўгацца** незак. Падаваць голас са спецыяльным візгам /пра коней/. Да нашай Дарэшкі ні падысці, так і пачне іўгацца, задам біць. Кунцаўшчына.

**І'хны** займ. Іхні. Іхны парадак я знаю, ты мне ні даказвай. Дарашэвічы.

# К

**Каблу'к** м. Дужка ў драўлянай баране, за якую зачапляецца ворчык. Як каблук зроблены з дубу або берасту, нігды ні паломіцца. Струбка.

**Кабы'лка** ж. Пятля ў нічальніцах кроснаў, праз якую працягваецца нітка асновы. Гэта сама марудна работа, пакуль прас кабылкі ўсе ніткі папрацягваяш. Каханова.

**Ка'ва** ж. Кава, кофе. Хто калі тую каву піў тады, цукру ні было. Лаша.

**Кава'дло** н. Кавадла. Ён як пачне садзіць молатам, та с кавадла аж іскры ляцяць. Белева.

**Кава'лак** м. Кавалак, кусок. У нас тулькі рабі, та кавалак хлеба заўсёды будзяш мець. Сіўкава. Кавалак жуліка — у значэнні: схільны да ашуканства, зладзейства /лаянк./. Гэта ні хлопяц, а кавалак жуліка. Лаша.

**Кавале'р** м. 1. Кавалер, малады чалавек, халасты мужчына. Ты ашчэ без ганавіцаў хадзіў, як я кавалерам быў. Эйсмангы. 2. Кавалер, паклоннік. Доб-

ры кавалер быў у Надзі, але вайна згубіла. Свіслач.

**Каваро'дак** м. Калаўрот. У нас, у Азерах, былі такія майстрэ, што кавароткі рабілі. Ліхачы.

**Кава'ць** незак. 1. Каваць. Кую-кую ношку, паедзяш ў дарошку /з дзіцяч. нар. песні/. Кунцаўшчына. 2. Кукаваць. Кавала зязюля, кавала, ды што яна куючы казала? /з нар.песні/. Свіслач. Каваць камень — рабіць насечкі на жарнавым камені. Як часцей каваць камень, та і ляпей меля на хлеб, расцірая зерня. Караневічы.

**Кага'л** м. 1. Яўрэйскае абшчыннае самакіраванне. Ого! Кагал што пастановіць, тое і зробіць. Пракопавічы. 2. Зборышча, шумны натоўп. А гэта што за кагал ззабраўсо, што тут робіцца? Індура.

**Кагане'ц** м. Каганец, газніца, газоўка. Каганец много газы ні браў, бо кноцік у яго вузенькі, але ж натто курэў. Лугавая.

**Ка'даўб** м. Кадаўб, драўляная пасудзіна, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка драўніны для захоўвання збожжа. У наш кадаўб, можа, пудоў дзесяць жыта лезло, а можа і больш. Каленікі.

**Кадаўбе'ц** м. 1. Кадаўбец, невялікі кадаўб. З ліпы найлепшыя кадаўбцэ, яны лехкія такія, і крупэ ў іх ні засырэюць. Цвіклічы. 2. Невялікая калодачка з выдзяўбанай сярэдзінай у выглядзе вулля для заманьвання пчол. Кадаўбец як павесіў, так рой і сеў, абляпіў увесь, у сярэдзіну ні змясціўсо. Рацічы.

**Ка'дка** ж. Кадка, невялікая кадушка. Маці як наквасіць катку капусты, на ўсю зіму хватало. Бандары.

**Кадлу'б** м. Кадаўб. Кадлубы рабілі з дупляваго дзерава, сярэдзіну выцісціш, уставіш дно і — гатова. Азяркі, Грандзічы.

**Ка'даўбка** ж. Драўляная пасудзіна ў выглядзе бочачкі для захавання круп. У нас кадоўбкі рабілі самы, а нікаторыя на кірмашах куплялі. Рыбніца.

**Кадо'хас** м. Смерць, пагібель /іранічн./. Кадохас, мусі, пачулі панэ, калі пачалі ўцякаць. Індура.

**Каду'к** м. 1. Чорт, д'ябал. Куды гэта цібе кадук нясе так рано, сну табе німа. Карозічы. 2. Смерць, пагібель. Дагуляўсо, наканец, і на яго кадук прышоў. Кунцаўшчына.

**Каду'шка** ж. Кадушка. Бандары рабілі розныя кадушкі, а ў нас была такая, што пудоў 20 улазіло збожа. Ліхачы.

**Кады'к** м. Кадык. У нашага дзеда кадык вытыркаў; як еў, та смешно было глядзець, як ён ходзіць. Бакуны.

**Кае'т** м. Сшытак. Купіла хлопцу каетаў і ручку, у гэтым року ў школу пойдзя. Ланявічы.

**Кажакры'л** м. 1. Кажан, лятучая мыш. Як вечар настаня, та гэтых кажакрылаў лётало много, а ціпер ні відаць, кажуць, вытравілі. Кунцаўшчына. 2. Перан. Чалавек з худымі прыпаднятымі лапаткамі. Кажакрыл ні хлопяц, куды яму сунуцца, каб ён хоць выгляд які меў, а то зусім выхуд. Круглікі.

**Кажню'ткі** займ. Кожны /у значэнні: кожны без выключэння/. Як едзе, та кажнюткі раз забягаў да нас паглядзець, як мы жывем. Дарашэвічы.

**Кажура'** ж. Лупіна. На гэтай бульбі зусім інша кажура, такая шарупістая, інакша, як на ружоўцы. Свіслач.

**Каза'** ж. Недажатая палоска збажыны на загоне. А гэта тут чаму казу пакінулі, ні дажалі? Сухая Даліна.

**Каза'ць** незак. Казаць, гаварыць. Учора мой казоў, што паедзям да сваіх на свято, а зноў машына ніспраўна. Сухмяні.

**Казё'ннік** м. У царскія часы казённы селянін, які належаў дзяржаве. У нас, у Табольскай Будцы, усе казённікі былі, на паншчыну ні хадзілі.Табольская Будка.

**Казлы'** мн. 1. Козлы, прыстасаванне для пілавання дроў. На гэтых казлах німа як пілаваць, раз'ехаліса зусім. Гібулічы. 2. Вільчак, канёк, рознае ўпрыгожанне страхі ў выглядзе рагоў. На старых хатах і ціпер можно ўбачыць казлэ, на новых ніхто ўжэ ні ставіць. Балічы.

**Казля'к** м. Казляк, масляк. У нашым лесі добрых грыбоў німа, адны казляке, і тыя чарвівыя. Гібулічы.

**Казмяро'ўка** ж. Назва хусткі з кашаміру, якую насілі ў Заходняй Беларусі. У маей мамы была казмяроўка, пекна такая, з бриндачамі. Адэльск.

**Казы'рка** ж. Абарог, збудаванне ў выглядзе стрэшкі на слупках для захоўвання сена. Як сено ложаць у казырку, та стрэшку падымаюць, а як бяруць — апускаюць, каб ні замокло. Батароўка.

**Казыро'к** м. Брыль. Як казырок у шапцы велькі, та і на вочы добро, і нос ні загарыць, ні аблупіцца. Казловічы.

**Казы'тка** ж. Шчыкотка, козыт. Ён натта ш казыткі баіцца. Віцькі.

**Кайзы'рка,** кайзэ'рка ж. Маленькая булачка з пшанічнай мукі. З кайзыркамі толькі багачы некалі гарбату пілі. Пагараны.

**Казя'ўка** ж. Казюрка, казырка. Ля, нека казяўка паўзе, ні руш, а то ўкусіць. Свіслач.

**Каке'тка** ж. Назва хуткага танца, які бытаваў у Заходняй Беларусі. У нас танчылі некалі такі танец — какетку, падобна да вянгеркі. Сапоцкін.

**Ка'ка** ж. У значэнні: дрэннае, кепскае; тое, што не дазволена браць дзіцяці /дзіцяч. слова/. Гэта кака, сынок, выкінь і больш ні бяры. Літвінкі.

**Кал** м. Гразь, вязкая, размяклая ад вады глеба. Кал на гуліцы, ні вылязці з хаты. Лаша.

**Каланча'** ж. Каланча, дазорная вышка пажарнай часці. Кажуць, раней казаке з каланчы глядзелі, ці дзе бунту німа, ці пажару. Гродна.

**Каларо'дак** м. Калаўрот. Калародак і ціпер у нас есць, наша баба прадзе. Скідаль.

**Каласава'ць** незак. Каласаваць, паўторна абмалочваць каласы, якія засталіся цэлымі пасля першай малацьбы. Каласаваць ячмень цяжка, б'еш, б'еш і ўсероўно каласэ цэлыя. Бакуны.

**Каласо'ўка** ж. Гатунак бульбы ў Заходняй Беларусі. Каласоўка мела много крахмалу, дробная такая, нікаторыя махрачкай называлі. Адэльск.

**Калаўро'дак** м. Калаўрот. Збярэмсо з калаўроткамі і прасніцамі ў адну хату, прадзем сабе, песні спяваям, хлопцы прыдуць. Бакуны.

**Калаці'ць** незак. Абмалочваць на хуткую руку снапы з мэтай атрымання зерня. Як хлеба німа, та першыя нажатыя снапэ калоцяць з большаго, ні развязваючы, і жывей да мліна. Саломенка.

**Кала'ч** м. Круглая палка, падвешаная на шыю карове, якая б'е на нагах і не дае ёй хутка бегаць. Як ласая карова, та толькі адно збавене — калач ёй на шыю. Дарашэвічы.

**Калваро'дак** м. Калаўрот. Бяда, купіла ў Гродні новы калвародак і ні прадзе, шнур чамусьці спадая. Прывалка.

**Калдо'бісты** прым. Калдобісты. За гумном калдобістая дарога, натто ш такі трасе, як едзяш, кідая. Сухая Даліна.

**Калдо'ба** ж. Калдобіна. Навыбіваюць машынамі гэтых калдобаў, возам ні праедзяш. Лойкі.

**Калду'н** м. 1. Страўнік у ваўка. Калдун у ваўка пэнк: аш трое цялят ззеў. Скамарошкі. 2. Назва дзіцячай гульні; галоўная асоба ў гэтай гульні. У калдуна як пачнем гуляць, аш сцямнея, а мы гуляям. Гродна.

**Калдунэ'** мн., м. Калдуны, галушкі з бульбы, начыненыя буракамі і грыбамі. Калдунэ трэбо адварыць і цёплымі есці, бо як астынуць, нісмашныя. Бакуны.

**Калдыба'ць** незак. Ісці кульгаючы. Ён ашчэ з той вайны прышоў ранены ў ногу, калдыбае, ні можа хадзіць ніяк. Гарны.

**Калегава'цца** незак. Сябраваць. Як тулькі з Расіі прыехалі, так яна з суседкай і пачала калегавацца, разам хадзіць. Пагараны.

**Кале'йка** ж. Чарга. Заўтра нам калейка пасвіць кароў, ні ведаю, хто і пажане. Свіслач.

**Календава'ць** незак. Календаваць, хадзіць у калядныя вечары, спяваць калядныя песні. У нас некалі хлопцы хадзілі календаваць з гвяздай, песні спявалі, добро помню. Забагонікі.

**Кале'ндра** ж. Каляндра, расліна, якая скарыстоўваецца як прыправа. Кален-

дра да кілбас ужываласа, і да мяса яе добро дабаўляць. Пад'ятлы.

**Кале'нца** н. Каленца, патаўшчэнне ў сцяблах і ў ствалах некаторых раслін. Каб добры вышаў кошычак з саломы, трэбо спачатку адкінуць каленцы, намачыць салому і тады ўжэ плясці. Адэльск.

**Калё'нія** ж. Хутар. У нашай вёсцы пасля камасацыі ўсе пашлі на калёніі. Квасоўка.

**Ка'ліво** н. Каліва, асобная ўзятая расліна. Бульба добро ўрадзіла, пад каждым калівам па пяць-шэсць бульбін і то велькіх. Падкрыжакі.

**Калізава'ць** незак. Прышчапляць. Наш дзед добро ўмеў калізаваць грушы, во і гэту ён калізаваў. Малая Жорнаўка.

**Калі'-ко'лечы** прысл. Калі-небудзь, у які-небудзь няпэўны час. Ні бядуй, калі-колечы грошы аддасць, ні прападуюць. Ласосна.

**Калі'сьці** прысл. Калісьці, некалі ў мінулым. Калісьці людзі ні так жылі, як ціпер, хлеба ўдоваль ні мелі. Каменка.

**Калі'сьціка** прысл. Калісьці, даўней. Калісьціка тут лес рос, а ціпер і кусціка німа, чыста поле. Парэчча.

**Калма'ты** прым. Калматы, касматы, кудлаты. У яго галава, як у чорта, калматая, страх глядзець. Караневічы.

**Кало'да** ж. 1. Калода, кароткае тоўстае бервяно. Учора прывёс добрую калоду з лесу, мо кубаметраў два ці больш будзя. Зарубічы. 2. Вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва. Ашчэ ў маго дзеда калоды былі, пчолы трымаў, рамак у іх ні было. Рацічы. 3. Камплект ігральных карт. Мой тато ашчэ с той вайны калоду карт прывёз, такія бліішчастыя, некія французскія. Лаша.

**Кало'шанка** ж. Павець, прыбудоўка пры адрыне для захоўвання мякіны і сечкі. Як прыехалі з бежанства, та ў іх адна калошанка засталаса, усё згарэло, у ёй і жылі. Кунцаўшчына. Калошанка ні ў кожнаго была, у бедных ні было. Лаша.

**Калу'н** м. Калун, цяжкі тапор з клінападобным лязом для колкі дроў. Гэты калун, відаць, ашчэ дзедаў, ён даўно ў нас. Дзекалавічы.

**Калу'пашак** м. Сплеценая з лазы прылада ў выглядзе паўкаша прамавугольнай формы, якая застаўляеца спераду і ззаду ў возе з рашотчатымі бакамі, каб не выпадала салома. Калісьці калупашкі мой бацька сам плёў, а некаторыя ездзілі купляць да Лунай, на кірмашах прадавалі. Сухая Даліна.

**Калыва'цца** незак. Хістацца, пакалыхвацца. Ішоў бы спаць, а то сядзіць і калываяцца, носам у стол дзяўбе. Саломенка.

**Ка'льво** н. Каліва, асобна ўзятая расліна, сцябліна. Іван меў прывычку: возьме ў зубы кальво мятліцы і грызе яе, выплёувая. Баброўнікі

**Калькулява'ць** незак. Калькуляваць, складаць, вылічваць, рабіць калькуляцыю. Як грошай німа, та як ты ні калькулюй, нічого ні выкалькуеш. Дзекалавічы.

**Калю'га** ж. Гразь, балота. У нас з зімы на дарозі такая калюга, што ні прайсці, ні праехаць возам. Абухава.

**Каляда'** ж. Каляда, даўнейшы абрад хаджэння па хатах у калядныя вечары з віншаваннем, песнямі. Да Супрончыка хлопцы з калядой прышлі, міне на руках пранняслі, я бачыла, як прыстаўлялі, як бегаў чорт з рагамі. Селюкі.

**Каля'днік** м. Каляднік, той, хто ходзіць па калядзе. Калядніікі хадзілі па калядзе з авечкай, палохалі малых дзіцей. Копанікі.

**Каляйні'к** м. Падпасак, памочнік пастуха. Я сам быў каляйнікам. Пастух як станя да кароў гаварыць, яны падымуць мырсы і слухаюць, што кажа. Лаша.

**Каля'каць** незак. Размаўляць, гаварыць, весці гутарку. Вечарам мужчыны, бало, збяруцца ў адну хату і давай сабе калякаць аб даўнешым, як людзі жылі. Дарашэвічы.

**Каля'ндра** ж. Каляндра, расліна, якая скарыстоўваецца як прыправа. Каляндру і ціпер сыплюць, каб мясо пахло ці сланіна. Яскевічы.

**Калясі'ць** незак. Калясіць, ездзіць па свеце. За свой век дзе ён ні быў, ні

пакідая калясіць і ціпер, прыпынку яму німа. Лаша.

**Каля'ць** незак. Лаяць, абзываць. Аш страх было слухаць, як ён каляў сваю жонку. Каўпакі.

**Камадыя'нт** м. Камедыянт, прытворшчык. Ён быў ні чалавек, а проста камадыянт, на адных фокусах жыў. Верцялішкі.

**Кама'р-піску'н** м. Нейкі від камара. Камар-піскун на вадзе жыве, у сажалках, пішчыць, таму і піскун. Кунцаўшчына.

**Камаса'цыя** ж. Аб'яднанне некалькіх дробных зямельных надзелаў сялян у адно цэлае, хутарызацыя. Ашчэ да той вайны ў Квасоўцы праведзена камасацыя, усе жывуць на калёніях. Квасоўка.

**Кама'шка** ж. Кузурка, казяўка. Некі бембель на шыі выскачыў, мусі, камашка нека ўкусіла. Сухая Даліна.

**Кама'шы** мн., м. Камаш. Чаравікі з гумовымі ўстаўкамі на баках /устар./. У камашах тулькі ксяндзэ некалі хадзілі. Вялікая Жорнаўка. Ксяндзоўскія купіў камашы, ідзе, як ксёндз. Рацічы.

**Камзэ'лька** ж. Камізэлька. Старыя людзі любяць камзэльку насіць, але ціпер яна з моды выходзіць. Сіўкава.

**Каміна'р** м. Камінар. Пасля вайны кожны тыдзень прыходзіў камінар чысціць каміны, а ціпер чамусьці гэта ні робяць, самому трэбо чысціць. Гібулічы.

**Каміса'цыя** ж. Тое, што і камасацыя, хутарызацыя. Многія былі проціў камісацыі, ні хацелі ісці на хутара. Баранава.

**Камла'тчына** ж. Дрыгва, топкае балота. За сялом была такая камлатчына, што страх ступіць нагой, трава ні расла. Верцялішкі.

**Камо'рка** ж. Камора, халоднае памяшканне пры хаце для захоўвання запасаў ежы. Багаты быў гаспадар, у яго поўна каморка збожа ашчэ лонскаго заўсёды была. Пяслі.

**Камо'рнік** м. Каморнік, спецыяліст па межаванню зямельных надзелаў. Каморнік жыў аж у Крынках, як што якое, та туды трэбо было ехаць. Бакуны.

**Кампанава'ць** незак. Сябраваць, быць у таварыскіх адносінах. Як у дзеўках была, та любіла кампанаваць з Гандзяй, заўсёды разам хадзілі. Дзекалавічы.

**Кампа'нка** ж. Кампаньёнка, сяброўка, таварышка. Маю кампанку солтыс у Гярманю выслаў, ні вярнуласа. Пагараны.

**Камэды'йка** ж. Камедыя. Як ставілі камэдыйку ў сельскім клубе, та ўся вёска збягаласа: і старыя, і малыя. Жукевічы.

**Камэ'ля** ж. Пража з суконных, фабрычных нітак. Помню, у нашай Юсты былі вытканы з камэлі андараке такія. Свіслач.

**Камя'к** м. Камяк. Як пасля вайны хлеба ні было, возьмяш камяк кашы і ясі з квасам. Карозічы.

**Камяні'ско** м. Вялікі камень. На лікоўскім полі такі камяніско ляжаў, і таго перацягнулі ў Квасоўку. Лікоўка.

**Канава'л** м. Лекар без спецыяльнай адукацыі, невук у медыцыне /пагард/. Гэта ні дохтар, а канавал, яму коней пакладаць, а ні людзей лячыць. Сухая Даліна.

**Канапе'лька** ж. Песня, якую валачобнікі спявалі ў велікодныя дні дзяўчатам. Канапелька — тонка велька, да віно ж віно зеляно /нар. песня/. Кунцаўшчына.

**Канапля'нка** ж. Самая танная, парцяная хустка фабрычнага вырабу. Кедысь розныя былі канаплянкі, крацястыя такія, чорна з белым і іншыя. Эйсманты.

**Кана'ць** незак. Канаць, паміраць у муках, канчацца. Натто ж цяшко канаў чалавек, папамэнчыўсо, небарака. Круглікі.

**Кандзібо'бер** м. Фант, фарсісты хлопец. Кандзібобер некі сватаецца да Мані, ні вядомо, ці пойдзя? Кунцаўшчына. Хадзіць кандзібобярам — паводзіць сябе франтавата, фарсіста, манерна, хвацка. Кандзібобярам ходзіць — хто тут да яго падыдзя. Лаша.

**Кане'ц** м. 1. Край чаго-небудзь. Добро, што ён ухапіўсо за канец дошкі, а то ні вылез бы з рэчкі. Дарашэвічы. 2. Смерць, гібель. Мусі, канец немцам прышоў, доўго ім ні панаваць. Рагачы.

3. Канцы ў воду — у значэнні: ніякіх слядоў не засталося. Як павязлі суседзяў у Сібір, так і канцы ў воду, ні слуху ні духу. Баброўнікі.

**Канё'к** м. Спецыяльнай формы чарапіца для накрыцця верха двухскатнай страхі будынка. Канькі ложаць на строп хаты, нікаторыя прывязваюць дротам, каб вецяр ні ззарваў. Круглікі.

**Кант** м. Кант, край, рабро. Як дошкі роўныя, та кант да канта роўно прылягая, і габляваць ні трэбо. Верхполье.

**Ка'нтар** м. 1. Вуздэчка без цугляў для прывязвання каня. Як кантар адзеняш, та ніякі жарабец ні уцячэ, будзя стаяць. Пяслі. 2. Галоўны пеўчы ў сінагозе, арганіст у пратэстанцкай царкве. Кажуць, як прышлі Саветы, та той кантар кінуў сінагогу, у школе хорам кіраваў. Індура.

**Канто'ра** ж. Кантора. Спачатку калхозная кантора ў школі была, ціпер пастроілі нову, туды і сельсавет перавялі. Капцёўка.

**Кантыге'нт** м. Прымусовая пастаўка збожжа сялянамі ў перыяд нямецкай акупацыі. Немец назначыў кантыгент, але ні ўспеў ззабраць, ні да таго было яму. Квасоўка.

**Канты'чка** ж. Кантычка, зборнік каталіцкіх царкоўных песень і кантатаў. Баба возьмя дагары нагамі кантычку і чытая, а ні адной буквы ні ведая. Пракопавічы.

**Канфедара'тка** ж. Канфедаратка, польскі мужчынскі галаўны убор. У нас шляхта насіла канфедараткі такія, з кутасікамі, сіняго колеру, аблямаваныя сівым баранчыкам. Занявічы.

**Канцавы'** прым. Канцавы, які знаходзіцца на канцы. Да нас часто прыходзіў Ёзік канцавы, за вечар накурыць поўну хату. Кунцаўшчына.

**Канцы'** мн. Канцы, астаткі нітак асновы, якія не могуць быць датканы і адразаюцца ад палатна. Канцэ ат кужалю ні доўгія, імі добро што шыць. Зарубічы.

**Канчо'** н. Малярослы, слабы конь. Ці гэта канчо табе воз пацягня, дзе тут яго запрагаць? Рагачы.

**Канчу'к** м. Пуга, бізун. Як сцебануў канчуком па бычку, та той аш прысеў. Малахавічы.

**Каншча'к** м. Дзікае шчаўе. У гаўсе каншчак адзін вырас, сярпом яго ні зрэзаць. Гарны.

**Каню'чыць** незак. Выпрошваць, настойліва дабівацца свайго. Як пачне канючыць, ні атстаня, пакуль ні дасі. Карозічы.

**Канюшы'нішча** ж. Поле, з якого сабралі канюшыну. Канюшынішча як засохня, та ні ўгарэш, коні плуга ні пацягнуць. Сухая Даліна.

**Ка'па** ж. 1. Капа, узорнае пакрывала на ложак. Некалі я сама ткала з баваўняных нітак капы. Эйсманты. 2. Скура, якой пакрывалі клешчы хамута. Як капа добро нацягнута на хамут, та ён інакшы выгляд мая. Лаша.

**Капава'ць** незак. Разумець, цяміць. Капаваць трэбо галавой, мазгамі, а ні нагамі. Гібулічы. Як галава ні капуя, та яму і сілай ні ўдаўбеш. Парэчча.

**Капаві'ты** прым. Кемлівы, здагадлівы, разумны. Капавіты хлопец, нічого ні скажаш, адразу здагадаўса. Вішнявец.

**Капалю'ш** м. Капялюш. Надзеў капалюш і ходзіць сабе, як пан, што яму. Кульбакі.

**Ка'пар** м. Капёр, металічная або драўляная прылада для забівання паляў. Б'е капар, аж лёскат па рэчцы ідзе. Літвінкі.

**Капе'ж** м. Ніжкі край страхі, даху. Як з ветрам дождж, та і капеж ні паможа, прамочыць. Галаўнічы.

**Ка'пельку** У знач. прысл. Зусім нямнога; чуць-чуць, крыху. Налі капельку, ні шкадуй чалавеку. Горніца.

**Капе'ц** м. 1. Капец, куча агародніны, накрытая ад марозу саломай, прысыпаная зямлёй. Такро'к у ніскіх месцах у капцах бульба замокла, вада падышла. Табала. 2. На'сып са слупам як межавы знак. У канцэ былі капцэ, там начынаяцца наша поле. Лаша.

**Капе'ц** м. Смерць, пагібель. Ну, думаям, мусі, капец будзе, усіх немец падушыць. Балічы.

**Капі'ца** ж. Невялікая капа сена. Як сено

ў капіцах, та ўжэ ні страшно, дождж ні намочыць. Палаткова.

**Капішо'н** м. Капюшон, суконны востраканечны мужчынскі галаўны ўбор. Як дождж, капішон нацягняш на галаву і ўжэ добро. Эйсманты.

**Каплі'ца** ж. Капліца, невялікі царкоўны будынак, малельня. У капліцу на ноч ставілі мрацоў ў трунах. Кунцаўшчына. Капліцу дзеці патпалілі, згарэла, ёй больш як сто рок было. Лаша.

**Ка'плю** прысл. Трохі, зусім нямнога, чуць-чуць. Ні магу сядзець, гочы плюшчацца, мушу хоць каплю заснуць. Круглікі.

**Капо'та** ж. 1. Капот, жаночае хатняе плацце без рукавоў. Мая жонка і ціпер мае сабе капоту, у хаці ходзіць. Бакуны. 2. Мужчынскае верхняе адзенне ў шляхты з шэрага сукна і металічнымі бліскучымі гузікамі. У капотах ездзілі кедысь да касцёла, шыю падвязвалі жоўтымі хусцінкамі. Занявічы. 3. Паліто. У нас капоты шылі з сваго сукна, нікаторыя шылі і з куплянаго. Кульбакі. 4. Бурка, шырокая і доўгая адзежына з даматканага сукна з башлыком. Як ехалі ў дарогу, та бралі з сабой капоты, надзеняш — і ні баішса ні дажджу, ні холаду. Дайлідкі.

**Капра'ль** м. Капрал, воінскае званне малодшага камандзіра ў польскай арміі. Адзін у нас пры паляках даслужыўсо быў да капраля, пасля выгналі. Белева.

**Капта'н** м. Каптан, кафтан, даўнейшая мужчынская і жаночая верхняя адзежына. У каптанах хлопцы тулько святам хадзілі, а так усё у рубашках. Адэльск.

**Капту'р** м. Каптур, жаночы галаўны ўбор, які насілі жонкі багатых гаспадароў. Наша пані Гарбачэўска ў каптурэ ўсё хадзіла. Лугавая.

**Ка'птус** м. Кактус, алое. У нас каптусэ ў кожнай хаці мелі, бо лічылі добрым лякарствам. Лікоўка.

**Капу'снік** м. Месца ў агародзе, дзе расла расада капусты. На капуснік месца ў гародзі добра адводзілі, клалі свіны гной. Галаўнічы.

**Капу'сніца** ж. Бялян-капуснік, шкоднік капусты. Мы капусту заўсёды пасыпаям попялам, кап капусніца ні нападала. Кунцаўшчына.

**Капу'ста** ж. Капуста. Капуста воду п'е, як конь /выслоўе /. Балічы.

**Капу'т** м. Смерць, канец. Мусі, капут усім нам будзя, не вытрымаям гэтай навалы. Дзекалавічы.

**Капці'лка** ж. Прымітыўны дымар для падкурвання пчол з анучаў, перавязаных шнурком. Дымароў ні было, зробіш капцілку і ідзеш да пчол, ужэ ні так кусаюць. Рацічы.

**Капшу'к** м. 1. Капшук, мяшочак для тытуню, кісет. Мы табаку ў капшуках ні насілі, а ў дзеда маго быў капшук. Кунцаўшчына. 2. Стары чалавек, які выдае сябе за маладога /ужыв. у іраніч. сэнсе/. Капшук ты стары, дзе табе раўняцца да маладых. Лапенкі. Куды да маладой табе сватацца, капашук ты стары. Баброўнікі.

**Капы'л** м. 1. Капыл, кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак. Як ні было капылоў, та шаўцэ самыя іх рабілі, найбольш з беразіны. Індура. 2. Адзін з драўляных брускоў, якія ўстаўляюцца ў палазы саней. Капылэ рабілі з моцнаго дзерава, з бярозы-чачоткі або з дубу. Сухая Даліна. 3. Перан.: тупы, някемлівы чалавек. Што з гэтым капылом гаварыць, ён усяроўна нічого ні разбярэ. Пракопавічы.

**Капы'тнік** м. Сляды на снягу ад конскіх капытауў. Як будзяш ехаць па капытніку, та з дарогі ні ззаб'еша. Віцькі.

**Караба'ваты** прым. Загрубелы, каравы, шурпаты. Рукі зусім сталі карабаватыя, сухія, скура пазадзіраласа. Адэльск.

**Карабе'ц** м. Карабок, пасудзіна, сплеценая з лазы, саломы. У карабцэ добро было муку трымаць, ні псаваласа. Бакуны.

**Карабі'н** м. Карабін, вінтоўка. Паліцыянты тады бес карабінаў у вёску баяліса паказвацца. Малахавічы.

**Карава'й** м. Каравай, вясельны абрадавы пірог. Каравай, каравай, каго хочаш — выбірай /з нар. песні/. Лаша. На чужы каравай рота ні разяўляй /прымаўка/. Лікоўка.

**Карава'йніца** ж. Жанчына, якая прымае ўдзел ў выпечцы вясельнага каравая. Каравайніцаў бывае дзве-тры, адна з іх старшая, паказвая, што рабіць. Свіслач.

**Карава'тка** ж. Гальштук. Надзеня караватку, прыбярэцца і думая, што ён нешто. Салаўі.

**Каравэ'тка** ж. Гальштук. Я ні пан, каравэткі ні насіў. Балічы. Каравэтку зрабіць — перарэзаць горла. Я сваму пятуху каравэтку зрабіў, атспяваў свае. Пракопавічы.

**Караі'м** м. У значэнні: здраднік. Караім ты, нідавярак, ні чалавек! Індура.

**Карале'ўскі** прым. Дзяржаўны, пра селяніна, які ў часы прыгоннага права тры дні працаваў на казённым полі і тры дні на сваім. Казалі, што ў нас палова мужыкоў у вёсцы была каралеўская, а другая палова — пану належала. Пад'ятлы.

**Кара'лі** мн. Каралі, па'церкі. Каралі, кап чывонага колеру ні мянялі, на ноч мачылі ў гарэлцы. Эйсманты.

**Каралю'шча** ж. Шкарлупіна яйца. Куранята ўжэ павыходзілі, тулькі каралюшчы з яец засталіса. Пундзішкі.

**Карампу'з** м. Маленькі хлопчык /жарт./, карапуз. Карампуз гэты круціцца толькі, каб дзе шкоду зрабіць. Сыпаная Гара.

**Каранты'ш** м. Чалавек нізкага росту. Карантыш, але шырокі ў плячох, дужы, з ім баяліса бароцца хлопцы. Кунцаўшчына.

**Караспе'йка** ж. Сорт ранняй бульбы. Караспейкі много ні садзяць, бо яна тулько скора з зямлі смашна, потым — ні смашна. Сопоцкін.

**Карата'ць** незак. Каратаць, праводзіць час, перажываючы тое, што ён нясе. Пры хворым дзіцяці яна ўжо ні адну ночку каратая. Карозічы.

**Караўло'дак** м. Калаўрот. Во, натта ж добрыя караўлоткі Данілоўскі рабіў, лехкія, прадзеш і ні чуяш. Свіслач.

**Кара'ць** незак. Караць, асуджаць, дакараць. Як былі бацьке, каралі, та трохо слухаў, а ціпер нікого ні слухая. Сухая Даліна.

**Карачы'** мн. Ногі /груб./ Ты дзе гэта свае карачэ суняш, тут і так месца німа. Лаша. Як піхануў, та той аш карачэ задраў. Круглікі.

**Ка'рбія** ж. Плеценая з лазы і саломы пасудзіна, з якой сейбіт рассяваў збожжа. Карбію павесіш перат сабой і сеяш жыто ці другое збожа. Азяркі.

**Карва'тка** ж. Гальштук. У нас і даўней хлопцы карваткі насілі, і ціпер яны ў модзе. Абуховічы.

**Карга'** ж. Злая, шкодная старая жанчына /лаянк./. Надаела гэта карга ўсім суседзям, усюды яна ўлезя. Кунцаўшчына.

**Кардзібале'т** м. Перан.: скандал, дэбош, буянства. Ён табе кожны дзень як устроіць кардзібалет, та і ат хаты атказжасса. Гожа.

**Карк** м. Ка'рак. Здаецца, нідаўно начальнікам стаў, а карк во які наеў, аж блішчыць. Балічы.

**Каркаві'на** ж. Частка тушы, якая прылягае да карка. З каркавіны тлушчу мало, нітопкая, ляпей так варыць і есці. Дарашэвічы.

**Кармі'ць** незак. Карміць, даваць корм, ежу. Кармі свіню мукою, та пойдзя рукою /прыказка/. Лугавая. Карміць на ўбоў — адкармліваць на забой. Сабаку корміць на ўбой і нашто гэта, кап хто спытаў. Пруды.

**Карму'шка** ж. Кармушка, драўлянае або жалезнае прыстасаванне ў выглядзе скрыначкі, з якой сіропам падкормліваюць пчол. Нальеш поўну кармушку сіропу, і за ноч пчолы выбяруць, сухая станя. Зарубічы.

**Каро'бачка** ж. Невялікая, прадаўгаватай формы пасудзіна з вечкам, сплеценая з лазы і саломы для захоўвання велікоднай спажывы. У каробачку маці наложыць усяго, і нясем свянціць. Лікоўка.

**Каро'бка** ж. Высокая, круглая пасудзіна, сплеценая з лазы і саломы для захоўвання збожжа. Каропка высока, я сам як залез у яе, то ледво выляз. Караневічы.

**Каро'вічы** прым. Каровін, які належыць карове. Каровічы гной халодны, у парніке ні гадзіцца, трэбо класці конскі. Рагачы.

**Каро'мыслечко** н. Нейкае сузор'е неба. Ужэ позно, ля, як Каромыслечко высоко паднялосо, зараз поўнач. Капцёўка.

**Каро'мысло** н. 1. Страказа. Учора гэтых каромыслаў лётало ўйма, ні прыпыняліса. Кунцаўшчына. 2. Драўляная дуга з выемкамі на канцах для пераносу на плячах вёдзер. Я нігдачкі на каромыслі вады ні насіла. Лікоўка.

**Каро'ста** ж. Кароста, заразная хвароба скуры. Даўней ат каросты самы лячыліса, масць рабілі з дзёгцю і серкі, шмараваліса, лезлі ў гарачу печ. Лаша.

**Каро'ўнік** м. 1. Кароўнік, памяшканне, для кароў. Ціпер у нас кароўнік ні ў дварэ, а проціў Віхноўшчыны. Свіслач. 2. Яўрэй, які скупляў кароў і цялят па вёсках /устар./. Мы кожны рок кароўніку прадавалі цялята, а адзін рок у яго купілі цялушачку. Свіслач.

**Ка'рра** ж. Хвойнае дрэва, з якога бяруць жывіцу. Карру наразаюць, кап сцякала жывіца па луначках такіх. Парэчча.

**Картава'ць** незак. Картаваць, тасаваць карты. Хто ш так картуя, і зноў тыя самыя карты да міне прышлі. Грандзічы.

**Ка'ртачка** ж. Фатаграфія, фатаграфічная картка. Гэта картачка, як Віталь у войску быў, тады здымаўсо. Дзекалавічы.

**Карто'фля** ж. Бульба. Картофлі ў гэтым року насыпалі поўны склеп, будзя і сабе і свіням. Сапоцкін.

**Кару'нкі** мн. Карункі. Карункі нашывалі на сарочках, на ніжніх спадніцах, такія пекныя. Эйсманты.

**Карце'ць** незак. Карцець, хацецца /пра неадольнае жаданне што-небудзь зрабіць/. Гэта такі ўжо чалавек, яго аш карціць, кап чужое ўзяць. Адэльск.

**Карчако'п** м. Чалавек, які капаў саматужна карчы. Карчэ для смалярні капалі карчакопы, складалі ў штабяля. Рыбніца.

**Карчане'ць** незак. Карчанець, моцна азябнуць. Што ты тут карчанеяш, ішоў бы ў хату, нагрэўса б. Малышчына.

**Карчма'** ж. Карчма, пітны дом з начлегам у дарэвалюцыйнай Беларусі. Я сама была ў карчме, яна стаяла дзе ціпер школа. Селюкі.

**Карчма'р** м. Карчмар, гаспадар карчмы. У нас карчмаром быў у той час Алтар, добро помню. Гліняны.

**Карша'к** м. Ястраб. Каршак як нагнаў курапят, так яны просто ў адрыну, тато аж дзве ззымаў. Рацічы.

**Каршма'** ж. Карчма. У Каўбасіне аж дзве каршмы было, адна стяла пат крыжам, другая — на выгані. Калбасіно.

**Каршэ'ль** м. Карак /груб./. Як штурхануў нідавярка у каршэль, так той паляцеў носам у землю. Клачкі.

**Каршэ'нь** м. Карак. Ні лезь да іх, бо ў каршень дадуць. Рагачы.

**Кары'то** н. Выдзеўбаная з тоўстага бервяна пасудзіна з ручкай. Як зарэжуць паршука, та нашы мясо і сланіну ў карыці салілі. Канчатка.

**Каса'** ж. Селязёнка. Як зарэзалі свіню, та каса была ніроўна і зіма будзя ніроўна, пад канец марозная /прыкмета/. Кунцаўшчына.

**Касава'ць** незак. Касаваць, ліквідаваць, замяняць. Насене жыта трэбо касаваць, зусім ні родзіць, вырадзіласо. Луцкаўляны.

**Касі'во** н. Крэсіва. Запалкі былі дарагія, кожны курэц меў касіво, каб выкрасаць сабе агню. Бакуны

**Касіе'р** м. Наша Тома ўжэ другі рок касіерам у калхозі робіць. Батароўка.

**Касіе'рша** ж. Касірша. Гранік касіершу ўзяў замуж, а сам брыгадзірам робіць. Дарашэвічы.

**Касі'льне** н. Кассё, касільна. Дзед наш добро асаджваў касу на касільне, усе прасілі яго асадзіць. Лікоўка.

**Ка'слаўка** ж. Жменя, пасма лёну. Каслаўкі лёну будзя мало, вазьмі ашчэ крышку. Свіслач.

**Касма'** ж. Жанчына з неахайнай прычоскай /пагард./. Касма, валасоў сабе ні рашчэша, так і ходзіць. Рагачы.

**Касні'к** м. Каснік, вузкая палоска тканіны, якую ўпляталі ў касу. Як у каго косы доўгія, та касніке ўпляталі, каб ляпей трымаліса валасэ. Каўпакі

**Кастро'г** м. Укладзеныя радамі для прасушкі рубаныя дровы. Мы ўжэ адзін кастрог дроў налажылі і ашчэ будзям пілаваць. Рацічы.

**Кастры'ца** ж. Кастрыца, адходы апрацоўкі лёну. Кастрыцу на гару сыпалі, каб цяплей у хаці было. Бакуны.

**Касцяні'ца** ж. Касцяніца, лясная травяністая ягадная расліна. У Віхноўшчыні много касцяніцы расло, яна зусім нівелькая. Свіслач.

**Касця'нка** ж. Ягада касцяніцы. Мы касцянкі ні елі, бо гэта воўча ягада, казалі. Карозічы.

**Касы'нка** ж. Касынка, хусцінка трохвугольнай формы. Ларыса паразрэзвала добрыя хусцінкі і касынкі парабіла дзецям. Капцёўка.

**Касьба'** ж. Касьба, касавіца. Ашчэ да касьбы наш дзед косу ладзіў ні толькі сабе, а і другім. Рудавіцы.

**Кася'рка** ж. Сенакасілка. Як настане сенакос, та касяркі на балоці тарахцяць па цэлых днях, спакою ім німа. Квасоўка.

**Ка'та** ж. Хата. Пойдзямо да каты, бо позно ужэ, цямнея. Гадуны.

**Катала'жка** ж. Арыштантская, памяшканне для зняволеных. Я, брат, пры паляках ні адзін раз быў у каталажцы, давялоса ўсяго паражыць. Лаша.

**Катахе'** мн. Рагоз, род шматгадовых травяністых водных раслін з цыліндрычнымі катахамі. Дзяцьмі як былі, палезям у пруд, так катахоў і нарвем. Чэхаўшчызна.

**Каташо'к** м. Каташок, коцік. Каташке на вербалозі распусціліса, пчолы ўжэ пыльцу носяць. Табольская Будка.

**Катлаба'н** м. Яма на дне ракі. У катлабан як пападзеш, та ўжэ цяшко выплысці, вада так і цягня на дно. Дарашэвічы.

**Като'к** м. Узятае без дазволу гаспадара збожжа на свае патрэбы /устар./. Я ад бацькі жыта ні краў, а былі такія, што бралі катка. Клінчаны.

**Катры'нка** ж. Катрынка. Адзін раз у нашу вёску прышлі некія музыканты, адзін з іх на катрынку іграў, другі ў бубен біў. Кунцаўшчына.

**Кату'х** м. Маленькі хлеў, у якім сяляне трымаюць курэй. У нас у катуху гнёзда зробляны, там куры і нясуцца, толькі яйца выбірай. Лаша.

**Каўдо'ба** ж. Калдобіна, выбоіна. На дарозі ну і каўдобінаў, возам ні праехаць. Адэльск.

**Каўмы'га** ж. Неахайная жанчына. Каўмыга, да яе ў хату ні ўлезяш, усюды бруд. Каленікі.

**Каўне'рац** м. Каўнерык. Даўней пекно вышывалі каўнерцы ў рубашках, кожна баба ўмела вышываць. Струбка.

**Каўпа'к** м. Каўпак, галоўны ўбор конусападобнай формы. Даўней старыя мужчыны каўпаке насілі, шапкі стаячыя такія. Рагачы.

**Каўту'н** м. 1. Каўтун, хвароба скуры на галаве. Мусі, у яе каўтун на галаве, валасэ спляліса. Балічы. 2. Перан.: неахайная жанчына. Каўтун некі ні баба, ніякага парадку ў хаці німа. Малышчына.

**Каўце'ць** незак. Жаваць. Зубоў німа, та мясо ў році каўціць і каўціць, ніяк праглынуць ні можа. Бакуны.

**Ка'фля** ж. Кафля. Кафля на печку есць, тулькі вуглавікоў ашчэ ні стае. Батароўка.

**Кафта'н** м. 1. Каптан, даўнейшая жаночая верхняя адзежына. Адэля наша добро шыла дзяўчатам кафтанэ. Абухавічы. 2. Пінжак. Новы кафтан пашыў сабе, а то ні было ў чым высці да людзей. Вялікая Альшанка.

**Каха'нка** ж. Палюбоўніца, каханая дзяўчына. Кавалер, ён ужэ мая сабе каханку, жаніцца будзя. Ферма.

**Ка'хля** ж. Кафля. У нас печка з файнай кахлі, бацька браў недзя там каля Скідзеля. Лікоўка.

**Кацінa'рмус** м. Каптэнармус. Наш у тую вайну кацінармусам быў, як служыў у войску. Кунцаўшчына.

**Кацмалу'х** ж. Неахайная жанчына. Кацмалух, зусім дзіцей запусціла, ні глядзіць. Кавалічы.

**Кацуба'** ж. 1. Прылада ў кроснах ў выглядзе клюшкі для замацавання і падкручвання навоя з асновай. Як навой хочаш паткруціць, кацубу падымяш і паткруціш, колькі трэбо. Рацічы. 2. Прылада ў выглядзе драўлянай палкі з суком для мяшання варыва ў гаршках. Як кацуба доўга, та можно гаршчок з печы і ні вынімаць, так памяшаяш. Свіслач.

**Кацубе'шка** ж. Тое, што і кацуба. У нас і ціпер кацубешка ляжыць на гарэ, нікому ні патрэбна. Рудавіцы. 2. Перан.: худая, згорбленая жанчына. Кацубешка гэта ледво лазіць, а ўсе недзя ідзе, усё ёй мало. Карозічы.

**Кача'лко** н. Качалка, круглая палка для раскачвання цеста або разгладжвання бялізны качаннем. Уцюгоў ні было, накруціш на качалко сарочку і валкам качаяш, пакуль глаткай ні станя. Забагонікі.

**Качалячко'** н. Невялікае колка. Другія ў чыжыка ці ў чорта гулялі, а я найбольш любіў качалячко качаць. Дзекалавічы.

**Кача'н** м. Качан, храпка. Як матка крышыць капусту, так і просіш, каб дала качана, крумстаеш яго. Батароўка.

**Кача'ць** незак. Качаць, перамяшчаць з месца на месца. Калода тоўстая, ні маглі падняць, тады давай качаць адну за другой пат хату. Свіслач. Качаць калясо — гульня хлопчыкаў з невялікім колам. Збярэмса і давай качаць калёса то ў адзін канец гуліцы, то ў другі. Круглікі. Качаць качулку — гульня хлопчыкаў з невялікім драўляным колкам. Я любіў качаць качулку, набегаясса, ледво да хаты прывалачэсса. Клінчаны.

**Качу'р** м. Качар, самец качкі. Качура пазнаць можно зразу, у яго хвасце закручаны пярынкі, галава блішчыць. Свіслач.

**Качы'нец** м. Расліна з тоўстымі кветкамі, якая расце ў мокрых месцах. Качынец як расцвіце на лузе, та аж у вачах трамкаціць, жаўцея. Табала.

**Ка'ша** ж. Страва з тоўчанай варанай бульбы. Некалі маці паставіць на стол гаршчок бульбяной кашы, кожны чэрпая, стараяцца, кап скварка папала. Кунцаўшчына.

**Кашамі'р** м. Тонкая шарсцяная або баваўняная тканіна. Быў некі мацярыял, ці ён шарсцяны, ці які, ні ведаю, тулькі кашамір называлі. Свіслач.

**Кашкяну'ць** зак. Паварухнуць, пашавяльнуць. Трэбо кашкянуць прысак, можа, ўжэ бульба спякласа. Зарыца.

**Кашла'ты** прым. Пра таго, у каго пакрытыя доўгай поўсцю ці пер'ем ногі. Пятух у нас кашлаты быў, ні мох хадзіць. Зарубічы.

**Кашмяро'ўка** ж. Кашміроўка, хустка з кашаміру. Яшчэ ў мамы была кашмяроўка, ценянькая такая, гэта дарагая хустка. Эйсманты.

**Кашмяро'вачка** ж. Кашміроўка / памянш./ Кашмяровачку сабе завяжаш і добро хадзіць. Ліхачы.

**Каштава'ць** незак. 1. Каштаваць, спрабаваць на смак. Я вашаго пірага каштавала ўжэ, добры ўдаўсо. Скамарошкі. 2. Мець грашовую вартасць. Гэта дораго будзя табе каштаваць, ты яе ні купіш. Сухая Даліна.

**Кашу'лька** ж. Кашулька, дзіцячая кашуля. На тое і Юлька, каб была чыста кашулька /прымаўка/. Батароўка.

**Кашу'ля** ж. Кашуля, сарочка, рубашка. Я кашулю чысто мыла, на бярозу вешала. Я мілого ні любіла, разгаворам цешыла /прыпеўка/. Свіслач.

**Каю'к** м. Канец, пагібель, смерць. Тады і каюк панам прышоў, за тыдзень ні аднаго ні стало. Горніца.

**Кая'к** м. Каяк, лёгкая лодка. Помню, у Мушынскіх каяк быў, на ім мы па возяры плавалі. Караліно.

**Квактуха'** ж. Курыца, якая выседжвае і водзіць куранят. Квактуха зляцела з яец, капошыцца, ідаць, есці хоча. Каленікі.

**Ква'піцца** незак. Квапіцца, імкнуцца завалодаць чым-небудзь. Ні было тут на што квапіцца, гэты кошык нічого ўжэ ні варты. Пяслі.

**Ква'рта** ж. 1. Кварта, даўнейшая мера вадкіх рэчываў, роўная 0,70577 літра. Некалі ні такія бутэлькі былі, большыя, цэлая кварта лезла. Клачкі. У корчмах гарэлку прадавалі квартамі. Індура. 2. Металічны кубак /устар./. Падай кварту, чалавек хоча вады напіцца. Пяслі.

**Ква'ска** ж. Драўляная пасудзіна з клёпак для хлебнага квасу. Кваскі былі меншыя за дзешку, іх рабілі ў Бандарах, а можно было купіць у Скідзелі. Галавачы.

**Квасні'к** м. Страва з хлебнага квасу,

бульбы, цыбулі. Постам, перад калядамі, больш кваснік варылі, з хлебам елі. Лікоўка.

**Квасо'ля** ж. Фасоля. У гэтым року завялі сабе тычковай квасолі, а то ўсе просту садзілі. Пагараны.

**Ква'шаніна** ж. Халадзец, квашаніна. З квашанінай намэнчысса, трэбо гадзіны тры варыць, пакуль уварыцца. Квасоўка.

**Кві'та** вык. У значэнні: разлічыліся, расквіталіса. Квіта, пане Мікіта /прымаўка/. Дзекалавічы.

**Квітава'ць** незак. Разлічвацца, расквітвацца. Пасля вайны столькі было розных падаткаў, што цяжко было квітаваць. Гарны.

**Кві'ток** м. Квітанцыя. Квітке трэбо заўсёды хаваць, могуць спатрэбіцца. Жукевічы.

**Кво'та** ж. Даход уласніка ў працэнтах ад пазычаных ў доўг грошай. Узяць грошы мажно, але сколькі квоты трэбо будзя плаціць.Занявічы.

**Квэ'стар** м. Жабрак, які хадзіў па людзях з бібліяй /устар./. Квэстар ні браў хлеба, яму давалі толькі грошы, ні менш як 13 капеек. Капцёўка.

**Ке'пель** м. Аплявуха. Добраго даў яму кепеля, будзя ведаць, як чапляцца. Гродна.

**Ке'рат** м. Конны прывад малатарні, сячкарні. Запрагуць у керат дзве пары коней, хлопцы паганяюць, і малацілка аж буіць, малоціць. Батароўка.

**Ке'йбал** м. Хлопчык, хлапчук /іран. устар./ Надаеў мне твой кейбал, усе таўчэцца і таўчэцца пад нагамі. Куцаўшчына.

**Келб** м. Пячкур, рыба сямейства карпавых. Бывала, як выскачыш з волакам на рэчку, так келбаў збанок і наловіш. Кунцаўшчына.

**Ке'лзаць** незак. Кілзаць, класці каню цуглі ў рот. Гэтаго каня трэбо келзаць, а то ні ўтрымаяш, панясе. Круглікі.

**Ке'ліх** м. Келіх, вялікая чарка. Падымям келіхі, панове, вып'ям за здарове маладых. Занявічы.

**Келі'шак** м. Кілішак, чарка. Жонка крычыць, каб ні заглядаў у келішак, та я і ні гляджу, а вочы заплюшчу і п'ю. Балічы.

**Ке'льня** ж. Кельня, кельма. Як добры муляр, та ў яго руках кельня тулько мільгая. Грандзічы.

**Ке'пал** м. Галава /іран./ Як кепал ні варыць, та, брат, нічого ні будзя, навука сама ні пойдзя. Пракопавічы.

**Ке'пка** ж. Кепка, шапка. Кепку нацягня на гочы і лезя, людзей ні бачыць. Лугавая.

**Ке'пнуць** зак. Памерці /іран. /. Мусі, кепнуў, прышоў і на яго канец. Кунцаўшчына.

**Кепско** прысл. Кепска, дрэнна, блага. Кепско справы ідуць, мусі з гэтай зацеі нічого ні будзя. Зарубічы.

**Кі'дацца** незак. Кідацца, кідаць адзін у аднаго чым-небудзь. Дзеткі, кідацца каменьмі ні можно, голаў можно каму разбіць. Капцёўка. Кідацца сяк-так — жыць не вельмі добро, у няпоўным дастатку. Пытаяце, як жывем? Кідаямса сяк-так, якое тут жыце без гаспадара. Агароднікі.

**Кі'даць** незак. Кідаць, працягваць ніткі праз бёрда. Кажды можа кідаць у бердо, сляпы тулькі ні можа. Свіслач.

**Кікімо'ра** ж. Перан.: пачварнага выгляду асоба. Кікімора гэта і зноў да нас нечаго лезя. Пышкі.

**Кіла'** ж. Грыжа. Раней ніякіх аперацый на кілу ні рабілі, так і да смерці чалавек хадзіў. Балічы.

**Кілава'ч** м. Пра таго, хто пазбаўлены зграбнасці, спрыту ў рухах /груб./. Кілавачэ вы ўсе, дый годзі, нікудышнія людзі. Рагачы.

**Кіла'вы** прым. Чалавек хворы на грыжу. Мусі, ён кілавы, за плугам хадзіць ні можа, ногі шыроко растаўляя. Сухмяні.

**Кілапа'р** м. Няўдала прыгатаваная страва, баланда. Наварыць некаго кілапару і кажа: еш. Гродна.

**Кілбаса'** ж. Каўбаса. У нас кілбасы на гарэ заўша віселі, як трэбо, маці дастаня і спячэ на патэльні. Пад'ятлы.

**Кіле'йша** м. Касалап, крываногі чалавек. Кілейша, ідзе з нагі на ногу перавальваючыса. Рагачы.

**Кілі'шак** м. Кілішак, чарка. Выпіў кілішак — і будзя, а то давай і давай, аш пакуль ні набярэцца. Лугавая.

**Кілу'н** м. Чалавек хворы на грыжу. Яго і да войска ні ўзялі, бо кілун быў. Кунцаўшчына.

**Кі'мсьці** займ. Кім-та. Ён чуў, што вінаваты перат кімсьці быў, але ні прызнаваўсо. Зарыца.

**Кіндзю'к** м. Страўнік. Як у велькаго паршука, та і кіндзюк велькі, бо добро еў. Свіслач.

**Кінчы'ба** ж. Няўклюдная, сварлівая жанчына /пагард./. Гэтай кінчыбі ніхто ні ўнаравіць, усё ёй ні так, як яна хоча. Кунцаўшчына.

**Кі'пень** м. Кіпень, вар. Ні бяры: гэта кіпень, можаш апарыцца. Лікоўка.

**Кіраўні'ца** ж. Руль веласіпеда. Як апусціш кіраўніцу, та старому ляпей ехаць. Пракопавічы.

**Кірма'ш** м. Кірмаш, вялікі святочны базар. Нашы на кірмаш усе да Лунай ездзілі, парасята купплялі. Плавы.

**Кірна'ч** м. Крываногі мужчына /зневаж./. Ён з малого кірнач, такі ўрадзіўсо. Кунцаўшчына.

**Кірпа'ты** прым. Кірпаносы, з задзёртым носам. Кірпаты хлопчык некі прыходзіў, нівядома, аткуль ён. Гродна.

**Кіршчы'ны** мн. Рэшткі ў дзежцы, якія застаюцца пасля хлебнага квасу. У нас кіршчыны свіням выкідалі. Верцялішкі.

**Кісе'ль** м. Кісель. Кісель ні часто варылі, мо два раза ў нідзелю ўсяго. Свіслач. У нас адна мама любіла кісель, сама наварыць, сама і есць. Дзекалавічы.

**Кіт** м. Кіт, аконная замазка. Кіт як засохня, зубамі ні адарвеш. Кавалічы.

**Кітава'ць** незак. Кітаваць, замазваць кітам прамежак паміж шыбамі і аконнымі рамамі. Вокна кітаваць трэбо, як яны сухія, а так кіт будзя адпадаць. Хамякі.

**Кіта'б** м. Кітаб, рэлігійная кніга мусульман, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі. Я ў Скідзелі кітаб знайшоў ў аднаго татарына, нівелька кніжачка такая. Гродна.

**Кі'ха** ж. Веласіпедная камера. Дай клею, мусі, кіха прабіта, дух спускае. Рацічы.

**Кі'хі-кі'хі** выкл. Гукаперайманне кашля старога /іран./. Кіхі-кіхі — верць, і старому — смерць / прымаўка/. Свіслач.

**Кі'шка** ж. Дэталь у хамуце, зробленая з саломы і абцягнутая скурай. Кішка ў хамуце, кап конь шыі ні ашмуляў. Карозічы.

**Кі'шкі** мн. 1. Кішкі, унутраныя органы. Як адкормлены паршук, та ўсе кішке пакрыты салам. Пракопавічы. 2. Ежа з кішак, начыненых кроўю, крупамі, скваркамі і запечаных; кравяная каўбаса. Найсмашнейшыя кішкі, як с печы дастануць, гарачыя ашчэ. Капцёўка.

**Кішлава'ць** незак. Няўклюдна ісці, перавальваючыся з боку на бок. З ім намэнчысса ідучы, ён ледво кішлуя. Кунцаўшчына.

**Кішла'й** м. Касалап; той, у каго няўклюдная паходка. Некі кішлай узяўсо падводзіць, ледво ад яго адчапіласа. Сухая Даліна.

**Кішчы'ны** мн. Рэшткі ў дзежцы ад хлебнага квасу. Квасу німа, адны кішчыны на дне засталіса. Калбасіна.

**Кішэ'нь** м. Кішэнь, кішэня. У яго поўныя кішане грошай, што хоча купіць. Пракопавічы. Даваць давалі, ды з кішаня ні вымалі /прыказка/. Талочкі. Да сэрца ліпня, а ў кішэнь паглядая /прымаўка/. Кунцаўшчына.

**Кішэ'ня** ж. Кішэнь. Не пайду я за старого, бо ў барадзе вошы, а пайду за маладого, бо ў кішэні грошы /прыпеўка/. Свіслач.

**Кладаві'цца** незак. Класціся спаць. Што ты сядзіш, вочы заплюшчыўшы, кладавіса спаць, ужэ позно. Батароўка.

**Кла'дка** ж. Кладка. Як велька вада, та клатку заўсёды зносіць, як яе ні прывязвай. Верцялішкі.

**Клеб** м. Хлеб. Клеб некалі самыя пяклі, ніхто ні купляў. Гадуны.

**Клей** м. Клей. Купіў клей некі, та ляпяй трымая нават, як клей сталярскі. Грандзічы. Клей пчаліны — про'паліс, вуза'. Клей пчаліны купляюць на лякарство, памагая, кажуць. Азяркі, Грандзічы.

**Кле'нчыць** незак. Настойліва прасіць, клянчыць. Як пачаў кленчыць, маліставаць — ну, як тут ні дасі, мусяў даць. Дзекалавічы.

**Кле'цка** ж. Скрутак апрацаванага лёну. У кудзелю ўлазіло дзве ад сілы клецкі лёну, ні больш. Рудавіцы.

**Кле'цкі** мн. Клёцкі, страва з дранай бульбы ў выглядзе галачак, звараных у малацэ. На вячэру матка наварыць клецак, забеліць малаком і добро паямо. Сухая Даліна.

**Кле'шня** ж. Калоша, калошына. Ціпер зноў мода на шырокія клешні пашла, а некалі, як дуткі, насілі. Зарыца.

**Клешч** м. Клешч. Клешч некі ў шыю ўпіўсо, ледво дастаў. Зарубічы. Мучны клешч — насякомае, якое псуе пшанічную муку. Як зварыш зацерку і кіслая, та гэта ўжэ клешч мучны завёўсо. Кунцаўшчына.

**Клёк** м. 1. Жыццёвая сіла. Жыто зусім прапало, у ім ніякаго клёку німа. Віцькі. 2. Дзіцячая гульня. Я ў клёк натто любіў гуляць, маці на вячэру кліча ні даклічацца. Жытародзь.

**Клё'кнуць** зак. Прапасці, загінуць, змарнець. Гэты рок могуць азімыя зусім клёкнуць, снегу мало на полі. Белева.

**Клё'мбы** мн. Абутак на драўлянай падэшве. Як хто ідзе ў клёмбах, та здалёк чуваць, як па каменях брохая. Бакуны.

**Клін** м. Прарэх, пярэдні разрэз у штанах. Як стары стаў, та клін ні зашпіліць, так і лазіць. Кунцаўшчына. 2. Вузкая трохвугольная ўстаўка ў адзенні. Спадніцы некаторыя зноў шыюць у клінэ, як і даўней было. Кулёўцы.

**Кліно'к** м. Клінок, трохвугольная торбачка для прыгатавання сыра. Як сыроватка сцячэ, та клінок с тварагом паложыш пат камень. Дубоўка.

**Клі'рас** м. Месца для пеўчых у царкве. У нашай цэрві кліраc ні велькі быў, усяго чалавек дзесяць пеўчых стаяло. Лаша.

**Кло'пат** м. Клопат. Ні мела баба клопату — купіла парася /прыказка/. Лікоўка.

**Кло'це** н. Рэзкі, востры боль, колікі. Нека клоце ў грудзях, ні дае дыхнуць. Балічы.

**Кло'ча** н. Горшы гатунак лёну. З клоча ў нас ткалі радзюшке', мяшке на бульбу, конскія торбы. Кавалічы.

**Клуб** м. 1. Пчаліны рой у зімовы перыяд. Холад, пчолы, відаць, ужэ ў клуб ззабраліса. Казіміроўка. 2. Знешні бок верхняй часткі бядра. Зусім чалавек даўсо, ганавіцы на клубах ні трымаюцца. Пракопавічы. Бач, кабыла зусім схудла, адны клубэ тырчаць. Адэльск.

**Клу'нак** м. Клунак, звязаныя пажыткі. Забірай свае клункі і ўцякай дахаты. Грынёўка.

**Клу'ня** ж. Клуня, пуня. Клуня зусім старая стала, ад ветру паваліцца. Кулёўцы.

**Клу'стасць** ж. Тлушч. Добрая сланіна гэты раз, глядзі, колькі клустасці нацякло. Бакуны.

**Клу'сты** прым. Тлусты. Клусты крупнік, бо мяса свіного добры кусок улажыла. Лікоўка.

**Клыша'вы** прым. Клышаногі, касалапы. Гля, нейкаго клышаваго каня купіў, як ён гараць ім будзя. Лаша.

**Клыба'ты** прым. Кульгавы. І зноў паўзе да нас Ёдаль клыбаты, чаго яго чорт нясе. Адэльск.

**Клы'бацць** незак. Марудна ісці, накульгваючы, клыгаць. Зусім дабіў каня, ледво клыбая ўжэ, дзе ім заедзяш. Круглікі.

**Клыба'ч** м. Пра таго, хто ходзіць кульгаючы /груб./. Пакуль гэты клыбач да хаты заклыбая, та слонца зойдзя. Адэльск.

**Клы'гаць** незак. Марудна ісці, накульгваючы. Думалі, зусім без ног застанецца, а зноў вылячылі, ужэ клыгая памалу каля хаты. Малахавічы.

**Клэ'йша** м. Пра таго, у каго нязграбная, касалапая паходка /зневаж./. З гэтай клэйшай ісці брытко, ні толькі танцаваць. Рагачы.

**Клю'ка** ж. Загнуты, глюгасты нос /груб./. Што ты звесіў сваю клюку, мусі, у галаву нечаго набраў? Лікоўка. 2. Палка в загнутым канцом. Як клюка ў руках, та сабакаў німа чаго баяцца. Балічы.

**Клю'мпік** м. Мянушка літоўцаў. Літоўцы раней ўсё ў клюмпах хадзілі, таму і празыўку далі ім: клюмпікі. Парэчча.

**Клю'мпы** мн. Абутак на драўлянай падэшве. Клюмпы самы некалі рабілі, ні трэбо было купляць. Парэчча.

**Ключ** м. 1. Чарада птушак, якія ляцяць клінам. Як ключ ляціць, та наперадзе заўсёды важак, ён ведае, куды ляцець. Баброўнікі. 2. Вочап, шост, да якога прымацоўваецца калодзежнае вядро. Ключ той рок памянялі ў студні, а то зусім быў збуцвеў. Сабаляны.

**Клю'чка** ж. Палка з загнутым верхнім канцом, кульбака. Наш дзед заўсёды з ключкай хадзіў; дзе ні ідзе, та ўсё з ею. Дубоўка.

**Ключке'** мн. Прымітыўная прылада для вырабу тоўстых вяровак, канатаў. Раней моды ні было купляць вяраўке, самы выраблялі, спускалі на ключках такіх. Кунцаўшчына.

**Кляба'ня** ж. Плябанія; дом, у якім жыве свяшчэннік. Клябаня ў Лашы, кажуць, старая, яна пастрояна аж да той вайны. Лаша.

**Кляймо'** н. Кляймо, пячатка. Гэта калотка без кляма, могуць сказаць, што крадзена. Зарубічы.

**Кляката'ць** незак. 1. Клекатаць. Бусял як пачне клякатаць, тулькі лёскат ідзе над адрынай. Кунцаўшчына. 2. Гукі, якія ўтвараюцца пры кіпенні бульбы. Бульба ў гаршку кіпіць аш клякоча, пара здымаць ужэ. Карозічы.

**Клякату'н** м. Бусел. Бусял, бусял-клякатун, схапіў жабу за каўтун /прымаўка/. Карозічы. Бывала, косім, а клякатун за намі ідзе, жабы ловіць. Сухая Даліна.

**Кля'кнуць** зак. Прапасці, згінуць. Кажуць, у гэтым року бульба можа клякнуць, дажджэ частыя, цяпла німа. Гібулічы.

**Кля'мка** ж. 1. Завала. Дзверы як заложыш клямкай, та спіш спакойна: коней ні вывядуць. Азеркі. 2. Клямка, прыстасаванне, з дапамогай якога адчыняюць і зачыняюць дзверы. Ціпер клямак німа, ручкі, замке некія папрыдумвалі. Балічы.

**Кля'мра** ж. Скаба, дужка з вострымі канцамі. Бес клямраў вушаке ні паставіш, бо разысціса могуць, скасіцца. Лугавая.

**Клямэ'рка** ж. Невялікая спражка. У нашай аколіцы паненкі шылі сукенкі с такімі клямэркамі, кап пякней было. Занявічы.

**Кля'па** ж. Борт; левы або правы край адзення. Як бартоўка добра, та і кляпы будуць гладкія ні згомтаюцца. Бакуны.

**Клясці'** незак. Клясці, праклінаць. Гэта баба ўмела клясці, як пачне, та аш страх бярэ. Гібулічы.

**Клясці'са** незак. Клясціся, прысягаць, даваць клятву. Во якая праўда: кляўсо, што любіць будзя, а сам і месяца ні пражыў. Кунцаўшчына.

**Кля'ч** ж. Кабыла. У міне кляч добра была: як плюнуць, так і ў Гродне — так хадзіла. Эйсманты.

**Кляшчэ'** мн. Клешчы. Драўляная частка хамута, якая складаецца з дзвюх кляшчын. У Лашы быў свой рымар — Бэрбуш, кляшчэ рабіў. Лаша. Конь цягавіты, як даў у хамут, так кляшчэ і паляцелі. Зарубічы.

**Кмень** м. Кмін, пахучае насенне, якое выкарыстоўваецца як прыправа. Я натто люблю хлеб з кменям, пахня добро. Малое Дзямідкава.

**Кні'га** ж. Кнігаўка. Ашчэ снег ляжыць, а ўжэ кнігі прыляцяць, крычаць над балотам. Дзекалавічы.

**Кні'гаўка** ж. Кнігаўка. Кнігаўкі ні даюць прайсці праз луг, так і нападаюць на цібе. Калбасіна.

**Кні'гі** мн., ж. Кніжка. Адзін з чатырох аддзелаў страўніка жвачных жывёл. Як зарэзалі старую карову, та ў кнігах кавалак дроту некага знайшлі. Пагараны.

**Кны'па** ж. Ныючая, плаксівая, хваравітая жанчына /іран./. Кныпа гэта, нігды ёй ні світая, заўсёды скрыўлена ходзіць. Ферма.

**Кны'пцва'нгі** мн. Пласкагубцы, абцугі, канцы ў якіх маюць плоскую паверхню /устар./ Кныпцвангамі скуру добро на капылэ нацягаць, ні парвеш. Індура.

**Ко'варат** м. Рычаг-вага ў калодзежы-жураўля. Ашчэ пастух кароў ні выганяў, а ужэ коварат скрыпеў, воду бралі. Сабаляны.

**Ко'даўб** м. Кадаўб, драўляная пасудзіна, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка дрэва. У нас есць такі кодаўб, можа, ашчз прадзедаўскі, пудоў дваццаць у яго лезя жыта. Сабаляны.

**Ко'зны** мн. Бабкі, надкапытныя суставы ў жывёлы і косткі гэтага сустава для гульні. У нас усе ў козны гулялі, як прыехалі з бежанства. Свіслач.

**Ко'йбяды** прысл. Такой бяды. Койбяды, хай міне чарніць, як хоча, людзі знаюць, хто я. Сухая Даліна.

**Кок** м. Від дзявочай прычоскі, закручаныя ў вузел валасы на патыліцы. Нашы дзяўчата валасэ закручвалі ў кок, прыткалі пекнымі грабянямі. Лугавая.

**Ко'клюш** м. Ко'клюш, інфекцыйная хвароба. Коклюш мэнчыць дзіця, як пачне кашляць, та бухая аж заходзіцца. Гарны.

**Ко'ко** н. Яечка /дзіцяч.слова/. Ціхо, дзетка, ні плач, зараз мама табе коко зварыць, будзяш есці. Няцечы.

**Ко'лко** н. Калаўрот. Купіла сабе нека колко ў Ліпску, натто лёхко прадзе. Рацічы.

**Ко'лмасць** ж. Калесная мазь. Даўно ні мазаў воз, скрыпіць, трэбо колмасцю пашмараваць. Кунцаўшчына.

**Ко'ло** н. Кола. Пярэдня коло зусім з'ездзіласо, трэбо мяняць. Дубніца.

**Ко'льба** ж. Ко'рба, ручка. Як возьме за кольбу круціць дзвюма рукамі, та разаке аш шастаюць, салому толькі падавай. Круглікі.

**Ко'льчыкі** мн. м. Завушні'цы. У міне былі кольчыкі залатыя, але рэтко калі насіла, баяласа. Эйсманты.

**Ко'мін** м. Комін. Ні цягня штосьці комін, галкі, пэўно, залажылі гняздо. Гібулічы. Комін вывесці — змураваць, пабудаваць комін. Першы ў нас вывеў комін Ясюк, та ўсе збегліса глядзець, як дым будзя ісці, бо ўсе хаты былі курныя. Казіміроўка.

**Ко'мкаць** незак. Камячыць. Ні давай дзецям кніжак, яны ні чытаюць, а толькі лісты комкаюць і рвуць. Путрышкі.

**Ко'мшч** м. Звязак анучаў, якім у курнай хаце затыкалі адтуліну, праз якую выходзіў дым /устар./. Комшч заткнеш, і ўжэ ў хаці цяплей, дух ні выходзіць. Прывалка.

**Кон** м. Месца або лінія, дзе стаяць удзельнікі гульні. Хлопцы, станавецяса на кон, будзям пачынаць. Кунцаўшчына.

**Ко'наўка** ж. 1. Металічны кубак з ручкай для піцця вады. Вазьмі конаўку ды дай тату напіцца вады. Круглікі. 2. Бітон для малака з накрыўкай. Гэта пасля вайны малако ўсё ў конаўках да Гродна насілі, ціпер калхоз забірая. Гібулічы. 3. Посуд з клёпак у выглядзе кубка для піцця вады, а часамі і гарэлкі. Конаўка каля вядра заўсёды стаяла, хочаш вадэ, нап'ешса. Канчатка.

**Ко'нік** м. Конік, насякомае, якое скача і стракоча крыламі. Вечарам натта ш конікі харашэ стракочуць, здаецца, слухаў бы ўсю ноч. Квасоўка.

**Ко'нік** м. Песня, якую спявалі валачобнікі дзяўчатам у час велікодных святаў. Як трэбо было заспяваць «коніка», та мы пачыналі так: "Добры вечар, панянечко, выйдзі пад акянечко." Пад'ятлы.

**Ко'ннік** м. Гандляр, які скупляў па вёсках коней /устар./. Коннік накупляе коняй, папрывязвая за хвастэ адзін да аднаго, на першаго сядзя і едзя да Індоры. Рагачы.

**Ко'нскі** сляпа'к м. Сляпень, двухкрылае насякомае сямейства крывасмокаў. Як пойдзяш гараць, та ганучкі коням на насэ вешаяш, а то конскія сляпаке як дадуць, та коняй, брат, ні ўтрымаяш, панясуць і з плугам. Рацічы

**Ко'нус** м. Назва кучы шчэбеня, зложанага ў спецыяльны штабель у выглядзе конуса /устар./. Пры паляках як білі на шашэ каменя, та ў конусы такія складалі, за дзень ледво адзін наб'еш. Зарубічы.

**Ко'нчык** м. Бізун, плётка. Як пацягнуў кончыкам, та хлопяц аш прысеў. Канюхі.

**Конь** м. Конь. У нас конь быў такі, што ні падыдзяш, кусаўсо. Баранава. Навесь канёві торбу, хай пераесць трохі. Адэльск. Быў конь, ды з'ездзіўсо — пераін.: быў добры работнік, ды састарыўся. Раней мог горы варочаць, а ціпер што: быў конь, ды з'ездзіўсо. Малышчына.

**Ко'паніца** ж. Копанка, сажалка. Пан прыказаў быў выкапаць копаніцу, кароў паілі. У ёй з Забагонікаў много дзіцей утапіласо. Забагонікі.

**Ко'пка** ж. 1. Капіца, невялікая капа сена, саломы. Мы спачатку сено грабем у валке, а тады ўжэ ў копкі ложым. Кавалічы. 2. Перан.: тоўстая невысокая жанчына. Гэтай копцы ні памажы — та яна і гароду сама ні праполя. Лаша.

**Ко'пна** ж. Бабка; дзевяць снапоў, састаўленых у кучку для прасушкі і накрытых распасцёртым дзясятым. У нас жыто як пажнуць, у копны ставілі, каб ні прамокло. Табольская Будка.

**Ко'раб** м. 1. Кораб, пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы для захоўвання збожжа. Былі такія велькія корабы, што цэлу зіму пляцеш і ні спляцеш. 2. Плеценая з ліпавай кары пасудзіна для ягад. Той рок столькі ягад было, што як пойдзяш, та за раніцу поўны кораб назбіраяш. Рыдзелі.

**Ко'рак** м. Корак, затычка для бутэлек і іншай пасуды. Ціпер і коркі ні патрэбныя, бутэлькі каўпачкамі закручваюцца. Ласосна.

**Ко'рац** м. Пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы, для захоўвання збожжа. У корац лезло, можа, 10–15 пудоў жыта. Цыдовічы.

**Ко'рмнік** м. Адкормлены кабан. Кормнік і зноў гатовы, трэбо зараз рэзаць. Баброўнікі.

**Ко'рпацца** незак. Рабіць марудна, няўмела. Трэбо ехаць, а ён нешто корпаяцца, прыбіраяцца, як ніжывы. Гарны.

**Корт** м. Корт, тоўстая, цёмнага колеру баваўняная тканіна для рабочага адзення. Корт найлепей было купляць: ён ні дарагі і моцны. Клачкі.

**Ко'рча** ж. Сутарга. Некалі ат корчы лячылі так: ставілі каля вушака і роўна з галавой выкручвалі дзірачку, астрыгалі валасэ, пазурэ, клалі ў яе і забівалі колікам. І памагало! Лаша.

**Ко'ршкацца** незак. Калупацца, капацца, павольна варушыцца. Ты можаш паспяшацца, а то коршкаясса, як курыца на сметніку. Лікоўка.

**Ко'стка** ж. Косць. Абы костка была, та мясо нарасце /прыказка/. Кунцаўшчына.

**Ко'ська** ж. Ласкальная назва каня. Ля, паглядзі, вун там наша коська пасецца. Зарубічы.

**Кось-кось** выкл. Вокліч, якім падзываюць коней. Як выйдзяш за вёску, як закрычыш: "Кось-кось-кось!" — так конь і адазвецца, бяжыць дахаты. Лойкі.

**Ко'тная** прым. Котная, цяжарная /пра авечку, казу, кошку/. Котна, мусі, кошка і зноў навядзе кацянят. Зарубічы.

**Ко'ўзало** н. Каток; расчышчанае месца, пакрытае лёдам для катання. Помню, зробім сабе коўзало і коўзаямсо, пакуль ні сцямнея. Баяры.

**Ко'ўзацца** незак. Коўзацца. Як пачнем коўзацца, аш пакуль хто ні праваліцца пад лёд. Бакуны.

**Ко'ўзкі** прым. Слізкі, коўзкі. Лёд вельмі коўзкі, на нагах ні ўтрымаяшса, падаяш. Гродна.

**Ко'ўтаць** незак. П'ючы, пры глытанні ўтвараць глухія гукі. Прывык, п'ючы воду, коўтаць і коўтая, аж брытко слухаць. Сухая Даліна.

**Ко'ўш** м. 1. Коўш. Каўшом воду з склепа ледво выліў, з зімы кожны рок находзіць. Галаўнічы. 2. Металічнае прыстасаванне ў механізмах для чэрпання. Коўш экскаватара мо з тону зараз бярэ зямлі, толькі і пад'язджай машынамі. Ласосна.

**Ко'хан** м. Кавалер, залётнік. Маня наша ўжэ кохана мая, файны хлопяц. Рагачы.

**Ко'хлік** м. У народных забабонах: злы дух, які жыве ў хлявах. Кохлік збівае каню грыву, усероўна, як каўтун. Каб кохлік ні дакучаў каню, праціў жолаба прыбівалі люстэрка. Рацічы.

**Коц** м. Шарсцяная коўдра. Пат коцам добро спаць, ён такі мяхкі і лёхкі. Адэльск.

**Кош** м. 1. Кош, плеценая з лазы круглая пасудзіна. Набярэш цэлы кош бульбы і нясеш свіням. Сухая Даліна. 2. Скрынка ў млыне над жорнамі, у якую засыпаюць збожжа для памолу. Як засыпляш збожа ў кош, лічы, што ўжэ змалоў. Пракопавічы.

**Ко'шка** ж. 1. Кошка, прыстасаванне ў выглядзе якара з трыма кручкамі. У міне кошка добра, як у каго вядро абарвецца, так с студні і дастану. Гродна. 2.

Кошка, саміца ката. Кошка вочы жмурыць, а кіпцюрэ вострыць /прыказка/. Кругляны. Кошка апарасілаCа — кошка прывяла кацянят. У гэтым року кошка ўжэ другі раз апарасілаCа, трое кацянят і зноў прывяла. Пагараны.

**Ко'шкацца** незак. Марудзіць, корпацца, калупацца. Чо ты кошкаясса, людзі ўжэ паехалі ў поле, а ён усе ашчэ прыбіраяцца. Каленікі.

**Ко'шкаць** незак. Варушыць, пераварочваць, злёгку разграбаць. Пачаў кошкаць прысак, аш там — печана бульба, нікаторая зусім згарэла. Кашэўнікі.

**Ко'шусць,** ко'шасць ж. Перхаць. Як кошусць, та, кажуць, трэбо мыць голаў цыбульным наварам, памагая. Перстунь.

**Ко'шык** м. Від дзявочай прычоскі, косы, заплеценыя ў адзін венчык і прымацаваныя на патыліцы. Дзяўчата ўсё косы запляталі ў такі кошык, спількамі прыколвалі. Бакуны.

**Ко'шыр** м. Мясо з пярэдняй часткі тушы каровы ці бычка. Старыя яўрэі тулько кошыр елі, другого мяса ім ні можно было есці. Індура.

**Ко'шычак** м. Валаскі на задніх лапках пчалы для кветкавага пылку. Пчала як набярэ поўныя кошычкі, та яна цяжко ляціць, ледво ўлезя ў ляток. Капцёўка.

**Кпі'ны** мн. Кпіны, насмешкі. Які там гаспадар, з яго толькі адны кпіны строяць. Лугавая.

**Крава'тка** ж. Гальштук. Завяжы мне краватку, а то я ні ўмею добро завязваць. Віцькі.

**Кра'гелькі** мн. Прылада для разматвання маткоў нітак. Надзеняш маток на рашке і давай накручваць ніткі на крагелькі. Копанікі.

**Кра'ма** ж. Крама, магазін, лаўка. Які пан — такая і крама /прымаўка/. Рацічы.

**Крама'р** м. Уладальнік крамы аба прадавец у краме. Крамар у карчме ні адзін прадаваў гарэлку, яму памагала шынкарка. Дзекалавічы.

**Кра'мень** м. Крэмень, вельмі цвёрды камень, які выкарыстоўвалі для высякання агню. Тады ў кожнаго курца быў ў кішане крамень і баначка з цунтарам. Рудавіцы.

**Кра'мнік** м. Прадавец. Усе крамнікі добро жывуць: пакуль каму, та ў іх ужэ есць. Свіслач.

**Крампава'цца** незак. Саромецца. Ён нідзе ні быў, крампавацца будзя перад людзьмі. Занявічы.

**Крампу'лец** м. Моцнага складу чалавек, здаравяка. Ён такі крампулец, што яго ніхто ні здужая. Кунцаўшчына.

**Крамса'ць** незак. Неакуратна, невыразна пісаць. Як пачне крамсаць, та толькі паперу змарнуя. Аульс.

**Красава'ць** незак. Красаваць, цвісці. Летам як пачнуць красаваць васількі, та неяк аж на душэ радасно, як ідзеш праз жыто. Баброўня.

**Краса'ло** н. Красала, крэсіва. Запалкі былі дарагія, та кожны меў свае красало, каб агню здабыць. Лікоўка.

**Красё'нка** ж. Прыстасаванне па плыце ў выглядзе рамкі для замацавання шырыгі /тоўстага кала/, які служыў для тармажэння і затрымкі плыта. Бес красёнак шырыгу магло п скруціць набок, вырваць. Дзекалавічы.

**Красіво'** н. Красала. Красіво мужчыны рабілі с сярпоў старых, адаб'еш кусочак сярпа — і ўжэ красіво маяш. Пракопавічы.

**Краснагало'вік** м. Падасінавік. Мама як пойдзя ў Віхноўшчыну, та адных краснагаловікаў кош набярэ, месца такое ведала. Свіслач.

**Краснапё'рка** ж. Краснапёрка, рыба з серабрыстай луской і ярка-чырвонымі плаўнікамі. Гэтых краснапёрак у нашай рэчцы много было, як пойдзям, та кашом наловім. Кунцаўшчына.

**Крахце'ць** незак. Крактаць. Штосьці наш дзед захварэў, з печы ні злазіць, крахціць. Каўпакі.

**Крок** м. Крык. Дзеці нарабілі кроку і самы ні ведаюць чаго, кажуць, нешто паказаласо. Клачкі.

**Кро'кацъ** ж. Балота, нізкае багністае месца. Людзі стадзі гарэлку піць, а чэрці па крокаці вадзіць /прымаўка/. Рудавіцы. Тут такая крокаць, што ні пралезці, ні праехаць. Верцялішкі.

**Кро'лік** м. Трус. Кролікі добра трымаць, яны натта ш плодныя, мясо смашнае. Пагараны.

**Кроп** м. Кроп. Як салю, та кроп да гуркоў кладу, каб лепей пахлі. Баранава.

**Кро'сна** мн. Кросны, ткацкі станок. За кросна, што зробіць, майстар некалі браў аш пяць пудоў жыта, даволі дорага. Свіслач.

**Кроў** ж. Кроў. У яго крыві зусім німа, белы, як палатно.Кунцаўшчына. Бела кроў — зацямненне свядомасці, адурэнне. У яго, кажуць, бела кроў, ён чалавека можа забіць, нічога ні помніць. Ліцвінкі.

**Круге'лькі** мн. Прылада для разматвання маткоў нітак. Спачатку ніці з маткоў параматваюць на кругелькі, а тады ўжэ снуюць на снойніцу. Лікоўка.

**Кру'жык** м. Кубак /устар./. Дай кружык, вадэ напіцца хачу. Завадзічы.

**Крук** м. 1. Крумкач, груган. Крук круку вока ні выдзяўбе /прыказка/. Кунцаўшчына. 2. Перан.: пан, прыгоннік. Гэта крук паехаў у карэці — так казалі на пана. Лаша.

**Кру'кам** прысл. Крукам. Кап ты круком сеў ды ні адагнуўса! Рагачы.

**Кру'мкаць** незак. 1. Крумкаць /пра крумкачоў/. Крук як ляціць, та здалёк чуваць, як крумкая. Рагачы. 2. Кракгаць, квактаць /пра жаб/. Жабы ў лузі пачалі крумкаць — пара лён сеяць / нар. прыкмета/. Свіслач.

**Крумка'ч** м. Крумкач, груган. Крумкач, бывае, як занадзіцца, та ўсе куранята пахватая, на куры будзя нападаць. Вішнявец.

**Крумкачэ'** мн. Перан. Жабы. Крумкачэ пад вечар пачынаюць крумкаць, як ціхо станя. Лаша.

**Кру'мкі** мн., ж. Жабы-жарлянкі. Крумкі пачалі крычаць, цяпло будзя. Гродна.

**Круп** м. Месца на хрыбце каня, дзе канчаецца грыва. Так на каня ні сядзяш, трэбо левай рукой узяцца за круп, тады сядзяш. Малая Альшанка.

**Круп-круп** выкл. Воклiч, якім падзываюць куранят. Мая маці, бывала, кіне жменю круп і кліча: круп-круп-круп, каб ішлі есці. Лойкі.

**Кру'пнік** м. Крупнік, крупяны суп, круп'еня. Як паставіць міску крупніку, та дзеці ўраз выпугаюць. Палаткова.

**Крутану'ць** зак. Крутануць, крутнуць. Давай пойдзям, і я хачу крутануць з Марысяй полячку. Баброўня.

**Круце'ль** м. 1. Непаседа. Ну і круцель, а ні адной мінуткі ні пасядзіць на месцы, усе круціцца. Сіўкава. 2. Жулік, ашуканец. Я казаў, ні звязвайся з гэтым круцялём, усероўно абмане. Верцялішкі.

**Круцё'лка** ж. Клаўрот. На ледзяной пляцоўцы ўбіваюць кол, на які надзяваюць кола з жэрдкай, да якой прывязваюць санкі. Некалькі чалавек круцяць кола, санкі хутка нясуцца па крузе. Хто даўжэй утрымаецца на іх, той пераможца. Круцёлку хлопцы як раскруцяць, та на санках ні кажды мог уседзяць, забіцца можно было. Лаша.

**Круці'цца** незак. Круціцца, рухацца на адным месцы. Хлопяц як заблудзіў, та з гадзіну круціўсо, пакуль з лесу вышаў. Зарубічы. Кру'ціцца на языку — успамінаецца забытае. Круціцца на языку, а ніяк ні магу ўспомніць, як называўсо. Бычкі.

**Кру'чаны** прым. 1. Кручаны, бывалы, спрактыкаваны чалавек. Гэта, брат, кручаны чалавек, яго ні правядзеш. Кавалічы. Кручаная булка — крэндзель, вітая здобная булка. Помню, і даўней былі кручаныя булкі, але дарагія былі, як і цяпер. Свіслач. Кручаная пуга — пуга, звітая пры дагамозе спецыяльнай прылады з 3–4 тонкіх вяровачак. Пастухе самы сабе рабілі кручаныя пугі, як скруціць, та, як дрот, прухкая такая. Лаша.

**Кручо'к** м. 1. Пячкур, маленькая рачная рыбка. Якая там рыба, адны кручке ў рэццы водзяцца. Балічы. 2. Мера гарэлкі, роўная 125 гр. Зойдзяш у карчму, вып'еш кручок гарэлкі і ўжэ ў мазгах заверня, весялей станя. Дзекалавічы. 3. Невялікая медная пасудзіна ў выглядзе чаркі з ручкай для піцця гарэлкі. Як ачышчаў пажарыско, та знайшоў ашчэ Баркаў кручок; ля, паглядзі які. Свіслач. 4. Прыстаса-

ванне ў выглядзе кароткага тонкага пруціка з загібам на адным канцы для вязання. Як даўжэйшы кручок, та і вязаць ямчэй які свэтар ці рукавіцу. Кунцаўшчына.

**Кру'шня** ж. Куча каменя. Якое ў нас там поле было, нічого ні расло, адны крушні, камень, грэччына ні хацела расці. Славічы.

**Крыва'ўка** ж. Дызентэрыя, крывавы панос. Як прыехалі былі з бежанства, та натта ш крываўка качала людзей, много памярло. Путна.

**Крыва'ўнік** м. Крываўнік, шматгадовая лекавая расліна з моцным пахам. Мой дзед, як абразаў хто сярпом руку, адразу прыкладаў да раны крываўнікам, і, ведаеце, кроў пераставала ісці. Загорцы.

**Крывіндзя'** ж. Пра жанчыну, якая часто хварэе і ў дрэнным настроі. На гэту крывіндзю гляняш — і сам скрывішса. Лаша.

**Крывы'** прым. Крывы, выгнуты, не роўны. У шляхты загоны былі ні такія, як у нас, а крывыя, заклістыя, як яны казалі. Кунцаўшчына. Крывая пяце'лька — плаксівая дзяўчынка. Гэ, гэта крывая пяцелька, тулькі плача і плача, сцішэння німа. Свіслач. Крывое шыло — выгнутай формы шавецкае шыло. Бес крывого шыла, браце, усцелькі ні прышыяш. Індура.

**Кры'га** ж. 1. Крыга, ільдзіна. Ні здумай пераяжджаць на чайцы, крыгі ідуць. Селюкі. 2. Пласт чорнай глебы. Во, якія крыгі чорнай зямлі з-пад плуга адвальваюцца. Сухая Даліна.

**Крыжавы'** прым. Крыжавы, які мае адносіны да крыжа. Крыжавы дуб, бо пат крыжам расце. Парэчча. Крыжавы вугал — кладка бярвенняў перакрыжаваным спосабам пры будове хаты. Старая хата ў крыжавы вугал зрублена, некалі так ўсе ставілі. Бакуны. Крыжавая дарога — дарога, якая перасякаецца другой дарогай. Кажуць, на крыжавой дарозі заўсёды блуд людзей вадзіў. Лойкі.

**Кры'ж-накры'ж** прысл. Крыж — накрыж; у форме крыжа. Як падвяжаш вельку хустку крыж-накрыж, пад рукі, та ўжэ вецер ні прадуя. Літвінкі.

**Кры'пець** м. Частка дзіцячага калу. Дзіця наробіць крыпцяў, а яна і ні бачыць. Балічы.

**Крысо'** н. Крысо, пала. Ты бачыш, адно крысо атрымаласо чамусьці кароткшае, ні даглядзеў кравец. Бакуны.

**Крыць** незак. Вадзіць, выконваць самыя цяжкія абавязкі /звычайна пры гульні ў хованкі/. Давайце вызначым, каму крыць. Скамарошкі.

**Кры'шку** прысл. Трошкі, зусім нямнога, крышачку. Крышку адпачні, а то зусім замудохаўсо. Свіслач.

**Крышчы'ны** мн. Астаткі ў дзежцы пасля хлебнага квасу. Квасу ўжэ німа, адны крышчыны ў дзежцы. Караневічы.

**Крэ'мавы** прым. Крэмавы, белы з жаўтаватым адценнем колер. Ён чамусьці крэмаву рубашку любіць насіць, вымыя і зноў носіць. Горніца.

**Крэ'ндзель** м. Абаранак. Крэндзяле куплялі, самы ні пяклі, тулькі часамі матка з цеста адзін які зробіць, спячэ дзіцяці. Кавалічы.

**Крэнк** м. Канец, смерць. Крэнк на іх прышоў, адпанавалі ўжэ немцы. Кунцаўшчына.

**Крэ'нтам-бэ'нтам** прысл. Бестурботна, гультаявата, ўхіляючыся ад работы. Гэты чалавек пражыў свой век крэнтам-бэнтам, хіба ён што рабіў. Верцялішкі.

**Крэ'та** ж. Крэйда. Каб дзе крэты трохі дастаць ды хату пабяліць. Караневічы.

**Крэ'ўны** прым. Сваяк, родзіч. Ён па цётцы мне некі крэўны прыходзіцца, але ўсероўна свой. Занявічы.

**Ксёндз** м. Ксёндз, служыцель культу ў каталікаў. Ксёндз кажа: падай божа, што высока, а што нізка, сам вазьму / прыказка/. Пяслі. Поп і ксёндз — браты родныя /прыказка/. Лаша.

**Ку'бал** м. Кубел, начынне з клёпак у выглядзе высокай бочкі для захоўвання збожжа і іншых рэчаў. У кубал жыто сыпалі, ашчэ і ціпер вун у каморцы стаіць. Гібулічы.

**Куба'нка** м. Шапка са смушкавым аколышкам і плоскім верхам. Да той вай-

ны ў нас нікаторыя мужчыны кубанкі насілі, але мала, ні было дзе купіць. Струбка.

**Куба'рка** ж. 1. Бляшаная баначка. Во, дай гэту кубарку, хай дзіця пагуляе. Каленікі. 2. Бляшаная баначка для захоўвання тытуню. Бывало, накрышыш сабе ў кубарку тытуну і за дзень высмаліш. Сухая Даліна.

**Куба'тарка** ж. Інкубатарка. Кубатаркі нідобрыя куры, натто ж палахлівыя, паверху ходзяць. Свіслач.

**Ку'бачкі** мн. Белыя гарлачыкі. Нашы хлопцы на чайку сядуць і едуць рваць кубачкі, а яны такія харошыя, харошыя! Свіслач.

**Ку'бел** м. Начынне з клёпак з вушкамі і векам для захоўвання саланіны і мяса. Дзе, пытая, сланіну ў вас соляць — у кублах? Верцялішкі.

**Ку'белец** м. Кубелец, невялікі кубел. І ціпер у нас недзе кубелец, сланіну некалі ў яго клалі. Капцёўка.

**Ку'бік** м. Кучка хворасту ў лесе, якая мае форму куба, прызначана для прадажы насельніцтву. Адзін раз, як прыехалі кубікі браць, та ваўчанят знайшлі. Зарубічы. Некалі хварост у лесі і той прадавалі кубікамі. Грыўкі.

**Кубра'к** м. Тужурка, мужчынская кароткая адзежына з самаробнага сукна. Хлопцы і мужчыны кубраке сабе шылі, а найбольш усе ў Крынках шылі. Бакуны.

**Ку'даса** ж. Мяцеліца, завіруха, завея. Глядзі, на дварэ якая кудаса, свету ні відаць.Карозічы.

**Куда'х-тах-тах!** выкл. Гукаперайманне кудахтання курэй. Курыца як знясецца, так і закрычыць: кудах-тах-тах, а пятух ёй памагая. Батароўка.

**Кудзе'льніца** ж. Дзяўчына або жанчына, якая хадзіла з калаўротам і кудзеляй па хатах прасці. Прыбяры ў хаці, а то кудзельніцы прыдуць. Прыгодзічы. Некалі хлопцы да кудзельніц хадзілі, песні спявалі. Пальніца.

**Кудзе'ля** ж. Кудзеля, валакно лёну, апрацаванае для прыгатавання пражы. Як маладая была, та с кудзеляй хадзіла да сваіх кампанак. Рудавіцы.

**Ку'дла** ж. Пра жанчыну з ускалмачанымі валасамі. Кудла гэта нігды валасоў ні расчэша, так і поўзая. Дзекалавічы.

**Кудла'ч** м. Пра чалавека з ускудлачанымі валасамі; касмач. Кудлач, аш страх глядзець, на чорта падобны. Віцькі.

**Ку'длы** мн. Пасмы валасоў. Прычасаў бы сабе кудлы, а то так і ходзіш. Каўпакі.

**Кудо'й** прысл. Куды, у якім напрамку. Чалавеча, кудой мне тут праз рэчку перайсці? Ферма.

**Кудраўцы'** мн. Кудзеркі. На маім кані кудраўцы ўюцца /нар. песня/. Зарыца.

**Куды'** прысл. Куды. Хлопцы, вы куды так рано ідзеця? Лаша.

**Куды'-ко'львек,** куды-кольвечы прысл. Куды-небудзь. Пайду куды-кольвячы, каб і гочы ні бачылі вас. Кульбакі. Ён, можа, куды-кольвек і паступіць, бо вучыцца нікепско, голаў мая. Кадыш.

**Ку'жаль** м. Кужаль, палатно з ільняных нітак. Кужаль ткаць зусім ні цяшко, ні тое, што якія там родна. Свіслач. У нас кужаль было дзе бяліць, мы на балоці слалі, пасыпалі попялам, палівалі вадой, каб белы быў. Баранава.

**Куза'ка** ж. Казяўка, кузурка. Ля, паглядзі, нека кузака паўзе, каб дзіця ні ўкусіла. Дарашэвічы.

**Ку'заў** м. Кузаў. У кузаве машыны зімой ні паедзяш, адубеяш. Сколабава.

**Кузне'чык** м. Конік. Во, чуяш, як кузнечыкі расспяваліса, гэта на пагоду паказвая. Адэльск.

**Ку'ка** ж. Ранка, болька /дзіцяч. слова/. Ні бяры ножыка ў рукі, а то куку зробіш. Скраблякі.

**Ку'кіш** м. Фіга, дуля. Ізноў хочаш міне абдурыць, а кукіш ты бачыў? Літвінкі.

**Ку'кла** ж. Заламаны і зблытаны пук жытніх сцяблін, які, па ўяўленню забабонных людзей, мог наклікаць бяду на гаспадара нівы. Мы куклы баяліса, абжыналі яе левай рукой і кідал прас сібе, выносілі на дарогу. Клачкі. 2. Род жаночай прычоскі /сабраныя ў касу і закручаныя ззаду валасы/. У Кругліках дзяўке косы ўсе закручвалі ў куклы, прыколвалі шпількамі, мода такая была. Круглікі.

**Куко'ль** м. Куколь /аднагадовая расліна, пустазелле/. Некалі ў жыце таго кукалю было, што рады ні было, хлеп с кукалём елі. Грабяні.

**Куко'ўка** ж. Зязюля. С кукоўкамі кукавала, у вішнёвым саду начавала, с салавейкамі шчабятала /нар. песня/. Свіслач.

**Ку'кса** ж. Кукса; астатак пакалечанай або ампутаванай рукі. Нашаго Аляксея куксай празывалі, бо палец ў сячкарню абрэзаў, с куксай хадзіў. Кунцаўшчына.

**Кукса'ч** м. Чалавек з астаткам пакалечанай або ампутаванай рукі /куксай /. Куксач, правай рукой нічого ні мог рабіць, так і мэнчыўсо. Брузгі. 2. Моцны штуршок. Паліцман як патсадзіў куксача пад дыхавіцы, та аж дух заняло. Каленікі.

**Кула'га** ж. Страва, прыгатаваная з жытняй мукі і вады. Я сама ела кулагу, яна такая чырванаватая з запаранай мукі, салоткая. Рудавіцы.

**Куле'ш** м. Рэдкая страва з жытняй мукі. Я сама ні ела, тулькі мой дзет панашаў, як даўней варылі кулеш, постам елі. Калбасіна.

**Кулё'ўка** ж. Машына для прамога абмалоту жыта ці пшаніцы. Кулёўкі былі толькі ў багатых гаспадароў, бедныя і цапамі ні мелі чаго малаціць. Баброўнікі.

**Куль** м. 1. Куль, задняя частка рыбалоўнай снасці. Рыбы было много, як дастаняш волак, так плоткі і затрапешчуцца ў кулю. Лаша. 2. Тоўсты сноп выбранай няцёртай саломы, з якой робяць стрэхі. Бывала, як звяшаш куль саломы, та ні падымяш, такі цяшкі. Луцкаўляны. 3. Вялікі мяшок з рагожы. Той рок, як пшаніца прапала, тато цэлы куль мукі купіў, на зацерку было да новай. Сухая Даліна.

**Кульба'ка** ж. 1. Палка з загнутым верхнім канцом. Помню, хлопцы на гуляне ўсе с кульбакамі хадзілі, модно было. Кругляны. 2. Прыстасаванне ў кроснах у выглядзе выгнутай палкі для падкручвання навоя з асновай. Як трэбо, кульбаку падымяш і колькі трэбо навой сабе падкруціш. Карозічы.

**Кульба'кі** мн. Дэталі ў парным ярме ў выглядзе выгнутых палак і металічных прутоў. Як кульбакі ўставіш у ярмо, та валэ ў баке ні будуць разыходзіцца, просто пойдуць, Крыўляны.

**Кульба'чка** ж. Гладкая палка з сучком для мяшання стравы ў гаршку. У міне кульбачка была, як у бусла дзюба, добро было мяшаць у гаршках. Канчатка.

**Ку'льша** ж. Бядровая частка нагі. Глядзі, з зімы ў каровы зусім кульшы павысыхалі, аткуль тое малако будзя. Старая Дубавая. У нашай Цацэлі вельмі такі тоўстыя кульшы, аж людзі сміюцца. Брузгі.

**Ку'ля** ж. Кастыль, мыліца. Тады, як ён ногу зламаў, та, можа, месяцаў два на кулях хадзіў. Віцькі.

**Куля'са** ж. Кастыль. Як адабрало чамусьці ногу, та Грыўко на кулясах пачаў хадзіць. Лікоўка.

**Куля'ць** незак. Выцягваць коньмі бярвенні на бераг ракі. Во, плытэ прышлі, заўтро будзям куляць дзерава з Нёмна. Свіслач.

**Куме'каць** незак. Разумець, цяміць, кеміць. Спачатку нічого ні разбіраўсо, тулькі потым стаў кумекаць, куды ён хіліць сваю справу. Парэчча.

**Куміса'цыя** ж. Камасацыя, аб'яднанне некалькіх дробных зямельных надзелаў сялян у адно цэлае; хутарызацыя. У нас кумісацыю правялі ашчэ да 1939 року, да той вайны, усе былі на калёнях. Караневічы.

**Ку'мкаць** незак. Крактаць, квакаць. Жабы ў сажалцы кумкаюць, на цяпло, відаць, павярнуло. Кунцаўшчына.

**Кумпя'к** м. Кумпяк; бядровая частка свіной тушы; шынка. У дзеда свая ванглярня была, кумпяке самы вэндзілі. Карозічы.

**Кумпя'та** мн. Бёдры, сцёгны. Ні лезь у сад, а то кумпята паадбіваю, будзяш ведаць. Кавалічы.

**Ку'ндаль** м. Сабака з доўгай шэрсцю. Кундаль некі прыбіўсо, ні адагнаць ат хаты. Занявічы.

**Купро'** н. Месца па спіне ў каня, дзе канчаецца грыва. Як высокае купро ў каня, та і ехаць файно, ні ўпадзеш. Рагачы.

**Ку'пча** ж. Купчая крэпасць /дакумент аб куплі і продажы нерухомай маёмасці ў царскай Расіі/. На гэту землю мы даўно купчу зрабілі, німа чо баяцца. Лесніца.

**Купча'сты** прым. Купчасты. Купчасту астру сабе завяла, глядзі, як файно цвіце. Баранавічы.

**Кура'й** м. Курыны гермафрадыт, які мае адзнакі абодвух палоў. Курай, мусі, ні курыца, ні пятух; чорт ведае, што купіла. Радзевічы.

**Кура'к** м. Туга звязаны і запалены пучок саломы. Як смалім паршука, та тато курак запаліць, і ён курыць; як трэбо агню, падуе і загарыцца, ні трэбо запалкаў. Квасоўка.

**Кураке'** мн. Гнілыя, спарахнелыя кускі драўніны, якія кладуць у дымар для падкурвання пчол. Бяда, кураке вышлі, ідзі і зноў дзе шукай, німа з чым да пчол падысці. Караліно.

**Курале'й** м. Тое, што і курай. У нас быў адзін рок куралей, ні сяваў, яец ні нёс, та маці зарубала. Путрышкі.

**Кураня'** н. Кураня. Кураняці нешто зрабіласо, нацюпіласо, стаіць адно, нічого ні есць. Агароднікі.

**Кура'ўка** ж. Прымітыўны дымар для падкурвання пчол. Дымароў такіх ні было, скруціш ганучку, патпаліш — во і кураўка, да пчол ідзеш, паткурваяш. Ахрымаўцы.

**Кура'ціна** ж. Кураціна; мясо курыцы. С курацінай крупнік толькі хворым давалі, здаровыя яго ні елі. Агароднікі.

**Кура'чы** прым. Курыны. Курачы гной трэбо вадой разбіраць, я кожны рок разбіраю, а так можа папаліць цыбулю. Свіслач. Курачы зносак моцны, любое яйцэ можа пабіць. Грыўкі.

**Ку'рачка** ж. Нейкая невялікая балотная птушка. У лузі много дзікіх курачак вялосо, ціпер нешто ні відаць. Сухая Даліна.

**Курашчу'п** м. Пра мужчыну, які правярае курэй-нясушак /пагард./ Во, да чаго дажыўсо купашчуп гэты, сам курэй шчупая, жонцы ні давярая. Рудавіцы.

**Кураяй'** м. Тое, што і курай. І ў міне быў кураяй, маці прадала за курыцу. Казіміроўка.

**Курба'н-байра'м** м. Рэлігійнае свята ў скідзельскіх татараў. На Курбан-байрам заўсёды бычка татары рэзалі, па кавалачку разносілі па хатах, бедным аддавалі ногі і рошкі. Скідаль.

**Курве'ль** м. Распуснік, мужчына амаральных паводзін. Гэты курвель ні дзіцей, ні жонкі ні трымаўо, пакуль голаў ні скруціў. Літвінкі.

**Курга'н** м. Курган, высокі старадаўні магільны насып. Напроціў сяла курган на полі быў, кажуць, швэтскі. Кунцаўшчына.

**Курду'пель** м. Недаростак, карлік. Курдупель, ніяк ні расце, і па ком ён ўдаўсо. Лаша.

**Ку'ркнуць** зак. Курлыкнуць, падаць голас /пра птушку/. Ашчэ ні адна птушка ні куркнула, а ён ужэ палетак абышоў, усё агледзяў. Бакуны.

**Курмя'ўка** ж. Аўсянка, неялікая рыба сямейства карпавых. Кажуць, на курмяўку добро фарэль браласа. Бакуны. Адных курмявак налапаў, якая там рыба. Чэхаўшчына.

**Курмя'ўкаць** незак. Стварыць гукі, падобныя на «курмяў” /пра катоў/. Як настаня марац, так катэ і пачнуць курмяўкаць, драцца. Гожа.

**Курна'** ж. Скруціць у курну — скруціць у крук, у барані рог. Як схапіў Гарцёма, так і скруціў у курну, той ні адагнуўсо. Кунцаўшчына.

**Ку'рны** прым. Курны, думны; закураны, задымлены. Нека курная галавешка ў пячэ засталаса, курыць і курыць. Рудавіцы. Курная хата — хата, якая ацяпляецца печкай без коміна; курніца. Мне было ракоў 16 — 17, та ўсе хаты ў Жараслаўцы былі курныя, лічы, аж да 1903 року. Навасёлкі.

**Куро'пка** ж. Курапатка. Куропкі, як настаня вечар, так за адрынамі і крычаць, бегаюць па полі. Скамарошкі.

**Курпе'ль** м. Недаростак, карлік, заморанае дзіця. Курпель мусі, ні вырасце, зусім замарыла мачаха. Баброўнікі.

**Ку'рта** ж. Жывёліна з кароткім хвастом.

У нашых су'чка была, курта, зайцоў добро лапала. Свіслач.

**Курта'ты** прым. Кароткахвосты. У Міськевіча куртаты конь быў, бельгійскай пароды, натто ж бонкаў баяўсо. Кунцаўшчына.

**Ку'ртка** ж. Куртка, мужчынская верхняя вопратка. Куртка на ваці, цяпло хадзіць, ні змерзняш. Калбасіна.

**Курч** м. Сутарга; рэзкае скарачэнне мышц, якое суправаджаецца вострым болем. Баюсо купацца: вада халодная, курч можа схапіць за ногі. Пышкі.

**Ку'рчык** м. Сутарга /памянш./ Некі курчык у паясніцу ўлез, ні магу адагнуцца, так баліць. Круглікі. Ат курчыка лячыліса самы, воск вылівалі, бабы замаўлялі. Круглікі.

**Куры'ло** н. Самаробны дымар для падкурвання пчол. Бес курыла да пчол ні суньса, засякуць. Азяркі, Грандзічы.

**Куры'ны** прым. Курыны. Курыны крупнік толькі панэ елі, а так ніхто ні еў. Рагачы. Курыная слепата — казялец, шматгадовая расліна сямейства казяльцовых. Па балоці адна курыная слепата жаўціць, травы зусім, німа. Кавалічы. Курынай слепаты каровы ні ядзяць, яна ядавіта. Курыная вош — дробнае насякомае, якое паразітуе на целе курыцы. Ат курыных вошай як ні ўратуяш курэй, та прападуць, заядзяць. Гібулічы.

**Курэ'йко** м. Тое, што і курай. У міне курэйко быў; ні курыца, ні пятух, а яйца нёс, курэй душыў. Пад'ятлы.

**Кусо'к** м. Кавалак. Адрэзаў кусок сала і с хлебам есць, вячэры ні можа дачакацца. Лікоўка.

**Кута'с** м. Кутас, пучок нітак, звязаных разам на адным канцы, які служыць для ўпрыгожання. Рымар зробіць кутас, прычэпіць да гобруці і ўжэ харашэй. Эйсманты. Паясэ насілі такія пекныя, с кутасамі. Лаша.

**Ку'тні** прыам. Кутні, які знаходзіцца ў куце. Кутнія зубы павыпадалі, тулькі сперадзі ашче сядзяць. Славічы.

**Куто'к** м. Куток, кут. Захіліўшыса ў куток — па дзве чарачкі ў раток /выслоўе/. Пагараны.

**Ку'фар** м. Куфар, вялікая скрынка з векам для захоўвання тканіны, адзежы. Багата дзеўка: у яе поўны куфар дабра ўсялякага. Азяркі, Грандзічы.

**Куфэ'рак** м. Куфэрак, невялікі чамадан. Як дзе ў дарогу, та куфэрак с сабой бяры, спатрэбіцца. Жукевічы.

**Ку'халь** м. Куфель, бакал піва. Нікаторыя аш па тры кухлі піва могуць адразу выпіць, а я і аднаго ні магу. Індура.

**Ку'хан** м. Булка з пшанічнай мукі. Скідальскія татары ўсе на свае свято куханы пяклі. Скідаль.

**Ку'хта** ж. Дзяўчына легкіх паводзін /пагард./. Хто яе ні ведая, гэта ш кухта, з жаўнерамі круціласа. Круглікі.

**Куцава'ць** незак. Тармасіць, тузаць. Сабака як дагнаў яго, так і стаў куцаваць, пакуль ні адагналі. Баяры.

**Ку'цю-куцю** выкл. Покліч, якім падзываюць авечку. Куцю-куцю, гавечкі, пайшлі ў хлеў. Луцкаўляны.

**Куця'** ж. 1. Куцця, урачыстая вячэра напярэдадні каляд. На куцю варажылі. Тато, бало, седзячы за сталом, схаваецца за гаршчок с куцёй і пытаецца ў маткі: «Ці ты бачыш міне?" Маці казала: «Не, ні бачу.» Тады бацько казаў: «Дай, Божа ласкавы, кап ты ні бачыла міне летам за густымі снапамі.» Лаша. Куця в макам — каша з ячных круп з молатым макам, як традыцыйная, абрадавая яда. На куцю маці заўсёды варыла куцю з макам, салоткую такую. Лікоўка. Куця з кумпяком — урачысты вечар напярэдадні Новага года. У нашых была куця с кумпяком, елі ўсё скаромнае. Каўпакі.

**Ку'чка** ж. 1. Невялікая куча. Жыто даўно пажалі, на полі тулькі кучкі саломы засталіса. Лікоўка. 2. Перан.: маленькая хата. Гэта ты ў такой кучцы да гэтай пары жывеш, ні мог добрай паставіць хаты? Жылічы.

**Ку'чкі** мн. 1. Рэлігійнае свята ў яўрэяў у верасні, да якога кожны веруючы рабіў сабе кучку — буданчык, у якім праводзіліся абрады. Зададжыласо, мусі, яўрэйскія кучкі натходзяць. Пракопавічы. 2. Спосаб устаноўкі снопікаў грэчкі для прасушкі. У нас грэччыну

ў кучке ставілі, каб дождж ні намачыў. Кавальцы.

**Кучма'** ж. 1. Пра пышныя, густыя валасы. Бало, як трасяне сваей кучмой, як пойдзя скакаць галёп, та любо на яго паглядзець было. Рагачы. 2. Перан.: чалавек з неахайнай прычоскай /неадабр./. Кучму неку ўзяў з Белева, поўзая, як страшыдло. Луцкаўляны.

**Кушне'р** м. Кушнёр, рамеснік, які выробляе скуры на футра. Тато гаўчыны выробляць вазіў да Скідзеля, там кушнер добры быў. Свіслач.

**Кушне'рка** ж. 1. Шапка з футра такога самага колеру, як і каўнер адзежыны. Некалі шляхта ўсе кушнеркі насіла, такія дарагія шапкі. Эйсманты. 2. Зімовая шапка з казінага футра. Прыдбаў сабе кушнерку, і нідарагая, і даволі цёплая. Брузгі.

**Кушпе'ль** м. Недаростак, карлік. Кушпель, гэта ж дваццаты рок ад мая пашоў, а ён ад зямлі ні адрос. Белева.

**Кы'цы-кы'цы** выкл. Вокліч, якім падзываюць ката. Кыцы-кыцы, Мурачка, хадзі малачка трошкі пап'еш. Жукевічы.

**Кэ'паль** м. Галава /устар./ Калі кэпаль ні варыць, та і грошы ні памогуць. Індура.

# Л

**Лаба'сцік** м. Хлопец з вялікім выпуклым ілбом. Лабасцік, у яго лоб, як тачыло. Кунцаўшчына.

**Лабахта'р** м. Ілгун, хлус. Гэта лабахтар, як пачне лабахтарыць, та канца і берагу німа. Гліняны.

**Лабе'сіна** ж. Лоб /груб./ Як сеў есці, та еш, а то заробіш лошкай па лабесіні. Кавалічы.

**Лабе'шка** ж. Лоб, галава /груб./. Каб яго лабешку ды другому, та той міністрам стаў бы. Свіслач.

**Ла'ва** ж. 1. Лава з поручнямі. У багатаго гаспадара і лава шырокая была. Лаша. У яго сваякоў, як наедуць, та ўсе лавы пазасядаюць. Сухая Даліна. 2. Вялікі абшар. Гэта ж цэлая лава жыта стаіць, пераспело ўжэ, і ніхто ні думая жац. Свіслач.

**Лавіча'нка** ж. Даматканая спадніца з рознакаляровымі палоскамі. Як маладзейша была, та больш усё лавічанкі насіла, с такімі палоскамі па краёх. Сапоцкін.

**Лагчы'на** ж. Лагчына, нізіна. Дзе лагчына, там і хлеба асьміна /прыказка/. Рагачы

**Лад** м. 1. Парадак, зладжанасць. Пры тым прадсядацелю ніякаго ладу ні было, што хто хацеў, тое і рабіў. Пяслі. 2. Манера, спосаб. Ён лад мае — просіць у госці, а ты лад май — ні ідзі. Віцькі. Дайсці да ладу — разабрацца, дабіцца толку. Там пакуль да ладу дойдзяш, та галаву зламаяш. Баброўня. На добры лад — па-сапраўднаму. Тут на добры лад і сварыцца ні было за што. Солы.

**Ладава'ць** незак. Укладваць, лажыць. Як я ні ладаваў, усёроўна ўсяго сена ні забраў, прышлоса другі раз ехадь. Хамякі.

**Ла'дан** м. Ладан. Пасля вайны, як ладану ні было, та ялаўцом бацюшка паткурваў у цэркві. Парэчча.

**Ла'дны** прым. Зграбны, стройны, прыгожы. Хлопец ладны, ніц ні скажаш. Ланявічы.

**Ладо'ды** мн. Галушкі з цёртай бульбы, закручаныя ў капусны ліст, запечаныя і залітыя тлушчам або макам з цукрам. Ціпер ладодаў ні пякуць, а некалі пяклі, як дзяўчата с кудзелямі хадзілі. Калбасіна.

**Ладу'нак** м. Груз, паклажа. Ладунку на возі, здаецца, ні много было, а конь аж упрэў. Агароднікі.

**Ланы'га** ж. Сцябло без лісця. Той рок чэрві ўсе яблыні аб'елі, адны ладыгі тырчалі. Рацічы.

**Лады'шак** м. Гладыш, збанок без ручкі. У ладышку малако заўсёды халаднейша, бо ў ім палівы німа. Азёры.

**Лады'шка** ж. Тое, што і ладышак.

Напіўсо, як ліса з ладышкі /прымаўка/. Кавалічы

**Лажамэ'нт** м. Ложак /груб./. Нічого ў яго ў хаці німа, адзін некі лажамэнт стаіць. Кунцаўшчына.

**Лажбі'на** ж. Лагчына, нізіна. Вёска наша ў лажбіні, у ёй зацішней, ні так вецер дуя. Галаўнічы.

**Лаза'нкі** мн. Страва з парэзанага на квадрацікі тонка раскачанага цеста, запраўленая макам і цукрам. На першу куцю маці заўсёды лазанкі варыла, іх халоднымі елі. Балічы.

**Ла'зня** ж. Лазня. У нас хоць і лес быў, але лазня рэтко ў каго была. Бакуны.

**Лазэ'нга** ж., м. Бадзяга, валацуга. Лазэнга ты, цэлымі днямі недзе ўсё лазіш, у хаці ні прыпыняяшса. Гродна.

**Лайда'к** м. Лодар, гультай. Лайдак, вецер стрэху ўсю паабырваў, а ён і ні думая крыць. Казловічы.

**Лакта'ць** незак. Распіваць, жлукціць. Прывык гарэлку лактаць, і рады з ім ніякай німа. Рыбніца.

**Ламаві'к** м. Ламавік, перавозчык цяжкіх грузаў. Усе цянжары тады перавозілі ламавіке, ніякіх машынаў ні было. Ласосна.

**Лама'к** м. 1. Непаваротлівы, няўклюдны чалавек. Ламак некі, да яго нічого ні прыстае, ніякая культура. Капцёўка. 2. Прылада для першапачатковай апрацоўкі льну. Спачатку лён трэш на ламак, а потым ужэ на церніцу. Лікоўка.

**Ламану'ць** зак. 1. Кінуцца ўбок. Ён ішоў, ішоў, а потым як ламане за хату — тулько яго і бачылі. Хамякі. 2. Упасць раптоўна. Яны тады з чайкі ў Нёман як ламанулі, та ні адзін ні вышаў. Загорцы.

**Лама'нцы** мн. 1. Печыва з раскачанага і спечанага цеста, запраўленае макам і цукрам. Ламанцы маці заўсёды на куцю рабіла, халоднымі падавала. Кунцаўшчына. Таму і ламанцы называлі, што спечаныя ламалі і запраўлялі макам. Рагачы. 2. Цёртая бульба ў выглядзе галушак, запечаная на капусных лістах. У нас у Капцёўцы некалі такія ламанцы пяклі, дзеці натто ж любілі. Капцёўка.

**Ламаста'ць** незак. Варварскі рваць садавіну; абдзіраць. Малым, бывало, як пойдзямо ламастаць па садах яблыкі, та пакуль хто ні напрэ, ламастуям. Пышкі.

**Ламата'** ж. 1. Ламата, недамаганне. У нас даўней як у каго ламата ў касцях, та да балючаго месца прыкладвалі сінюю гліну. Селюкі. Ламата нека ў суставах, месца ні находжу. Малая Альшанка. 2. Непаваротлівы, няўклюдны чалавек. От ужэ ламата, шагу зрабіць ні можа, кап што ні разбіць. Свіслач.

**Лама'ць** незак. Ламаць, крышыць. Ламаць ты навучыўсо, а хто ж за цібе рабіць будзя. Карозічы. Ламаць галаву — біцца над вырашэннем задачы, пытання. Нашто нам думаць, хай яны самы голаву ламаюць, ім за гэта грошы плацяць. Балічы.

**Лама'чка** ж. Драўляная прылада для першапачатковай апрацоўкі лёну; прымітыўная церніца. Спярша лён ламалі на ламачках, а пасля ўжэ церлі на церніцах. Кавалічы.

**Ламашы'цца** незак. Варочацца, неспакойна спаць. Як ляжа, та ламошацца, ламошацца, аж надаесць, пакуль засне. Квасоўка.

**Ламбучо'к** м. Сцяблінка. Глядзі, якісьці ламбучок пасадзіў, а такое дзераво вырасло. Цыдовічы.

**Лані'** прысл. У мінулым годзе, летась. Лані жыто ні такое палёглае было, як у гэтым року. Пагараны.

**Ланту'х** м. Вялікі жывот /груб./. Наела лантух і ледво лазіць ціпер, нагнуцца ні можа. Казіміроўка.

**Ла'па** ж. Шавецкая жалезная прылада, якая замяняе капыл. Як лапа ў хаці, та і сам можаш набойкі набіць.Рагачы.

**Лапа'тка** ж. 1. Лапатка, плечавая частка мясной тушы. Які там баран, ужэ ўсяго з'елі, адна лапатка асталаса. Вішнявец. 2. Драўляная прылада для выкідвання торфу з канавы. Я сам як папавыкідаў лапаткай торпу, та назаўтро рук ні мог падняць. Круглікі. 3. Дэталь у калаўроце ў выглядзе лапкі, праз якую прыводзіцца ў рух махавое кола. Лапатку і самому можно зрабіць с планачкі, нічого тут цяшкаго німа. Казіміроўка.

**Ла'патнік** м. Бедны, кепска апрануты чалавек /пагард/. З гэтым лапатнікам ніхто гаварыць ні хацеў, а ціпер, глядзі, якім чалавекам стаў. Лаша.

**Лапа'тнік** м. Куток каля печы, у які ставілі хлебную лапату. У нас у лапатніку стаяла качарга, а таксамо і памяло. Бандары.

**Лапату'ха** ж. Выгіб у лязе касы ў выніку няправільнага кляпання. Лапатуху, мусі, у касу ўвагнаў, касіць ні будзя. Агароднікі.

**Ла'паць** незак. Хапаць, мацаць рукамі. Прывык маладым баб лапаць, та і ціпер дур у галаве сядзіць. Падкрыжакі.

**Лапа'ць** незак. Лавіць. За ім гестапо ганяласо, паліцаі лапалі і ні маглі злапаць. Аульс.

**Ла'піць** незак. Латаць, ставіць латкі. Што гэты кажух лапіць, тут лата на лаці і шва ні знаці. Дубаўка.

**Лапо'ўка** ж. Хабар. Ён, кажуць, лапоўку даў солтысу, каб у Германю дочку ні вывязлі. Індура.

**Лапсярда'к** м. Доўгая мужчынская вопратка. Кажуць, яшчэ дзед мой насіў лапсярдак. Азёры.

**Лапта'** ж. 1. Дзіцячая гульня ў мячык дзвюма партыямі. Як малымі былі, у лапту ўсё гулялі, набегаясса, та ледво дахаты паўзеш. Лікоўка. 2. Лапатка, якой б'юць па мячы ў гэтай гульні. Лаптой як урэжаш мячык, та ляціць чорт яго ведая дзе. Кунцаўшчына.

**Лапта'ш** м. Лапаць; разбіты, растаптаны абутак. Скідай свае лапташэ, у іх ні да людзей, а да жывіны тулькі хадзіць. Лікоўка.

**Лапунэ'** мн. Невялікія круглыя аладкі з цёртай бульбы, запраўленыя макам і цукрам. Адвары' лапуноў на вячэру, даўно ні елі. Бакуны.

**Лапу'х** м. І. Лопух. У нас на лапухах хлеб пяклі. Вішнявец. Як у каго рана, та лапухамі ўкладвалі, каб гавіласа. Балічы. 2. Бесталковы чалавек /зневаж./. Ён такі лапух, што яго кожны вакол пальца абвядзе. Дарашэвічы.

**Лапушы'сты** прым. Шыракалісты. У гэтым року натта ш капуста лапушыста, пакруціласа ў галаўке. Жукевічы.

**Лапшы'вы** прым. Абжорлівы, пражэрлівы. Ён такі лапшывы, што сырое еў бы. Баброўнікі.

**Лапянда'** ж. Жанчына, якая многа і без толку гаворыць; лапатуха, балбатуха. Ні аднаго талковаго слова ні скажа, бо лапянда есць лапянда. Рагачы.

**Ла'сіца** ж. Ласка, ласіца. Мы забілі яе, бо думалі, што шашок, а дзядзько сказаў: ласіца. Свіслач.

**Ла'сне** уводн.сл., прысл. Уласна. Ласне, ці я табе ні назала, што гэтак будзя? Славічы. 2. Хіба, няўжо, ці. Ласне гэта праўда, што людзі пра яго кажуць. Балічы.

**Ластажы'ць** незак. Лупцаваць, біць, хвастаць. Каб жывіну так ластажыць, гэта трэбо зверам быць. Свіслач.

**Ластама'н** м. Крывадушны, ліслівы чалавек, падхалім. Але ж і ластаман, глатко сцеля, цвёрдо спаць, як той казаў. Кунцаўшчына.

**Ла'стаўка** ж. Ластаўка. Першая ластаўка вясны ні чыніць. Капцёўка. Ластаўкай віцца — перан.: дагаджаць, наравіць, падлошчвацца. Цешча ластаўкай уецца каля яго, а па натуры -чорт, ні баба. Зарыца.

**Ла'стаўка** ж. Клін, вузкая трохвугольная ўстаўка ў адзенні. Ну і каптан сшыў –рукі ні падняць, мусі, ластаўку ні так уставіў. Бычкі.

**Ла'сы** прым. Ласы, падкі, ахвочы, прагны. Ласы, як кот на каўбасы /прыказка/. Луцкаўляны.

**Ла'та** ж. 1. Жэрдка. Я загарадзіў бы гарод, але латаў німа дзе дастаць. Баброўнікі. 2. Кавалак матэрыяла, якім залатана дзірка. Новы кажух, а ўжэ лату трэбо ставіць, парваў. Скрабліакі.

**Латажы'ць** незак. Лупцаваць, біць. Сам вінаваты, а каня давай латажыць, кап спытаць — за што? Горніца.

**Латве'й** прысл. Зручней, ямчэй. Тут будзе латвей пераехаць праз рэчку, ні глыбоко. Занявічы.

**Ла'тка** ж. Кавалак тканіны або скуры, якім залатана дзірка. Кажушная латка як родная матка /прымаўка/. Свіслач.

**Ла'ўка** ж. І. Лаўка, невялікі магазін. Учора ў лаўку прывязлі много тавару, трэбо

сходзіць, паглядзеці. Каменка. 2. Частка плыта, у якой звычайна налічваецца 24 бервяна. У плыце бывае 20 і больш лавак. Загорцы. Лаўкі звязваюцца шварцугамі, каб маглі выгінацца, выкручвацца на загібах. Дарашэвічы.

**Лафа'** ж. Выгода. Кончыласа вам лафа, пагулялі і досыць. Лаша.

**Лаханда'** ж. Жанчына, якая многа, без толку гаворыць; балбатуха. 3 гэтай лахандо'ю лепей ні сустракацца, як развядзе неку нуду, та німа на што і слухаць. Саломенка.

**Лах** м. 1. Старое паношанае адзенне. Ні трасі тут сваімі лахамі. Зарыца. 2. Абарванец, дрэнна апрануты чалавек. Ішоў пад гарой некі лах, але я і не падумаў, што гэта наш сваяк. Зарачанка. Лахі пад пахі — у значэнні: забраць свае рэчы і пайсці прэч. Бяры свае лахі пат пахі і ідзі, каб я цібе ні бачыў. Жукевічы.

**Лахма'н** м. 1. Паношаная, падраная вопратка. Трэбо лахманэ ўсе перасушыць, та будзям на зіму ўлей уцяпляць. Гарны. Скідай гэты лахман, надзень новы каптан: дзісяй свято. Кузьмічы. 2. Дрэнна апрануты чалавек /зневаж./. 3 гэтым лахманом ні адна дзеўка гаварыць ні будзя. Рудавіца.

**Лахмы'тка** ж. Неахайна адзеты чалавек. Чаму ўжэ гэта ты, як лахмытка ходзіш, здаецца, і зарабляяш добро? Жытародзь.

**Лахна'** ж. Тое, што і лаханда. Як дзве лахны ззыдуцца, та іх і вадой ні разжанеш. Пагараны.

**Лаху'дра** ж. Прайдзісвет, неахайны чалавек. Калі жонка лахудра, та ні паможа і пудра /прымаўка/. Круглікі.

**Ла'яць** незак. Ганьбіць, абражаць. Ён яго лае, а той і вухам ні вядзе. Галавачы.

**Лгун** м. Ілгун, хлус. Ён лгун, ніколі праўды ні скажа. Лойкі.

**Леваты'га** ж. Клізма. Як бывае запор, та я раблю дзецям леватыгу з мылам і ўсё праходзіць. Лікоўка.

**Ле'гчы** зак. Легчы, прыняць ляжачае гарызантальнае становішча. Ляжу гэта я ў разоры ў бульбы, аж бачу: адзін немец у хлеў пашоў. Скідаль. Легчы бэнкам — у значэнні: легчы і болей ні ўстаць /лаянк./ Каб ты бэнкам лёг, людзі робяць, а ён ляжыць. Рагачы. Легчы крыжам — у значэнні: памерці, сканаць. Крыжам лягу, а сваго ні ўступлю. Парэчча.

**Ле'да** ж. Прылада ў выглядзе трох змацаваных апораў, калаўрота і жалезнага тросіка для падымання бярвенняў. Маючы леду, і аднаму можно палажыць штуку на воз. Азяркі, Грандзічы.

**Ле'дво** прысл. Ледзь, ледзьве, чуць. Стары ледво шчарапкаўсо на печ. Верцялішкі. Да гэтаго марозу ледво бульбу кончылі выбіраць. Малая Капліца.

**Ле'днік** м. Халадзільнік. Сваго ледніка німа, та стаўлю ў леднік кватаранткі. Зарубічы.

**Лежабо'к** м. Гультай, лодыр. Шыферу трэбо дастаць на хлеў, а гэты лежабок і ў голаву сабе ні бярэ. Лікоўка.

**Ле'і** мн. Леі, нашыўкі з другога матэрыяла на кавалерыйскіх штанах у месцах, якія датыкаюцца да сядла. 3 леямі ганавіцы ні так драліса, пойдзяш да краўца і нашыяш сабе. Белева.

**Ле'мях** м. Лямеш, частка плуга. На нашай зямле лемях тупіцца хутко, каменяў много. Кавалічы.

**Лень** выкл. Глянь, паглядзі. Лень, гэта што за людзі ідуць, адкуль яны? Ферма.

**Лепята'ць** незак. Лепятаць, гаварыць невыразна, нязвязна /пра мову дзяцей/. Наш

**Толік** ужэ нешто ляпеча, але ні разбярэш што. Карозічы.

**Ле'рка** ж. Дэталь калаўрота ў выглядзе металічнай пласцінкі для мацавання шпулькі. Як выпадзе лерка, та ўжэ прасці ні будзяш, шпулька станя. Круглікі.

**Ле'тась** прысл. У мінулым годзе. Летась добро бульба ўрадзіла, німа чаго казаць. Лужкі.

**Ле'ташні** прым. Мінулагодні. Саломы ў гэтым року хопіць, ашчэ леташняя ў стагах ляжыць. Батароўка.

**Ле'тні** прым. 1. Летні, які мае адносіны да лета. Летні дзень рок корміць /прымаўка/. Жукевічы. 2. Цеплаваты, крыху падагрэты. Вада яшчэ летняя, добро

ні нагрэласа, німа як дзіця купаць. Дарашэвічы.

**Ле'ха** ж. Кавалак ворнай зямлі. Цэлу леху зямлі захапіў, жыто пасею. Зарубічы. Зграў у дзве лехі ніву. Малая Альшанка.

**Ле'шка** ж. Невялікі кавалак ворнай зямлі. Цэлу лешку пасеяў грэччыны, хоць жарства, але павінна вырасці. Парэчча.

**Лё'гкі** прым. Здатны, спрытны да хады. Хто з ім ззыдзяцца, ён лехкі, як хорт. Трычы.

**Лё'ды** мн. Марожанае. Пойдзям, зафундую табе лёдаў. Пракопавічы.

**Лёз** м. 1. Зазор, запас, люфт, прамежак. У боці замного лёзу, нага шлыгаяцца. Жылічы. Калясэ ходзіць, лёз завелькі, трэбо мутру паткруціць. Горніца. 2. Вольны, свабодны час. Ён мае больш лёзу, чым я, таму і рыбу ловіць. Пагараны.

**Лё'кай** м. Лакей. Міхась спачатку служыў лёкаям у пана, а потым купіў фальварак, сам стаў жыць. Рагачы.

**Лё'кайская** ж. Пакой, у якім жыў панскі лёкай. Лёкайская нідалёко панскаго пакоя была, каб бліжэй пана. Бяляны.

**Лё'нка** ж. Затычка, металічны шпянёк, які ўтрымлівае кола воза. Заткні лепяй лёнку і прывяжы, каб ні выпала ў дарозі. Лаша.

**Лё'скат** м. Лёскат. Раней на шашы толькі лёскат ішоў, як фурманкі на торг да Індоры ехалі. Луцкаўляны.

**Лё'стачкі** мн. 1. Лісліvыя словы. Яна лёстачкамі чалавеку душу дастаня, ты яе ні ведаяш. Баброўнікі. Ён усё лёстачкамі да яе падходзіць, далікатне. Бакуны. 2. Прымітыўная медыцынская шына ў выглядзе двух вузкіх змацаваных планачак. Як я руку паламала, та яе ў такія лёстачкі бралі, кап косць зрасласа. Свіслач.

**Лё'шчаткі** мн. 1. Тое ж самае, што і лёстачкі. Хлопец нешто ногу навярадзіў, та ў лёшчаткі ўзялі, каб усталяваласа. Сухая Даліна. 2. Дзве планачкі ў кроснах, звязаныя шнуркамі, для раздзялення асновы. Лёшчаткі павінны быць гладкія, каб ніці ні чапляліса за іх, ні рваліса. Круглікі.

**Лібязі'ць** незак. Лісліvіць, падлізвацца. Я прад ім так ні лібязіў, я ні такі чалавек. Дарашэвічы.

**Ліме'невы** прым. Алюмініевы. Лімeневы дрот ні мая такого прыцяжэня, як жалезны. Зарубічы.

**Лі'нка** ж. Жалезны трос. Адзін раз лінка не вытрымала, пэнкла, та паром ледво затрымалі, так нясло. Жылічы.

**Ліпатэ'нт** м. Упаўнаважаная асоба. Мой дзед ліпатэнтам у пана Клімашэўскаго быў, меў давер кіраваць ўсімі лясамі. Скідаль.

**Ліпе'ць** незак. Ледзьве трымацца, існаваць. Калхоз тады ледво ліпэў, якія там трудадні былі. Гарны. Стары наш ліпіць неяк, яшчэ дэбая каля хаты. Хамякі.

**Лісі'чка** ж. Лісічка. У мінулым року грыбоў было мало, адны лісічкі. Казіміроўка.

**Лісі'чык** м. Лісічка. Лісічыкі таксамо можно сушыць, як і кожны грыб. Ліхачы.

**Лі'ска** ж. Лісічка. Ліскі самыя здаровыя грыбы, іх чэрві ні ядуць. Узбераж.

**Ліст** м. Ліст, пісьмо. Напісаў Хведару ліст, ні ведаю, як ён там жыве. Струбка.

**Літасці'вы** прым. Літасціvы, спачувальны, спагадлівы. Толькі Бог літасціvы можа дараваць нам нашы грахі. Лабна — Агароднікі.

**Лі'фік** м. Бюстгальтар, ліфчык. Раней дзёўкі ніякіх ліфікаў ні ведалі, а ціпер кожна ў ліфіку ходзіць. Галаўнічы.

**Ліхама'нка** ж. Узбуджаны, трывожны стан. Цібе куды гэта ліхаманка нясе? Круглікі. Нека ліхаманка на чалавека напала, бегая, як шалёны. Васілевічы.

**Ліхі'** прым. Дрэнны, паганы, нядобры, злы. Гэты чалавек ліхі, ён як у хаці, так і за хатай нічого добраго нікому ні зрабіў. Ферма. Ліхі бок — адваротны бок адзення, матэрыялу. Глянь, на ліхі бок надзеў сарочку. Балічы. Ліхое воко — нядобры погляд, які, па павер'ю, не прыносіць дабра. О, у гэтаго чалавека ліхое воко, ён на жарабя гляня — так тое і ссохня. Загараны. Марыся як глянула сваім ліхім вокам на кросна, так я ніяк ні магла ткаць: сяду за кросна і сплю. Гэтак мэнчыласа тры дні, пакуль баба Ганулля ні сказала,

каб вечарам тры разы голая пралезла прас кросна. І, ведаеця, памагло. Селюкі.

**Лі'хо** н. Няшчасце, зло, бяда, гора. А цібе якое ліхо сюды прыперло? Малахавічы.

**Ліхта'р** м. 1. Ліхтар. Як кароткі дзень зімою, та тато часто і з ліхтаром малаціў. Занявічы. 2. Падсвечнік. У нашай цэркві ліхтар быў вісячы, блішчачы такі, з медзі. Табольская Будка. У нас у хаці і ціпер есць ліхтар, баба ў ім свечкі ставіць. Яскевічы.

**Лі'чко** н. Тварык. Дала яму бела лічко і карыя вочы /нар. песня/. Мількаўшчына.

**Лі'шка** ж. Няцотны лік, няпарная колькасць прадметаў у гульні. «Лішка,»- скажаш, а зноў там цот, пара — і праіграў гарэхі, аддавай. Клінчаны.

**Ло'гавіско** н. Логава. Як гоўца пасьвілі, та пат карчом знайші воўча логавіско з ваўчанятамі. Караневічы.

**Ло'жачка** ж. Дыхавіца. Нечаму баліць пад ложачкай, як дыхнеш, та аш коля. Прыгодзічы.

**Ло'жачнік** м. Прыстасаванне для сушкі ложак. Нат палічкай тут быў прыбіты ложачнік, у яго ложкі ўтыкалі. Караневічы.

**Ло'жка** ж. Лыжка. Пасля вайны лошкі самы рабілі, вылівалі з люменю, цынку. Капцёўка.

**Ло'жко** н. Ложак. Да вайны, помню, былі дзеравяныя ложкі, рыссоўваліса, па чалавек пяць можно было спаць. Баброўнікі.

**Ло'каць** м. Старая мера даўжыні, роўная прыблізна 0,5 метра. Купіла пяць локцяў паркалю дзецям на сукеначкі. Пракопавічы.

**Лом** м. Завал, металічны прут для запірання дзвярэй. Як прыехалі з бежанства, та дзверы бралі на лом, кап коней ні пакралі. Стрэльчыкі.

**Ло'нскі** прым. Мінулагодні. Яны ашчэ лонскі хлеб ядуць, жыто маюць старое. Батароўка.

**Лот** м. Старая мера вагі, роўная прыблізна 12 г. У лоці тры залатніка. Клачкі.

**Ло'таць** ж. Балотная расліна з жоўтымі кветкамі. Як лотаць зацвіце, та аж у гачах трамціць. Свіслач. Лотаць каровы ні ядуць, ад яго малако прападая. Карозічы.

**Ло'ўка** прысл. Спрытна, умела. Але і лоўка абкруціла яго цыганка, ён нават і ні здагадаўсо. Лойкі.

**Лоц** м. Костка пры гульні ў бабкі або шашкі, якая ўпала на землю выпуклым бокам. За лоц больш выігрывалі грошай, чым за жох. Каўпакі.

**Ло'цман** м. Чалавек, які адказвае за стан усіх плытоў. Вунь лоцман паехаў на чайцы, плытэ будуць ісці. Дарашэвічы.

**Луб** м. Накрыўка ў рыбацкім чоўне. Нацягні луб, бо дошч начыная крапацець. Пагараны.

**Лу'бін** м. Лубін. Лубін натто цяжко рваць, чысто рукі і ногі папораш. Бакуны.

**Лу'бянка** ж. Каробачка для ягад, зробленая з кары. Поўную лубянку цётка вішняў дала, ні скупая. Клачкі.

**Луг** м. Раствор для мыцця бялізны, прыгатаваны з попелу, залітага варам; шчолач. Самы моцны гэта луг з лазоваго попелу. Дарашэвічы. Лугу трэбо наварыць, хусця много назбіраласо. Караневічы.

**Лугава'ць** незак. Мыць бялізну пры дапамозе лугу. Некалі плаце лугавалі: зальюць лугам, пастаіць, а тады мыюць. Струбка.

**Лудзі'ць** незак. Пакрываць паверхню палудай. Да нас прыязджалі цыганэ, стаялі каля рэчкі, катлэ лудзілі. Трычы.

**Лука'** ж. Дугападобны паварот ракі; мыс, які абгінаецца ракой. У луцэ альшына расла, вербалоз, у тую вайну коні хавалі, каб у абоз ні ўзялі. Кунцаўшчына.

**Лу'начка** ж. Маленькі загончык зямлі, градка. Луначку цыбулі пасадзіў, будзя на зіму. Зарубічы.

**Лу'нка** ж. Круглы посуд з лубу для вымярэння збожжа. Лунка — гэта пудовая мера будзя. Бакуны.

**Лупа'ты** прым. Пра чалавека з тоўстымі губамі. Ля, некі хлопец лупаты ў клуб прышоў. Брузгі.

**Лу'паць** незак. Лыпаць. Стаў, узіраецца і тулько лупая вачыма. Пракопавічы.

**Лупа'ч** м. Чалавек з тоўстымі губамі.

У нас аднаго лупачом празывалі, бо меў велькія лупы. Каўбасіна.

**Лупі'ць** незак. 1. Знімаць, абдзіраць. Аблупі тату яйцэ, хай з'есць. Рудавіцы. 2. Моцна біць, лупцаваць. Я яго і ўгарваю, і луплю — нічога ні памагая. Рагачы.

**Лупцава'ць** незак. Лупцаваць. Міне тато ні лупцаваў, а Геніку часто даваў лупцоўку. Стральцы.

**Лу'пы** мн. Губы /груб./. Ты чо гэта на міне лупы надуў, глядзіш, як на воўка. Брузгі.

**Лупяня'тка** мн. Губкі /дзіцяч., ласкальн./. А мае ж вы лупянятка, а чаго ж вы надуліса, ці ж можно на маму злавацца? Свіслач.

**Лу'ста** ж. Луста, адрэзаны вялікі плоскі кавалак. Пастуху на палудзень давалі лусту хлеба і бутэльку малака, рэтко хто скварку. Луцкаўляны.

**Лучко'** н. Дугападобная ручка ў маленькім сіце. На, патрымай за лучко сітко, кісель працэдзіць трэбо. Кунцаўшчына.

**Лучо'к** м. Ручка на кассі /касільні/. Лучок трэбо прымацаваць пат свой рост, тады і касіць спраўней. Ферма. Найлепшы лучок з вербалозу. Ён як высахня, та такі лёхкі, моцны. Гарны.

**Лыга'ць** незак. 1. Ілгаць, хлусіць. Змалку прывык лыгаць і ціпер лыжэ. Бычкі. 2. Глытаць. Кап меў час, та яшчэ што лыгнуў бы, а то коні стаяць на гародзі. Лікоўка.

**Лыгу'н** м. Ілгун, хлус. Ой, ні магу цярпець, як гэты лыгун выступая. Жылічы.

**Лы'жбы** мн., ж. 1. Лыжы. Ціпер на лыжбах ездзяць і старыя, і малыя. Пышкі. 2. Самаробныя драўляныя канькі, падбітыя знізу дротам. Як дзецьмі былі, та самы рабілі лыжбы, па лёдзі ездзілі. Копанікі.

**Лы'ко** м. Расколатая надвое лазіна з выструганым стрыжнем; палоска кары ліпы, вяза. Найлепшыя лыкі гэта с правялянай лазы, як яна дні два-тры паляжыць. Круглікі. Пасталы ў нас плялі з ліпавых лыкаў, а лазовымі шылі сявенкі, карабке. Караневічы.

**Лы'мя** н. Вымя. Натта ж у каровы лымя цвёрдае, рукі адбярэ, пакуль выдаіш. Каўпакі.

**Лы'нда** ж. Гатунак бульбы белага колеру з ружовымі плямкамі, якую разводзілі ў Заходняй Беларусі. У нас лында добро радзіла, але потым звялаcа. Брузгі.

**Лы'ндаць** незак. Бадзяцца, сноўдацца, швэндацца, хадзіць без справы. Як пойдзя зраня, та лындая цэлы дзень, толькі вэчарам прыходзіць. Рагачы.

**Лы'нды** мн. Доўгія ногі /груб./. Ты дзе гэта свае лынды садзіш, тут і так цесно. Балічы. Біць лынды — гультаяваць, бяздзейнічаць. Цэлымі днямі лынды б'е, а работа стаіць. Лаша.

**Лы'тка** ж. Лытка. Наша Агата ніяк ні магла ботаў сабе падабраць, натта ж лыткі тоўстыя мела, халявы разрэзвалі. Кунцаўшчына.

**Льсні'ць** незак. Блішчаць, адсвечваць. Як конь добро дагледжаны, та скура на ім аж льсніць, такая глаткая. Квасоўка.

**Лэ'бусь** м. Маленькі хлопчык /жарт./. На работу трэбо ісці, лэбуся сваго німа с кім пакінуць, хоць ты плач. Сухая Даліна.

**Лэ'мнуць** зак. Знікнуць, прапасці. Недзе як лэмне, та цэлы дзень ні відаць. Аульс.

**Лэ'нда** ж. Гультаяватая жанчына, якая многа без толку гаворыць. Казалі: ні бяры яе, а ён узяў лэнду, ціпер хай сам за ею бегая. Лаша.

**Лэ'нтух** м. Вялікі жывот /груб./. Ён з-за сваго лэнтуха зямлі ні бачыць, ледво цёгае. Канчатка.

**Лэ'па** ж. Гатунак бульбы белага колеру з сіняватымі ямачкамі сярэдняга памеру. У нас была картофля лэпа, урадліва натта, много пат кальвам. Сапоцкін.

**Лэ'хаць** незак. Прагна і многа есці, жэрці. Удачны паршучок гэты рок, што ні дасі, лэхае, аж вушы трасуцца. Верцялішкі.

**Лэ'хтаць** незак. Піць, жлукціць /неадабр./. Ён добро лэхча гарэлку, німа таго дня, каб мокры ні быў. Аульс.

**Любі'вае** прым. Худое, поснае, без тлушчу /пра мяса /. Аніяк ні магу сытаго мяса есці, толькі любівае магу. Балічы.

**Лю'бчык** м. Чараўнік, шматгадовая

расліна сямейства архідных. Кажуць, цешча любчыку яму дала, та ён і ўзяў, а так бы сядзела ў дзеўках. Забагонікі.

**Лю'дзі** мн. Людзі, у значэнні: народ, люд. Гэй да, людзі едуць па ляшчыну, а я еду па дзяўчыну /нар. песня/. Ліхачы. Што ты робіш, хлопец, ад людзей будзя брытко, на смех падымуь. Літвінкі.

**Людке'** мн. Людзі /ласк./. Во, людке мае', наслаў Бог на нас кару такую. Занявічы.

**Лю'дскі** прым. Добры, харошы; такі, як трэба. Хлопец лю'тскі, за такім будзеш жыць і Бога хваліць. Капцёўка. Лю'тская пагода стаіць. Лакно.

**Лю'дско** прысл. Добро; так, як трэба; адпаведна патрабаванням. Лютско зрубілі майстрэ хату, будзя век стаяць. Дзекалавічы.

**Людцэ'** мн. Людзі /ласк./. Людцэ мае, што тут казаць, каб ні ваша падмога, та мы, дальбох прапалі б. Лаша.

**Лю'лі** — ў значэнні: спаць /дзіцяч.слова/. Можа, люлі пойдзяш, сыночку? Свіслач. Люлі, люлі, дзіця, спаць, адна матка, бацькоў пяць /прыказка/. Адэльск.

**Лю'лі-лю'лі** выкл. Ужываецца пры закалыхванні дзіцяці; прыпеў у песнях-калыханках. Люлі-люлі-люлі, усе дзетачкі паснулі, а наш Пецік ашчэ не, а ён зарас дый засне /з нар. песні/. Кунцаўшчына.

**Люме'нь** м. Алюміній. Гэта ж люмень, ні медзь, хіба ты ні пазнаеш? Свіслач.

**Лютава'ць** незак. Лютаваць, пая'ць. Лютаваць катлы ні так просто, трэбо мець практыку. Кунцаўшчына.

**Лютае'ж** м. Той, хто дрэнна есць, не мае апетыту, худы. Ён у міне лютаеж, як стаіш з лошкай каля роту, та яшчэ з'есць што. Віцькі. Свінчо ні ўдалосо — лютаеж, яду яму хоць на вушы вешай. Дарашэвічы.

**Лютае'жны** прым. Пра таго, хто дрэнна есць; схуднелы, змарнелы. Купіў якуюсьці лютаежную карову, адкуль у яе малако будзя. Малая Альшанка.

**Лю'фцік,** люхцік м. Фортка. Адчыні люфцік, хай па'ра ззыдзя. Лікоўка.

**Люцы'пар** м. Чорт, д'ябал. У Ру'цявым балоці чэрці водзяцца, а над імі самы старшы Люцыпар. Селюкі.

**Лю'шка** ж. Чыгунная круглая накрыўка, якой закрываюць праход у коміне. Прычыні люшку, каб цяпло с печы ні выходзіло. Кавалічы.

**Лю'шні** мн., ж. 1. Дэталі ў возе /іх дзьве/, якія, апіраючыся на канцы задняй восі, надаюць устойлівасць драбінам. Без люшняў снапоў у драбы ні наложыш, бо ручкі ні вытрымаюць. Рагачы. 2. Прылада ў выглядзе дзьвух скрыжаваных жардзін, прымацаваных да задняй восі, якая прымяняецца пры перавозцы доўгіх бярвенняў. Як вязеш доўгу штуку дзерава, та без люшняў ні абысціся, бо зад воза будзя круціцца. Бакуны.

**Ля** прысл. Вунь, глядзі, паглядзі. Ля, як камбайн глатко зжаў, усёроўна як патстрыг. Гібулічы.

**Ляво'ш** м. Далёкія ад сядзібы палеткі ворнай зямлі, на якія цяжка было даставіць угнаенне. На нашым лявошы нічого ні расло, былі рокі такія, што нават ні верняш насеня. Эйсманты.

**Лягаві'ско** н. Логава. Мы тады знайшлі ў асінніку лягавіско, але ваўчанят у ім ні было. Зарубічы.

**Ляга'ры** мн. Доўгія лагі, якія кладуць адны́мі канцамі ў ваду пад плыт, а другімі на бераг; па лягарах коньмі бярвенне выцягваюць на бераг. Па мокрых лягарах лепей куляць дзераво. Хамякі.

**Ляга'ць** незак. Лажыцца. Трэбо ўжэ лягаць спаць, позно, ні ў каго агню ні відаць. Батароўка.

**Лягумі'ны** мн. Прысмакі, ласункі. Распешчана дзіця, на адных лягумінах жыве. Кунцаўшчына.

**Ля'да** ж. 1. Прылада для падымання бярвенняў у выглядзе трох змацаваных апораў, калаўрота і жалезнага тросіка. Ляда, браце, гэта добра штука, любую калоду можно палажыць, нават аднаму. Сабаляны. 2. Скрынка ў сячкарні, па якой падаецца салома для рэзкі. Як сячкарня на маторы, та тулькі паспявай лажыць салому ў ляду, так рэжа. Табала. 3. Віка, кармавая расліна. Ляды пасеяў мо з паўгактара, будзе што каровам да сечі прырэзваць. Табала.

**Лядава'ць** незак. Падымаць, класці

бярвенні на воз пры дапамозе ляды. Мы з цесцям удвох лядавалі дзерава, удвох ашчэ спраўней лядаваць. Рыбніца.

**Лядаўні'ца** ж. Металічная дэталь сячкарні, праз якую салома непасрэдна падаецца пад разакі. Як много наложыш, та салома аш трашчыць у лядаўніцы, так ідзе. Адэльск.

**Ляда'чы** прым. Шкодны, злосны. Ой, і лядача баба, як з ей толькі мужык жыве. Лойкі.

**Ляда'шчы** прым. Шкодны, злосны. Ну, і лядашчы чалавек, грызецца з усімі, як сабака. Гарачкі.

**Ля'до** м. Скрынка ў сячкарні, па якой падаецца салома для рэзкі. Мы с татам заўсёды рэзалі сечку, ён круціў, а я падаваў у лядо. Канчатка.

**Ляжа'ць** незак. Ляжаць. Як трэбо будзе, та грошы ляжаць у шуфлядзі, возьмяш сабе. Каленікі. Ляжаць лежмо, ляжаць логма — доўга ляжаць, не ўстаючы. О, ужэ гультай, як ляжа, та лежмо ляжыць, хопь ты воду пад яго падлівай. Карозічы. Ён з вясны як лёг, та логма і ляжыць, ні падымаецца, і дахтарэ ні памагаюць. Кульбакі.

**Ля'жка** ж. 1. Сцягно. Фэйчарыца як дала ўкол у саму ляшку, та думаў, што ні вытрываю, кончуса. Скідаль. 2. Бядровая частка тушы, кумпяк. Ён і накарміў нас, і яшчэ на дарогу цэлу ляшку мяса даў. Дарашэвічы.

**Лязава'ць** незак. 1. Змешваць едкую вапну з вадой, каб атрымаць будаўнічую вапну /гасіць вапну/. Чысто вапна рукі параз'ядала, пакуль лязаваў. Балічы. 2. Мясіць, пераціраць гліну. Гліну трэбо добро лязаваць, бо як апальваць, та цэгла пэнкаць будзя. Гліняны.

**Лязне'й** прысл. Вальней, свабадней. Пасуньцеса наперад, можа, трошкі лязней будзе ў аўтобусі. Рацічы.

**Лякаце'ць** незак. Дрыжаць, трасціся. Прайшоў той час, што перад кожным начальнікам трэбо было лякацець. Вялікая Альшанка.

**Ля'лька** д. Лялька. Раней дзеці сабе лялькі з ганучак рабілі, а ціпер якіх хочаш лялёк купіш. Малая Капліца.

**Ля'ля** ж. 1. Лялька. Паглядзі, якую лялю табе тато купіў, с сінімі вочкамі. Жорнаўка. 2. Малое дзіця /дзіцяч. слова/. Вун, якія лялі ідуць з цёцяй, можа, да цібе ў госці? Віцькі. 3. Перан.: распешчаная, не прывучаная да працы дзяўчына. Узяў такую лялю, што ціпер самому трэбо за яе гаршке мыць. Верцялішкі.

**Ляляса'ць** незак. Голасна крычаць, енчыць. Як пачалі лялясаць, та я с хаты ледво ўцёк, там ні разбярэш, хто праў. Кавалічы.

**Ля'мант** м. Лямант. З-за вашаго ляманту цялявізара ні чуваць. Гібулічы.

**Лямантава'ць** незак. Лямантаваць. Наша Марыська як убачыла цыгана, так і пачала лямантаваць на ўсю хату, ледво ўнялі. Свіслач.

**Ляме'х** м. Лямеш, частка плуга. Лямех згараўсо, трэбо да каваля нясці, каб нагастрыў. Баброўнікі.

**Ля'мец** м. Лямец. Лямец працёрсо ў хамуце, конь зусім зашмуляўсо. Балічы.

**Ляду'х** м. Вялікі жывот. Як стаў начальнікам, так і ляндух вырас, а то і ганавіцы ні трымаліса. Батароўка.

**Ляндэ'рак** м. 1. Маленькая каструля з ручкай. Вазьмі ляндэрак ды звары кашы дзіцяці. Васілевічы. 2. Чыгунны посуд у выглядзе міскі на трох нізкіх ножках. У ляндэрку толькі скварке скварылі, больш нічого. Індура.

**Ля'нішча** н. Поле, на якім рос лён. На лянішча трэбо больш гною лажыць, бо лён усё высмактаў, ніщто расці ні будзя. Галаўнічы.

**Лянту'х** м. Вялікі жывот. Сама лянтух наела, а парасят замарыла, і ніхто купляць ні хацеў. Скідаль.

**Ля'па** ж. Рот /груб./, пашча, зяпа. Ты чо гэта ляпу раззявіў, глядзі: варона можа уляцець. Круглікі.

**Ля'паць** незак. 1. Ударадь з ляскам, шумам. Я яму так ляпнуў, то ён дзісятаму закажа, як да людзей чапляцца. Рыдзялі. 2. Перан.: гаварыць неабдумана, глупства. Ён часамі што як ляпня, та хоць вушы затыкай. Капцёўка.

**Ляпе'й** прысл. Лепш, лепей. Ляпей у зямле ляжаці, чым з немцам балявацi / прымаўка/. Капцёўка.

**Ляпня'к** м. Клейкі, няўдала спечаны хлеб. Хлеб як ляпняк, але, як кажуць, хлеб ні нівеста, які ўдаўсо, такі і з'есца. Горніца.

**Ля'рва** ж. Здаровая гультаяватая жанчына, якая жыве за кошт працы іншых. Гэтай лярве адно ў галаве: кап смашно паесці і добро пагуляць. Свіслач.

**Ля'ска** ж. Папярэчныя планкі ў драбінах ад воза. У драбінах лясак ні хватая, павыпадвалі, трэбо новыя ўстаўляць. Кругляны.

**Ляската'ць** незак. Ляскатаць. Во як самалёт ляскоча, мусі, падымацца будзе. Караліно.

**Ляскаце'ць** незак. Стукацець, бразгацець. Што ты ўсё ляскаціш, ужэ ў галаве ат тваго лёскату звініць. Грыўкі.

**Ля'скаць** незак. Ляскаць, стукаць. Нехто брамкай лясннуў, мо хто ідзе? Каўпакі. Ляскаць языком — гаварыць без толку. Прывыкла языком ляскаць і ляскаяш, пакуль хто ні асадзіць. Казіміроўка.

**Ля'снуць** незак. 1. Стукнуць. Але ж і ляснуў пярун дзесьці, аш шыбы зазвінелі. Бычкі. 2. Перан.: прапасці марна; згінуць. Але і бульбы ляснуло ў полі гэтым марозам. Жытомля.

**Лята'рня** ж. 1. Ліхтар. Некалі ні адзін гаспадар без лятарні ў хлеў, як сцямнея, ні ішоў, гэта ціпер усюды аляктрычаство. Цвіклічы. 2. Перан.: вялікая галава. Ну, і ласая кабыла, так і садзіць сваю лятарню, каб гламянуць што. Баранава.

**Лято'к** м. Ляток. Як велька спёка, та я ляткі ў вуляях зусім адчыняю. Сыпаная Гара.

**Ляце'ць** незак. 1. Ляцець, рухацца ў паветры. Рой як ляціць, та ўжэ здалёк чуваць, аж звініць паветра. Табольская Будка. 2. Перан.: хутка ламацца, ірвацца, расходавацца. Якія яму туфлі ні купі, усёроўна ляцяць, хібо каб якія жалезныя купіў. Рагачы. У каго дочкі, та грошы ляцяць, як у прорву, ні накупляяшса ім. Баранава. Ляцець куралём — вельмі хутка ўцякаць, ляцець без аглядкі. Міхась як узяў кій у рукі, та ўсе куралём с хаты ляцелі. Рагачы. Ляцець стромгалоў — тое, што і ляцець куралём. Мы як наперлі іх, та яны стромгалоў ляцелі аж да самай рэчкі. Сухая Даліна.

# М

**Мабы'ць** пабочн.слова. Напэўна, мусіць, відаць. Мабыць, у гэтым року пачнем строіць нову хату. Навасёкі.

**Ма'гель** м. Прымітыўны прас; кустарнае прадпрыемства для прасавання сукна. На магель ў Скідаль вазілі, там маглявалі сукно. Загорцы.

**Маге'рка** ж. Магерка, круглая, высокая мужчынская шапка з лямцу, якую насілі сяляне. Кажуць, што гэтыя магеркі насілі і ў нас, але я ўжэ ні помню. Селюкі.

**Маглява'ць** незак. Прасаваць, разгладжваць. Жаляскаў ні было, маглявалі бялізну валкам і качалкам; качаяш, пакуль глаткай ні станя. Клачкі. Вазьмі жаляско дый маглюй плаце, заўтро свято велька. Галаўнічы.

**Магля'нін** м. Жыхар вёскі Магіляны. Ля, маглянін прышоў. Чаго яго нічыста прыперла? Круглікі. Маглянін да Надзі ў прымаке прыстаў. Баброўнікі.

**Магляўні'ца** ж. Драўлянае прыстасаванне для разгладжвання, качання бялізны; качалкі. У нашых і ціпер магляўніца есць, плаце маглююць. Клачкі.

**Магра'нт** м. Эмігрант. Я ведаю, што ён магрант, а як называўсо — ні помню. Зарубічы.

**Мадэ'ля** ж. Гатунак бульбы /устар./. Мадэля — бульба такая была, кругленькая, яе рано трэбо было садзіць. Верцялішкі. Бульбу мадэлю разводзілі, добро разварваласа, рассыпчаста была. Цыдовічы.

**Мадэ'рыя** ж. У значэнні: невялікая, нескладаная справа. Ну і што, велька

тут мадэрыя, я і сам магу гэта зрабіць. Свіслач.

**Маё'хас** м. Гулянне, выпіўка /жарт./. А гэта ў вас што тут за маёхас? Пракопавічы.

**Мазгаўня'** ж. Галава /груб./. Павярні сваю мазгаўню, ні заступай лямпы. Пагараны.

**Мазге'** мн. Мазгі, розум. Адыдзі, а то як дам — мазге выляцяць. Пракопавічы. Ні хачу я мазге над гэтым сушыць. Белева.

**Мазу'рка** ж. 1. Мазурка, парны танец. Мазурку ў нас скакалі, але ні так часто. Кунцаўшчына. 2. Здобная булка /устар./. Валаконнікам давалі і мазуркі, ні толькі яйка, як добро спявалі. Талочкі.

**Майда'н** м. Вымашчаная каменнем яма для гною ў маёнтках. У майдан заяжджалі параконнымі вазамі гной браць. Свіслач.

**Майра'нак** м. Зелле, якое ўжываецца як прыправа да мяса і сала. Майранак есць, то ўжэ ні трэбо ні перцу, ні лаўроваго ліста. Казловічы.

**Ма'йскі** хру'шч м. Майскі жук. Ціпер майскіх хрушчоў ні відаць, а некалі як страсянеш гарабіну, та як гарох сыплюцца, падаюць на землю. Свіслач.

**Майстравы'** прым. Умелы, здатны да работы чалавек; майстар на ўсе рукі. Хлопяц майстравы, усё можа сам зрабіць. Каўпакі.

**Ма'йткі** мн. Штаны, нагавіцы. Майткі хлопяц зусім падраў, ні настарчысса яму купляць. Квасоўка. Зашпілі шлейкі, а то майткі згубіш. Карозічы.

**Макаве'й** м. Рэлігійнае свята, якое святкавалі 1 жніўня. Ад Макавея зачынаўсо спасаўскі пост, усе посцілі. Клачкі.

**Макаве'не** н. Макавіны, сцеблі маку. Некалі, як дзіця кепско спіць, напараць макавеня, напояць, і спіць яно, ні разбудзіш. Зарубічы.

**Макаро'ны** мн. Макароны. Маці рэтко макароны варыла, тулькі па святах. Рудавіцы

**Ма'каўка** ж. 1. Макаўка, плод маку — каробачка, дзе знаходзіцца насенне. Макаўку страсяні — так мак і пасыпляцца. Рагачы. 2. Верхняя частка галавы. Абамберыў голаў, тулькі на самай макаўцы стырчыць трошкі валасоў. Лікоўка. 3. Аснова /корань/ конскага хваста, з якога растуць валасы. Хваста ў кабылы німа, адна макаўка асталаса. Каўпакі.

**Ма'каўнікі** мн. Піражкі з пшанічнай мукі з макам. Макаўнікі — сама лепша яда была на куцю. Калбасіна.

**Макацё'р** м. Макацёр, макатра, гліняная пасудзіна, у якой труць мак. Да вайны макацёры прадавалі ў Кузніцы, туды ездзілі купляць. Бакуны. Макацёр разбіўсо, німа ў чым маку змалоць. Лойкі.

**Макацё'рка** ж. Макацёр, макатра. Як маці малола мак, та я макацёрку трымаў, каб ні круціласа. Каўпакі.

**Макацё'рт** м. Макацёр, макатра. Патрымай макацёрт, трэбо маку змалоць. Бандары.

**Макі'тра** ж. Макацёр, макатра. Як свая макітра, та і добро, калі захацеў, тады маку і змалоў. Круглік.

**Макля'к** м. Бязвольны, бесхарактарны чалавек. Макляк некі ні мужчына, ні ён, а жонка ім кіруя, што хоча робіць. Кунцаўшчына.

**Мако'тра** ж. Макацёр, макатра. На макотру ў Рыдзялях кажуць: верцяха. Эйсманты. Макотру ойцец купіў, файно будзя мак малоць. Эйсманты.

**Мако'трэ** ж. Макацёр, макатра. Макотрэ куплялі найбольш у Гродні. Азёры.

**Макры'ца** ж. 1. Аднагадовае пустазелле з паўзучым сцяблом. Макрыца ўсюды расце, ад яе ні ўратуяшса і ў гародзі. Свіслач. 2. Макрыца, станожка, невялікая жывёліна, якая жыве ў сырых месцах. Камень як падымяш, так макрыцы і заходзяць. Карозічы.

**Макуха'** ж. Макуха, рэшткі ільнянога або сланечнікавага насення пасля выціскання алею. Макуха такімі кругамі была, куплялі свіням. Гродна.

**Малаве'ля** прысл. Нямнога, няшмат, трохі, крыху. Кап хоць малавеля што стараўсо рабіць, а то анічагусянькі ні робіць. Балічы.

**Малада'я** ж. Маладая, нявеста. Забляялі

козы — прывялі маладую ў слёзы / прыказка/. Брузгі.

**Малатабо'ец** м. Малатабоец, рабочы ў кузні, які працуе з вялікі молатам. Антось у кузні малатабойцам рабіў, але які з яго малатабояц. Зарубічы.

**Малахо'льны** прым. Недаразвіты. Малахольны чалавек, што аб ім казаць, нечаго ні дастае. Свіслач.

**Малаці'льнік** м. Малацьбіт. Малацільнікі лупяць цапамі, тулько лёскат ідзе. Балічы.

**Малача'й** м. 1. Малачай, адуванчык, дзьмухавец. Малачай як зацвіце, та аж у гачах трамкаціць. 2. Грыб з шырокай белай шапачкай. Малачай — самы смашны грыб, хрупкі такі. Зарубічы.

**Мале'начкі** прым. Маленькі. Маленачка рэчка цячэ, а як называяцца, ні скажу, ні ведаю. Ліхачы. Анелячка, Анелячка, плача дзіця маленачка /з нар. песні/. Свіслач.

**Малё'гавацца** незак. Настойліва прасіць, выпрошваць. Як пачне малёгавацца, ну як тут яму аткажаш, ні дасі. Карозічы.

**Малі'наўка** ж. Малінаўка, сорт летняй яблыні. Малінаўкі — такія нівелькія, чырвоныя яблыкі, у сярэдзіні ружовыя, смашныя. Солы.

**Маліставa'не** н. У значэнні: уніжальнае выпрошванне. Іля гэтаго маліставаня было, як тут яму аткажаш! Сапоцкін.

**Малістава'ць** незак. Выпрошваць, настойліва вымольваць. Маліставаў, маліставаў, ледво вы'маліставаў у гэтаго скнэры. Сухая Даліна.

**Ма'ло** прысл. Чуць, ледзь. Мало ні парваліса ат смеху, так рагаталі з яго. Галынка.

**Мало'дзьво** н. Малодзіва, вадкасць падобная на малако, якая выдзяляецца ў каровы да ацёлу і пасля ацёлу. Маці напячэ малодзьва ў місцы, як яешня, яно густое, смашнае. Кунцаўшчына.

**Мало'дка** ж. Малодка, маладзіца. Дзякуй табе, малотка, кап табе Бог даў здароўе, як ты мне памагла. Аульс.

**Мало'ць** незак. 1. Малоць, ператвараць зерне ў муку. Тато малоць вазіў да Гаркоўскаго, мяхко малоў. Свіслач. 2. Перан.: балбатаць, балабаніць, гаварыць абы-што, малоць языком. Прывык малоць языком і меляш бес толку. Віцькі.

**Мало'чна** даро'га. Млечны шлях. Паглядзі, як малочна дарога працягнулаcа, бела якая. Забагонікі.

**Мальдава'ць** незак. Даносіць, рабіць данос, дакладваць. Сабака быў, так і стараўсо мальдаваць паліцыі, гэта такі ўжэ чалавек. Рацічы.

**Мальё'н** м. Нейкае паўзучае зелле, якое расце ў агародах. Зялён-мальён ды на падворку паслаўсо /з нар.песні/. Верцялішкі.

**Малю'пасенькі** прым. Малюсенькі, вельмі маленькі. Такі малюпасенькі, што і гокам ні згледзіш. Лабна-Агароднікі.

**Ма'маві** ж. Мама, маці. Мамаві наша нешто занемаглі, зусім аслабелі. Рацічы.

**Ма'мліць** незак. Невыразна гаварыць, мямліць. Нешто мамліць, нічого ні разбярэш, чаго ён хоча. Рагачы.

**Ма'мля** ж., м. Той, хто невыразна гаворыць. Мамля, ні хочацца з ім сядзець, ні толькі што гаварыць. Сухая Даліна.

**Ма'мо,** ма'му ж. Мама /ужываецца пры звароце/. Мамо, ідзеця сюды, нешто пакажу. Жукевічы.

**Мана'рка** ж. Куртка, верхняя мужчынская кароткая вопратка. Манарку сабе файну пашыў, будзя ў чым да людзей выйсці. Галаўнічы.

**Мана'ткі** мн. Рэчы, нажыткі, скарб. Забірай манаткі і цякай да сваёй хаткі / прыказка/. Рудавіца.

**Манджэ'во** н. Лістоўніца, хвойнае дрэва з мяккай, ападаючай на зіму ігліцай. Да нас адзін пан манджэво с Францыі прывёз, с той пары і расце ў лесі. Зарубічы.

**Мандрэ'й** прысл. Разумней, талкавей. Гэты добро сказаў, а той ашчэ мандрэй. Гушчыцы.

**Мандуля'цыя** ж. Завіўка. Здурэла, ужэ і яна зрабіла мандуляцыю, глядзець німа на што. Пагараны.

**Мане'ж** м. Сельскагаспадарчая прылада з перадатачным механізмам, якая прыводзіць у рух малатарню або сячкарню; конны прывод. Ля, на гародзі манеж, некалі велькія грошы

каштаваў, а ціпер нікому ні патрэбны. Свіслач.

**Мане'ра** ж. Манера, спосаб дзеяння, прыём, прывычка. Што гэта ў цібе за манера пляваць, дзе трэбо ці ні трэбо, усе плюе. Кунцаўшчына.

**Мане'рка** ж. Біклага. У нас манерка ашчэ с той вайны, малако добро ў поле браць. Каленікі.

**Манё'бры** мн. Манеўры. Відаць, манёбры пачаліса, войска наттаж много. Гінавічы.

**Манжэ'ты** мн. Манжэт. Манжеты, абшыўка рукава кашулі, блузкі. Манжэты былі размаітыя, вышываныя, рознаго колеру. Эйсманты.

**Манігра'нт** м. Эмігрант. Дохтар у Індоры быў манігрант, фаміліе забыў, дачка мо помніць. Навасёлкі.

**Мані'с** м. Гатунак тытуню, які цвіце чырвоным цветам. Некалі маніс сеялі, як закурыш, на ўсю хату пах ідзе. Лікоўка.

**Мані'ць** незак. Угаворваць. Ты яе мані, кап хаця ні здумала ісці ў Іванаўцы праз лес. Радзевічы.

**Мані'шка** ж. Манішка, нагруднік з белай тканіны, прышыты да мужчынскай кашулі. Ён толькі адзін у вёсцы манішку насіў, франтам хадзіў. Клачкі.

**Манке'ты** мн. Манкет м. Манжеты, абшыўка рукава кашулі. Манкетаў шляхта ні вышывала, вышываныя былі толькі ў мужыкоў. Занявічы.

**Маню'ка** м. Хлус, абманшчык. У нас быў чалавек, які абмануў аш трох маню'каў. Дарашэвічы.

**Ма'ра** ж. Прывід, здань. Нека мара лазіць па балоці, стаіць бела. Сапоцкін. Гэта што там за мара паўзе? Рацічы.

**Марасі'ць** незак. Імжыць, імжэць. Пагоды німа, дождж марасіць ужэ другія суткі. Баброўнікі.

**Ма'рац** м. Сакавік-месяц. Радаваўсо старац, што пражыў марац, а як прыйшоў май — ды паняслі ў гай /прыказка/. Пагараны.

**Мардава'ць** незак. Мардаваць, знясільваць цяжкай працай. Ні трэбо мардаваць так хлопцаў, ні ганяй іх. Квасоўка.

**Маркаве'не** н. Маркоўнік, сцёблы моркві. Маркавене чысто на марозі памерзло, ні прыкрылі. Кунцаўшчына.

**Марка'ч** м. Маркач, баран-вытворнік. За весну маркач чысто па гоўцах зб'еўца, ледво ногі валачэ. Лойкі. Маркач маркіча — гавечак кліча /прыказка/. Рагачы.

**Маркіта'ць** незак. Пра перыяд цечкі ў авец. Гаўца маркітаць стала, усе бегая, бляе. Баранавічы.

**Маркіту'н** м. Маркач, баран-вытворнік. Маркітун нігды да хаты ні прыдзя, усе бегая за гоўцамі, ні нойдзяш яго. Панямунь.

**Мармо'ліць** незак. Невыразна гаварыць. Ён зроду такі быў, толькі маці і магла разабраць, што ён мармоліць. Скідаль.

**Мармыну'ць** зак. Знікнуць, згубіцца. Недзе як мармыне, та і за свечкай яго ні знойдзяш. Вялікая Жорнаўка.

**Мармыта'ць** незак. Мармытаць, гаварыць ціха і невыразна; бубніць. Сядзіць і нешто сабе пад носам мармыча, зубамі скрыпіць. Балічы.

**Мармыту'н** м. Той, хто мармыча, невыразна гаворыць. Мармытун, спяваць ні ўмея, мармыча сабе пад нос. Гліняны.

**Марнатра'ўство** н. Марнатраўства, неразумная, марная трата. Жыто чысто дзеці збрысалі, гэта ж марнатраўство, глум. Лугавая.

**Марна'тка** ж. Уцепленая мужчынская куртка. Аддай сваю марнатку хлопцу, ён ужэ вырас. Лікоўка.

**Маро'каць** незак. Наракаць, выказваць крыўду, нездавальненне. Во, на яго людзі марокаюць, а ён сабе жыве і ў вус ні дуя. Рагачы.

**Мару'дзіць** незак. Марудзіць. Ён нігды ні спяшаяцца, марудзіць, яго работа — як мокра гарыць. Адным словам, маруднік. Свіслач.

**Марцава'ць** незак. Пра цечку /гон/ у катоў. Кошка марцуя — весну чуя / прыказка/. Рудавіцы. Катэ пачалі марцаваць, усю ноч дзяруцца, ні заснеш. Кунцаўшчына.

**Марцыпа'ны** мн. Марцыпаны. Штонебудзь вельмі смачнае, адмысло-

ва прыгатаванае. Хлопяц зусім распесціўсо, на адных марцыпанах жыве. Лаша.

**Марша'лак** м. Кіраўнік вясельнай цырымоніі. Маршалак глядзіць, каб на вяселі ўсё добро было, у парадку. Клачкі.

**Марына'рка** ж. Пінжак. Марынарку як пашыў, та і ціпер ходзіць. Малая Жорнаўка. Раней марынаркі сваей работы насілі, ніхто іх ні купляў. Адэльск.

**Марэ'ніць** незак. Хіліць да сну. Пра'сьці ні магу, марэніць, кап хоць на мінутку прылегчы. Бандары.

**Марэ'шка** ж. Гафт, від ажурнай вышыўкі. Я сама марэшку рабіла: навыцёпкваяш ніці, а тады апкідаяш. Свіслач. Юста натта ш марэшку ўмела рабіць, у яе ва ўсіх падушніках была марэшка. Свіслач.

**Масліно'ўка** ж. Хустка белага колеру з кветкамі. Масліноўкі ні дарагія былі, дзяўке і бабы насілі. Казловічы.

**Ма'сло** н. Масла. Як масло жоўта, та ляпей людзі купляюць. Каўпакі.

**Маслю'к** м. Масляк, казляк. Маслюке таксамо можно сушыць, як і белыя грыбэ. Зарубічы.

**Масля'нка** ж. Маслёнка, вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла. Шляхта скупая была, на адной маслянцы жыла, з бульбай усе елі. Балічы.

**Мастава'я** ж. Маставая, брукаваная вуліца. Як у гаўторак, та маставая аж звініць ат фурманак, едуць на торг. Сухмяні.

**Мастыкава'цца** незак. Масціцца, зручна размяшчацца, уладкоўвацца. Улез ў аўтабус і давай мастыкавацца, каб утульней сесці. Свіслач.

**Мастыко'ліцца** незак. Масціцца, уладкоўвацца. На вяселі кожны мастыколіцца, каб бліжэй да маладых сесці. Рацічы.

**Мастыко'ліць** незак. Прымерваць. Што ты тут мастыколіш, усероўно гэта дошка закаротка, нічого ні выйдзя. Сцяцкі.

**Масцеравы'** прым. Умелы, здатны да работы чалавек; майстар на ўсе рукі. Ён чалавек масцеравы, сам усё можа зрабіць, ні трэбо нанімаць. Гінавічы.

**Масці'сты** прым. Масцісты, чыстай, добрай масці. У яго коні былі масцістыя, каштанкі, цягавітыя натто. Лаша.

**Масці'цца** незак. Масціцца, уладкоўвацца, зручна размяшчацца. Што ты тут мосцісса, тут месца і так німа. Дубоўка.

**Ма'та** ж. Мата, пляцёнка з саломы, травы. Каб цяплей у хаці было, та мы дзверы завешвалі матай. Зарубічы.

**Матаві'ло** н. 1. Матавіла, прыстасаванне для змотвання нітак у маткі'. У нас ручного матавіла ні было, шпульке разматвалі на стаяча матавіло. Свіслач. 2. Перан.: высокі, нязграбны чалавек. Ля, і зноў матавіло палез недзя, пераваль-ваяцца з боку на бок. Круглікі.

**Матаі'дло** н. Матавіла, прыстасаванне для змотвання нітак у маткі. Круцяча матаідло ні так просто зрабіць, яго заказвалі ў майстра. Капцёўка.

**Матаі'лка** ж. Матавіла, прыстасаванне для змотвання нітак у маткі. І міне матаілка ашчэ бабіна была, натта лёхко матала. Пяслі.

**Матарза'к** м. Скручаная вузкая палоска тканіны для завязкі. Патпяра'жацца некім матарзако'м, аш смех бярэ, і ходзіць так. Адэльск.

**Матаро'ўка** ж. Маторная лодка. Да вайны ніякіх матаровак ні было, ніхто на іх ні ездзіў. Кашэўнікі.

**Мата'чка** ж. Маталка, прыстасаванне для змотвання нітак. З маткоў ніці зматвалі на матачкі, а тады ўжэ снавалі. Рагачы.

**Ма'тачнік** м. Матачнік, вялікая ячэя ў сотах, у якой выводзіцца пчаліная матка. Раі'цца пчолы будуць, во аж сем матачнікаў залажылі. Грынёўка.

**Ма'тка** ж. Матка, пчаліная самка. Старая матка: нірoўно чарвіць, ні па паратку кладзе яйца. Зарыца.

**Матня'** ж. 1. Прарэх у штанах, шырынка. Стары стаў, матня ні зашпіляна, так і ходзіць. Клачкі. 2. Куль, задняя частка рыбалоўнай снасці ў выглядзе мяшка. Рыба як дала ў волак, та аж матня парвалаca, ні вытрымала. Клачкі.

**Мато'р** м. Рыбацкая прылада ў выглядзе прамой тонкай палкі для падпіхвання чаўна. Матор трымаяш у адной руцэ,

у другой — вясло, і так едзяш. Пышкі.

**Мату'з** м. Скручаная вузкая палоска тканіны або шнурок для завязкі. На, хоць гэтым матузом мяшок завяжы, мо ні развяжацца. Загорцы.

**Матыгава'цца** незак. Разважаць, меркаваць, раздумваць, прымервацца. Што тут доўго матыгавацца, кожны ведая, як рабіць; як зробіш, так і добро будзя. Кунцаўшчына.

**Маты'жыць** незак. Матычыць. У гародзі буду матыжыць пасолю, а то пырай пашоў. Свіслач.

**Маты'ліца** ж. 1. Маты'ліца; захворванне, выкліканае лічынкамі стужачных глістоў. Гоўца як каля рэчкі ходзяць, та на матыліцы будуць хварэць. Кунцаўшчына. Гаўца кашляя, мусі, матыліцы. Свіслач. 2. Васкавая моль. Матыліца чысто вашчыну паела, тулько парахно засталосо. Батароўка.

**Маты'лька** ж. Матыль, матылёк. Матылькі лётаюць, цяпло ўжэ будзя, вясна. Пагараны.

**Маты'чка** ж. Матыка. Як гостра матыка, та і добро матыкаваць, усю траву ссячэ. Пагараны.

**Матэ'йка** ж. Цімафееўка. Канюшыну добро з матэйкай сеяць, тады яна ні паляжа. Гушчыцы.

**Маўля'ў** часц. Маўляў. Ужываецца пры ўскоснай перадачы чужой уяўнай мовы. Пачакайце вось тут міне, маўляў я зараз прыду. Круглікі.

**Маўчу'н** м. Маўклівы, негаваркі чалавек. Маўчун, ён нават з жонкай мало калі гаворыць, усе маўчыць. Карозічы.

**Ма'хер** м. Жулік, ашуканец /неадабр./. Ого, ён добры махер, я яго даўно знаю. Індура.

**Махлява'ць** незак. Жульнічаць, ашукваць. Ён так махлюе, што другі і праўды так ні скажа. Стральцы.

**Махля'р** м. Жулік, ашуканец. Я і тады казаў, каб з гэтым махляром ні звяз-ваўса. Пракопавічы.

**Махо'рка** ж. 1. Махорка, тытунь ніжэйшага гатунку. Махорку прадавалі пачкамі, дарагая была, ні кожны мох сабе купіць. Рагачы. 2. Перан.: размазня, слюнцяй, нерашучы, слабавольны чалавек. Махорка ні мужчына, ні курыць і ні п'е, сміюцца ўсе з яго. Карозічы.

**Махра'чка** ж. Гатунак бульбы. Махрачка зусім ніўрадліва бульба, пат кальвам много, але як гарэхі. Кавалічы.

**Махрачэ'** мн. 1. Махры, свабодна звісаючыя ніткі, шнуркі па краях тканіны. Як настольнік з махрачамі, та ён і глядзіцца ляпей, як такі. Адэльск. 2. Карэнні, якія маяць вялікую колькасць дробных пабегаў. Бульбы німа, як вырвяш кальво — адны махрачэ. Рагачы.

**Махрэ'** мн. Махры, свабодна звісаючыя ніткі па краях тканіны. У харонгвях такія махрэ звісаюць, бэнтаюцца. Адэльск.

**Маца'** ж. Маца, тонкія сухія праснакі з пшанічнай мукі, якія выпякаліся паводле яўрэйскага абраду да вялікадня. На свой вялікдзень, пэйсах, яўрэі мацу пяклі, дзевяць дзён на адной мацэ жылі. Пракопавічы.

**Мацава'ць** незак. Пробаваць моц велікоднага яйка, пастукваючы аб зубы. На вялікдзень хлопцы ззыдуцца пат хату біць яйца, мацуюць, якае мацнейша. Бакуны.

**Маца'к** м. Моцнае велікоднае яйка. Як пападзецца мацак, та любое яйцэ паб'еш. Лаша.

**Ма'цаць** незак. Мацаць, распазнаваць дотыкам; шукаць вобмацкам. Прывык мацаць рукамі, вачам сваім ні верыць. Агароднікі.

**Мацё'ра** ж. Свінаматка. Добра была мацёра, шторок парасят прыводзіла, грошы былі. Лікоўка.

**Мацу'нак** м. Моц, насычанасць, канцэнтрацыя. Ну і віно, ніякого мацунку ні мая. Кунцаўшчына.

**Мацыкле'т** м. Матацыкл. Ні хочаш жыць — купі сабе мацыклет, та галаву скруціш. Галынка.

**Мацыя'** ж. Справа. Велька тут мацыя, я і сам гэта патраплю зрабіць. Лікоўка.

**Мацюга'цца** незак. Лаяцца матам. Як табе ні брытко, прывык мацюгацца, дзіцей ні ўстыдаяцца. Монькаўцы.

**Мацюгі'** мн. Маты, брыдкая лаянка. Ад яго тулькі адны мацюгі і чуяш, слова добраго ні скажа. Малая Альшанка.

**Мацярке'** мн. 1. Частка канапель, з якой атрымоўваюць насенне. Мацярке ні цвітуць, з іх бывае семя. Пад'ятлы. 2. Ма'ткі. Ціпер і мацярке часамі атказваюцца ат сваіх дзіцей. Гродна.

**Мача'нка** ж. 1. Страва з расолу з-пад селядцоў і мукі. У вялікі пост маці наварыць мачанкі, мы мачаям бульбу і ямо, аж вушы трасуцца. Белева. 2. Перан.: бязвольны, слабахарактарны чалавек. Мачанка ні мужчына, жонку крыўдзяць, а ён апусціўшы вушы стаіць. Сухая Даліна.

**Ма'чнікі** мн. Вараныя піражкі, начыненыя макам і падсмажаныя на скавара дзе. Як с кудзелямі хадзілі, та мы часто мачнікі сабе пяклі. Путрышкі.

**Мачу'ла** ж. Мачыльня, месца, дзе мочаць лён, каноплі. У нас каля зроя была мачула. Тумашы.

**Мачу'ло** н. Мачульня. Мачуло было файнае, ніглыбока. Панабіваям колікаў і мочым лён. Копанікі.

**Мачымо'рда** м. П'яніца, алкаголік /лаянк./. Мачыморда, спакою людзям ні дае, надаеў усім. Круглікі.

**Ма'чыха** ж. Мачыха, мачаха.У міне мачыха з'едліва была, есці ні давала. Клачкі.

**Машо'нка** ж. 1. Машна, мяшочак для грошай, скураны капшук /устар./. У багатаго заўсёды поўна машонка грошай, што хоча купіць. Рагачы. 2. Скурна-мышачны мяшочак, у якім знаходзяцца мужчынскія палавыя залозы. Ні папала пат карову, а папала пад быка, круціць, верціць за машонку — давай, дурню, малака /з нар. песні/. Свіслач.

**Машы'ць** незак. Класці мох паміж бярвеннямі сцен /пры будоўлі/. Трэбо сцены добро машыць, та зімой будзяце сядзець у цяпле. Капцёўка.

**Ма'ялка** ж. Дзіцячая гульня хлопчыкаў. Вырэзвалі маялку з аўчыны, прывязвалі круглы кусочак волава і — маялка гатова, падбівалі нагой і так гулялі. Гродна.

**Мгла'** ж. Імжа, імгла. Пагоды німа, мгла нека на дварэ. Бакуны.

**Медавы'** прым. Мядовы. Медавы пах ідзе ад дзяцеліны, пчолы аж звіняць. Батароўка. Медава'я раса — вадзяныя кроплі на калоссях даспяваючага жыта, якія ўтвараюцца ў цёплую раніцу. Як добра пагода, та пчолы з жыта медавую расу бяруць. Дубніца.

**Медаго'нка** ж. Медагонка, машына для выкачвання мёду з сотаў. Медагонкі бываюць розныя, на дзве рамкі і на чатэры, у нас — на чатэры. Грынёўка.

**Мялі'ніс** м. Млён, прылада, якой круцяць жорны. Мяленіс з аднаго канца акуты, насаджана рэхвачка, і шпянёк убіты. Азёркі.

**Ме'нтка** ж. Лапка ў калаўроце, якая прыводзіць у рух вялікае кола. Ментка рамушком прывязвалася да панажа, каб мацней трымалася. Яскевічы.

**Ме'рацца** незак. Мерацца, супастаўляць, параўноўваць сябе з другім. Давай мерацца, хто большы з нас. Кунцаўшчына. Мерацца на кій — брацца на чарзе рукамі за кіёк, каб вызначыць, каму выпадзе вадзіць або выконваць вядучую ролю ў гульні. Давайця мерацца на кій, чый будзя верх. Копанікі.

**Ме'сячнік** м. Лунацік, хворы на лунацізм. У нас быў адзін месячнік, у месячную ноч хадзіў па стрэхах. Пад'ятлы. Як месяц свеціць, та месячнік усю ноч ходзіць па дварэ, і дзіця плача. Цыдовічы.

**Ме'сячны** прым. Месячны, які мае адносіны да месяца. Месячная ноч — можно голку знайсці. Каўпакі.

**Ме'цца** незак. Мецца, мець намер. Дзісь меліса нашы прыехаць, і чамусьці іх німа. Навасёлкі.

**Ме'шкаць** незак. Марудзіць, затрымвацца, траціць час. Ты доўго ні мешкай, што трэбо, зрабі і хучэй дахаты. Каленікі.

**Мешчані'н** м. Мешчанін; асоба, якая належала да мяшчанскага саслоўя. Мяшчане ляпей жылі нават за шляхту, бо ў іх усё пад бокам было: зямля, крамы, і рынак быў. Індура.

**Міко'ла** м., ж. Рэлігійнае свята 9 мая па ст.ст. Па Міколі ні сей ніколі /прыказка/. Зарубічы. Мікола зімня —

рэлігійнае свята 6 снежя па ст.ст. На Міколу зімню да Лашы людзей много збіраласо. Ферма.

**Міні'сцер** м. Міністр. Некалі сам мінісцер прыязджаў коні да войска браць. Зарубічы.

**Мі'рт** м. Мірт, паўднёвая вечназялёная расліна. Даўней у кожнай хаці быў мірт, разводзілі ў вазонах. Пракопавічы.

**Мі'ска** ж. Міска. Некалі елі з адной міскі ўсе разам і ні хварэлі. Лікоўка.

**Мі'тра** ж. Мітра, пазалочаны і аздоблены галаўны ўбор вышэйшага духавенства. Як архірэй да нас прыязджаў, та быў у мітры, службу вёў. Лаша.

**Мітусі'цца** незак. Мітусіцца. Німа чаго мітусіцца, палохацца: тут усе свае людзі. Жукевічы.

**Мітусня'** ж. Мітусня. Нека мітусня ў хаці пашла, сам ні разбяру, што тут робіцца. Літвінкі.

**Мітыгава'ць** незак. Намервацца, планаваць. Німа чо тут мітыгаваць, трэбо рабіць — і ўсё. Сухая Даліна. Пчала круціцца, мусі, мітыгуя за нос укусіць. Баброўнікі.

**Мішу'гін** м. Вар'ят /жарт./. Ні звязвайса з гэтым мішугінам, ён што хочаш можа зрабіць. Пракопавічы.

**Мле'ўко** прысл. Млосна, нядобра, моташна. Неяк млеўко стало, у галаве завярнуло ат слабасці. Пагараны.

**Млець** незак. Млець, траціць прытомнасць, абміраць. Маці як убачыла сына, так і стала млець, ледво вадой адлілі. Заполле.

**Млё'н** м. Млён, палка, якой круцяць жорны. Млён ад рук выгладзіўсо, аж блішчыць, сліскі стаў. Гліняны.

**Млі'н** м. Млын. У Вайтаўшчыні вадзяны млін быў, а ціпер ні меля, закрылі. Кунцаўшчына.

**Млі́на'р** м. Млынар. У Гаркоўскім мліне млінара ні было, кожны сам малоў. Карозічы.

**Мло'сно** прысл. Млосна, моташна. Слонца так напаліло за дзень, што аж млосно стало. Баброўнікі.

**Мля'во** прысл. Вяла. Як пасядзеў каля печы, неяк мляво стало, ні мог устаць. Дуброва.

**Мля'вы** прым. Млявы, вялы, пазбаўлены бадзёрасці. Конь чамусці млявы стаў, ледво ногі валачэ. Горніца.

**Мля'ўкі** прым. Млявы, вялы, пазбаўлены бадзёрасці. Як гарачэ, та мляўкі станеш, рабіць ні хочацца. Баброўня.

**Мляу'ш** м. 1. Слабасільны конь. Гэтым млявушом і за двое сутак да Гродна ні заедзяш. Круглікі. 2. Мужчына, які многа есць, а сілы не мае. Мляуш некі, есць ні ў свае духе, а мяшка з воза ні падымя. Баранава.

**Мо** Увод.сл. Можа. Што сядзіш у хаці, пашоў бы ў калхоз, мо якого рубля зарабіў бы. Дарашэвічы.

**Мо'гліцы** мн. Закінутыя могілкі. Могліцы зусім зараслі, на іх даўно ніхто ні хавае. Радзевічы.

**Мо'дзе** Увод.сл. Можа. Модзе, і трэбо было ашчэ адну качку купіць, потым ні будзя. Свіслач.

**Мо'дзіцца** незак. Франціць, прытрымлівацца моды. Нешто наш удавец модзіцца, з хлопцамі пачаў хадзіць. Абухавічы.

**Мо'жджар** м. Медная ступка для расцірання спецый /устар./. Можджар і ў нас быў, перац маці церла. Кунцаўшчына.

**Мо'й** займ. У значэнні: мой муж. Мой на дзіцей ні крычыць, яны і так яго слухаюць. Гібулічы.

**Мо'крацць** ж. Непагадзь, слата, хлюпата. На дварэ мокраць, з хаты ні хочацца вылазіць. Зарачанка.

**Мо'ліцы** мн. Закінутыя могілкі. Ні пазнаць, что моліцы, ўсё зарасло лесам. Караневічы.

**Мо'мра** м., ж. Той, хто невыразна гаворыць. Момра, нешто момрыць, нічого ні разбярэш, што хоча сказаць. Бяляны.

**Мо'мрыць** незак. Невыразна гаварыць, мармытаць. Сказаць ён нічого ні скажа, толькі момрыць сабе нешто пад нос. Бакуны.

**Мо'ндры** прым. Перан.: мудрагелісты, хітрамудры. Занатто ты мондры стаў, аткуль такі ўзяўсо? Гібулічы.

**Мо'ндрыцца** незак. Мудрагеліцца, разумнічаць, мудраваць. О, мондрыц-

ца, а на самай справе такі, як і другія. Баранава.

**Мо'нчка** ж. Цукравы пясок. Той рок за бураке добро далі, аж па сто кілё мончкі. Адэльск.

**Морг** м. Морг, старая зямельная мера /0,71 гектара/. Ён самы бедны быў у вёсцы, у яго, можа, маргоў два зямлі было. Завадзічы.

**Мо'рда** ж. Твар /груб./. Ты дзе сваю морду суняш, ні бачыш, што натварыў. Іванаўцы.

**Мо'рдачка** ж. Тварык /дзіцяч./. Хадзі, дзетка, я табе мордачку памыю, здатнейшы бузяш. Забалаць.

**Мо'тар** м. Доўгая палка /2–3 м/, якой наганялі рыбакі ў сетку рыбу. Мотар возьмям ды як пачнем пляжыць ім па вадзе, так рыба і дае ў невад. Кавалічы.

**Мо'ташно** прысл. Моташна, млосна, нядобра. Аж моташно стало, як убачыў, што яны вырабляюць. Круглікі.

**Моц** ж. Моц, фізічная сіла. Німа тае моцы ў руках, што некалі была, стары стаў. Галынка.

**Мо'шка** ж. Нейкае маленькае насякомае. Мошка такрок чысто гарох ззела, адны сцеблі засталіса. Сухая Даліна.

**Мрэц** м. Нябожчык. Мрэц так і стаіць у гачах, баюсо на двор выходзіць. Рудавіцы.

**Мудо'хацца** незак. Мучыцца, мардавацца. Кінь ты мудохацца, усероўно да вечара ні кончыш. Кунцаўшчына.

**Му'дрык** м. Той, хто мудрагеліць, хітруе. Кап такіх мудрыкаў больш было, та свет перавярнууса б. Аульс.

**Мужла'н** м. Грубы, нявыхаваны мужчына; хам. Мужлан дый годзі, ён нікого ні паважае — ні старого, ні малого. Лапенкі.

**Мужы'к** м. Муж, гаспадар. За добрым мужыком і свінка — гаспадынька / прыказка/. Літвінкі. Дзень хваляць, як слонца зойдзя, а мужыка — як памрэ / прыказка/. Свіслач.

**Муза'** ж. Няўмела прыгатаваная страва. Некай музы наварыла, паставіла і кажа: "Ешця, госцікі". Рацічы.

**Музы'ка** м. Музыкант. Ні з музыкі, ні з муляра век ні будзя гаспадара /прыказка/. Кузьмічы. Свіня ў рэпі, свіня ў репі, парасята — у рэццы, а музыка без языка сядзіць на гавеццы / з народ. прыпевак/. Свіслач.

**Мул** м. Іл, глей. Як папаў ў мул, та ледво ногі выцягнуў, так і зацягвая. Азёры.

**Му'лко** прысл. Цвёрда. На гэтым сянніку мулко спаць, баке паабмульваяш. Лаша.

**Мульта'н** м. 1. Мультан, гатунак тытуню. Мультан ні моцны, тулькі натта ш файно пахня. Гродна. 2. Баваўняная варсістая тканіна. Шляхта насіла рубашкі з мультану, цёплыя такія. Эйсманты.

**Муля'к** м. Мазоль. Намуляў муляк на назе, ніяк ісці ў ботах ні магу. Лэйгабалі.

**Му'ляць** незак. Муляць, націраць, прычыняць боль. Мусі, хамут муляе, конь ніяк ні можа ісці. Лапенкі.

**Мурава'ны** прым. Мураваны. У каго мураваны будынак, та пажар ні страшны. Лесніца.

**Мура'г** м. Густая трава. Мураг гэты перашкаджае капаць магілу, вазьмі дый выкінь. Пагараны.

**Му'рза** м., ж. Неахайны, мурзаты чалавек. Вядзі гэту му'рзу да рэчкі, стварэння на ім ні знаць. Славічы.

**Мурло'** н. Тоўсты і шырокі твар /груб./. Ты куды садзіш свае мурло? Лікоўка.

**Мурлы'га** м. Чалавек з тоўстым і шырокім тварам /груб./. Мурлыга такі, хто паверыў бы, што яго смерць возьмя. Панямунь.

**Муро'к** м. 1. Выступ над прыпечкам ў печы. Маці паставіць газоўку на мурок і бульбу скрабе. Круглікі. 2. Мурожная сенажаць. На мурках расце руціца, гарошак, добрая трава. Клачкі.

**Му'рын** м. Негр; смуглы, цёмнай скуры чалавек. Мурыну гэтаму вада ні паможа, мый, ні мый — усероўно чорны. Круглікі.

**Мус** прысл. У знач. выкл. 1. Неабходна, патрэбна. Нам гэта мус зрабіць, іначай адсюль ні выберамса. Грандзічы. 2. Павінен, абавязан. Я мус гэта сказаць, каб ён ведаў. Пагараны.

**Мусі** пабочн.сл. Напэўна, пэўна. Мусі, я табе надаеў, ні да каго, а ўсе да цібе іду прасіць. Занявічы.

**Мусо’во** прысл. Неабходна, патрэбна. Нам мусово паехаць да ўнукаў, даўно ні бачылі. Ласосна.

**Му’сяць** незак. Мусіць. У значэнні: быць абавязаным. Я мушу гэта зрабіць, бо даў слово. Карозічы. Ён мусіць заплаціць, нікуды ні дзеняцца. Ліпкі. Як прыпруць, та мусяць прызнацца, хто з іх узяў. Свіслач.

**Му’тарны** прым. Заблытаны, цяжкі для рашэння. Гэта, брат, мутарная справа, тут сам чорт ні разбярэ. Мігова.

**Му’тра** ж. Вялікая гайка, якая ўтрымлівае калясо на восі воза. Мутру добро ні закруціў, глядзі, кап калясэ ні спало. Баяры.

**Му’ха** ж. Муха. Даўней мухі жыць ні давалі, ціпер і на вёсках німа. Карозічы. Велька муха — буйная муха цёмна-зялёнага колеру, вельмі рухавая. Велька муха як сядзя на мясо, так чарвей і наложыць. Забагонікі. Залаціста муха — буйная муха, цёмна-залацістага колеру. Залаціста муха трошкі менша ад велькай, але мясо і ад яе хавай. Солы. Гнаявая муха — муха невялікага памеру, якая жыве на гнаі. Гнаявая муха такая жоўценькая, ні велька. Кунцаўшчына. Сіня муха — тое, што і велька муха. Сіня муха чуя, дзе мясо, так і ўляціць у хату. Рацічы.

**Му’шля** ж. Перлавіца, бяззубка /малюск/. Як пойдзямо на рэчку, панабіраям мушляў і гуляям сабе. Кузьмічы.

**Муштрава’ць** незак. Муштраваць, мучыць несправядлівымі патрабаваннямі. Як пачне баба старого муштраваць, та аш шкада станя, як над ім збыткуяцца. Жылічы.

**Мша** ж. Імша, каталіцкая абедня. Мшу закупілі ў касцелі па нібошчыку тату, будзя рок, як памер. Эйсманты.

**Мы’за** ж. Мыса, пыса. Цяля пойла ні п’е, толькі мызу памочыць і зноў мычыць. Зарыца.

**Мылі’ць** незак. Абмінуць, абысці. Ляпей мылі’ць ліхого чалавека, чым з ім сустрэцца. Квасоўка.

**Мы’рса** ж. Мыса, пыса, морда. Малако кепска: кот мырсу сваю ўсадзіў і ні п’е. Гінавічы.

**Мыслі’вец** м. Паляўнічы. Бывае, мыслівец праходзіць цэлы дзень і пустым дахаты ідзе. Эйсманты.

**Мыш** ж. Мыш. Мыш, мусі, у шафцы завяласа, грызе нешто. Салы. Лятучая мыш — кажан. Лятучая мыш раз як учапіласа дзеўчыні ў хусцінку, та ледво адчапілі. Мігова.

**Мышанё’** н. Мышанё, мышаня. Кот сабе гуляе, а мышанё пішчыць, аш шкада. Свіслач.

**Мыша’сты** прым. Мышасты, шэры. У нас конік мышасты быў, тато на кірмашэ яго купіў. Кунцаўшчына.

**Мышкава’ць** незак. Перан.: разнюхваць, выведваць. Чо тут мышкуяш, тут тваго нічого німа. Нямейшы.

**Мэ’йсар** м. Спецыяльны шавецкі нож. Вазьмі другі мэйсар, гэты дай пагастру. Індура.

**Мэ’нка** ж. Мучэнне, пакута. З малымі дзяцьмі мэнка, а падрастуць, та ашчэ больш мэнкі. Квасоўка.

**Мэ’нтаць** незак. Перакладаць рэч без патрэбы з аднаго месца на другое; у значэнні: забаўляцца чым — небудзь. Што ты мэнтаяш яе ў руках, палажы, а то ашчэ папсуеш. Падліпкі.

**Мэ’нчыцца** незак. Мучыцца, цярпець мукі; пакутаваць. Хвароба аднекуль прычапіласа, тулькі мэнчыцца чалавек, ні жыве. Ферма.

**Мэ’рля** ж. Марля, тонкая баваўняная тканіна. Я праз мэрлю кісель цадзіла, і добры выходзіў. Кульбакі.

**Мэ’тар** м. 1. Цэнтнер, мера вагі роўная 100 кг. У мэтры лічыцца шэсць пудоў, ні менш. Ферма. Мы цэлы мэтар пшаніцы вальцавалі, было на зацерку і на пірагe. Свіслач. 2. Кубічны метр дроў. Даўней усе торпай палілі, як купіш які мэтар дроў, та і ўсё. Пракопавічы.

**Мэ’шты** мн. Хатні абутак. Недзе мэшты мае падзелі, ніяк ні знайду. Кунцаўшчына.

**Мядзьве’дзіца** ж. Мядзве́дка, насякомае з тоўстым целам, якое жыве ў зямлі, шкоднік сельскагаспадарчых культур. Мядзьведзіца ў зямлі жыве, вечарам туркаціць, як ціха пагода. Верцялішкі.

**Мя'дзгало** м. Няўклюда, непаваротлівы чалавек. Мядзгало нека, ні можа прайсці, каб ні зачапіцца за штонібудзь. Карозічы.

**Мядзя'нка** ж. Мядзянка, неядавітая змяя бурага колеру. Я сам раз у лесі наступіў на мядзянку, тулькі бліснула пад нагой. Зарубічы.

**Мядні'ца** ж. Таз. Мядніцаў ніякіх ні было, мыліса ў балеі, уліеш трошкі вады і мыяшса. Лугавая.

**Мядуні'ца** ж. Медуніца, травяністая расліна з дробнымі пахучымі кветкамі. Мядуніцы як зацвітуць, здалёк учуяш, натта пахнуць. Гродна.

**Мязга'** ж. 1. Мязга, мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай; мяккі стрыжань асобных дрэў. У чорным бэзі мязгі много, пасвісцёлы рабілі. Кунцаўшчына. 2. Маса ў гарбузе, у якой знаходзіцца насенне. Гарбуз тоў добры, у якім мязгі' много. Балічы.

**Мязі'нец** м. Ме'зенец, пяты, самы малы палец на руцэ. Мязінец сярпом як абрэзала, та і ціпер шнар есць, ні зарастая. Сухая Даліна.

**Мякі'нніца** ж. Мякіннік, памяшканне, ў якое ссыпаюць мякіну. І нас мякінніцаў ні ў каго ні было, а ў другіх вёсках былі. Свіслач.

**Мя'кіш** м. Мякіш. Стары наш тулькі мякіш есць, скарынкі ні ўкусіць. Круглікі.

**Мя'ло** м. Няўклюда, непаваротлівы чалавек. З гэтым мялам толькі мэнчышса, ўсё самой трэбо, нідзе ні дойдзя. Індура.

**Мя'мліць** незак. Невыразна і вяла гаварыць. Нешта пачне мямліць, нічого ні разбярэш. Грыўкі.

**Мя'нёк** м. Мянёк, мянтуз. Як малымі былі, мяньkoў пат карчамі рукамі лапалі, столькі іх было. Кавалічы.

**Мянто'вы** прым. Мятны. Мянтовыя цукеркі файныя, але, кажуць, ні здаровыя для хворых на сэрца. Занявічы.

**Мянту'з** м. Мянтуз, мянёк. Мянтуз як пападзе ў волак, та ні трапешчацца, як плотка, спакойны. Пагараны. Мянтузоў пат каменьмі лапа'лі. Жылічы.

**Мянці'ць** незак. Мянціць, вастрыць мянтошкай касу. Ні кожны ўмея мянціць косу, а ні памянціўшы, касіць ні будзяш. Брузгі.

**Мяню'шка** ж. Мянушка. Гэты чалавек кожнаму мянюшку даў, але і яму далі. Зарыца.

**Мяркава'ць** незак. Меркаваць, разважаць, абдумваць. Трэбо ашчэ мяркаваць, ці выйдзя з гэтаго куска каптан, можа, мало будзя. Свіслач.

**Мярні'чы** м. Каморнік, спецыяліст па межаванню зямельных надзелаў. У нас мярнічы ні быў, а там быў, дзе рабілі футара'. Карозічы.

**Мясае'д** м. Мясаед, перыяд пасля каляд, калі, па закону праваслаўнай царквы, дазвалялася есці мяса. Ждала мясаеду — думала паеду, мясаед прайшоў — і ніхто ні зайшоў. /прыказка/. Клачкі.

**Мя'со** н. Мяса. Хто мясо тое калісьці еў, гэта ціпер кожны есць. Літвінкі. Кашырна мясо — ялавічына, якую дазвалялася ўжываць яўрэям па рэлігійнаму закону. Кашырна мясо даражэйша было, але ўсероўна куплялі. Індура.

**Мясці'цца** незак. Мясціцца, займаць зручнае месца, уладкоўвацца. Курыца месціцца, мусі, нясціса хоча. Хамякі.

**Мя'та** ж. Мята, травяністая расліна з моцным пахам. У гародзі на мяжэ — тры кусточкі мяты, а хто дзеўку пацалуе, той будзя багаты / з нар. прыпевак/. Свіслач. Кругла мята —гатунак мяты, якая мае круглыя лісткі. У нас круглая мята расце ў гаротчыку, натта пахучая. Верцялішкі. Кудлата мята — гатунак мяты з падоўжанымі варсістымі лісточкамі. Кудлата мята ў кожнаго была, натта ш людзі любілі, так файно пахла. Пяслі. Папрова мята — гатунак мяты. Як унясеш папрову мяту, та на ўсю хату пахня. Клінчане. Халодна мята — гатунак мяты з моцным пахам, з доўгімі лісткамі.Халодна мята — гэта такая, як возьмяш на язык, та холад ідзе. Верцялішкі.

**Мята'цца** незак. Кідацца, мітусіцца. Паглядзеў бы я, як ты мятаўса б, кап папаў у такую бяду. Лаша. Мятаецца і сам ні ведае, што рабіць. Пагараны.

**Мятлі'ца** ж. Мятліца, пустазелле з сук-

веццем у выглядзе мяцёлкі. Мятліца — хлёба палавіца /прыказка/. Кукалі.

**Мятля'ць** незак. Кідацца ў розных напрамках. Ліса хітра, просто ні бяжыць, мятляя, кап след свой замясці. Жукевічы.

**Мяце'ж** м. Мяцеж, стыхійнае ўзброенае паўстанне. Як мяцеж быў, казалі, што ўсе бабы з дзецьмі ў Крутым беразі хаваліса. Рудавіцы.

**Мяце'ліца** ж. Хуткі народны танец. У нашай вёсцы мяцеліцу скакалі, розныя іншыя полечкі. Бакуны.

**Мяшо'к** м. 1. Лавушка, якую ўтварае сабе рыба пры спробе прайсці праз трохсценную сетку. Як паднялі трыгубніцу, так рыба ў мяшках і забеляхцела. Балічы. 2. Перан.: непаваротлівы, няспраўны, няўклюдны чалавек. У хаці і так цесно, дзе гэты мяшок тут паверняцца? Кашэўнікі.

**Мяшэ'чак** м. Мяшэчак, мяшэчак, невялікі мяшок. Прывёз цэлы мяшэчак скараспелкі, будзя на насеня. Жукевічы.

**Мяшэ'чнік** м. Чалавек, які быў вымушаны хадзіць з мяшком па вёсках і здабываць сабе на пражытак. Пасля вайны, як голад быў, та мяшэчнікаў праз вёску чалавек сто пройдзя, і кожнаму трэбо было даць, бо людзі. Свіслач.

# Н

**Наабу'м** прысл. Наўгад, не падумаўшы; як выйдзе, як прыдзецца. Ат, сказаў абы-што, наабум. Малая Жорнаўка.

**Наакладa'ць** зак. Пакараць, набіць. Учора мой неслух аш пасінеў на рэчцы, та я наакладала яго і ціпер у хаці сядзіць. Лікоўка.

**Наапа'шкі** прысл. Накінуўшы на плечы /пра вопратку/. Як закрычалі: «Пажар!», та я жывей кажух наапашкі і — на двор. Хліставічы.

**На'ба** ж. Дэталь у калаўроце, на якой мацуюцца спіцы вялікага кола. Наба робіцца тулько з бярозы, кап спіцы добро трымаліса. Канюхі.

**Наба'кер** прысл. Набакір, ссунуўшы на адзін бок. Ён ні сея і ні косіць, а набакер шапку носіць /выслоўе/. Верцялішкі.

**Набаке'рыцца** зак. У значэнні: прыняць баявую позу, падрыхтавацца да сутычкі. Ні руш яго, глядзі, як набакерыўсо, можа ўдэ'рыць. Каўпакі.

**Набандзава'ць** зак. Напоўніць, налажыць больш меры. Ці ж гэта парадак? Набандзуе поўна вядро малака, а тады нясе і разлівая. Баброўнікі.

**Набасо'нач** прысл. Набасанож, на голую нагу. Пакуль што надзень боты набасонач і жывей у хлеў — карова на цялені. Малахавічы.

**Наба'хаць** зак. Наліць звыш меры. Набахала поўну балею халоднай вады і кажа: «На, мыйса «, — так сама мыйса! Кавалічы.

**Набі'льніцы** мн. Набільніцы, драўляныя планкі з выемкамі ў кроснах, у якія ўстаўляецца бёрда. Як тчэш, та набільніцамі прыстукваеш, каб нітка добро прыставала. Зарубічы.

**Набіно'с** м. Чалавек, які мае звычку лезці ва ўсе справы /жарт/. Такі набінос, усюды ён свае тры грошы ўсуня. Кунцаўшчына. Набінос усюды ўсадзіць свой нос /прымаўка/. Балічы.

**Набі'ць** зак. 1. Напоўніць, напхаць. Але ж і набіў сяннік саломай, ні ўлежыш на ём. Грыўкі. Набіў поўну торбу сечкі, як завязаць толькі. Вішнявец. 2. Нанесці пабоі. Набіў хлопца і сам ні ведая за што. Баранава. Набіць аскому — нагнаць аскому. Набіў аскому кіслымі яблыкамі, у рот ні магу нічого ўзяць. Славічы. Набіць руку — набыць вопыт у справе. Ён ужэ на гэтым руку набіў, як па масле ідзе, нічого ні скажаш. Ферма. Набіць як завязаць — напоўніць поўнасцю. Набілі нем- цы поўну адрыну людзей, як завязаць, а тыя — у крык, лямант. Гарны.

**Набо'віч** м. Бандарская прылада для

набівання абручоў на бочкі. Як добры набовіч каваль зробіць, та і габручэ спраўней набіваць. Бандары.

**Набо'жны** прым. Набожны, веруючы ў Бога. Чамусьці каталіке больш набожныя, чым праваслаўныя, а вера адна. Баранава. Набожна як свіня падарожна /прыказка/. Адэльск.

**Набо'й** м. Снег на дарозе, убіты /утрамбованы/ калёсамі. Набой на дарозі велькі, цяшко размыліцца, так і засядзяш, як з'едзяш у бок. Гарны.

**Набо'йка** ж. 1. Бандарская прылада для набівання абручоў на бочкі. Габруч на месца ні сеў, і набойка ні памагая. Бандары. 2. Ніжні край абцаса. Набойкаў ні настарчышса хлопцу, толькі наб'еш — ізноў паляцяць. Зарубічы.

**Набра'цца** зак. 1. Напоўніцца. Соль зусім стала мокра, набраласа сырасці. Ферма. 2. Напіцца гарэлкі, віна /неадабр./. Кожны раз набярэцца недзя і лезя, як свіня, дахаты. Гродна.

**Набрыня'ць** зак. Набрацца вільгаці, расшырыцца. Гарох набрыняў, храсткe ўжэ пачыная пускаць. Талочкі. Дзверы набрынялі, ніяк ні зачыняюцца. Тапалёва.

**Набрэ'нкнуць** зак. 1. Тое, што і набрыняць. Дошкі набрэнкнулі, трэбо сушыць, бо ні пагаблюяш. Сухмяні. 2. Апухнуць. Ногі нечаму набрэнклі, у боты ні ўлазяць. Свіслач.

**Набутара'жыць** зак. Нагрувасціць, бязладна накласці. Набутаражыў снапоў на воз і кажа: "Вязі", але дзе тут іх давязеш. Балічы.

**Набы'так** м. Уласнасць, маёмасць; тое, што прыдбана. Набытку поўны хлеў, а карміць німа чым. Каленікі.

**Набы'чыцца** зак. Варожа наставіцца. Ты чо гэта набычыўсо, зеграчэ наставіў, думаеш, баюсо? Сыпаная Гара.

**Набэ'дрыкі** мн. Набедрыкі, набадры, шлеі; частка вупражы, якая не дае з'язджаць хамуту. У яго нігды набэдрыкаў ні было. Як з гары едзе, та хамут кабылі аж на галаву з'язджаў. Няцечы.

**Нава'жыцца** зак. Наважыцца, намерыцца нешта зрабіць. Стары нарэшце наважыўсо пайсці у горад да сына, але ці ўжывецца ён там. Сінявічы.

**Нава'ла** ж. Бяда, няшчасце, непрыемнасць. Мае сэрца так і чуло, што на нас і зноў насоўваецца навала. Рудавіцы.

**Нава'лам** прысл. Вялікай масай, натоўпам. Як нагнаў, та рыба навалам у невад ішла. Азёры.

**На'валач** ж. Той, хто прыйшоў, з'явіўся аднекуль, нетутэйшы /зневаж./. Навалачы ўсялякай сюды панаязджало, німа як жыць. Віцькі. Тут тулькі навалач адна жыве, нікого люцкаго німа. Свіслач.

**Навалачы'** зак. I. Нацягаць у вялікай колькасці. Мой навалачыў саломы ад стога, будзя карові на ўсю зіму. Свіслач. 2. Надзець, нацягнуць. Падло, навалачэ на се бурку, та і спіць у ёй, ні скідая. Літвінкі.

**Навалачы'ць** зак. Нанасіць. Хлопцы, бало, навалакуць сабе бульбавеня с поля і давай бульбу пячы. Грыўкі.

**Нава'льніца** ж. Навальні'ца. Тады навальніца як дала з градам, та збожа зусім палажыло. Рацічы. Ну і навальніца дала, вада аж раве, рыштокамі ідзе. Лойкі.

**Наверадзі'ць** зак. Натрудзіць. Жнучы чыста руку наверадзіў, пальцаў ні магу выпраставаць, баляць. Лапенкі.

**Навіна'** ж. 1. Навіна, нешта новае, незнаёмае. Што старана, то і навіна / прымаўка/. Радзевічы. 2. Страва, звараная першы раз у сезоне. Навіна на вячэру будзя — крапівы маладой наварыла з бульбай. Кунцаўшчына.

**Наво'дзіць** незак. Падбухторваць, настаўляць варожа аднаго на другога. Гэта ён наводзіў хлопцаў, каб яны яго набілі. Свіслач.

**Наво'дны** прым. Нетутэйшы, чужы, прышлы. Ціпер больш наводных людзей, чым тутэйшых. Лікоўка. Нека наводна гаўца, мусі, адбіласа ад сваіх, бегая, бляе. Караневічы.

**Наво'дшыбе** прысл. Наводшыбе, убаку, на некаторай адлегласці. Хата нашай бабы навотшыбе стаяла, да яе рэтко хто заходзіў. Каленікі.

**Наво'й** м. Пярэдні і задні валікі ў кроснах. На навоі есць галава такая з зу-

бамі і кіечкамі, за якія паткручваеяш, кап тужэй аснова была. Кавальцы. На навой аснову накручваяш, а на другі — палатно. Жытародзь.

**Наво'круг** прысл. Навокал, навокала. О, гэтага прайдзісвета навокруг ведаюць, хто яго ні зная. Чэхаўшчызна.

**Наво'тляй** прысл. Наводмаш, з размаху. Доўго ні чакаючы, адвёў яму навотляй і — і сам у ногі. Стрэльчыкі.

**Наво'чнікі** мн., м. Скураныя шчыткі на вуздэчцы, якія не даюць пужліваму каню глядзець па баках. Натта ш конь палахлівы, гобруць з навочнікамі надзеняш, усероўно панясе, як антанабіль учуя. Кунцаўшчына.

**Наво'шчуп** прысл. Вобмацкам, усляпую, наўздагад. Цёмно, ледво дзверы навошчуп знайшоў, вышаў з хаты. Верцялішкі.

**Навучыце'лька** ж. Настаўніца. Навучыцелька той рок на кватэры ў нас была, ціпер у школі жыве. Кашэўнікі.

**Навучы'ць** зак. Навучыць, перадаць навыкі, веды. Ці ж у цюрме чаму добраму навучаць? Аттуль ашчэ горшым верняцца. Жылічы. Навучыць праз качаргу скакаць — навучыць усяму, чаму толькі можна. Наша Жэня сваіх дзіцей хібо прас качаргу скакаць навучыць, так ужэ стараяцца вучыць. Пагараны.

**Навы'лят** прысл. Навылет, навылёт, наскрозь. Гэта ні хата, а гнілоце адно, парнеш кійком і навылят сцену прасадзіш. Скрыннікі. Як даў касою ваўку, так жвот навылят прабіў. Зарубічы.

**Навы'перадкі** прысл. Навыперадкі, стараючыся апярэдзіць. Кап ты з Бэркам навыперадкі пашоў /прымаўка/. Пракопавічы. Як коні вадзілі пасвіць, та часта навыператкі ездзілі, хто каго перагоніць. Жытародзь.

**Навы'пуск** прысл. Навыпуск, не запраўляючы. Мой Міхась рубашку навыпуск усе насіў, так здаравей, казаў. Малая Жорнаўка.

**Навы'раст** прысл. Навырост. Я свайму Шурыку каптан навыраст шыла, каб ні на адзін рок быў. Стральцы.

**Нага'** ж. Нага. За дурной галавой нагам ніспакой /прымаўка/. Індура. Без ног астацца — моцна стаміць ногі. Столькі папахадзіць за плугам, та можна і без ног астацца. Кунцаўшчына. Дагары нагамі — нізам уверх. Дзіцей як пакіняш адных у хаці, та ўсё дагары нагамі паставяць, нічога ні знойдзяш. Солы. Ногі адбіць — стаміць хадзьбой ногі. Ногі абіў, пакуль дастаў спраўку, аніяк прадсядацель ні хацеў даваць. Балічы.

**Нага'баць** зак. Напаткаць, сустрэць. Ледво яго неяк нагабаў, а то ўсе стараўсо ні пападаць мне на гочы. Лаша.

**Нагавары'цца** зак. Пагаварыць удоваль. Але ж і нагаварыліса, усіх паўспаміналі, дзе хто быў. Сапоцкін.

**Нагаві'цы** мн. Штаны. Нагавіцы чысто абрындаў, ходзячы за плугам. Кулёўцы.

**Нагаво'рваць** незак. Пляткарыць, узводзіць паклёп. Я ведаю, гэта яна ўсё на нас нагаворвая, настаўляя, кап сварыліса. Грандзічы.

**Нагадзі'цца** зак. Трапіцца, выпадкова сустрэцца. Нагадзіўсо, такі ёй чалавек, ні паглядзеў, што пасагу ні мела. Талочкі.

**Наганя'ць** зак. Навыворваць. Я ашчэ да ўсхода слонца ім наганяў баразён дваццаць бульбы, хай выбіраюць. Сцяцкі.

**Нагарава'цца** зак. Набедавацца, зазнаць многа гора. За свой век нагараваласа, нацярпеласа, бедна, а ціпер нічога ўжэ ні трэбо. Сопоцкін.

**Нагарну'ць** зак. Набраць, насыпаць. Жывей нагарні ў мяшэчак жыта і нясі сюды. Лаша.

**Нагатке'** мн. Наготкі. Натта ж харашэ цвітуць у гаротчыку нагатке, аж у гачах жаўцяць. Кунцаўшчына.

**Нага'ўка** ж. Калоша, калашына. Пашыў ганавіцы, надзеў, а зноў адна нагаўка чамусьці карочша. Клачкі.

**Нагі'хар** прысл. Абы-як, на хуткую руку, няякасна. Стаханаўцы, брат, усё рабілі нагіхар, абы хучэй. Караневічы.

**На'гла** ж. Хвароба, трасца. А нагла яго ведая, дзе ён прападая цэлы дзень, дзе яго бура носіць. Гарны. Нека нагла да чалавека прычапіласа і жыць ні дае. Чэхаўшчына.

**На'гліца** ж. Хвароба. Во, нека нагліца прыстала, начнеш што рабіць — і ні можаш, сілы німа. Свіслач.

**Награмаздзі'ць** зак. Нагрувасці'ць, бязладна накласці. Награмаздзіў на воз хвaрасту, ні ведаю, ці давязу. Вішнявец.

**Нагрумасці'ць** зак. Нагрувасці'ць, бязладна накласці. Нагрумасціў на прыгумені некіх карчоў, да адрыны ні прайсці. Караневічы.

**На'дабнасць** ж. Патрэба. Німа ніякай надабнасці мне туды ісці, абыдуцца і без міне. Славічы. Без дай на'дабнасці — без патрэбы. Без дай надабнасці пашоў туды, а ціпер во хварэяш, дзе ні трэбо — ні лезь.Свіслач.

**Надава'цца** незак. Падыходзіць; быць прыгодным, прыдатным. Гэта скура якраз надаецца для вырабу хрому, чаравікі добрыя будуць. Карозічы.

**Надае'дны** прым. Надакучлівы. Надаедны чалавек, як прыстаня — рады німа, ні адчэпісса. Гарны.

**Надакуча'ць** незак. Дакучаць, назаляць. Надакучало ў хаці з дзяцьмі сядзець, пакуль хварэлі. Цвіклічы.

**Надалу'жыць** зак. У значэнні: патраціць час. Устаць рано та ён устаня, але сваім абуванечкам надалужыць. Свіслач.

**Надарва'цца** зак. Надарвацца, пашкодзіць свае здароўе ад празмерных намаганняў. Падымаючы мяшке, мусі, надарваўса, ні магу нагнуцца, сярэдзіна мэнчыць. Селюкі.

**На'даўбня** ж. 1. На'даўбень, бервяно або рэйка, укапаныя ў зямлю як процітанкавая загарода. Каб немцы ў горад ні ўварваліса, капалі равэ, надаўбні ўбівалі ў землю. Гродна. 2. Перан.: няўклюдная, тупая жанчына. Неку надаўбню ўзяў, ні жонку, нічого рабіць ні ўмея. Балічы.

**Надау'міць** зак. Навесці на думку, на розум. Нарэшце ты міне надауміў, ціпер ведаю, што рабіць. Крыўляны.

**Надая'да** м., ж. Дакучлівы, назойлівы чалавек. Надаяда ні хлопяц, як прыстаня, ні адчэпісса ад яго. Гібулічы.

**Надво'рны** прым. Надворны, такі, якога яшчэ не паставілі на адкорм. Гэты паршук у міне надворны, цеста ні даю. Кашэўнікі. Свіня пакуль надворна, мякіну даю з бульбай. Лікоўка.

**Надвячо'ркам** прысл. Надвечар, пад самы вечар. Надвячоркам толькі з'явіўса, а так цэлы дзень недзі прападаў. Батароўка.

**На'дзелень** прысл. У значэнні: зрываць недаспелым /пра садавіну/. Як у пасылку, та я грушы надзелень зрываю, пакуль зойдуць — якраз даспеюць. Каленікі.

**Надсе'сціса** зак. Стаміцца, змагчыся, прыстаць. Можа ж і сам зрабіць, а то баіцца, каб надсесціса. Свіслач.

**На'дто** прысл. Надта, звыш меры, празмерна, вельмі, у вялікай ступені. Натто цікавы, як Марцін да кавы /прымаўка/. Карозічы. Як я бачу, та ты натто ж мондры. Лапенкі.

**Наду'ндзіцца** зак. Напіцца /груб./. Дала цыцкі дзіцяці, та ў мэмант надундзілаcо і во спіць. Дарашэвічы.

**Наду'цько** м. Нездаволены, надзьмуты чалавек. Надуцько нейкі, ходзіць надуўшыса, нігды яму ні світая. Казіміроўка.

**Надэ'бацца** зак. Нахадзіцца, натопацца. Баба каля хаты нічого цяжкаго ні робіць, а за цэлы дзёнь надэбаяцца, ледво ногі валачэ пад вечар. Кавалічы.

**Нае'сціса** зак. Наесціся. Я ні стараюса наесціса, ні хачу, каб жвот рос. Малахавічы.

**Нажаня'та** мн. Ножкі /дзіцяч. слова/. Ідзі да печкі, Пецік, нажанята свае пагрэй, а то скарчанеў чысто. Гарны.

**Нажачо'ны** м. Кавалер, залётнік. У нашай Гэлі нажачоны ўжэ есть, можа калі і вяселя будзя. Квасоўка.

**Нажу'тка** ж. Верхняя жаночая вопратка /устар./. Помню, мажутку такую пакойніца мама насіла. Канчатка. Нажуткі аксамітныя былі, нікаторыя сінія, нікаторыя малінавыя, іх настаяшчыя дзяўке насілі.Казіміроўка.

**Назапа'сіць** зак. Назапасіць, нарыхтаваць вялікую колькасць. Перат свято, бывало, стараемса назапасіць сечкі на цэлы тыдзень, каб святам ні рэзаць. Эйсманты.

**Наза'ўтро** прысл. Назаўтра, на наступ-

ны дзень. Ці ты ведаяш, што назаўтро нам калейка каровы пасвіць? Клачкі.

**Назі'мка** ж. Азіміна, рунь, пасевы азімых збожжавых культур. Назімка ў гэтым року добра, глядзі, рунь аш паслалася. Ліхачы.

**На'зіркам** прысл. Пазіраючы ад часу. Лесу ні ўпільнуяш назіркам, трэбо добро пільнаваць, кап парупкі ні было. Зарубічы. Іван ішоў першым, а я за ім назіркам. Малая Жорнаўка.

**Назо'ўтра** прысл. Назаўтра, на наступны дзень. Назоўтра, казалі, знайшлі бурку на дарозі, ніхто з дзеда яе ні здымаў, сам згубіў. Копанікі.

**Наканава'но** дзеепрысл. Вызначана лёсам; наканавана. Яму ўжэ даўно наканавано было скруціць голаў, і скруціў. Свіслач.

**Наказа'не** н. Кара, пакаранне; бяда, гора. Во наказане з готым хлопцам, вучыцца аніяк ні хоча. Каўпакі.

**Наказа'ць** зак. Наказаць, паведаміць. Трэбо нашым наказаць, хай у госці прыедуць. Каўпакі. Накажыця нашым, хай прыедуць выбіраць бульбу. Баранава.

**Накара'ць** зак. Пакараць, падвергнуць пакаранню. Ідзі накарай яго, а то ніяк ні слухая мацеры. Сухаўляны.

**Накіда'ць** незак. Накіда'ць, накладаць. Пойдзем гной накідаць, во, фурманкі ўжэ прыехалі. Чашчаўляны.

**Накла'д** м. Накладка з сухіх карэнняў пырніку на верх страхі. Я, бала, як зраблю наклад, прывяжу жэрткамі, та ніяка бура ні ззарве. Казіміроўка.

**Нако'нт** прыназ. Наконт /каго-чаго /. Наконт тых грошай, браток, ні пытай, прапалі дый годзі. Лойкі.

**Наладава'ць** зак. Налажыць, накласці, напакаваць. Наладаваў поўны воз збожа, глядзі, конь ні пацягня. Каўпакі.

**Налажы'цца** зак. Налаўчыцца, набыць навык, навучыцца. Але ж і панамэнчыўсо, пакуль налажыўсо вырабляць гаўчыны, ціпер зусім другое. Сухая Даліна.

**Наліза'цца** зак. Напіцца дап'яна /неадабр./. Здаецца, трохі выпіў бы, а то наліжацца, як свіня, і паўзе дахаты. Зарубічы.

**Налы'гацца** зак. Наесціся больш, чым трэба /груб./. Налыгаўсо клецак, а ціпер хварэяш, жвот баліць. Тужаўляны.

**Наляга'ць** незак. 1. Налягаць, націскаць, навальвацца. Стол можаш паламаць, налёг, аш трашчыць. Рагачы. 2. Настойваць, дамагацца. Каб ні налягаў на яго, та ён інстытута ні кончыў бы. Кунцаўшчына.

**На'маразні** мн. Намаразні, падоўжныя бруські, якія набіваюцца на капылы ў санях. Як моцны мароз, та намаразні аш трашчаць у санях. Карозічы. Намаразні на капылэ набіты, каб ні расходзіліса. Каленікі.

**На'маразь** ж. Намаразь, асадак снегу, падобны на шэрань, які ўтвараецца ў сырое надвор'е. На дзераве намаразь велька была, галіны паламаліса, ні вытрымалі. Галаўнічы.

**Намаўля'ць** незак. Падгаворваць, падбухторваць, навучаць. Ні трэбо дзіцей намаўляць, каб біліса, гэдак ніхто ні робіць. Гібулічы.

**Намы'рснік** м. Пралада ў выглядзе шырокага раменьчыка з замацаванымі вострымі цвічкамі, якую надзяваюць цяляці на мысу, каб не магло ссаць карову. Надзень намырснік цяляці, а то і зноў ссе карову. Забагонікі.

**Намэ'дрыкі** мн. Набэдрыкі, набедрыкі, набадры. Намэдрыкі заказвалі ў рымара, самы ні шылі. Круглікі. Намэдрыкі надзявалі на каня, кап хамут на шыю ні налазіў, як з гары едзяш. Паганы. Папраў намэдрыкі, а то могуць з'ехаць. Рыдзялі.

**Намэ'трыкі** мн. Набэдрыкі, набедрыкі, набадры. Помню, як тато намэтрыкі прывёз са Скідаля, там заказваў. Свіслач.

**На'нач** прыс. Нанач, на ўсю ноч. Бывало, дасі коням, каровам нанач, а тады ўжэ ідзеш да мушчын на пасядушкі. Лікоўка.

**Нані'ц** прысл. Зусім, цалкам. Як узяўса, та хлопца наніц збіў, аш шкада стало. Путна.

**Нао'тляй** прысл. Наводмаш, з размаху. Казюк ішоў, а потым як урэжа наотляй

паліцыянту па мадзгаўні, та той і паляцеў. Зарубічы.

**Напа'д** м. Нападзенне чужых пчол на вулей з мэтай грабяжу. Як напад, та бяда, трэбо ратаваць, іначай засякуць пчол і мёд забяруць. Батароўка.

**Нападарэ'ндзі** прысл. Побач, паблізу, пад рукамі. Ні руш, хай стаіць войдзяка, нападарэндзі, каб можно было ўзяць. Лікоўка.

**Напа'рнік** м. Напарнік, сябра. Ашчэ мой напарнік жыве, што разам рабілі на бровары. Гібулічы.

**Напаро'цца** зак. Сутыкнуцца, сустрэцца неспадзявана з кім-небудзь нежаданым. Ішлі мы тады доўго лесам, баяліса, каб на немцаў дзе ні напароцца. Жукевічы.

**Напа'сці** зак. Натрапіць, набрысці, выпадкова знайсці. Той рок у лесі як напалі на ягады, та па цэламу вядру набралі. Зарубічы.

**Наперако'р** прысл. Наперакор, насуперак. Ну і баба, что ні скажы, яна табе ўсё наперакор. Гібулічы.

**Напіры'ць** зак. Набіць, налупцаваць / груб./. Здаецца, напірыў, як каня, а ён усероўно свае робіць. Хамякі.

**Напі'хач** м. Той, хто многа есць; абжора. Некі напіхач, жарэ ні ў свае духе, і ўсе яму мало. Свіслач.

**Напо'зранкі** мн. Ранішняя пасьба. Ашчэ жаўруке ні спяваюць, а мы ўжэ коні вядзем напозранкі. Кунцаўшчына.

**Напрало'м** прысл. Напралом, не лічачыся з перашкодамі. Кінуўса напралом, як шалёны які, старых параспіхаў. Каленікі.

**Напу'гацца** зак. Нахлябацца, насёрбацца /груб./. Дзеці мае напу'гаюцца вечарам зацеркі і спяць, як забітыя. Круглікі.

**Напу'дзіць** зак. Напалохаць, напужаць. Іван як напудзіў яго, та той уцякаў, аш шапку згубіў. Тарусічы.

**Напу'чыцца** зак. Утаропіцца, уставіцца позіркам. Сядайце, цётку, чо на міне так напучыліса, я тут ні прычом. Ласосна.

**Напяхо'ту** прысл. Пяшком, пеша. Мне некалі напяхоту ні страшно было хадзіць, а ціпер і аўтобусам ні магу ехаць. Гарны.

**Нараві'сты** прым. Наравісты, упарты, з норавам /пра коней/.У бацькі наравісты конь быў, дэраж; як станя, ані з месца, хоць ты яго забі. Рацічы.

**Нараві'ць** незак. Наравіць, старацца дагаджаць. Наравіць усім — ні ўнаровіш, усероўна будуць казаць, што кепская была. Шчэчынова.

**Нара'зе** прысл. Пакуль што, нейкі час. Наразе пахадзі ў старым каптане, а потым зробім новы. Хліставічы. Ні руш, хай наразе тут пабудзе, а потым перавядзем у другі хлеў. Рацічы.

**Нарака'ць** незак. Наракаць, выказваць крыўду, нездавальненне; скардзіцца. Яму на сваіх дзіцей німа чо наракаць, яны і так задобрыя да яго. Адэльск. Купляй, добра карова, наракаць ні будзяш. Вялікая Жорнаўка.

**На'расць** ж. Нарасць, нараст, ненармальнае патаўшчэнне. Моцна ўдэрыўсо нагой, мусі, нарасць будзе якая. Няцечы.

**Нарвава'ць** незак. Раздражняцца, нервавацца. Табе ні можно нарваваць, а то і зноў даўлене патскочыць. Адэльск.

**Наро'г** м. Нарог, частка плуга, якая падразае зямлю знізу; жалезны наканечнік у сахі. Нарог зусім у каменях ступіўсо, ні гарэ. Селюкі.

**На'рты** мн. Лыжы. Нарты як натрэш воскам, та зусім іначай ідуць, ні чуваць пад нагамі. Занявічы.

**Наружава'цца** зак. Падмалявацца, падфарбавацца. Марыся як ішла на сход, та наружуецца і сядзіць на першай лаўцы. Лікоўка.

**Нарця'рка** ж. Від зімовай шапкі /устар./. Некалі шапку-нарцярку купіў, во, та і ціпер нашу. Рацічы.

**Нарыва'ць** незак. Нарываць, апухаць і нагнойвацца. Пята пачала нарываць, ужэ трэцю ноч ні сплю, мэнчусо. Лойкі.

**Нарэ'чанька** ж. Танец, быў пашыраны на Гродзеншчыне да вайны. Помню, усе нарэчаньку скакалі і сабе падпявалі: «Выйду я на рэчаньку, гляну на сяло — усе людзі гуляюць, мне ні весяло «. Гарны.

**Наса'джваць** зак. Насаджваць, насаджаць. Бураке чамусці нікаторыя засохлі, трэбо новыя насаджваць. Няцечы.

**Насаке'рыцца** зак. Варожа наставіцца. Я, здаецца, нічога яму ні сказаў, а ён, бачу, насакерыўсо, глядзіць воўкам. Кунцаўшчына.

**Наса'ч** м. Чалавек з вялікім носам /зневаж./ Кап хто люцкі насміхаўсо б, а то гэты насач. Баброўнікі.

**Насе'нка** ж. Насенная бульба. Насенка добра, бо много ямачак на кожнай бульбіне. Дарашэвічы. Мы кожны рок насенку ў капец сыплем і добра з зімы выходзіць, сухая. Квасоўка.

**Насе'ннік** м. Насеннік, расліна або плод, пакінуты на насенне. Гурке ўсе выбралі, тулькі во адзін насеннік жоўты ляжыць, даспявая. Каўпакі.

**Насе'нніца** ж. Старая насенная бульба, якая праляжала ў зямлі да восені і не згніла. Я ніяк ні магу адрозніць насенніцы ад новай бульбы, разам кідаю ў кошык. Свіслач.

**Насе'нны** прым. Насенны. Чысто рукі паапорваяш, пакуль насенны лубін парвеш, так цяшко было рваць. Фенькава.

**Насі'лу** прысл. Насілу, з вялікімі цяжкасцямі, ледзь-ледзь. Насілу дахаты дапоўз, думаў: ні дайду. Пракопавічы.

**Наскава'ць** зак. Нацкаваць. Як наскаваў сабаку на свіней, та чысто вушы пааббываў. Старая Дубавая.

**Наскро'зь** прысл. Наскрозь. Як даў дождж, та наскрозь прамок, сухой нітачкі на ім ні было. Цвіклічы.

**Наско'кам** прысл. Мімаходам, наездам, выпадкова. Вот, часам наскокам, заглянеш да бацькоў, а так ўсе часу німа. Балічы.

**Наскраба'ць** зак. Наскрэбсці. Бульбы наскрабаць ні цяшко, возьмеш ды наскрэбяш, пакуль маці прыдзя. Лугавая.

**Наслядзі'ць** зак. Наслядзіць, набрудзіць. Падлогу вымыла, а ён прайшоў і зноў наслядзіў, узірацца німа як. Зарыца.

**Насме'х** прысл. Для смеху, жартам, насмяхаючыся. Гэта я сказаў насмех, а ты ўжэ і паверыў. Лікоўка. Ён ўсё робіць насмех, абы жывей, абы-як. Кавалічы. Курам насмех — дрэнна, абы-як. Пабудаваў адрыну курам насмех, ці ж гэта адрына? Баяры.

**Насо'ўвацца** незак. Нахадзіцца. За цэлы дзень насоўваяшса каля хаты, ног ні чуяш. Тумашы.

**Насталі'ць** зак. Загартаваць, надаць цвёрдасць /пра жалеза/. Як добра насталіць нож у плузі, та ні так сядая, ні туліцца. Кавалічы.

**Наста'рчыцца** зак. Настарацца, забяспечыць. Дзецям аднаго тулькі абутку ні настарчышса, ні тулькі чаго. Рагачы.

**Настая'шчы** прым. Сапраўдны. Бярэця, гэта настаяшчы ліповы мёд, ні падроблены, каб я так здарова была. Круглікі.

**Насто'льнік** м. Настольнік, абрус. У нас настольнікі ткалі ў пяць нічальніц, харошыя такія. Лойкі. Настольнікам усе хлеб накрывалі, каб мухі ні лезлі. Сухары.

**Настра'мак** м. Невялікі воз сена, саломы. Якое там сено было на Грайні, прывязеш настрамкаў два і ўсё. Кунцаўшчына.

**Настру'г** м. Струг, нож з дзвума ручкамі для вырабу клёпак. Наструг з добрай сталі, та зусім іначай стругаць, другая работа. Азеркі, Грандзічы.

**Настрэ'нчыць** зак. Нараіць, параіць, парэкамендаваць. Я табе настрэнчыў добраго чалавека, будзяш век успамінаць міне. Няцечы.

**Настыбу'рчыцца** зак. 1. Адтапырыцца. Каўнер кравец некі ніўдачны зрабіў, настыбурчыцца, ніяк ні прылягая. Жукевічы. 2. Варожа аднесціся, паставіцца. Чаго ты настыбурчыўсо, цібе ж ніхто ні чапае? Лікоўка.

**Насты'рлівы** прым. Настойлівы, напорысты. Настырліва дзеўчына, тры разы і паступала ў нісцітут, аш пакуль сваго ні дабіласа, паступіла. Кунцаўшчына.

**Насты'рны** прым. Настойлівы, напорысты. Чалавек настырны быў, што ні задумая, так і зробіць. Аульс.

**Насу'піцца** зак. Насупіцца, прыняць пахмурны выгляд. Ты чо гэта насупіўсо, ні падабаецца, што маці сказала. Дубаўка.

**Насы'пка** ж. Насыпка, ніжняя навалачка падушкі. На насыпкі набрала, а то зусім парваліса, пер'е вылазіць. Клачкі.

**Натармо'ліць** зак. Наліць чаго-небудзь звыш меры. Натармоліла ў зацерку аднаго малака і кажа: еш! Каўпакі.

**Нато'ўп** м. Натоўп, грамада. Глядзі, на гуліцы некі натоўп людзей, мусі, здарыласо нешто. Белева.

**Натрапа'ць** зак. 1. Набіць, палупцаваць. Енчыў на ўсю хату, пакуль ні натрапала, ціпер во спіць. Хамякі. 2. Нагаварыць няпраўду, напляткарыць. Ты ей ні вер, яна табе натрэпля чаго хочаш, гэта такая баба. Кавальцы.

**Натрусі'ць** зак. Параскідаць, натрэсці, насмяціць. Натрусіў на падворку саломы, а пазбіраць німа каму. Балічы.

**Нату'ра** ж. Натура, характар. У Івана добра натура: колькі жывем, ні разу ні пасварыліса. Зарубічы.

**Наты'хмяст** прысл. Неадкладна, тэрмінова. Ідзі і натыхмяст мне прынясі тое, што ўзяў, бо кепско будзе. Каўпакі.

**Наўга'д** прысл. Наўгад, не будучы цвёрда ўпэўненым. Наўгад сказаў і якраз папаў у тахт, як трэбо. Лаша.

**Наўза'вады** прысл. У значэнні: галопам, хуткім алюрам, наўскач. Як вадзілі пасвіць коні, та часто наўзавады ездзілі, хто каго перагоніць. Кунцаўшчына.

**Наўздаго'н** прысл. Наўздагон. Нека хурманка наўздагон палямкацела за абозам. Лаша.

**Наўзна'к** прысл. Дагары, на спіне тварам угору. Ляж, сынок, наўзнак, можа, заснеш, будзя ляхчэй. Рудавіцы.

**Наўмы'сне** прысл. Наўмысна, наўмысля, з намерам, свядома. Нідавярак, усе робіць наўмысне, кап толькі прычыну знайсці, пасварыцца. Рацічы.

**Наўпрастке'** прысл. Нацянькі, па прамой лініі, найкарацейшым шляхам; наўпрост. Калі пойдзяш наўпрастке, сцежачкай, та брод тут нідалёко. Занявічы.

**Наўра'д** прысл. Наўрад, мала верагодна. Наўрад ці праз гэта балото можно прайсці, тут такая калма'ччына, дзікія качке адны водзяцца. Верцялішкі.

**Наўро'д** м. У значэнні: упарты, напорысты, настырлівы /пра дзіцей/. Наўрод некі ні дзіця, як надумаецца чаго — рады німа. Баброўнікі.

**Наўрэ'цца** зак. Захацець. Як наўрэцца займець джынсы, та будзя за табой тыдзянь хадзіць, пакуль ні купіш. Круглікі.

**Наўскася'к** прысл. Наўскасяк, па дыяганалі. Дарога на Балічы ішла наўскасяк рэчкі, а ты пашоў просто. Кунцаўшчына.

**Наўсты'дзіць** зак. Пасароміць. Ідзі наўстыдзі яго, можа цібе паслухае, старэйшаго, ні будзя так рабіць. Круглікі.

**Нафурава'ць** зак. Налажыць, накласці звыш нормы. Нафуравалі на воз стольні збожа, а як яго давязці па такой дарозі? Рагачы. Але ж і нафураваў хварасту, глядзі, каб ні выверлнуўса. Лаша.

**Нафуфы'рыцца** зак. Прыбрацца, прыхарашыцца з выклікам. Нафуфырыўсо, як паўлін, і прышоў на гуляне. Лікоўка.

**Нахваро'бу** прысл. Нашто, для якой патрэбы. Нахваробу ёй такі мужык здаўсо, каб на яго ашчэ рабіць. Ферма.

**Нахля'цца** зак. Нахлябтацца, напіцца гарэлкі, віна /груб./. Бяда з ім, нахляяцца кожны раз і лезя, людзей ні ўстыдаяцца. Гродна.

**Наце'шыцца** зак. Нацешыцца. Дзіця, мусі, нацешыласо цацкай, калі кінуло. Бычкі.

**Нацкава'ць** зак. Нацкаваць. Надаелі гэтыя суседскія свіня, трэ сабакамі нацкаваць, хай папаганяюць. Палаткова.

**На-цю-на!** часц. Вокліч, якім падзываюць сабаку. На-цю-на! На-цю-на! — хадзі, Жучок! Малая Жорнаўка.

**Нацяв'іч** м. Бандарная прылада для нацягвання жалезных абручоў. Быў у міне добры нацявіч, але зламаўса, а гэты — ні тое. Бандары.

**Нацяг'іч** м. Бандарская прылада для нацягвання абручоў. Як добры нацягіч, та габруч сам на месца сядая. Азеркі, Грандзічы.

**Начава'цьміце** незак. У значэнні: думаеце начаваць. Ужэ позно ехаць, у нас начавацьміце? Мігова.

**На'чай** прысл. Інакш, іначай. Ціпер начай сталі людзі жыць, кожны мая сваё грошы, можа зарабіць. Лаша.

**Начва'ч** м. Чалавек з вялікім жыватом /груб./. Начвач гэты, жвот, як начоўкі, ледво паўзе. Жылічы.

**Начле'г** м. Начлег, пасьба коней ноччу. Як малым быў, та натта любіў вадзіць коней на начлег, хоць тато ні пускаў. Лаша. Мой дзед казаў, што ён адзін валоў ганяў на начлег, ні баяўсо. Лікоўка.

**Начмуці'ць** зак. Абмануць, увесці ў зман; адурманіць. Дзядзька гэты начмуціў, ні верце яму. Цыдовічы.

**Начо'вачкі** мн. Начоўкі /памянш./ Найлепшыя начовачкі з ліпы і з асіны нікепскія, яны такія лехкія. Азеркі.

**Начо'ўкі** мн. Начоўкі. Бывала, баба возьмя начоўкі, наліе вады цёплай з рамонкам і дзіця сабе купая. Эйсманты.

**Начэ'не** н. Начынне, інструмент, прылада. Было столькі начэня, а ціпер німа, дзеці парасцягалі. Дзекалавічы.

**Нашарма'к** прысл. Недобраякасна, абы-як, як папала, неахайна; нядбала. Ен ні майстар, усё робіць нашармак, абы грошы ўзяць. Батароўка.

**Нашто'** прысл. Для чаго, для якой мэты. Нашто гэта рабіць бес патрэбы? Дубоўка. Нашто здацца — нашто спатрэбіцца. Нашто здаўсо мне гэты стары, я і без яго пражыву. Квасоўка.

**На'шча** прысл. Нашча, не еўшы нічога. Кап кроў у голаў ні біла, та я ем нашча адну грушу і добра чуюса. Зарубічы.

**Неаспа'лы** прым. У значэнні: той, хто мае звычку рана ўставаць і працаваць. Чалавек неаспалы, ашчэ чэрці на кулачкі ні сходзіліса, а ён ужэ нешто робіць. Жылічы.

**Неаха'йны** прым. Неахайны, нячысты, брудны. Неахайна баба, лажке ні памыя, а так і падае дзецям. Баля Сольная.

**Небара'ка** м., ж. Небарака, няшчасны чалавек. Небарака, сколькі бедаў перажыў, а ціпер ўжэ яму нічого ні трэбо. Дарашэвічы.

**Не'бо** н. Неба. Глядзі, як небо завалаклі хмары, каб бура якая ні была. Кунцаўшчына.

**Не'вад** м. Невад, вялікая рыбалавецкая сетка. Цэлы дзень як папацягаеш невад, та і рыбы той ні захочаш. Балічы.

**Невыбрэ'дны** прым. Неразборлівы ў ежы. Ён у ядзе невыбрэдны, што ні дасі — ўсё з'есць. Рыдзелі.

**Негаджа'й** м. Неахайны. Негаджай некі, каб ні жонка, та прапаў бы, згніў бы. Рацічы.

**Недавя'рак** м. Бязлітасны, жорсткі чалавек; ліхадзей. Недавярак гэты пакінуў сваю сям'ю і павалокса па свету. Каўпакі. Гэты недавярак збыткуецца нат старымі; кажуць, есці ні дае. Пракопавічы.

**Недае'дкі** мн. Рэшткі няз'едзенага; недаедзеныя кавалкі. Гэта нечыя недаеткі, есці ні буду. Жылічы.

**Недалэ'нга** м., ж. Няўклюда, слабы, хваравіты чалавек. Недаленга нека, ні да танца, ні да ружанца, толькі таго што жыве. Казловічы.

**Недапе'чаны** дзеепрым. Перан.: вялы, бязвольны, прыдуркаваты. У яе мужык некі недапечаны, ідзе і спіць. Круглікі.

**Не'дарадзь** ж. Недарод, неўраджай. Недарадзь: каласэ ў жыці, як мухі, аткуль той умалот будзя. Барбарычы.

**Не'дарасль** ж. Недаразвітая садавіна. Недарасль на яблынях найдаўжэй трымаецца, нават на зіму застаецца. Лаша.

**Недарэ'ка** м. Слабы, хваравіты чалавек; няўклюда. Ні дзіця, а нека недарэка, на адных леках жыве. Хамякі.

**Недасе'к** м. Загана ў даматканым матэрыяле, недабой бёрдам нітак ўтка'. Брытко каму паказаць кужаль, недасекаў нарабіла ткучы. Бброўнікі.

**Недасо'л** м. Недасол, недастатковая салёнасць. Нідасол — на стале, а перасол — пад сталом /прымаўка /. Агароднікі.

**Недацё'па** ж. Няўклюда, слабы, хваравіты чалавек. Яна сама бачыла, што недацёпа, але ж багаты быў, таму і вышла за яго. Свіслач.

**Незграбо'ця** ж., м. У значэнні: нязграбны, няскладны чалавек. Бацькі пекныя, а яна вот нізграбоця, і ў каго ўдаласа? Баяры.

**Не'йдзе** прысл. Недзе, дзесьці. Нейдзе чуў звон, ды ні ведае, дзе ён /прымаўка/.Хамякі

**Неймаве'рны** прым. Неймаверны, неверагодны, небывалы, незвычайны. Чалавек ён быў неймавернай сілы, кажуць, кабылу падымаў. Сухая Даліна.

**Не'кі** займ. Нейкі, якісьці. Ля, некі чалавек да нашых прышоў, стаіць пат хатай. Горніца.

**Не'ктар** м. Некта'р. У тым року грэччына цвіла, але ні адна пчала ні села: халадно было, нектар ні выдзяляўсо. Сыпаная Гара.

**Немажлі'ва** прысл. Немагчыма. Гэта немажліва, каб ён чужое ўзяў, ён ні такі чалавек. Кузьмічы.

**Не'мач** ж. Недамаганне, хвароба. Каб цібе немач узяла ды каб ты ні вытрымаў /праклён/. Круглікі.

**Не'мчык** м. Дэталь у калаўроце ў выглядзе лапкі, якая прыводзіць у рух вялікае кола. Як спадзе немчык, так калясэ і стане, прасці ні будзяш. Лікоўка.

**Не'мы** прым. Нямы, пазбаўлены здольнасці гаварыць. У нас быў немы каваль, нямком празывалі. Круглікі.

**Непасе'да** ж. Непаседа, рухавы чалавек. Яна як была, так і ціпер непаседа, хоць і старая, усе недзе бяжыць, нешто робіць. Дарашэвічы.

**Непасе'длівы** прым. Непаседлівы, рухавы. Ён непаседлівы, дзе яго чорт ні насіў, усю Сібір аб'ехаў. Кунцаўшчына.

**Непуцё'вы** прым. Бесталковы, недарэчлівы. Гэта чалавек некі непуцёвы: як станя гаварыць, та сто вёрст да нібёс ды ўсе лесам. Лаша.

**Не'раст** м. Нераст. Як нераст настаня, та шчупаке каля берагоў просто стаяць, хоць рукамі бяры. Баброўнікі.

**Не'рат** м. Нерат, сплеценая з лазовых дубцоў рыбалоўная снасць у выглядзе доўгага конуса, ве'рша. Папаўсо ў нерат — ні ўзад ні ўперад /прымаўка/. Свіслач. Ціпер нератам рыбы ніхто ні ловіць, ні можно, надзор забараніў. Селюкі.

**Неўзнача'й** прысл. Незнарок, выпадкова, ненаўмысна, ненарокам. Ні гневайса, я цібе ніўзначай піхануў, ні бачыў. Бяляны.

**Не'хлюй** м. Неахайны чалавек. От нехлюй, рук нават ні памыя, так за стол і прэцца. Кунцаўшчына.

**Не'чаго** займ. Нечага. Нечаго хочацца з'есці, і сама ні ведаю чаго. Барбарычы.

**Нібо'йсь,** нібось часц. у значэнні пабочн. сл. У значэнні: напэўна, відаць; ужо ж, вядома /ужываецца для ўзмацнення зместу/. Нібось, пазнаяш гора, як таткі ні будзя. Ферма. Нібойсь, ты думаеш, што табе цёнгля гэдак будзя: прыдзяш — і ўсё гатова? Свіслач. Нібойсь, мінуліса тыя рачке, што выпіралі бачке. Хамякі.

**Ні'ва** ж. Сялянскі надзел зямлі. У ніве дванаццаць дзісяцін зямлі, а ў ніканторых вёсках, як у Агародніках, — па дзевяць. Квасоўка.

**Ніве'стка** ж. 1. Нявестка, жонка сына. Хлеб ні нівестка, які ўдасца, такі і з'есца /прыказка/. Рудавіцы. Разам жывем у адной хаці з нівесткай і сынам, ашчэ ні разу ні пасварыліса. Свіслач. 2. Нейкая пакаёвая кветка. Нівестка нешто зацвіла, уся ў беляныкіх кветачках. Рагачы.

**Ніво'тлы** прым. Слабы, хваравіты. Стася наша нівотла была, да трох рок ні хадзіла і ні гаварыла. Свіслач. Бычок некі нівотлы, усе каровы пойдуць, а яго трэбо падганяць. Дарашэвічы.

**Ніві'гадно** прысл. Нявыгадна. Перадойку-карову нівыгадно дзяржаць, малака ні будзяш мець. Віцькі.

**Ні'гды** прысл. Ніколі. Нігды таго ні было, кап скакало памяло /прымаўка/. Няцечы. На святыя нігды — у значэнні: ніколі, ні ў які іншы час. Гэта было на святыя нігды. Кунцаўшчына.

**Ніге'глы** прым. Кволы, слабы, няўдалы. Такое ўжэ ўдалосо нігеглае дзіця: чуць што — так і зноў хварэя. Пагараны.

**Нідалэ'нга** м., ж. Слабы, хваравіты чалавек. Ён зроду такі нідалэнга, што вы хочаце ад яго. Баранава.

**Нідара'йда** ж., м. Някемлівы, няўмелы чалавек, недарэка. Нідарайду гэтаго і да войска нават ні ўзялі, нідзе ён ні служыў. Рагачы.

**Нідаро'стак** м. Нідаростак, чалавек нізкага росту. Які з яго кавалер, ашчэ

нідаростак, ні адна дзеўка з ім ні пойдзя. Віцькі. Нідаростак хлопяц, аніяк рошчы яму німа, гэта ж дваццаты рок яму пайшоў. Пад'ятлы.

**Нідарэ'чны** прым. Недарэчны, неразумны, бяссэнсавы. А колькі нідарэчнаго натварыла яго дурная галава і, глядзі, жыве і другіх ашчэ вучыць. Пракопавічы.

**Нідба'йлік** м. Нядбайны, бесклапотны, лянівы чалавек. Як мужык — нідбайлік, гэта ашчэ паўбяды, а як п'яніца пападзе — зусім прападзеш. Балічы. А п'яніца-нідбайлік у карчме п'е, а як прыдзе дадому, жонку б'е /з нар. песні/. Свіслач.

**Нідзе'ля** ж. Нядзеля. Знаем-знаем бес папа, што ў нідзелю свято /прымаўка /. Лікоўка. Правадная нідзеля — рэлігійнае свята, першая нядзеля пасля вялікадня. На правадную нідзелю трэбо яец нафарбаваць, на магілкі занясці. Зарубічы.

**Нідо'бро** прысл. Дрэнна. Гэдак нідобро рабіць, людзі сміяцца будуць. Аульс. Табе, мусі, нідобро, дзетка, галоўка баліць? Лаша.

**Нізго'ршы** прым. Нядрэнны, някепскі, неблагі, даволі добры. У гэтым року ўраджай нізгоршы быў, німа чо казаць. Каўпакі.

**Нізграбо'це** н. Нязграбны, няўклюдны чалавек. Нізграбоце гэта, куды тут яму да хлопцаў раўняцца. Баранава.

**Нізгрэ'ба** ж., м. Няспрытны, няўмелы, нязграбны чалавек. Нізгрэба хлопец, нічого да яго ні прыстае, адзежа і тая ляжыць ні так, як трэбо. Баркі.

**Нізда'ра** ж., м. Той, хто пазбаўлены здольнасці да работы, няўмека. Гэты ніздара за ўсё бярэцца, а толкам нічого ні зробіць. Солы.

**Нізда'тно** прысл. Непрыгожа, нядобра, непрыстойна. Гэдак ніздатно рабіць, ні па-людску. Лаша.

**Нізда'тны** прым. Непрыгожы, непрыдатны. Купіла хусцінку, ды, кажуць, ніздатна, зацёмная. Вулькаўцы.

**Ні'зкі** прым. Нізкі, малы па вышыні. Ён быў ніскі, але моцнага складу, любы мяшок на плечы браў і нёс. Каленікі. Нізкі на вочы — блізарукі. Ён ніскі на гочы, добро ні бачыць.Забагонікі

**Нікагу'сенькі** займ. Нікога /узмацн./. У хату ні ідзеце, там нікагусенькі німа. Лаша.

**Нікагу'тко** займ. Нікога /узмацн./. Ашчэ зусім рано, на гуліцы нікагутко ні відаць. Кунцаўшчына.

**Ніко'лечкі** займ. Ніколькі /памянш. — ласк./. Ашчэ ніколечкі ні чула, каб мне ногі балелі, а ціпер баляць. Палаткова.

**Нікуды'шні** прым. Нікуды не варты, дрэнны. У нас палова нікудышняй зямлі была, а ціпер вун там якая пшаніца расце. Белева.

**Нікчэ'мны** прым. Нікчэмны, нігодны. Што і казаць, гэта нікчэмны чалавек, на што хочаш пойдзя. Хліставічы.

**Нілё'гкая** ж. Ліха, нячыстая сіла. Куды гэта цібе нілёхкая прэ ў такую пагоду? Лаша.

**Нілю'бы** прым. Нялюбы. Каго я люблю — лісточкаў німа, а ад нілюбаго шлюцца. /з нар. песні/. Свіслач.

**Нілю'дскі** прым. Нялюдскі, дрэнны, кепскі. Хлеб некі спякла нілютскі, есці німа як, ліпняцца. Балічы. Выган у нас нілютскі, адны купіны, трава аніяк ні расце. Ліцвінкі.

**Німа'** безас. у знач. вык.. Няма, не быць у наяўнасці, адсутнічаць, бракаваць. Купілі б лодку, але грошай німа, а ніхто задарам ні дасць. Дарашэвічы. Купіў бы вала, ды грошай німа /прымаўка/. Лаша. Німа адбою –у значэнні: занадта многа, больш чым трэба. Вядома, дзеўка багата, сватэ едуць і едуць, німа адбою. Літвінкі. Німа дурных /іран./ — не ашукаеш, не спадзявайся. Больш грошай ні пазычу, німа дурных. Віцькі. Німа зносу — доўга, добра носіцца. Добрыя купіў чаравікі, ужэ трэці рок нашу, німа ім зносу. Кашэўнікі. Німа інтарэсу — няма патрэбы. Туды ехаць ніка ніякаго інтарэсу, нічого там ні купімо. Славічы. Німа рады — не хапае сілы, магчымасці справіцца. Хлопяц пашоў у пустапаш, ні слухая нікого, німа з ім рады. Капцёўка.

**Ні'не** прысл. Сягоння, сёння. Ніне абавясково трэбо гной прыгараць, каб ні

перасох. Лікоўка. Ніне ніхто і ні паверыць, што некалі людзі хлеб з мякінай елі. Загорцы.

**Ніо'тлы** прым. Слабы, хваравіты. Малой неотлая была, а ціпер бачыш, што за дзеўка вырасла. Свіслач.

**Ніпана'дны** прым. Непрывабны, пазбаўлены прывабнасці. Хлопец ніпанадны, а глядзі, якую файну дзеўку ўзяў. Дубніца.

**Ніра'ха** ж. Неахайны чалавек. Здаецца, і ў людзях недзе быў, а як быў нірахай, так і астаўсо. Баранава.

**Нітрыва'лы** прым. Нетрывалы. Сіня цыбуля нітрывала, доўго ні ляжыць, гніе. Солы.

**Ніўзнача'й** прысл. Незнарок, выпадкова, ненаўмысна, ненарокам. Піхануў ніўзначай і ні думаў, што ўпадзеш. Свіслач. Я і ні думаў, а тут ніўзначай у начальнікі папаў. Каленікі.

**Ніўня'тно** прысл. Невыразна, незразумела. Нешто казаў ніўнятно, так я толкам і не разабраласа. Свіслач.

**Ніўпо'рны** прым. Няўчасны, несваечасовы /пра роды/. У Ганулі перша дзіця ніўпорна было. Колькі яна з ім папамэнчыласа, што ні рабіла — усероўно ні выжыло. Карозічы.

**Ніўсто'йка** ж. Няўстойка, устаноўлены дагаворам штраф за невыкананне адным з бакоў ўзятых абавязацельстваў. Я табе тады казала: ні пазычай грошай, а ціпер во ніўстойку плаці. Караневічы.

**Ніўтаймава'ны** прым. Неўтаймаваны. Гэты конь малады, ніўтаймаваны, баюса ў воз запрагаць. Копанікі.

**Ніхаро'зны** прым. Непрыгожы, непрывабны. Але ж і ніхарозны хлопец, і па кім ён пашоў. Славічы.

**Ніц** займ. Нічога. Ніц ні будзя, мой галубок, с свае хаты нікуды ні пайду. Кузьмічы. Ніц ні бэндзе, пане сэндзя / прымаўка/. Квасоўка.

**Ні'ці** мн. Ніці, тонка ссуканая пража. Як ткала, та ніці ў аснове натта ж рваліса, лён кепско спрадзены. Лугавая.

**Нічагу'ткі** займ. Нічога /узмацн./. А-ей, Манячка, мы нічагуткі з ім тут ні рабілі, ніхто яго ні крыўдзіў. Пракопавічы.

**Нічагу'тко** займ. Нічога /узмацн./. І хацела б даць што-нібудзь беднаму, але ў самой нічагутко німа, ледво жыву. Старая Дубавая.

**Ні'чальніцы** мн. Прыстасаванне ў кроснах з прутоў і ніцей для раздзялення асновы на дзве часткі. Як дзяўкамі былі, та выбі'рыстыя ро'дна ткалі ў шэсць і нават у восім нічальніц. Віцькі.

**Нічы'сцік** м. Чорт, нячыстая сіла. Дзед нам казаў, што нічысцікі найбольш у ветраках жывуць, памагаюць малоць. Грыўкі.

**Нішпо'ры** мн. Вячэрняя касцельная служба. Ля, ужэ ў касцелі на нішпоры зазванілі, пара ісці. Адэльск.

**Нішчата'** ж. Галеча, беднасць. У Забагоніках страшна нішчата была, ніхто бульбы свае ні меў. Забагонікі.

**Нішчы'мніца** ж. Нішчымніца, бясхлебіца, голад. Тады нішчымніца душыла, ні мелі чаго ў гаршчок нават усы'паць, галодныя хадзілі. Эйсманты.

**Нішчэ'мніца** ж. Тое, што і нішчымніца. Ціпер камбайнёрам на поле пачалі гарачыя абеды прывозіць, а некалі галодныя жалі, нішчэмніца мэнчыла. Сапоцкін.

**Нія'кі** займ. Ніякі, які б ні быў. Мы елі хлеб траякі: белы, чорны і ніякі /прымаўка/. Пагараны.

**Но'жна** мн. Ножны, вялікія нажніцы. У нас аш троя ножнаў было, што воўну стрыгчы, бо гавец много было. Ніжнія Пагараны.

**Но'саль** м. Той, у каго вялікі нос /зневаж./. Але ж і носаль, яго нос на семярых рос, а аднаму дастаўсо. Кунцаўшчына.

**Но'та** ж. Музыкальны слых, рытм, голас. Хацеў бы спяваці, дый ні маю ноты, кажушок падраны і дзіравы боты /з нар. песні/. Свіслач. У кампані з дзяўчатамі яна неяк цягне, а адна ні можа спяваць, ні мая ноты. Дзекалавічы.

**Ноч** ж. Ноч. Тая ноч цяжкая была, ледво перажылі. Скраблякі. Свентаянская ноч — ноч з 23 на 24 чэрвеня ст.ст. у католікаў, /тое, што і купальская ноч/. Нашу вёску таму і Свентаянск назвалі, што тут у ноч свентаянскую

хлопцы з дзяўчатамі збіраліса, вянкі на Нёман пускалі. Свентаянск.

**Но'чвы** мн. Доўгае карыта з бервяна для захоўвання мяса, сала. У ночвы ўлазіло ўсё мясо і сланіна, такія велькія былі. Гібулічы.

**Нуда'** ж. 1. Нуда, сум, туга. На хлопца нека нуда напала, начамі ні спіць, высах у трэску. Лаша. 2. Перан.: нудны, прыдзірлівы, надакучлівы чалавек, ныцік. Адчапіса ад міне, нуда, ляпей на сабаку глядзела б, чым на цібе. Дарашэвічы.

**Ну'даль** м. Скнара, скупердзяй. Гэты нудаль сам сабе есці шкадуя, ні толькі каму дасць. Кунцаўшчына.

**Ну'дзіць** незак. Нудзіць /пра млосны стан, які бывае перад рвотай/. Нудзіць нешто, мусі, бляваць буду. Пяслі. Нешто нідобрае ззеў, цэлу раніцу нудзіло, аш пакуль ні вырвало. Гарны.

**Ну'днік** м. Скнара, скупердзяй. Нуднік ты, чалавек табе добро зрабіў, а ты нават паўбутэлькі ні паставіў. Гібулічы.

**Ну'ртам** псысл. Ніцма, тварам уніз. Мусі, лёг нуртам, бо храпе на ўсю хату. Салаўі. Кап ты лёг нуртам ды ні ўстаў / праклён /. Кавалічы.

**Нутра'к** м. Нутрэц, самец жывёлы, які мае анамалію ў развіцці палавых органаў. Нутрака ні выхарашаеш, у яго адно яйцэ ўнутры. Каленікі. У нас у аднаго быў нутрак, та рады ні было, так лез да кабылаў. Кунцаўшчына.

**Нутраны'** прым. Нутраны, вынуты з нутра. Мы нутранае сало ні топім, а таўчэм і ложым у бойку. Луцкаўляны.

**Нутро'** н. Нутро, унутраныя органы; вантробы. Ні магу вытрымаць, ён мне ўсе кішке, усё нутро перавеў. Балічы.

**Ны'тко** прысл. Млосна, нядобра, моташна. Мусі, страва нісвежа была, неяк нытко стало, ныдзіць. Малая Альшанка.

**Ныць** незак. Ныць, балець. Сэрца пачало ныць, як на ўсё гэта паглядзела. Гожа.

**Нэк** м. Заіка. Ад гэтаго нэка нічого ні даб'ешса, будзе с паўгадзіны табе нэкаць, пакудь што скажа. Усенікі.

**Нэ'маць** незак. Красці. Відаць, і зноў недзя нэмаць пачаў, пакуль ні пападзецца. Індура. Прывык нэмаць, так і паглядая, дзе што нідобро ляжыць. Кунцаўшчына.

**Нэ'ндза** ж. Галеча, беднасць. Што і казаць, пасля вайны людзі доўго ў нэндзы жылі, потым усё паправіласо. Капцёўка.

**Ню'ні** мн. Слёзы /дзіцяч. слова/. Ты чо гэта нюні свае паказваеш, скрывіласа? Рагачы. Распусціць нюні — расплакацца, разжаліцца. Брытко, такая велька дзеўчына, а нюні распусціла, як дзіця. Зарубічы.

**Ню'хаўка** ж. Нос /груб./. Зараз як дам у нюхаўку, та дзісятаму закажаш. Балічы. Ты дзе гэта сваю нюхаўку суняш? Рагачы.

**Нядба'йліско** м., ж. Нядбайны, бесклапотны, лянівы чалавек /пагард./. Падло, нядбайліско гэты, каб ні цесць, та прапаў бы. Бычкі.

**Нядба'йліца** ж., м. Нядбайны, бесклапотны, лянівы чалавек /пагард./. Нядбайліцу неку ўзяў, ніц ні робіць, тулькі спіць. Казіміроўка.

**Нязбу'так** м. Валюш, валюшня, майстэрня, у якой валяць сукно, шэрсць. Да нязбутку ўсе ездзілі сукно валіць, і я з татам ездзіў. Круглікі.

**Ня'маць** незак. Есці /дзіцяч. слова/. Ціхо, дзецятко, зараз нямаць будзяш, кашкі дам. Кашэўнікі.

**Нямко'** м. Нямы, пазбаўлены здольнасці гаварыць чалавек. Нямко як пачне з татам гаварыць, на мігі паказваць, та мы аж заходзіліса ат смеху. Круглікі.

**Нямчу'р** м. 1. Немец, фашыст /пагард./. У канцэ нашаго палетка нямчур некі ляжаў забіты, та дзед потым закапаў. Баяры. 2. Негаваркі, маўклівы, замкнуты чалавек /зневаж./. Ён такі па натуры нямчур, будзя сядзець дзень і да свае жонкі ні акажацца. Гарны.

**Нямчуры'ско** м. Немец, фашыст /пагард./. Вязла прадаць трошкі яец і масла, та халернік нямчурыско перапыніў, усё забраў. Каўпакі.

**Ня'ня** ж. Мяса варанае /дзіцяч. слова/. Ні стэнкай, я табе няні зварыла, хадзі, будзяш нямаць. Панямунь.

**Нясу'шча** прым. Якая нясе шмат яек /

пра птушак/. Кубатаркі надаедлівы, але затое нясушчыя куры. Свіслач.

**Няўдо'бкі** мн. Няўдобіца; зямля, малапрыгодная для сельскагаспадарчых культур. Якая там у Берштах зямля, адны няўдобкі. Азёры.

**Няўжэ'** часц. пытальн. Няўжо, хіба. Няўжэ гэта праўда, што ты развёўсо? Быльчыцы.

**Няўло'мак** м. У значэнні: здаровы, дужы чалавек. Ты і сам няўломак, можаш зрабіць, а то спадзяесса, што за цібе хто зробіць. Бандары.

**Няўме'ка** м. Няўмелы, нядзатны да работы чалавек. Няўмека, кап штокольвячы ён сам мог зрабіць, а то нічога ні ўмея. Лікоўка.

**Няўро'кам** прысл. Ненаўмысна, выпадкова. Я тут няўрокам да вас заехаў, ні думаў заязджаць. Квасоўка. Няўрокам кажучы — каб не сурочыць, каб не ўрачы. Няўрокам кажучы ты добра выглядаеш на свае годы. Пяслі.

**Няхлю'йство** н. Неахайнасць, неакуратнасць.Няхлюйство ў іх страшна, у хату носа ні ўсуняш. Вялікая Альшанка.

# О

**О** выкл. 1. Вокліч, пры дапамозе якога выказваецца пачуццё здзіўлення, захаплення, абурэння. О, кап кожнаму так пажыцць! Асташа. 2. Ужываецца для ўзмацнення эмоцыі выказвання. О, як харашэ на дварэ, у хату ні хочацца заходзіць! Чарток. О ля — у значэнні: вось глядзі. 0 ля, які ты чалавек, гаварыў адно, а робіш другое. Хамякі.

**О'бад** м. Вобад, вонкавая частка кола, на якую нацягваецца шына. Обад на адным калясе зусім з'едзіўсо, трэбо новы нацягаць. Індура.

**О'берлюхт** м. Верхняя рама акна, якая адчыняецца для праветрывання хаты. Адчыні оберлюхт, хай дух свежы ў хату надыдзе. Аленічы.

**О'бруць,** гобруць ж. Аброць, прадмет вупражы, які надзяваецца каню на галаву. На гэтаго каня і обруць трэбо добру мець. Адэльск. Жарабяці яшчэ німа, а на яго обруць шыюць /прыказка/. Лікоўка.

**О'бцасам** прысл. Нахабна. Ты што, здурэў, обцасам лезяш на людзей, ні глядзіш ні вока ні бока. Рацічы.

**О'вад** м. Авадзень. Гарачыня, гоўца збіліса ў горбу, овад нападая. Пагараны.

**О'гер** м. Жарабец, непакладаны конь. Огер стаенны быў у пана, на ім ніхто ні ездзіў. Рагачы.

**О'гнік** м. Скураная хвароба ў дзяцей, пачырваненне скуры. Огнік кабеты самы лячылі: набярэ ў кузні вады, што раска'лянае жалезо кладуць, памыя, і огнік прападзе.Сапоцкін. Огнік лячылі самы, выпякалі лёнам. Лаша.

**Ого'** выкл. 1. Вокліч, які выказвае здзіўленне, захапленне. Ого, як ты вырас, ні пазнаць. Баброўня. 2. Ужываецца пры выказванні пярэчання. Ого, ёй сам чорт ні ўнаровіць, як ні рабі, та ўсё ні так. Агароднікі.

**О'дведы** мн. Адведкі, наведванне бацькамі засватанай дзяўчыны сям'і жаніха, знаёмства з яго гаспадаскай. Хадзілі ў одведы да маладого, паглядзелі, што мае. Караневічы.

**О'дпуст** м. Парафіяльнае свята ў каталікаў, фэст. На отпуст да Казловіч народу ўсялякаго збіраласо, фурманак ні было дзе паставіць. Батароўка.

**О'дур** м. Адурэнне, зацменне свядомасці, дурасць. Некі одур старому чалавеку ў голаў улез, пляце нешто дурное. Канчатка.

**О'жах** м. Асмалены кіёк, якім мяшаюць у печы прысак. Зараз як вазьму ожах, дам па руках, будзяш ведаць, як рабіць. Яскевічы. Ожахам баба гочы можа выпараць, ні лезь да печы. Копанікі.

**О'зеро** н. Возера. У нас ніякага озера ні было, тулько сажалка. Вялікая Альшанка.

**Ой** выкл. 1. Ужываецца ў якасці зачыну ў песнях. Ой, у полі гавёс вялікі парос, а ў тым гаўсе вяласа пташачка — перапёлачка /з нар. песні/. Свіслач. 2. Ужываецца пры выказванні пачуцця болю, страху, трывогі, захаплення і г.д. Ой, як страшно было глядзець, як людзі мэнчыліса. Жытаўшчына.

**О'йдзя** прысл. Тут. Ойдзя нікого німа, сядай пастаруям, як жыць бес тата. Лаша.

**О'йча** м. Ойча, клічная форма ад слова "айцец"/устар./. Ні карай міне ойча, я тут ні прычым, так палучыласо. Забагонікі.

**О'йчанько** м. Тое, што і ойча /памяншь./. Прыехаў мой ойчанько з Вярбова ды пытая, ці п'яніца дома / з нар. песні/. Свіслач.

**О'кунь** м. Акунь. На окуня-жыўца шчупак добро бярэ. Сухая Даліна.

**О'лух** м. Дурань, тупы чалавек. Олух цара нібеснаго /прымаўка /. Літвінкі. З олухам гэтым і гаварыць німа што. Сіўкава.

**О'парак** м. Прашча, прылада для кідання каменняў. Опарак я сам сабе рабіў з вяровачак і раменьчыку. Зробіш і кідаяш каменя, аш свішчуць, ляцяць. Кунцаўшчына.

**О'птам** прысл. Оптам, вялікай колькасцю, пры куплі і продажы тавараў. Усе яблыкі оптам закупіў, танней вышло. Пракопавічы.

**О'рган** м. Орган, установа, арганізацыя, якая выконвае пэўныя ўладныя функцыі. Органы савецкай уласці ім гэта ні дазволяць. Квасоўка.

**О'рдэн** м. Ордэн, знак узнагароды. Гэта заслужаны трактарыст, у яго ні адзін ордэн на грудзях, хто яго ні ведае. Путрышкі.

**О'рдэр** м. Дакумент на атрыманне кватэры. Мы ўжэ маем ордэр на кватэру, зараз перабірацца будзем. Гродна.

**О'сілко** н. Дужка вядра, чайніка, бітона. У гэтым вядрэ осілка німа, нехто адкруціў. Белева.

**От** часц. Вось. От, нешто прышло ў голаў і гаворыць абы гаварыў. Карозічы.

**О'чы** мн. Вочы. Ні трэба было, мая маці, чорных оч даваці, а трэба было, мая маці, шчасце-долю даці / з нар. песні/. Рудавіцы.

# П

**Паабе'даць** зак. З'есці абед. Паабедаў, а жвот і ні ведаў /прымаўка/. Зарыца.

**Паабдры'нданы** дзеепрым. Заношаны, абтрапаны /пра вопратку/. Андарак паабрынданы, німа як да людзей выйсці. Кунцаўшчына.

**Паабшмэ'рганы** дзеепрым. Абтрапаны, заношаны, забруджаны /пра вопратку/. На ім адзежа заўсёды паабшмэргана, бо ў чым ходзіць, у тым і спіць, у чым у пасцелі, у тым і ў касцелі. Кунцаўшчына.

**Паадбудо'ўвацца** зак. Адбудавацца нанава. У нас пасля пажару і зноў усе паадбудоўваліса, хаты нават чарапіцай пакрылі. Свіслач.

**Паасо'бку** прысл. Асобна, не разам. Мы з бацькамі жывем паасопку, так ляпей, нашто нам сварыцца. Мігова.

**Паацё'пкваць** зак. Растрапаць, пабіваць краі тканіны. Настольнік ні зарубіла, та чысто канцэ паацёпкваліса, німа як на стол заслать. Белева.

**Пабла'жка** ж. Патуранне; нястрогія, паблажлівыя адносіны; уступка. Ён сваёй жонцы такую паблашку даў, што рады німа, што хоча, тое і вычаўпляе. Аульс.

**Пабла'жлівы** прым. Паблажлівы, нястрогі, непатрабавальны; мяккі, велікадушны. Мой чалавек быў паблажлівы, з ім можно было жыць, каб ні вайна. Некрашы.

**Паблажэ'ць** зак. Паблажэць, схуднець. Ганя натто хацела паблажэць, бо тоўста была, ні магла хадзіць. Бандары.

**Пабо'йвацца** незак. Пабойвацца, адчуваць страх. Я адна пабойваюса туды хадзіць, усялякія случаі бываюць. Аульс.

**Пабра'цца** зак. Пажаніцца; стаць мужам і жонкай. Мы як раз той рок пабраліса, як пажар быў, але хата наша ні згарэла. Кунцаўшчына.

**Пабрыса'ць** зак. Патаптаць, паблытаць /пра пасевы/. Ля, каля дарогі коні чысто жыто пабрысалі, як гэтыя людзі жаць будуць. Лікоўка.

**Па'ва** ж. Назва велікодай песні. У нас гало'кальнікі дзяўкам Паву спявалі, яна пачыналаса: "Ходзіць Пава па гуліцы, роніць па пярынцы, да віно — ш віно зеляно...» Скрабнякі.

**Пава'бны** прым. Павабны, прывабны, прыемны. Павабна дзеўчына, нічого ні скажаш, і пасаг добры мая. Занявічы.

**Павадзэ'не** н. Поспех, павага хлопца або дзяўчыны ў хлопцаў. У маладосці ён натто павадзэне меў, дзяўке за ім аш прападалі. Квасоўка.

**Павадо'к** м. Павадок, рэмень або ланцужок, на якім водзяць сабак. Бес паватка я яго ні выводжу, пакусаць каго можа, кідаецца на кожнаго. Гродна.

**Пава'льно** прысл. Пагалоўна. Як з бежанства прыехалі, та ціф павально качаў, паўвёскі вымярло. Кунцаўшчына.

**Паве'смо** н. Пасма нітак, валокнаў. За раніцу, бывало, павесмаў шэсць-сем лёну натрэш. Хамякі.

**Паве'тра** н. Паветра. У Рагачах нека такое паветра было, што людзі на сухоты хварэлі. Лаша. Марова паветра — эпідэмія, мор. Ад голаду, во'йны і маровэ'го паветра выбаў нас, Пане /выслоўе/. Баранавічы. Той рок, мусі, на людзей нека марова паветра надышло, паміралі — ратунку ні было. Занявічы.

**Павіну'цца** зак. 1. З'явіцца на кароткі час, на хвіліну. Здаецца, тут быў, павінуўса і зноў недзе прапаў, шукай яго. Балічы. 2. Павярнуцца. Панаставіць тут пад нагамі гаршкоў, павінуцца німа дзе. Коматава.

**Паво'й** м. Бярозка, травяністая расліна сямейства бярозкавых. Павой у гародзі ўвёўсо, рады німа, усё заглушыў. Гібулічы.

**Паво'лі** прысл. Паволі, няспешна, марудна. Чаго табе спяшацца, паволі ідзі, да вечара і так зойдзеш. Васарабы.

**Паво'льно** прысл. Павольна, няспешна. Павольно ехаць тулькі наш татко любіў, нігды каня ні паджане. Васарабы.

**Паво'льны** прым. Павольны, няспешны, марудны. Чым павольным канём ехаць, та ляпей пяшком ісці, рукі адбярэ паганяючы. Белева.

**Павуце'не** н. Павуцінне, павуціна. Ну і гаспадыня, павуцене за нос у хаці чапляецца, а яна і ні бачыць. Вусенікі.

**Павыво'дзіцца** зак. Павыводзіцца, знікнуць, перастаць існаваць. Такіх камандзіраў, як даўней, німа, павыводзіліса. Грандзічы.

**Павыдава'ць** зак. Павыдаваць, выдаць усіх, многіх. Гэта ж табе ні шутка: трэбо было ўсіх дачок павыдаваць замуж, пасаг даць. Індура.

**Павыдзыга'ць** зак. Павыскакваць. За'гаратку трэбо вышай зрабіць, а то парасята павыдзыгаюць. Вострава.

**Павэ'дзгаць** зак. Папэцкаць, памаляваць абы-як; памыць абы-як. Гэта ні работа, павэдзгаў трохі сцены і кажа: «Ужэ гатова, памаляваў». Лаша.

**Павэ'длуг** прысл. Параўнальна, у параўнанні. Павэдлуг таго року та гэты рок ўсё ж лепшы, нават грэччына ўрадзіла. Гібулічы.

**Павярго'ня** ж. Вазонная расліна з круглымі лісткамі і цёмна-чырвонымі кветкамі. Павяргоня ні пахня, але файно цвіце, яе трымаюць, каб моль ні разводзіласа. Свіслач.

**Павя'тка** ж. Паветка, павець. Пад павяткай дровы добро трымаць, яны і сохнуць хутко, і зверху ні намокнуць. Парэчча.

**Павячо'ркі** мн. Вячоркі. Помню, на павячоркі ўсе збіраліса ў нашай хаці, бо прасторна была. Галавачы.

**Пагало'ска** ж. Пагало'ска, по'галаска, чутка. Пагалоскі ўжэ тады хадзілі, што вайна будзя, яно так і вышло. Бакуны.

**Паганя'ць** незак. 1. Паганяць, прымушаць хутчэй рухацца. Паганяй жывей каня, а то атстанеш ат хурманак, ні дагоніш. Губінка. 2. Строіць з сябе, выдаваць сябе не за таго, кім ёсць. Што ты з сібе маладого паганяеш, табе зарас паміраць трэбо. Лаша.

**Пагарэ'лец** м. Пагарэлец, той, у каго згарэлі будынкі, маёмасць. Як прыедзе ў вёску пагарэлец, та ўсе давалі

саломы, хто на снапу, а хто і па два дасць, каб мог жывіну пракарміць. Верцялішкі.

**Пагасі'ць** зак. Пагасіць, патушыць. Дзе той пажар было пагасіць, калі і пажарнікі ні маглі даступіцца. Рыдзелі. Пагасі лямпу, спаць будзямо. Вострава.

**Пагі'баны** дзеепрым. Пагнуты, сагнуты. Узяў некі кубак пагібаны, кінь, нашто ён здаўсо табе. Гібулічы.

**Пагі'бель** ж. Смерць, гібель. Мусі, пагібель прышла на паноў, відаць, адбалявалі свае, папапілі. Баранава.

**Паглумі'ць** зак. Сапсаваць, змарнаваць, марна страціць, загубіць. Чысто сад дзеці паглумілі, бес пары аблупілі ўсе яблыкі. Чарток.

**Пагляда'ць** незак. Паглядаць, пагляд-ваць. Ён даўно на міне скрыва пагля-дае, а за што — ні ведаю. Трычы.

**Паглядзе'ць** зак. Пабачыць. Паглядзімо, брат, што з гэтаго выйдзя, ашчэ чый верх будзя. Баранавічы.

**Пагно'йка** ж. Шампін'ён, пячу'рыца. Пагнойка — такі грыб, бо на гнае расце. Скамарошкі.

**Паго'да** ж. 1. Пагода, надвор'е, стан атмасферы ў данай мясцовасці ў пэўны час. Пагода стаіць сухая, каб ні ўпусціць ды сено жывей высушыць. Малышчына. 2. Добрае надвор'е. Ну і гаспадарэ, як пагода стаіць, та яны засядаюць, а як дождж, та яны — ў поле, жаць. Мількаўшчына.

**Паграбе'ц** м. Склеп. Паграбец як саломай добро абложыш, та мароз ужэ да бульбы ні дабярэцца. Салаўі.

**Пагры'мваць** незак. Грымець час ад часу. Нешто пачало пагрымваць, каб якой буры ні наняcло. Вулькаўцы.

**Пагрэ'бкі** мн. Зграбленыя рэшткі саломы пасля жніва. Адных пагрэпкаў прывязлі вазоў два, будзя каровам на зіму. Квасоўка.

**Падабе'д** м. Падабед, другое снеданне бліжэй да абеду. Помню, як жалі, маці на падабед давала па кусочку каўбасы, часам па гурку альбо ладышку кіслаго малака. Рудавіцы.

**Падаго'нніца** ж. Падхвоснік, частка шляі, якая праходзіць пад хвастом каня. Падагонніцу папраў, а то хамут кабылі на голаў з'едзя. Гібулічы.

**Падаго'нь** ж. Падхвоснік, частка шляі, якая праходзіць пад хвастом каня. Без падагоні, брат, возам з гары ні з'едзяш, кабылі воз ногі паадбівая. Карозічы.

**Падако'ннік** м. Дошка, устаўленая гары-зантальна ў аконны праём знізу. У тым акне падаконнік зусім згніў, трэбо новы ўстаўляць. Капцёўка. На падаконнік панастаўляе вазонаў, нідарам ён гніе. Віцькі.

**Пада'лец** м. Мядзянка, неядавітая змяя бурага колеру. Як ступіў, так з-пад нагі босай і выскачыў, вывярнуўса падалец. Зарубічы.

**Пада'не** н. Заява. Злажыў падане, можа якой пажычкі дадуць на адбудову хаты. Хліставічы.

**Падапну'ць** зак. Падвязаць, завязаць. Як да печы, та падапну сабе запонку і андарак чысты, ні завэдзгаеш. Будоўля.

**Падапрану'ць** зак. Апрануць што-небудзь пад верхняе адзенне. Пад бурку падапранеш кажушок, і ўжэ ніякі мароз ні страшны. Бубны.

**Пада'рак** м. Падарунак. На Новы год во які мне падарак далі, во якія часэ. Рагачы.

**Падаро'жнік** м. Падарожнік, трыпутнік. Як нага балела, та я прыкладала падарожнікам і, ведаяце, помагло. Александрова.

**Падасо'вік** м. Падасінавік. Падасовікі я ні марыную, а сушу, з імі суп зімою добро варыць. Калбасіна.

**Пада'цца** зак. 1. У значэнні: падаць несапраўдныя даныя аб сабе. Мікалай быў падаўсо, што ён з восьмаго року, а яму прызналі, што з дзісятаго. Белева. 2. Пайсці з намерам уладкавацца. Кажуць, Іван у начальнікі падаўсо, недзя прадсядацелям робіць. Баброўнікі. 3. Пайсці куды-небудзь. Гаспадар на падворку, але ўзяў сакеру і падаўсо ў лес. Лікоўка. 4. Перан.: прыкметна пагоршаць, пастарэць. Здаецца, наш тато і ні стары, а за апошні час зусім падаўсо. Асташа.

**Падая'нка** ж. Перадача прадуктаў, рэчаў у турму палітзняволеным. Як

нашы хлопцы сядзелі пры паляках ў Гродзенскай цюрме, та можно было ў месяц перадаць тулькі адну падаянку, больш ні прынімалі. Кавалічы.

**Падбаке'рыцца** зак. Падбадзёрыцца, прыняць баявую постаць. Ён ні з палахлівых, падбакерыўсо і кажа: «А ну, падходзь па аднаму». Сухая Даліна.

**Падбаро'давішча** н. Падбародак, падбароддзе. Што яму, есць і п'е, глядзі: падбародавішча абвісло, як у паршука. Баяры.

**Падба'ць** зак. Змарнець, схуднець. Мусі, хворы, за гэты час чалавек зусім падбаў, паловы яго ні стало. Ахрымаўцы.

**Падбе'л** м. Падбел, лекавая расліна сямейства складанакветкавых. Даўней падбел прыкладвалі да ранаў, каб ні гнаілаcа, каб вогнік выцягаў. Рудавіцы.

**Падбіра'ць** незак. Падбіраць, збіраць. Як добры касец, та за ім ні паспсеш падбіраць жыто, вязаць ў снапэ. Караліно.

**Падбо'й** м. Падшыўка з другой матэрыі ў ніжняй частцы андарака, спадысподу. Глядзі, у андараку падбой зусім абтрапаўсо, а другого німа з чаго зрабіць. Пагараны.

**Падбрэ'хач** м. Даносчык, даказчык, нагаворшчык /пагард./. Хто яго ні ведае, ён за падбрэхача ў немцаў быў, на людзей даносіў. Каўпакі.

**Падбухто'рваць** незак. Падгаворваць. Гэта ў яго такая прывычка — падбухторваць, каб людзі сварыліса, адзін другого елі. Грыўкі.

**Падбяро'знік** м. Падбярозавік. Падбярознікі найбольш пад бярозамі растуць, я як пайду, так і назбіраю кожны раз. Канчатка.

**Падвалі'ны** мн., падваліна ж. Падваліны, брусы, на якія насцілаецца падлога, памост. Бяда, падваліны ў хаці згнілі, дзе тут будзе цяпло. Палаткова.

**Падваро'тніца** ж. Падваротніца, дошка, якая закрывае шчыліну паміж дзвярамі адрыны і зямлёй. Ясю, залажы падваротніцу, кап куры ні лезлі на ток. Рацічы.

**Падве'й** м. Хвароба, якая здараецца, калі прахопіць скразняком; параліч. Як каго падвей прабярэ, та жывей вязлі да Бобіка-млінара, ён загаворваў. Караневічы.

**Падвіну'ць** зак. У значэнні: захацецца, зажадацца, займець ахвоту. Як падвіне' яму, та зробіць за двох, а так гультай, абібок. Віцькі.

**Падво'дзіць** незак. 1. Падводзіць, праводзіць. Антось кожны раз міне падводзіць да дому, адна баюсо ісці. Абуховічы. 2. У значэнні: абманваць, не апраўдваць надзей, спадзяванняў. Ні вер, ён стаў падводзіць людзей, адно кажа, а другое робіць. Саволеўка.

**Падво'рак** м. Двор каля хаты, дома. Глядзі, заўтро свято, а падворак ні мецяны, гной параскіданы. Жылічы.

**Падвя'зка** ж. Падвязка, тасьма, рызінка для падвязвання панчох. Паглядзі, ногі чысто падвяскамі папераціскала, ні магу хадзіць. Саломенка.

**Падвячо'рак** м. Яда паміж абедам і вячэрай. На падвячорак у поле маці брала сыр, ззямо стоячы і зноў давай жаць. Бакуны.

**Падгадава'ны** дзеепрым. Падросшы крыху, дагледжаны. Бычок падгадаваны, можно здаваць у калхоз. Аленічы.

**Падга'лы** прым. Падгалісты, з доўгімі нагамі, цыбаты. Конь, што Міхась купіў, некі падгалы, на ім тулько вярхом ездзіць, ні гараць. Агароднікі.

**Падгарля'на** ж. Ліверная каўбаса. За часоў польскіх купіш падгарлянай з паўкіля, і добро, бо кракаўская дарагая была. Гродна.

**Падграба'стаць** зак. Падмяць; навалі́ўшыся, прыціснуць. Здаецца, і нізавідны хлопец такі быў, а як падграбастаў пад сібе, та той ледво ўстаў на ногі. Гліняны.

**Пагрэ'баваць** зак. Пагрэбаваць; аднясціся з пагардай, з адчуваннем агіды. Ты свае мацяры ні пагрэбуй, яна сама сібе можа дагледзяць, яна ашчэ на сваіх нагах. Свіслач.

**Пагрэ'мзаць** зак. Пакрэсліць, пакрэмзаць. Даў кнішку, та дзеці чысто пагрэмзалі, парысавалі. Цыдовічы.

**Паддаста'ткам** прысл. Удосталь, уволю, усяго ўдосталь. Яны паддастаткам жы-

вуць, тулькі аднаго пташынаго малака ні хватая. Свіслач.

**Падду'бнік** м. Паддубо'вік, грыб з жоўта-бурай шапачкай. Паддубнікаў ні браў, хоць яны і добрыя грыбэ, тулькі чорныя, як зварыш. Зарубічы.

**Пад'еты** дзеепрым. Сыты, накормлены. Чаго яму больш трэбо, ён і адзеты, і пад'еты, а ўсероўно носам круціць. Пагараны.

**Падздэ'біцца** зак. Прыхарашыцца, прыбрацца, прыаздобіцца. Старая, а падздэбіцца сабе і, глядзі, добрая дзеўка. Рудавіцы.

**Падзе'мнік** м. Пра шкоднага, скрытага чалавека. Падземнік некі, ён на чалавека ні можа глядзець, нікого добраго ў яго німа. Кунцаўшчына.

**Падзе'рці** зак. Падраць, парваць, разарваць. Малому ні давай кнішкі, а то падзярэ і кіня. Пракопавічы.

**Падзе'ць** зак. У значэнні: схаваць, палажыць так, што цяжка знайсці. Сам недзе падзеня шапку, а пасля ходзіць, шукая. Лугавая.

**Падкавале'р** м. Падлетак, юнак. Ён у міне ўжэ падкавалер, на гуляне ходзіць. Лойкі.

**Падкава'ць** зак. 1. Падкаваць, падбіць падковы. Трэбо каня паткаваць, а то да Горадна ні даедзяш, дарога сліска. Дуброўка. 2. Набіць жалезныя палоскі на палазы саней. Хачу сані паткаваць, учора ў Лунай купіў, ашчэ новыя, ні паткутыя. Селюкі.

**Падкало'дка** ж. Рэдкая страва з бульбы, мукі і малака. Звары, кажа, паткалоткі, даўно ні варылі. Прыгодзічы.

**Падкапа'цца** зак. Падкапацца, зрабіць падкоп. Такрок воўк паткапаўсо пат падрубу Міхалчынаго хлява і баранчыка забраў. Галавачы.

**Па'дкі** прым. Падкі, ласы, сквапны. Якаў на чужое быў паткі, ні мог вытрываць, кап чаго ні ўзяць. Кунцаўшчына.

**Падкле'йка** ж. Падкладка, матэрыял, які прышываецца, прымацоўваецца з унутранага боку вырабу. Купіў патклейку, та нават паўрока ні пабыла, уся паляцела, падраласа. Каленікі.

**Падку'рване** н. Падкурванне дымам пры варажбе /устар./. Занясі сваго Ванячку да

**Ганусі,** хай паткурыць, паткурване ат пярэпалаху памагая. Лаша.

**Падкусі'ць** зак. Перан.: сказаць што-небудзь з'едлівае, непрыемнае. Ён жыць ні можа, кап каго ні паткусіў, нат кім ні пасміяўсо б, яго і бацько такі быў. Кавалічы.

**Падку'ць** зак. Падкаваць. Ні кожны каваль мог добро каня паткуць, гэта, брат, ні так просто. Белева. Я сваго Дэраша хачу на ўсе чатыры паткуць, бо дзераво з лесу буду вазіць. Квасоўка.

**Падле'так** м. Падлетак. Ужэ бацьку памагая ў гаспадарцы, падлетак, у гэтым року касіць пасабляў. Пушкары.

**Падлі'ўка** ж. Падліўка, прыправа, якой паліваюць страву; соус. У нас ніякай падліўкі ніхто ні рабіў, гэта ў горадзі бульбу елі з падліўкай. Ласосна.

**Па'дло** н. 1. Падла, труп жывёліны; мерцвячына. Падлам смярдзіць, мусі, закапалі каня недзе. Лаша. 2. Перан.: дрэнны, кепскі, шкодны чалавек /лаянк. слова/. Падло ты, уставай, людзі нарабіліса, а ты яшчэ спіш. Кунцаўшчына.

**Падло'бнік** м. Пра шкоднага, скрытага чалавека. Падлобнік, ні засміецца, глядзіць на цібе з-пад лоба. Табольская Будка.

**Падлу'жваць** незак. Скарадзіць. У іншых вёсках кажуць: скарадзіць, прыбіваць, а ў нас — падлужваць, калі першы раз барануеш па ўзгораным. Рацічы.

**Падлю'га** м. ж. Нягоднік, подлы чалавек /лаянк./. Падлюга, і зноў прывалокса п'яны, ні ведаю, што з ім рабіць. Бакуны.

**Падма'ншчык** м. Падманшчык, хлус. Чалавек стары, а падманшчык, дзіцей падманвая, каб яму яблыкі прыносілі. Селіванаўцы.

**Падмуро'ўка** ж. Падмуроўка, падмурак. Даўней хаты ставілі на чатырох камянях, а пасля рабілі падмуроўку, ні так, як ціпер. Славічы.

**Паднара'д** м. Паднарад, падкладка ў абутку ад пад'ёму да наска. Як добры

паднарад даў Мэер, та во і боты каторы рок нашу, ні рвуцца. Індура.

**Падно'сак** м. Падносак, частка другой падэшвы ў абутку ад наска да палавіны ступні. Падноскі падбіў, паглядзі, якія тоўстыя, файно будзя хадзіць за плугам. Лужкі.

**Паднябе'не** н. 1. Паднябенне, верхняя частка поласці рота. Паднябене у дзіцяці чырвона, мусі, горла баліць, усю ноч не спало, енчыло. Свіслач. 2. Верхняя частка скляпення ў хлебнай печы. Як напаліш добра, та паднябене ў пячэ стане зусім белым. Каленікі.

**Падня'ць** зак. Падняць. Баран такі быў велькі, што ні змог падняць яго з зямлі нават. Азёры. Падняць гармі'дар — утварыць шум, беспарадак, неразбярыху. А ў хаці ў вас што тут робіцца, чаму паднялі такі гармідар? Адэльск.

**Падо'лак** м. Падол, ніжні край спадніцы, сукенкі. Во, падолак чысто аптрапала ў спадніцы, бо задоўгу пашыла. Перстунь.

**Падо'нкі** мн., падонак м. 1. Рэшткі вадкасці з асадкамі ў пасудзіне. Мыла ні было, бялізну ў лузі мылі. Працэдзіш луг, а што застанецца — падонкі, на гарод выкідаеш. Эйсманты. 2. Ніжнія ад зямлі снапы ў скірдзе. З падонкаў сечкі ні рэзалі, яны мышамі смярдзелі, адны пераедзіны. Кунцаўшчына. 3. Перан.: дэкласаваныя, разбэшчаныя, злачынныя элементы грамадства. З кім тут гаварыць, гэта ж адны падонкі ззабраліса, п'яніцы, нікого люцкаго німа. Гродна.

**Падпалу'дзень** м. Яда паміж абедам і снеданнем. Як летам жнем, та ні заўсёды бралі на падпалудзень, бо ні было чаго браць. Бакуны.

**Падпа'сак** м. Падпасак, памочнік пастуха. Я сам патпаскам быў; як прыдзя калейка, та дзён тры пасеш каровы. Кавалічы.

**Падпераза'цца** зак. Падперазацца, падперазаць сябе. Святам патпяра'жацца шырокай дзягай і ходзіць, як афіцэр які. Адэльск.

**Падпе'чак** м. Падпечак, месца пад печчу. Як велькі мароз, та куры ў падпечак заганялі, а так у хляве начуюць. Занявічы.

**Падпі'лак** м. Напільнік. Але ж і цвёрда была піла, два падпілкі змарнаваў, пакуль нагастрыў. Зарубічы.

**Падпіра'ць** незак. Падпіраць, ставіць падпоркі. Якая там у яго адрына была, каламі трэбо было патпіраць. Трычы.

**Падпо'лак** м. Адна з дэталей сахі, на якой замацоўваюцца паліцы /нарогі/. Патполак з моцнаго дзерава рабілі, каб нарогі добро трымаліса. Азёры.

**Падпру'га** ж. Падруга, частка збруі для ўмацавання сядла ці падсядзёлка. Падцягні мацней падпругу, а то аглоблі добро ні трымаюцца. Бандары. Як навука ідзе туга, паможа бацькава патпруга / прыказка/. Лаша.

**Падпу'ск** м. Рыбалавецкая снасць /донка-закідушка/. На адзін патпуск, што ўчора вечарам паставіў, сом папаўсо, так кіляў тры-чатэры. Ласосна.

**Падра'снік** м. Падраснік, ніжняя адзежа, на якую свяшчэннаслужыцелі надзяваюць расу. Бацюшка на падраснік надзеў расу, паніхіду, мусі, будзе служыць. Ферма.

**Падра'ць** зак. Падраць, парваць; знасіць. Чаравікі хлопяц зусім падраў, і зноў босы ходзіць. Рагачы.

**Падрашо'тнік** м. Грыб, падобны да масляка, толькі з буйнейшай сеткай знізу. Падрашотнікі — гэта ні грыбэ, зварыш — чорныя, гатко глядзець ні тулькі есці. Казіміроўка.

**Падро'стак** м. Падлетак. Глядзі, нідаўно падросткам быў, а ўжэ кавалер, жаніцца будзя. Гарны.

**Падро'чвацца** незак. Дражні'цца. Ты чаго гэта падрочваясса, хочаш, каб табе далі, потым плакаць будзяш. Пагараны. Чалавек стары, а любіць падрочвацца з сабакай, аш ні хочацца ўзірацца. Галавачы.

**Падру'ба** ж. Падруба, ніжняе бервяно ў зрубе. Гаспадар называецца, а ні бачыць, што падрубы ў хаці зусім згнілі. Славічы.

**Падрузгата'ць** зак. Пабіць, паразбіваць. Як разышоўса, та ўсе талеркі падруз-

гатаў, пабіў, а ціпер во новыя купляй. Кунцаўшчына.

**Падса'нкі** мн. Дапаможныя санкі для перавозкі доўгіх бярвенняў. Без падсанкаў з лесу доўгай штукі на санях ні прывязеш, німа чо і думаць. Старая Дубавая.

**Падсве'чнік** м. Падсвечнік, падстаўка для свечкі. Сторажам з цэркві Піліп быў, ён, мусі, і патсвечнікі чысціў. Коматава.

**Падсві'нак** м. Падсвінак, парася ва ўзросце ад 4 да 10 месяцаў. Гэта ўжэ добры патсвінак, пудоў мо тры будзя. Дарашэвічы.

**Падсляпава'ты** прым. Падслепаваты, блізарукі. Ён падсляпаваты, добро ні бачыць, на гочы слабы. Старая Дубавая.

**Падсо'лных** м. Сланечнік. Падсолныхі гэта ў калхозі сеялі, у нас на гародах больш для дзіцей садзілі. Азёры.

**Падсо'чка** ж. Спосаб збора жывіцы з дапамогай надрэзаў на кары дрэў. Патсочка лес псуе, дзераво робіцца сіня, на дрова нават ні гадзіцца. Рыбніца.

**Падспо'д** прысл. На самы ніз. Палажы салому патспод, а то жыто ў мяшках адсырэя, зямля мокра. Каленікі.

**Падспо'р** м. Падмога, падтрымка. Яблыні — гэта велькі патспор у гаспадарцы, прадасі — і ўжэ свежы грош есць на абыходы. Агароднікі.

**Падсу'хі** прым. Хударлявы. Патсухі чалавек здаравейшы бывая, як сыты; ён як смальняк, хвароба ні бярэ. Жукевічы. Пакуль сыты сохне, та патсухі здохне /прыказка/. Кунцаўшчына.

**Падта'кваць** незак. Паддакваць, выказваць згоду. Што ты яму вечно патткаваяш, думаяш, што гэта добро? Бакуны.

**Падтарга'нец** м. Пра таго, у каго вопратка не адпавядае росту, кароткая. А гэта што тут за паттарганец стаіць, аткуль ён узяўсо? Кунцаўшчына.

**Падтасава'цца** зак. У значэнні: умела падабрацца, лоўка падсесць. Я і ні бачыў, як ён паттасаваўса да Гандзі, гляджу: сядзіць і зубы ёй загаворвае. Зарыца.

**Падтата'кваць** незак. Паддакваць, выказваць згоду /неадабр./ Што гэта за мужык, вечно паттатаквае жонцы, ён думае, што дагодзіць ёй? Баброўнікі.

**Падтрасу'ха** ж. Назва полькі, якая была распаўсюджана ў Заходняй Беларусі да вайны. У нас польку паттрасуху раней скакалі, а ціпер, можа, ніхто і ні ведае, што была такая. Бакуны.

**Паду'шка** ж. Драўляны брусок, на які пры перавозцы адным канцом кладзецца і прымацоўваецца бервяно. Як на падушцы вязеш дзераво, та сані куды хочаш паверняш, яны пакручваюцца. Зарубічы.

**Падхва'цік** м. Вілкі, якімі ставяць або вымаюць з печы гаршкі. Бес патхваціка каля печы, як без рук; што трэбо ў печ паставіць ці дастаць — та ўсё ім. Канчатка.

**Падхво'сніца** ж. Падхвоснік, частка шляі, якая праходзіць пад хвастом каня. Як патхвосніца есць, та і набэдрыкаў ні трэбо на каня. Лікоўка.

**Падхо'джвацца** незак. Забяспечваць нанач ядою жывёлу. Пакуль я буду патходжвацца, ты пасядзі ў хаці, а тады пойдзямо на вечарынкі. Няцечы.

**Падціна'ць** незак. Іграць на губным гармоніку або грэбені. Ён та ўмеў іграць, як пачне падцінаць на гармоніку, выцілінгваць полячку, та тулькі ўсе ўслухаюцца. Ласосна.

**Падчаро'вак** м. Падчарэўе, ніжняя частка чэрава свінні. З падчароўка тлустасці мало, яго тулькі варыць добро. Свіслач.

**Падчука'ць** незак. Гушкаць, падкідаць дзіця на руках. Як возьмяш на рукі, пачнеш патчукаць, так дзіця і перастаня плакаць. Агароднікі.

**Падчыпу'рыцца** зак. Прыбрацца, прыхарашыцца. Во, трохі падчыпурыўсо і на чалавека стаў пахожы. Дзекалавічы.

**Падчысту'ю** прысл. Поўнасцю, усё без астатку. Лес за рэчкай патчыстую вы'рубалі, бо ніхто ні пільнаваў, тулькі пні стырчаць. Пагараны.

**Падшмарава'ць** зак. 1. Падмазаць. Патшмаруй калёса ў возі, вада, мусі, шмаравідло ўсё вымыла, скрыпяць. Балічы.

2. Даць хабар. Ні патшмаруеш — ні паедзеш /прымаўка/. Дарашэвічы.

**Падшпа'рак** м. Падлетак, юнак. Патшпарак ён у міне, а ўжэ помашч есць матцы.Салаўі.

**Падшыва'нец** м. Хлопчык-падлетак / жарт./. Гэтыя патшыванцы голаў адурылі, рады з імі німа. Бакуны.

**Падшэ'рхнуць** зак. Падсохнуць крыху ад марозу. Пад раніцу зямля патшэрхла, добро будзе ехаць. Бакуны.

**Падыспа'н** м. Танец, які бытаваў у Заходняй Беларусі. Падыспан як скакалі, та патспеўвалі: «Падыспанец — вясёленькі таняц, ляхко нам яго танцаваць». Гарны.

**Падэ'бацць** незак. Пакрочыць, паволі пайсці. Ты дзе гэта падэбаў, пачакай, разам пойдзямо. Рацічы.

**Пае'сці** зак. Прыняць ежу. Дай нам, Гануля, чаго паесці, і зноў пойдзям дарогу папраўляць. Каўпакі.

**Пажа'рышча** н. Пажарышча, месца, дзе быў пажар. Мы дзецьмі на пажарышчы паляныя цвіке збіралі, бо ні было дзе купіць. Галаўнічы.

**Пажда'ць** зак. Пачакаць. Трэбо трохі паждаць, а можа прыедуць да нас госці. Грандзічы.

**Пажы'лы** прым. Пажылы, немалады, у гадах. Пажылы чалавек, а дурное нешто пляце. Гібулічы.

**Пажы'так** м. Пажытак, здабыча, пажыва. З гэтаго я ніякаго пажытку ні маю. Пракопавічы. Немцы пажытак тут добры мелі, ні хацелі пакідаць, уцякаць. Дарашэвічы.

**Пажыча'ць** незак. Пазычаць. Лю'біць пажычаць, а аддаваць німа каму. Баранава. Любіш пажычаць — любі і аддаць /прымаўка/. Гліняны.

**Пажы'чка** ж. Пазычка, тое, што ўзята ў доўг. Трэбо, мусі, пажычку ўзяць на хату, можа, як выплацім за пару рок. Дубніца.

**Пазабаўля'ць** зак. Пазабаўляць. На, пазабаўляй, пакалышы Ванячку, пакуль я карову падаю. Ахрымаўцы.

**Пазалані'** прысл. Пазалетась. Пазалані, помню, мы з Любай босыя хадзілі ў гэту пору. Свіслач.

**Пазало'нскі** прым. Пазалеташні. Ні ўсе добро жылі, у нас на весну ні было чым карміць жывіну, а ў яго ашчэ пазалонскі стох саломы стаяў. Карозічы.

**Пазапро'шлы** прым. Пазалеташні. У пазапрошлым року яна скончыла нісцітут, робіць навучыцелькай. Дарашэвічы.

**Пазаўчо'ра** прысл. Пазаўчора, два дні назад. Пазаўчора былі ў сваіх, даўно ні бачыліса. Баліненты.

**Пазацяга'ць** зак. Паразносіць, параскідаць. Інструменту усялякаго было, та за весну дзеці ўвесь пазацягалі, нічога ні знойдзеш. Дзекалавічы.

**Пазбы'цца** зак. Пазбавіцца. Родны бацько, а хлопца хоча пазбыцца, кап тулькі ў хаці ні быў. Віцькі.

**Пазвыка'ць** зак. Папрывыкаць. Дзеці пазвыкалі позно лажыцца спаць, і хоць што хочаш рабі. Гродна.

**Па'зуха** ж. Пазуха. Здаецца, добры чалавек, а за пазухай камень трымая. Лаша.

**Пазя'біць** зак. Пазябіць, узараць пад зябліва. Як тулькі снапэ звязуць, так кожны і стараецца жывей пазябіць, каб уляжаласа зямля да зімы. Рацічы.

**Пайсці'** зак. Пайсці. Трэбо было пайсці да крамы, можа, што прывязлі. Ніжнія Пагараны. Пайсці ў пустапаш — стаць не на правільны шлях жыцця; марна прапасці, згінуць. Хлопяц без бацькі, нікого ні баіцца, пайшоў ў пустапаш. Дарашэвічы. Пайсці замуж — трэбо знаць, позно легчы, рано ўстаць /з нар. песні/. Сухая Даліна. Пайсці з торбай — збяднець, пайсці жабраваць. Кап ты пайшоў с торбай, кап ты! /праклён/. Загорцы. Пайсці ў руку' — пашанцаваць (у гадоўлі жывёлы і інш.). Гэта свіня, як купілі, так зразу пайшла у руку — парасят навяла. Каробчыцы. Давай свіні муку, та пойдзе ў руку / прыказка/. Саломенка.

**Пак** м. Вялікая скрыня для захоўвання збожжа або мукі. Мы ў паку трымалі асыпку свіням, у каморцы стаяў. Путрышкі.

**Пакаё'ўка** ж. Пакаёўка, у панскім маёнтку служанка. У пані Ляхноўскай дзве

пакаёўкі было, кажуць, адна з іх і ціпер недзе жыве. Круглікі.

**Пака'ты** прым. Пакаты, спадзі'сты. У гэтым месцы берах пакаты, тут свабодно можаш пераехаць на той бок. Каленікі.

**Пакаці'ць** зак. Паваліць. Давай бароцца, хто каго пакоціць, паглянем. Аульс.

**Пакаштава'ць** зак. Пакаштаваць. Ты нешто смашнае ясі, дай і мне пакаштаваць. Сіўкава.

**Пакваʼпісты** прым. Спаку'сліві, прываблівы. Паквапісты конь, нічого ні скажаш, але і грошы за яго добрыя даў. Рагачы.

**Пакваʼпіцца** зак. Паквапіцца, спакусіцца, пагнацца. На пасах паквапіўсо, ні на дзеўку; так ён і жыве ціпер. Зарыца.

**Паквітава'ць** зак. Выплаціць, разлічыцца з даўгом. Наканец, дзякаваць Богу, паквітаваў, ціпер нікому ні вінаваты. Старая Руда.

**Пакішлава'ць** зак. Пайсці, пакрочыць / зневаж./. Ты гэта куды ізноў пакішлаваў, вярніса, кажу. Азёры.

**Паклада'ць** незак. Пакладаць, кастрываць, лягчать /пра жывёлу/. Тато сам навучыўсо пакладаць, выпакладае паршучкоў і — добро. Свіслач.

**Паклё'п** м. Паклёп, ілжывае абвінавачванне. Гэта паклёп, ніпраўда, я ў немцаў ні служыў. Жукевічы. Паклёп на чалавека наводзілі, а ён тут ні прычым быў. Тапалёва.

**Пако'ршкаць** зак. Павару'шыць, пашаваліць. Пакоршкай прысак, мо, ашчэ бульба печаная якая есць. Малая Альшанка.

**Пако'с** м. Пракос, пракошаная паласа шырынёй у адзін узмах касы; града скошанай травы. Пальніца. Адзін пакос пройдзяш і зноў мянчу косу, а ніяк ні бярэ. Баброўня. Сено ў пакосах, пойдзям разаб'ем, хай сохне. Кузьмічы.

**Пакра'ка** м., ж. Пачвара, вырадак. Пакрака нека ні мужык, і на каго яна паквапіласа. Кунцаўшчына. З-за гэтаго пакракі ніхто спакою ні меў, пакуль ні скруціў галаву. Свіслач.

**Пакро'вы** мн. Царкоўнае свята 1 кастрычніка па ст.ст. На пакровы — заганяй у хлеў каровы /прыказка/. Сіўкава.

**Пакры'цца** зак. Апладніцца /пра жывёлу/. Звадзіў карову да быка, павінна пакрыцца, а то перадойкай трымаць ніякаго рахунку німа. Баранавічы.

**Па'ктар** м. Яурэй, які за арэнду наперад плаціў грошы /устар./. Юдаль быў пактарам, трымаў сады ў арэндзі. Ашчэ яны цвітуць, а ён ужэ плаціць пану грошы. Нават балото браў. Круглікі.

**Пакумя'чыць** зак. Пакамячыць, пама'ць, змяць. Што за дзіця, як дарвецца да кніжкі, та чысто лістэ пакумячыць, паразрывае. Каўпакі. Недзе рубашку пакумячыў і ходзіш такім цэлы дзень. Дубаўка.

**Паку'та** ж. Пакута, мучэнне. Гэта ні работа, а цэла пакута для нас была, па калені ў вадзе стаялі. Стрыеўка. А гэта за што на нас Бог наслаў такую пакуту? Пракопавічы.

**Паку'таваць** незак. Пакутаваць, мучыцца, цярпець пакуты. За тым мужыком тулькі пакутаваць даводзіласо, нічого добраго яна ні бачыла. Пракопавічы. Дзеці пакутавалі, ні жылі, бо роднай маткі ні было, а мачаха. Луцкаўляны.

**Пала'** ж. Пала, крысо. Бобік твой як схапіў зубамі за палу, так кусок і вырваў, новы кажух змарнаваў. Цвіклічы.

**Палаве'ць** незак. Палавець, набываць палавы' колер /пра збожжа/. Глядзі, жыто на прыгорках палавее, зараз даспея, жаць пойдзям. Кузьмічы.

**Палавы'** прым. Палавы, бледна-жоўты /колер/. Валэ палавыя, дый чаго ні гарэце, лета мае маладыя, дый чаму марна йдзеце / з нар. песні/. Лаша. Закладай, сынку, млоды Ясенько, валэ палавыя да ідзі ў поле гараці /з нар. песні/. Рудавіцы.

**Палазэ'** мн. Полаз м. Палоззе, палазы. Галаўке ў палазах саней як высоко загнутыя, та добро: снег з-пад капыт у гочы ні ляціць. Бакуны.

**Паласка'ць** незак. Паласкаць, прамываць.Помню, плаце ўсе хадзілі паласкаць на рэчку; рукі скарчанеюць, пакуль папалошчаш. Белева.

**Паласка'цца** незак. Паласкацца, купацца, шумна мыцца. Дзеці прывыклі

ў рэчцы паласкацца, цэлымі днямі прападаюць, ні даклічашса. Гожа.

**Пала'ц** м. Палац, вялікі, раскошны будынак; замак. Палац Свіслоцкі будавалі больш дваццаці рок, дзе якія каменя былі, с поля пацягалі, павывозілі. Дзекалавічы.

**Пале'так** м. Палетак, участак поля. У нас цэлы палетак гаўсом быў засеяны, ніякай грэчкі ніхто ні сеяў. Вулькаўцы.

**Палё'ўка** ж. Палёўка, грызун. Палёўкі на зіму забіраюцца ў стаге або ў адрыны, там зімуюць. Кругляны.

**Паліва'нка** ж. Ганчарны посуд з вушкам для смятаны, у якім жанчыны вазілі да Гродна прадаваць смятану. Паліванкі ў Гродні куплялі, нідарагія былі. Пышкі.

**Паліва'ны** дзеепрым. Паліваны, пакрыты палівай. Паліваныя збанке і ладышкі даўней у Гібулічах, Малахавічах ці ў Цвіклічах куплялі, там ганчарэ свае былі. Капцёўка.

**Паліго'н** м. Палігон. Да вайны палігон быў зразу за рагаткай, аж да Гібуліч цягнуўсо, жаўнеры ўсе на вучэне хадзілі. Гродна.

**Палі'ца** ж. 1. Паліца, дошка або некалькі дошчак для размяшчэння пасуды, кніг. На паліцу міскі ставілі, ашчэ што якое, гаршкоў ні ставілі. Свіслач. На паліцы-вераніцы, на іх паглядаю /з нар.песні/. Скамарошкі. 2. Частка плуга, якая аддзяляе і пераварочвае пласт зямлі. Паліца, бывало, як згарэцца, та я яе да каваля насіў, кап палапіў і зноў можно было гараць. Рагачы. 3. Частка сахі, ніжні і верхні нарогі. У сахі аж дзве паліцы, ні так, як у плузі. Яны землю ні пераварочвалі, а пхнулі. Азёры.

**Паліціка'нт** м. Той, хто любіў пагаварыць аб палітыцы. У нас Бурневіч была заядлай паліцыканткай, памярла з бюркулёзу. Клачкі. Гэта паліцікант быў: дзе што толькі пачынаецца, а ён ужэ ўсё ведае. Палаткова.

**Паліцма'н** м. Паліцэйскі. Пры немцах паліцман адзін баяўсо ў вёску і нос паказаць, як ішлі, та ўдвох аба трох з карабінамі. Баброўня.

**Палі'чак** м. Шчака. Глядзі, як палічкі гараць, мусі, захварэла бедная. Занявічы.

**Палка'ць** незак. Глытаць. Дохтар дае розныя фігулкі, а я аніяк іх ні магу палкаць, натта ж горкія. Агароднікі.

**Пало'ска** ж. Вузкі загон зямлі. Раней струпскія палоскі здалёк было відаць, а ціпер загаралі, і след іх прапаў. Бакуны. (Струбка — суседняя вёска).

**Палу'да** ж. Палуда, сплаў волава са свінцом для пакрыцця металічных вырабаў; луда. Палуда с катла зусім сцерласа, калі ж тыя цыганэ яго лудзілі. Кунцаўшчына.

**Палу'дзень** м. 1. Поўдзень. Глядзі, слонца пат палудзень стало пячы, ні дыхнуць. Сіўкава. 2. Абед, палудзень. Які там палудзень быў, паставіла на стол некі крупнік і кажа: "Ешча, мушчынкі!" Квасоўка.

**Палу'днаваць** незак. Палуднаваць, абедаць. Годзі, дзяўчата, жаць, кідайця: палуднаваць будзямо. Галавачы.

**Палу'днічкі** мн. Маленькія мушкі, якія ў поўдзень выдаюць працяглы, дакучлівы звон. Палуднічкі гудуць — жанцам спаць ні даюць /з нар. песні/. Сухая Даліна.

**Палу'кашак** м. Палукашак; палу'каш, палавіна палу'каша /задняя або пярэдняя частка/. Гаспадар ён быў багаты; бало, пасадзіць бабу ў палукашак і кожну сераду прэ на кірмаш да Лунай. Карозічы.

**Па'льнуць** зак. Мацна ўдарыць, выцяць. Ён, доўго ні чакаючы, як пальне немцу ў морду, а сам у ногі, тулькі яго і бачылі. Струбка.

**Палэ'так** м. Вялікі кусок сала. З таго паршука толькі адзін палэтак застаўсо, усё разышлосо. Стрэльчыкі.

**Палю'га** ж. Пустазелле. Наполяш, набярэш палюгі ў посцілку, кіняш свіням і ядуць, аж вушы трасуцца. Казіміроўка.

**Па-лю'дску** прысл. Па-чалавечы, добра. Пры саветах тулькі сталі па-люцку жыць, а так хлеба ні мелі. Забагонікі.

**Палюля'ць** зак. Пакалыхаць. Ён у міне такі, што калі ні палюляеш, та ні засне, будзя круціцца. Баброўня.

**Палямбі'ца** ж. Паляндвіца, мяса вышэйшага гатунку. Палямбіцы соляць нікаторыя, а мы вэндзім, так ляпей. Карозічы. Палямбіцы Ганя акручвае ў марлю ці палатном, тады яны жоўтыя, ні чарнеюць. Дарашэвічы.

**Палямкаце'ць** зак. Шпарка паехаць. Глядзі, нека фурманка прас сяло палямкацела, мусі, нехто кунцаўскі паехаў. Зарубічы.

**Паля'нта** ж. Гульня хлопчыкаў з мячом і спецыяльнай плоскай палкай, лапта. У палянта я і сам гуляў, набегаяшса, ледво ногі валачэш. Баброўнікі.

**Паля'нтра** ж. Гульня хлопчыкаў з мячыкам і спецыяльнай плоскай палкай /палянтрай/, лапта. Міне заўсёды выбіралі старшым, бо моцно біў па мячыку, як гулялі ў палянтра. Копанікі.

**Паля'нуць** зак. Паглядзець. Трэбо палянуць, што на дварэ робіцца, мо ўсё пазамятало, з хаты ні вылезці. Кашэўнікі.

**Паля'руш** м. Параліч. Каб це паляруш разбіў, каб це /праклён/. Бакуны.

**Паляры'нкі** мн. Аздоба са стужачак, нашытых на рукавах жаночай вопраткі. Як дзяўкамі былі, та сукенкі насілі с такімі палярынкамі, з нашытымі стонжачкамі. Эйсманты.

**Паляце'ць** зак. 1. Паляцець, хутка пабегчы. Паляцеў, як шалёны, утрымаць ні змаглі, так рвануў. Рацічы. 2. Знасіцца, парвацца /пра адзежу, абутак/. Глядзі, боты зусім паляцелі, здаецца, доўго і ні хадзіў. Лужкі.

**Паляя'** ж. Пустазелле. Прынясеш паляі прыпол, кіняш свіням, та аж давяцца, ядзяць. Канчатка.

**Памазгава'ць** зак. Памазгаваць, падумаць. Ты, брат, добро памазгуй, што і да чаго, як трэбо рабіць, і тады прыходзь. Рыбніца.

**Пама'лу** прысл. Памалу, не спяшаючыся. Памалу ідзі, дарога сліская, да вечара ўсероўно зойдзяш. Парэчча.

**Памалю'сеньку** прысл. Памаленьку. Памалюсеньку, дзетка, ступай, каб ні ўпаў у воду. Кузьмічы.

**Памеркава'ць** зак. Памеркаваць, абдумаць, усебакова разгледзець. Трэбо, хлопцы, памеркаваць, ці варто з панам Пуслоўскім судзіцца, усероўно праўда будзе за ім. Кунцаўшчына.

**Памо'р** м. Пчолы, якія адмерлі ў вуллі за час зімоўкі. Такрок больш было памору, як у гэтым року, бо зіма цяжэйша была. Грынёўка.

**Памо'рак** м. Хвароба, мор /устар./. А паморак на вас, вы чо гэта да хлопца ўчапіліса. Славічы.

**Памы'лак** м. Дэфект у даматканай матэрыі. Во, дапусціла памылак ткучы ў радне, пустое месца пакінула. Свіслач.

**Памялі'шча** н. Палка, на якую насаджвалася мятла. Як памялішча доўга, та і с печы ўсё вымяцеш, нават з вуглоў падастаеш. Зарубічы.

**Памяло'** н. Памяло. Ашчэ такого ні было, кап скакало памяло /прымаўка/. Лаша.

**Памяльні'к** м. Месца каля хлебнай печы, у якім стаялі памяло і качарга. У памяльнік заўсёды ставілі качаргу, а памяло — калі хлеб садзілі ў печ. Круглікі. У яе чысто ў хаці ні было, смяце падмяце ў памяльнік і цэлы дзень ляжыць, ні выняся. Рагачы.

**Памярко'ўны** дзеепрым. Памяркоўны, разважлівы, добразычлівы. Кунцаўлян памяркоўнымі называлі, бо яны памяркуюцца, а тады ўжэ робяць, што трэбо. Лаша.

**Панава'ць** незак. Панаваць, уладарыць. Ні кажэце, шэры гусі, што я тут гарую, а кажэце, шэры гусі, што я тут паную /з нар. песні/. Рудавіцы.

**Панажэ'** мн. По'наж м. Панажы, дэталь ў ткацкім станку ў выглядзе некалькіх дошчачак. У кроснах панажоў бывае чатэры, а нават і больш, як ткуць родна. Рагачы.

**Панаша'ць** незак. Успамінаць. Нашто табе старое панашаць, што было, таго ні вернеш. Сухмяні.

**Паневяра'цца** незак. Здзеквацца, абражаць. Паневяра'юцца нат старым чалавекам, а ні верацъ, што самы старымі будуць. Каленікі.

**Паневяра'ць** незак. Зневажаць, здзеквацца. Як ён і трывае, паневяра'ць сталі ні тулькі суседзі, а і родныя дзеці, аказацца ні даюць. Круглікі.

**Пане'нка** ж. 1. Панна, незамужняя дочка пана. Паненка недзя вучыласа, у Ляхново прыязджала тулькі летам. Кунцаўшчына. 2. Дзяўчына-шляхцянка. Мы як былі паненкамі, та да такіх вёсак, як Верцялішкі, ні хадзілі, на забавах тулькі ў ваколіцах бывалі. Эйсманты.

**Па'ні** ж. Уладальніца маёнтка, памешчыца. Пані сама ні кіравала маёнткам, у яе жонца быў, які кіраваў. Свіслач. Пані млода — нявеста. Забляялі козы — прывялі паню млоду ў слёзы /прыказка/. Эйсманты.

**Панібра'цтво** н. Панібрацтва, залішняя бесцырымоннасць. А гэта што за панібрацтво, ён хто табе? Круглікі.

**Паніве'рка** ж. Непавага, непашана. Жонка ў яго ў паніверцы, за ніщто яе мая. Сапоцкін.

**Панікадзі'ло** н. Панікадзіла, вялікая люстра са свечкамі ў царкве. Як багаты вянчаўсо, та панікадзіло запальвалі, а як бедны — хто там яму запальваў, грошай ні меў. Свіслач.

**Паніхі'да** ж. Паніхіда, царкоўная служба па нябожчыку. Трэбо ўсім наказаць, кап прышлі, бацюшка будзе паніхіду па тату служыць. Лаша.

**Пані'ч** м. Паніч, сын пана, малады пан. У Адалькаўшчыні, як памярла пані, та стаў кіраваць паніч, але ў яго ні было ніякаго толку, усё пашло на ўбыль. Пракопавічы.

**Па'нна** ж. Дзяўчына на выданні (звычайна ў католікаў). Яна ў нас ужэ панна, можно замуж аддаваць, кап тулькі добры кавалер знайшоўса б. Эйсманты. Па'нна мло'да — нявеста. Да'рыць панна млода і пан млоды рубашкай роднаго дзяцьку. Прашу прыняць, бо цяшко трымаць /выслоўе ў час вясельнай цырымоніі/. Квасоўка. Старая па'нна — старая дзеўка, якая не вышла замуж. Гэля ў старых паннах засталаса, здаецца, і нібрыткая, але ніхто ні ўзяў, бедная. Брузгі.

**Пано'с** м. Панос, расстройства дзейнасці кішэчніка /пра пчол/. Глядзі, мусі, панос у пчол, ні пара, а яны буяць, вылятаюць, на снег падаюць. Грынёўка.

**Панто'флі** мн. Панто'фель м. Туфлі. Мой та жоўтыя любіць пантофлі, але ціпер такіх мало робяць, ні купіш. Баранава.

**Панца'к** м. Круглыя ячныя крупы. Учора быў у мліне, панцаку нарабіў, будзя на ўсю зіму. Луцкаўляны.

**Панці'на** ж. Пучок жорсткіх валасоў каля капыта пярэдняй нагі каня. Як куеш каня, та за панціну трымаеш нагу, пакуль каваль прыбівае паткову. Круглікі.

**Паншпі'ндар** м. Гульня хлопчыкаў з ножыкам. Ведаю, што ў нас у некі паншпіндар гулялі, я ні гуляў. Адэльск.

**Па'ншчына** ж. Паншчына — павіннасць пры прыгонным праве. Мы на паншчыну хадзілі аж у Свіслач, да пана Пуслоўскага, там адраблялі. Кунцаўшчына.

**Панясці'** зак. 1. Пацягнуць, павесці. Цібе гэта куды панясло, вярніса! Караневічы. Куды зноў цібе чорт панясе, ні прыпыняешса, ідзеш і ідзеш! Рагачы. 2. Памчаць стрымгалоў. Як панёс конь, та ўвесь воз разваліўсо. Лікоўка.

**Паняты'** м. Паняты, сведка. Я сам ні адзін раз быў панятым, ацэньваў, на скольки зрабілі гаспадару шкоды. Азёры.

**Паня'ць** зак. Затапіць. Балото вадой паняло, ні прайсці, ні праехаць. Лікоўка. Вёску вадой паняло, тулькі каміны стырчаць. Дзекалавічы.

**Па'па** м. 1. Толь, дахавы матэрыял. Папай накрыў хату, та, думаяця, надоўго? Паўгода ні праляжала і паабрываласа. Бычкі. 2. Хлеб /дзіцяч. слова/. На, Шурык, папы паеш з малачком, ні плач. Грыўкі.

**Пападла'вічу** прысл. Пад лавамі. Ты чо там лазіш пападлавічу, ты што там згубіў? Дубоўка. Кажуць, Шарашэўскі, што фабрыку тытунёву мёў, у Індоры ў аднаго яўрэя гадаваўсо, пападлавічу лазіў. Пракопавічы.

**Па-панібра'цку** прысл. Бесцырымонна, фамільярна. Я з ім па-панібрацку абыходжусо, хоць ён і велькі начальнік. Круглікі.

**Папапі'ць** зак. У значэнні: піць многа, без меры. Але ж і папапіў ён за свой век, нідарам, што даўлене мая. Каменка.

**Папа'р** м. Папар. Гэта поле засяваць ні будзем, пакінем пат папар, хай аддыхне. Батароўка. Мы на папары ўсе коні пасвілі, зелье збіралі. Свіслач.

**Па'паратнік** м. Папаратнік, папараць. Я тады ў папаратніку на немца забітаго наткнуўсо, але нікому ні сказаў. Каўпакі.

**Папа'рыцца** зак. 1. Мыцца ў лазні з парай. Прастыў быў, та ў бані папарыўсо — і як рукой зняло. Гродна. 2. Перан.: біць, лупцаваць. Папарыў халерніка, будзя ведаць, як рукі падымаць на старэйшаго чалавека. Грыўкі. Ні папа'рыцца — у значэнні: не захаваецца. За гэтымі дзяцьмі тут нічого ні папарыцца, усё парасцягаюць, павыносяць. Хамякі.

**Папасо'хнуць** зак. Доўга сохнуць. Дошкі папасохлі, добрыя будуць на падлогу, яна ні рассохнецца ўжэ. Змяёва. Але ж і папасохлі дрова пат хлявом, затое і сухія. Салаўі.

**Папатрапа'ць** зак. Трапаць доўга, многа. Ну і папатрапалі лёну ў той рок, рукі паадбірало трэплючы, столькі было. Дарашэвічы.

**Папелява'ты** прым. Папялі'сты, колеру попела. Глень, Антось, якую папелявату сабе хусцінку купіла, ці файна будзя? Круглікі.

**Папе'р** м. Папера. Можа, ў цібе есць які чысты папер? Мне трэбо пісьмо брату напісаць. Капцёўка.

**Папе'рці** зак. 1. Панесці, павалачы /штонебудзь цяжкае/. Думалі, сілы німа ў яго, а ён як узваліў мяшок на плечы, так і папёр да хаты. Саломенка. 2. Прагнаць /груб./. Як папёр с хаты дзіцей, та тыя, як маглі, уцякалі. Капцёўка.

**Папі'нка** ж. Пе'пін звычайны /сорт яблыні/. Папінка нівелька, але ўрадліва, яблыкаў на ёй як усыпано. Батароўка.

**Папі'хач** м. Чалавек, якім панукаюць, зняважліва распараджаюцца. Што я табе тут, які папіхач, што ты міне ўсюды пхнеш, дзе трэбо, а дзе і ні трэбо? Грыўкі.

**Паплё'нтаць** зак. Пайсці, паплесціся / неадабр./. Ты дзе гэта зноў паплёнтаў, табе ў хаці работы німа? Кавалічы.

**Папра'віць** зак. Паправіць, выправіць. Палез бы на стрэху, парке паправіў бы, бачыш, як вецер пазадзіраў. Навасёлкі.

**Паправу'нак** м. Папраўка, выздараўленне. Захварэў, і німа яму ніякаго паправунку, і дахтарэ нічого ні памагаюць. Пракопавічы.

**Папрыбіва'ць** зак. Папрыбіваць, прыбіць у многіх месцах. Трэбо папрыбіваць у загарадцы латы, а то рады німа, сві'ня вылазяць. Белева.

**Папрывыка'ць** зак. Папрывыкаць, прывыкнуць. Халернікі, папрывыкалі, каб на іх хто рабіў, хай самы робяць. Круглікі.

**Папрыціска'цца** зак. Папрыціскацца, прыціснуцца. Дзеці нашы як убачылі, што немцы ідуць, папрыціскаліса адзін да аднаго, так і сядзелі, пакуль ні сцямнело. Скідаль.

**Папусці'ць** зак. 1. Папусціць, уступіць, адмовіцца. Іван сваго ні папусціць, ён ні такі, як табе здаецца. Балічы. 2. Адпусціць, аслабіць. Папусці папругу, хай кань атпачне, пераесць трохі. Зарубічы.

**Папярэ'чка** ж. 1. Папярочка, дошка, планка, замацаваная ўпоперак. Стаўбэ маю добрыя, тулькі адных папярэчак ні стае. Пяслі. 2. Папярэчны загон, палоска зямлі. Папярэчку засаджвалі бульбай, рэтко калі засявалі жытам, бо ўсероўно стоптвалі. Караневічы.

**Пара'дзіць** зак. Парадзіць, даць параду, падказаць. Ну што я табе магу парадзіць, і сам ні ведаю што. Жылічы.

**Паражняко'м** прысл. Без грузу, без паклажы, без пасажыраў. Заўтро еду да Горадна паражняком, як хто хоча, магу падвязці. Свіслач. Гэта ж грашно, кап паражняком ехаў і чалавека ні падвёз. Кругляны.

**Паразуме'цца** зак. Паразумецца, дагаварыцца, дамовіцца. Нашто нам гэта валакіта, трэбо паразумецца, да скутку якого-нібудзь прыйсці. Бакуны.

**Парако'нны** прым. Параконны, прызначаны для пары коней. Параконныя вазэ былі тулькі ў багатых гаспадароў, бедныя і аднаконных вазоў часам ні мелі. Баброўнікі.

**Паралю'ш** м. Параліч. Яе як паралюш разбіў, та яна яшчэ гадоў пяць ляжала, пакуль памярла. Скрынікі.

**Параманці'раваць** зак. Адраманта-ваць. Трэбо занясці параманціраваць абутак, мо дзеці ашчэ паходзяць, шка-дую выкідаць. Гродна.

**Пара'нак** м. Раніца, ранак. Паранак халодны, бяры бурку, а то так ні вытрываяш. Дарашэвічы. Паранак выдарыўсо тады цёплы, расісты. Дзекалавічы.

**Па'ранка** ж. Параная бульба ў лушпінах. Дзісь матка паранку наварыла, з волякам будзямо есці, даўно ні елі. Верцялішкі.

**Парасо'н** м. 1. Парасон. Хто той парасон меў, так хадзілі калісьці, дажджу ні баяліса. Лікоўка. 2. Прымітыўная засона з дзяругі ад непагоды або сонца. Помню, калісьці хлопцы на шашэ сядзелі пат такімі парасонамі і білі цэлымі днямі каменя на шчэбень, і якія там ім грошы плацілі. Зарубічы.

**Парахава'цца** зак. 1. Зрабіць грашовыя падлікі, разлікі. Ні бойса, парахуемсо, ні пакрыўджу. Лікоўка. 2. Перан.: адпомсціць, адплаціць. Мы ашчэ з табой парахуемсо, табе тое ашчэ бокам вылезе. Лаша.

**Па'рка** ж. Ма'та, вязаная пляцёнка з саломы для стрэх. Каб пакрыць хату, трэбо, звязаць дзесяць парак, ні менш. Балічы. Найлепей паркі вязаў адзін чалавек з Баброўнікаў, яго ўсе бралі вязаць, як хаты крылі. Кунцаўшчына.

**Парка'ль** м. Паркаль, лёгкая баваўняная тканіна. Учора купіла сабе паркалю на блюску, а то ні мела ў чым да людзей выйсці. Клачкі.

**Парка'н** м. Паркан, агароджа. Снегам усё занясло, нават паркану ні відаць. Гарны.

**Па'ркасць** ж. Парнасць, гарачае, вільготнае надвор'е. Паркасць косці ні ломіць /прымаўка/. Верцялішкі. Паркасць нека, пэўно, дождж будзя. Саломенка.

**Парні'к** м. 1. Парнік. Некалі парнікоў на вёсцы ніхто ні знаў, а ціпер у кожнага парнік, гурке разводзяць. Індура. 2. Металічны кацёл з падагрэвам, у якім парылі бульбу. У каго много свіней было, та бульбу ў парніках парылі, без яго ні абыдзешса. Квасоўка.

**Паро'сна** прым. Паросная, цяжарная / пра свінню/. Німа што казаць, добра свіня, парасят навяла і зноў, мусі, паросна. Гожа.

**Паро'ўка** ж. Малатарня, якая пры малацьбе змінае сцябло. Пры малацьбе пароўкай, гаспадар, ні зявай, ні совай рук у барабан, а то пакалечысса. Лікоўка.

**Паро'ць** незак. 1. Пароць, тыкаць вострым. Немяц ускочыў у адрыну і давай штыхом пароць салому, думаў, што там хто есць. Бандары. 2. Разразаць швы, распорваць. Наша Фядора та шыя, та пора /прымаўка/. Агароднікі.

**Парт** м. Рэшткі спаленай парцяной анучкі /для крэсіва/. Возьмяш парту на крэмень і красаяш, пакуль ні ўпадзе іскарка на парт, загарыцца. Гушчыца.

**Парта'ч** м. Бракароб, несумленны работнік. Хіба ж ён майстар? Партач дый годзі, за што ні возьмяцца, та ўсё спартоліць, запсуе. Віцькі.

**Паруба'ць** зак. Пакалоць /пра дровы/. Мой Санька загадзя стараецца парубаць дрова, каб да зімы высахлі. Галавачы.

**Пару'ка** ж. Парука, зарука, гарантыя. Першы раз Казюка на паруку ўзялі, як сядзеў пры паляках ў цюрме, унясллі дзвесця злотых. Зарубічы.

**Парушэ'нец** м. Парушэнец, шматгадавая травяністая расліна з паўзучым сцяблом і ружовымі кветкамі. Парушэнец расце на балоці, хто цяшко што падымя, сярэдзіну зрушыць, та яго парылі і пілі. Лугавая.

**Па'рхі** мн. Заразная хвароба скуры; струпы; высыпка на целе. Свінка файна была, а потым некія пархі напалі на яе, зусім ні стала есці. Кунцаўшчына.

**Парце'йны** прым. Партыйны. Ён чалавек парцейны, лішняго слові ні скажа. Пагараны

**Парціза'н** м. Партызан. Каля капцёўскага лесу парцізаны зрабілі засаду, та самаго бурмістра схапілі, потым пакаралі. Каўпакі.

**Парцяны'** прым. Парцяны, баваўняны, ільняны. Кажуць, міністрам быў, а прыехаў да бацькоў у парцяным каптане. Балічы. На каптанэ сваім хлопцам вось гэта тку, аснова парцяная, а уток — шарсцяны. Рудавіцы.

**Паршу'к** м. Парсюк, вяпрук. Мы той рок паршука на пудоў дванаццаць выкармілі, натта ж еў. Некрашы. Учора Навіковы велькагa паршука закалолі, свежаніны далі. Свіслач.

**Па'ршы** мн. Парша', заразная хвароба скуры. Паршы некія на свіней напалі, ні ведаю, што рабіць, кажуць, дзёгцям трэбо шмараваць Балічы.

**Паршы'вы** прым. Паршывы, шалудзівы; хворы на паршу. Паршывы, на яго гатко глядзець, ні тулькі з ім жыць. Пракопавічы. З той пары ён стаў некі паршывы, кажуць, экзэма нека напала ці што. Скамарошкі.

**Па'рыць** незак. 1. У значэнні: варыць парам. У вялікі пост нам маці гарох усе парыла, як ціпер помню, які ён смашны быў. Лужкі. 2. Перан.: біць, лупцаваць. Як пачаў хлопца парыць дзягай, та аш шкада стало, пачала прасіць. Сухая Даліна. Так ужэ яго парыў, усероўно ні прызнаўсо. Літвінкі. 3. Рыпарваць, (пра гарачае вільготнае надвор'е). Натта ш слонца пячэ, парыць, мусі, на дождж збярэцца. Жытомля.

**Парэ'нчы** мн. Парэнча ж. Парэнчы, поручні. Вада такая была, што каб ні парэнчы, па мосці ні праехаў, знясло б. Балічы.

**Парэ'паны** прым. Патрэсканы, шурпаты. Ад работы рукі парэпаны, мый іх ці ні мый, усероўно гразныя, во якія. Загорцы.

**Парэ'сятко** н. Парася, парасё /памянш./ Парэсятко купілі ў Лунай, натта ж удачнае, што ні дасі, усё з'есць. Сухая Даліна.

**Парэ'чка** ж. Парэчка. У гэтым року парэчак ні будзя, нека на іх іржа напала. Гродна.

**Пас** м. Пояс, рэмень, папруга. Як пачнуць дурэць дзеці, так ойцец і бярэ пас, каб усмірыць. Лугавая.

**Паса'г** м. Пасаг. Да Гандзі сватоў было ні адбіцца, бо ў яе пасаг быў, аж дзесяць дзісяцін зямлі. Літвінкі.

**Паса'д** м. Пасад, рад снапоў, пакладзеных на ток для абмалоту. Мы як пойдзямо малаціць, та да сняданя пасадаў два абмалоцім жыта. Малая Жорнаўка.

**Паса'да** ж. Пасада, месца на службе. Мой Стась некалі добру пасаду займаў, ужэнднікам быў. Старая Руда. Кажуць, ён на добрай пасадзі, добрыя грошы бярэ. Хліствічы.

**Паса'жны** прым. Пасажны, атрыманы, дадзены ў пасаг. Пасажнай каровы ні прадам, бо бацьке мае кепскай ні давалі. Рацічы.

**Пасалаве'лы** прым. Пасалавелы, невыразны, мутны ад стомленасці, ап'янення /пра вочы/. Я та бачу, што ў яго гочы пасалавелыя, кажу: «Ідзі спаць», а ён сядзіць, дзяўбе носам. Свіслач.

**Пасаляве'не** н. Сцябліны фасолі. Пасаляве'не кіну пат куры, та яны пабіраюць лісточкі, хочуць зялёнаго. Рудавіцы.

**Пасві'ско** н. Паша, выган. На садзібах пасвіско добра было, коні пасвіць вадзілі, і я вадзіў. Копанікі.

**Пасвісцё'л** м. 1. Свісток, свістулька. Я сам рабіў пасвісцёлы з вярбы, іх можно было на адну, дзве дзірачкі рабіць, а можно і больш. Каўпакі. 2. Перан.: тонкі высокі хлопец. Ашчэ і чатырнаццаць німа гэтаму пасвісцёлу, а яго выпярло, як канапліну. Каранявічы. Пасвісцёл некі, высокі пад небо, а дурны як трэбо. Клачкі.

**Пасвя'дчыць** зак. Пасведчыць, выступіць у ролі сведкі. Што я з гэтай вёскі, тут кожны можа пасвядчыць, малое дзіця і тое міне знае. Зарубічы.

**Пасвянцо'нка** ж. Плеценая з саломы і лазы пасудзіна для велікоднай ежы. Помню, поўну пасвянцонку наложыць тато і нясе, каб бацюшка пасвянціў. Бакуны.

**Пасвянцо'ўка** ж. Плеценая з саломы і лазы пасудзіна для велікоднай ежы. Багаты поўну пасвянцоўку наложыцьь усяго і нясе свянціць, а ў беднагa гаспадара і свянціць ні было чаго. Рацічы.

**Пасё'рбаць** зак. Паесці чаго-небудзь

рэдкага. Пасёрбалі зацеркі і ідзеця спаць, бо больш нічого німа. Лаша.

**Паскака'ць** зак. Патанцаваць. Як добро гарманіст заграе, та і ў старого ногі просяцца паскакаць з дзеўкай. Абухава.

**Паскро'бак** м. 1. Перан.: апошняе дзіця ў сям'і. Паскробак гэты, рошчы яму ніякай німа. Струбка. 2. Апошні снег. Гэта паскробак, Бог, мусі, усе засекі павымятаў, каб наскрабаць снегу. Гожа.

**Паску'львацца** зак. Скурчыцца. Мусі, халадно, каль куранята паскульваліса, збірай, нясі ў хату. Зарыца.

**Пасля'д** м. Адходы пасля ачысткі /праветрывання/ збожжа. У нас пасляд давалі курам, нікаторыя малолі свіням. Славічы.

**Пасляза'ўтра** прысл. Паслязаўтра. Гэта ж нам паслязаўтра каровы пасвіць, калейка падышла. Клачкі.

**Па'сма** ж. Пасма, некалькі складзеных нітак або валокнаў. Матке раней разбівалі на пасмы, у кожнай пасме па шэсцьдзісят нітак, ні менш. Прыгодзічы.

**Пасо'біць** зак. Дапамагчы. Заўтра паеду да сваіх, хачу пасобіць бураке выбіраць, а то старым цяжко. Малая Жорнаўка.

**Пасо'ля** ж. Фасоля. У гэтым року пасолі ні буду садзіць, старая есць. Карозічы.

**Пасталэ'** мн., пасто'л н. Пасталы, лапці. Чорт сем пар пасталоў падраў, пакуль пару да пары дабраў /прымаўка /. Рацічы. Мужык — пастол, а садзі яго за стол /прымаўка /. Баркі.

**Паста'ць** зак. Пастаць, стаць у нейкім парадку. Вы чо гэта пасталі, ні ратуеце, хлопяц топіцца. Пагараны.

**Пастро'нкі** мн., пастро'нак м. Пастронкі, частка збруі. Пастронкі падцягні, задоўгія, бачыш, як конь ідзе. Дарашэвічы.

**Пастрыга'не** н. Абрад, паводле якого першы раз падстрыгалі дзіцяці валасы. Як сем рок міне дзіцяці, та маці патстрыгала яму валасэ, кажучы: «Дай, Божа, кап ты ніколі ні зблудзіўсо, ішоў простай дарошкай «. Лаша.

**Паступо'во** прысл. Паступова. Пажар паступово пачаў заціхаць, як пачалі воду ліць; хто як мог ліў, вадэ ў студнях ні стало. Доргунь.

**Па'стыр** м. Авечы пастух /устар./. Пойдзямо да карчмэ пастыра гадзіць на гоўца. Лаша.

**Пасуну'цца** зак. Пайсці павольна. Сядзела ўсе ў хаці, а ціпер во пасунуласа да суседкі. Лікоўка.

**Пасыка'цца** незак. Узяць намер, мець намер. Быў пасыкнуўсо да тае дзеўкі ехаць у сваты, але пабаяўсо, што ні пойдзя. Сколубава.

**Па'сынак** м. Пасынак, нядродны сын у сям'і. Ён мне прыходзіцца як пасынак, але лепшы як роднае дзіця. Кулёўцы. Чаго ат пасынка чакаці, калі родны сын ад бацькоў атказаўсо. Брузгі.

**Пасяду'шкі** мн. Пасядзелкі. Уна'трыў на пасядушкі хадзіць і рады німа, ідзе і ні прыпыняецца, а ты адна ў хаці што хочаш рабі. Гарны.

**Па'сярб** м. Пасынак, нядродны сын у сям'і. Шурык яму — ніродны сын, а прыходзіцца пасярб. Кулёўцы.

**Пасярбі'ца** ж. Падчарыца, нядродная дачка мужа ці жонкі /родная аднаго з двух/. Мачаха на міне ні магла глядзець; што тулькі лепшае, та ўсе сваей дочцы, а я ёй пасярбіца, зусім ніпатрэбна была. Кулёўцы.

**Пата'пкі** мн. Дзіцячая гульня, падобная да гульні ў квач. Як малыя былі, та усе ў патапкі гулялі, набегаешса, ног ні чуеш. Свіслач.

**Пата'чка** ж. Патуранне, паблажка. Патачку далі дзецям, а ціпер рады з імі німа, ні слухаюць. Круглікі.

**Патачы'ць** зак. Патачыць, навастрыць. Сакера, падло, ніяк ні цеша, трэбо на тачыло патачыць. Гожа.

**Пато'мак** м. Патомак, нашчадак. Мы нагараваліса, можа, хоць патомкі нашы добро будуць жыць. Пяслі.

**Патрабава'ць** незак. Патрабаваць, дамагацца. Як ні будзеш ад дзіцей патрабаваць паслухмянасці, та з іх нічого ні будзе. Брузгі.

**Патра'ва** ж. Патрава, псаванне пасеваў жывёлай. Ты панятых прывядзі, хай

ацэняць, якую патраву зрабілі начлежнікі. Сухая Даліна.

**Патра'піць** зак. Патрапіць, дагадзіць. Мо так, як вы скачаце, ні патраплю, я тулькі свае танцы магу скакаць. Занявічы. Халерніку гэтаму ні магу патрапіць дагадзіць, усе ні так, як ён хоча. Клачкі.

**Патрахата'ць** зак. Пабіць /посуд/. Як надышло на яго, та ўсе талеркі патрахатаў, пабіў. Рагачы.

**Патрахе'** мн. Вантробы. Маці патрахе с курыцы ні варыць, выкідая, тулькі пячонку і сэрца дастае. Квасоўка.

**Патруха'** ж. Пацяруха, рэшткі саломы або сена, перацёртыя і пераедзеныя мышамі. Мы патрухі ні гаўцам, ні свіням нават ні давалі, бо тохлым аддае, мышамі пахне. Брузгі. У патрусе нікаторыя на вялікдзень яйца фарбавалі, зеленькавыя такія бывалі. Віцькі.

**Патрухіня'ць** зак. Пабегчы трушком, патрусіць. Конік той зусім слабенькі, ледво патрухіняў. Як ён даедзе да таго Горадна? Кунцаўшчына.

**Патрэ'ба** ж. Патрэба, неабходнасць. Таўчэсса тут пад рукамі ўсяроўно, як патрэбу якую маяш. Скамарошкі.

**Патрэ'скацца** зак. Патрэскацца. Слонца ўжэ каторы дзень пражыць, бачыш, як зямля патрэскаласа. Кузьмічы. Хаджу цэлымі днямі па грудах, і пяты патрэскаліса, ступіць ні магу. Свіслач.

**Патрэт** м. Партрэт, вялікая фотакартка. У іхняй хаці вісяць патрэты і бацькоў і дзеда з бабай, усе маладыя. Лікоўка.

**Пату'ль** прысл. Да таго часу. Ён будзя сядзець у іх патуль, пакуль с хаты ні выжануць, паглядзіш. Хліставічы.

**Патура'ць** незак. Патураць, нястрога адносіцца, рабіць паблажку. Ты ёй ні патурай, ні давай волі, а то сам пападзеш у няволю, рады ні дасі. Гродна.

**Патуры'ць** зак. Пагнаць, выгнаць. Яны чо тут ззабраліса? Трэ было іх патурыць, каб і духу іх ні было. Пагараны.

**Паты'чак** м. Палачка, кіёчак. Мая ўнучка як у школу пашла, на патычках і пальцах добра лічыла, а без іх аніяк ні магла. Лугавая.

**Патэ'нт** м. Патэнт, пасведчанне на права займацца гандлем, промыслам. Патэнт на гарэлку ні ўсім давалі, толькі дабравольцам, асаднікам. Індура.

**Патэ'паць** зак. Пайсці /жарт./ Ну, ужэ позно, будзьце здаровы, а я памалу патэпаў дахаты. Каленікі.

**Паўга'рчык** м. Невялікая каробка, сплеценая з саломы і лазы /севанка/ для рассявання збожжа. У паўгарчык лезло пуд жыта, а мо і больш. Паўгарчык пачэпіш сабе на шыю, ідзеш і сееш памаленьку. Пад'ятлы.

**Паўглу'вак** м. Недаразвіты, прыдуркаваты чалавек. Што вы хочаце ад гэтаго паўглуўка? Ланявічы.

**Паўгляда'цца** зак. Паўглядацца, паглядзець. Пачакай, хачу на цібе хоць трошкі паўглядацца, даўно ні бачыў. Сіўкава.

**Паўзіра'цца** зак. Паўзірацца, наўглядацца, паглядзець. Хачу паўзірацца, што робіцца на белым свеце, а то век пражыла і нічога ні бачыла. Пальніца.

**Паўкалу'пашак** м. Пярэдні палу'кашак. Паўкалупашак як заставіш, та ўжэ салома з воза ні выпадзе, і торба ні згубіцца. Табала.

**Паўку'рак** м. Курыны гермафрадыт. Во, купіла за курыцу, а зноў спявае, мусі, які паўкурак. Гарны.

**Паўме'тра** м. Паўцэнтнера, 50 кг. Некалі прадасі з паўметра жыта і ўжэ маеш грошы на абыходы. Цвіклічы.

**Паўпа'льто** н. Паўпа'льто, кароткае, не ніжэй каленаў, паліто. Бабы і дзяўке да касцёла найбольш у паўпальтах хадзілі. Пракопавічы.

**Паўпа'чак** м. Недаростак /зневаж./ Адзін сын і той паўпачак, яго нават да войска ні ўзялі. Клінчаны.

**Паўпля'шка** ж. Палавіна бутэлькі / пра гарэлку/. Здаецца, прынёс бы паўпляшкі дый выпілі б разам, а так німа пра што гаварыць. Лаша.

**Паўпры'ца** ж. Дэталь жорнаў, жалезная планка, на якой трымаецца верхні камень. Як хутко раскруціш жорна, так, глядзі, верхні камень с паўпрыцы так і зляціць. Верцялішкі.

**Паўсвя'то** н. Невялікае свята. Градавая серада — гэта паўсвято, можно свят-

каваць, а можно і ні святкаваць, як захочаш. Кунцаўшчына.

**Паўсвя'так** м. Невялікае свята. На Зеляннок адны ішлі да Індоры на фэст, другія рабілі, бо ў паўсвятак граху велькаго ні было. Круглікі.

**Паўслуха'цца** зак. Паслухаць, слухаць некаторы час. Пайдзі, там паўслухайса, што мужчыны кажуць, можа заўтро касіць пойдуць. Сухая Даліна.

**Паўстыда'цца** зак. Пасаромецца. Што ты робіш? Чалавека чужого паўстыдаўсо б. Ферма.

**Паўсу'кно** н. Паўшарсцяная самаробная тканіна. З паўсукна шылі паўпальта, сачыкі і ні горшыя былі крамных. Свіслач.

**Паўтара'ка** м. Пра таго, хто любіць паўтараць адно і тое ж. Во, паўтарака, пляце адно па некалькі раз, слухаць абрыдло. Карозічы.

**Паўтаро'ўка** ж. Паўтарачны воз. Ваээпаўтароўкі былі тулькі ў маёнтках, у мужыкоў ні было, і такім возам ні было чо вазіць. Рагачы.

**Паўуча'стка** м. Старая мера зямельнага надзела, роўная 6 га. На паўучастку ашчэ можно было жыць, трымаць каня і карову, ні тоя, што на шастаку. Дзекалавічы.

**Паўхаце'ч** ж. Месца на сенажаці, парытае кратамі. На балоці адна паўхацеч, німа як касіць. Круглікі.

**Паўхі'р** м. Пухір. Глянь, на руцэ некі паўхір выскачыў, і сам ні ведаю ад чаго. Адэльск.

**Паўшу'бак** м. Паўкажу'шак. Ашчэ ў міне і ціпер паўшубак есць, як халадно, та надзяваю, хаджу. Лугавая.

**Па'ха** ж. Паха. Бяры свае лахі пат пахі і ўцякай! Гібулічы. Хто сыты, та ў кожнаго пат пахамі пацея, у міне ні будзя пацець, бо я худая. Свіслач.

**Пахадны'** прым. Непаседлівы. Гэты чалавек пахадны, ён усюды дойдзя, сваго даб'ецца. Азёры.

**Пахадня'** ж. Дэталь у калаўроце, на якую наступаюць нагой і прыводзяць у рух вялікае кола. Як калаўродак добры і ход мае лёхкі, та пахадню пад нагою і ні чуеш. Бакуны.

**Пахаро'ны** мн. Пахаванне. Пахароны будуць у суботу, накажэце брату, хай прыязджае. Падліпкі.

**Пахві'на** ж. Пахвіна, месца паміж бядром і ніжняй часткай жывата. Ужэ трэці суткі коле ў пахвіні, і сам ні ведаю, што рабіць. Вішнявец.

**Пахму'рны** прым. Пахмурны, непагодлівы, змрочны, хмарны. Тады дзень выдарыўсо пахмурны, халодны, як мы ўцякалі з лагера, помніш? Трычы.

**Пахрабуста'ць** зак. З'есці ўсё /неадабр./. Халернік, як дабраўсо, та ўсе яблыкі пахрабустаў, нікому ні пакінуў. Караневічы.

**Пахрасці'цца** зак. Прарасці, пусціць расткі. У склепе цяпло, паглядзі, як бульба пахрасцілаcа. Падлабенне.

**Паху'каць** зак. Пахукаць, падуць. Ні плач, Колік, трэбо пахукаць на пальчык, мо перастаня балець. Нямейшы.

**Паца'н** м. Хлопчык, хлапчук /жарт., ласк./. Пакінь гэтых пацаноў адных у хаці, та за дзень чорт ведае, што наробяць. Пяслі.

**Паца'нка** ж. Дзяўчынка /жарт., ласк./. Я думаў, дзеўка, а зноў яна зусім ашчэ пацанка, у пяты клас ходзіць. Тужаўляны.

**Па'церы** мн. Пацеры, малітва. Як падрос, так маці і пачала міне вучыць хрысціцца і пацеры гаварыць. Лаша.

**Пацё'ркі** мн., пацёрка ж. Па'церкі, па'церка; кара'лі. У нас ні было моды насіць пацёркі, а ў другіх вёсках насілі. Малая Жорнаўка.

**Паціфо'н** м. Патэфон. Антон, купі сабе паціфон /выслоўе/. Гродна.

**Паціхе'ньку** прысл. Паціху, нягучна, асцярожна. Я паціхеньку ўвайшоў у хату і лёг, баяўсо, каб бацьке ні ўчулі. Пушкары.

**Паціхо'начку** прысл. Паціху, нягучна, асцярожна. Здаецца, паціхоначку падходзіў да яе, усероўно ўчула, прачнуласа. Віцькі.

**Пацю'паць** зак. У значэнні: паволі пайсці, пакрочыць. Вы, дзеткі, ашчэ сабе пасядзеця, а я ўжэ пацюпаю дахаты. Кульбакі.

**Пацяпле'ць** зак. Пацяплець. У хаці, як

вокна ўставілі, зусім стала іначай, пацяплело. Карозічы.

**Пачарстве'ць** зак. Пачарсцвець, стаць чэрствым. Хлеб пачарствеў, ні магу есці, зубоў німа. Прыгодзічы.

**Пачаске'** мн. Пачаскі', адыходы пры часанні лёну. Я сваей дзеўчыні адразу ні давала лёну прасці, яна пачаске' прала. Бакуны.

**Пачасы'** мн. Пачаскі', адыходы пры часанні лёну. Я таксамо прала пачасы, яны мяхкія, та і добро было прасці. Забагонікі.

**Пачва'ра** ж. Перан.: пра надта непрыгожага чалавека. Гэта ні чалавек, а пачвара нека, што с таго, што ён багаты. Рагачы.

**Пачта'р** м. Паштальён. Ідзі жывей, пачтар, мусі, пенсію нясе табе. Грандзічы.

**Пачу'хаць** зак. Пачасаць. Дзяцька Арцём пачухаў патыліцу і кажа: «Браце, нічого ні будзя з гэтай задумы: грошай ні маю «. Кунцаўшчына.

**Пачці'вы** прым. Пачцівы, паважаны, шаноўны, дабразычлівы. Чалавек ён пачцівы, на кепскае ні навядзе, яму можно верыць. Хліставічы.

**Пачыкілдава'ць** зак. Пайсці пакульгваючы. Глядзі, твой Іван і зноў недзе пачыкілдаваў. Кунцаўшчына.

**Пачы'н** м. Пачын, пачынанне. Прастаяла паўдня і пачыну ніякаго ні зрабіла, ніхто грушаў ні купляе. Гродна.

**Па'ша** ж. Паша, выпас. У нас пашы зусім німа, каровы дахаты прыходзяць галодныя, трэбо карміць. Бубны.

**Пашкамята'ць** зак. Парваць на дробныя кавалачкі, на шматкі. Пакінула ў хаці адных дзіцей, та яны чысто Гранікавы кнішке пашкамяталі, пакідалі. Свіслач.

**Пашкарэ'ндзіць** зак. Пашкодзіць. І сама ні ведаю, што мне пашкарэндзіло: жвот баліць, ні перастае. Малахавічы.

**Пашку'да** м., ж. 1. Брыдкі, агідны, несумленны чалавек /груб./. Дзе трэбо, дзе ні трэбо, усюды гэта пашкуда ўлезя, усюды яго поўно. Дарашэвічы.

**Пашта'р** м. Паштальён. Ля, паштар пісьмо табе прынёс, мусі, ад Геніка. Каленікі.

**Пашу'гаць** зак. Пагайдаць, пагойдаць. На пашугай трошкі дзіця, а то плача. Кавалічы.

**Пашчэ'мкі** мн., пашчэ'мак м. Сківіцы. Ад злосці ён тульки пашчэмкі сцяў, ні ведаў, што тут рабіць. Літвінкі.

**Пашыбава'ць** зак. Хутка пайсці. Надаело сядзець у хаці, та кудысьці і зноў пашыбаваў. Шабаны.

**Пашыхава'ць** зак. Пашанцаваць. Ёй пашыхавало, глядзі, якого хлопца патхапіла. Каўпакі.

**Паянці'на** ж. Пучок жорсткіх валасоў каля капыта пярэдняй нагі каня. На, вазьмі за паянціну, патрымай, а я пагляджу, мусі, у капыто нешто конь забіў, кульгая. Круглікі.

**Паясні'ца** ж. 1. Частка спіны ніжэй пояса. Падняла, мусі, нешто цяжка, таму і паясніца баліць, трэбо сцярагчыса. Гродна. 2. Паясніца, паласа тканіны, якая прышываецца да верхняй часткі спадніцы, штаноў. Паясніцу з другого матэрыялу да андарака прышыям, мацнейнейшаго, гэты ні патходзіць. Агароднікі.

**Пе'кар** м. 1. Дзіцячая гульня. Некалі гулялі ў пекара, пазбіраемсо на балоцячку і гуляям да цямна. Саломенка. 2. Завостраны кіёк у гэтай гульні, які ўтыкаецца ў зямлю. Паставіш кіёк, адмераям дзесяць шагоў і б'ем, кап пекар збіць. Зарубічы.

**Пе'кло** н. Пекла. "Хто грэшны, — казаў дзед, — у пекло пападзе, чэрці смалу будуць на ім вазіць". Іванаўцы.

**Пе'кны** прым. Прыгожы. Наша Надзя пекныя дыванэ ткала, адзін і мне спрэзэнтавала. Бросты.

**Пе'люсць** ж. Праход у хлебнай печы, праз які ідзе дым у комін /устар./. Пелюсць чорная, як сопуха, трэбо хоць трошкі сажу венікам абмясці. Рацічы.

**Пень** м. 1. Пень. Быў лес, та яго спляжылі дазваня, тульки пні адны стырчаць. Кавалічы. 2. Вулей-калода. Ён, мусі, мае пнёў дваццаць пчол, а мо і больш. Рагачы. 3. Перан.: пра бесталковага, абыякавага да ўсяго чалавека. Прыбяры і пень — та будзя як мілы дзень / прыказка/. Верцялішкі.

**Пераапрану'ць** зак. Пераапрануць.

Была ў адным сачыку, а ціпер пераапранулаcа, мусі, кудысьці пойдзяш? Балічы.

**Перабіра'цца** незак. Перабірацца, перасяляцца. Мы будзем жыць ўжэ ні там, перабіраемса на другую кватэру, лепшую. Васілевічы.

**Перабіра'ць** незак. Перабіраць, сартаваць. Пачалі перабіраць бульбу і ні кончылі, ашчэ на паўдня засталоса. Навасёлкі.

**Перабі'ркі** мн. Рэшткі, астаткі, адходы. Што мне даеш, тут адны перабіркі засталіса, а самыя лепшыя яблыкі другім аддаў. Бакуны.

**Перабі'рысты** дзеепрым. Від дывана, які ткаўся спосабам перабора рознакаляровых нітак. Некалі і я ткала перабірыстыя родна, Люба памагала. Каробчыцы.

**Перабі'тка** ж. Старое рэчышча ракі. З перабіткі вадэ ні нап'ешса, каб і хацеў, бо яна жоўта, смярдзіць. Караневічы. Ціпер Свіслач перакапалі, выпраставалі, адны перабіткі засталіса. Рагачы.

**Перабо'р** м. Перабор, лішак ачкоў ў картачнай гульні. А ніяк карта ні ідзе, што ні возьмяш, та ўсе перабор. Каробчыцы.

**Перабо'ры** мн. Пераборлівасць. За пераборы чорт парваў аборы /прыказка/. Бандары. Яна за свае пераборы і замуж ні вышла, а хлопцаў было ўсялякіх. Некрашы.

**Перабрысці'** зак. Перабрысці, перайсці ўброд. Во тут брод, ні глыбоко, можно рэчку перабрысці. Занявічы.

**Перабэ'чыцца** зак. Схіліцца на бок. Глядзі, як качка наеласа, аш воля перабэчыласо, ісці ні можа. Жукевічы.

**Перабэ'чыць** зак. Схіліць на бок, наставіць. Ён, помню, як стаў начальнікам, та перабэчыць жвот і паўзе, нікого ні бачучы. Рудавіцы.

**Перава'раны** дзеепрым. Пераварaны, кіпячоны. Нікаторыя сырой вадэ зусім ні п'юць, а тулькі пераварану, а мне ўсероўно. Каўпакі.

**Пераве'рцень** м. Пярэ'варацень, ваўкалак. Рас пераве'рцень у Сухой Даліні на вяселе зайшоў, та ўсе памлелі, ні ведалі, што рабіць. Літвінкі.

**Пераво'дзіць** незак. 1. Пераводзіць, перамяшчаць. Маго пераводзяць бугалтарам у другі калхоз, а на яго месца некаго сваго ставяць. Рацічы. 2. Знішчаць, нішчыць. Як ваўкоў ні страляюць, як ні пераводзяць, а яны зноў та там, та тут паказваюцца. Навумавічы.

**Перавя'зісты** дзеепрым. Тонкі ў таліі, у стане. Адну дзеўку ў нас празывалі перавязістая, бо, праўда, хадзіла, як перавязаная. Рудавіцы.

**Перавясло'** н. Перавя'сла, саламяны жгут для звязвання снапоў. Жанцэ ні ўспявалі круціць перавёсла, класці снапэ, такое файна жыто было. Балічы.

**Перагавары'ць** зак. Перагаварыць, абмяняцца думкамі. Гэта ўжэ ўсё перагаварыласо, нашто і зноў яго паўтараць. Агароднікі.

**Перагаво'ршчык** м. Перакладчык. Ён, кажуць, перагаворшчыкам пры немцах быў, а потым у цюрме сядзеў. Рагачы.

**Перагара'ць** зак. Прыараць у час ворыва частку чужога поля /устар./. Ты што да міне маеш, што я табе перагараў ці перакасіў? Капцёўка.

**Перагарну'ць** зак. Перагарнуць, перавярнуць. Валодзік, ты, мусі, перагарнуў лісток, вам ні гэта чытаць задалі. Некрашы.

**Перадзы'гнуць** зак. Пераскочыць. Некалі наша Лашанка шырокай была, а ціпер што, перасохла, у любым месцы перадзыгнуць можно. Лаша.

**Перада'ча** ж. Перадача, прадукты харчавання, якія перадаюцца ў бальніцу ці турму. Як Іван быў у бальніцы, та перадачу кожны тыдзень насілі, сястра перадавала. Гродна.

**Перадо'йка** ж. Перадо'йка, я'лавіца. У гэтым року малака ні будзямо мець, карова перадойка. Лікоўка.

**Перадэ'** мн., перад м. Перады, частка абутку, што ахоплівае верх ступні. Да старых халяваў закажаш новыя перадэ і зноў праходзіш з рок. Пракопавічы.

**Прае'сці** зак. З'есці ўсё. Хвароба на іх, мышы салому ў адрыні піераелі, пасяклі. Навумавічы. 2. Перакусіць, за-

кусіць. От, трохі пераеў, да палудня трываць можно. Гарны.

**Паражо'віны** мн. Тое, што паражована і не з'едзена. Конь стары, зубы з'едзены, у жолабі адны паражовіны, штодзень выкідаяш. Новікі.

**Перакасі'ць** зак. Перакасіць, скасіць далей за вызначаную мяжу. Ён аніяк ні можа, кап каму ні перакасіць, усероўно трошкі чужого захопіць. Сухая Даліна.

**Перакруці'ць** зак. Перан.: сказіць, змяніць сэнс. Ну і чалавек! Што ні скажы, та ён перакруціць на свой манер, па-свойму зробіць. Жукевічы.

**Перакры'ты** дзеепрым. Перакрыты, закрыты. Сюдой ні праедзяш, бачыш — шаша перакрыта. Гожа.

**Пераляце'ць** зак. Пераляцець. З гэтымі курамі адна бяда, здаецца, і высокі паставіў плот, а яны ўсероўно пералятаюць. Кашэўнікі. 2. Перан.: пераламацца. Я хацеў загнуць кіёк, а ён раз — і пераляцеў, зусім крохкі быў. Каўпакі.

**Перамо'та** ж. Памылка, дапушчаная ў час снавання асновы на снойніцы. Трэбо добро глядзець, каб якой перамоты ні зрабіць, а то той раз нарабіла. Клінчаны.

**Перапало'х** м. 1. Перапалох, збянтэжанасць, паніка. У сяле тады перапалох падняўсо, бо нехто сказаў: немцы едуць. Малая Жорнаўка. 2. Дзіцячая хвароба, выкліканая спалохам. Ат перапалоху наша баба воск дзецям вылівала, і нікаторым, праўда, памагало. Кунцаўшчына.

**Перапа'сціса** зак. Пахудзець, схуднець. Карова зусім перапаласа, аткуль тое малако будзя. Баранавічы.

**Перапе'рці** зак. Перамагчы, узяць верх ў спрэчцы. Ён ведае, што ні праў, а ўсероўно стараецца пераперці, паставіць на сваім. Солы.

**Перапе'чка** ж. Перапечка, хлеб з жытняй мукі ў выглядзе вялікай аладкі. Помню, наша маці заўсёды пякла нам перапечку, з крыжыкам пасярэдзіне і дзірачкамі. Забагонікі.

**Перапё'лка** ж. Перапёлка. Ціпер як ідзем полем, та рэтко дзе ўчуеш перапёлку, а некалі ад іх аш поле разлягаласо. Пяслі.

**Перапілі'каць** зак. Перапілаваць. Піла зусім вытупіласа, ледво перапілікаў гэта палено. Батароўка.

**Перапу'цканы** дзеепрым. Пра недаедзеную, пераболтаную ежу. Падала' перапуцканы крупнік і кажа: "Еш!" — "Сама еш!" Балічы.

**Перапу'цкаць** зак. Пераболтаць ежу, выбраўшы смачнейшае. Дасі парасяці, та ні есць, а тулькі перапуцкая. Квасоўка.

**Перапу'шчаны** дзеепрым. Перапушчаны, пратоплены. Перапушчанае нутраное сало мы ў бойцы трымалі, яно ў ёй як свежа было. Кунцаўшчына.

**Перапяча'йка** ж. Перапечка, хлеб ў выглядзе вялікай аладкі. Маму, пакуль хлеп той будзяце садзіць, спячэце нам перапячайку. Зялёная.

**Перапяча'ўка** ж. Перапечка, хлеб у выглядзе вялікай аладкі. Добро помню, як баба казала: «Дзеці, дзісь будзям перапячаўку пячы, даўно ні елі." Парэчча.

**Перастая'ць** зак. Перастаяць, пераспець. Бачыце, жыто перастяло, сыплецца, казаў: раней трэбо было жаць. Новая Руда.

**Перасы'паць** зак. Перасыпаць; разабраць і сабраць нанава, замяніўшы пашкоджаныя часткі /пра зруб/. Нідаўно перасыпаў хлеў, даў новыя падрубы, паглядзі, стаў як новы. Ніжнія Пагараны.

**Перася'дка** ж. Перасадка. Ведаеце, як сеў на гэты поезд, та ехаў бес перасяткі аж да Мінска. Жытомля.

**Ператрыва'ць** зак. Ператрываць, пераажыць, перацярпець. Неяк гэту зіму і ў старой хаці ператрывалі, ні памерзлі, хаця і халадно было. Цыдовічы.

**Перахля'біцца** зак. Схуднець, перапасці. Кабылу прывёў з пашы зусім галодную, бачыш, як перахлябіласа, дыхавіны запалі. Кунцаўшчына.

**Пераціра'ць** незак. Пераціраць, ачышчаць ад кастрыцы. Хвароба, лён ат першаго разу не выцерсо, пераціраць трэбо будзе. Грыўкі.

**Перашурмава'ць** зак. Перашукаць, усё

пераглядзець, абшукаць усюды. Здаецца, усё перашурмаваў, дзе тулькі можно было, і ні знашоў. Няцечы.

**Первацё'лка** ж. Першацёлка, карова, якая ацялілася ўпершыню. Яна ў нас первацёлка, малака ні сказаць, каб много давала. Дарашэвічы.

**Пе'рвіца** ж. Першы ўкос травы. У гэтым року первіца файна была, больш чатырох вазоў прывёз. Караневічы.

**Пе'рхаць** ж. Перхаць /на галаве/. Кап перхаці ні было, та аерам голаў мыю. Белева.

**Пе'рхаць** незак. Пакашліваць, нягучна кашляць. Стары наш сядзіць і ні перастае перхаць, мусі, прастыў недзя. Кавальцы.

**Пе'рці** незак. 1. Гнаць, паганяць /груб./. Ні трэбо так каня перці, гэдак ніхто ні едзя, як ты едзяш. Зарубічы. 2. Несці што-небудвь цяжкае, грувасткае. Гэты мяшок ні з маей сілай перці, я яго і з месца ні падыму. Каленікі. 3. Прагна есці /груб., неадабр./ Халернік, прэ ні ў свае духе, а поправы ніякай німа. Прывалка.

**Пе'рціса** незак. 1. Лезці, не зважаючы на перашкоды, без дазволу /груб., неадабр./ Трэбо чалавекам быць, ні трэбо так перціса, як ты прэшса. Мількаўшчына. Ты куды без вочарадзі прэшса, табе што — законы ні пісаны? Гродна.

**Пе'сікі** мн., м. Драўляныя клінкі, якімі плытагоны замацоўваюць ў плытах бярвенні. Глядзі, забівай песікі мацней, кап калатке ні мелі люзу. Навасёлкі.

**Пе'ста** ж. 1. Ступа, драўляны посуд для вырабу круп. Ашчэ і ціпер на гарэ ў нас недзя песта ляжыць, што некалі панцак таўклі. Азёры.

**Пе'ста** ж. Разбалаванае, распешчанае дзіця. З гэтай пестай рады німа, як ні па яго, так і енчыць. Лікоўка.

**Пе'сціць** незак. Песціць, балаваць; любоўна даглядаць. Ні трэбо было так дзіця песціць, а ціпер во рады німа з ім, ні дае жыць. Вялікая Альшанка.

**Пе'тлі** мн. Сіло. Як малымі былі, та ўсе петлі за адрынамі ставілі на курапят, паставім і выглядаем. Сухая Даліна.

**Печ** ж. Печ, печка.Печы рабілі з цэглы, дзе тут было купіць тае кахлі, яна дараго каштавала. Сухмяні. Хлебная печ — печ, у якой пяклі хлеб. Хлебную печ як напаліш добро, та некулькі дзён цеплая, на ёй баба спала. Саломенка. Напальная печ — печ у цагельні, у якой выпальвалі цэглу. Гэта ціпер напальную печ паляць торпай, а даўней палілі дровамі, дораго абыходзіласо. Дзекалавічы.

**Пе'чаны** дзеепрым. Печаны. Я вельмі любіў печану бульбу, пойдзям на поле, назбіраям сухого бульбавеня і пячэм сабе бульбу. Пяслі.

**Пі'во** — ні пераліўкі: небяспечная справа. Міхась паглядзеў, што тут, брат, піво ні пераліўкі, і — у ногі, тулькі яго і бачылі. Літвінкі.

**Пігу'лка** ж. Таблетка. Во, дахторка дала некіх пігулак, ці што памогуць — ні ведаю. Грынёўка.

**Пі'жма** ж. Піжма, лекавая расліна сямейства складанакветкавых. Гэта мая мама ведала піжму, рвала і сушыла, а мне нашто яна патрэбна. Свіслач.

**Пілаві'ны** мн. Пілавінне, апілкі. Гэта ў горадзі свіней падсцілаюць пілавінамі, а на вёсцы дзе ты бачыў, кап хто патсцілаў. Навасёлкі.

**Пілі'каць** незак. Няўмела іграць на музычным інструменце. Кінь пілікаць, ні ўмеяш іграць — ні бяры скрыпкі. Лаша.

**Пілі'паўка** ж. 1. Пост перад калядамі / устар./ Піліпаўка — гэта пост, шэсць нідзель трэбо посціць, самы цяшкі для людзей. Свіслач. 2. Перыяд з 26 лістапада да каляд, які ў народзе лічыцца самым цяжкім для ўсяго жывога. Хвораму піліпаўку цяшко пражыць: слонца німа, нават і парасята, бывая, як родзяцца ў піліпаўку, та нівутлыя такія, здыхаюць. Рудавіцы.

**Пі'льнасць** ж. Нагляд. Павінна, кап над кожным дзецем была пільнасць, тады будзя дзіця дзецем, ні пойдзе ў пустапаш. Кунцаўшчына.

**Пі'льшчык** м. Пільшчык, чалавек, які займаўся распілоўкай лесу. Да вайны самымі лепшымі пільшчыкамі лічыліса

сувальскія, яны і нам дзераво на хату пілавалі. Рагачы.

**Пінцю'х** м. Бесхарактарны, непаваротлівы чалавек; цяльпух. Што гэта за хлопяц, пінцюх некі, а глядзі, якую дзеўку файну ўзяў. Клачкі.

**Пі'пка** ж. Люлька для курэння. Ён піпкі з зубоў ні выпускаў, вечно смактаў, аш пакуль ні захварэў. Баяры. Стары цыган піпку курыць, а цыганка людзей дурыць /прыпеўка /. Зарубічы.

**Піро'гі** мн. Наведванне бацькоў нявесты ў тыдзень пасля вяселля. Учора ў Сальвесявых піро'гі былі, дачка з мужыком прыязджалі. Свіслач.

**Піра'т** м. Гермафрадыт. Я сам быў на пірата нарваўсо ў Клайпедзі, та ледво ўцёк. Бакуны.

**Піро'г** м. Пірог. Да той вайны пірагe пяклі тулькі на велька свято: на вялікдзень і сёмуху. Сухая Даліна.

**Піры'ндзіць** незак. Гаварыць глупства, недарэчнасць. Што ты пірындзіш, дурыш голаву людзям? Рацічы.

**Піры'ць** незак. 1. Моцна біць, лупцаваць /груб./. Ашчэ людзі і ні думалі брацца за работу, а ён ужэ пірыць цэпам ў адрыні, тулькі лёскат ідзе. Навасёлкі. Пірыць яго, як сабаку, а ён усероўно ні слухае, робіць свае. Баброўнікі. 2. Гаварыць абы-што. Распусціў язык і пірыць абы-што, слухаць ні хачацца. Лікоўка.

**Піскаце'ць** незак. Пішчаць. Птушанята ў гняздзе сталі піскацець, мусі, ластаўка прыляцела. Лікоўка.

**Пі'скля** ж. Пра чалавека з пісклівым голасам /зневаж./. Піскля гэта і зноў пішчыць, ні магу слухаць, надаела як горка яблыко. Каленікі.

**Пісто'н** м. Пістон /у патроне/. Пасля вайны, помню, пойдзямо за вёску, назбіраям гільзаў з пістонамі і давай страляць. Лаша.

**Пісьмо'** н. Ліст. Глядзі, паштарка пісьмо прынясла, кладзе ў скрынку. Малахавічы.

**Піту'шка** м. Маленькі гліняны гаршчочак. Паставіла ў пітушцы кашку дзіцяці, глядзі, каб ні прыгарэла, памешвай. Кунцаўшчына.

**Пі'цькі** незак. Піць /у дачыненні да дзяцей/. Дзетачка, можа, табе даць піцькі, нешто ў цібе галоўка гарача, гупкі засмажыло. Балічы.

**Пія'к** м. П'яніца, алкаголік. Усе ў міне добро было б, каб ні сын-піяк. Адамавічы.

**Пія'ўка** ж. П'яўка. У сажалцы піяўкаў процьма, ступі босай нагой — так і ўп'еўцца, ні адарвеш. Караневічы.

**Пла'віць** незак. Плавіць, расплаўляць. Пасля той вайны, як ложак ні было, та мы люмень збіралі, плавілі і лашке сабе вылівалі. Сцяцкі. Коні плавіць — купаць коней. Хлопцы, давайце коні плавіць, а то бонкі нападаюць, гарачэ. Сухая Даліна.

**Плаву'к** м. Плывец. Будзь ты найлепшы плавук — усероўно ні вырабішса з маіх рук /прымаўка пра Нёман/. Грандзічы.

**Плаву'н** м. Плывучыя рэшткі, якія прыбіваюцца вадой да берага. Глядзі, як за ноч вада спала, на балоці тулькі плавун застаўсо. Загорцы.

**Пла'зам** прысл. Плазам, плоскай, шырокай старaной уніз. Як упаў плазам, так і ляжаў, аш пакуль да яго ні падышлі. Каўпакі.

**Пла'зма** прысл. Тое, што і плазам. Палажы дыліну плазма, та габляваць ямчэй будзя. Рудавіцы.

**Пла'каць** незак. Плакаць. Ждала, ждала міленькаго, дый плакаці стала /з нар. песні/. Агароднікі. Плакаць наўзрыд — плакаць усхліпваючы, сударгава, уголас. Ну, там яна ўжэ плакала, просто наўзрыт плакала, што мы і ні зналі, як да яе патступіцца. Луцкаўляны.

**Пласкакі'жы** мн. Спецыяльныя абцугі для нацягвання і загібання бляхі. Во тут, здаецца, палажыў пласкакіжы, і куды яны падзеліса, чорт іх ведае. Саннікі.

**Пласкуга'** ж. Трава, пустазелле. Пласкугі назбіраеш, трохі макрыцы, крапівы — і ўжэ есць што свіням даць. Вялікая Альшанка.

**Пласкуне'** мн. Маніцы, мужчынскія калівы канапель; валакно, якое атрымліваюць з іх. Пласкуне выбіралі неяк летам, ці можа раней, добро ні

помню. Мішкенікі.

**Пласкуньке'** мн. Маніцы, мужчынскія каліВы канапель і валакно, якое атрымліваюць з іх. Пласкуньке рвалі і ставілі ў кучке, кап сохлі. Цыдовічы.

**Пласкунэ'** мн. Маніцы, мужчынскія каліВы канапель і валакно, якое атрымліваюць з іх. У нікаторых сёлах называлі браніцы, а ў нас пласкунэ, гэта каноплі, што выбіралі летам. Бакуны.

**Пластава'ць** незак. Пластаваць, накладваць пластамі адзін на другі /пра сена, салому/. Я часцей за ўсе пластаваў сено і падаваў яго на воз, а татко ўжэ таптаў. Караневічы.

**Пла'хта** ж. Плахта, грубая, самаробная тканіна для накрывання каня. Бачыш, які мокры конь, па'ра валіць, трэбо плахтай накрыць, каб ні прастыў. Гожа.

**Пла'це** н. Бялізна. Я на рэчцы плаце мыла, на бярозу вешала, а я хлопцаў ні любіла — разгаворам цешыла /прыпеўка/. Карозічы.

**Пла'шка** ж. Плашка, палавіна расколатага ўздоўж бервяна. Вазьмі хоць плашку дроў распілуй, а то ні паленчыка німа. Кульбакі.

**Пле'мя** н. Пакаленне, патомства, род. З нашага племя чалавек. Кунцаўшчына. Ад дрэннаго семя ні чакай добраго племя /прыказка/. Батароўка.

**Пле'со** н. Плёс, шырокі ціхі ўчастак ракі з пясчаным берагам. Помню, во тут было некалі балото, а ціпер — плесо, пяску нанясло. Свіслач.

**Плё'ўка** ж. Пенка, тонкая плёнка, якая ўтвараецца на паверхні паранага малака. Плёўка такая смашная, а ты кажаш, што ў рот ні можаш узяць. Дарашэвічы.

**Плех** м. Голае месца сярод луга, лесу, поля. Глянь, як па прыгорках жыто павыгарало, плехамі, ні будзя чаго жаць. Малышчына. На выгані адны плехі, слонца павысмальвало, якая тут ў чорта паша. Літвінкі.

**Пле'чы** мн., н. Плечы. Што і казаць, здаровы, як вол, як зваліць мяшок на плечы, так і прэ аж да самаго сверна. Каменка.

**Плешаві'на** ж. Тое, што і плех. Участак пасеваў або сенажацці, выпалены ад празмернай спёкі. Усё павысмальвало на выгані, адны плешавіны, німа дзе пасвіць кароў. Літвінкі.

**Пле'шка** ж. Плешка, верхняя расшыраная частка чаго-небудзь. Глядзі, цвік бес плешкі, ні заб'еш, вазьмі ляпей другі. Дубоўка.

**Плё'нта** ж..Той, хто любіць бадзяцца, хадзіць без справы, валацуга. Плёнта нека ні жонка, яна ў хаці ні прыпыняецца, усе недзе плёнтая. Калбасіна.

**Плё'нтацца** незак. Хадзіць без мэты, без патрэбы. Каб ён ні плёнтаўсо так, та чалавекам быў бы, а так — валацуга ды годзі. Кашэўнікі.

**Плё'нтаць** незак. Блытаць, бязладна пераплятаць. Вы больш плёнтаяце матке, чым разматваяце, мне такія памошнікі ні патрэбныя. Зарыца. 2. У значэнні: заплятаць нагамі, хадзіць памаленьку. Стары наш ашчэ плёнтая каля хаты, але сілы зусім ні мая. Кукалі.

**Плёс** м. Плёс, шырокі ціхі ўчастак ракі з пясчаным берагам. Як гарачэ, та пастух зажане гавец на плёс, і стаяць яны цэлы дзень, мырсамі ў пясок уткнуўшыса. Кунцаўшчына.

**Плё'хаць** незак. Мыцца, распрыскваючы ваду. Прывык плёхаць, паналівае, а пасля за ім выцірай. Навасёлкі.

**Плі'нтус** м. Плінтус, вузкая планка. Плінтусэ ўручную цяшко было рабіць, а ціпер гатовыя купляй і прыбівай. Пруды.

**Пліто'ўка** ж. Камяні, расколатыя на кавалкі для далейшай апрацоўкі. Пакуль тае плітоўкі наб'еш, та дзісятыя по'ты з цібе выйдуць, так цяшко бывало. Зарубічы.

**Пліто'ўнік** м. Спецыяльны малаток для расколвання вялікіх каменняў на кавалкі. Камень раскалоць ні так просто было, трэбо ведаць, дзе ўдэрыць плітоўнікам і як. Навасёлкі.

**Пло'йма** ж. Мноства, вялікая колькасць. Цэла плойма гэтых камароў уецца, жыць ні даюць, пазаядаюць. Сцяцкі.

**Пло'скі** прым. Плоскі. Стрэха ў нашай адрыні плоская, ніякаго скату німа, таму і працякае. Капланаўцы.

**Пло'ско** прысл. 1. Плоска, роўна. Дарога як плоско спускаецца, та і з'ехаць можно памаленьку, кабыла ні панясе. Грыўкі. 2. Прадучы, выводзіць не вельмі моцна скручаную нітку. Я зусім плоско прала воўну, та мая пража на ўток добра была, а Любіна — на аснову, бо круто прала. Баранава.

**Плот** м. Плот. Ад гуліцы плот зусім паваліўсо, яго ашчэ тато некалі паставіў, стаўбэ пагнілі. Крынічная.

**Пло'хі** прым. Спакойны. Ідзі, бяры каня, ён зусім плохі, ні кусаецца. Сухая Даліна.

**Пло'шчыкі** мн. Кіёчкі для раздзялення асновы ў кроснах. Плошчыкаў аж два, яны каля навоя, возьмяш і потсоўваяш куды трэбо. Свіслач.

**Плужкава'ць** незак. Абганяць, акучваць плугам-акучнікам. Рано пойдзем плушкаваць бульбу, з расой ляпей, потым ні ўлезяш, паломіш. Броўнікі.

**Плужо'к** м. Плуг-акучнік; сошка. Быў свой плужок, та некаму як пазычыў, та і ціпер ні знайду, ні ведаю, хто ўзяў. Іванаўцы.

**Плу'каць** незак. Паласкаць, прамываць у вадзе. Пытаяш, дзе матка, а во, панясла на рэчку бялізну плукаць. Эйсманты.

**Плут** м. Ашуканец, абманшчык, махляр, прайдзісвет. З кім ты звязаўсо, з гэтым плутам? Ён цібе да халоднай вады давядзе. Індура. Гэта ш плут, хіба ты яго ні ведаеш. Баяры.

**Плутава'ць** незак. Абманваць, ашукваць. І ат каго ты навучыўсо так плутаваць, здаецца, у вашым родзе плутоў ні было. Зарубічы.

**Плыт** м. Плыт, бярвенні, звязаныя для сплаву. Паглядзі, вун гараць агні на плытах, мусі, вячэру плытнікі вараць. Селюкі.

**Плы'тко** прысл. Мелка, неглыбока. Ідзі сюды, тут плытко, можаш у брот перайсці. Дзекалавічы.

**Плы'тнік** м. Плытнік, плытагон. Плытнікі ў будзе' начуюць, бо дзе яны будуць начаваць, плытоў ні пакінуць. Селюкі.

**Плюга'вы** прым. Мізэрны, худы, нікчэмны з выгляду. Плюгавы быў чалавек, колькі павыдаваў немцам людзей, і сам галаву скруціў. Малахавічы.

**Плюга'ўство** н. Вараннё, чарада варон і галак. Плюгаўство во як носіцца, крычыць, гэта на непагадзь. Кунцаўшчына.

**Плю'ска** ж. Клоп. Плюскі найбольш у цёсных хатах вадзіліса, дзе много людзей, у нас ні было. Кавалічы.

**Плюскаце'ць** незак. Плюскатаць; пераліваецца, утвараючы плюскат. Размокло ўсё, ні прайсці, ні праехаць, вада толькі плюскаціць. Ферма.

**Плю'сква** ж. Клоп. Плюсквы ў лошку завяліса, ніяк ні магу вывесці, і кіпяток ні памагае. Рагачы.

**Плю'та** ж. 1. Непагадзь, непагода. На дварэ нека плюта, нідобро, ні хочацца с хаты выходзіць. Кунцаўшчына. 2. Шкодны, патайны, недобразычлівы чалавек. Плюта — ні сусед, ён як жыве, та добрага нікому ні зрабіў, а тым больш нам. Каўпакі.

**Плю'хаць** незак. 1. Плюхаць, хлюпаць. І зноў лазіш па лужах, плюхаеш, пакуль ні захварэеш. Лойкі. 2. Разліваць. Воду плюхаеш, а хто выціраць за табой будзе? Ханявічы.

**Плю'шчыць** незак. 1. Плю'шчыць, закрываць, заплюшчваць вочы. Плюшчыш вочы, ішоў бы спаць, а то сядзіш і клюеш носам. Малая Жорнаўка. 2. Плюшчы'ць — плюскацець, ліцца, утвараючы плюскат. У марцы як у гарцы: у дзень плюшчыць, а ў начэ — трашчыць /прыказка/. Рудавіцы.

**Плява'** ж. Плява, дыяфрагма ў грудной клетцы. У яго, мусі, плява пэнкнула, як падымаў мяшок, таму і дабра німа, хварэя. Агароднікі.

**Пля'віца** ж. П'яўка. Глядзі, без ганавіцаў ні лезь у луг, там плявіцы. Зарубічы.

**Пля'га** ж. Непагадзь, непагода, слота. На дварэ нека пляга, макрата, хай ляпей быў бы мароз, здаравей было б. Кунцаўшчына.

**Пля'жыць** незак. 1. Секчы, нішчыць. І як ім ні шкада пляжыць такі лес, колькі ў ім грыбоў, ягад; людзі адусюль прыходзілі, збіралі. Зарубічы. 2. Біць. Сілу меў, як пачне цэпам па снапах гляжыць; кажуць, за дзень па дзве капы

вымалочваў. Баброўнікі.

**Пляска'ч** м. Пустаслоў, выдумшчык, пляткар. Ну, з цібе і пляскач, плешчаш абы што, абы гаварыў. Гібулічы. Ні слухайце гэтаго пляскача, ён вам нагаворыць бочку арыштантаў. Малахавічы.

**Пля'снуцца** зак. З шумам упасці; ударыцца /узмацн./. Ішоў каля свае хаты, як пляснуўсо аб лёд, та ледво ўстаў, думаў, ногу зламаў. Дарашэвічы.

**Плясці'** незак. Гаварыць много і абы-што /неадабр./. Вот, прывык плясці і пляцеш, слухаць ні хочацца. Караліно.

**Плясці'са** незак. Плесціся, цягнуцца; неахвотна, памалу ісці. Надаеў мне гэты бычок, пляцецца ззаду кароў, вечна падганяй яго. Рацічы.

**Плятка'р** м. Пляткар. Пляткар гэты ходзіць тулькі па хатах дый сплетні разносіць. Малахавічы.

**Пляц** м. 1. Зямля пад сядзібай; сядзіба. Які там пляц быў, усяго чатырыста метраў, дзе тут сат пасадзіш. Гродна. 2. Плошча. Там, дзе ціпер Савецкі пляц, ратуша некалі з крамамі была, немяц разбіў у вайну. Калбасіна.

**Пля'шка** ж. Бутэлька. Пойдзямо, мо якую пляшку гарэлкі возьмям, усе весялей будзя. Зарубічы.

**Пля'шніца** ж. Жанчына лёгкіх паводзін; праститутка; любіцельніца выпіць / зневаж., лаянк./Пляшніцу неку ўзяў, кажуць, валочыцца з другімі, дзіцей ні глядзіць.Малахавічы.

**Пляшня'** ж. Прылада ў выглядзе рычага для даставання з зямлі вялікіх каменняў. Ашчэ тут мой бацько даставаў пляшнёй каменя, іх тут много было, ні то, што ціпер. Свіслач.

**По'гань** ж. Нягоднік, паганец, мярзотнік. Вечарам збярэцца гэта п'яная погань і прычапляецца да людзей. Гродна.

**По'граб** м. Пограб, яма з крытым верхам. Ні ў кожнаго гаспадара склеп быў, бульбу сыпалі ў пограб або ў яму, як хто. Лаша.

**Под** м. Драўляная скрынка ў жорнах, дзе збіраецца мука. Намеляш поўны под мукі, а тады ўжэ выбіраеш у сявенку. Батароўка. Под таму і называецца, бо як круціш жорна, та з лоба пот капае. Батароўка.

**По'дбіўка** м. Падкладка, падшэўка. Глядзі, на подбіўку ні купляй шоўку, року ні паносіш, так і паляціць, ляпей саржу. Гожа.

**По'жня** ж. Пожня; іржышча. Жнучы, чысто пожняй ногі паапорвала, ні вытрываць, прышчаць. Кавалічы. З-пад жняяркі пажня роўная, ні такая, як з-пад сярпа. Навасёлкі.

**По'зранкі** мн. Пасьба жывёлы ў ранішні час /прыкладна з трох да сямі гадзін раніцы/. Помню, спаць хочацца, а тут татко будзіць і кажа: " Вядзі коні на позранкі". Балічы.

**По'йло** н. Пойла, піццё для жывёлы. Мы та ў дзве нідзелі цяля адлучаем ат каровы, пайлам поім. Капцёўка.

**По'йма** ж. Вялікая колькасць, мноства. Камароў вечарам пойма, жыць ні даюць ні старому, ні малому. Малая Альшанка.

**По'каст** м. Пакост, спецыяльна апрацаваны алей для прыгатавання фарбаў. Мусі, покаст кепскі быў, памаляваў падлогу і ніяк ні сохне, ліпнецца. Ліхачы.

**По'клад** м. Поклад, яйцо або прадмет, падобны на яго, які падкладаецца курам у гняздо. Паглядзі, мусі, поклада німа, курыца ні хоча нясціса. Дзекалавічы.

**По'куць** ж. Покуць, кут у хаце, дзе віселі абразы і стаў стол. У курных хатах абразоў ні было, замест іх на покуці на кіёчку вешалі рушнік. Казіміроўка. Як вяселя, та маладых на покуці саджалі, каб усе бачылі. Дайлідкі.

**Пол** м. Пол, палаткі; нары ў курнай хаце, на якіх спалі. На палу ўсім месца хватало: і малым, і старым. Бакуны.

**По'лка** ж. Полка, кавалак тканіны на ўсю шырыню. Маці андараке ў чатэры полкі шыла, нікаторыя і ў пяць шылі, як хто хацеў. Віцькі.

**По'лька** ж. 1. Полька, танец у хуткім тэмпе. Калі хочаш жаніціса, маладую жонку ўзяць, спярша трэбо навучыцца польку добро танцаваць /прыпеўка/. Рагачы. 2. Мужчынская стрыжка. Я ўсе пат польку патстрыгаюсо, мой сусед

добро стрыжэ. Круглікі.

**По'нця** м., ж. Цяльпук, кіжлай. Понця некі ні чалавек, у яго ні гарыць ні мокня, ідзе і спіць. Сухая Даліна.

**По'плаво** н. Поплаў. На поплаво ілу много нанясло, бачыш, якая трава ўзяласа расці, аж у трубы павіласа. Загорцы.

**По'ркацца** незак. Корпацца, рабіць марудна, павольна. Бо ты прывык поркацца і поркаешса, людзі даўно сено пакасілі, а ты тулькі пачынаеш. Малая Жорнаўка.

**По'рскі** прым. Хуткі, жвавы, рухавы. Натта ж у маго суседа конь порскі, птушка хай з-пад ног выляціць, так і панясе. Бакуны.

**Порт** м. Рэшткі спаленай льняной або баваўнянай анучкі /для крэсіва/. Запалкаў ні было, та возьмяш трошкі з баначкі порту, паложыш на крэмень і красаяш, пакуль ні ўпадзе іскарка, ні загарыцца порт. Каўпакі.

**По'рткі** мн. Штаны з саматканага палатна. Худы стаў, на ім порткі нават ні трымаюцца, спадаюць. Кунцаўшчына.

**По'руч** прысл. Побач, поплеч. На сабрані міне нават поруч с прадсядацелям пасадзілі ў празідзюм. Рудавіцы.

**По'рхаўка** ж. Порхаўка, шарападобны грыб. Нікаторыя кажуць, што порхаўкі можно варыць і есці, а я іх за грыбэ ні прызнаю. Караліно.

**По'сах** м. Посах, доўгі кій; жазло ў свяшчэннаслужыцеляў. Як тады архірэй у Лашу прыехаў, та мы ўсе ўглядаліса, як ён так паважно, с посахам у цэркву ўваходзіў. Лаша.

**По'сік** м. Мачавы пузыр у свінні. Тато як разбіраў паршука, та посік дастане, пакачае ў попелі, надуе; і як потсохне, мы ім гуляем, падкідаем. Лаша.

**По'сны** прым. Посны, нескаромны; без мяса і малака. Яны некалі ні мелі чым нават крупніку засквindependentрыць, посны елі. Белева. Посна масло — алей, тлушч з расліннага насення: канаплянага, ільнянога, сланечнікавага. Пайду ў магазін, мо, поснаго масла куплю, вышло. Гродна.

**По'стаць** ж. Месца, дзе стаяць ў час жніва на загоне. Як жалі, та дзіцей ставілі таксамо ў постаць, яны разоркі па баках выжыналі. Лікоўка.

**По'сцілка** ж. Посцілка, лёгкая, саматканая коўдра. Пад адной посцілкай халадно было спаць, я зверху накрываўсо ашчэ кажухам. Табольская Будка.

**По'тка** ж. Палавы орган у хлопчыка / дзіцяч. слова/. Фэ, апусці рубашачку, а то потку відаць, сабакі аткусяць. Кунцаўшчына.

**По'тра** ж. Рэштки перацёртага, пераедзенага мышамі сена або саломы, пацяруха. Сена німа, адна потра засталаса, каровы есці ні будуць. Горніца.

**По'тым** прысл. Пасля, праз некаторы час. Шлюб пат плотам, а вяселя потым /прымаўка/. Верхнія Пагараны.

**По'тырч** прысл. Патырч, тварам уніз, тарчма. Што ў цібе за мода? Панастаўляе гаршкоў пад нагамі, сама зачэпішса і паляціш потырч носам. Вялікая Альшанка.

**По'ўзіна** ж. Лата; жэрдка, якая прыбіваецца ўпоперак кроквaў. Хату трэбо крыць, ды поўзін німа, ні ведаю, дзе можно дастаць. Жукевічы.

**По'ўнач** ж. Поўнач, сярэдзіна ночы. Поўнач святая, усе спяць, а ён сядзіць і кнішку чытая. Зарачанка.

**По'ўня** ж. Поўня, фаза Месяца, калі бачны ўвесь яго дыск. Ужэ поўня наступіла, гурке садзіць трэбо, кап пустыя ні былі. Забагонікі.

**По'ўпрык** м. Малое дзіця /ласк., дзіцяч. слова/. Вот поўпрык, усюды ён улезя, дзе трэбо, а дзе і ні трэбо, усюды яго поўно. Адэльск.

**По'ўраз** м. Самаробны паясок; кусок вяроўкі. Поўраз сабе прычэпіш да сявенкі, заложыш на шыю і сеяш памаленьку. Занявічы. Поўраз парваўсо, можа, дзе які знойдзяш, пашукай у каморцы. Кузьмічы.

**Поух** м. Крот. Хвароба на іх, паўхе чысто балото змарнавалі, парылі, касіць ні будзя як. Загорцы.

**По'ценькі** мн. Поцемкі, адсутнасць святла. Ты што гэта ў поценьках чытаяш, гочы псуеш, і так нічого ні бачыш. Клачкі.

**По'цькало** н. Сава, пугач. Мусі, і зноў мрэц будзя, поцькало над Баўтруковай хатай крычало /з нар. павер'яў/. Кунцаўшчына.

**По'шар** м. Корм, нарыхтаваны для жывёлы на зімовы перыяд. Пошару маям, дзякаваць Богу, на ўсю зіму, з дзедам нарабілі. Вёска Парэчча.

**По'шасць** ж. 1. Эпідэмія; скураная хвароба. Нека пошасць на свіней напала, заатэхнік наказваў, каб на двор ні выпускалі. Малая Капліца. 2. Перан.: кампанія хуліганаў, жулікаў. Гані гэту пошасць с хаты, кап тут іх і следу ні было. Рагачы.

**По'шкудзь** ж. Кампанія хуліганаў, жулікаў. Пошкудзь гэта старым людзям жыць ні дае, збыткуецца; і як іх у школах вучаць. Круглікі.

**По'шчак** м. Пашчак; трэль. Найбольш салаўёў гэта на нашых магілках. Як дадуць канцэрт, та тулькі пошчак ідзе кругом. Лаша.

**По'яс** м. 1. Паясніца, талія. У снег заваліўса па самы пояс, та ледво хлопцы выцягнулі. Грыўкі. 2. Саматканы пояс. Я сама паясэ ткала на такіх кіёчках, з рознымі ўзорамі, ціпер такіх ні ткуць. Ласосна.

**Праба'ба** ж. Прабабка, маці дзеда або бабкі. Прабаба наша, кажуць, доўго жыла, больш за сто рок, ні разу ні хварэла. Каленікі.

**Прабіва'льнік** м. Прабойнік, інструмент для прабівання дзірак. Прабівальнік гэты ашчэ мой дзед у кузні зрабіў, паглядзі які. Бандары.

**Прабра'цца** зак. Прабрацца, з цяжкасцю прайсці, пралезці. Я тады с хаты ледво прабраўсо на гуліцу, людзей было бітком набіто. Жукевічы.

**Прабра'ць** зак. Перан.: зрабіць суровую вымову, вылаяць. Але ж і прабраў гэту валацугу, будзя ведаць, як па хатах бес патрэбы цягацца. Кашэўнікі.

**Прабэ'каць** зак. Ледзьве прачытаць. Ашчэ недзе і вучыўсо, а прабэкаць слова ні можа, грамацей. Баброўнікі.

**Правалаво'дзіць** зак. Патраціць марна, дарэмна /пра час /. Цалюткі дзень правалаводзіў і нічого ні купіў, казала: ні едзь. Батароўка.

**Правалэ'ндацца** зак. Прахадзіць бязмэтна, прасноўдацца, прасланяцца. Правалэндаўсо недзя, тулькі пад вечар прылез дахаты, цібе дзе гэта чорт насіў. Гарны.

**Праваро'ніць** зак. Празяваць, прапусціць, недаглядзець. Правароніў такую дзеўку, што на ўсе бокі, а ціпер кусай сібе за локці. Лікоўка.

**Праве'даць** зак. Праведаць, наведаць. Трэбо было б сястру Тэклю праведаць, як яна там жыве, даўно ні быў. Каленікі.

**Праві'дло** н. Правідла, капыл. У кожнаго шаўца былі правідла; як рабіў боты, та ўстаўляў у сярэдзіну. Якія правідла, такой формы і боты зробіць. Індура. Зрабіць боты — трэбо правідло, каб фасон надаць ім. Пракопавічы.

**Пра'віць** незак. Правіць; маючы ўладу, кіраваць. Ён прывык правіць, але хто яго слухая, ён ні начальнік мне. Капцёўка.

**Правэ'йдацца** зак. Тое, што і правалэндацца. Думаў, што зраблю, а зноў нічого, так цэлы дзень і правэйдаўсо. Рудавіцы.

**Пра'га** ж. Прага, смага; жаданне піць. Здаецца, і нічого такого ні еў, а нека прага, п'еш воду і ашчэ хочацца. Каменка.

**Прага'л** м. Прагал, прагаліна, палянка. Ідзі туды, дзе прагал, там будзя дарога, ні заблудзіш. Галаўнічы.

**Прага'ліна** ж. Тое, што і прагал. Як надышоў на прагаліну, та грыбоў хоць касой касі, адных шчырых цэлы кошык набраў. Саломенка.

**Прага'ра** ж. Пра таго, хто пражэрлівы, ненасытны ў сваіх жаданнях, вельмі скупы /неадабр., лаянк./. Прагара нека, што ні ўгледзіць, та ўсё яму трэбо, усё забраў бы. Славічы.

**Прада'ць** зак. 1. Прадаць, аддаць за пэўную плату. Як прыціснуў сакваставтар, та бацько апошню карову мусяў прадаць, каб аплаціць падаткі. Бяляны. 2. Здрадзіць, выдаць. Солтыс нікого ні пашкадаваў, нават сваго брата немцам прадаў. Гарны.

**Прадсяда'цель** м. Старшыня. Адзін прадсядацель быў, та калхоз дабіў да

ручкі, ціпер другі — зусім іначай стало. Горніца.

**Праду'ха** ж. Адтуліна ў бурце для выхаду паветра. Мы на зіму ў бу'рці прадуху саломай затыкаям, каб мароз ні дабраўсо да бульбы. Табала.

**Праду'шына** ж. Палонка, адтуліна ў лёдзе. У гэтым месцы ні ідзі, бо прадушын много, падавайса ўправо. Ласосна.

**Прае'хаць** зак. Праехаць. Самае страшнае месца праехалі, ціпер ужэ весялей будзе. Бандары. Праехаць на куліка — праехаць на транспарце без білета. Я тады праехаў на куліка, грошай ні плаціў. Зарубічы.

**Пра'жыцца** незак. Пячыся на сонцы. Я ні магу гэдак пражыцца, галава баліць, млосно робіцца. Рыдзелі.

**Пра'жыць** незак. Пражыць, моцна пячы. Слонца пражыць, ні вытрываць, здаецца, кап хоць які вецярок павеяў. Загорцы.

**Празо'рны** прым. Празрысты. У нашай крыніцы такая чыстая вада, празорная; як набярэш у бутэльку, та, здаецца, што ў ёй нічого німа. Кунцаўшчына.

**Празы'ўка** ж. Мянушка. Любіў даваць празыўкі, але ж і яму далі, і хто такую прыдумаў. Свіслач.

**Прайдзісве'т** м. Пранырлівы, лоўкі, хітры чалавек. Гэта такі прайдзісвет, якого людзі ашчэ ні ведалі; як кажуць: прайшоў медныя трубы і чортавы зубы. Падліпкі.

**Пракла'сці** зак. Пракласці, правесці, зрабіць дарогу, сцежку. З Гродна да Каўбасіна дарогу праклалі наўпростке, ціпер много бліжай стало хадзіць. Скамарошкі.

**Прако'с** м. Пракос, пракошаная паласа ў адзін узмах касы. Каса ні зусім важная, прайшоў пракос і зноў мянці, ні бярэ. Бакуны.

**Праліўны'** прым. Праліўны, вельмі моцны /пра дождж/. Двоі сутак дождж праліўны цубаніў, жыто паклаў, а яно ш тулькі пачало наліваць. Брузгі.

**Пра'льня** ж. Пральня. Каля прыстані да вайны пральня была, яна і ціпер есць, вайскоўцы бялізну прывозяць. Гродна.

**Пралямкаце'ць** зак. Шпарка праехаць. Брычка праз сяло пралямкацела, мусі, аграном паехаў. Кунцаўшчына.

**Праману'ць** зак. Панадзіцца, унадзіцца, узяць звычку. Бяда з бабай, праманула хадзіць на вечарынкі, і рады німа, ідзе і ідзе. Карозічы.

**Праме'нь** м. Прамень, промень. Модзе, ўжэ і вясна будзя, бо як стаіш, та прамені так грэюць у плечы, што і ў хату ні хочацца ісці. Забагонікі.

**Прамы'га** ж. Закутак, цёмны куток. Пазакідай транты гэтыя ў прамыгу, каб ні было відаць. Рудавіцы.

**Пранзі'ць** зак. Прадзьмуць, пранізаць / пра холад/. Ні стой раздзеты на гэтай га'лячы, пранзіць ветрам, а потым будзеш качацца. Бакуны.

**Пра'нік** м. 1. Пранік, плоскі драўляны брусок з ручкай для выбівання бялізны ў час мыцця, абмалоту лёну. Зімой на рэчцы тулькі лёскат ідзе, як бабы плаце выбіваюць пранікамі. Лаша. 2. Доўгі брусок з ручкай, з нарэзамі спадсподу /зубамі/, для разгладжвання бялізны качаннем. Даўней ніякіх жаляскаў ні было, маглявалі бялізну пранікамі. Забагонікі.

**Праніма'ць** незак. Прадзімаць /пра холад, вецер/. Холадам пранімае, паглядзі, модзе, дзверы ні зачынены. Грыўкі.

**Пранцуга'** ж. Расліна-паразіт з пакручастым сцяблом, якая паразітуе наканюшыне і ільне. Той рок пранцуга чысто лён высушыла, скруціла, ні было чо рваць. Свіслач.

**Пра'нцы** мн. Заразная венерычная хвароба, сіфіліс. Каб цібе пранцы ззелі, кап ты ні даждаў /праклён/. Навасёлкі.

**Праны'ра** м., ж. Пранырлівы, прабіўны чалавек. Я так і знаю, што гэты праныра даўно пранюхаў. Капцёўка.

**Пране'лька** ж. Сукенка. У нас, у аколіцах, паненкі пранэлькі такія насілі, яны былі з чорнага рыпсу, пекныя. Эйсманты.

**Прапе'рці** зак. Выгнаць, прагнаць / груб./. Я ўжэ хацеў валацугу гэтаго праперці, але дзеці пашкадавалі, наверліса, каб ашчэ пабыў. Стрыеўка.

**Прапо'ліс** м. Про'паліс, клейкае рэчыва, якім пчолы ў вуллях заклейваюць няроўнасці. Я праполісу больш капляў пяці ні п'ю, дохтар сказаў: як больш, та можа пашкодзіць. Скідаль.

**Прарва'ць** зак. Прарваць, прарэдзіць. Паглядзі, як густо ўзышлі бураке, абавяскова трэбо прарваць. Радзевічы.

**Прарэ'з** м. Выраз, пройма /у адзенні/. У сароццы замалы прарэз, ні магу даць цыцкі дзіцяці. Бакуны.

**Прарэ'х** м. 1. Прарэх, пярэдні разрэз у штанах або ў кашулі. Ен цёнгле з расшпіленым прарэхам ходзіць: вядомо, старым стаў. Сіўкава. Трэбо самому ўжэ ўмець ушываць гузікі, а то вечно прарэх расхрэстаны. Коматава. 2. Агрэх, прапушчаная пры ворыве або баранаванні на полі лапіна. Здаецца, і добро баранаваў, а прарэхаў нарабіў, гатко глядзець. Рацічы.

**Прасава'ць** незак. Прасаваць, гладзіць прасам. Гэтаму жаляску, што я прасую, больш, як сорак рок, як замуж ішла, тады купіла. Мількаўшчына.

**Прасве'та** ж. Прасвет; радасць, шчасце ў бязрадасным жыцці. Ні было ніякай прасветы за работай; рабілі, рабілі і ніц ні мелі с таго. Літвінкі.

**Прасе'ка** ж. Прасека, ачышчаная ад дрэў паласа ў лесе. Каб ні тая прасека, та дальбог з лесу ні вышаў бы. Саломенка.

**Пра'сло** н. Прасла, частка агароджы / паміж слупамі/. Стаўбэ зусім пагнілі, прасло, бачыш, на зямле ляжыць, трэбо ж нешто рабіць. Лаша.

**Прасмя'рднуць** зак. Стаць смярдзючым; прасмярдзець. Ляпей вынесі мясо ў склеп, а то можа прасмярднуць у хаці, гарачэ. Літвінкі.

**Прасня'к** м. Праснак; хлеб /блін/ з прэснага цеста. Маці прасняк пакрышыць ў дзешку, залье вадой, і праз два дні квас гатовы, п'ем. Каўпакі.

**Праства'ць** незак. 1. Ісці напраскі, прама. Хто дарогу прастуе, той дома ні начуе /прымаўка/. Лікоўка. 2. Выпростваць, выраўноўваць. Што ты ўзяўсо гэту бляху праставаць, з яе толку ні будзе, яна ж дзіравая. Мількаўшчына.

**Прастапо'льніца** ж. Поле, на якое ніколі не клалі гной. Прастапольніца, гною ні бачыла, адзін тулькі заяц гнаіў. Эйсманты.

**Прастрамі'ць** зак. Прабіць, пранізаць, прадзіравіць. Хвароба на яго, як наступіў на некі ражон, так ногу і прастраміў. Калеты.

**Прасту'да** ж. Прастуда. Баба казала, што ат прастуды чабор пілі, па дзве шклянкі ў дзень. Лаша.

**Прасця'цкі** прым. Просты, бясхітрасны. Я аж здзівіўсо, такі вучоны, а зусім прасцяцкі чалавек. Капцёўка.

**Прася'ны** прым.. Прасяны, зроблены з проса. У нас прасянай кашы ніхто ні еў, ні было моды яе варыць. Агароднікі.

**Пратапта'ць** зак. Пратаптаць, пракласці частай хадзьбой сцежку. Ты бачыў, якую сцежачку пратапталі дзеці, ходзячы ў школу? Мі'цкевічы.

**Пратарахце'ць** зак. Праехаць з грукатам, з тарахценнем. Ашчэ ні світало, як іх фурманка прас сяло пратарахцела, мусі, да Гродна паехалі. Пракопавічы.

**Пра'таць** незак. Скідаць, скідваць /з воза, машыны/; апаражняць. Давайце жывей пратаць снапэ з воза і зноў паедзем, бо нешто хмурыцца, каб дождж ні быў. Каленікі.

**Прату'хнуць** зак. Пратухнуць, стаць тухлым. Гарачэ, можа рыба пратухнуць, жывей з ею што рабі, каб ні змарнаваласа. Круглікі.

**Праўне'йшы** прым. Мець больш правоў. Я тут, у сваей хаці, праўнейша, што захачу, тое і буду рабіць. Ніжнія Пагараны.

**Прахво'ст** м. Нягоднік, ашуканец, нізкі чалавек; прайдзісвет. Прахвосту німа посту /прымаўка/. Рудавіцы. Гэта прахвост, ён што хочаш можа зрабіць. Капцёўка.

**Працадзі'ць** зак. Працадзіць. Малако трэ працадзіць, тады будзеце піць, ціпер ні піце. Зялёная.

**Праце'рці** зак. Пракласці дарогу, след. Пасля завеі некія людзі праехалі ўжэ, дарогу працерлі, та нам лягчэй будзе ісці. Баранава.

**Працэ'джваць** незак. Працэджваць. Я стараюса працэджваці малако, калі яно цёплае, тады яно лепей цэдзіцца. Караневічы.

**Працэ'сія** ж. Працэсія, урачыстае шэсце. У Маёва набажэнство, як с працэсіяй хадзіў, та брата стрыечнаго спаткаў, з мяста да нас ехаў. Каменка.

**Прачну'цца** зак. Прачнуцца, прабудзіцца. Прачнуўсо і сваім вачам ні веру, што я ў сваей хаці. Барбарычы.

**Прачыні'ць** зак. Прачыніць, не поўнасцю адчыніць. Трэбо прачыніць дзверы, хай дым с хаты выйдзе, а то ў гочы рэжа. Агароднікі.

**Прашка'піцца** зак. Пралічыцца; памыліцца ў меркаваннях, падліках. Я як што купляю, прашкаплюсо, бывае, на які рубель і то думаю, як гэта вышло. Свіслач. Я трохі прашкапіўса, мог бы пэнсю большу палучыць. Гродна.

**Пра'шпарт** м. Пашпарт. Бес прашпарта ў пагранічну зону ні едзь, пагранічнікі стаяць на шашэ, правяраюць. Ласосна. Глядзі, кап прашпарт ні згубіў, а то другого ні дадуць.Гожа.

**Прая'ва** ж. Праява, незвычайнае здарэнне; з'ява. А гэта што тут за праява, што тут робіцца? Асочнікі.

**Про'йма** ж. Пройма, выраз у адзенні. Пройму замалую выразала, рукаў ні патходзіць, трэбо папраўляць. Кулёўцы.

**Про'паведзь** ж. Пропаведзь, рэлігійна-павучальная прамова. Бацюшка на пропаведзі крычаў, каб гарэлкі ні пілі, а сам, кажуць, што п'е. Лаша.

**Про'пасць** ж. Бездань, бяздонная прорва. Як пайшоў на тую вайну, та як ў пропасць упаў, ні слуху ні духу. Белякоўшчына.

**Про'рва** ж. Прорва, бездань, бязмежная глыбіна. Неяк прысніласо, што ў прорву неку лячу, аж закрычаў у сне. Пяслі. У іх ідзе ўсё, як у прорву якую, колькі ні давалі, усероўно нічого ні маюць. Вусенікі.

**Про'ўда** ж. Праўда. Ты мне скажы, ці гэта проўда, што Ядзя замуж вышла, ці не. Караліно.

**Про'ца** ж. Прашча, ручная прылада для кідання невялікіх каменняў. Як малыя былі, та збярэмсо над рэчкай і давай каменя з процы кідаць, хто далей кіне. Кунцаўшчына.

**Про'цідому** прысл. Перад самым домам. Якраз процідому выган, та мне з акна відаць, дзе катора карова пашла. Кунцаўшчына.

**Про'цьма** ж. Процьма, вялікае мноства, безліч. На фэст да Лашы процьма народу з'язджаласа. Як пастануць фурманкі, ні пройдзяш. Лікоўка.

**Про'шаны** дзеепрым. Запрошаны; той, хто атрымаў запрашэнне. Хто прошаны, а хто і ніпрошаны — усе прышлі на вяселя, кап паглядзець маладую. Круглікі.

**Про'шлы** прым. Мінулы. Прошлы год даволі марозны быў, бульба ў капцах нават памерзла. Пракопавічы. Прошлы торг добры быў, карову як завёў, так і прадаў, купцоў ні адбіцца. Індура.

**Пруг** м. 1. Пруг, падоўжная палоска па краі тканіны. Як пруга німа, та палатно пацёпкаецца, крае паабіваюцца, трэбо, кап пруг быў. Дарашэвічы. 2. Патоўшчаны край касы. Касіў у саду, та як зачапіў касой за некі корч, так аш пруг ні вытрымаў, пэнк. Няцечы.

**Пруге'** мн. Прылада ў кроснах у выглядзе плоскай дошчачкі з вострымі цвічкамі па канцах для нацягвання тканіны. Без пругоў кужалю ні вытчаш, скручвацца будзя. Луцкаўляны.

**Пруд** м. Стаў. У нас за вёскай пруд і ціпер есць, ні высах, каровы поім. Дуброва. Хоць пруд-прудзі — вельмі многа. Некалі той рыбы было хоць пруд-прудзі, і дзе яна падзеласа. Хамякі.

**Пружы'на** ж. Спружына. Паглядзі, мусі, ў часах пружына пэнкнула, ні заводзяцца, як ні круці. Чэхаўшчына.

**Пружы'ніць** незак. Спружыніць. Гэты дрот, мусі, сталёвы, пружыніць, ні ззагнеш. Каробчыцы.

**Пружыно'ўка** ж. Культыватар. Пружыноўку ні кажды гаспадар меў, ні было за што купіць, багатыя тулькі мелі. Верхнія Пагараны.

**Прутке'** мн., м. Пруткі, пруток /для вязання/. Прутке сабе файныя купіла, імі вязаць — адна забаўка. Каробчыцы.

**Пру'ткі** прым. Пруткі, цвёрды, але гнуткі. Гэта пружына с пруткага дроту зроблена, мусі, с сталёваго, бо добро аддае. Навумавічы.

**Пруто'к** м. Тонкі, невялікі прут, дэталь кроснаў. Як пачынаю ткаць, гляджу, кап пруток у навой добро залажыць, каб аснова ні выехала. Балічы.

**Прухні'ца** ж. Урадлівая, добра ўгноеная глеба, перагной. Тут адна прухніца, вечны гной, таму і добро родзіць. Батароўка.

**Прыбіва'ць** незак. Баранаваць, скарадзіць. Рассеяў гавёс, а хлопяц прыбіў, каб зерня ні было наверху. Баранава.

**Прыбы'так** м. Пра з'яўленне патомства ў гаспадарцы. У нас прыбытак — кабыла жарэбчыка прывяла. Пракопавічы.

**Пры'бяражні** мн. Намёрзлы прыбярэжны лёд. Даволі страшно ехаць: прыбяражні велькія, конь саней з рэчкі ні выцягне. Балічы.

**Прывалачы'** зак. Прынесці цяжкае, вялікае. Саломы як набраў рэдзгіні, та ледво прывалок да хлява, прыстаў. Пяслі.

**Пры'від** м. Прывід, здань. Іду я, а зноў бачу: на прыгуменні некі прывід белы стаіць, чысто перапалохаўсо, а зноў цэта Міхалчына кабыла. Кунцаўшчына.

**Прыво'дзіць** незак. Даць жыццё, нарадзіць /пра жывёлу/. Карова добра: цялушак прыводзіць, а ў гэтым року бычка файнаго прывяла. Пагараны.

**Пры'гар** м. Схіл гары, берага, ракі. У прыгары тулькі падбел адзін рос, яго нават гоўца ні елі. Свіслач.

**Прыгара'ць** зак. Прыараць, заараць. Як тулькі снапэ звязлі с поля, так пожню і стараюса прыгараць, каб зямля ляпей улежаласа на зіму. Ніжнія Пегараны.

**Прыгарну'ць** зак. Прыгарнуць, прыгрэбсці; прысыпаць. Прыгарні больш вуглёў пад велькі саган, мо, жывей бульба зварыцца. Пяслі.

**Пры'гаршчы** мн. Прыгаршчы. Да мякіны свіням сыплю ні больш, як чатэры прыгаршчы асы'пкі, і, ведаеце, добро ядзяць. Каменка.

**Прыглямбава'ць** зак. Прыбіць цвікамі, добра прымацаваць. Але і прыглямбаваў дошку, аніяк ні адарву, мусі, цалёвымі цвікамі. Бброўнікі.

**Прыгна'ць** зак. Прыгнаць. Ужэ пастух каровы прыгнаў з раніцы, ідзі падой ды пойдзем у поле. Галавачы.

**Прыгуме'не** н. Прыгуменне, месца, плошча каля гумна. Мы на прыгумені сено дасушвалі, як валкаватае было, а тады ўжэ клалі ў адрыну. Лукавіца.

**Прыда'нае** н. Пасаг. Прыданае добрае далі, тысячу злотых і карову. Хамякі.

**Прыда'ныя** мн., м. Людзі вясельнага абрада, якія дастаўлялі куфар з тканінай і адзеннем нявесты ў хату жаніха. У нас, хто надумаецца з вясельнікаў, той і ехаў у прыданыя, ні назначалі. Ферма. Ля, прыданыя прыехалі, куфар прывязлі маладой. Лаша.

**Прыда'сца** зак. Спатрэбіцца. Вазьмі гэта, можа, ў гаспадарцы нашто і прыдасца. Жукевічы.

**Прыда'ча** ж. Прыдача; тое, што дададзена, даложана. Кажаш, давай коні памяняем, не, браце, без прыдачы нічого ні будзя, мой конь вартаўнейшы за тваго. Старая Дубавая.

**Прыдба'ць** зак. Прыдбаць, набыць, займець. Не пасцярохса, во і прыдбаў сабе панску хваробу, а ціпер трэбо лячыцца. Бброўнікі. Прыдбала сабе некаго целяпея і жыву, як кажуць: «Сякі-такі целяпей — і то будзя жыць ляпей «. Белева.

**Прыжда'ць** зак. Дачакацца; дажыць да жаданага часу. Гэта пакуль прыждалі сваіх, та напакутаваліса, нагараваліса даволі. Некрашы.

**Прыжыва'цца** незак. Прыжывацца, зрастацца. Прышчэпкі ўсе добро сталі прыжывацца, ужэ лісткі папускалі. Дайлідкі.

**Прыз** м. Бусак, доўгі шост або жэрдка з перакладзінай зверху. Плытэ як стануць, та мы іх ад берага прызамі атпіхваем. Загорцы.

**Прызіра'цца** незак. Прыглядацца. Я да гэтай хаты доўго прызіраўсо, пакуль купіў, добра хата, німа што казаць. Дарашэвічы.

**Пры'зма** ж. Вяроўка, скручаная з лазы для замацавання дэталей сахі. Найлепшыя прызмы з распаранай ракіты; як звяжаш, та ўжэ будзя трымаць, пакуль ні згніе. Азёры.

**Пры'знак** м. Прыкмета. Дзед мой, помню, прызнакі ўсялякія ведаў, казаў: «Калі гусі ніско ляцяць, та хутко зіма будзя; калі зімой ад іняю суке на дзераве гнуцца, та жыто будзе ядронае; калі куры рано сядаюць на седало, та заўтро дождж будзя". Лаша.

**Прыкаркну'ць** зак. Заснуць на кароткі час; задрамаць. А-ей, трэбо хоць трошкі прыкаркнуць, ні магу вытрымаць, гочы так і зліпаюцца. Малахавічы.

**Пры'кець** ж. Абвастрэнне запаленчага працэса. Казала табе, ні прыкладай падарожнікам, а то, бачыш, у прыкець рана пайшла, горш стала гавіцца. Сцяцкі.

**Прыкі'нуцца** зак. Прыкінуцца, прытварыцца. Ён можа табе і хворым прыкінуцца, каб тулькі ад работы ўвільнуць. Лакно.

**Прыклё'п** м. Прычына, зачэпка, падстава. Як ні кажы, а баба заўсёды знойдзе прыклёп, кап прычапіцца, дапячы мужыку. Дайлідкі.

**Прыко'нчыць** зак. Прыкончыць, дабіць канчаткова. Як яго тады паліцыянты забралі, та завялі ў лес і білі там, а потым прыкончылі зусім. Сухая Даліна.

**Пры'кро** прысл. Прыкра, непрыемна, крыўдна. Прыкро было слухаць, як сын бацьку сваго чарніў, усяляк абзываў. Грыўкі.

**Прыкруці'ць** зак. Прыкруціць, прышрубаваць, закруціць. Мусі, шрубу добро ні прыкруціў, бо планка ні прылягае, нешто атстае. Падліпкі.

**Пры'кры** прым. Прыкры, прытарны. Дыня нека прыкра, ніяк ні магу есці, а другія кажуць, смашна. Гарны.

**Прыле'жаны** дзеепрым. Прыляжалы / пра садавіну, якая, паляжаўшы, даспела/. Гэта яблыкі прылежаныя, можно есці, мяхкія. Кузьмічы.

**Прылучы'ць** зак. Прылучыць, уключыць у склад. Ля, паглядзі, гаўца нека адбіласа ат стада, бегая, скажы пастуху, хай прыучыць, то прападзе. Ніжнія Пагараны.

**Прыма'нка** ж. Прынада. Найлепша прыманка — гэта гарох параны, накідаяш, так рыба і збярэцца, тулькі закідай вудачку. Гожа.

**Пры'мастка** ж. Насціл з дошчак паміж печчу і сцяной у курнай хаце; палатка. Ніякіх ложкаў у курных хатах ні было, старыя і малыя — усе спалі на прымастку, месца ўсім хватало. Палаткова.

**Прымастыкава'цца** зак. Размясціцца, уладкавацца /звычайна ў нязручным месцы /. Каб дзе тут прымастыкавацца каля вас дый трошкі ўздрамнуць. Батароўка.

**Прымастыко'ліцца** зак. Тое, што і прымастыкавацца. Галоўнае — гэта, каб дзе-нібудзь у Гродні на кватэру прымастыколіцца, прыпісацца, а работу знойдзеш. Казіміроўка.

**Пры'мен** м. Сені, сенцы. Даўней у кожнаго гаспадара ў прымні стаялі жорна, кожны сам сабе на хлеб малоў. Грыўкі.

**Прымле'ць** зак. Прыварыць трошкі. Пачакайце, зарас што можно будзя прымлець, паясце ды і пойдзеця. Свіслач.

**Пры'мно** н. Сені, сенцы. Зачыні прымно, кап свіня якая ні ўлезла ды мяшке ні паразрывала. Скамарошкі.

**Пры'мовіско** н. Прымаўка. Мой на адных тулькі прымовісках і жыў, што ні слово — так і прымовіско. Верцялішкі.

**Прына'да** ж. Прынада; тое, чым прынаджваюць. Ракаў, помню, мы лавілі на такую прынаду: спячэм жабу і ў кош, паставіш у рэчку, так і паналазяць. Балічы.

**Прына'джваць** незак. Прынаджваць; прыманьваць, прываблівць. Добро рыбу прынаджваць варанай бульбай: накідаеш, так рыба і выкручваецца на гэтым месцы. Азёры.

**Прына'дзіць** зак. Прынадзіць; прывабіць. Карову я хлебам прынадзіў, як паклічу, так і бяжыць, ведае, што хлеб у руцэ трымаю. Малышчына.

**Прыно'жак** м. Дэталь у калаўроце, на якую наступаюць нагой і прыводзяць

у рух кола. На прыножак моцно ні наступай, можаш паламаць, я тулькі пальцамі датыкаюсо.Сухая Даліна.

**Пры'няцца** зак. Прыняцца, укараніцца, прыжыцца, прышчапіцца /пра вакцыну/. У яе воспа прыняласа, паглядзі, як рука спухла, пачырванела. Скраблякі.

**Прыпа'дак** м. Прыпадак, раптоўны прыступ хваробы. Кажуць, у яго прыпадак быў, кінуло на таку, ледво аткачалі. Баброўнікі.

**Прыпа'рваць** незак. Прыпарваць /пра душнае, спякотнае надвор'е/. Спалудня прыпарваць стало, духата, аж дыхаць неяк цяшко. Цвіклічы.

**Прыпе'рці** зак. 1. Прыйсці, прыбыць /груб./. Самалёт ляціць — калёса сцерліса, вас ніхто ні прасіў, а вы прыперліса /з нар. прыпевак/. Свіслач. 2. Перан.: паставіць у безвыходнае становішча. Як прыперлі хлопца, та нікуды ні дзеўсо, мусяў прызнацца. Маркішы.

**Прыпе'ўка** ж. Прыпеўка, фальклорны кароткі твор. Пойце, дзеўкі, вы прыпеўкі, а я ўжо напеласа, маго мілаго нет — на вашых наглядзеласа /прыпеўка/. Рудавіцы.

**Прыпо'л** м. Прыпол, ніжні пярэдні край сукенкі, кашулі. Кажа, можа, грушаў хочаш, та я табе ў прыпол насыплю, занясеш дзецям. Няцечы.

**Пры'пражка** ж. Прыпражка від запражкі каня — збоку, для дапамогі каранніку. Як кепска дарога, та ў прыпрашку ездзілі, каня другого прыпрагалі, бо адзін мог ні пацягнуць. Сухая Даліна.

**Прыпражны'** м. Прыпражны, конь запрэжаны ў прыпражку. Прыпражны конь ў міне слабейшы за таго, што ў аглоблях, яму менш дастаецца. Лаша.

**Прыпушы'ць** зак. Зацерушыць, пакрыць тонкім слоем. Снех тулькі прыпушыў лёд, глядзі, сліско будзя ехаць. Навасёлкі.

**Прыпы'нак** м. Прыпынак, часовы перапынак. Усе недзе ідзе, прыпынку яму німа, у хаці ні ўтрымаць. Дзмісявічы.

**Пры'пячак** м. Прыпечак, месца, пляцоўка перад чалеснікамі печы. Помню, маці пасадзіць міне на прыпячак, а сама варыць у пячэ снядане. Караневічы.

**Прыручы'ць** зак. Прыручыць, зрабіць ручным. Адну весну я грача быў прыручыў, та потым доўго прылятаў, сядзе на падворку і с курамі есць. Вішнявец.

**Прыс** м. Шост для кіравання плытом, спіхвання плыта мелі. Як на хаты дзераво купілі, та гналі яго прысамі больш, як дзевяносто кілёметраў па Нёмні. Дзекалавічы.

**Прыса'да** ж. Прысады; дрэвы, насаджаныя вакол будынка. У Скідалі прысады натто багатыя, хатаў ні відаць, усероўно, як і ні ў горадзі, а ў сяле. Губінка.

**Пры'сак** м. Прысак, гарачы попел. Загарні бульбу ляпей у прысак, хай пячэцца. Карозічы.

**Прысвя'так** м. Невялікае свята. У нас ніякіх прысвяткаў ніхто ні святкаваў, хібо тулькі зімой, як рабіць ні было чаго. Караневічы.

**Прысвя'то** н. Невялікае свята. Макавей — гэта прысвято, хто святкаваў, а хто і ні святкаваў, граху ні было. Казіміроўка.

**Прыскры'нак** м. Прыскрынак, скрыначка ў куфры для дробных рэчаў. Як я дзеўкай была, та ў прыскрынку складвалі ўсялякія хусцінке', каб ні памяліса, стужке, тут і пацёркі, брошкі былі. Дарашэвічы.

**Прысма'кі** мн. Прысмакі, ласункі, салодкае. Ён нічого такого ні есць, на адных прысмаках жыве. Батароўка.

**Прыспо'рыць** зак. Прымножыць, павялічыць. У нашай сям'і прыспорыло, і зноў у Мані дзіця, хлопчык. Дзекалавічы.

**Прыста'льно** прысл. Пільна, уважліва. За дзецьмі ціпер, брат, трэбо прыста'льно глядзець, а то пат старасць плакаць будзем. Гібулічы.

**Прыста'нішча** н. Пристанішча; часовае жыллё. Яму нідзе прыстанішча німа, ходзіць, як вецер у полі. Квасоўка.

**Прыстаўле'не** н. Пастаноўка, паказ п'есы. Ён як пачне гаварыць, та мы за баке браліса, гэта ні чалавек, а цэлае прыстаўлене. Баранава.

**Прыстаўля'ць** незак. 1. Прыстаўляць, падсоўваць блізка. Ты прыстаў тапчан да печы бліжай, та будзе цяплей. Зарубічы. 2. Іграць ролю ў спектаклі; даваць спектакль. Як на коляды з звяздою хадзілі, та я чорта прыстаўляў. Кунцаўшчына. Учора ў Міхалкавай хаці прыстаўлялі «Моднаго шляхцюка», а дванастай толькі кончылі. Дарашэвічы.

**Прыста'ць** зак. 1. Прыстаць, стаміцца, змагчыся. Ідучы, чысто прыстаў, ледво давалокса да хаты. Лугавая. 2. Далучыцца, прымкнуць. Ён зусім да чужых людзей прыстаў і, бачыш, яго ні пакрыўдзілі, добро жыве. Кузьмічы. 3. Прычапіцца, настойліва дамагацца свайго. Ты чо гэта прыстаў да хлопца, хто ён табе — кум ці сват? Віцькі.

**Прысяга'цца** незак. Даваць прысягу, урачыстае абяцанне. Ён заўсёды прысягаецца, што рабіць больш так ні будзе, а сваю справу робіць. Ніжнія Пагараны.

**Прысяга'ць** незак. Прысягаць, даваць прысягу, клясціся. Дальбог, гэта праўда была, прысягнуць магу, каб я так жыў быў. Іванаўцы.

**Прытараба'ніць** зак. Прывалачы, прывезці, даставіць /што-небудзь/ вялікае, цяжкае. І як ён мох прытарабаніць такі мяшчыско, і сам ні ведаю, аткуль у яго такая сіла. Славічы.

**Пры'тарно** прысл. Непрыемна, агідна, жудасна. Як глянула на нібошчыка, та прытарно неяк стало, і ціпер у вачах стаіць. Адэльск.

**Прытаро'мно** прысл. Жудасна, жахліва, страшна. Каля гэтай хаты аш прытаромно ісці, як уздумаеш, што ў ёй чалавека забілі. Адэльск.

**Прытаро'мны** прым. Страшны, жудасны. Ён мне некі прытаромы, ні магу на яго глядзець. Ферма.

**Пры'хваткай** прысл. Прыхваткамі, нерэгулярна, урыўкамі. Ячмень прыхваткай тулько можно было жаць, раніцамі з расой, а так сыпаўсо, ні ўзяцца было. Бакуны.

**Прыхо'д** м. Веруючыя, якія належаць да адной царквы; мясцовасць, дзе жывуць яны. Нехто казаў, што ў Лашанскім прыходзі налічваласо больш, як пяць тысяч душ; потым ён распаўсо на два, як у Індуры пастроілі цэркву. Лаша.

**Прычы'на** ж. Прычына, падстава, зачэпка. Яму і ні трэбо шукаць прычыны, кап пасварыцца, ён нізашто прычэпіцца. Скамарошкі. Без дай прычыны — беспадстаўна. Учапіўсо да чалавека без дай прычыны і цягае яго. Навумавічы.

**Прычында'лы** мн. Розныя прылады, рэчы /жарт./. Забірай свае прычындалы і ўцякай, кап тваго і духу тут ні было. Грыўкі.

**Пры'швы** мн. Ніжняя частка ботаў за выключэннем халяў. Халявы ашчэ добрыя, зробім табе прышвы, мо, зіму і праходзіш. Малая Жорнаўка.

**Прышчамі'ць** зак. Прышчаміць, заціснуць, зашчаміць. Глядзі, там дзіця дзверы адчыняе, кап пальцы сабе ні прышчаміло. Кругляны.

**Прышчапе'рыцца** незак. Прышчапіцца, зачапіцца. Кацяня як прышчаперыласо за сарочку, та ледво адарваў, так трымаласо. Карозічы.

**Прышчапі'ць** зак. Прышчапіць; перасадзіць чаранок, вочка аднаго дрэва на другое. Я сам магу прышчапіць дзікую грушу, у прошлым року прышчапіў, та ўжэ с паўмэтра выгнало. Пагараны.

**Прышчы'кнуць** зак. Прышчаміць. Дзіця, мусі, зубамі язычок прышчыкнуло, што крычыць, глядзі, кроў ідзе з рота. Жукевічы.

**Пры'шчыць** незак. Пячы /пра адчуванні пры запаленчым працэсе на скуры /. Прышчыць, нечаму палец баліць, мусі, рваць будзя. Лікоўка.

**Прышы'ць** зак. Прышыць: Што, ты гузікаў ні маеш, што ходзіш расхрэстаны? Ні можаш сабе прышыць. Каменка. Прышый кабылі хвост — у значэнні: ніхто, нішто. А я хто табе прыходжуса — прышый кабылі хвост ці што? Я ж брат твой. Рагачы.

**Прыягджа'ць** незак. Прыязджаць. Усяго два разы быў у нас, а так прыягджаць чамусьці ні хоча: далёка. Вялікае Дзямідкава.

**Прээнтава'ць** незак. Падараваць, паднесці ў якасці падарунка. Наш Янак любіць прээнтаваць, хоць які-кольвек падарунак, а купіць, матцы перашле і сясцёр ні забывае. Хліставічы

**Прэ'мя** ж. Прэмія. Пры паляках мне прэмю за кабылу далі аж 800 злотых, сам Масціцкі даваў, нават за руку павітаўсо. Зарубічы. Учора мой прэмю палучыў за бульбу, больш як сто рублёў, але падаў мне тулькі восімдзісят. Скамарошкі.

**Прэ'ндкі** прысл. Хуткі; рухавы. Да яды та ты прэнткі, кап такі прэнткі да работы быў, та добро было б. Аульс.

**Прэ'ндко** прысл. Жыва, хутка, шыбка. Вы міне тут пачакайце, я прэнтко вярнусо, доўго там ні забаўлюса. Квасоўка.

**Прэнт** м. Прэнт, металічны прут. З прэнтаў жалезных некалі, як я помню, кавале' зубы да боранаў рабілі. Жыдаўшчына.

**Прэ'шлы** прым. Мінулы. Прэшлы рок сухі быў, нівядомо, што гэты пакажа. Белева.

**Пстро'нг** м. Фарэль, стронга. Найбольш пстронгаў было ў Ласасянцы, былі і ў Нёмані, але менш, ціпер рэтко пападаюцца. Ласосна.

**Пстры'чка** ж. 1. Пстрычка, рэзкі ўдар разгібаемым пальцам. Малымі збярэмсо ў якую хату і давай у пстрычкі гуляць, хто каму больш лоб наб'е. Кунцаўшчына. 2. Дэталь у калаўроце ў выглядзе невялікага колка пры шпульцы. Я як праду, та заўсёды правяраю, ці пстрычка добро прыкручана, а то цягну'ць шнур ні будзе. Верцялішкі.

**Псяю'ха** м., ж. Пра таго, хто выклікае агіду /лаянк. /. Пачакай, псяюха, я табе ашчэ пакажу, дзе раке зімуюць. Баброўня.

**Пта'шка** ж. Дробная птушка. Шэра пташка невялічка дый па ельнічку скача, дурна дзеўчына, ніразумна па малойчыку плача /з нар. песні/. Рудавіцы.

**Пу'га** ж. Пуга. Баке вам ужэ параспірало, ні ведаяця, што вычаўпляць, а пугі на вас німа. Караневічы. Кап ты с пугай пайшоў, кап ты! /праклён/. Вялікая Жорнаўка.

**Пуга'рчык** м. Невялікі посуд, якім пілі гарэлку /устар./. Пойдзям, Пятрусю, да карчмэ дый вып'ямо па пугарчыку, вясялей будзя. Лаша.

**Пу'гаць** незак. Прагна есці. Як паставіш міску крупніку, та дзеці як пачнуць пу'гаць адно перад другім, уміг выпугаюць. Белева.

**Пуга'ць** незак. Пужаць, страшыць. Ні трэбо яе пугаць, яна і так усяго баіцца, напалохана. Свіслач.

**Пугну'ць** зак. Пужнуць, прыстрашыць. Трэбо было б гэтых гараб'ёў пугнуць, а то чысто каноплі пааб'ядаюць. Вялікае Дзямідкава.

**Пуд** м. Пуд, мера вагі, роўная 40 фунтам, каля 16,3 кг. У гэты мяшок пудоў шэсць улезе збожа, ні больш. Путрышкі. Кап чалавека пазнаць, трэбо ні адзін пут солі з'есці /прымаўка/. Старая Дубавая.

**Пудэ'лко** н. Невялікая драўляная або металічная каробачка. Хто там пудэлкамі тыя цукеркі дзецям купляў, добро было, калі па адной якой бацько купіць. Пагараны. Дзед, помню, дастане табакі с пудэлка, заложыць у нос, чмыхне сабе разоў тры — і пашоў. Баброўнікі.

**Пужа'льнішча** н. Пугаўё, пужальна. Найлепшае пужальнішча гэта з ялаўцу, яно табе нігды ні зломіцца, ні адну пугу пераражыве. Палаткова.

**Пу'здрыкі** мн. Аладкі, спечаныя з толькі што замешанага хлебнага цеста. Маці як хлеб месіць, та напячэ нам пуздрыкаў, яны такія наздраватыя, смашныя нам здаваліса. Пагараны.

**Пук** м. Пук, звязка, ахапак. Прынёс пук сухога хварасту з лесу, ужэ будзя чым печку прапаліць. Цыдовічы.

**Пуланге'лькі** мн. Боты з хрому з крывымі стаячымі халявамі, якія былі моднымі ў Заходняй Беларусі да вайны. Во, паглядзі, зрабіў сабе ў Ліпску пулангелькі, добро будзя на забавы хадзіць. Рацічы.

**Пульну'ць** зак. Кінуць. Хацеласо мне пульнуць у яго каменем, але пашкадаваў, хай ідзе с халерай. Малахавічы.

**Пу'льпіт** м. Пульт, падстаўка для нот. Я як

іграў на скрыпцы, та ноты на пульпіт лажыў, так ямчэй было іграць. Гродна.

**Пумпурэ'** ж. Дэталь у жорнах у выглядзе жалезнай планкі, на якой трымаецца і пакручваецца верхні камень. Пумпурэ як спадзе с шпеньчыка, так камень і стане, ні пакруціш. Азяркі.

**Пу'нтамі** прысл. Часам, часамі, перыядамі. Пунтамі, як схопіць жвот, месца сабе ні знаходзіш, так баліць. Гінавічы.

**Пу'нця** м., ж. Бесхарактарны, заняпалы чалавек, няўдачнік. Бо ён пунця ні мужык, яго жонка ўсім кіруя, а ён і голасу ніякаго ні мае. Свіслач.

**Пупе'х** м. Сасок жаночай грудзі. Аніяк пупех ў рот дзіця ні бярэ, выкідае, хібо хто ўрок. Рудавіцы. Пупяхе чысто дзіця паапкусвало, баляць. Стрэльчыкі.

**Пупры'ца** ж. Дэталь у жорнах у выглядзе металічнай планкі, насаджанай на шпянёк, на якой трымаецца верхні камень. Пупрыца як ператрэцца ў жорнах, та я ў каваля заказваў, другую зробіш і зноў сабе мелеш. Парэчча.

**Пу'рын** м. Рэлігійнае свята ў яўрэяў у канцы верасня. Як пурын настане, та ў Індоры нічого ні купіш, усе крамы пазачынены. Малая Жорнаўка.

**Пурэ'чкі** мн. Парэчкі. У Мядзьвежым ляску гэтым рокам пурэчак навалам, бабы збанкамі носяць. Пагараны.

**Пуста'к** м. Від цэглы, цэментных блокаў з пустотамі ўсярэдзіне. З пустакоў хаты ставілі, але натто ш халодныя, зімой ні ўседзіш. Ласосна.

**Пустальга'** ж., м. Перан. Пра пустога, легкадумнага чалавека. Зусім пустальга — чалавек, нічого талковаго ў ім німа. Бакуны.

**Пустасме'х** м. Пра чалавека, які смяецца без прычыны; беспрычынны смех. Пустасмех некі, настаў палец, та будзя сміяцца, аж заходзіцца. Лаша. На міне некі пустасмех як нападзе, та сміюса і сама ні ведаю з чаго. Азёры.

**Пустацва'н** м. Шавецкія абцугі. Пустацванам цвіке выцягвалі з абцасаў, скуру нацягвалі шаўцэ, бо ў яго захват шырокі. Індура.

**Пустацве'т** м. Пустацвет; кветка, якая не дае плода. Грушы так харашэ цвілі, а завязі німа, усё асыпаласо, пустацвет. Горніца.

**Пу'стка** ж. Пустка; без расліннасці ўчастак зямлі, які ніхто не апрацоўвае. У Луцкаўлянах было тры пусткі, пан іх прадаў шляхціцу з Паўянаўцаў — Ігнатоўскаму. Круглікі.

**Пусты'** прым. 1. Перан.: той, хто пустаслові́ць, балбатун; несур'ёзны чалавек. Зусім пусты чалавек, а нічого ў яго галаве німа, толькі вецер ходзіць. Дарашэвічы. 2. Без зярнят /пра колас/. Пустыя каласэ тулькі стырчаць, адкуль там будзе ўмалот добры. Рагачы.

**Пустэ'ча** ж. Пустыр, пустка. Пустэча была, на ёй нігды нічого ні расло, а ціпер, бачыш, што робіцца, усё аж буіць. Дубоўка.

**Пу'тно** прысл. Разумна, талкова. Ён нігды нічого путно ні скажа, а ўсе з некімі выкрунтасамі, глупство нясе. Лужкі.

**Пу'тны** прым. Разумны, талковы. Гаспадар з яго путны, у яго ўсяго было, жыў, як кажуць, на ўсю ногу. Вялікая Альшанка.

**Пу'то** н. Пута; вяроўка або ланцуг, якім спутваюць пярэднія ногі жывёле. Пута былі канапляныя, з лёну былі, а былі і жалезныя з замком, каб зладзеі каня ні маглі ўркасць. Баранава.

**Пуха'** ж. Тупы канец яйца /пятка/. На вялікдзень, як яйца білі, та спачатку б'еш носам, а тады ўже — пухой. Лаша.

**Пухі'р** м. Мачавы пузыр ў парсюка. Як зарэжам паршука, та пухір ні выкідалі, а сушылі і рабілі забаўку для дзіцей. Клачкі.

**Пуцалава'ты** прым. Круглатвары, мардаты, з тоўстым, вялікім тварам. І ў каго дзіця ўдалосо, пуцалавата нека, здаецца, у іх нікого такого ні было. Карозічы.

**Пуцэ'лцал** м. Шавецкая прылада для навядзення на рантах і абцасах абутку глянцу. Вазьмі гэты шырэйшы пуцэлцал, та ім лепшы глянец навядзеш. Індура.

**Пу'цячко** н. Уяўляемая вяровачка, якой, па народнаму павер'ю, быццам звязаныя ногі малога дзіцяці да таго, як яно пачне хадзіць. Як пачынало дзіця хадзіць, та наша баба брала нож, пра-

водзіла ім паміж ног дзіцяці тры разы і казала: «Ціпер, во, ужэ будзя хадзіць, пуцячко перарэзала." Круглікі.

**Пучо'к** м. Пук /памянш./, невялікая звязка. Пайдзі прынясі пучок якой саломы, трэбо печку прапаліць, а то ў хаці халадно. Вялікая Жорнаўка.

**Пу'шча** ж. Дрыгвістае месца, парослае дробным лесам. Прас пушчу, брат, ніхто ні пройдзя, там адны качке вадзяцца, крычаць. Азёры.

**Пчала'** ж. Пчала. Летам пчала доўго ні жыве, усяго 28 дзён, нікаторыя трохі больш. Грынёўка. Лётная пчала — рабочая пчала, якая збірае нектар. Добро, калі ўзятак есць і лётнай пчалы много, знаеш, што мёд будзя. Табольская Будка. Пчолы-ваданосы — пчолы, якія ў вулей носяць ваду. Пчолы-ваданосы — гэта старыя пчолы, яны далёко ні могуць ляцець, тулькі воду носяць. Мігова.

**Пшо'нка** ж. Манна /крупа/. Пшонку куплялі тулько дзецям, кашку варыць, хто яе так купляў. Кругляны.

**Пшо'нны** прым. Пшанічны. У міне пшонна мука заўсёды ў запасі, бо трэбо ці які пірог, ці аглатку спячы. Доргунь.

**Пшык** м. Нічога, пустата. Ездзіў, ездзіў, думаў: грошай зараблю, а зноў з гэтаго выйшаў пшык. Кунцаўшчына.

**Пшэпю'рка** ж. Перапёлка. Пшэпюркі пераклікаюцца, можа, дзе тут іх гняздо бліско. Занявічы.

**Пы'зы** мн., пыза ж. Вялікія бульбяныя галушкі, начыненыя мясным фаршам. Пызы рэтко калі варылі, хібо калі на велька свято або як кудзельніцы былі. Дарашэвічы.

**Пы'к-мы'к** — у значэнні: гаварыць нешта невыразнае. Здаецца, і рызыкант быў, а як вызваў судзя, запытаў, як гэта было, та ён пык-мык і нічого ні мог сказаць. Балічы.

**Пы'рай** м. Пырнік. Пырай ўсю бульбу пакрыў, трэбо палоць жывей, бо позно будзя, прападзе. Пагараны.

**Пы'рка** ж. Гатунак бульбы, які разводзілі ў Заходняй Беларусі да вайны. Пырка зусім ні радзіла, гэта ні бульба была, а так нешто, нашто яе і садзілі. Брузгі.

**Пы'рнік** м. Пырнік, шкоднае пустазелле. Пырнік тулькі спружыноўкай можно было выдраць, а так рады з ім ні было. Квасоўка.

**Пы'рскацца** незак. Пырскацца, абдаваць пырскамі. Пакінь пырскацца, а то і так ўсюды вадэ паналіваў, тольки выцірай за табой. Жылічы.

**Пы'рхаць** незак. 1. Пырхаць, легка пералятаць з месца на месца /пра птушак/. Гэта птушачка, што тут пырхая, мусі, пчол ловіць, бо ўсё круціцца каля ўляя. Гродна. 2. З шумам выпускаць паветра з ноздраў /пра каня/. Конь пачаў пырхаць — дарогу вельку чуя / выслоўе /. Кунцаўшчына.

**Пыск** м. Рот, вусны /груб./. Замкні свой пыск і ні крычы, цібе тут ніхто ні баіцца. Талочкі.

**Пэ'йсах** м. Рэлігійнае свята ў яўрэяў / вялікдзень/. На пэйсах Іршко мацу прыносіў, даваў пакаштаваць, яна такая белая, як папер, бес солі была. Індура.

**Пэ'йсахі** мн. 1. Пэйсы, доўгія пасмы валасоў ля скроняў у патрыярхальных яўрэяў. Я Лейзара здалёк пазнаваў па яго пэйсахах. Пракопавічы. 2. Пра доўгія раскудлачаныя валасы /лаянк./. Ты што гэта распусціла свае пэйсахі, ні маяш часу зачасацца, ці што? Дубоўка.

**Пэйсахо'ўка** ж. Спецыяльны гатунак гарэлкі, якую яўрэі пілі ў час сваіх святаў. Я сам пэйсахоўку піў, даволі моцная была. Азёры.

**Пэ'йсы** мн. Тое, што і пэйсахі ў 1-м і 2-м значэннях. Схавай свае пэйсы, а то павылазілі с-пат хусцінкі, аж ні хочацца глядзець. Навасёлкі.

**Пэ'ндзаль** м. Пэндзаль. Во, пэндзаль зусім збіўсо, ні маю чым хаты пабяліць. Чэхаўшчына.

**Пэ'ндзіць** незак. Даганяць. Пэндзіў, пэндзіў, а ніяк ні мог дагнаць. Гродна.

**Пэ'нкаць** незак. Лопаць, трэскаць, узрывацца. Шыбу ўстаўляў у акно і замоцно цвічком прыціснуў, скло і пэнкнуло. Лікоўка.

**Пэ'нснуць** зак. Ударыць. Трэбо было яму пэнснуць, каб ён дзісятаму заказаў, як чужое браць. Табольская Будка.

**Пэ'ртацца** незак. Рабіць няякасна, з агрэхамі, без ведання справы /груб./. От, нешто пэртае, каб час прайшоў, хібо ён што люцкае можа зрабіць? Дзекалавічы. Кінь пэртацца, ні можаш — ні бярыса, ні марнуй матэрыялу. Дубоўка.

**Пэ'сткі** мн. Семя сланечніка. Помню, на вечарынках пэсткі хлопцы як пачнуць лушчыць, та ўсю хату закі'даюць, тулькі падмятай за імі. Кунцаўшчына.

**Пэ'ўно** прысл. Пэўна. Пэўно, яго ўжэ ў хаці німа, недзе да сваіх паехаў. Гарны.

**Пэ'цкало** н. Той, хто няўмела, неахайна выконвае работу, бракароб, партач / зневаж./. Або з яго майстар? Пэцкало! За што ні возьмяцца рабіць, та тулькі змарнуе. Пяслі.

**Пэ'цкаць** незак. 1. Забруджваць, вымазваць. Я ёй кажу: ідзі бульбу перабіраць, а яна: рук ні хачу пэцкаць — такая паніста стала. Старая Дубавая. 2. Рабіць няўмела, неахайна, брудна. Ні робіць, а пэцкае, і за што яму грошы тулькі плацяць? Лаша.

**Пэ'цкель** м. Тое, што і пэцкало. Я ведаю гэтаго пэцкеля, ён сабе нічого люцкаго ні зрабіў, а хоча яшчэ, каб другім зрабіў. Баранава.

**Пэ'цнуць** зак. Ударыць. Ні за'чапай яго, а то можа пэцнуць па носі, ён цібе ні пабаіцца. Сухая Даліна.

**Пя'дзя** ж. Пядзя, старая мера даўжыні. Аршына ні было, та мы ўсе пядзямі мералі або якім кіёчкам; адмераеш і пілуеш. Клачкі.

**Пяке'льны** прым. Пакутлівы, вельмі цяжкі, нясцерпны /пра боль/. Пякельны боль у назе, усю ноч ні спала і сама ні ведаю, чым ужэ прыкладаць, што рабіць. Занявічы.

**Пялы'н** м. Палын, пустазелле з моцным пахам і горкім смакам. Пялын памагаў, калі каму жвот балеў, нап'ешса пялыну — і ўжэ ні так баліць, можно трываць. Пракопавічы. Пялын у буду сабакі кладуць, я сам клаў, каб блохі ні кусалі. Гродна.

**Пялю'га** ж. 1. Пустазелле-паразіт. Пялюгі як ні вырвеш з лёну, та прападзе, ні вырасце, чысто высушыць. Цыдовічы. 2. Зелле, храп'е. Пялюгі нарвеш прыпол, прынясеш свіням і ядуць, тулькі вушы трасуцца. Гібулічы.

**Пялю'шка** ж. 1. Пялёнка. Я пялюшке палака'ць на рэчку насіла, рэтко калі ў хаці мыла, тем ляпей вымыеш. Кавалічы. 2. Палявы гарох /кармавая расліна/. Пялюшку сеялі тулькі на корм, да яды яна ні гадзіцца, чорная. Лугавая.

**Пярга'** ж. Пылок з кветак, сабраны пчоламі і прынесены ў вулей. Пярга — гэта хлеп пчаліны, бес пяргі пчолы ні пражывуць. Табольская Будка.

**Пяру'н** м. Пярун, аглушальны ўдар грому. Пярун, мусі, недзе ўдэрыў, аж дымам засмярдзело. Гібулічы. Пяруны ўсю ноч смалілі, ні на мінутку ні заснула, свечку паліла. Лойкі.

**Пярша'к** м. 1. Першы рой пчол, які выйшаў з вулля ў час раення. Той рок, як пачалі пчолы раіцца, рады ні было; толькі пяршак асадзіў у ўлей, як за ім ашчэ тры рае вышло. Ласосна. 2. Першая самагонка з затору. Пяршак натта ж удаўсо, моцны, паглядзі, як гарыць, вадэ зусім німа. Каменка.

**Пярэ'гляды** мн. Адведзіны, наведванне бацькамі засватанай дзяўчыны бацькоў жаніха і яго гаспадаркі. Учора на пярэгляды ездзілі, мусі, нічого ні будзя, ні пойдзя, кажуць, зусім бедны. Пышкі.

**Пярэ'днік** м. Фартух. Як да печы ідзеш, пярэднік падвяжаш, і ўжэ добро, ні так зафэйдаешса. Рацічы.

**Пярэ'дніца** ж. Вяроўка, якой спераду прывязвалі жэрдку ў возе з сенам. Я заўсёды, каб мацней жэртка трымаласа, пярэдніцу двайной пятлёй закладаў, ні было выпатку, каб выскачыла. Сухая Даліна.

**Пярэ'зімак** м. Свойская жывёліна мінулагодняга прыплоду /пра жарабят, цялят/. Ён у нас ашчэ пярэзімак, дзе там яго ў плуг запрагаць. Горніца.

**Пярэ'палах** м. Хвароба, якая, згодна з народнымі ўяўленнямі, узнікае ад перапуду. Ат пярэпалаху дзіцей працягвалі прас хамут або праз акно і ка-

залі: " Што цягнеш? — Пярэпалах! — Цягні, каб мінаўсо." Загорцы.

**Пярэ'сты** прым. Пярэсты, стракаты, рознакаляровы. У Змітрука пярэсты конь быў, усероўно, як карова, праз вёску ні давалі праехаць, сміяліса/. Дарашэвічы.

**Пярэ'хрыст** м. Пярэхрыст, пра таго, хто перайшоў з адной рэлігійнай веры ў другую. У нас у сяле толькі адзін быў пярэхрыст, а так усе трымаліса свае веры. Кунцаўшчына.

**Пясту'н** м. Пястун; той, каго вельмі песцяць, распешчваюць. Што і казаць, адно ў бацькоў дзіця і тое ні ладно, пястун, рады з ім ні могуць даць. Малая Капліца.

**Пясць** ж. Пясць, аснова кісці рукі. У пясці нешто баліць, мусі, жнучы наверадзіла, пальцамі ні варухнуць. Кавальцы.

**Пясцю'к** м. Пястун, распешчанае дзіця. Пясцюк ні дзіця, як падымя крык, та хоць з хаты ўцякай, нікого ні слухае. Каўпакі.

**Пясчыра'** ж. Пяскі; плошча, занятая пяскамі. За сялом хаміцкім адна пяшчыра, прайсці ні можно. Свіслач.

**Пясэ'цкі** м. У значэнні: смерць. Мусі, зараз і да міне прыдзе Пясэцкі, забярэ да сібе. Кулёўцы.

**Пята'** ж. 1. Пята, задняя частка панчохі або шкарпэткі. Шкарпэткі ашчэ цэлыя, а пяты зусім працерліса. Калбасіна. 2. Тупы канец яйца. Нос пабіўсо, а пята цэлая, даволі моцная. Навасёлкі.

**Пя'тка** ж. Апорная частка касы. Касіць добро ні ўмеў: та пятка касы ў яго ўрэжацца ў зямлю, та зноў носам усадзіць, папамэнчыўсо, пакуль навучыўсо. Ферма.

**Пятля'ць** незак. Ідучы рабіць петлі. Ліса хітрая, яна нігды просто ні бяжыць, а стараецца пятляць, каб ні напалі сабакі на след. Вялікае Дзямідкава.

**Пятнасто'ўка** ж. Дзяўчына, якой споўнілася 15 год. Я думаў, што яна дзеўка, а гэта пятнастоўка, у школу ашчэ ходзіць. Баяры.

**Пятро'** н. Рэлігійнае свята Пятра і Паўла 29 чэрвеня па ст.ст. Пасля Пятра так жаць і ідуць, жыто спелае. Баранава.

**Пятро'ўка** ж. Пост у праваслаўных перад святам апосталаў Пятра і Паўла, якое святкуецца 12 ліпеня па новаму стылю. У пятроўку пост быў, бо ні было чаго есці, хлеба ні мелі, а рабіць трэбо. Зарубічы.

**Пятушы'ны** прым. Петушыны. Хто там пятушына мясо калі еў, хібо, як захварэя, тады білі пятуха, крупнік з ім варылі. Каленікі.

**Пятушы'цца** незак. Храбрыцца, гарачыцца, хадзіць пеўнем. Ты чо гэта пачаў пятушыцца, паддзыга'ць да кожнаго? Мы такого рызыканта бачылі. Рацічы.

**П'я'ўка** ж. П'яўка. У сажалку хаця без ганавіцаў ні лезь, а то п'яўкі ў ногі паўпіваюцца. Малая Альшанка.

**Пя'ціцца** незак. Адступаць, адыходзіць назад. Тулькі адзін рак пяціцца назад, а чалавек — ніколі /выслоўе/. Рыбніца. Коль слова даў, та трэбо трымацца, а ні пяціцца назад. Парэчча.

**Пячо'нка** ж. Пячонка, печань. У прошлу зіму, кажуць, ён захварэў на пячонку і памёр, што ні рабілі — нічого ні памагло. Батароўка.

**Пячо'рка** ж. Шампіньён, пячурыца. Пячоркі ў нас растуць каля кароўніка, ні трэбо і ў лес хадзіць. Калбасіна.

**Пячу'рка** ж. 1. Шампіньён, пячурыца. Пячуркі ўсялякія бываюць, адны на полі растуць, другія — у лесі, адны — белыя, другія — ружаватыя такія. Караліно. 2. Невялікая ніша ў сцяне печы. На ноч я свае ганучы ў пячурку кладу, каб высыхалі. Скамарошкі. Добро нашаму Юрку: сам на пячэ, а яйца — у пячурку /прымаўка/. Рудавіцы.

**Пяшко'м** прысл. Пяшком, пехатою. Я ні пан, і пяшком да Гродна хадзіў, зраня як выйдзяш, так у палудзень і там. Свіслач.

**Пяшчура'** ж. Вельмі дрэнная глеба, з аднаго пяску. Адна пяшчура была, нічого ні расло, а ціпер, глядзі, які ячмень, аж у трубы павіўсо. Жукевічы.

# Р

**Рабаке'** мн., м. Глісты. У дзіцяці рабаке, мусі, усю ноч ні спало. Пальніца. Некалі ад рабакоў парылі куколь і давалі піць дзецям. Лаша.

**Рабаце'не** н. Вяснушкі. Плечы ў яго і тыя ў рабацені, ні тулькі твар. Бандары.

**Ра'бін** м. 1. Рабін, духоўны кіраўнік у яўрэйскай абшчыне. Я рабіна ні бачыла, тулькі знаю, што ён у школі іхняй спявае, крычыць. Ферма. 2. Рабы'; той, у каго многа вяснушак /жарт./. Я як глянула на гэтаго рабіна, та аш смех некі ўзяў: увесь рабы. Гродна.

**Рабі'ць** незак. Працаваць. Яго адзін сын недзе робіць фейчарам. Нямейшы. Ён робіць абы-як, абы тулькі час адбыць. Занявічы. Рабіць па канец рук — працаваць нядбала, няякасна. Ён змалку быў гультаём і ціпер усё робіць па канец рук. Каменка.

**Рабо'чы** м. Рабочы; працоўны чалавек. Рабочыя — гэта сіла, яны што хочаш могуць зрабіць. Жытомля.

**Рабо'чы** прым. Працавіты; які многа, ахвотна, шчыра працуе. Гэта чалавек рабочы, ні хвілінкі ні можа без работы быць, усё нешто робіць. Скрыннікі.

**Рабы'** прым. Рабы, з рабаценнем. І ў каго ён удаўсо такі рабы. Мількаўшчына. Абое рабое, як адно /прымаўка/. Машталеры.

**Равальве'р** м. Рэвальвер. А ён доўго ні чакаючы, як высмаліў з равальвера ўверх, та ўсе аш і папрысядалі. Солы.

**Равары'ст** м. Веласіпедыст. Ціпер раварыстаў развялосо — па гуліцы ні пройдзяш. Квасоўка.

**Рагану'ць** зак. Цяжка ўпасці, грымнуцца. Так рагацуў, што з гачэй іскры пасыпаліса, думаў, ні ўстану. Капцёўка.

**Рагата'ць** незак. Рагатаць; гучна, нястрымна смяяцца. Табе, відаць, палец пакажы, та будзеш рагатаць, як дурны. Каўпакі.

**Рага'тка** ж. 1. Колюшка, дробная рыбка з калючкамі на спіне і брушку. Якая там рыба ў нашай рэчцы — адны рагаткі. Кунцаўшчына. 2. Рагатка. І куды тыя бацьке глядзяць, што вы з рагаткамі ходзіце і гараб'ёў страляеце? Прыгодзічы.

**Рага'ціна** ж. Рагаціна, рагуліна. Добро, што нека рагаціна пад руку папала, а то рады ні было ад гэтых сабак. Кашэўнікі.

**Рага'ч** м. 1. Драўляная саха. Дзе пясчаная зямля была, та і рагачом лехко было гараць, а чарназём ім ні ўгарэш. Азёры. Багач — кідай рагач, бяры сявенку ды сей памаленьку/прыказка/. Літвінкі. 2. Вілкі, якімі ставяць у печ або вымаюць з печы гаршкі. У міне рагач заўшэ стаіць пад рукамі, як варыш, бо патрэбны ў кажну хвіліну. Сапоцкін.

**Рагачэ'** мн. Прылада для разматвання з маткаў нітак. Трэбо рагачэ прынясці ў хату, цэўкі будзем сукаць. Казіміроўка.

**Ра'гі** мн., ж. Рагі, сляды-струменьчыкі чаго-небудзь вадкага на паверхні. Зусім, бедны, ўпрэў, тулькі рагі цякуць, вазьмі хоць утрыса. Свіслач.

**Раго'віш** м. Хлеб у выглядзе вялікай аладкі, спечаны перад пасадкай у печ асноўнага хлеба. Як хлеб пяклі, та мы, дзеці, так і таўкліса пад рукамі — раговіша чакалі. Бяляны.

**Раго'йш** м. Тое, што і раговіш. Аднаму жабраку, расказваюць, замест пірага далі рагойш, та ён як пачаў яго кійком хвастаць: «Як ты пірог, та піражыса, як ты рагойш — та паражыса,»– усе прыгаварваў. Селюкі.

**Рагу'лькі** мн. Род лекавых травяністых раслін. Рагулькі, што сінім цветам цвітуць у жыці, кажуць, ат кашлю памагаюць. Рудавіцы.

**Рагэ'йшас** м. Тое, што і раговіш. Спячэш рагэйшас, пакуль хлеп садзіць у печ, і дзеці ядзяць. Азяркі, Грандзічы.

**Ра'да** ж. 1. Рада, парада, навучанне. Найлепша рада — ні звязвацца з ім, бо бяды набярэшса. Дзекалавічы. 2. Даць рады — адолець, управіцца. У нас зямлі много ў калхозі, але ці дасі рады

яе абрабіць, людзей мало. Іванаўцы.

**Радзгі'ні** мн. Рэзгіны, прыстасаванне насіць сена, салому ў выглядзе вяровачнай сеткі, нацягнутай на дужкі. Двое радзгіняў уваліш пат каровы саломы — і ўжэ сухо ў хляве. Азяркі. Грандзічы.

**Ра'дзі** прысл. Дзеля. Радзі яе тулько і чалавекам стаў, а так хто з ім лічыўсо. Рагачы.

**Ра'дзіво** н. Радыёпрыёмнік, рэпрадуктар. Радзіво чамусьці ні гаворыць, мажа, нешто перагарэло там. Кунцаўшчына.

**Радзіво'ла** ж. Радыёла. Радзіволу як купілі, та ўжэ каторы рок іграя. Свіслач.

**Радзі'мка** ж. Радзімка. Уся ўдаласа ў матку, нават радзімка на шчацэ, як у маці. Лазы.

**Радзі'на** ж. Радня, сям'я. Радзіна велька была, есці тулькі давай, чалавек дзесяць. Галавачы.

**Радзі'ны** мн. Радзіны, сямейнае святкаванне нараджэння дзіцяці. Учора на радзіны да Гэлі хадзілі, другога сына мужыку прынясла. Кунцаўшчына.

**Радзі'цца** зак. Нарадзіцца. У Стасі зараз дзіця павінно радзіцца, натто яны дзеўчынку хочуць. Жукевічы.

**Радзі'ць** зак. Радзіць. Як курныя хаты былі, та бабы радзіць дзіцей у хлеў ішлі, пад гоўца, там цяпло было. Загорцы.

**Ра'дзіць** незак. Радзіць, даваць параду; прапанаваць. Я табе добро радзіў, а ты ні паслухаў, ціпер, як хочаш, так і рабі. Квасоўка.

**Радзю'жка** ж. Дзяружка. Зімой у хаці халадно было, пад адной радзюшкай ні ўлежыш. Няцёчы.

**Радно'** н. Радно, узорыстае пакрывала на ложак. Родна ткалі, як хто хацеў: хто ў клетку, хто хацеў перабірыстыя, на дратэ. Свіслач.

**Ра'дуга** ж. Радуга, вясёлка. Глянь, радуга воду бярэ з рэчкі, зноў будзя дождж. Дарашэвічы. Радуга п'е воду, больш патопу на свеці ні будзе /прыказка/. Табала.

**Ра'дуніца** ж. Радаўніца, дзень на першым тыдні пасля вялікадня, калі памінаюць нябожчыкаў на магілках. На радуніцу як пойдзем, та людзей на магілках — ні прайсці, столькі. Клачкі.

**Раё'ўня** ж. Раёўня, абцягнутая часткова тканінай лубянка, у якую збіраюць пчаліны рой. Без раёўні ні абыдзешса, хацеў у вядро ззабраць, та чысто пчолы ссеклі. Каменка.

**Ражанцо'ва** ж. Парафіяльнае свята і кірмаш восенню ў м. Азёры. Людзі ражанцовай чакалі, як нівядомо чаго, бо на кірмашы можно што хочаш было купіць. Забагонікі.

**Ра'жачка** ж. Ражка, драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай /памянш./ Я ў ражаццы парасятам давала, яна нівелька такая. Капцёўка.

**Ра'жка** ж. 1. Ражка, драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкамі. Рашка ў кожнаго была, без яе гаспадыня ні абыдзецца. Рагачы. 2. Твар /груб./. З свае працы такой рашкі ні нагадуяш, як у яго. Баброўнікі.

**Ражке'** мн. 1. Прылада для разматвання нітак з маткоў. На ражке насадзіш маток і сабе памалу разматваяш на цэўкі. Грыўкі. 2. Наморднік з вострымі цвічкамі, які надзяваюць адлучанаму цяляці, каб не ссала карову. Трэбо, відаць, ражке цяляці надзець, а то зусім карову дабіло. Караневічы.

**Ражо'н** м. Ражон, завостраны кій. Напароўсо на некі ражон і во, паглядзі, як ногу скалечыў. Забагонікі. 2. Шпень, дэталь калаўрота. На ражон насадзіш цэўку і тулькі буіць — так нітка ідзе, наматваецца. Балічы.

**Разабра'ць** зак. 1. Усвядоміць, уясніць для сябе. Я тулькі потым разабраў, куды ён гнуў. Гневяшчына. 2. Парэзаць на часткі, раздзяліўшы мяса і вантробы /пра мясную тушу/. Мне паршука разабраць — плёвае дзело, паўгадзіны і гатова. Баранава.

**Раза'к** м. Разак, прылада для наразання цаглінак торфу пры ручным капанні. Як з братам капалі торпу, та я разаком наразаў, а ён лапаткай выкідаў. Круглікі.

**Разбазы'рацць** зак. Разбэсціцца, распусціцца, разленавацца. Ціпер людзі

зусім разбазыралі, булак ні хочуць есці. Гродна.

**Разбазы’рыць** зак. Распанець, распусціць, разленавацца. Ты ў міне ўжэ зусім разбазырыў, устыду ніякага ні маяш. Рагачы.

**Разбарані’ць** зак. Разбараніць, разняць, развесці. Як шчапіліса біцца, та ледво іх разбаранілі, адцягнулі адзін ад другого. Гібулічы.

**Разбіва’ць** незак. Разбіваць, растрасаць, разварушваць, раскідаць. Некалі пойдзеш разбіваць гной віламі, та чысто пристаняш, а ціпер усё машыны робяць. Балічы.

**Разбі’ты** прым. Разбіты, раз’езджаны, папсаваны. Дарога зусім рабіта, ні прайсці ні праехаць. Малахавічы.

**Разбра’кнуць** зак. Разбракнуць, разбухнуць ад вільгаці; размокнуць. Дзверы разбраклі, аніяк ні зачыню. Лесніца.

**Разбро’хаць** незак. Разбіць, знасіць, растаптаць /пра абутак/. Чаравікі зусім разброхала, з ног спадаюць. Сухая Даліна.

**Разбува’цца** незак. Разувацца. Трэбо ўжэ разбувацца ды ісці спаць, даволі позно. Дзекалавічы.

**Разбузава’ць** зак. Бязладна перамяшаць, папсаваць, патаптаць. Як уляцела карова ў гарод, усё разбузавала, ні пазнаяш, дзе што расло. Лаша.

**Разбэ’рсаць** зак. Разблытаць, расплесці, разматаць. Ніяк ні магу матка’ разбэрсаць, ніці паплёнталіса, канца ні знайду. Дубніца.

**Разбэ’сціцца** зак. Разбэсціцца, распусціцца маральна, прывучыцца да дрэнных звычак. Хлопяц яго быў зусім разбэсціўсо, пакуль да войска ні ўзялі. Лугавая.

**Разбэ’шчаны** дзеепрым. Разбэшчаны, разбалаваны, з дрэннымі звычкамі. Ён змалого быў разбэшчаны, нікого ні слухаў, што хацеў, тое і рабіў. Пагараны.

**Разва’жны** прым. Разважлівы. Чалавек ён разважны, быля чаго ні скажа. Капцёўка.

**Развалі’цца** зак. Сесці шырока; заняць многа месца. Нікого ні апрандуе, разваліцца на ўсю лаву і сядзіць, як завала. Селюкі.

**Развальне’не** н. Панос, расстройства дзейнасці кішэчніка. Мусі, у яго развальнене, калі і ў начэ сну яму німа, бегае надвор. Ферма.

**Разва’льні** мн. Развалкі, развальні, нізкія і шырокія сані з разваламі. Развальнямі добро ехаць, ні выверняшса, хай будзя найгорша дарога. Верцялішкі.

**Разві’ткі** мн. Прыстасаванне для разматвання маткоў у выглядзе дзвюх змацаваных крыж-накрыж占 планачак, асаджаных рухома на металічы плінтус /вось/. Развіткі зрабіць — ні велька справа, абы матэрыял быў, за вечар так і гатовыя. Прыгодзічы.

**Разво’д** м. 1. Скасаванне шлюбу. Ціпер бабам волю далі, чуць што сказаў ні так, зразу крычыць: «Давай развод!” Сапоцкін. 2. Нахіл зубоў пілы’ ў процілеглыя бакі адносна яе плоскасці. Піла нешто заядае, мусі, развод малы. Вішнявец. На развод — з мэтай развесці, размножыць; вельмі мала.

**Карову** гэту ні прадавай, хай на развод будзе, малака много дае. Скамарошкі. Хацеў збожа купіць, але ў яго самого тулькі на развод, як сабе пасеяць. Гарны.

**Разво’дзіць** незак. Расходаваць, траціць. Яна бес патрэбы разводзіць грошы, а потым бегая, пазычая. Скрабля́кі.

**Разво’дка** ж. 1. Разведзеная з мужам жанчына. Некалі ні было разводак, а ціпер тулькі ў адной нашай вёсцы аж чатэры. Кульбакі. 2. Інструмент для развядзення зубоў пілы. Німа разводкі, пілу трэбо было б развясці. Кулакоўшчына.

**Разво’днік** м. Разведзены з жонкай мужчына. Ні хацеў жыць с сям’ёю як чалавек, та хай ціпер пажыве разводнікам. Верцялішкі.

**Разво’рка** ж. Прыстасаванне ў выглядзе гладкай жэрдкі, з дапамогай якога можна павялічваць даўжыню воза. У маём возі разворка доўга была, пад любыя драбы можно было воз расцягнуць. Сухая Даліна.

**Развэ’дзгаць** зак. Размазаць, неахайна

расцерці. Падлогу ні вымые, а тулькі гразь развэдзгае, развэдзгае і кіне. Каленікі.

**Разгавары'цца** зак. Стаць гаваркім, пачаць многа гаварыць. Бабы як разгаварыліса, та прастаялі гадзін мо дзве, пакуль ні сцямнело. Пыра.

**Разгарадзі'цца** зак. Разгарадзіць, разабраць агароджу, перагародку. Ад гуліцы сельсавет сказаў разгарадзіцца, мода ціпер пашла — кап платоў ні было. Казіміроўка.

**Разго'н** м. Свавольнік, дураслівец, непаседа, гарэза. Разгон ні хлопяц, жыць матцы ні дае, ні слухая. Кунцаўшчына.

**Разгрува'сіць** зак. Разбіць, раз'ездзіць, папсаваць яздой. Дарогу чысто разгрувасілі машынамі, ні пройдзяш, адны ямы. Рагачы.

**Разгрува'зіць** зак. Тое, што і разгрувасіць. Як пайшлі з зімы машыны гной вазіць, та і дарогі той ні пазнаць, усю разгрувазілі. Круглікі.

**Разгрузі'ць** зак. Разгрузіць, вызваліць ад грузу. За ноч аш тры вагоны дроў разгрузілі, зусім, можно сказаць, ні спалі. Стрэльчыкі.

**Раздабы'ць** зак. Здабыць, дастаць з цяжкасцю. Здаецца, ужэ нічого ў хаці ні было, а ён недзе пойдзя, нешто раздабудзя і зноў жывем. Віцькі.

**Раздаро'жа** н. Бездараж, бездарожжа. І здумаў ты ехаць у такое раздарожа, у такую непагадзь. Каленікі.

**Разе'ц** м. Рэжучы інструмент для апрацоўкі капытаў каня пры падкоўванні. Каваль спачатку разцом абрэжа, абрэжа каню капыто, а тады ўжэ прыбівае паткову. Бандары.

**Раззвані'ць** зак. Расказаць усюды, усім /неадабр./. Пляскач некі, ашчэ нічого ні зрабіў, а ўжэ ўсім раззваніў, пахваліўсо. Кругляны.

**Раззлава'цца** зак. Раззлавацца. Як раззлуецца, та яго ніхто ні ўрэмтае, пакуль сам ні асядзе. Няцечы.

**Раззя'ва** ж. Рассеяны, няўважлівы чалавек. Раззява, з-пад носа бяруць, а ён ні бачыць. Рагачы.

**Раззявя'ка** м. Расцяпа, някемлівы, няўважлівы чалавек. Пазбіраюцца гэтыя раззявякі і глядзяць гадзінамі, як экскаватар землю капае. Скідаль.

**Разле'злік** м. Хваравітае дзіця. Некі разлезлік, здаецца, і адзяваям, а вецяр падуе, і зноў сморгае. Лабна-Агароднікі.

**Разлютава'цца** зак. Разлютавацца, раз'юшыцца, прыйсці ў лютасць. Ён як разлютаваўсо, та ледво ўгаварылі, месца сабе ні знаходзіў. Баранавічы.

**Разлязава'ць** зак. Гасіць вапну, змешваць нягашаную вапну з вадой, каб атрымаць будаўнічую вапну. Вапну трэбо разлязаваць, каб паляжала ў ямі, тады добра будзя. Тарусічы.

**Размары'н** м. Пакаёвая кветка. У маёй мамы і ціпер у хаці размарын расце, велькі вазон стаіць. Адэльск.

**Размата'чка** ж. Прыстасаванне для разматвання нітак з маткоў. Разматачку я сам зрабіў, ні трэбо было і майстра. Зарубічы.

**Разме'р** м. Бандарскі цыркуль для разметкі дна посуда. Размеры мы самы рабілі, а нікаторыя заказвалі ў кавалёў. Бандары.

**Размузне'ць** зак. Размяцца, стаць мяккім,ператварыцца ў месіва. Зацерка зусім размузнела, есці німа як. Лаша.

**Размяжджы'ць** зак. Раздрабіць, раструшчыць, размажджэрыць. Ён як паляцеў з рыштаваня, так аб камень галаву і размяжджыў, дайшоў зразу. Капцёўка.

**Разно'сіць** незак. Успухаць. Шчоку разносіць, зубы замэнчылі, усю ноч месца сабе ні знаходзіў. Аленічы.

**Разо'ра** ж. Разора. Які там загон ў іх быў, шэсць баразён і дзве разоры, сабака хваста ні меў дзе палажыць. Бросты.

**Разрабі'цца** зак. Паправіцца, патаўсцець. Але ш твая баба і разрабілаcorrect са, ні пазнаць. Свіслач.

**Разу'цца** зак. 1. Зняць з ног абутак. Да Гродна далёко, трэбо разуцца, лягчэй будзя ісці. Каўпакі. 2. Не мець абутку. Зусім хлопяц разуўсо, ні мая ў чым выйсці. Старая Дубавая.

**Разыгра'** ж. Раздолле, прастор, раскоша. Але ж нашым курам ціпер і разыгра — куды хочуць ідуць. Квасоўка.

**Разыйсці'са** зак. Разысціся, пайсці ў розных напрамках. Добро было ісці разам, але пара разысціса, кожнаму ў сваю дарогу. Зарубічы.

**Ра'йзар** м. Беспрацоўны ў даваеннай Польшчы, які хадзіў па вёсках, начаваў і харчаваўся. Райзара солтыс прывядзе да цібе, а ты мусіш яго накарміць і даць, каб дзе праспаў. Кунцаўшчына.

**Райко'** м. Дарадчык, саветнік. У нас жыў адзін дзед, яго так райком і празывалі, усім хлопцам раіў, якую дзеўку браць. Дарашэвічы.

**Райкру'т** м. Рэкрут, салдат-навабранец у дарэформеннай царскай Расіі. А якую табе, сынку, долю даці, калі цібе запісалі ў райкруты ўзяці / з нар. песні/. Свіслач.

**Ра'йста** ж. Багністае, тарфяное месца, парослае хмызам. Мы да Райсты па торпу ездзілі, аттуль усе яе прывозілі. Гожа.

**Райсо'ра** ж. Рысора. Брычкі на райсорах толькі ў паноў былі, нават шляхта і тая ні мела. Баяры.

**Раку'шка** ж. Бяззубка, малюск, які закрываецца ў дзвюх ракушках у выглядзе начовачак. Ракушку бярэш, раздзіраеш, мясо насаджваеш на кручок і ловіш на яго рыбу. Пышкі.

**Раля'** ж. Ралля, узаранае поле, узараная глеба. Як гарэш, та на ралі грачоў аш чорна, за плугам ідуць..Скамарошкі.

**Рамаза'н-байра'м** м. Пост у мясцовых татар у маі, ліпені і жніўні. У татараў, кажуць, ціпер рамазан-байрам, усе посцяць, нават малыя мяса ні ядзяць. Скідаль.

**Рама'н** м. Рамонак. Я толькі раманам і вылечыўсо, а так рана ніяк ні гавілаcа. Парэчча.

**Раматы'зм** м. Рэўматызм. Даўней ад раматызму самы лячыліса, пілі настойку мухамораў, настойвалі на гарэлцы. Лаша.

**Рамо'нак** м. Рамонак. Як дзіця нарodзіцца, так баба поіць і купае ў рамонку, каб здарова было. Літвінкі.

**Ра'нак** м. Раніца. Ранак — панак /прымаўка/. Перстунь. Ранак як цёплы выдарыцца, так і хочацца па расе босаму пахадзіць, бо, кажуць, здораво гэта. Луцкаўляны.

**Ранге'нт** м. Рэнтген, рэнтгенаскапія. Казалі, рангент на плюца прайсці, а я ні пашоў, ляпей у хаці паміраць. Зарубічы.

**Рандэ'ляк** м. Металічная пасудзіна з ручкай для прыгатавання ежы. У гэтым рандэльку нам, дзецям, маці ўсе кашу варыла. Рацічы.

**Ранклё'ды** мн., м. Рэнклёды, гатунак буйных, салодкіх сліў, бурачковага колеру. Ранклёды да сушкі ні гадзяцца, натта ж вадзяністыя. Лікоўка.

**Ра'но-ра'но** прысл. Вельмі рана. Устаў рано-рано, ашчэ чэрці на кулачкі ні ззыходзіліса. Азёры.

**Рант** м. Рант, вузкая палоска скуры па краях абутку. Відаць, ранты ніважныя даў, што боты працякаюць, нага мокра. Пракопавічы.

**Ра'па** ж. Парог, камяністы папярочны выступ на дне ракі, які парушае плаўнасць плыні. Глядзі, кап плыт ні занясло на рапу, а то разаб'е к чорту, і канцоў ні нойдзяш. Селюкі.

**Рапа'к** м. Рыжык, травяністая расліна з жоўтымі кветкамі, з семя якой здабываюць алей. З рапаку ні важны галей, пеніцца, як смажыш, з лёну куды лепшы. Кунцаўшчына.

**Рапе'й** м. Суквецце-шышка лопуха з учэпістымі калючкамі. Конь раз як набраўсо рапяю, та с паўрока хадзіў, пакуль хвост і грыву ні абрэзалі. Путрышкі.

**Рапе'йнік** м. Лопух, травяністая расліна з буйнымі шырокімі лістамі і ўчэпістымі калючкамі; суквецце-шышка лопуха. У нас за адрынай рапейнік рос, там куры нікаторыя нясліса. Рагачы. Ты дзе гэта набраўсо рапейніку, мусі, спаў недзе. Баброўнікі.

**Рапта'ць** незак. Наракаць, выказваць крыўду, нездавальненне. Ні трэбо яму раптаць, яго і так добрыя дзеці, глядзяць старых. Свіслач.

**Рапу'га** ж. Рапуха, жаба зялёнага або шэрага колеру з бугрыстай скурай. Нам, дзецям, казалі рапуг у рукі ні браць, а то барадаўкі будуць. Гродна.

**Рапу'ха** ж. Тое, што і рапуга. Рапуха хоць і гаткая, а біць яе ні трэбо, кажуць, карысная вельмі. Капцёўка. Паўзе як рапуха /выслоўе/. Палаткова.

**Ра'са** ж. Раса, верхняе доўгае адзенне праваслаўнага духавенства. Бацюшка чорну расу надзеў, мусі, паніхіду будзя служыць. Лаша.

**Расава'ць** незак. Красаваць /пра цвіценне збожжа/. Той рок, як жыто расавало, та пагода такая ціхая была, таму і ўмалот добры быў. Загорцы. Жыто дзве нідзелі расуе, дзве налівае і дзве нідзелі даспявае / прыкмета/. Лікоўка.

**Расаві'к** м. Дажджавы чарвяк. Я та больш на расавіка рыбу люблю лавіць, найлепей келб марскі браўсо. Пышкі.

**Раса'да** ж. Расада. Я заўсёды сваю расаду мела, бо купленая — гэта ні расада. Батароўка.

**Раса'днік** м. Расаднік, месца, дзе вырошчваюць маладыя расліны, расаду. У нас расаднік за хлявом быў, у зацішку, плеценем абнесены. Лаша.

**Расі'нка** ж. Капля расы, вадзяная кропелька. Перан.: мізэрная колькасць ежы, пітва. Бачу, мусі, натто стаміўса, што пот аж расінкамі павыступаў. Ласосна. Дальбох, ашче расінка ў році ні была, а нічавотко ні ела. Свіслач.

**Расі'цца** незак. Пакрывацца расой; абмакаць у расе. Заўтра, мусі, пагода будзе добра, бо з вечара трава так і пачала расіцца, раса выпала. Саволеўка. Ні расіцца — у значэнні: нічога не есці. Палудзень уже, а я ашчэ ні расілаcа, нічого ў рот ні брала. Александрова.

**Ра'ска** ж. Раска, дробная водная расліна, якая зацягвае паверхню стаячых вод. Сажалку і тую запаганілі, чысто раска пакрыла, аж зеляніць. Балічы.

**Раскашэ'ліцца** зак. Пайсці на значныя выдаткі; не паскупіцца. Бацько быў раскашэліўсо, купіў яму ровар, а потым і сам ні рады быў, што купіў. Гумбачы.

**Расквэ'цаць** зак. Размазаць, расцерці па паверхні, пэцкаючы яе. Ні вымыў, а тулькі расквэцаў гразь па падлозі, глядзець німа на што. Верцялішкі.

**Раскірна'ка** м., ж. Пра чалавека з няўклюдна расстаўленымі нагамі. Нека раскірнака, ідзе перавальваючыса, як качка. Кунцаўшчына.

**Раскірна'чыцца** зак. Стаць, шырока расставіўшы ногі /неадобр./. Ты сядзь, атпачні, а то стаіш тут перад намі, раскірначыўса. Балічы.

**Раскірна'чыць** зак. Шырока расставіць ногі /неадабр./. Села тут, раскірначыла ногі, ні прайсці. Рудавіцы.

**Раскла'сці** зак. 1. Запаліць, развесці агонь. Трэбо было хоць агонь раскласці, а то чысто памерзлі, ні вытрымаць. Малая Жорнаўка. 2. Размеркаваць. Ён так раскладзе свае грошы, што ведае, кожну капейку як і куды аддаць. Путрышкі. Раскласці на раты — падзяліць аплату доўга на некалькі частак. Некалі, як хто ні мог заплаціць падатак, раскладалі на раты, кап толькі плаціў. Лаша.

**Раско'л** м. Сваволькнік, дураслівец. Раскол гэты чалавеку галаву адурыў на цэлы дзень, рады з ім німа. Коматава.

**Раско'ўзаны** дзеепрым. Раскоўзаны, слізкі, коўзкі. Дарога так раскоўзана, што на нагах ні ўстаяць. Балічы.

**Раскры'цца** зак. Раскрыцца, агаліцца. Глядзі, дзіця зусім раскрыласо, змерзне. Баранава.

**Раскура'жыць** зак. Раззлаваць, раздражніць, разлютаваць. Але ш пчолы і раскуражыў, страх падысці, сякуць. Дзекалавічы.

**Расо'вы** прым. Пародзісты, надзелены якасцямі добрай пароды. У баярскаго пана расовыя коні былі, некай арапскай пароды. Індура.

**Расо'л** м. Расол, вадкасць з вострымі прыправамі і сокамі засоленых у ёй прадуктаў. Расолу много, капуста файна павінна быць. Балічы. Добро было б якого расолу напіцца, смагу адагнаць. Агароднікі.

**Распа'рваць** незак. Распарваць, рабіць мяккім уздзеяннем пары, гарачай вады. Я гарох распарваю, ён тады мяхкім робіцца, на яго лешч добро бярэцца. Солы.

**Распіра'ць** незак. Раздавацца, расшырацца. Вады ні выліў загадзя, мароз

як даў, так бочку і распёр. Палаткова. Распіраць баке — у значэнні: таўсцець ад сытнага, прывольнага жыцця. Ужэ хлеба ні хочуць есці, нідавяркі, расперло баке, давай ім пранікаў і ашчэ чаго. Каленікі.

**Распарцылё'ўваць** незак. Парцэляваць, падзяляць на малыя ўчасткі, парцэлі. Да вайны землю пачалі распарцылёўваць, але ні паспелі, немяц ні даў. Караневічы.

**Распласта'цца** зак. Распластацца, легчы, упасці плазам. У яго, відаць, ужэ больш духу ні хапіло, бо ўпаў, распластаўсо, так і ляжаў на дарозі. Сонічы.

**Распуска'ць** незак. Раскідаць сена з капіц для прасушвання на сонцы. Пачалі капке распускаць, а тут раптам дождж, і што тут рабіць — самы ні ведалі. Грандзічы.

**Распу'ста** м., ж. Свавольнік, распешчаны, распусны хлопец або дзяўчына. Распуста ні хлопяц, вядомо, адно дзіця ў бацькоў. Рагачы.

**Распусці'ць** зак. 1. Аслабіць нагляд, дысцыпліну; дапусціць да свавольства. Распусціў дзіцей, а ціпер рады з імі ні дае, ні слухаюць. Азёры. 2. Растраціць, расходаваць. Яму хоць мільён дай, та ён ўсё распусціць, і зноў голы будзе хадзіць. Ферма. 3. Растапіць, зрабіць вадкім або напаўвадкім. Сала ні было, та маці распусціць на патэльні трошкі лою, залье ў крупнік, так і елі. Кашэўнікі.

**Распшы'каць** зак. Растраціць, расходаваць. Гэта ш трэба падумаць, столькі меў грошай і за год усё распшыкаў. Кругляны.

**Рассы'пацца** зак. Рассыпацца, разысціся, разбегчыся ў розныя бакі. Дзеці рассыпаліса па ўсім свеці, а сама ні мае дзе галавы падзеці /прымаўка/. Зарубічы.

**Расталкава'ць** зак. Растлумачыць, зрабіць зразумелым. Ён такі, што кожнаму калхозніку раскажа, расталкуе, як што трэбо зрабіць. Навумавічы.

**Растапы'рыць** зак. Няўклюдна расставіць, развесці, рассунуць у бакі ногі, рукі. Ты чо гэта стаў, растапырыў ногі, ні бачыш, што ў сяле робіцца? Рацічы.

**Расхрэ'станы** дзеепрым. Расхрыстаны, расшпілены, раскрыты. Вечно ходзіць расхрэстаны, грудзі голыя, і мароз яго ні бярэ. Рагачы.

**Расхрэ'стаць** зак. Расшпіліць шырока, вольна /пра адзенне/. У цібе што: німа каму гузікаў ушыць, што расхрэстаў рубашку і так ходзіш? Гібулічы.

**Расця'жны** прым. Расцяжны, які можна расцягнуць, падоўжыць. На расцяжны воз можно любую штуку дзерава злажыць і прывязці. Зарубічы.

**Расця'ты** дзеепрым. Рассечаны, разрэзаны. На, паглядзі, хіба ў яго рука расцята, што кроў ідзе. Перстунь.

**Расчвартава'ны** дзеепрым. Расчлянёны, рассечаны на часткі. О-о-о, гэта быў свінабой добры, паршука ўміг разбярэ, і ляжыць той расчвартаваны — якое хочаш мясо выбірай. Квасоўка.

**Расшпі'лены** дзеепрым. Расшпілены. Ты ні бачыш, што дзіця расшпіленае ходзіць, у адной рубашачцы, гэта ш такі холад. Трычы.

**Расшпілі'ць** зак. Расшпіліць, раз'яднаць зашпіленае. Духата такая, расшпіліў бы хоць каўнер сабе, а то ўпрэяш зусім. Зарыца.

**Расшрубава'ць** зак. Расшрубаваць, раскруціць, адкруціць шайбы. У баране спачатку трэбо расшрубаваць усе гайкі, а тады даставаць зубы і гастрыць. Белева.

**Расшты'рбаць** зак. Раззлаваць, раздражніць, штурхаючы. Мой сабака нікого ні рухаў, але як яго расштырбалі, та і ён пакусаў. Жукевічы.

**Расшчапі'ць** зак. Раскалоць, раздзяліць на часткі. За вечар ні адно палено расшчэпіш на лучыны, кап свяціць, лямпаў ніхто ні ведаў. Пагараны.

**Расшы'каць** зак. Растраціць, марна расходаваць. Расшыкаў грошы, а ціпер пасвішчы, адкуль узяць. Гарны.

**Ра'та** ж. 1. Чарга. Заўтра вам рата каровы пасвіць, каб ведалі. Азёры. 2. Адна з частак агульнай платы доўгу. Першую рату падаткаў заплаціў, а на дру-

гую грошай німа. Баброўнікі.

**Ратава'ць** незак. Ратаваць, пазбаўляць ад небяспекі. Трэбо ўсім нам ратаваць хлопца, а то прападзе: звязаўсо з гэтымі п'яніцамі. Літвінкі.

**Рата'й** м. Араты /устар./. Які з яго ратай, пойдзя гараць — з ручок плуга ні відаць. Рудавіцы.

**Рато'рда** ж. Спецыяльная печ на смалакурным заводзе. Спачатку — у ратарду кладзем сасновыя карчэ, знізу патпальваем, а потым ужэ загружаем зверху. Рыбніца.

**Ратэ'льны** прым. Знаходлівы, дасціпны. Ён чалавек ратэльны, яна за ім будзе жыць, ні прападзе. Кунцаўшчына.

**Раўні'на** ж. Раўніна, роўнае месца. Як глянуць, за вёскай — адна раўніна, а ні прыгорачка, пшаніца добро расла. Сухая Даліна.

**Раўня'** ж. Чалавек роўны другому па якіх-небудзь прыкметах. Хіба ён табе раўня, паглядзі, хлопяц адным словам. Зарыца.

**Раўсці'** незак. Моцна плакаць /груб./. Ты чо гэта пачала раўсці, я цібе зараз успакою. Грыўкі.

**Раўча'к** м. Раўчак, раўчук. З зімы, як снег пойдзе, вада ў нашым раўчаку аж раве, ідзе ў Свіслач. Балічы.

**Раўчучо'к** м. Невялікі равок. Як я помню, та тут быў толькі раўчучок, а ціпер, бачыш, які роў вырыла вада. Баброўнікі.

**Рахтэ'льны** прым. Знаходлівы, дасціпны. На такой гаспадарцы ні пражыў бы, каб ні рахтэльны быў, а так і каня і карову трымае. Батароўка.

**Ра'цыя** ж. Падстава, сэнс, аснова. Жонка мела рацыю, трэбо было даўно так зрабіць, як яна казала. Лугавая.

**Ро'вар** м. Веласіпед. Ён тады на ровар ускочыў і даў цугу, паспрабуй яго дажані. Лойкі.

**Ро'жа** ж. 1. Мальва, дэкаратыўная расліна з вялікімі яркімі кветкамі. І ў нас каля хаты рожа расце, высока, пат саму стрэху. Кунцаўшчына. Нікаторыя свіной рожай называюць нечаму. Сухая Даліна. 2. Інфекцыйная хвароба скуры. У Падліпках быў Клікса, усе рожу замаўляў. Дубніца. Некалі ад рожы ніякага лякарства ні было, дахтарэ і тыя атказваліса лячыць. Агароднікі.

**Рок** м. Год. Рок на року ні стаіць, адзін бывае кепскі, другі — добры. Лаша.

**Ро'ндзіць** незак. Кіраваць, распараджацца. Хіба я грошы лічу, сама імі рондзішь, як хочаш. Свіслач.

**Ро'нтмэйсар** м. Спецыяльная шавецкая прылада для апрацоўкі рантаў па краях абутку. Каб добро было, та ранты ронтмэйсарам рабілі, адшліфоўвалі. Індура.

**Ро'нца** м. Асоба ў панскім маёнтку, якая кіравала гаспадарчымі справамі. Ронца тут усім маёнткам упраўляў, пан тулькі прыязджаў паглядзець. Пад'ятлы.

**Ро'спач** ж. Роспач, стан, пачуццё крайняй безнадзейнасці, упадку духу. Міне была ахапіла такая роспач, думала — ні вытрымаю. Квасоўка.

**Ро'тман** м. Старшы над плытагонамі, які падае каманды. Ля, ротман на чаўне паехаў наперадзе, кіруе плытамі. Селюкі.

**Роў** м. Роў, канава, яр. За гумнамі ў рові столькі грабоў было, а ціпер усе павысыхалі, адна крапіва расце. Свіслач.

**Ро'хаць** незак. Рохкаць. Свіня дзесьці ў гародзі рохае, мо дзе ў бульбу ўлезла. Віцькі.

**Ро'шча** ж. У значэнні: рост у вышыню. Твайму дзіцяці ніякай рошчы німа, мусі, нечага ні дастае. Дзекалавічы.

**Рубе'ц** м. Шво, якое атрымліваецца пры сшыванні тканіны. Гэты настольнік святам ні засцілай, ён сшыты, рубец пасярэдзіні. Грыўкі.

**Рубі'нка** ж. Палоска льняной тканіны для перавязвання ран. Даўней ніякіх бінтоў ні было, завяжаш рану рубінкай і ходзіш, пакуль зажыве. Кунцаўшчына.

**Рубі'ць** незак. Рубіць, будаваць з дрэва. Майстрэ нову хату пачалі рубіць, учора закладзіны былі. Рагачы.

**Руда'** ж. 1. Балотная рыжая вада. Каля Рудавіц у балоці нека руда, каровы нават піць ні хочуць. Карозічы. 2. Балотная мінеральная сыравіна, якая змяшчае ў сабе металы або іх злучэнні. Паміж

Дзертніцай і Новай Рудой у балоці пападаецца руда, такімі кавалачкамі, кажуць, жалезо можно з яе вытапіць. Старая Руда.

**Ружо'ўка** ж. Гатунак бульбы, сярэдняга памеру, ружоваго колеру. Белай бульбы ні было, ружоўку ўсё садзілі, яна ні гніла. Грынёўка.

**Руі'ны** мн. Руіны, рэшткі разбуранага збудавання. Во, нічого ні засталосо ат таго панскаго палацу, адны руіны стаяць. Галаўнічы.

**Рукаўні'на** ж. Спецыяльная самаробная тканіна вузкага памеру, з якой шылі рукавы ў кашулях. Гэта ашчэ пакойная мама ткала рукаўніну, я ўжэ яе ні ткала. Кавалічы.

**Ру'лька** ж. Дэталь жалезная ў шпульцы калаўрота, праз якую праходзіць нітка. Бачыш, нітка спярша праз рульку ідзе, тады — на серы, а потым ужа наматваецца на шпульку. Бакуны.

**Рум** м. Месца на беразе ракі, дзе са сплаўленага лесу рубілі будынкі для продажу насельніцтву. У руме хаты рубілі, адрыны, хто што закажа. Дзекалавічы. Нат Санька ў румі хаты рубіў, добро плацілі. Свіслач.

**Ру'мзаць** незак. Доўга, надакучліва плакаць /неадабр./. Пакінь за мной хадзіць і румзаць, усероўно ні будзя так, як ты хочаш. Саломенка.

**Румя'нак** м. Рамонак, лекавая травяністая расліна. Ціпер румянак у аптэках прымаюць, толькі давай, нават дэфіцыт за гэта даюць. Пагараны.

**Руне'ць** незак. Рунець; узыходзячы, зелянець /пра азімыя пасевы/. Жыто пачало рунець, глядзі, як землю пекно пакрыло. Азёры.

**Руно'** н. Шэрсць, знятая з адной авечкі. Як добра гаўца, та руно як падняць, такое велька. Свіслач.

**Рунь** ж. Рунь, усходы, пасевы азімых культур. Як тулькі добро падмерзня, так каровы і выпускалі на рунь. Сухая Даліна.

**Ру'піцца** незак. Рупіцца, старацца, клапаціцца, непакоіцца. Ён да работы ні вельмі рупіцца, ні такі чалавек. Гібулічы.

**Ру'піць** незак. Карцець, хацецца. Яму просто рупіць, каб дзе ўлезці, с кім задрацца. Адэльск.

**Руплі'вы** прым. Руплівы, дбайны. Чалавек мой быў руплівы, хацеў, кап парадак ва ўсім быў. Балічы.

**Руса'лка** ж. Русалка, міфалагічны вобраз у выглядзе жанчыны з распушчанымі валасамі. Ні лезця, дзеткі, у жыто: там русалкі, вас ухопяць. Круглікі. Казалі, калі які мужчына пападзецца русалцы, та яна яго заказыча да смерці. Лаша.

**Ру'та** ж. Травяністая расліна, лісце якой змяшчае ў сабе эфірны алей. У гародзі на мяжэ -тры кусточкі руты, а хто любіць дый пакіня — нет горшай атруты /народ. прыпеўкі/. Свіслач.

**Ру'тка** ж. Травяністая кармавая расліна з жоўтымі кветкамі, якая расце на сухіх сенажацях. Пад Грайнам у нас файна сено было, бугравое, як прывяжеш, та тулькі адна рутка. Лікоўка.

**Рух** м. 1. Рух, перамяшчэнне, язда, хада. Перат святам на шашэ такі рух, што аж дарога звініць, усе едуць да Гродна. Навасёлкі. 2. Перан.: дзейнасць, развіццё, рост. Які я там даход з гэтаго маю, от купіў — прадаў, абы рух быў. Індура. Ні важно, што бумажно, абы рух быў /прымаўка/. Кунцаўшчына.

**Ру'хлядзь** ж. Старызна, хлам, гніль. Што там купляць, адна рухлядзь, ні хата, усё згніло. Грандзічы.

**Ру'ціца** ж. Рута /нар. паэт./. Прыедзь, ойчанка, з вазочкам, збяры маю руціцу дый с пясочкам. Каб мая руціца ні сходзіла, маіх малойчыкаў ні зводзіла /з нар. песні/. Зарыца.

**Руця'ны** прым. Рутавы, які мае адносіны да руты. Як хто маладою паміраў, та дзяўчата вянок ёй рутавы пплялі, у труну клалі. Малая Жорнаўка.

**Ру'чка** ж. Дэталь у возе. Ручкі павінны быць моцныя, найбольш з бярозы рабілі, а ў нікаторых і дубовыя былі. Рагачы.

**Ручні'к** м. Ручнік. Даўней на покуці ў кожнай хаці вісеў вышываны ручнік, звычай такі быў. Лаша.

**Ручэ'йнік** м. Шыцік, маленькі рачны чарвячок, які жыве ў рухомым доміку —

трубачцы. На ручэйніка таксама рыбу лапаюць, добро бярэцца. Табольская Будка.

**Рушні'к** м. Ручнік. У Ляхнові натто файно вышывалі рушніке, я сама насіла вышываць. Свіслач.

**Ры'даль** м. Рыдлёўка. Вазьмі рыдаль ды гарот хоць скапай, пакуль ні замерзло. Солы.

**Ры'дзель** м. Рыдлёўка. Рыдзель як добро нагострыш, та ён сам у землю лезе. Сапоцкін.

**Рыдлё'ўка** ж. Рыдлёўка. Рыдлёўкай бульбу ні пасадзіш, ідзі да брыгадзіра, мо каня якого дасць. Гожа.

**Ры'жык** м. Рыжык, грыб. На моліцах рыжыкі раслі, як пойдзем, так і прывалачэм. Каўпакі.

**Ры'за** ж. Рыза, верхняе адзенне ў праваслаўнага свяшчэнніка. Рызы ўсялякія бываюць, нават чорныя, як служыць паніхіду. Лаша.

**Рызыдава'ць** незак. Самаўладнічаць; вольна сябе весці, не прызнаючы абмежаванняў. Жонкі німа, а ён адзін тут сабе рызыдуе, што хоча вычаўпляе. Карозічы.

**Рызыкава'ць** незак. Рызыкаваць, адважвацца на рызыку. Німа чаго рызыкаваць, мы ні такіх рызыкантаў бачылі. Жукевічы.

**Рызыка'нт** м. Рызыкант, смелы, адважны чалавек. Рызыкант — на увесь кант /прымаўка/. Лаша. Ого, гэта быў рызыкант, пакуль галавы ні скруціў. Каленікі.

**Ры'мар** м. Рымар, майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы. Ён спачатку краму трымаў, а пасля рымарам стаў, заказаў много меў. Бакуны.

**Ры'на** ж. Рына, металічная труба для сцёку дажджавой вады з даху. Як дасць дождж, так поўныя рыны вады, ні ўспявае ў бочку сцякаць. Пракопавічы.

**Ры'нка** ж. Кухонная чыгунная пасудзіна на трох ножках з ручкай. Маці ўсе ў рынцы скварыла скварке, паставіць на прыпечку і скварыць. Адэльск.

**Ры'пацца** незак. Намагацца, рабіць спробы. Німа табе чаго і рыпацца, ні такія былі дзеячы, ды прагарэлі. Пракопавічы.

**Рыпе'ць** незак. Хварэючы жыць. Як там твой Іван рыпіць, даўно ні бачыў. Хамякі.

**Ры'хтык** прысл. Якраз, дакладна, зусім, такі самы. Твой меншы рыхтык бацько, капелькі пабраў. Малышчына.

**Рышто'к** м. Рышток, жалабок, канаўка, раўчук для сцёку вады. Качаецца, як свіня ў рыштоку /прымаўка/. Баброўнікі.

**Рышчы'ны** мн. Размоклыя хлебныя крошкі ў квасе. Куды гэтыя рышчыны дзець, вазьмі дый свіням выкінь. Цыдовічы.

**Рэ'гент** м. Рэгент, дырыжор царкоўнага хору. Да той вайны ў нас рэгент быў. Як заспявае, та аж усё звініць у цэркві, такі голас меў. Капцёўка.

**Рэ'дзгіні** мн. Рэзгіны, прыстасаванне насіць сена, салому ў выглядзе вяровачнай сеткі, нацягнутай на дужкі. Вазьмі рэдзгіні і трасянкі прынясі, паткінь каровам. Карозічы.

**Рэ'дзька** ж. Свірэпа. Некалі рэдзька ўсё поле пакрые, жаўціць, ціпер німа, кажуць, вытравілі. Пагараны.

**Рэ'дко** прысл. Рэдка, часам, часамі, падчас, іншы раз. Ён рэтко заглядаў да сваіх бацькоў, а ціпер і зусім забыўсо. Забагонікі.

**Рэ'жчык** м. Бандарская прылада, якой робяць выразы ў клёпках для ўстаўкі дна. Нагастры рэжчык, бо ніроўно бярэ. Бандары.

**Рэ'зка** ж. Кавалак ворнай зямлі. Пад лён аж цэлую рэзку зямлі адвалілі, больш, як у тым року. Рыбніца.

**Рэзыдава'ць** незак. Самаўладнічаць; вольна сябе весці, не прызнаючы абмежаванняў. Рызыдуе, як хоча, ні ў каго нічого ні пытаецца. Дзекалавічы.

**Рэй** м. У выразе: весці рэй, быць завадатарам, верхаводзіць. У кампані ён заўсёды вядзе рэй, усе яго слухаюць. Квасоўка.

**Рэ'ксман** м. Старшы сярод плытагонаў, які кіруе сплавам лесу. Як рэксман спрактыкаваны, та ўвесь Нёман пройдзе, і ні адзін плыт ні разаб'е. Прывалка.

**Рэлігі'йны** прым. Рэлігійны, набожны. Рэлігійны, а чалавека забіў, во які

рэлігійны. Адэльск.

**Рэ'міза** ж. Памяшканне, у якім захоўваўся проціпажарны інструмент. У рэмізі спачатку калхозна кантора была, ціпер так стаіць. Пракопавічы.

**Рэ'пка** ж. Прыстасаванне ў калаўроце, на якім трымаюцца ручкі са шпулькай. Репка як добро асаджана, та і шпулька лёхко цягне. Казіміроўка.

**Рэ'ўза** м., ж. Той, хто часта плача /неадабр./. Дзіця — нека рэўза, як дзень, так ноч нікому спакою ні дае. Забагонікі.

**Рэфарэ'нт** м. Асоба, якая кіравала гаспадарчымі справамі ў маёнтку. Я яго ашчэ пры паляках помню, як рэфарэнтам быў. Азёры.

**Рэ'хва** ж. 1. Жалезны абруч, які мацуе драўляную калодку кола. Калёса чысто парассыхаліса, рэхвы спадаюць. Малахавічы. 2. Абручык для замацавання касы на касільні. Косячы, як зачапіў за корч, так рэхва і паляцела, мусяў да каваля ісці. Лаша.

**Рэ'хнуцца** зак. Звар'яцець, з глузду з'ехаць. Ты што, мусі, рэхнуўсо, нека глупство пораш. Свіслач.

**Рэ'чман** м. Старшы сярод плытагонаў, які кіраваў сплавам. У нас часто начаваў рэчман, як плытэ гналі. Во дзе чалавек бывалы. Дарошавічы.

**Рэ'шта** ж. Рэшта, астатак. Я малака здаю па пяць літраў у дзень, а рэшта сабе астаецца. Палаткова. Можа, маеце якія другія грошы, а то рэшты ні маю чым даць. Каменка.

# С

**Сабака'р** м. Сабачнік, аматар сабак. Сабакар бес сабакі жыць ні можа, усялякіх у яго сабак перабыло. Белякоўшчына.

**Сабарно'** м. Вялікі сабака /узмацн./ Глядзі, некі сабарно бегае па гуліцы, каб дзіцей часам ні пакусаў. Бросты.

**Саба'х** м. Малітва ў татараў. Ашчэ слонца ні ўзышло, а скідальскія татары ўжэ свой сабах гавораць, такую малітву. Скідаль.

**Саба'чы** прым. Сабачы, які мае адносіны да сабакі. Гэта ні сабачы след, а воўчы, глядзі, як па вяроваццы, бег. Зарубічы. Сабача галава — пра шкоднага злапамятнага чалавека. Сабача галава твая, ты што гэта робіш, як табе ні брытко? Тужаўляны. Сабача галава — вельмі цвёрды камень сіняга колеру. Як пападзе сабача галава, та нават і плітоўнікам, такім малатком, ні разаб'еш, ён слоя ні мая. Зарубічы. Сабача мыло — травяністая расліна з сакавітым сцяблом, якая выкарыстоўвалася як дэзінфіцыруючы сродак, замяняла мыла. Помню, каля рэчкі нарвем сабачаго мыла і мыем сабе твар і рукі, кап чыстыя былі. Кунцаўшчына. Сабачая мята — від мяты, які расце па берагах рэк і азёр. Сабачая мята такая ж, як і ў гародзі расце, тулькі ні так пахня. Ласосна.

**Саваке'** мн. Прыстасаванне для перавозкі сахі. Саваке рабілі з моцнаго дзерава, найбольш з бярозы, каб можно было саху палажыць і самому сесьці, ехаць. Азёры. Паложыш саху на саваке, сядзеш і едзяш дахаты, валэ падганяеш. Азёры.

**Саве'ты** мн. Савецкая ўлада. Пры тых саветах ён прадсядацелям быў, першы калхоз у раёні арганізаваў. Караліно.

**Сага'н** м. Чыгун, вялікі гаршчок. Добры сабе саган купіла, больш, як паўпуда бульбы ўлазіць. Галаўнічы.

**Садаві'цца** незак. Заходзіць /пра сонца/. Ужэ слонца садавіцца, а ўсероўно гарачэ, ні дыхнуць. Жукевічы.

**Садзі'ба** ж. Сядзіба. Наша садзіба ў канцы сяла была, ніхто нам ні мяшаў. Кунцаўшчына.

**Садо'ма** ж. У выразе: садом і гамора, страшнае відовішча, пекла. Што там тварыласо — расказаць цяжка: садома і гамора, малыя і старыя беглі, ля-

мантавалі, усё гарэло. Занявічы.

**Са'жалка** ж. Штучны вадаём, копаніца. У нашай сажалцы тулькі жабы адны крумкаюць, ніякай рыбы ні было. Пілюкі.

**Са'жань** м. 1. Старая мера даўжыні роўная 2,134 м. У гэтым кавалку было ўсяго дзве дзісяціны і 156 сажняў, а ты казаў: тры дзісяціны. Табала. 2. Старая мера дроў. У маю' бытнасць школам давалі на адну печку тулькі па аднаму сажню дроў, ні больш. Клачкі.

**Са'жаўка** ж. Штучны вадаём, копанка. У нас рэчкі ні было, жывіну паілі з сажалкі, што нідалёко Караняві. Караневічы.

**Сакары'** мн. Тапалі /ясакары/. Во, помню, у гэтым месцы, дзе сакарэ, цыганэ ўсе стаялі, кастрэ палілі. Навасёлкі.

**Саката'ць** незак. Сакатаць /пра курэй/. Люлі, люлі, люлі, наляцелі куры. Сталі сакатаці — німа чаго даці / калыханка/. Кунцаўшчына. Куры сакочуць — нясціса хочуць /прымаўка/. Галавачы.

**Сакату'ха** ж. 1. Курыца /ласк./. Ах ты, мая сакатуха, дзісяй і зноў з яйцом. Гінавічы. 2. Перан.: пра жанчыну, якая вельмі многа гаворыць і смяецца. І зноў гэта сакатуха прышла с кудзеляй, сакатаць будзя цэлы вечар. Грынёўка.

**Сакваста'тар** м. Службовая асоба ў даваеннай Польшчы, якая збірала з сялян падаткі. Таго саквастатара, як агню, баяліса, бо за падаткі апошню карову забіраў, адзежу с куфраў выцягваў. Галынка.

**Саке'ра** ж. Сякера, тапор. Хоць сакеру на нос вешай /прымаўка/. Лаша. Сакеру як нагастрыў, та ні чуеш у руках, так цеша. Будоўля.

**Саке'рка** ж. Сякерка /памянш./. Знайшоў сакерку за лаўкай /прымаўка/. Пагараны.

**Са'кун** м. Той, хто вымаўляе цвёрда канчатак «-ся» у беларускай дыялектнай мове. Сакун ты с-пад Гродна, бо кажаш: наеўсо, напіўсо, набраўсо, нарабіўсо. Гродна.

**Салаве'йка** м. Салавейка /ласк./. У вішнёвым саду начавала, с салавейкамі шчабятала ды с кукоўкамі кукавала /з нар. песні/. Рудавіцы.

**Саладзі'ны** мн. Ячменныя адходы ў працэсе вырабу піва. Я сама саладзінамі свіней карміла, у піўзаводзі брала. Гродна. Саладзінаў сві'ня як пад'ядуць, та ляжаць, як пабітыя, ні варухнуцца. Ласосна.

**Саладзі'ць** незак. Саладзіць, рабіць салодкім. Цукру ні было, та каву трэбо было саладзіць сахарынай, і гэдак пілі. Салаўі.

**Саладу'х** м. Ежа, прыгатаваная в жытняй мукі, ягад каліны і вады. Саладух зрабі, даўно ні елі, захацеласо. Бакуны.

**Саладу'ха** ж. Ежа, прыгатаваная на вадзе з жытняй мукі. Пры маей памяці саладухі ўжэ ні варылі, вышла з моды. Дзекалавічы. Ой, якая смашная саладуха была, яе пілі замест вады, здаецца, і ціпер напіласа б. Лойкі.

**Салё'нка** ж. Адвараная ў салёнай вадзе бульба. На вечар маці наварыць салёнкі, і мы с кіслым малаком ямо, а іншы раз і с квасам елі. Верцялішкі.

**Сало'нны** прым. Салёны. Мясо натта ш салонна, ні магу есці, адна соль. Вусенікі.

**Салтысо'н** м. Свіны страўнік, напханы кусочкамі пячонкі, легкіх і сала. Я вельмі любіў салтысон есці, ён смашнейшы нават за найлепшу каўбасу. Няцечы.

**Са'лька** ж. Мансарда; жылое памяшканне, якое знаходзіцца пад дахам. Яна ў нас жыла на сальцы, аж пакуль ні далі кватэру ў школі. Падкрыжакі.

**Салэ'па** м. Няўклюдны, з раскрытым ротам чалавек /зневаж./. Аднаго чалавека ўсе салэпай празывалі, бо ён на салэпу падобны быў, вечно з рота сліна цякла. Свіслач. Ашчэ і салэпы гэтаго тут бракавало, і ён да кампані прыстаў. Агароднікі.

**Салядэ'ра** ж. Сырадэля /кармавая трава/. Кажуць, і с салядэры пчолы мёд бяруць, а я і ні верыў доўго. Табольская Будка.

**Са'ма** займ. Самая. Мая са'ма меньша дачка вучыцца ў інсцітуці, навучыцелькай хоча быць. Дарашэвічы.

**Самасе'й** м. Расліна, якая сама насеялася і вырасла. Пры паляках ні можно было садзіць табаку, нават за самасей штрапавалі, як дзе якое кальво знойдуць у гародзі. Абухава.

**Самасе'йка** ж. Бульба, якая зіму праляжала ў зямлі, а вясной ўзыйшла, стала расці. У гародзі много самасейкі, бо зіма была мяхкая, ні памерзла, во якая расце. Рагачы.

**Самахва'л** м. Той, хто сам сябе хваліць. Самахвал, ён тулькі пра сібе і гаворыць, сам сібе любіць. Віцькі.

**Самахо'д** м. Аўтобус, аўтамабіль. Да той вайны самаходы да Гродна ні хадзілі, коньмі ўсе ездзілі, а я часто і пяшком хадзіў. Грабяні.

**Самахо'ць** прысл. У значэнні: па сваей волі; па сваей ініцыятыве. Самахоць сібе са свету звёў, нікого ні слухаў, сам сабе пятлю шукаў. Радзівілкі.

**Сампо'рык** м. Редкі малапажыўны суп. Наварыла некаго сампорыку і кажа: еш, а тут адна вада. Рудавіцы.

**Са'нкі** мн. Выязныя санкі; вазкі. У санках ездзілі да цэрвы, як трэбо было, та і ў госці ў санках ездзілі. Вулькаўцы.

**Сап** м. Сап, хвароба коней. У каня, мусі, сап, заразіўсо ад другіх, галава спухла. Галаўнічы.

**Сапаце'ць** незак. Часта сапсці, дыхаць. Перастань сапацець, ні трэбо было так хутко бегаць, цібе ніхто ні застаўляў. Сапоцкін.

**Сапсці'** незак. Сапці. Як пачаў цяшко сапсці, та думала, што ўжэ кончыцца, ні вытрымае. Васілевічы.

**Саракано'жка** ж. Макрыца. Як падняў камень, так сараканожкі і забегалі, захадзілі. Баяры.

**Саранча'** ж. Перан.: вялікая колькасць, мноства. Ці ж гэту ўсю саранчу накорміш, тут толькі адных унукаў маіх пяцёра. Вішнявец.

**Сарвэ'та** ж. Абрус, настольнік. Засцялі нову сарвэту на стол, людзі зараз у хату прыдуць. Кульбакі.

**Саргучэ'** мн. Саргуч м. Адросткі ў выглядзе прадаўгаватых валікаў у свінні пад падбародкам. Адзін рок у нас былі свіня с саргучамі, добрай пароды, файныя на сало. Зарубічы.

**Сарда'к** м. Кароткая жаночая вопратка без рукавоў. Во, у нас Гандзя і ціпер ходзіць у сардаку, ён такі, як гамзэлька. Круглікі.

**Сардачо'к** м. Кароткая жаночая вопратка без рукавоў. Шляхцянкі ў кракаўскіх сардачках хадзілі, тады былі ўсялякага колеру: вішнёвыя, бурдовыя, нібескія. Ланявічы. Наша мама надзявала сардачок, каб цяплей было. Прыгодзічы.

**Саро'чка** ж. Сарочка, кашуля. С кужалю мы самы сабе сарачке шылі, аб крамных і паміну ні было, ніхто ні думаў купляць. Быльчыцы.

**Сарпі'нка** ж. Тканіна, з якой шылі дзяўчынкам сукенкі. Сарпінкі ні дарагія былі, можно было купіць дзецям на сукеначкі. Талочкі.

**Сарто'вы** прым. Добрага гатунку /пра насенне/. Дастаў сартовай бульбы, будзя чым дзялку засадзіць. Лабна-Агароднікі.

**Сасу'н** м. Сысун /пра жывёлу/. Ён у нас ашчэ сасун, кабылу ссе, ні адлучалі. Губінка.

**Саўгану'ць** зак. Моцна ўдарыць; тыцнуць, сунуць /узмацн./. Паліцман хацеў мне саўгануць пад дыхавіну, але ні паспеў, сам паляцеў са сходаў. Некрашы.

**Саўга'ч** м. Удар кулаком, кухталь, грымак. Але і надаваў яму саўгачоў, будзя ведаць, як да старэйшых лезці. Табала.

**Саўлу'к** м. Няўклюда, неахайны, брудны чалавек. Шапку насуня на вушы і паўзе, як саўлук які. Свіслач.

**Сахары'на** ж. Сахарын /заменнік цукру/. Цукру ні было, каву пілі с сахарынай, кіняш на кубак адну-дзве бубачкі, і ўжэ салотко. Луцкаўляны.

**Са'чак** м. Жакет. У міне і ціпер есць сачак, да магазіну ў ім хаджу. Гушчыцы.

**Сачо'к** м. 1. Сак /рыбалавецкая снасць/. Я сам сабе сачок вязаў, за зіму так і звяжаш. Кунцаўшчына. 2. Буч, верша, нерат. Світаючы як пойдзяш на рэчку, так сачок рыбы і дастанеш. Бакуны.

**Са'чык** м. Жакет. Пашыла сабе файны сачык, а то ні мела ў чым да людзей высці. Лаша

**Сачы'ць** незак. Сачыць; пільна назіраць. Маці курыцу стала сачыць і ўсероўно ні ўсачыла, недзе прапала і знясласа. Клачкі.

**Сачэ'ўка** ж. Сачыўка, сачавіца. Даўней кожны гаспадар сачэўку сеяў, ціпер ніхто ні сея, моды такой німа. Занявічы.

**Свабо'дны** прым. Свабодны, прасторны, няцесны. Боты сабе зрабіў натто свабодныя, ногі шлыгаюцца, ганучаў больш накручваю. Літвінкі.

**Сваво'ліць** незак. Сваволіць, дурэць. Дзеці любяць сваволіць, пакінь тулькі адных, та ўсё дагары нагамі ў хаці паставяць. Саволеўка.

**Сваво'льнік** м. Свавольнік, дураслівец, балаўнік. Ён у міне свавольнік, так і глядзі, каб дзе ні ўлез, чаго ні натварыў. Завадзічы.

**Сва'нька** ж. Свацця. У міне натта ж лядашча сванька была, вечны ей покуй, жыць ні давала. Лойкі.

**Сва'рба** ж. Сварка. Як пажаніліса сынэ, так і стала ў хаці сварба, жанке аніяк ні міраацца. Пагараны.

**Сватэ'** мн. Сваты. Учора да Цацэлі сватэ прыязджалі, ні вядомо, ці пойдзя, нешто носам круціць. Клачкі.

**Сва'ха** ж. Сваццяя. Як Янак жаніўсо, та я свахай была, добра вяселе зрабілі. Батароўка.

**Свая'** ж. Сваячка, родная. Я хоць і далёка, але прыходжуса табе свая па бацьку. Дарашэвічы.

**Сваяво'ліць** незак. Сваволіць, дурэць. Гуляйце сабе, толькі ні сваявольце, а я хутко вярнусо. Скідаль.

**Свая'к** м. Сваяк, радня. Як кум — ні сваяк, так сыр — ні закуска /прыказка/. Лаша.

**Свая'чына** ж. Далёкі сваяк, радня. Яна нека сваячына яму, мусі, ў другой стрэчы сястра прыходзіцца. Адэльск.

**Све'жаніна** ж. Свежае мяса. Свежаніны вам прынясла, паршука закалолі. Пагараны.

**Свентая'нскі** агеньчык м. Святляк, светлячок. Свентаянскі агеньчык у траве ночу свеціцца, бывае і ў старых карчах таксама свеціцца. Пышкі.

**Све'ран** м. Свіран, клець. Да той вайны і ў нас быў сверан, стаяў ад Бяртэлявых, згарэў. Свіслач. Як ад'язджалі ў бежанство, та ўсе кублы з адзежай паставілі ў сверан. Літвінкі.

**Свет** м. 1. Свет; зямля. Свет вялікі, а дзецца німа куды /прыказка/. Сухая Даліна. Як свет стаў, та поп ні свістаў, а ціпер і поп свішча /прыказка/. Верцялішкі. 2. Святло. Ні за'ступай свету, адыдзі ад лямпы, а то нічого ні відаць. Хліставічы. 3. Світанне. Ашчэ на свет ні занімаласо, а ён ужэ знайшоў сабе работу, нешто бразгае. Літвінкі.

**Светлячо'к** м. Светлячок. Я сам бачыў, як у траве гарэлі светлячке, нават у рукі браў, але яны ні гарачыя. Сцяцкі.

**Сві'га** ж. Мінога ручаёвая. На весну на пераездзі ў нашай рэчцы гэтых свігаў мноство круціласо, мы, дзеці, баяліса брысці нават. Кунцаўшчына. Свігі ў рэчцы круцяцца — пара гарох сеяць /нар. прыкмета /. Лаша.

**Свігану'ць** зак. У значэнні: стаць лепей на некаторы час /пра жыццё/; праясніцца. Чалавеку трошкі свігануло, лягчэй стало жыць, і зноў навалілаcа бяда, жонка захварэла. Абухава.

**Свігну'ць** зак. Паказацца. У палудзень на якую мінуту слонца звігнуло і зноў схаваласо, вісіць, як у мяшку, цемната. Жытомля.

**Свідзе'цель** м. Сведка. Свідзецяляў добрых паставіў, та і суд вышаў за ім. Мігова.

**Свінабо'й** м. Свінабой; той, хто скупляў у насельніцтва свіней. Перат самай вайной мы прадалі свінабою аж два паршуке, мо па пудоў двенаццаць кожнаго было. Пракопавічы.

**Свіні'нец** м. Свінарнік. Мы свіней много ні трымалі, та і свінінец у нас быў ні велькі. Свіслач.

**Свіні'нчык** м. Свінарнік /памянш./. Тато да хлява свінінчык прыставіў, больш будзя свіням месца, а то за цесно было. Сонічы.

**Сві'нка** ж. Заўшніца; запаленне калявушнай залозы; свінка. Я на свінку ні хварэла, наша Надзя моцно хварэла, думалі, што памрэ. Свіслач.

**Свінчо'** н. Падсвінак; парася ва ўзросце

ад 4 да 10 месяцаў. Нека свінчо купіў у Лунай, цэла бяда з ім, нічого ні есць, тулькі зубамі скрыгіча. Рудавіцы.

**Свіны'** прым. Свіны, свінячы. Свіны пастух па хатах еў, адзін дзень у аднаго, другі — у другого. Вялікая Капліца. Свіны тато — кныр, самец свінні / жарт./. Згарнуўса як свіны тато /прымаўка/. Кунцаўшчына.

**Сві'ран** м. Свіран, клець, кладоўка. У іх свірні алчэ лонска жыто ляжыць, ні так, як у другіх, што хлеба ні маюць. Сколабава.

**Свірэ'пка** ж. Свірэпа. Глядзі, усё поле ўкрыла свірэпка, аж у гачах трымціць, столькі яе. Балічы.

**Сві'снуць** зап. 1. Свіснуць. Свішчы, ні свішчы, а салаўём ні будзяш /прыказка/. Гумнішча. 2. Перан.: украсці, узяць без дазволу. Мусі ў некаго свіснуў, бо ў яго такой буркі ні было. Вялікае Дзямідкава.

**Свіста'ць** незак. 1. Свістаць. Не свішчы ў хаці, бо чорта збудзіш. Свіслач. 2. Перан.: настойліва прасіць; вымольваць. Свістаў, свістаў, пакуль дастаў, папасвішчаш, пакуль ззышчаш /прыказка/. Рацічы.

**Свісту'лька** ж. Свістулька, свісток. Зрабі хлопчыку сбістульку, хай пазабаўляецца, пасвішча сабе. Аўльс.

**Свісту'н** м. Перан.: свістун; легкадумны, пусты чалавек; гультай /неадабр./. Свістун -ні гаспадар, у яго вецяр у галаве, гаспадарку да ручкі давёў. Барбарычы.

**Свісцё'лачка** ж. Свістулька, маленькі свісток. Ой, гуляя, гуляя, на свісцёлачку іграя /з нар. песні/. Баркі.

**Сві'та** ж. 1. Світка, доўгая верхняя вопратка, бурка. Світа тым добра, што ў найбольшы дождж ні прамокня, толькі цяшкай зробіцца. Пракопавічы. 2. Асобы, якія суправаджаюць іншую высокапастаўленую асобу. За ім цэлая світа ідзе прыслужнікаў, усё яму падаюць. Гродна.

**Сві'танак** м. Світанне. Ашче да світанку ўстала дзісь, і во, так цэлы дзень і таўкуса. Жылічы.

**Світа'ць** незак. Світаць, развідняцца, развідніваацца. Ужэ будзе світаць, глядзі, зорка-утраніца ўзышла, блішчыць. Кунцаўшчына.

**Сві'тка** ж. Світка, кароткая верхняя вопратка з самаробнай тканіны, белага колеру. Выткала сукна мужчынам на світкі, тулькі каб добраго краўца знайсці. Грандзічы.

**Свой** м. 1. Вялікі кусок кужалю, скручаны ў рулон. У свой піцьдзісят аршын кужалю скручваюць, ні менш бывая. Сухая Даліна. 2. Свой займ. Сваяк, родны. Свой — ні свой, загаліўшыся ні стой /прымаўка/. Хамякі. Ён нам далёкі свой, але да нас часто заходзіць. Капланаўцы.

**Сво'йчык** м. Тое, што і свой /памянш./. У міне было аш тры свойчыкі кужалю, а ў адным свойчыку — дзесяць губіц, па шэсцьдзісят аршын у кожным. Свіслач.

**Сво'лак** м. 1. Два папярэчныя бярвенні ў адрыне над токам, якія звязваюць ачэпы. Як канчаем малаціць, та цапэ заўсёды вешаем на свалаке, кожны на свае месца. Рагачы. 2. Дэталь у кроснах у выглядзе доўгага выгнутага кійка для рэгулявання навоя з асновай. Сволак перакладзеш, каб мацней нацягнуласа аснова, і зноў сабе тчэш. Рацічы. 3. Прыстасаванне ў курнай хаце ў выглядзе жэрдкі, на якое вешалі адзенне. Адзежы ні было дзе лажыць, та вешалі на сволак, каб ні ляжала на зямле. Бакуны.

**Свэ'тар** м. Світар. Гэты свэтар мне Надзя звязала; во каторы ўжэ рок у ім хаджу і ашчэ ні парваўсо. Свіслач.

**Свядэ'цтво** н. Пасведчанне. Мая кабыла пашла да войска па першай катэгорыі, мне адразу выпісалі на яе свядэцтво, кап палучыць прэмю. Зарубічы.

**Свякру'ха** ж. Свякруха, свякроў. Свякруха ліхая, ні дае жыць, за кожную дробязь прычапляецца, сварыцца. Кулёўцы.

**Свя'нцаць** незак. Свяціць, асвячаць / царк. абрад/. Як скажуць, што ксёндз прыехаў, так нясеш свянцаць каропку с кумпяком, сырам і яйцамі на прыгумене. Калбасіна.

**Свянці'ць** незак. Свяціць, асвячаць. Кошыкі з велікодным зносілі пад адну хату, адкрывалі, а бацюшка падыходзіў да кожнай і свянціў. Кунцаўшчына.

**Свянцо'ны** дзеепрым. Асвечаны; над якім выкананы царкоўны абрад надання святасці. Свянцоны кумпяк у каропцы ляжаў доўго, маці адрэжа нам па кавалачку, дасць і зноў каропку вечкам зачыніць. Коматава. Свянцону воду мы бралі просто з рэчкі, кожны ў бутэльку, гэта ўжэ пасля таго, як бацюшка пасвенціць воду. Лаша.

**Свярбе'ць** незак. Свярбець, чухацца. Нешто рука стала свярбець, даўно ні мыўсо, усе часу німа. Скамарошкі.

**Свярбя'чка** ж. Кароста, заразная хвароба скуры ў чалавека і жывёл. Мусі, свярбячка нека прыстала, усё цело чэшацца, здаецца, разарваў бы. Сухая Даліна.

**Свярдзё'лак** м. Свердзель, прылада для свідравання дзірак. Як папаў на сук ў дзераве, так свярдзёлак і паляцеў, відаць, сталь ні тая. Малая Капліца.

**Свяро'нак** м. Свіран, клець /памянш./. Наш свяронак пакрыты быў бляхай, ніякі пажар ні страшны, ні баяліса, што збожа згарыць. Салаўі.

**Свярчо'к** м. Цвыркун. Як завёўсо пат печу свярчок, та рады ні было, нікому спаць ні даваў, пакуль ні выкурылі. Каленікі.

**Свяршчо'к** м. Цвыркун. У старой хаці аднекуль узяўсо свяршчок, што ні рабілі, ніяк ні маглі вывесці, потым сам недзе прапаў. Караневічы.

**Свя'тка** м. Сведка. Тато мой ні разу святкам ні быў, сам ні хацеў, кажа: « Я нічого ні бачыў, нічого ні ведаю." Кавалічы.

**Святлі'чка** ж. Святліца. Прыйшоў айцец, прышла матка ды сталі пытаці, чым жа, дзетка, правініла, што сваю святлічку кроўю затапіла /з нар. песні/. Свіслач.

**Святы'** прым. Святы, які мае адносіны да святога. Святая Барбара ночы ўварвала /прымаўка/. Лаша. Святы вечар — вечары ад каляд да Новага года. У святыя вечары межно было тулькі новае шыць, старого ні можно было, лічыўсо грэх. Лугавая. Святы Еры — ралігійнае свята 23 красавіка ст. ст., Юр'я /устар/. Як прыходзіў Святы Еры, та кожны гаспадар раніцай абходзіў свае поле, закопваў свянцоныя косці і казаў: «Святы Еры, святы Божа, захавай ніўку ад града, захавай жывінку.» Лаша.

**Се** займ. Сябе. Саквастатар карову за валавод цягне да се, а Гандзя — да се, ні пускае, каб забраў. Кунцаўшчына.

**Се'венка** ж. Сявенка, сявалка, сяўня, посуд для ручной сяўбы. У севенцы былі такія вушкі, праз іх працягняш пояс, пачэпіш на шыю севенку, ідзеш сабе і сеяш. Плавы.

**Се'гчы** зак. Сесці. Сегла сабе і нічого ні робіць, дзе гэта хто бачыў. Гадуны. Стаміўсо, дзе тут кап сегчы каля вас. Лікоўка.

**Се'дало** н. 1. Шост або месца, дзе сядзяць куры. Ужэ позно, куры і тыя на седалі. Белыя Балоты. 2. Дэталь у калаўроце, на якой прымацаваныя ручкі са шпулькай. Як седало добро пастаўлено, та і прасць добро, шнур ні будзе спадаць. Бакуны.

**Сенава'не** н. Сенакос, касьба. Якраз на сенаване і пагода добра стаіць, бачыш, як сено сохне. Літвінкі.

**Сенава'ць** незак. Касіць, сушыць і ўбіраць сена. У гэтым року рано пачалі сенаваць, а сено ні высушылі, у нікаторых пагніло. Парэчча.

**Сенажа'ць** ж. Сенажаць, месца касьбы. У нас адна сенажаць была ў Рэчках, а другая — у Пеняках; што ў Рэчках — лепша. Табольская Будка.

**Се'нніца** ж. Памяшканне для захавання сена. Мы сено ў сенніцу клалі, а другія ў абарог, як хто хацеў. Цыдовічы.

**Серадо'льшы** прым. Сярэдні сын па ўзросту. Мой серадольшы ўжэ войско атслужыў, робіць трактарыстам. Гібулічы.

**Сербану'ць** зак. Мімаходам чаго-небудзь папіць, паесць. З раніцы як сербануў некаго крупніку, та за гэтай работай забыўсо і пра яду. Малая Жорнаўка. Сербануць пугай — моцна сцебануць, выцяць. Хацеў я яму сербануць пугай па пятах, але пашкадаваў хлопца. Жылічы.

**Сержп** м. Серп. Сержп тупы, кепско каваль назубіў, аніяк ні рэжа, руку наверадзіла. Адамавічы.

**Се'сці** зак. Сесці. Людзей набіласо, што сесці ні было дзе. Адамавічы. Як зайшоў я да суседа, сказалі мне сесці, паставілі бульбачку з мундзірамі есці /з нар. песні /. Рудавіцы. Сесці бэнкам — у значэнні: сесці і не ўстаць. Кап ты сеў бэнкам, кап ты! /праклён/. Грыўкі.

**Се'тка** ж. Сетка. Глядзі, мяч у сетку ўляцеў, і зноў гол нашым забілі, што яны сабе думаюць? Гродна.

**Се'ўка** ж. Сявенка, сявалка, сяўня, посуд для ручной сябы. Сеўку высяяў ячменю і ўсероўно ні хапіло, трэбо будзя дасяваць. Завадзічы.

**Се'ялка** ж. Сеялка. Сеялкі тулькі ў маёнтках былі, у гаспадароў ні было, уручную сеялі. Кукалі.

**Се'янка** ж. Аднагадовая цыбуля, вырашчаная з насення для пасадкі. У першы рок сеянка вырастае з гарошыну, на другі рок — як добра зямля — с кулак. Батароўка.

**Сё'місты** прым. Колер у кропінку; рабы'. Сёмістая курыца найбольш яец знясла, добра курыца. Свіслач.

**Сё'муха** ж. Рэлігійнае свята у сем нядзель пасля вялікадня /на пяцідзесяты дзень/. На Сёмуху фэст у Семярэнках быў, натто бойкі, людзей много было, сваіх бачыла. Сухая Даліна.

**Сё'рбало** н. Той, хто сёрбае пры ядзе. Эх ты, маленькі сёрбало, здаецца, насёрбаўсо даволі зацеркі і ашчэ хочаш. Балічы.

**Сё'рбаць** незак. Есці прагна і шумна, прыцмокваючы; хлябтаць. Як пачнеш сёрбаць, та на гуліцы чуваць, як ты сёрбаяш, і ні брытко табе? Лаша.

**Сібі'рны** прым. Вельмі халодны. Сібірны вецяр падуў, пранізвае да касцей, увесь ат холаду лекаціш. Карозічы.

**Сіву'ха** ж. Самагон слабога мацунку. Кідай гнаць, адна сівуха пашла, ні гарэлка, хто яе піць будзя. Табала.

**Сі'га** ж. Рачная рыба. Сіга падобна на шчупака, тулькі круглейша, ні такая тонкая. Загорцы.

**Сігану'ць** зак. Скочыць, скокнуць, пераскочыць. Я тут да яго, а ён як сігане прас плот; пашоў, як дым, тулькі яго і бачылі. Кашэўнікі.

**Сі'кам-брьі'кам** прысл. Не проста, не па прамой лініі. Але ж і зрабіў баразну, вывеў сікам-брыкам і ашчэ любуяцца. Лікоўка.

**Сі'каўка** ж. Самаробная помпа. Як малыя былі, та з белаго бэзу наробім сабе сікавак і сікаем, абліваемсо вадой. Кунцаўшчына.

**Сі'кша** ж. 1. Дзяўчынка, якая часта мочыцца. Сікша-моча, прадай клоча! — Нашто клоча? — Пугу віці. — Нашто пуга? — Сікшу біці /празыўка /. Дзекалавічы. 2. Перан.: дзяўчынка, якая часта плача. Сікша гэта, ей нігды ні світае, абы-што — так і зноў плача. Гарны.

**Сі'кша** ж. У значэнні: не зусім дарослая дзяўчына /зневаж./. Якая там з яе дзеўка, сікша ашчэ, малако на губах ні высахло. Гарны.

**Сіло'к** м. Сіло, паляўнічая прылада для лоўлі птушак і дробных звяроў. Учора за адрынай сілок паставіў, мо якое кураня ўлезя. Прыгодзічы.

**Сілье'** н. Тое, што і сілок. Міне тато навучыў, як рабіць сілье, ціпер кожну зіму стаўлю на курапят, нават зайца адзін раз ззымаў. Сухая Даліна.

**Сінаго'га** ж. Сінагога. У Індоры адна тулькі сінагога пасля вайны засталаса, усё немцы спалілі, паразбівалі. Пракопавічы.

**Сінё'ўка** ж. Спадніца сіняга колеру з самаробнай тканіны. Сінёўку складзеш нову і ідзеш сабе в дзяўчатамі да цэрквы. Бакуны.

**Сіняве'й** м. Сіняк звычайны, меданосная расліна сямейства бурачнікавых. Гэты рок натто ж добры быў узятак, найлепей бралі пчолы с сінявею, аш кішэў ад іх. Ласосна.

**Сіня'к** м. 1. Драўніна, якая мае сіні колер, пазбаўленая жывіцы. Гэта сіняк, ён нават на дрова ні гадзіцца, ні тулькі на што. Путрышкі. 2. Халодная, вільготная глеба. На сіняку, хоць сей, хоць ні сей, нічого ні вырасце. Малая Альшанка. 3. Сіняе месца на целе ад удару Як

рубаў, та палено і гвазданула па лобі, во, які сіняк наскочыў, халодным жалезам прыкладаю. Сцяцкі.

**Сі'пка** ж. Сіпата. Нека сіпка напала, гаварыць ні магу, тулькі шаптаць. Ферма.

**Сіплі'вы** прым. Сіпаты, сіплы. Ён ні прастыў, у яго сіплівы голас ат прыроды, як я тулькі стала яго знаць. Каўпакі. Гэта баба сіпліва і зноў прышла да яго, нешто яму кажа. Гродна.

**Сі'ры** мн. Дэталь на шпульцы калаўрота ў выглядзе металічных кручкоў, па якіх праходзіць нітка. Ні садзі, дзетка, рукі ў сіры, бо абдзярэш, балець будзя. Лойкі.

**Сі'тко** н. Пчалярская сетка. Добры пчаляр сітка ні надзявае, яго і так пчолы ні кусаюць. Ласосна.

**Сі'тнік** м. Сітняк /балотная расліна /. Як коні пасвілі, та сабе нарвеш ў лузі сітніку і бізунэ пляцеш у тры столкі або ў чатэры. Лікоўка.

**Сі'то** н. Сіта. Нашто бабі рашато, нашто дзеду сіто/з народных прыпевак/. Лаша. Я спярша кісель працэджваю на сіто, а тады ўжэ вару. Палаткова.

**Сі'цячко** н. Мноства дробных зорачак у сузор'і Цяльца пад назвай Плеяды. Во, як Сіцячко высоко падышло, зараз поўнач, пятухе заспяваюць. Бакуны.

**Ска'ба** ж. Рабро, рабрына. Кабыла твая зусім схудла, адны скабы стырчаць. Гожа. Конь як даў задам, так яму дзве скабы і выбіў, таму і здаровя ні мае. Пракопавічы.

**Скава'ць** незак. Нацкоўваць, падбухторваць. Кінь скаваць свіней сабакамі, і так вушы ўсе паапкусвалі. Агароднікі.

**Скавыта'ць** незак. Голасна плакаць. Кінь ты скавытаць, убівацца, усероўно з магілы ні падымяш. Багушоўка. Ты чо гэта скавычаш, думаеш, пакінуў? Нікуды ні дзенецца, вернецца. Лаша.

**Скака'ць** незак. 1. Скакаць. Сонейка, енейка, выйдзі ў ваконца, твае дзеткі плачуць, па камушыках скачуць /з дзіцяч. фальклору/. Забагонікі. 2. Танцаваць. Як пойдуць хлопцы некалі скакаць галёпа, та аж зямля стогне. Коматава.

**Скаку'н** м. Веруючы яўрэй, які не брыў барады, вусоў, насіў доўгія валасы. Скакунэ і ў Індоры былі, я сам бачыў. Караневічы.

**Скаламу'чаны** дзеепрым. Ускаламучаны, мутны /пра ваду/. Пасля дажджу, глядзі, вада зусім скаламучана ў рэчцы, німа як піць. Сухая Даліна.

**Скале'чыцца** зак. Параніцца. Вайна яго скалечыла, а ціпер толькі мэнчыцца, ні жыве. Астравок.

**Ска'ліць** незак. Скаліць, шчэрыць / пра зубы/. Ты чаго гэта пачаў скаліць зубы, мусі, клепкі ў галаве адной ні дастае. Зарыца. Ні падрачвай сабакі, бачыш, як скаліць зубы, укусіць можа. Крыўляны.

**Ска'лка** ж. Кропля тлушчу на паверхні рэдкай стравы. Відаць, мяса много кінула ў капусту, што столькі скалак, ні прадуць. Баброўня.

**Скалягава'цца** зак. Здружыцца, пасябраваць, стаць сябрамі. Скалягавацца — гэта, як мы з Зінай, адна да адной ходзім, бо скалягаваліса. Свіслач.

**Скана'ць** зак. Сканаць, памерці. У Юраўлянах адна ведзьма натто цяжко памірала, хацела, кап катора дачка дакрануласа, але ні адна і бліско ні падыходзіла, тады залезла пат печ і там сканала. Гродна.

**Скапава'ць** зак. Зразумець, уцяміць, сцяміць, скеміць. Я адразу ні мох скапаваць, у чым тут справа, але добрыя людзі патсказалі, як пэнсію вырабіць. Баброўнікі.

**Скапе'ц** м. Капец, куча агародніны, накрытая саломай і прысыпаная зямлёй. У Лашы кожны Габец мае свой скапец, у які сыпле бульбу. Лаша.

**Скапы'ціцца** зак. Скапыціцца, спатыкнуцца. Конь на чатырох нагах і то скапыціцца, а чалавек — на дзьвух /прымаўка/. Бакуны.

**Скарадзі'ць** незак. Баранаваць, скарадзіць. Трэбо загон скарадзіць, каб зямля ні ўсохла. Літвінкі.

**Скаралю'шча** ж. Шкарлупіна яйца. Куранята ўжэ даўно вышлі, тулькі скаралюшчы ў гняздзе засталіса. Грыўкі.

**Скарамі'нка** ж. Сала свіное. Мой ты галубок, мой харошанькі, дай бедная

цыганцы скарамінкі, та я табе на руку пагадаю, усю праўду скажу. Ласосна.

**Скараспе'йка** ж. Скораспелка, ранні гатунак бульбы. Скараспейка ў гэтым року добро ўрадзіла, будзя на зіму і на насене застанецца. Копанікі.

**Скара'ць** зак. Пакараць. Скарала міне маці, скарала, за п'яніцу замуж аддала /з нар. песні/. Пагараны.

**Скара'ч** м. Абрус, настольнік. У нас пасля вялікадня кожны гаспадар браў косці с свянцонаго, закручваў у скарач і нёс на свае поле закопваць. Круглікі.

**Скарбо'вы** прым. У значэнні: панскі, казённы /устар./. На скарбовым полі і мы некалі жыто сеялі на трэці сноп, два снапэ аддавалі пану, а трэці — сабе. Кавалічы. Гэта скарбовы чалавек, бо робіць на пана. Свіслач.

**Скарбо'нка** ж. Скарбонка. Як велька свято, та жабраке збіраліса пад цэркву па пяць-шэсць, пасярэдзіні ставілі скарбонку і людзі кідалі ў яе грошы, хто сколькі мог. Лаша. Грошы ў касцелі кідалі ў скарбонку, закрыстыян іх пасля даставаў, лічыў. Квасоўка.

**Скармі'ць** зак. Выгадаваць, узгадаваць, вырасціць. Ні тая ліса, што радзіла, а тая, што скарміла / прыказка/. Кульбакі.

**Скаро'мны** прым. Засквараны салам, тлусты. У пост скаромнага нават малыя дзеці ні елі, казалі: грэх есці. Лаша.

**Скарцава'ць** зак. Адолець, асіліць, кінуць; скруціць, зламаўшы. Як схапіў яго, так і скарцаваў, той ні ўспеў аказацца. Карозічы. Мяшок быў вельмі цяшкі, адзін аніяк ні мог яго скарцаваць на вос. Кунцаўшчына. Гэта ш такая харошая ліпка расла, а ён, халернік, яе скарцаваў за нішто. Азёры.

**Скарыста'ць** зак. Выкарыстаць, скарыстаць. Графіня Ваганоўская ні магла скарыстаць з наслетства па Раманоўскіх, так у нішчаце і памярла. Зарубічы.

**Скаці'на** мн. Скаціна, жывёла. Поўны хлеў скаціны, а карміць ні маю чым. Пагараны.

**Скразня'к** м. Скразняк. Зачыні ў хаці дзверы, а то скразняк некі, галаву скруціць можа. Кукалі.

**Сквара'да** ж. Патэльня, скварада. Як дзе называлі, а ў нас — скварада, ні патэльня, ніхто патэльняй ні называў. Ліхачы.

**Сква'рыць** незак. Скварыць /пра сала/. Німа чаго скварыць, сланіна вышла, а паршук ашчэ ні гатовы, німа як калоць. Гібулічы.

**Скварэ'чня** ж. Шпакоўня. Ні ведаю, чамусьці шпаке пакінулі скварэчню, можа дзірава дзе стала. Гібулічы.

**Скі'ба** ж. 1. Скіба, луста. Адрэзаў скібу хлеба і есць усухамятку, ты што, ні можаш прыждаць вячэры? Грыўкі. 2. Пласт узаранай глебы. Як у чарназёмі гарэш, та зямля скібамі с-пад плуга так і адвальваецца, чорная такая. Казловічы.

**Скі'віцы** мн. Сківіцы. Была ў нас адна дзеўка; як пазяхнула, так сківіцы і саскочылі. Павязлі да дохтара, а той пагглядзеў дый як стукня па сківіцах, так і сталі на свае месца. Клачкі.

**Скі'нуць** зак. 1. Зваліць. Мы з бацькам удвох ледво гэту штуку дзерава з воза скінулі, чысто замэнчыліса. Бычкі. 2. У значэнні: заўчасна радзіць пра /жывёлу/. І зноў у нас нішчасце: кабыла жарабя скінула, мусі хто моцно дзе ўдэрыў. Арэхавічы.

**Скі'пер** м. Той, хто кіруе баржай. Я сам да той вайны баржы ганяў, скіперам быў. Ласосна.

**Склад** м. 1. Склад, памяшканне для чаго-небудзь. Там у Ласосні некі ваенны склад быў, немцы ахранялі. Чэхаўшчына. 2. Стройнасць думкі; лагічная сувязь. Ні да складу, ні да ладу — пацалуй кабылу ззаду /груб., выслоўе /. Кунцаўшчына. Каб хоць які склад у тым быў, што ён пляце. Чашчаўляны. 3. Першыя дзве баразны пасярэдзіне загона. Як бонкі нападуць, та роўно склад ні складзеш, коней ні ўтрымаяш, круцяцца, кідаюцца. Лаша.

**Склада'ць** незак. Класці, укладваць. Нешто пачало хмурыцца, давайце жывей сено складаць у капке, каб ні памокло. Занявічы.

**Скла'сці** з ак. Адзець, надзець /пра вопратку/. Трэбо скласці чысту ка-

шулю, гэта ж заўтро свято, пакровы. Дарашэвічы.

**Склеп** м. Склеп, яма з крытым цагляным верхам. У гэтым року бульба добро урадзіла, поўны склеп насыпалі, будзя і сабе, і свіням на зіму. Асташа.

**Склюд** м. 1. Склюд, цеслярская сякера. Недзе ў міне і ціпер той склюд валяецца, што с таткам шпалы цясалі. Парэчча. 2. У значэнні: худы. Свіня зусім выхудла, склюд некі, якое тут сало на ёй будзе. Дзекалавічы. Склюд гэты, ні хлопяц, яго і да войска ні возьмуць. Дарашэвічы.

**Скляпе'не** н. Мураваная дугападобная столь. Паглядзі: як скляпене ў пячэ бела, та ўжэ можно хлеп садзіць. Капцёука. Тут скляпене такое, што і бомба ні брала, усю вайну людзі прахаваліса. Чарнуха.

**Скляпі'цца** зак. Пакрыцца тонкім лядком. Глядзі, вада на лужах ўжэ скляпіласа, мусі ўначэ мароз будзе? Віцькі.

**Скна'ра** м., ж. Скупы, прагны чалавек. Гэта скнара, вадэ чалавеку ні дасць напіцца, ні тулькі, каб даў што жабраку. Агароднікі.

**Ско'бля** ж. Скобля, сталярны інструмент. Вось гэтай скобляй пакойны тато даўбяніцу выстругваў зверху і ў сярэдзіні, каб роўнай была. Казіміроўка.

**Ско'ма** ж. Аскома. Непрыемнае адчуванне ў роце. Гэтыя яблыкі зялёныя, нісмашныя, імі тулькі скому наб'еш. Зарубічы.

**Ско'мкаць** зак. Змяць, скамячыць. Ён та думаў нешто даць, вынуў дзісятку, патрымаў, а потым, бачу, скомкаў, скомкаў і назад у кішэнь палажыў. Струбка.

**Ско'рам** м. Тлушч, сала. Скорам вышаў, і паршука німа як калоць, хоць бы пахаладало трохі. Азёры.

**Ско'рчыцца** зак. Скурчыцца, згарнуцца. На холадзі каровы скорчыліса, стаяць, нават руні ні хочуць есці. Белева.

**Ско'сак** м. Каса з вузкім скошаным лязом. Да гэтаго скоска і новая каса ні дараўняецца, ён, як брытва, траву аж ліжа, косіць. Саломенка.

**Ско'ўзко** прысл. Слізка, коўзка. На дварэ скоўско, нікованым канём у дарогу ні выязджай, нідзе ні даедзяш. Малая Жорнаўка.

**Скраба'ць** незак. Скрабці. Як у войску быў, та і я навучыўсо бульбу скрабаць, а так ні ўмеў. Зарубічы.

**Скрабчы'ся** незак. Часацца, чухацца. Конь мой нечаму стаў скрабчыса, каб якой хваробы ні набраўсо. Цвіклічы.

**Скронь** ж. Скронь. Гэта ж малады чалавек, а за рок, паглядзі, як скроні пасівелі, хіба якую беду перажыў. Грыўкі.

**Скру'жваць** незак. Ачышчаць зерне ад паловы пры дапамозе рэшата. Насыпляш пшаніцы ў рэшато і давай скружваць, зверху збіраць ашаке, пасляд усялякі. Лікоўка.

**Скру'так** м. Звязаны пучок, звязак. За вечар, бывало, скруткаў шэсць лёну начэшаш, а часамі і больш, як добрыя шчоткі. Агароднікі.

**Скруці'цца** зак. Упасці мёртвым. Паліцман як стрэліў с карабіна, так мой сабака і скруціўсо пад ногі. Баброўня.

**Скруці'ць** зак. Скруціць. Скруціць добру пугу — таксамо трэбо мець знароўку, я ўсе нашаго пастуха прасіў, каб скруціў. Кузьмічы. Скруціць голаў — Перан.: загінуць /груб./. Лез усюды, дзе трэбо, дзе ні трэбо, пакуль голаў ні скруціў. Баліненты.

**Скрыге'ль** м. Скрыль; адрэзаны плоскі кавалак. Хто такімі скрыглямі каўбасу рэжа, тоненькімі трэбо, та больш будзе. Свіслач.

**Скрыгіта'ць** незак. Скрыгатаць, скрыпець. Свіня мусі захварэла, скрыгітаць стала зубамі, ні ўстае есці. Рацічы.

**Скрыжава'не** н. Скрыжаванне; месца, у якім перасякаюцца дзве дарогі. Мой дзед нам казаў, што на скрыжавані дарог блуд вадзіў, а як распаліць касцёр, та ведзьма на агонь прыдзе. Сухая Даліна.

**Скрып** м. Хвошч. Скрып у мокрых месцах расце, у нас каля сажалак рос, але яго жывіна ні хоча есці. Кунцаўшчына. Тут добрай травы німа, адзін скрып расце. Сухая Даліна.

**Скрыпа'ч** м. Цвыркун; тое, што

і сяршчок. Скрыпач цяпло любіць; як залезя пад печ, та пілуе і пілуе на сваю скрыпку, выігрывае, грае. Ласосна.

**Скрыпу'н** м. Пустазелле. Маці як пойдзя ў гарод, так і прывалачэ прыпол скрыпуну, кіня свіням, та тыя аж давяцца, ядзяць. Свіслач.

**Скрэнт** м. Дэталь ў выглядзе бруска ў пярэдняй частцы воза. Гэты скрэнт я сам зрабіў з бярозы, каб ручкі добро трымаліса, такого і стэльмах ні зрабіў бы. Рагачы.

**Скуго'ліць** незак. Скуголіць, выць, завываць, скавытаць. Шчаня адно ні хоча быць, як толькі пойдзям, та скуголіць і скуголіць, аж нідобро слухаць. Пагараны.

**Скудлава'ць** зак. Замучыць, стаміць, тармосячы; затармасіць. Жучок як напаў на кацяня, так і скудлаваў; каб ні адабраў, та загрыз бы беднае. Зарыца.

**Ску'ла** ж. Фурункул. На шыі як села скула, та галавы ні магу павярнуць, так баліць. Загорцы. Скула, ліха на яе, села на такім месцы, што ні самому паглядзець, ні людзям паказаць. Дарашэвічы.

**Скуль** прысл. Адкуль. Скуль ідзеця, чалавеча, мусі здалёк, бачу? Вішнявец.

**Скуля'чка** ж. Тое, што і скула /памянш./. Нека скулячка выскачыла на шчацэ, і сам ні ведаю ад чаго. Літвінкі.

**Скумя'чыць** зак. Скамячыць. Чысто хусцінку скумячыла, німа як на голаў завязаць. Гібулічы. Плаце было, та ўзяў скумячыў, скумячыў і ціпер, як нымыта ўсероўно, трэбо ізноў гладзіць. Вялікая Альшанка.

**Скундзё'біцца** зак. Сагнуцца, панікнуць, сціснуцца. Чаго ўжэ так скундзёбіўсо, бярыса за работу — цяплей будзя. Лікоўка.

**Скупяндзя'** м., ж. Пра скупога чалавека; скупярдзяй, скупянда /лаянк./. Скупяндзя гэты, ён усё забраў бы, усё згроб бы пат сібе. Скамарошкі.

**Ску'так** м. Паразуменне, згода, аднадушнасць. Трэбо, каб яны да якогонібудзь скутку прышлі, дакуль будуць судзіцца. Квасоўка.

**Слаба'к** м. Слабасільны, нядужы /неадабр./. Слабак, з воза мяшка ні здымя, у людзей просіць, каб знялі. Літвінкі.

**Слабізна'** ж. Слабасільны, нядужы. Слабізна конь зусім, дабіты, хто яго купляць будзя? Каленікі.

**Сла'бко** прысл. Свабодна, нямоцна /завязаць/. Слапко ў мяшку завяска завязана, глядзі, каб бульба ні высыпаласа едучы дарогай. Дзекалавічы.

**Слабо'да** ж. Свабода. Мы самы сабе слабоду заваявалі, ніхто нам яе ні дараваў. Вялікая Жорнаўка.

**Слабы'** прым. Слабасільны, нядужы, цяжка хворы. Дзед наш зусім слабы, ні ведаю, ці дажыве да вясны. Багушоўка.

**Слаі'сты** прым. Слаісты, напластаваны. Слаісты камень вельмі добро колецца, як дасі плітоўнікам, та, як нажом, адрэжаш. Зарубічы. Тут слаіста зямля, пат сподам гліна. Караневічы.

**Слямя'нка** ж. Кораб; пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы. У нас і ціпер стаіць сламянка, што некалі жыто сыпалі, пудоў дваццаць, а мо і больш улазіло. Сапоцкін.

**Слані'на** ж. Свіное сала, саланіна. Лані ў Паўла паршук натта ж быў удачны, сланіна на пядзю, такая тоўстая была. Свіслач.

**Сланэ'чнік** м. Сланечнік. Гэта ж нехто ў гародзі цалу галоўку сланэчніку скруціў, і ніхто ні бачыў. Кунцаўшчына.

**Сле'дзеўка** ж. Сорт бульбы белага колеру, прадаўгаватай формы. Да той вайны ў нас следзеўку ўсе садзілі, смашна была бульба. Яскевічы.

**Следзь** м. Селядзец. Хто тыя следзі калі купляў, дарагія былі, тулькі на вігілю бралі, як пост быў. Парэчча.

**Сле'дзя** ж. Тое, што і следзеўка. Следзя велька расла, але много дуплявай было. Верцялішкі.

**Слепакі'** мн., м. Авадні. Слепаке як нападуць на каровы, та ўжэ іх ні ўтрымаяш, хвастэ пазадзіраюць і ў кустэ або ў рэчку. Верцялішкі.

**Слепандзя'** м., ж. Пра таго, хто кепска бачыць /зневаж./. Слепандзя ты, ніткі ў голку ні можаш зацягнуць. Баранавічы.

**Слепата'** ж. Слепата, слабасць зроку;

блізарукасць. Пат старасць нека слепата на чалавека нападзе, хоць ты памры, нічого ні бачыш. Баля Сольная.

**Слё'сар** м. Слесар. Мой прадзед у пана Галяра слёсарам быў, таму нас і ціпер называюць Слёсаравымі. Сухая Даліна.

**Сліж** м. Уюн, рыба сям'і ўюновых. Як малыя былі, та гэтых сліжоў ў рэчцы рукамі лавілі, столькі іх было. Кунцаўшчына.

**Слізгаві'ца** ж. Слізкасць, коўзкасць, галалёдзіца. На дварэ такая слізгавіца, хоць с хаты ні выходзь, куды там ў дарогу ехаць. Валавічоўцы.

**Слізго'та** ж. Тое, што і слізгавіца. Такая слізгота, на нагах ні ўстаяць, так і падаеш. Барбарычы.

**Слі'зікі** мн., м. Кавалачкі пшанічнага цеста, адвараныя ў вадзе і залітыя салодкім макам. На куцю найляпей я любіў есці слізікі, яны такія халодныя і салоткія былі. Каўпакі. Наварыць на куцю маці слізікаў, і мы так з верцяхі і ямо. Забагонікі.

**Слі'зко** прысл. Слізка, коўзка. На гуліцы дзісь сліско, людзі падаюць, нека галалёдзіца. Вусенікі.

**Сліма'к** м. Слімак, смоўж, слізняк. Слімак, слімак, выстаў рогі, дам тры грошы на пірогі /дзіцяч. словагаворка/. Кунцаўшчына.

**Сло'ік** м. Шкляная банка. Хвароба на яго, слоік з грушамі ззарваўсо, мусі замало цукру дала. Сухары.

**Слон** м. Услон, вялікая лаўка. Слон дзе паставіш, там і сядзяш, хочаш каля стала, а хочаш і каля печы. Дарашэвічы.

**Сло'нко** н. Сонейка /ласк./ Слонко заходзіць, а духата нека, ні вытрымаць, парыць. Жылічы.

**Сло'нца** н. Сонца. У адным баку слонца ўсходзіць, а ў другім заходзіць, а жанаты да дзяўчыны што-вечара ходзіць /з нар. песні/. Свіслач. Ляпей бачыць на грамніцы ваўка ў аборы, чым слонца ў каморы /прымаўка /. Чарнуха. Слонца іграе — пераліваецца рознымі колерамі /з нар. павер'яў/. На Юр'я, як коні пасвілі, та ўсе ўзіраліса, як слонца ўсходзіць, казалі: "Глядзеце, як слонца іграе». Кунцаўшчына. На Юр'я слонца скача, пераліваецца, ігрbusy. Лаша. Слонца падае — сонца заходзіць. Глядзі, слонца падае, пара каровы дахаты гнаць. Забагонікі. Слонца скача — пераліваецца рознымі колерамі /нар. — паэт. выраз./. Усе казалі, што на Пятра слонца скача, та я залез на хату, дзве гадзіны сядзеў і нічого ні ўбачыў. Копанікі.

**Сло'нчык** м. Услончык, зэдлік. Добры слончык зрабіў, а то ні было на чом сядзець, як бульбу скрабеш. Кавалічы.

**Сло'та** ж. Слота, мокрае надвор'е. Куды ты ў такую слоту ўздумаў ісці, ляпей у хаці пасядзі. Рацічы.

**Службо'вая** ж. субст. прым. Чарка, ёмістасцю у 100 г /устар./. Пойдзем, хоць па якой службовай вып'ямо, цяплей будзе. Ласосна.

**Слуха'ўкі** мн., м. Навушнікі. Некалі радзіва такого ні было, як ціпер, тулькі на слухаўкі слухалі. Вішнявец.

**Слу'хацца** незак. Слухацца, быць паслухмяным. Каб ён міне слухаўса, та чалавекам стаў бы, а так прапаў ні за што. Канчатка.

**Слюня'к** м. Нерашучы, слабавольны чалавек; слімак, размазня, разявака /пагард./. Каб я з гэтым слюняком спаткаўса п, та ад яго мокра месца засталоса п. Сіўкава.

**Слядзе'ўка** ж. Сорт бульбы белага колеру, прадаўгаватай формы. Слядзеўка файна бульба была, добро варыласа, рассыпчыста такая. Рацічы.

**Сля'каць** ж. Слота; мокрае надвор'е. Надаела гэта слякаць, каб жывей які мароз прышоў, весялей было б. Лэйгабалі.

**Сляпа'к** м. Той, хто добра не бачыць / зневаж./ Што ты паказваеш гэтаму слепаку, ён усероўно нічого ні ўбачыць. Лаша.

**Сляпа'к** м. Сляпень бычыны, крывасмок. Сляпак на коней нападае, на кароў, нават і на людзей нападае. Табольская Будка.

**Сляпе'ц** м. Сляпень; тое, што і слепень, сляпень. Сляпец на каровы нападае, страшэнна тне іх. Прыгодзічы.

**Сляпі'цаю** прысл. Неадчэпна, напорыста, настырліва. Машкара сляпіцаю ў гочы лезя, жыць ні дае. Свіслач.

**Сляпні'** мн., м. Сляпні. Сляпні як напалі на коні, та ні даў рады ўгараць, кінуў і жывей дахаты. Баброўнікі.

**Сляпня'к** м. Сляпень. Сляпняк. Ён ні велькі, але як ўпячэ, та як агнём апаліць. Забагонікі.

**Сма'га** ж. Смага. Смага нека напала, вады выпіў і ашчэ хочацца, здаецца, і нічого салёнаго ні еў. Кашэўнікі.

**Сма'жаны** дзеепрым. Смажаны. Я смажана мясо ні люблю, яно, кажуць, шкодзіць. Лаша. Рано смажанай бульбы і якое яйцэ з'ясі і аж да самаго палудня есці ні хочацца. Старая Дубавая.

**Сма'жыць** незак. Смажыць, пячы. Гэту каўбасу можно смажыць і так можно, сырую, есці. Каўпакі.

**Смакава'ць** незак. Каштаваць, прабаваць. Яму нічого ні смакуе, што ні дай — усе нідобро, ні будзя есці. Рудавіцы.

**Смакату'лі** мн. Прысмакі, ласункі. Во, нешто ў вас пахне, некія смакатулі варылі. Табольская Будка.

**Сма'кі** мн. Прысмакі. Пясцюк, стравы ні хоча есці, на адных смаках прывык жыць, сама ні ведаю, што яму даваць. Вусенікі.

**Смакту'н** м. Халодная неўрадлівая глеба. На смактун ці ты кідай гной, ці ні кідай, нічого ні вырасце, усё ўсмокча. Сабаляны.

**Смакту'нь** м. Тое, што і смактун. Пад лесам там адзін смактунь быў, нават гавёс і той ні рос. Зарубічы.

**Смалі'цай** прысл. У значэнні: неадчэпна, напорыста, настойліва, упарта. Камарэ, хвароба на іх, смаліцай усюды лезуць, пякуць, рады ад іх няма. Карозічы.

**Смалі'ць** зак. 1. Пячы, паліць. Слонца так смаліло, што ні дыхнуць, кап хоць якая хмарка надышла. Польныя Багатыры. 2. Шпарка ісці. Я тут закінуў касу на плечы і смалю за рэчку касіці, а зноў, бачу, паліцман ідзе с карабінам. Баброўня.

**Смальня'к** м. Смольны кавалак драўніны. Набраў смальнякоў, добро будзя на распал у печцы. Жылічы.

**Смаляні'на** ж. Гар, пах гарэлага. Недзя паршука мусі смаляць, смалянінай нясе. Ферма.

**Смаля'рня** ж. Смалакурня. Я ўжэ больш трыццаці рок у Рыбніцкай смалярні гонщчыкам раблю. Рыбніца.

**Смаргу'ля** ж. Пра таго, хто часта смаркаецца /неадабр./. Смаргуля ты мая, хадзі, я табе носік вытру, а то засмэрганы. Кунцаўшчына.

**Смарка'ч** м. Перан.: недаростак, непаўналетні /груб./. Там велькія хлопцы, а ты ашчэ смаркач, дзе табе на гуляне ісці. Дубоўка.

**Смаркачэ'** мн. Смаркачы; соплі. Фэ, брытко, такі велькі хлопяц, а смаркачэ пад носам. Балічы.

**Смарчо'к** м. Смаржок, грыб. На весну ў лесе смарчкоў много, але іх ніхто ні збірае, ні ведаюць, што іх можно есці. Каробчыцы.

**Смаршчо'к** м. Тое, што і смарчок. Мама наша смаршчкоў ні брала, казала, што воўчыя. Свіслач.

**Сме'тнік** м. Сметнік, звалка. Выкінь гэтыя свае прычындалы на сметнік, каб я тут іх ні бачыў. Сабаляны.

**Смі'льдзі** мн. Попел са спаленай саломы. Спаліш, бывало, сноп саломы, та тых смільдзяў поўна печ, німа куды падзець. Дэкалавічы.

**Смуга'** ж. Смуга, дымка. Нека смуга пацягнуласа над рэчкай, нічого ні відаць. Балічы.

**Смуро'д** м. Смурод /пра пах/. Мусі падаль дзе закопана-смурод аднекуль ідзе. Баркі.

**Смуро'ды** мн. Перан.: малыя дзеці / жарт./. Вон адгэтуль, смуроды, ні вам слухаць, што старэйшыя гаворацць. Кавалічы.

**Смы'знік** м. Хмызняк; кусты. Тут быў такі густы смызнік, што ніхто ні мог праз яго прабрацца, хібо тулькі ваўке адны. Зарубічы.

**Смык** м. 1. Дэталь у прымітыўным такарным станку у выглядзе гнуткай дужкі. Смык найлепшы з ляшчыны, ён такі пруткі, добро нацягвае шнур. Круглікі.

2. Прылада для лоўлі бадзяжных сабак у выглядзе доўгай палкі, рухомага кальца і шнура. На рынку, як пакажацца гуццаль са смыком, та сабакі ні ведалі, куды дзецца, пад ногі лезлі. Гібулічы.

**Смэ'ргель** м. Недаростак, непаўналетні; малы хлопчык /груб./. А гэта чый тут смергель круціцна пад рукамі, забярэце яго, каб ні мяшаў. Бычкі.

**Смэ'ргля** ж. 1. Дзяўчынка, якая часта смаркаецца /неадабр./ Ідзі сюды, смэргля малая, трошкі табе лічыко памыю, а то замурзаласа зусім. Рагачы. 2. Перан.: малая дзяўчынка, недаростак /груб./. Дзе гэтай смэрглі цялятніцай рабіць, хто яе прыме? Панямунь.

**Смярдзю'х** м. Перан.: баязлівец /зневаж./. Гэты смярдзюх пры немцах с хаты баяўсо вылезьці, ні тулько куды ісці. Рагачы.

**Смяце'** н. Смецце. Ты чаму гэта смяцяʼ ні выкінеш, так і ляжыць каля печы? Лаша.

**Смяцю'х** м. Парода жаваранкаў, якая не адлятае ў вырай. Кажуць, смяцюхе жывуць ў лесі, гэта яны толькі зімою круцяцца каля хатаў, на сметніках. Кунцаўшчына.

**Снава'ць** незак. 1. Снаваць, рабіць аснову тканіны. На круцяʼчу снойніцу ляпей кужаль снаваць, ні трэбо хадзіць. Хамякі. 2. Сноўдацца, хадзіць без патрэбы. За работу ні бярэцца, тулькі прывык снаваць па хатах, абы час правесці, і снуе. Дарашэвічы.

**Снасць** ж. Снасць, прылады, інструменты. У бацькі добра снасць была рыбу лавіць, ні ў каго такой ні было. Літвінкі.

**Сне'даць** незак. Снедаць. Пакуль снедаць, та мы наробімса, с паўкапы жыта абмалоцім. Жытаўшчызна. Мужчынкі, кідайце малаціць, ідзеце снедаць. Жукевічы.

**Сні'тка** ж. Невялікая луста, скібка. Дачка добра мая, адрэжа снітку хлеба, кавалачак каўбасы і кажа: «Тату, перакусеце сабе, пакуль вячэра тая зварыцца.» Скамарошкі. Вазьмі снітку хлеба і дай дзіцяці, хай ні плача. Калбасіна.

**Сно'йніца** ж. Сноўніца, снавалка; прылада для снавання асновы тканіны. Снойніцы былі ўсялякія: вярчальныя і хадзячыя, у нас ніякай ні было, хадзілі снаваць у каго была. Свіслач.

**Сно'ўдацца** незак. Сноўдацца, сланяцца. Годзі табе сноўдацца, ішоў бы ды што рабіў каля хаты. Дзекалавічы.

**Сно'ўніца** ж. Аснова, знятая са сноўніцы. Сноўніцу зняла, можно будзя навіваць на кросна, здаецца, нікепско аснавала. Копанікі.

**Сну'йка** ж. Тое, што і снойніца. Татко наш сам зрабіў снуйку, ні ў каго такой ні было, як у нас. Рацічы.

**Сняго'ўцы** мн., м. Жаночыя гумовыя чаравікі. Ціпер снягоўцы з моды вышлі, ніхто ў іх ні ходзіць, а ўсе ў боціках ходзяць. Гібулічы.

**Сняка'ць** незак. Смаркаць. Требо, дзетка, мацнеў снякаць, каб выснякаць з носа, тады сапсці лягчэй будзя. Агароднікі.

**Со'йка** ж. Песня, якую спявалі валачобнікі хлопцам у велікодныя дні. Як заспяваюць валаконнікі сойку, так і давай ім штук пяць — шэсць яец і пірага. Забагонікі. У нас хлопцам на вельканец сойку спявалі, а як пачыналаса, добро ні помню. Талочкі.

**Со'кар** м. Ясакар, чорная тапола. Тато казаў, што за сялом сакарэ раслі, а ціпер іх і следу німа, альшына парасла. Свіслач.

**Со'лад** м. Брадзільны прадукт з прарошчанага і змолатага зерня для прыгатавання піва. Даўней піва ніхто ні купляў, рабілі солад, і кожны на свято сам сабе варыў. Дзекалавічы.

**Со'леніца** ж. Адвараная ў салёнай вадзе бульба. У пост маці зварыць солeніцы і мы с квасам елі, алею нават ні было. Прывалкі.

**Со'ленка** ж. Тое, што і соленіца. Соленкі на вячэру адварэце, з волякам будзем есці. Цыдовічы.

**Со'лтыс** м. Сельскі стараста /устар./. Солтыс велькім начальнікам быў: як закажа на сход — усе павінны былі ісці. Квасоўка.

**Со'мец** м. Браднік, брэдзень; сетка для лоўлі рыбы на мелкаводным месцы.

У міне добры сомец быў, але та той, та другі возьме — гэдак і парвалі. Стрыеўка.

**Со'пуха** ж. Сажа. У курных хатах цёмно было, бо сцены і столь сопухай пакрыты, яна аж блішчэла. Навасёлкі.

**Со'рак** му'чанікаў мн. Рэлігійнае свята /дні/ з 9-га сакавіка па 19-га красавіка па ст.ст. ў гонар святых, якія перанеслі цяжкія мукі за веру. Як на першы дзень сарака мучанікаў халадно, та сорак дзён такіх будзя /нар. прыкмета/. Ферма.

**Со'тка** ж. 1. Старая мера гарэлкі, ёмістасцю 0,25л. Добро было некалі: гарэлку прадавалі соткамі, ні тое, что ціпер — літрамі і паўлітрамі. Клачкі. 2. Мера зямельнай плошчы, роўная 100 кв.м. Мы ашчэ сваіх сотак ні садзілі, коней ні можам дастаць. Палаткова.

**Со'ты** мн. Соты; ячэі ў пчаліных сотах. Як старыя соты, та з іх зусім малыя пчолы выходзяць, нідужыя, мёду ні могуць нават сабе нанасіць. Капцёўка.

**Со'ўгацца** незак. Хадзіць без мэты, туды-сюды, совацца. Што ты соўгаешса, як чаўнык, то з хаты, та ў хату, зараз і хата прастыне. Лікоўка.

**Сош** м. Шаша, шасэ. Каля вёскі быў стары сош, які ішоў на Сапоцкінь, ціпер пастроілі новы, шырайшы. Рацічы.

**Спавіва'ч** м. Спецыяльны пояс, якім спавівалі малое дзіця. Наша мама ніякіх спавівачаў ні ткала, а шыла такі пояс і ім спавівала. Свіслач.

**Спавяда'ць** незак. 1. Спавядаць; спраўляць абрад споведзі. Казалі, што і ў нідзелю бацюшка будзя спавядаць, хай старая ідзе, як хоча. Лікоўка. 2. Перан.: прабіраць, адчытваць, чытаць мараль. Як пачаў спавядаць яе, та мо с паўгадзіны спавядаў, аж надаело слухаць. Малышчына.

**Спада'к** м. Дэталь у возе, шырокая дошка, кузаў або платформа. Як снапэ возіш, та ў драбіны закладзеш спадак, каб збожа ні сыпаласо з воза. Балічы.

**Спа'дацца** зак. Схуднець, пахудзець, змарнець. Ясі много, мусі баішса, каб ні спадацца. Грыўкі.

**Спа'дкі** мн. Спадчына. Кажуць, што Шурык па дзядзьку спаткі велькія атрымаў, усё на яго запісаў. Круглікі.

**Спадло'бя** прысл. Спадылба. Я нігды ні бачыў, каб ён на каго ласкаво глянуў, а ўсе, як той воўк, спадлобя. Путрышкі.

**Спадні'ца** ж. Спадніца. Спа'даласа зусім, спадніца на клубах ні трымаецца, спадае. Саломенка. Спадніцу пашыла сабе ў чатэры брэты, файно будзя дзе пайсці. Эйсманты. Спадніца- фальбаванка — спадніца, пашытая ў складкі. У міне самой была спадніца-фальбаванка, баялаcа на лаву сесці, каб ні згомтаць. Палаткова.

**Спакваля'** прысл. Паволі, павольна, паступова, памалу. Спакваля хвароба да яго падбіралаcа, а ціпер і надобро прыстала, ляжыць. Баброўня.

**Спаку'са** ж. Спакуса, спакушэнне. Спакуса на яго напала, аш цягнуло, каб ехаць туды, вось гэдак сабе беду і знашоў. Карозічы.

**Спалюбі'ць** зак. Палюбіць, пакахаць. Ні я яго спалюбіла, спалюбіла маці, заставіла сваю дочку навек гараваці /з нар. песні/. Свіслач.

**Спана'длівы** прым. Спакуслівы, прывабны. Дзеўка спанадліва, яе і бес пасагу кожны возьмя, што і казаць. Абухава.

**Спана'трыць** зак. Прызвычаіцца, прывыкнуць, узяць звычку. Спанатрыло дзіця рано ўставаць і рады німа, ашчэ ўсе спяць, а яно ўжэ крычыць. Хамякі.

**Спаро'цца** зак. 1. У значэнні: рана ўстаць. Наш стары спорацца с пасцелі і ходзіць па хаці, усё нешто шукае. Рудавіцы. 2. Падняць з пасцелі. Ледво сваго спарола, аніяк ні хацеў уставаць, кажа: "Дай ашчэ трошкі паляжу." Навасёлкі.

**Спарыжава'ны** дзеепр. Паралізаваны, разбіты паралічам. Ён спарыжаваны ляжыць, ні вядома, ці паправіцца, дахтарэ ні ўручаюцца. Бычкі.

**Спарыжава'ць** зак. Паралізаваць. Яму цяшкай работы ні даюць, бо можа спарыжаваць другі раз, даўлене мае. Ласосна.

**Спары'ш** м. 1. Спарыш; прадмет, які складаецца з дзвюх аднолькавых ча-

стак. Кажуць, хто спарыш знойдзя, та гэта ўжэ велька шчасце, а я, во, знашоў гурок-спарыш. Агароднікі. 2. Здвоены збанок з адным вушкам. Калісьці добро было, возьмяш спарыш у поле, у адым кісла, у другім — салотка малако. Адэльск.

**Спары'ш** м. Аднагадовая расліна сямейства драсёнавых. Во як дарошка ўслаласа спарышом, як па падушцы ідзеш. Дарашэвічы.

**Спас** м. Рэлігійнае свята ў праваслаўных 6-га жніўня па ст. ст. Прышоў Спас — лето ад нас /прымаўка/. Балічы. Спас, памілуй нас, будзем гавець табе дзве нідзелі ў гарачы час /прымаўка/. Рудавіцы. Спасу німа — няма ратунку; няма выхаду. Прычапіўсо хадзіць да нас, і спасу німа, ідзе і ідзе. Скамарошкі.

**Спа'саўка** ж. Двухтыднёвы пост перед рэлігійным святам Успенне Багародзіцы, якое святкавалі 15 жніўня па ст.ст. Спасаўка — ласаўка, пятроўка — галадоўка /прымаўка/. Лікоўка

**Спа'слівы** прым. Той, хто вельмі хутка папраўляецца пры добрым харчаванні. Мой натто спаслівы, каб яму даць добро есці, та за тыдзень ні пазнаў бы. Дзекалавічы.

**Спасо'ўка** ж. Сорт летняй грушы. Спасоўкі — файныя грушы, жоўценькія такія, ні вельмі велькія. Кунцаўшчына.

**Спа'сціса** зак. Схуднець, пахудзець. Мая баіцца спа'сціса, хоча ашчэ таўшчэйшай быць, а нашто гэта патрэбно? Балічы.

**Спатайка'** прысл. Нечакана, раптоўна, раптам, употай. Найгорш, як спатайка хто на цібе нападзе, калі ты нічого ні знаеш. Літвінкі.

**Спатрэ'біцца** зак. Спатрэбіцца. Вазьмі гэту жалязяку, можа на што ў гаспадарцы і спатрэбіцца. Зарачанка.

**Спаўня'цца** незак. Збывацца, здзяйсняцца, ажыцяўляцца. Ты мне ні верыў, а зноў стало спаўняцца так, як я казаў, па-мойму выходзіць. Старая Руда.

**Спахапі'цца** зак. Схамянуцца, абдумацца. Я быў спахапіўсо затрымаць яго, але ўжэ было позно, ні паспеў. Прыгодзічы.

**Спахну'цца** зак. Абдумацца. Пачаў быў пілаваць дзедавы ліпы, але спахнуўсо, шкада стало. Круглікі.

**Спа'цыр** м. Прагулка, праходка, пагулянка, шпацыр. Нашы маладыя кожны вечар ходзяць на спацыр, у хаці ні сядзяць. Кузьмічы.

**Спацырава'ць** незак. Прагульвацца, праходжвацца, шпацыраваць. Добро панам было спацыраваць, маючы маёнткі. Пагараны.

**Спа'цькі** незак. Спаць /у дачыненні да дзяцей/. Ты, Пецік, мусі спацькі хочаш, та ідзі, я табе пасцельку пасцялю. Капцёўка.

**Сперaза'ць** незак. Моцна ўдарыць. А я бег, а я бег ды ні аглядаўсо, сперазалі па мне кіям, аж я засміяўсо /з нар. песні/. Зялёная. Трэбо было добро сперазаць яму па гарбе, каб век помніў. Старая Дубавая.

**Спе'рці** зак. Украсці /лаянк./. Ён так і глядзіць, кап што-нібудзь сперці, такі і бацько яго быў. Саволеўка.

**Спе'рціса** зак. Устаць з пасцелі раней чым трэба. Ты чо гэта так рано спёрса, хібо куды паедзяш? Бычкі.

**Спе'шка** ж. Спешка, паспешнасць. Нашто нам такая спешка, мы і памалу ўсё свае пажнем. Кадыш.

**Спіна'р** м. Спінінг. Купіў сабе спінар, та нічого ні робіць, тулькі пойдзе на рэчку і сядзіць там. Дубаўка.

**Спіры'ць** зак. Моцна ўдарыць. Хацеў я яму спірыць тады, але пашкадаваў, падумаў: малады, дурны ашче. Лужкі.

**Спі'ца** ж. 1. Пруток для вязання. Некалі мужчыны з дроту спіцы рабілі, а ціпер гатовыя, якія хочаш купляй. Калбасіна. 2. Спіца ў коле. Добро было п, кап ты мне ў Гродні спіцы да ровара купіў. Чэхаўшчына.

**Спіца'к** м. Малаток для драблення камянёў на шчэбень. І ў міне быў спіцак, я таксамо калісь хадзіў с хлопцамі на шашу біць каменя. Зарубічы.

**Спіцо'ўка** ж. Тое, што і спіцак. Дай спіцоўкі, а то сваей ніяк ні магу камень разбіць. Навасёлкі. Трэбо ведаць, як спіцоўку гартаваць, трэбо тры разы

лажыць у агонь і тры разы ў воду. Зарубічы.

**Спла'кацца** зак. Знемагчы ад плачу. Пакінулі адно дзіця ў хаці, та чысто сплакаласо, пакуль прышлі; беднае, аж уздрыгвае. Квасоўка.

**Сплаці'ць** зак. Заплаціць. Брату за хату я даўно сплаціў, ён сабе нову паставіў, файную хату. Коматава.

**Сплаша'ць** зак. Пабаяцца, спужацца, не адважыцца. Быў пасыкнуўсо ехаць да Гандзі ў сваты, але сплашаў, пабаяўсо, што за яго ні пойдзя. Скраблякі.

**Спля'жыць** зак. Высячы, снішчыць /лес/. Спляжыць лес ні велька справа, але колькі часу трэбо, пакуль ён вырасце? Коматава. Гэта ж у Ляхнові такі быў парк, а арандатар за адзін месяц спяжыў і прадаў людзям на дрова. Рагачы.

**Сплянтава'ць** зак. Вытаптаць, знішчыць /пра пасевы/. Жыто начлежнікі чысто сплянтавалі, німа чаго жаць. Кунцаўшчына.

**Сповія'ч** м. Спецыяльны пояс, якім спавівалі малое дзіця. Дзіця каб добро спало, сповіячам спаўеш, і яно спіць сабе, ні рук, ні ног с пялюшак ні дастане. Занявічы.

**Спод** м. Ніз, ніжняя частка. Гэта ці столькі камбікорму было, а ціпер толькі на сподзі засталосо. Кругляны.

**Спо'дне** н. Споднікі, кальсоны. Некалі для мужчын ткалі такое плаценко, з яго сподне шылі. Ланявічы.

**Спо'дні** прым. Ніжні. Сподні рат снапоў зусім згніў, вада пад адрыну падышла. Лаша. Споднія ганавіцы — кальсоны, споднікі. Споднія ганавіцы мужчынам шылі з горшаго кужалю, нікаторыя шылі нават і з нібелянаго. Галавачы.

**Спо'лка** ж. Суполка, таварыства. У нас больш сполкай абраблялі землю, бо па аднаму каню мелі, рэтко ў каго пара коней была. Лаша. Сполка — гэта колка /прымаўка/. Свіслач.

**Спо'льнік** м. Удзельнік суполкі, таварыства. Мой сполнік с коньмі абходзіўсо добро, без дай прычыны ні ганяў іх і ні біў. Кунцаўшчына.

**Спо'саб** м. Прыём, метад ажыццяўлення. Гэдак, брат, камень на воз ні паложыш, трэбо спосабам класці. Пяслі. Цыган спосабам хату спаліў /прымаўка/. Гожа.

**Справу'нак** м. Пакупка. Пасля лета так яна па справункі і ехала да Індоры, бо грошы мела. Кунцаўшчына.

**Справядлі'вы** прым. Правільны. Мой чалавек быў справядлівы, да яго ўсе людзі ішлі за парадамі, расказвалі пра свае беды. Зарубічы.

**Спра'гнуцца** зак. Уздуцца, успухнуць. Каб ты спрагласа, кап цібе, кап ты ні даждала заўтрашняго дня! /праклён/. Круглікі.

**Спра'жка** ж. Спражка. І ў міне была вайсковая дзяга с спрашкай, потым Паўлу аддаў. Свіслач.

**Спра'тваць** незак. Скідаць, скідваць. Трэбо жывей снапэ спратваць і зноў паедзем, каб дождж ні памачыў. Жукевічы.

**Спраўля'ць** незак. 1. Спраўляць, рабіць. Кажуць, вяселе будуць спраўляць у клубі, бо хата малая, людзі ні памесцяцца. Пракопавічы. 2. Адзначаць. Яна толькі свае імяніны спраўляла, а мужыковых — нігды, быццам ён і на свеці ні жыў. Свіслач.

**Спра'ўны** прым. Спраўны, спрытны, кемлівы. Спраўны хлопяц, німа што казаць, за што ні возьмяцца — усё зробіць. Асочнікі.

**Спро'нжка** ж. Спражка. Ашчэ тато гэту дзягу з мікалаеўскай вайны прынёс, во з якой спроншкай, з арлом. Малая Жорнаўка.

**Спруткава'цца** зак. Напружыцца, сабрацца з сілай, прыкласці намаганне. Ён думаў, што адразу яго кіне, але той як спруткаваўсо, та нават з месца яго ні зварухнуў. Балічы.

**Спры'ндзіцца** зак. Памерці, акалець /груб., лаянк./. На яго людзі даўно наракалі, бо ўсё яму было мала, усё браў, аш пакуль ні спрындзіўсо. Дарашэвічы.

**Спрыя'льны** дзеепрым. 1. Спрыяльны, удачны, добры. Прошлы год даволі спрыяльны быў, пагодлівы, заўчасу ўсе пажалі і пазвозілі с поля. Кашэўнікі. 2. Добразычлівы, спагадівы,

чулы. Ёсць жа такія спрыяльныя людзі, што пра іх і слова ліхога ні скажуць. Каменка.

**Спрыя'ць** незак. Спрыяць, садзейнічаць, дапамагаць. Дзядуля ў сям'і стараецца кожнаму спрыяць, каб усе добро жылі, ні сварыліса. Зарыца.

**Спуска'ць** незак. 1. Выраўноўваць паверхню дошкі або бруска рубанкам. Дошкі нíроўныя, пачаў спускаць, падганяць, але ні даў рады: зусім сырыя. Агароднікі. 2. Віць вяроўкі з канапель, ільну пры дапамозе спецыяльнай прылады. І я навучыўсо спускаць вяроўкі, нічого цяшкаго тут німа. Лаша. 3. Сячы высокі, гонкі лес. У густым лесі дзерава спускаць ні так проста, завісне, а тады мэнчса, пакуль сцягнеш. Путна.

**Спуст** м. Вялікі рубанак. Ціпер спуста мало ў каго і знайдзеш, усё машынамі габлююць, раўнююць. Бычкі.

**Спыні'ць** зак. Спыніць, затрымаць. Здаваласо, што гэту німецку навалу ніхто і ні спыніць, а глядзі, як усё павярнулаcо. Караневічы.

**Спэ'нду** прысл. Адразу. Як уляцеў некі сабака, так спэнду на нашаго і напаў, каб ні адагнаў — загрыз бы. Дарашэвічы.

**Спява'ць** незак. Співаць. Гора мае, гора, а я ўсё спяваю, а я свае гора за вяселе маю / з нар. песні/. Свіслач.

**Спяко'та** ж. Спякота, гарачыня, спёка. Але ж і спякота стаіць, на высокіх месцах жыто пажоўкло, павысмальвало. Баркі.

**Ссы'пка** ж. Насыпка. На ссыпку як бяру, та гляджу, кап палатно было густое, кап пер'е ні вылазіло. Багушоўка.

**Ссякну'цца** зак. Цяжка павярэдзіць паясніцу; зрушыць пазваночнік. Падняла мяшок і ссякнуласа, у хату міне ледво ўвалаклі, сама ні магла. Рагачы.

**Ста'до** н. Статак, гурт. Стадо кароў як пражане пастух, та чысто гуліцу размесяць, с хаты ні вылезеш. Свіслач.

**Стадо'ла** ж. Адрына, пуня. Як добры рок, та поўну стадолу збожа накладалі, нават і ні ўлазіло. Рацічы.

**Стае'льнік** м. Конь для верхавой язды. На стаельніку тулькі пан ездзіў вярхом, у плуг яго ні запрагалі. Белева.

**Стае'нны** прым. Конь, які не выкарыстоўваўся на гаспадарчых работах, стаеннік. Стаеннаго каня ні ўтрымаяш, ён так і рвецца, каб пабегаць, павыкідаць задам. Каленікі.

**Ста'йня** ж. Канюшня. У панскіх маёнтках стайні былі адпаведныя, мураваныя, с каменю, ашчэ і ціпер нікаторыя стаяць. Жукевічы.

**Сталё'вы** прым. Сталёвы, цёмна-шэры / колер/. На сталёвы цвет самы ні фарбавалі, бо такой фарбы ні было, аддавалі да Лунай фарбаваць. Карозічы.

**Стальва'га** ж. Трайны ворчык для запрагання пары коней ў плуг або барану. У стальвазі канцэ павінны быць роўныя, тады і коні будуць роўно ісці, адзін аднаго ні будуць перацягваць. Квасоўка.

**Стальма'шня** ж. Майстэрня па вырабу вазоў. Некалі ў кожнаго пана свая стальмашня была, стэльмахе і вазэ, і брычкі рабілі. Індура.

**Сталю'гі** мн., ж. Прыстасаванне для падоўжнай распілоўкі бярвенняў. Пільшчыкі без ляды тоўстую штуку на сталюгі ні паложаць, а з лядай і адзін паложыць. Баброўнікі.

**Сталю'жка** ж. Козлы; прылада для распілоўкі дроў. Гэтыя сталюшкі як зрабіў, та ўжэ каторы рок нам служаць, ашчэ і суседзі бяруць. Капцёўка.

**Сталянтава'ць** зак. Вытаптаць, знішчыць /пра пасевы/. Каля балота коні чысто жыто сталянтавалі, бо хто іх упільнуя: сют-тут і зноў каторае ўскочыць. Старая Дубавая.

**Сталя'р** м. Сталяр. Эй, пад'яжджаю да сваго двара, а ў маём двара ходзяць сталярэ, робяць святлічаньку цёмненьку для маёй жонкі малодзенькай / з нар. песні/. Рудавіцы.

**Сталя'рня** ж. Сталярня. У нашага Івана свая сталярня, нідаўно матор трохфазны паставіў. Асташа.

**Стан** м. 1. Стан, тулава чалавека. Дзе стан — там і сіла /прыказка /. Багушоўка. 2. Асноўная частка верхняй жаночай вопраткі. Да стану як прышыяш рукавэ, та можно сказаць, што сачык

гатовы, тулькі гузікі ўшыць. Клінчаны. 3. Кавалак кужалю размерам на адну сарочку. З гэтаго свойчыка адрэзала кужалю на адзін стан, больш ні брала. Загорцы. 4. Старая мера кужалю. У стане лічыцца тры аршыны кужалю, ні больш. Грыўкі.

**Станаві'к** м. Лекавае зелле. Станавік пілі, калі хто сярэдзіну наверадзіў, як што цяшка падымаў; кажуць, памагаў. Клінчаны. Станавік пілі, як у грудзях балело. Пад'ятлы.

**Станаўма'** прысл. Стаўма, старчаком. Давайце шафу паставім станаўма, так ляпей яе вынесці. Карозічы.

**Ста'нік** м. Станік, ліфчык. Станік дзяўчата надзяваюць, каб грудзям лягчэй было. Казловічы.

**Станi'ны** мн., ж. Ставы; асноўныя апорныя дэталі ў кроснах /іх дзве/. Станіны паставім, а тады ўжэ змацоўваем збоінамі, каб добро стаялі кросна, ні рухаліса. Дарашэвічы.

**Станкі'** мн., м. Тое, што і станіны. Давайце ўнясем станкі ў хату, кросна трэбо ставіць, каб да вялікадня выткаць кужаль. Зарубічы.

**Стано'га** ж. Макрыца, станожка. Як падняў дошку, так станогі і забегалі, замітусіліся, бо святла ні любяць. Зарубічы.

**Стан-шру'бка** ж. Адтуліна з разьбой у станіне калаўрота. Стан-шрупку як добро вытачыш, та, можно сказаць, што палавіну работы зрабіў, калаўродак гатовы. Круглікі.

**Старава'ць** незак. Гутарыць. Як ззышліса дзве бабы, як пачалі старавацъ, та, во, гадзін дзве старуюць, хоць ты вадой іх разганяй. Верхнія Пагараны.

**Стараве'р** м. Старавер. У нас стараввераў ні было, прыходзілі с Сувалак, дзераво на хаты пілавалі. Каўпакі.

**Старана'** ж. Адна з дзвюх частак адрыны, з боку ад тока; палавіна адрыны. Мы ў адну сторану адрыны клалі жыто і пшаніцу, а ў другую — сено і канюшыну. Кавалічы.

**Старна'біць** зак. Падняць, паднесці штосьці цяжкае. Цяшкі быў мяшчыско, але ж старнабіў яго на воз. Лікоўка.

**Старо'це** мн. Старызна. Чым купляць гэта староце, та ляпей ўжэ што-нібудзь новае. Кругляны.

**Старусе'нькі** прым. Старэнькі. Праз гуліцу ад нас жыла старусенька бабуля, с кійком хадзіла, у тую зіму памерла. Верцялішкі.

**Ста'ршы** прым. Старшы, старэйшы. Май старшы сын ашче с тае вайны ні вярнуўсо, гочы па ім выплакала. Няцечы.

**Ста'туя** ж. Статуя. Дзе быў Ляхноўскі парк, там тулькі адна статуя на полі стаіць, усё вырубалі. Рагачы.

**Стаў** м. Стаў, сажалка, запруда. У Капцёўцы, каля самай шашы, стаў некалі зрабілі, у ім пан рыбу разводзіў, пасярэдзіні выспачка была, на ёй панэ атпачывалі. Бычкі.

**Стаўбу'н** м. Кветканоснае сцябло цыбулі і некаторай іншай агародніны. Хвароба на яе, цыбуля змарнаваласа, у стаўбунэ пашла. Капцёўка.

**Стаўбуно'ўка** ж. Мужчынскі летні галаўны ўбор /устар./; картуз. У маю бытнасць мужчыны шапкі-стаўбуноўкі ўжэ ні насілі, ні модныя былі, гэта раней насілі. Бакуны.

**Стаўду'р** м. Тупы, разумова недаразвіты чалавек /груб. лаенк./. Стаўдур некі ні дзеўчына, такая, як і маці, нічого ні навучыш рабіць. Сцяцкі.

**Стаўні'ца** ж. Посуд ў выглядзе вялікай драўлянай бочкі для захоўвання збожжа. Насыплем поўну стаўніцу жыта, і нам на ўсю зіму на хлеп хватало, аж да новаго. Грандзічы. На весну татко выбіраў с стаўніцы жыто, сыпаў на радзюшке, перасушваў. Батароўка.

**Стаўпатварэ'не** н. Перан.: стоўпатварэнне, бязладнае нагрувашчванне. А гэта што тут за стаўпатварэне, вы што тут нарабілі? Кунцаўшчына.

**Стацi'вы** мн. Ставы; асноўнныя апорныя дэталі ў кроснах. Ат кроснаў нашых адна стаціва засталаса, во, пат стрэхай стаіць. Караневічы.

**Ста'я** ж. 1. Чарада. Гляджу, а зноў с-пад карчоў цэлая стая рыб вышла, ды такіх велькіх, адна ў адну. Занявічы. 2. Зграя. Я аж замёр: бачу, цэлая стая ваўкоў цераз дарогу перабягая. Кавалічы.

**Стаячка'** прысл. Стоячы. Я сам умеў стаячка на кабылі ехаць, станеш, трымаешса за повад і едзеш. Жылічы. Па снапэ я ў возі любіў стаячка ехаць, тулькі лейцамі над галавой пакручваяш, паганяяш. Літвінкі.

**Стварэ'не** н., стварэня ні знаць — у значэнні: вельмі брудны, забруджаны. На дзіцяці тваім стварэня ні знаць, недзі мусі ў шмаравідло ўлезло. Лікоўка.

**Сто'іцца** зак. Адстаяцца, асесць. Гэта малако ні рухайце, хай стоіцца, потым будзям браць. Хамякі.

**Сто'іць** незак. Каштаваць. Колькі ні будзя стоіць, а ўсероўно куплю, грошай неяк назбіраю. Цвіклічы.

**Сто'йка** ж. 1. Прылада ў выглядзе перавернутай ўніз табурэткі для падтрымвання дзіцяці, якое вучыцца стаяць, хадзіць. Пастаў дзіця ў стойку, хай пастаіць трошкі на сваіх ношках. Пагараны. 2. Адзін з відаў дарожных павіннасцей у даваеннай Польшчы / прадстаўленне фурманкі/. Я сам адбываў стойку, як солтыс закажа; заедзеш і стаіш с канём, пакуль ні скажуць каго-нібудзь вязці. Лаша.

**Сто'йло** н. Стойла. Зажані карову ў стойло, а я зарас прыду і падаю яе. Рагачы.

**Сто'лак** м. Услончык, зэдлік. Во, вазьмі столак дый сядзь каля цёплай печы, пагрэй плечы. Гібулічы.

**Сто'лка** ж. Некалькі нітак або валокнаў, складзеных удоўж; пасма; адна частка, адзін слой чаго-небудзь. Я пугу ўмеў віць у дзве столкі, у тры, а нават і ў чатэры круціў. Кунцаўшчына. Вазьмі ляпей сшый у тры столкі, та яно мацней будзе, ні парвецца. Хамякі.

**Сто'ма** ж. Стома, стомленасць, змаранасць. Хібо на цібе стома напала, што сядзіш і спіш? Гінавічы.

**Стоўб** м. Слуп. Ціпер стаўбэ ставяць з бітону, ні пагніюць, ні тое, што некалі ставілі, шторок мянялі. Саломенка. Стоўб перава'льны — указальны слуп для арыентацыі на рацэ. Параход ведае куды ісці, бо стаўбэ перавальныя паказваюць. Дарашэвічы.

**Стра'ва** ж. Страва, вадкая ежа. Я бес стравы ні магу і дня пражыць, хоць адзін раз мушу гарачаго паесці. Бакуны.

**Страві'ць** зак. Патравіць, знішчыць / пасевы/. Як ні дапільнуяш, та гэтыя начлежнікі коньмі дазва'ня могуць стравіць табе гавёс. Сухая Даліна.

**Стра'гнуць** незак. Гразнуць, вязнуць, грузнуць. Тут багно, ногі страгнуць, падавайса лявей. Верцялішкі.

**Стракава'ць** незак. Уцякаць, ратуючыся ад нападу аваднёў /пра кароў/. Каровы як пачнуць стракаваць, та ніхто іх ні ўтрымае, як могуць бягуць у кустэ або дахат. Рагачы.

**Страма'к** м. Прылада ў выглядзе чатырохграннага шуфеля з доўгай ручкай для капання торфу. Страмаке рабілі ў кузьнях, закажаш і табе зробяць, які ты хочаш. Круглікі.

**Страмака'** прысл. Старчма, стаўма, старчаком. Ён страмака ўпаў з рыштаваня і зламаў сабе ногу, ужэ трэці месяц, як ляжыць у гіпсі. Селюкі.

**Страміна'** ж. Круты схіл, абрыў, круча. Над Свіслачу, дзе коні пасвілі, была такая страміна, што аж глядзець страшно было, там тулькі берагулькі вадзіліса. Занявічы.

**Страмо'тыч** прысл. Тое, што і страмака. Як зламаласа драбіна, так страмотыч і паляцеў, думалі: забіўсо, а ён устаў і сміецца. Каўбасіна.

**Страпі'ло** н. Верхняя частка страхі. Я страпіло заўсёды добро замацоўваў, каб вецер ні ззарваў, прывязваў дротам. Лаша. На страпіло борану як зацягнуў, так бусял с той пары і вядзецца, ні пакідае. Кунцаўшчына.

**Страх** м. Страшыдла, злы дух, д'ябал. Усе баяліся дуба на панскім гародзі; ні йдзеця, казалі, каля таго дуба, бо страх у ім сядзіць. Парэчча.

**Страчы'цца** незак. Тое, што і стракаваць. Як настане лето, та каровы так строчацца, пазалазяць у рэчку і стаяць аж да вечара. Літвінкі.

**Страшо'к** м. Страшыдла, злы дух, д'ябал; пудзіла. Ціхо, дзеткі, ні дурэйце, бо страшок прыдзе, забярэ. Свіслач.

**Страшы'дло** н. Пудзіла. З той пары, як паставілі на гародзі страшыдло, та ні адна варона ні села, нават гараб'е і тыя

баяцца. Лікоўка.

**Строк** м. Авадзень. Гарачэ, строк на каровы нападае, рады ні даеш, бегаюць, хвастэ пазадзіраўшы. Рацічы.

**Стромгало'ў** прысл. Стрымгалоў; як мага хутчэй. Як упякла пчала, та стромгалоў ляцеў да рэчкі і адразу ў воду, баяўсо, каб ашчэ катора ні ўцяла. Мураванка, Казловічы.

**Стро'мкі** прым. Стромкі, круты, абрывісты. Тут стромкі бераг, канём ні пераедзяш, едзь далей, там будзя пераезд. Сухая Даліна.

**Стро'мы** прым. Тое, што і стромкі. Тут стромы спуск, трымай кабылу, каб ні панясла. Солы.

**Стронг** м. Фарэль, стронга. Кажуць, у Ласасянцы некалі стронгаў много было, лавілі і пасылалі цару, бо гэта царска рыба была. Бакуны.

**Строп** м. Накладка на верхняй частцы саламянай страхі. Кап строп вецер ні ззарваў, та я прывязваў яго латамі, наверх нават і каменя лажыў. Кунцаўшчына. Найлепшы строп — гэта с пырніку, ён як уляжацца, та ніякі дождж ні прамочыць. Аленічы.

**Стру'мент** мн. Інструмент, начынне. За весну ўвесь струмент дзеці парасцягалі, а ціпер рабіць ні маю чым. Дзекалавічы.

**Струпяне'ць** зак. Замерці ад страху, ад жаху, перапалохацца. Як немцы ўваліліса ў хату, та мы ўсе струпянелі, ні ведалі, што рабіць. Сіні Камень.

**Стру'пяшаць** зак. Збуцвець, струхлець, спарахнець. Дзераво на хату як папаляжало, так і зусім струпяшало, на дрова і то ні гадзіцца. Рагачы. Кару з дзерава аскрабі, а то можа струпяшаць, як доўго паляжыць. Віцькі.

**Стры'гчы** незак. Стрыгчы. Усялякія людзі бываюць: і добрыя, і кепскія, ні трэбо стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень. Батароўка. Стрыгчы вушамі — настарожыць вушы, адчуваючы небяспеку /пра каня/. Як уехаў у густы лес, та мой конь і пачаў стрыгчы вушамі, нешто пачуў. Навасёлкі.

**Стрыказа'** ж. Конік; насякомае, якое скача і стракоча крыламі. Услухайса, як стрыказа харашэ спявая. Забагонікі.

**Стры'ек** м. Брат бацькі, дзядзька. Заўтро да стрыйка ў госці паедзямо, нас у хаці ні застанеш. Пышкі.

**Стрые'чны** прым. Дваюрадны, стрыечны. Яго стрыечны брат недзе ў Гродні робіць, мусі на якім заводзі. Лугавая.

**Стрымбу'ль** м. 1. Сцябло расліны, пазбаўленае лістоты. Падло, каларадскі жук усё бульбавене паеў, адны стрымбуле засталіса. Пагараны. 2. Пра хударлявага, празмерна высокага чалавека. Стрымбуль, ніякага клёку ў ім німа, выцягнуло, як канапліну. Сіўкава.

**Стрымо'тыч** прысл. Старчаком, старчма, стаўма. Як піхануў, так той стрымотыч с кладкі і паляцеў, ледво выцягнулі з вады. Круглікі.

**Стрынгале'т** м. Хударлявы, празмерна высокі хлопец /зневаж./ Які з яго хлопяц, стрынгалет некі, а, глядзі, якую дзеўку файну ўзяў. Кавалічы

**Стры'нгель** м. Тое, што і стрынгалет. Ці яна здурэла, што за гэтаго стрынгеля замуж ідзе, што — ёй свет ні мілы? Лаша.

**Стрыно'жак** м. Трыножак. Летам мы ў пячэ ні палім, маці на стрыножку вячэру варыць. Бброўнікі.

**Стрыхава'ць** незак. Фармаваць; надаваць пэўную форму гліне. Калісьці я хадзіў да цагельні стрыхаваць гліну, як наробішса, та ледво дахаты прылезяш. Літвінкі.

**Стры'хар** м. Той, хто фармуе цэглу. Самым лепшым стрыхарам у цагельні быў Антось Камлач, бо ён здаровы быў, па дзве нормы вырабляў. Сухая Даліна.

**Стры'хмус** м. Рэйсмус; сталярная прылада для правядзення лініі, паралельнай краю дошкі. Гэты стрыхмус я, як маладым быў, зрабіў, а той — ашчэ дзедаў, ён мне пакінуў. Агароднікі.

**Стры'ца** ж. Дэталь у калаўроце ў выглядзе трансмісійнага невялічкага драўлянага кола. Паткруці ляпей стрыцу, а то, бачыш, калаўродак добра ні цягне. Свіслач.

**Стры'чка** ж. Тое, што і стрыца. Адну столку шнура закладзеш на стрыцу,

другую -на шпульку і тады ўжэ прадзеш. Казіміроўка.

**Стры'чны** прым. Дваюрадны, стрыечны. Стрычны брат адзін быў, і той памёр, ціпер з радні ў міне нікого ні засталосо. Лойкі.

**Стрэ'ха** ж. Страха. У нашым сяле ўсе стрэхі с саломы былі, тулькі ў аднаго хата была крыта чарапіцай. Белева.

**Стрэ'ча** ж. Ступень радства. Перша стрэча — родныя, другая стрэча — дваюрадныя, так што мы с табой у другой стрэчы, ашчэ зусім бліскія сваяке. Карозічы.

**Стрэ'чны** прым. Дваюрадны, стрыечны. Мая стрэчна сястра аж у Бакунах замужам, за трактарыста вышла. Кулёўцы.

**Сту'дня** ж. Студня, калодзеж, калодзезь. У нашай вёсцы тулькі адна студня была, нікаторыя бралі воду з рэчкі. Кунцаўшчына.

**Стужа'ць** зак. Злёгку зацвярдзець. Масло як палажыла ў халодну воду, так і стужало, во якое, паглядзі. Сцяцкі.

**Сту'па** ж. Ступа; прылада для перапрацоўкі зерня на крупу. У ступі ні тулькі таўклі панцак, але і канаплянае або льяное семя, як каму трэбо было. Караневічы.

**Сту'па** ж. Ступня. Якая ў яе ступа, зусім маленька, як у дзіцяці. Круглікі.

**Ступі'ца** ж. Дэталь у жорнах у выглядзе металічнай планкі, на якой трымаецца верхні камень. Ступіца як перашаруецца, та пойдзяш да нашаго каваля, і ён табе зробіць, якую хочаш. Клінчаны.

**Стусі'на** ж. Гібкае дрэўца для пугі /пугаўё/, звычайна прывазное. А я думаў, што стусіны ў Празароках растуць, а зноў іх купляюць. Свіслач.

**Сту'сло** н. Сталярная прылада, пры дапамозе якой распілоўваюць дошкі пад вуглом у 90⁰ і 45⁰. Бес стусла правідлово вугла ні зарэжаш, ні дасі рады. Свіслач.

**Стырчэ'ць** незак. Тарчаць, выставаць, выступаць. Глядзі, тут у дзвярах некі цвік стырчыць, каб рукі часамі ні абадраў. Сонічы.

**Сты'рыць** зак. Украсці /груб./. От стырыць что-нібудзь — ён майстар, а зрабіць што добрае — на гэта ў яго рук німа. Скраблякі.

**Стэ'льмах** м. Майстар па вырабу вазоў і дэталей да іх. Кажуць, быў добры стэльмах ў Ляхнові, ашчэ яго вазэ і ціпер у нікаторых сёлах жывуць. Рагачы.

**Суво'й** ж. Вялікі кусок кужалю, скручаны ў рулон. У кожнай дзеўкі на выдані было ні менш, як пяць-шэсць сувояў кужалю. Эйсманты.

**Су'дарга** ж. Сутарга. Баба казала, што дзіцей ад сударгі яна сама лячыла: ставіла каля вушака, над галавой пракручвала дзірку, выстрыгала валасоў, абрэзвала на пальцах ногці, ўсё гэта клала ў дзірачку і забівала колікам. І дзіця адразу станавіласо здаровым. Лаша.

**Су'дзе** н. Посуд, пасуда. Памый судзе адразу, пакуль ні заскарэло, а то потым ні адмыяш. Свіслач.

**Судзі'ць** незак. Абгаворваць, паклёпнічаць. Яна прывыкла другіх судзіць, а сама сібе ні бачыць, якая яна. Дзекалавічы.

**Сук** м. Перан.: скупы чалавек, скупярдзяй /лаянк./. Страшэнны сук быў, як меў якую капейку, та ўсе складваў, ні жонцы, ні дочкам ні даваў. Ферма.

**Сука'дло** н. Прылада для сукання нітак. Сукадло кожны меў свае, сам мог зрабіць, ні трэбо было купляць. Рацічы.

**Сука'йло** н. Тое, што і сукадло. Сукайло ў нас есць, але яно нікому ні патрэбна, бо ніхто ні прадзе. Прывалка.

**Су'кало** н. Тое, што і сукадло. Як трэбо было, та маці паставіць су'кало па сярэдзіні хаты, і мы сучам цаўке. Казіміроўка.

**Сука'ць** незак. Сукаць, скручваць. Ніці можно было сукаць с клубкоў, а можно было сукаць і на калаўротку, як хто хацеў. Рацічы.

**Сукма'н** м. Бурка, світка. На начлех коней як вадзілі, та закруцішса сабе ў сукман і ляжыш каля агню, дрэмлеш. Навумавічы.

**Су'кня** ж. Шарсцяная сукенка. Яна ні

тулькі святам у сукні сабе ходзіць, а і ў будзень ні скідая, як тая пані. Лугавая.

**Сумато'ха** ж. Мітусня, беганіна, сумятня. У хаці нека суматоха падняласа, людзей ззабраласо много, усе нешто крычаць. Дарашэвічы.

**Сумнява'цца** незак. Сумнявацца; не даваряць. Наконт гэтаго чалавека ні трэбо сумнявацца, я яго добро ведаю, ён ні падвядзе. Верцялішкі.

**Су'меркі** мн. Змрок, змяркание, прыцемак. Ужэ сумяркі, нічого ні відаць, а ты ўсе чытаяш, гочы псуеш, ляпей кінь. Баранава.

**Супо'ня** ж. Супоня. Глядзі, каб у дарозі супоня ні развязаласа, добро завяжы, засмаргні. Кунцаўшчына.

**Супра'жнік** м. Удзельнік супольнай апрацоўкі зямлі. У маго супражніка конь слабейшы быў; як гарэш, та ўвесь час трэбо было яго падганяць, атставаў. Лікоўка.

**Супра'жыць** незак. Апрацоўваць суполкай зямлю. У нас рэтко ў каго было па пары коней, а так па аднаму каню, на весну кожны шукаў сабе сполніка, каб з ім супражыць. Кавалічы.

**Сураве'жка** ж. Сыраежка. Суравешка — які з яе грыб, пакуль прынясеш дахаты, та з яе нічого ні застанецца, пакрышыцца. Зарубічы.

**Су'рамець** ж. Сырамяць. Сурамяць моцна, як прывяжаш да цэпа біч, та нігды ні парвецца, аш пакуль ні перашаруецца. Баранава.

**Сурвэ'та** ж. Абрус, настольнік. Засцялі на стол чысту сурвэту, гэта ж дзісяй велька свято. Кузьмічы.

**Сурду'к** м. 1. Верхняе мужчынскае адзенне з самаробнага сукна. Як ён выглядаў, той сурдук, чорт яго ведае, тулькі ведаю, што такія сурдуке ў нас былі. Круглікі. 2. Верхняе мужчынскае кароткае адзенне ў выглядзе курткі. Першы сурдук я пашыў ў Скідзелі, як жаніўсо. Селюкі.

**Сурду'т** м. Мужчынскае верхняе адзенне з доўгімі поламі і адкладным каўнерам. Некалі шляхта ўсе насіла такія сурдуты з блішчачымі гузікамі. Ланявічы.

**Суро'чаны** дзеепрым. У прымхах: той, каго ўраклі, нанеслі шкоду ліхімі думкамі, словам, нядобрым вокам. Ён мусі сурочаны, усяго баіцца, крычыць начамі. Лаша.

**Суро'чыць** незак. У прымхах: нанесці шкоду думкамі, словам, нядобрым вокам. Гэта баба гочы чорныя мая, можа дзіця сурочыць, хаця ні паказвай. Лаша.

**Су'сліць** незак. Чуць, трохі прасочвацца /пра воду/. Каля мае хаты есць месца, дзе вада з зямлі сусліць, там заўсёды мокро. Зарубічы.

**Су'талака** ж. Мітусня, беганіна. У такой суталацы свой сваго ні мог пазнаць, ні тулькі чужого. Карозічы.

**Су'талач** ж. Зборышча жулікаў, пранырлівых, хітрых людзей; зброд; навалач. Панаехало сюды ўсялякай суталачы, жыць ні даюць. Круглікі. "Куды ідзеш, бабка?"- "На святое вяселячко",— "Адкуль ідзеш, бабка?" — "С сабачай суталачы /прымаўка/. Белева.

**Сута'на** ж. Сутана; верхняе адзенне каталіцкага духавенства. Глядзі, во, ксёндз у чорнай сутані да плябані пашоў, ён там жыве. Індура.

**Су'ткі** мн. Вузкі праход паміж сценамі будынкаў. Праз гэтыя суткі каня ні правядзеш, сам ледво пралезяш. Кунцаўшчына.

**Суту'нак** м. Змярканне, змрок. Ужэ слонца зайшло, сутунак, а ты недзе хочаш ісці. Агароднікі.

**Сутуня'ць** незак. Змяркацца, цямнець. Гэта ш стало сутуняць, а кароў чамусьці ні жануць дахаты. Навумавічы.

**Сухаве'й** м. Сухавей; гарачы, сухі вецер. Сухавей як пачаў дуць, та ўсё с поля павыдуваў, пясок тулькі курыць. Бакуны.

**Сухаве'йко** м. Бяссмертнік; лекавая травяністая расліна. Сухавейко ат печані памагае, я сама парыла і піла, і, дзякаваць богу, вылячыласа. Канчатка.

**Сухадрэ'ўко** н. Брызгліна, кустовая расліна. Мы с сухадрэўка ўсе рабілі сабе муштуке, мой цесць міне навучыў рабіць. Пагараны.

**Сухама'** прысл. Сухама. Узяў кусок хлеба

і сухама есць, усероўно, як галодны, нічога ні еў. Каленікі.

**Сухано'жкі** мн., ж. Грыбы жаўтаватага колеру, на тонкіх ножках, якія растуць на выгане. Пасля дажджу гэтых суханожак на выгані многа, але іх мала хто збірае, яны сухія. Лаша.

**Сухапасто'й** м. Сухастой; дрэва, якое засохла на пні. Сухапастой на будоўлю ні гадзіцца, ён тулькі на дрова ідзе. Струбка.

**Сухасто'й** м. Сухастой. Сухастою ў нашым лесі многа, і ні знаю, чаму так сохне сасна. Навасёлкі.

**Сухо'тка** ж. Нейкая хвароба скуры ў малых дзіцей; сухі лішай /устар./. Ат сухоткі дзіцей лячылі цынцылеяй, такое зелье, яно жоўтым цветам цвіце. Лаша.

**Сухо'ты** мн. Туберкулёз. У суседняй вёсцы людзі натта ж на сухоты хварэлі; як наступіць вясна, так і вязуць хаваць маладую дзеўку ці хлопца. Кунцаўшчына.

**Суху'тко** прысл. Вельмі суха. На дварэ стало сухутко, файно, можно і босаму пахадзіць. Сухая Даліна.

**Сухю'ткі** прым. Вельмі сухі, высахшы. Ужэ снапэ вазіць можно, гавёс стаў сухюткі, асыпацца пачаў. Капцёўка.

**Су'чкі** мн. Невялікія дапаможныя санкі да караў /саней-лесавозаў/. Як доўга дзераво, та бяры сучкі, бо на адных санях доўгай штукі з лесу ні прывязеш. Брузгі.

**Суш** ж. Пчаліныя рамкі з новымі сотамі. Я ўжэ назапасіў больш як дзесяць рамак сушы, на весну будзя. Сыпаная Гара.

**Сфастрыгава'ць** зак. Прафастрыгаваць; прашыць буйнымі шыўкамі. Рукавэ спачатку трэбо сфастрыгаваць, а тады ўжэ прышываць як трэбо. Лойкі.

**Схава'цца** зак. Схавацца. Ён так патрапіў схавацца, што яго сам чорт ні знайшоў бы. Бычкі.

**Схапі'цца** зак. У значэнні: стаць меншым па памеру, скараціцца. Усунь свэтар у гарачу воду — так схопіцца, зробіцца меншым, ні надзенеш потым. Іванаўцы.

**Схраката'ць** зак. Пабіць, разбіць. Як разыдзецца, та ён можа ўсю пасуду схракатаць, пакідаць пад ногі, кап хоць над гэтым сваю злосць ззагнаць. Адэльск.

**Сход** м. Сход, збор. Заказвалі на сход, будуць пастуха на каровы гадзіць, прыходзьце. Баброўня.

**Схо'дзіцца** незак. 1. Сустракацца, спатыкацца. Мне я ім некулькі разоў даводзіласо сходзіцца, але ні ведаў, што ён у цюрме сядзеў. Зарубічы. 2. Пачынаць сумеснае жыццё. Яна казала, што ўжэ будзе сходзіцца з ім, адной надаело жыць. Свіслач.

**Схо'дзіць** незак. Узыходзіць /пра сонца/. Паглядзі, як небо паружавело, зарас слонца сходзіць будзя. Грандзічы.

**Схо'ду** прысл. Адразу. Ён думаў сходу ў інсцітут той паступіць, але, аказаласо, ні так просто. Палаткова.

**Схо'ды** мн. Лесвіца, усходы. Пакуль наверх па тых сходах падымешса, та духе табе запрэ, задыхаешса. Асочнікі.

**Схудне'ць** зак. Схуднець, пахудзець. І ад чаго ён так мох схуднець, здаецца, і догляд добры і ніхто яму ні дакучае. Мількаўшчына.

**Сці'брыць** зак. Украсці. Ён так і глядзіць, кап што-нібудзь у каго сцібрыць, у каго што ні так ляжыць. Пыра.

**Сцізо'рык** м. Сцізорык. Во, які мне тато сцізорык купіў, з двума ножыкамі. Гожа.

**Сці'рта** ж. Сцірта, тарпа. Ашчэ з восені ўсе сцірты павымалочвалі, гэта тулькі адна салома ляжыць. Арэхавічы.

**Сці'сло** прысл. Ашчадна, эканомна. Калі так сцісло будзям жыць, та можа грошай і на машыну якую назбіраем. Галынка.

**Сцы'зорык** м. Сцізорык. Сцызорык кожнаму ў дарозі спатрэбіцца: ці хлеба сабе адрэзаць, ці пужальнішча якое выразаць, ці што іншае. Абуховічы.

**Сцягно'** н. Сцягно. Здарова дзеўка, у яе аднаго снягна пудоў два будзя, рабоча. Малахавічы. У каровы чысто сцёгна павысыхалі, адкуль тое малако ў яе будзя. Ханявічы.

**Сцяко'льнік** м. Сталярны інструмент для фугоўкі выемак у аконных рамах. Сцякольнік нешто ні бярэ, зусім за-

тупіўсо, вазьмі ды ашчэ раз пагастры. Дзекалавічы.

**Сця'міць** зак. Сцяміць, зразумець, скеміць, уцяміць. Я зразу ні мог сцяміць, куды ён гне, тулькі потым дагадаўсо. Тумашы.

**Сцяна'** ж. Мера даўжыні тканіны /устар./. У адной сцяне бывае шэсць-сем аршын, а то і больш. Лугавая. За адзін раз можно аснаваць на шэсць сцен кужалю. Забагонікі.

**Сця'цца** зак. Перан.: счапіцца, задрацца; уступіць у спрэчку, бойку. Яны такія, што за любое глупство могуць сцяцца, адзін аднаму ні ўступіць. Губінка.

**Сцяць** зак. 1. Сціснуць. Такі боль быў, а ён зубы сцяў і ані енкнуў. Гумбачы. 2. Зрэзаць, ссячы. Такую ліпку файну сцяў, а ты хоць адно дзераво за свае жыце пасадзіў? Багушоўка.

**Счу'біцца** зак. Распачаць бойку, сварку. Сют-тут так і зноў счубяцца, адзін аднаго цягае, мірна ні могуць жыць. Гневяшчызна.

**Сы'каць** незак. Пакрыкваць на старэйшых. Ты чо гэта стаў сыкаць на дзеда, ён табе хто, раўня? Астравок.

**Сынава'я** ж. Жонка сына ў адносінах да бацькоў. Сынавая да нас адносіцца добро, німа чаго наракаць, ні крыўдзіць. Занявічы.

**Сырае'жка** ж. Сыраежка. Добрых грыбоў ні было, та хоць сыраешкаў набраў, усероўно лічацца грыбэ. Зарубічы.

**Сыраква'ша** ж. Сыракваша, кіслае малако. Як гарачэ, та найздаравей усяго піць сыраквашу, вып'яш — і ўжэ піць ні хочацца. Парэчча.

**Сы'рнік** м. Клінок, трохвугольная торбачка для прыгатавання сыру. Як сыроватка сцячэ добро, та сырнік пат камень паложыш, хай паляжыць. Прыгодзічы.

**Сы'ро** прысл. Сыра, мокра. На дварэ неяк сыро, аніяк пагоды німа. Мількаўшчына.

**Сыро'ватка** ж. Сыроватка. Мы сыроваткі самы нігды ні пілі, свіням вылівалі. Пруды.

**Сыро'ўка** ж. Неапаленая цэгла. Да вайны хаты ў вёсках ставілі с сыроўкі, але яны вельмі халодныя былі, сырыя. Асташа.

**Сы'ска** ж. Соска. Як дам дзіцяці сыску, та яно ляжыць і ні плача, а я сваю работу раблю. Мількаўшчына.

**Сысу'н** м. Сысун; маладняк жывёлы, які ссе матку. Ён ашчэ сысун у нас, кабылу ссе, хаця трэбо было б даўно адлучыць. Белыя Балоты.

**Сысу'нчык** м. Сысун /памянш./. Наш сысунчык нігды ат кабылы ні атстае, так і трэцца каля аглоблі, як едзяш. Баліненты.

**Сысці'са** зак. 1. Сустрэцца, спаткацца. Хто думаў, што зноў прыдзецца сысціса разам з ім і нават ваяваць у адным батальёні. Азёры. 2. Пачаць сумеснае жыццё. Яны сышліса, пажаніліса і, во, дзякаваць Богу, добро жывуць. Каробчыцы.

**Сы'ты** прым. Сыты, укормлены. Глядзі, паршук наш даволі сыты, можно калоць. Іванаўцы.

**Сэймікава'цца** незак. Ра'дзіцца, ра'іцца. Яны прывыклі сэймікавацца, адразу нічого ні робяць, можа гэта і добро, бо дзве галавы та ні адна. Літвінкі.

**Сэрадэ'ля** ж. Сырадэля /кармавая трава/. Сэрадэлю сеялі па жыці, жыто пажнуць, а тады сэрадэлю косяць. Батароўка. Адной сэрадэляй каровы ні выкарміш, трэбо сена або канюшыны дамешваць да яе. Александрова.

**Сэрвэ'та** ж. Абрус, настолькік. Сэрвэты модныя былі, кажда паненка ўмела ткаць, і я таксамо ткала. Эйсманты.

**Сэрцаві'на** ж. Стрыжань / аб дрэве/. Вярба наша згніла, сэрцавіны зусім німа, адна абалонь засталаса. Эйсманты.

**Сюдо'ю** прысл. Тут, у гэтым месцы. Сюдою ні праедзеш, граско, конь воза ні выцягне, заваліцца можа. Беражаны.

**Сюд-туд** прысл. То тут, то там. Як гарэў Гібуліцкі лес, та, здаваласо, ўжэ пагасілі, і ўсероўно сюд-туд і зноў агонь уздымаецца, нібыта хто натпальваў. Гібулічы.

**Сюды'кава** прысл. Сюды. Сюдыкава, хлопцы, ідзеця, я вам нешто пакажу. Рацічы.

**Сюрту'к** м. Бурка, шырокая адзежына

з даматканага сукна з башлыком. Май бацько бес сюртука ў дарогу ні выязджаў, заўсёды браў с сабой. Галаўнічы.

**Сяве'нка** ж. 1. Сявенка, сявалка, сяўня; начынне для ручной сяўбы. Добры гэта быў час, час сяўбы, ідзеш сабе с сявенкай і сееш памаленьку. Лаша. 2. Посуд, сплецены з саломы і лазы для захоўвання мукі. Муку ўсыпляш ў сявенку, утрамбуяш і стаіць, нават як пажар, та салома абгарыць, а мука ўтрамбованая так і стаіць. Сабаляны.

**Сяве'нька** ж. Посуд у рост чалавека, сплецены з саломы і лазы, для захоўвання збожжа. У нашу сявеньку ўлазіло больш дзісяці пудоў жыта, а мо і больш, добро ні помню. Бакуны.

**Сядаві'цца** незак. Садзіцца, сядаць. Ні хачу каля печкі сядавіцца, галава будзя балець, натта ж моцно напаліла. Батароўка.

**Сядзё'лка** ж. Падсядзёлак, частка конскай вупражы. Без сядзёлкі хутко ні паедзяш, аглоблі будуць бэнтацца. Бандары. Патпругу падцягні, кап сядзёлка спраўней ляжала на кане. Лаша.

**Сядні'к** м. Сяннік, матрац. Наб'ем сяднік саломай і качямсо, каб раўнейшы быў, ляпей спаць было на ім. Лойкі.

**Сядэ'лко** н. Тое, што і сядзёлка. Сядэлко патпраў, а то перакруцілaсо, зусім набок з'ехало, аглоблі ні трымаюцца. Бакуны.

**Сяка'ч** м. Сякач, прылада для драблення карняплодаў на корм жывёле. Нам сякач каваль зрабіў; буракоў каровам у адзін міг насячэш, ні трэбо рукамі рэзаць. Канявічы.

**Сяле'дзеўка** ж. Бочка з-пад селядцоў. Як капусту ні было ў чым квасіць, та куплялі сяледзеўку, выпарыш яе кіпятком і ложыш капусту. Дубоўка.

**Сяле'дзец** м. Селядзец. Сяледцы дарагія былі, хто там іх купляў, воляк з-пад сяледцаў бралі і бульбу з ім елі. Жытародзь.

**Сяле'дзя** ж. Гатунак бульбы. Сяледзя, была бульба такая, прадаўгавата, з ямачкамі, усе яе садзілі. Парэчча.

**Сяльні'к** м. Сяннік, матрац. Мая Стэпка перат тым, як спаць, заўсёды сяльнік ўносіла ў хату, пяратрасала, каб мягчэшы быў. Кульбакі.

**Сянні'к** м. Сяннік. Аттаго і называецца сяннік, што сенам яго набіваюць, а ў нас сена ні было, саломай набівалі. Забагонікі.

**Сярадня'** прысл. Сярод дня; у дзень. Ці хто гэта бачыў, каб чалавек сярадня спаў, а ён, лежабок, ляжа і спіць. Карозічы.

**Сярдава'ць** незак. Злаваць, злавацца. Ты мусі за нешто на міне пачала сярдаваць, ні сярдуй, я табе нічого кепскаго ні зрабіў. Белякоўшчына.

**Сярмя'га** ж. Шырокая і доўгая адзежына з даматканага сукна, звычайна белага колеру. Накінь сярмягу на плечы, каб ні змок на дажджэ, бачыш, як крапаціць. Бакуны.

**Сярмя'жка** ж. Кароткая мужчынская адзежына з даматканага сукна шэрага колеру. Свая сярмяжка нікому ні цяшка /прыказка/. Вострава.

**Сярпо'к** м. Маладзік /першая квадра месяца/. Во, паглядзі, які сярпок паказаўсо на небі, маладзенькі месяц. Забагонікі.

**Сячка'рня** ж. Сячкарня; машына для рэзкі саломы на корм жывёле; саламарэзка. Мы сечку ў сячкарню рукамі ні рэзалі, а коньмі, бо манеж быў свой. Сухаўляны.

# Т

**Таба'к** м. Тытунь. Пры паляках, як хто дзе якое кальво пасеяў табаку, та акцызны як дасць штраф, та і курыць ні захочаш. Кунцаўшчын.

**Таба'ка** ж. 1. Табака, нюхальны тытунь. Наш дзед казаў, што даўней ні курылі, а нюхалі табаку, насілі ў табакерках

і капшуках. Баброўнікі. 2. Нейкая захворванне пшаніцы, пры якім зерне ператвараецца ў чорны парашок. У нас кожны гаспадар пшаніцу сініў сінім камянем, кап табакі ні было. Сухая Даліна.

**Табаке'рка** ж. 1. Табакерка, каробачка для табакі і тытуню. Як добры курэц, та мае сваю табакерку і тытунец /прымаўка/. Баброўнікі. 2. Перан.: вялікі нос. Ты куды гэта сваю табакерку садзіш, і без цібе разбяруцца. Кунцаўшчына.

**Табарэ'тка** ж. Табурэтка. Некалі ніякіх табарэтак ніхто ні ведаў, былі лавы і сланэ, і добро было. Лаша.

**Табато'ж** часц. Так, але, ага, сапраўды. Табатож, дзеткі, табатож, а як жа мы бес таты жыці будземо, хто нам хлеба наробіць? Круглікі.

**Табачко'вы** прым. Тытунёвы, цёмнажоўты. Купіў сабе каптан табачковкаго колеру, ля, паглядзі, ці добры будзе? Каўпакі.

**Табу'н** м. Табун, статак, гурт. Цэлы табун кароў выпусцілі, гэта ж усю рунь с карэньмі вынясуць. Ферма.

**Табэ'ляк** м. Невялікі свердзел. Гэты табэляк ашчэ даваенны, ім натто добро дзіркі круціць пат тэблі. Свіслач.

**Тава'р** м. Тавар. Набраў тавару аж на двое ботаў, будзе сабе і сыну. Пракопавічы.

**Таварышкава'ць** незак. Сябраваць. Мы з ёю таварышкавалі, аш пакуль нас у Германю ні вывязлі. Гарны.

**Така'рня** ж. Прымітыўны такарны станок па дрэву. У Данілоўскіх свая такарня была, калаўроткі рабілі, мы ўсе ў іх заказвалі. Круглікі.

**Такве'ля** прысл. Столькі многа. Таквеля яму прышлоса пераҗыць за немцамі, ні дзіво, што здаровя ні мае. Пракопавічы.

**Тако'ўскі** займ. Такі. Такоўскі ўжэ ён быў чалавек, нікому ніякай крыўды ні зрабіў. Зарубічы.

**Такро'к** прысл. У мінулым годзе, летась. Такрок карова перадойка была, нават дзецям малака ні было. Лойкі.

**Такро'чны** прым. Леташні, мінулагодні. Такрочны ўмалот быў лепшы, ціпер на салому збожа вырасло, а ўмалота німа. Пракопавічы.

**Таксо'ўка** ж. Легкавы аўтамабіль, таксі. Некалі маладыя да шлюбу вазамі ехалі, а ціпер на таксоўках, адзін раз з дзесяць ехало. Вішнявец.

**Талака'** ж. Калектыўнае выкананне работы. Ці купляну хату, ці дзерава з лесу заўсёды перавозілі талакой. Баброўня. Назбірала талаку — пагуляла на таку /прымаўка/. Малахавічы.

**Талкава'ць** незак. Тлумачыць, гаварыць, казаць. Я яму ўсё талкавала і талкавала, каб ні лез, дзе б'юцца, але ж ці да яго гэта даходзіло? Верцялішкі.

**Талко'вы** прым. Талковы, дзелавіты, дзелавы, разумны, удалы. Чалавек ён талковы, з ім добро пасядзець, пагаварыць, розуму набрацца. Агароднікі.

**Талма'ч** м. Перакладчык. Ён пры немцах талмачом быў, а потым уцёк, але, кажуць, дзесьці дагналі і пасадзілі. Зарубічы.

**Талму'д** м. 1. Свяшчэнная кніга веруючых яўрэяў. У талмудзі, расказваюць, напісано: размнажайса, як пясок на беразі мора, гэта пра яўрэяў. Індура. От каб дзе, браце, талмуд дастаць і пачытаць; там, кажуць, много чаго цікаваго напісано. Пракопавічы. 2. Перан.: цяжкі для разумення тэкст, пісанне. Я ў гэтым талмудзі нічого ні разбярусо. Дубоўка.

**Тальма'к** м. 1. Перавязь, тальмах. Яму дохтар сказаў, каб ні менш месяца насіў руку на тальмаку, нічого ні рабіў. Рацічы. 2. Прывязь, прычэп. Добро, што знаёмы шофер падвярнуўсо, узяў машыну на тальмак, а так стаяў бы нівядомо дакуль. Верцялішкі.

**Та'ма** прысл. Там. Нас тама ніхто ні жджэ, і німа чаго туды ехаць. Кавалічы.

**Тама'** ж. Гаць, запруда. Гэту таму' нідаўно зрабілі, а так тут цякла нівелька рэчачка. Селюкі.

**Тамава'не** н. Умацаванне з каменняў, бярвенняў, лазы супраць размыву берага вадою. Як тая велька вада была, та каб ні тамаване, наш бераг у Нёман паехаў бы. Дарашэвічы.

**Та'майка** прысл. Там. Ідзі сюдою, та-

майка глыбоко, ні пяройдзяш. Сухая Даліна.

**Та'мака** прысл. Там. Во, тамака, дзе дым ідзе, нашы хлопцы коні пасвяць. Свіслач.

**Та'макава** прысл. Там. Давай ашчэ тамакава пашукаем, можа дзе знойдзем. Балічы.

**Тандэ'т** м. Нізкаякасны выраб. Як купляць, та добрае, а ні тандэт. Солы.

**Танкля'вы** прым. Высакаваслы, цыбаты. І ў каго ён такі танклявы ўдаўсо, здаецца, у раду іх нікога такога ні было. Літвінкі.

**Та'нно** прысл. Танна. Гэты бычок табе натто танно прышоўсо, ён больш варты.Індура

**Та'нны** прым. Танны. Бяры вось гэты матэр'ял, ён танны, якраз па тваіх грошах. Гожа

**Таню'ткі** прым. Вельмі тонкі. О-о, яна добро прадзе, вывядзе нітачку такую танютку, што ні згледзяць. Рагачы.

**Тапары'ско** н. Тапарышча. Пабіў тапарыско, рубаючы карчэ, а новаго німа з чаго зрабіць. Скамарошкі.

**Тапта'к** м. Тапчак, прымітыўны рухавік для рэзкі сечкі. У таптаку конь мусіць нагамі перабіраць, бо як ні будзе, та яго коло уніз пацягне. Круглікі.

**Тапта'цца** незак. Таптацца. Топчацца на адным месцы, як курыца ў гняздзе. Балічы.

**Тапча'н** м. Шырокая лава са спінкай. У нас тапчан заўсёды каля печы стаяў, на ім дзет спаў. Кавалічы.

**Тара'нка** ж. Сплецены з саломы і лазы посуд для вымярэння збожжа.У таранку якраз уваходзіло тры пуды пшаніцы, ні больш. Батароўка.

**Тарата'йка** ж. Разбітая, старая брычка. Ляхноўскі аканом на некай таратайцы тады ездзіў. Рагачы.

**Тарато'рыць** незак. Балбатаць, лапатаць, сакатаць. О, ужэ тараторыць, сыпля як с пулямёта! Свіслач.

**Тарахто'рыць** незак. Тое, што і тараторыць. Пакінь тарахторыць, ужэ галава ад цібе баліць. Кунцаўшчына.

**Тарахце'ць** незак. Ехаць з грукатам, падскокамі; лескатаць. Пад вечар, чую, нехто тарахціць, а зноў гэта тато наш з Індоры едзя. Сухая Даліна.

**Та'рка** ж. Тарка. Даўней тарку рэтко хто купляў, самы рабілі з бляхі. Белева.

**Таркава'ць** незак. Церці на тарцы. Дзісь бапку будзям пячы, трэбо бульбу таркаваць. Ніжнія Пагараны.

**Тармазі'ць** незак. Тармазіць. Тут тармазіць трэбо паціху, бо дарога натто сліская. Рацічы.

**Тарна'біць** незак. Валачы, цягнуць, несці з цяжкасцю. Удвух тарнабілі гэты мяшок і ледво старнабілі, а ён хацеў адзін. Баяры.

**Тарнавы'** м. Плытагон, які кіруе плытом з дапамогаю жэрдкі-руля. Як плыт летам разбіло, та ўсю віну на міне звалілі, бо я тарнавым быў. Пагараны.

**Таро'пно** прысл. Страшна. Як убачыла, што чалавек ніжывы ляжыць, та стало неяк таропно. Адэльск.

**Тарпанты'на** ж. Шкіпінар. Некалі тарпантыну цэлымі бутлямі ладавалі ў вагоны і адпраўлялі за граніцу. Рыбніца.

**Тарцыя'рка** ж. Багамольная жанчына, якая дала абяцанне кожны дзень хадзіць у касцёл. Хто ні ведае гэту тарцыярку! Тулькі ў касцелі і прападае, а кожнаго абгаворыць, ачарніць. Эйсманты.

**Тасе'мка** ж. Тасёмка, вузенькая стужка, паясок. Гэтымі тасемкамі мы збанке ўвязвалі, як у поле палудзень бралі, самы іх ткалі. Кавалічы.

**Тасцё'ва** ж. Цешча. Тасцёва мая жыць ні давала, наводзіла жонку, кап сварыліса, пакуль асобно ні сталі жыць. Брузгі.

**Та'та** м. Бацька, тата. У нас кажуць "тата", а ў Пагаранах — "тато", а чаму так, ні ведаю. Малахавічы.

**Та'то** м. Бацька, тата. Тата наш памярлі ў восімдзісят рок, ужэ ў нас праўнучкі былі. Пагараны. Той рок татаві зрабілі апярацыю на сляпую кішку, і жыво паправіўсо. Рацічы.

**Та'тусь** н. Бацька, тата. Татусь да касцёла пашлі, а мама недзе ў хаці. Рацічы. Як татусь быў, та і гаспадарка трымаласа, а ціпер усё прахам пашло. Сапоцкін.

**Таўжэ'ш** часц. Няўжо, хіба. Таўжэш гэта

праўда была? Выдумаў нешто і пляце. Кунцаўшчына.

**Таўкані'ца** ж. Невялікая бочачка для захоўвання здору. Таму і таўканіца, што ў ёй таўклі ўнутранае сала, яно ў ёй і стаяло. Прыгодзічы.

**Таўка'ч** м. 1. Таўкач, мя'ла. Ні стой, вазьмі таўкач ды бульбу свіням патаўчы, пакуль ні астыла. Бакуны. 2. Перан.: непаваротлівы, няспрытны чалавек. Пакуль гэты таўкач павернецца, та можно туды і назад збегаць. Круглікі.

**Таўку'нчыкі** мн. Камары, што лётаюць на адным месцы. Глянь, як таўкунчыкі мак таўкуць. Жукевічы.

**Таўпі'цца** незак. Тоўпіцца. Пайдзі пагглядзі, чаго гэта людзі таўпяцца, мо якое віно добра прывязлі. Рыбніца.

**Таўчы'** незак. 1. Здрабняць. Мы крупэ самы таўклі, бо млін далёко быў, рукі паадбірае, пакуль натаўчэш с пуд. Сухмяні. 2. Перан.: біць, штурхаць, здзеквацца. Што ты таўчэш яго, ён і так ледво жыве. Палаткова. Таўчы воду ў ступі — гаварыць адно і тое ж, несці бязглуздзіцу. Выключы гэты тэлевізар, а то таўкуць воду ў ступі, німа на што слухаць. Грыўкі.

**Таўчы'са** незак. Таўчыся. Таўчэцца як Марко па пеклі /прымаўка/. Капцёўка.

**Таўшчы'р** ж. Таўшчыня. Але ж і таўшчыр баба, да яе страшно патходзіць. Дубаўка.

**Тахт** м. Такт. Якаў іграў на гармоніку і адбіваў тахт нагою. Свіслач.

**Твары'ло** н. Яма для захоўвання бульбы. Як прышла замуж, та ніяк ні ведала, што гэта за тварыло, а зноў — яма, дзе бульбу сыплюць. Скамарошкі.

**Тлума'ч** м. Перакладчык. Тут трэбо добраго тлумача, каб разабрацца, што ён нагаварыў. Рагачы.

**Тлума'чыць** незак. Тлумачыць, перакладаць. Ён мне тлумачыў, тлумачыў, а я і зноў ні ведаю, што рабіць. Радзевічы.

**Тлу'стасць** ж. Тлушч, здор. Але ж і наварыла капусты, адна тлустасць, ні прадуць. Адэльск.

**Тлу'сты** прым. Тлусты. Я тлустаго мяса даўно ні ем, бо шкодзіць старому. Хваты.

**Тнуць** незак. 1. Іграць. Тне гармонік на ўсю хату, а яны аж на галавах ходзяць, скачуць. Кунцаўшчына. 2. Кусаць, сячы. Пчолы ўзлаваліса, тнуць, ні вытрымаць. Кавалічы.

**Той** займ. Той. Той, хто дарогі пытае — ні блудзіць /выслоўе/. Індура.

**Ток** м. Ток, месца ў адрыне для малацьбы. Ток зусім выбіўсо, у ямах, малаціць німа як. Круглікі. Га-га-га! Сарока прыляцела здалёка, села на таку ды ў чырвоным каўпаку /калыханка/. Свіслач.

**Толк** м. Толк, сэнс, карысць. Ты да яго гавары, а толку мало: ён і ў той бок ні ўзіраецца. Агароднікі. Каб хоць толк які з гэтаго быў, та можно было б і рабіць. Грандзічы. Толку -ні на голку /прымаўка/. Баброўнікі.

**То'паль** м. Таполя. На Мацейчыкавым топалі бусел вёўсо, аш пакуль гэтыя олухі ні спілавалі. Кунцаўшчына.

**То'пкі** прым. 1. Тлусты; які дае многа тлушчу пры тапленні. Сланіна ў гэтым року ні тоўста, але даволі топка, бо малака свіням падлівалі. Дарашэвічы. 2. Гразкі, багністы, небяспечны. Кажуць, самае топкае месца ў Свіслачы — каля палацу, там ні адзін нырнуў і ні вышаў. Карозічы. Там балото топкае, мы тулькі зімой хадзілі. Табала.

**То'пко** прысл. Гразка, багніста. Ні лезь, там топко, правалішса і ні вылязеш. Дарашэвічы.

**То'плены** дзеепрым. Топлены, адтоплены. Гэта малако ў печы ні руш, яно топлена, на сыр пойдзе. Хамякі.

**То'рба** ж. 1. Кайстра, дарожная торба, заплечны мяшок. У яго такі парадак, як ў дурного ў торбі /прыказка/. Верцялішкі. Кап ты пайшоў с торбай па свеці! /праклён/. Саволеўка. 2. Мяшок, з якога кормяць каня ў дарозе. Пачапі торбу каню, хай трошкі пераесць. Цвіклічы.

**То'рбачка** ж. Невялікая кайстра з белага палатна. Торбачку ні забудзьса ўзяць, я там палажыла што трэбо. Сухая Даліна.

**Торг** м. Кірмаш. Торг быў багаты, што хочаш можно было купіць, абы грошы. Літвінкі.

**То'рпа** ж. Торф. Мы ні палілі торпай сколькі жывем, гэта дзе балото было, там палілі. Свіслач.

**То'ўба** ж. Пра тоўстую, здаравенную жанчыну. Гэту тоўбу трэбо на вос патсаджваць, сама ўжэ ні дае рады залезьці. Карозічы.

**То'ўстая** прым. Цяжарная. Яшчэ дзіця ад зямлі ні адрасло, а яна ізноў тоўстая ходзіць. Каўпакі.

**То'ўсты** прым. Таўсты, шырокі. Гэты рок у нас тоўста сало, мо больш як на пядзю. Балічы.

**Траі'ць** незак. Тройчы араць глебу пад азімыя пасевы. Хто свае поле троіць, той хлеб заўсёды нажом кроіць /прыказка/. Квасоўка.

**Тракт** м. Тракт, гасцінец, шлях. Гэтым трактам да Гродна і даедзеш, найбліжай будзя. Старая Дубавая. Па гэтаму тракту, кажуць, Напалеон ішоў. Путна.

**Трактава'ць** незак. Меркаваць, думаць, разважаць, ацэньваць. Як ты трактуяш, ці праўда гэта, што на яго гаворач. Гарны.

**Тралё'ўка** ж. Вывазка бярвенняў з лесу на дарогу для далейшай транспарціроўкі. Гэта тралёўка нам даласа, каня чысто дабіў, пакуль усё вытралявалі. Струбка.

**Тралява'ць** незак. 1. Вывозіць бярвенні з лесу на дарогу. Прас такі гушчар тралявач будзе цяшко, але нічого, брат, ні парадзіш. Зарубічы. 2. Выцягваць, выкочваць бярвенні з ракі на бераг. Плытэ прышлі, заўтро трэбо тралявач на бераг. Дарашэвічы.

**Трамкаце'ць** незак. Мільгацець, стракацець, мігцець, мільгаць. У вачах трамкаціць, нічого ні бачу. Свіслач.

**Трамце'ць** незак. Тое, што і трамкацець. На мароз, відаць, збіраецца, бо зоркі аш трамцяць. Гібулічы.

**Трані'ло** н. Дэталь у возе ў выглядзе развілкі, якая прыдае ўстойлівасць задняй частцы воза. Траніло нешто добро ні трымая, трэбо як кольвек ды нова зрабіць. Рацічы.

**Транса'ва** ж. Дрыгва, багна, топкае месца. За Рудавіцамі была такая трансава, што ні прайсці, ні праехаць, а ціпер хоць бокам каціса — сухо. Свіслач.

**Тра'нты** мн. Лахмоцце, паношаныя рэчы, лахманы, рыззё, анучы. Бяры свае транты і ідзі адгэтуль, пакуль цэлы. Зарыца.

**Трапа'ць** незак. 1. Дзерці, зношваць. Я свайму па дзве пары ботаў на год купляю, не шкадуючы трэпле. Баранава. 2. Апрацоўваць лён ад кастры трапачкай /лёгкай плоскай жэрдачкай/. Бывало, лён з нідзелю трэплем, столькі яго ў нас было. Дубаўка. 3. Перан.: ісці пехатой. Хай яго халера, такую далеч трапаць, ляпей заўтро паеду. Літвінкі. Трапаць языком — гаварыць без толку, малоць лухту, малоць языком. Каб ён менш языком трапаў, та да гэтаго ні дайшло б. Чэхаўшчызна.

**Трапа'ч** м. 1. Рушнік. Прынясі трапач, хай госці рукі памыюць, вытруць. Гожа. 2. Перан.: пустаслоў, пустамалот, балбатун. Яму ніякай веры німа, гэта ш трапач, што хочаш нагаворыць. Лікоўка.

**Трапа'чка** ж. Драўляная прылада ў выглядзе плоскай жэрдачкі для трапання лёну. Трапачку робяць з берасту, каб вашкай была і моцнай. Віцькі.

**Тра'піцца** зак. Папасціся, сустрэцца, знайсціся. Сваякоў много, а як трапіцца бяда, та ніхто ні паможа. Круглікі.

**Тра'піць** зак. Папасці, апынуцца, аказацца. Ідзі просто і якрас трапіш на сваю дарогу. Зарубічы.

**Трапло'** н. 1. Тое, што і трапачка. Учора як папамахала гэтым траплом, та дзісь рукі ні чую, так баліць. Парэчча. 2. Перан.: пустаслоў, пустамалот, балбатун. Я думаў, ён чалавек, а зноў — трапло нека, усё растрапаў. Парэчча.

**Трасіна'** ж. Дрыгва, багна. Ціпер трасіны німа, а даўней коні завальваліса, вяроўкамі даставалі. Забагонікі.

**Трасні'к** м. Трыснёг, чарот. На нашым балоці сена добраго ні возьмяш, адзін траснік рос. Лікоўка.

**Тра'сца** ж. Трасца, ліхаманка, гарачка. На гародзі, на мяжэ сава яйца нясе, а хто любіць ды пакіня, няхай трасца трасе /прыпеўка/. Рудавіца. Кажуць, трас-

цу камарэ балотныя разносілі, ціпер рэтко хто на трасцу хварэе. Старая Дубавая.

**Трасце'** н. Тонкія пласцінкі, асаджаныя ўпоперак у бёрдах /дэталь кроснаў /. Былі бёрда жалезныя, та ў іх трасце жалезна, а ў дзеравяных — з цвёрдаго дзерава. Свіслач.

**Трасціна'** ж. Трыснёг, чарот. Як з бежанства прыехалі, та жалі трасціну, вязалі парке і гэдак хаты крылі. Сухая Даліна. Мы, малыя, з трасціны паплаўке сабе рабілі, плавалі на іх па рэчцы. Лікоўка.

**Трася'нка** ж. Корм для жывёлы з саломы, перамешанай з сенам. Сена рэтко ў каго даволі было, больш трасянку каровам давалі. Кунцаўшчына.

**Трахт** м. Тракт, гасцінец, шлях. Гэты трахт ідзе з Адэльска на Кузніцу, а тады на Белысток ў Польшчу. Старая Дубавая.

**Траці'ны** мн. Пілавінне, апілкі. Пры паляках дораго дрова каштавалі, та нікаторыя траціны ў тартаку бралі і палілі імі. Ласосна.

**Траця'к** м. 1. Старая мера зямлі /каля 4 га/. На трацяку ашчэ можно было жыць, а на чацьвяртаку — ужэ цяшко, хлеба да каляд і таго ні ставало. Кунцаўшчына. 2. У значэнні: трэці па ліку. Ні прашло і паўгадзіны, як бачу, з гэтаго самаго вуляя — ашчэ адзін рой, трацяк вышаў, на грушу сеў. Гродна. 3. Дзіцячая гульня, галоўная фігура ў гэтай гульні. Стаім па двое, адзін за адным, а трэці, трацяк, ходзіць па кругу, кап стаць за кім, тады першы ўцякае. Кунцаўшчына.

**Траю'радны** прым. Траюрадны, у трэцяй стрэчы. Ён мне далёкі свяк, траюрадным братам прыходзіцца. Кулёўцы.

**Трая'кі** прым. Трох відаў, гатункаў. А у полі каліна траяка, а я мела мужапіяка /з нар. песні/. Пагараны.

**Тро'пнуць** зак. Моцна стукнуць, ударыць. Дзіця зусім ні вінавата, а ён як тропне яго па галаве, і кап сказаў — за што? Лаша.

**Трохсце'нак** м. Прыбудоўка з трох сцен. Прыставіў трохсценак да адрыны, будзе хоць гоўцам дзе стаяць. Кунцаўшчына.

**Трубі'ць** незак. Сігналіць. Нешто машына пад акном іхнім трубіла, але ніхто ні выходзіў. Пракопавічы.

**Тру'дніцца** незак. У значэнні: пакутаваць ад болю. Кажуць, ён натто трудніўса, пакуль сканаў, грахі, відаць, ні давалі. Круглікі.

**Труды'** мн. Турботы, клопаты, намаганні. А колькі трудоў трэбо было, пакуль хату паставілі. Баранава.

**Тру'нак** м. Алкагольны напітак. Кожны трунак чалавеку шкодны, але ўсероўно п'юць. Занявічы.

**Труска'ўкі** мн., ж. Клубніцы, трускалкі, агароднія суніцы. Я ў готым року за трускаўкі ўзяў рублёў трыста. Во што трэбо садзіць, а ні бульбу! Зарыца.

**Трутнё'ўка** ж. Пчаліная матка, якая закладвае толькі трутнёвы расплод. Трэбо найперш трутнёўку ліквідаваць, а то ўлей згіне і мёду ні будзе. Дубніца.

**Труто'ўка** ж. Тое, што і трутнёўка. Мусі ў сінім уляі трутоўка завяласа, трутнёвы расплод кладзе, як яе вывясці? Грынёўка.

**Трухіня'ць** незак. Бегчы трушком, трухаць. Конь слабы, ледво трухіняе, дзе тут яго пагоніш. Кунцаўшчына.

**Трухле'й** м. Хваравіты чалавек. Ты паглядзі на гэтаго старого, здаецца, трухлей, а ўсероўно нешто робіць. Круглікі.

**Трухля'вы** прым. Трухлявы, спарахнелы, гнілы. Каля трухлявай вярбы бачыў фундамент? Гэта там некалі карчма стаяла. Цвіклічы.

**Трухля'ціна** ж. Рэчы, прадметы, сапсаваныя гніллю; гніль, парахня. Хата зусім згніла, разбіралі — адна трухляціна. Гожа.

**Трухце'ць** незак. Бегчы трушком, трухаць. Не жані так кабылы, а то жарабя атстане, бачыш, ледво трухціць. Рагачы.

**Тру'цень** м. Труцень. Глядзі, як пчолы восеню выцягваюць трутняў з уляя, як быкоў, а яны ўпіраюцца. Каўпакі.

**Трушко'м** прысл. Трушком. На худой кабылі ехаць трушком — адна мука, чысто ззаб'ешса, ужэ ляпеў пехатой ісці. Радзявічы.

**Тры'ба** ж. Прасека ў лесе для лакаліза-

цыі ачага пажару. На трыбе ў гэтым року грыбоў многа, як пойдзяш, та адных баравікоў кош прывалачэш. Копанікі.

**Трыбу'х** м. 1. Страўнік. Мой трыбух нібы калода, і без бульбы німа ходу /прыпеўка/. Баброўня. 2. Вялікі тоўсты жывот /неадабр./. Чалавека німа з яго, адзін трыбух стырчыць, дзе яму дацягнуць да пэнсіі. Клачкі.

**Трыбуха'ты** прым. У значэнні: з вялікім жыватом. Купіў неку кабылу трыбухату, думаў, жаробна, а зноў дзе там. Пяслі.

**Трыбуха'ч** м. Пра чалавека з вялікім жыватом /пагард./. Гэты трыбухач можа літар адзін уставіць, і ні пазнаеш, што выпіў. Саломенка.

**Трыбухе'** мн. Вантробы. Трыбухе гэта ўжэ апошняя яда была, безработныя толькі куплялі. Гродна.

**Трыбушо'к** м. Жывоцік /жарт./. Здаецца, і нідаўно начальнікам стаў, а трыбушок ужэ атпусціў. Свіслач.

**Трыва'лы** прым. Трывалы, вынослівы, стойкі, загартаваны. Каб ён ні быў такім трывалым, та ўжэ даўно ногі выцягнуў бы. Рудавіца.

**Трыва'льнейшы** дзеепрым. Больш пажыўны, каларыйны. Чорны хлеп трывальнейшы за белы, таму яго рабочыя і ядуць, а не панэ. Свіслач.

**Трыва'ць** незак. Цярпець, вытрымліваць, пераносіць. Ужэ яны настолькі мне збрыдлі, што больш трываць я ні мог, плюнуў і пайшоў. Квасоўка.

**Трыгу'біца** ж. Рыбалоўная прылада, якая мае тры сеткі з розным памерам вочак. У нашым сяле трыгубіца рэтко ў каго была, бо ні так многа трэбо, каб звязаць яе. Дарашэвічы.

**Тры'ер** м. Сельскагаспадарчая машына для ачысткі і сартыроўкі насення. Тато перат сяўбой заўсёды вазіў пшаніцу на трыер, так ні сеяў. Няцечы.

**Тры** кро'лі мн. Рэлігійнае свята ў католікаў, вадохрышча. У нас на Тры кролі кідалі ў студню зробленыя в кіёчкаў крыжыкі. Як хто вядром дастане, та лічыласа велькім шчасцем. Брузгі.

**Трыма'ць** незак. Трымаць, дзяржаць. Ціпер дзіцей трэбо ў руках трымаць, а то пойдуць у пустапаш. Путрышкі. Трымаць фасон — трымацца з гонарам. Ну, брат, ні падай духам, трымай фасон. Палаткова. Трымаць хвост пісталетам — мужацца, не падаць духам. Ён хоць нічого ні мае, але хвост пісталетам трымае /прымаўка/. Кунцаўшчына.

**Тры'мкаць** незак. Няўмела іграць на струнным інструменце. Кінуў бы трымкаць, ні ўмеяш — ні бярыса іграць. Белева.

**Трымце'ць** незак. Мільгаць, міхцець. Некі агеньчык у полі трымціць, мусі, хлопцы бульбу пякуць. Кунцаўшчына.

**Трында'** м., ж. Пустаслоў, пустамалот, балбатун. Гэты трында ўсё разнёс, расплёскаў, а ціпер на нас шышкі валяцца. Каленікі.

**Тры'ндзіць** незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што. Памаўчаў бы ляпей, чым трындзіць усялякае глупство. Баброўнікі.

**Трындо'ла** м., ж. Тое, што і трында. Гэта трындола як пойдзе па хатах, та забудзецца, што ў яго дзеці есць. Рудавіцы.

**Трындо'ліць** незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што, несці лухту. От, трындоліш, што сліна да гуп прынясе. Квасоўка.

**Тры'нкаць** незак. 1. Ісці /жарт./; ступаць частымі і дробнымі крокамі. Ты куды гэта зноў трынкаеш, табе работы ў хаці німа ці што? Лаша. 2. Выпіваць /неадабр./. Мой прывучыўсо кажды дзень трынкаць, і рады німа. Зарубічы.

**Трыно'жак** м. Трыножак. Летам мы варылі вячэру на прыпячку, на трыношку, у пячэ ні палілі. Баброўнікі.

**Трыно'жыць** незак. Путаць каня за дзве пярэднія і адну заднюю ногі. У нас была кабыла булана, та яе трыножылі, бо ўцякала с пашы. Кунцаўшчына.

**Тры'нчык** м. Невялікі рэмень, дзяга. Зараз як вазьму трынчык, та хутко вас паміру, каль ніяк ні памірыцеса. Кунцаўшчына.

**Тры'ца** ж. Дэталь у калаўроце ў выглядзе драўлянага кольца, праз якое шнурам

перадаецца рух шпульцы. Трыцу паткруці ляпей, а то шпулька добра ні цягне. Бакуны.

**Трэ'бо** безас. Трэба, патрэбна. Трэбо ўжэ дэбаць да хаты, а то жонка чакае. Пагараны.

**Трэ'ліць** незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што. Што ты трэліш, слухаць ні хочацца. Пяслі.

**Трэ'нты** мн. Лахмоцце, паношаныя рэчы, лахманы, рыззё. Калі ты скіняш гэтыя трэнты, у цібе што, адзежы лепшай німа? Палаткова.

**Трэ'пы** мн. Басаножкі. Летам я ў трэпах заўсёды хаджу, так нагам здаравей, ні парыць. Занявічы.

**Трэ'ска** ж. Трэска. Трэскі сухія, добро вячэру варыць, у момант –і гатова. Дэкалавічы.

**Трэ'снуць** зак. Лопнуць. Што яму салаўіныя песні — спявай, хоць трэсні /прымаўка/. Карозічы.

**Трэф** м. Мяса, якое не дазвалялася есці веруючым яўрэям. Яўрэі толькі пярэднюю часть валоваго мяса елі, а на заднюю казалі "трэф", гоям прадавалі. Азёры.

**Ту'балец** м. Тубылец, старажыл, тутэйшы. Там ты ніякаго голасу ні маяш, бо ты ні тубалец, ні тутэйшы. Кунцаўшчына. Ён лічыць сябе тубальцам, бо даўно тут жыве. Рагачы.

**Тудо'й** прысл. Там, той дарогай. Ляпей пойдзямо тудой, там будзя сушэй. Луцкаўляны

**Тудэ'** прысл. Туды, там, той дарогай. Ідзеце тудэ, там мост будзе, пяройдзеце. Парэчча.

**Тудэ'мі** прысл. Туды. Тудэмі мы хадзілі некалі па грыбэ. Стральцы.

**Ту'заць** незак. Тузаць, торгаць. Што ты міне ўсе тузаеш, сказаў бы, чаго хочаш. Лаша. Чую, нешто тузае міне за ногу. Баброўня.

**Ту'ко** прысл. Толькі. Туко мы вышлі с хаты, а зноў бачым: немцы ідуць. Азёры.

**Ту'лькі,** ту'лько прысл. Толькі. Мы чакалі тулькі, кап сцямнело. Баранава. Ён тулько і глядзіць, хто да каго пайшоў. Малая Жорнаўка.

**Ту'мар** м. Вялікі кусок. Я не шкадуючы дала хлеба пастуху, адрэзала цэлы тумар. Агароднікі.

**Ту'паць** незак. Тупаць, хадзіць не спяшаючыся. От, тупаю сабе памаленьку, пакуль ногі гнуцца. Караліно.

**Ту'пкі** прым. Уезджаны, убіты, утрамбаваны. Да Міневіч тупкая дарога, можно і з цянжарам ехаць. Свіслач.

**Ту'птаць** незак. Тупаць, хадзіць паціху, не спяшаючыся. Цэлы дзень туптаў каля хаты, здаецца, ніц ні рабіў, а ног ні чую. Круглікі.

**Туп-туп.** У значэнні: ідзі, хадзі /у дачыненні да дзяцей/. Ну, туп-туп, Валодзік, ношкамі жывей да мамы. Скідаль.

**Ту'рак** м. Мядзведка, насякомае з тоўстым целам, пакрытым кароткімі валаскамі, якое жыве ў зямлі, з'яўляецца шкоднікам сельскагаспадарчых культур. Турак, бо вечарамі туркаціць у полі. Караневічы.

**Турбава'ць** незак. Турбаваць, непакоіць, трывожыць. Ні хачу вас больш турбаваць, але мушу. Круглікі.

**Турба'цыя** ж. Турбота, клопат. Нашто мне здаласа гэта турбацыя, што я з гэтаго буду мець. Рагачы.

**Тубі'на** ж. Турбіна, вялікае кола ў вадзяным млыне. Як глянеш, та вада ў турбіні аш дпеніцца, шуміць. Бакуны.

**Турбо'та** ж. Турбота, клопат. У міне турботы да самай суботы /прымаўка/. Кунцаўшчына. Адны турботы ў яе, хвілінкі вольнай ні мая. Славічы.

**Ту'рзаць** незак. 1. Тузаць, торгаць, цягнуць. Яго ўсё жыце турзалі, ні дзіво, што здаровя німа. Рацічы. 2. Торгаць /аб болі/. Нешто палец турзае, мусі нарываць будзя. Рацічы.

**Туркаце'ць** незак. Пра веснавы працяглы крык /спеў/ жабаў-жарлянак. Як выйдзеш вечарам за адрыну, та луг аж разлягаецца, так жабы туркацяць. Кунцаўшчына.

**Ту'ркаўка** ж. Мядзведка; тое, што і турак. Туркаўка, як ціха пагода, та за нашымі гарадамі туркаціць і туркаціць. Табольская Будка.

**Туркачэ'** мн., м. Жабы-жарлянкі. Туркачэ туркацяць — пара лён сеяць /нар.

прыкм./. Хамякі.

**Турча'к** м. Мядзведка; тое, што і турак, туркаўка. Увесь вечар турчак туркаціць і туркаціць, а дзе ён — ніхто ні знойдзе яго. Адэльск.

**Ту'така** прысл. Тут. Тутака вы ні пераедзяця, броду німа, глыбоко. Балічы.

**Тутэ'йшы** прым. Мясцовы, тубылец, старажыл. Ты, мусі, ні тутэйшы, калі»здрастуй» кажаш, у нас кажуць «добры дзень». Стральцы. Мы тутэйшыя, і нам трэбо тут жыць. Парэчча.

**Ты'дзень** м. Тыдзень. За тыдзень вялікдзень будзе, тады і разгавеямса. Гарны. За тыдзень — вялікдзень, ні я б'ю, вярба б'е.../ з нар. прычытванняў/. Лаша. Якое гэта лето, дождж як пачаў, та два тыдні ліў і ні пераставаў. Луцкаўляны.

**Ты'днічак** м. Тыдзень /памянш./. Каб яшчэ які тыднічак прайшоў, та больш пчолы ні раіліса б. Дзекалавічы.

**Ты'ле** прысл. Столькі. Гэта ш тыле часу прашло, а ён нават пальцам ні кіўнуў. Караліно.

**Ты'ля** прысл. Столькі. Тыля яго ўчылі, а розуму на капейку німа. Ласосна.

**Тым** пэ'ндам — У значэнні: адразу, неадкладна, зараз жа, хутка. Бяжы, накажы дзеду і кап тым пэндам назад вярнуўсо. Сухая Даліна.

**Тым** ча'сам — У значэнні: адначасова з гэтым, у той самы момант. Вы тут пасядзеця, а мы тым часам на рэчку збегаям, пакупаямсо. Жукевічы.

**Тымчасо'ва** прысл. Часова, дачасу. Тымчасово прыладзіліса ў швагра жыць, а там бачыць будзем. Батароўка.

**Тымчасо'вы** прым. Часовы, непастаянны. Гэта работа ў міне тымчасова, трохі асвойчуса — лепшу знайду. Грыўкі.

**Тынк** м. Тынкоўка. Пачакай, хай тынк патсохне, тады і пабелку зробімо. Гродна.

**Тынкава'ць** незак. Тынкаваць. Некалі тынкавалі толькі мужчыны, а ціпер, глядзіш, усе дзяўчата тынкуюць. Квасоўка.

**Ты'раць** незак. Цяжка працаваць /груб./. Каб я тыраў так, як ты, та ўжэ даўно машыну сваю меў бы. Вішнявец.

**Тыры'ндзіць** незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што. Пакінь тырындзіць, а то куры сміяцца будуць. Каленікі. Што ты тырындзіш, ці ж гэта праўда была? Капцёўка.

**Ты'сячны** м. Службовая асоба пры царскай уладзе. Тысячны падчыняўса асэсару, ён глядзеў, каб усюды парадак быў. Вялікае Дзямідкава.

**Тыць** незак. Таўсцець. Яна нічого ні робіць, сядзіць у хаці, таму і тые так. Каўпакі.

**Ты'чка** ж. Тычка, вяха. А жывую крынічаньку тычкай пэратычу, а я свайго міленькаго да се пераклічу / прыпеўка /. Рудавіцы.

**Тэ'бяль** м. 1. Драўляны шып, пры дапамозе якога злучаюць бярвенні ў сцяне. Як сцены на тэблі добро ўзяты, та век будуць стаяць, ні выкруцяцца. Дзекалавічы. 2. Вялікі свердзел для выкручвання дзірак у бярвеннях пад тэблі /драўляныя шыпы/. Я хатаў даўно ні стаўлю, а тэбаль хай будзе, мо спатрэбіцца. Дзекалавічы.

**Тэж** прысл. Таксама. Яго бацько тэж быў вядомым чалавекам, усе яго зналі. Ланявічы.

**Тэ'нча** ж. Вясёлка, радуга. Кажуць, калі хто будзя стаяць блізко тэнчы, та яна схопіць і кіня на другі бок ракі. Бакуны. Тэнча воду збірае, патопу больш ні будзя. Мішкенікі.

**Тэ'нчыць** незак. Кленчыць, настойліва прасіць, дамагацца просьбамі. Чаго ты тэнчыш тут, усероўно нічого ні будзе. Кунцаўшчына. Я бы на яго месцы так ні тэнчыў, трэбо нейкі гонар мець. Квасоўка.

**Тэ'рас** прысл. Цяпер. Тэрас другія часы насталі, усероўно — шляхціц ты ці не. Хліставічы.

**Тэ'чка** ж. Партфель. Узяў тэчку і ходзіць сабе, як які ўжэннік. Навумавічы.

# У

**Убіва'цца** незак. Гараваць, бедаваць, пакутаваць. Дзе'цятко, ні трэбо так убівацца, ты тата с труны ні падымяш. Плавы.

**Убо'гі** прым. 1. Марны, мізэрны, слабы. У гэтым року ўраджай будзя ўбогі, паглядзі, як збожа павымакало. Занявічы. 2. Жабрачы, крайне бедны. Убогаму чалавеку нічого ні даць — гэта велькі грэх. Хліставічы.

**Убо'й** м. 1. Пра павольнага каня. З гэтым убоям нічого ні зробіш, хочаш — бі яго, хочаш — агонь кладзі пад ім, з месца ні пойдзя. Бакуны. 2. Перан.: пра чалавека з упартым, флегматычным характарам. З гэтым убоем нічого зрабіць ні магу, ты яму кажы, а ён па-сваему робіць. Пяслі.

**Убра'не** н. Адзенне. Яна ўсялякае ўбране мае, вядомо, адна дачка ў бацькоў, панакуплялі. Лугавая.

**Убу'хаць** зак. Ужы'ць, затраціць больш, чым трэба. Гэта ш столькі грошай убухалі на гэту хату, а жыць німа дзе. Польныя Багатыры.

**Увабра'ць** зак. Убраць з поля /пра збажыну /. Я вам добро казаў, трэбо было ўвабраць жыто да дажджу, а ціпер папастаіць, пакуль высахне. Грабяні.

**Увалі'ць** зак. Моцна ўдарыць, выцяць / груб./. Трэбо было ўваліць яму пару грымакоў у плечы, каб больш ні соваўсо. Грынёўка.

**Увары'цца** зак. Змарыцца ад цяжкадушнага надвор'я; моцна прапацець. Гарачыня, ні дыхнуць, чысто ўварыўсо, каб якая хоць хмарка надышла. Батароўка.

**Увахо'дзіны** мн. Уходзіны, наваселле. Учора ўваходзіны былі, у новай хаці жывем, ні там, дзе жылі. Верцялішкі.

**Увэ'дзгаць** зак. Забрудзіць, запэцкаць. Ты дзе гэта спадніцу ўвэдзгала, паглядзі, што з яе робіцца. Вішнявец.

**Уга'** выкл. Вокліч, якім адганяюць ваўка. Уга! Уга! Ваўка!.. Уга!.. Кунцаўшчына.

**Угле'дзець** зак. Убачыць. Добро, што хоць і позно, але ўгледзелі, а так прапаў бы мой рой. Каленікі.

**Угляда'цца** незак. Глядзець, пазіраць. Ні трэбо так скасо на міне ўглядацца, я тут ні прычам. Адэльск.

**Угнява'ць** зак. Прывесці ў стан гневу, злосці. Баюсо яго ўгнявіць, а то бяда будзе, усім дастанецца. Зарыца.

**Уго'р** м. Вугор, рыба атрада касцістых, падобна на змяю. Я ўгра ні ем, гаткі; як чалавек утапіўсо, та ён у гэтаго тапельца залез і сядзеў у ім. Аднаго тапельца дасталі, та аш тры ўгры ў ім было. Угор жывучы, кіняш на патэльню, а ён смажыцца і круціцца, выжыткоўваецца, можа выскачыць. Ласосна.

**Угрэ'** мн. м. Вугры; невялікія бугаркі на скуры, утвораныя тлушчавымі пробкамі. У яе ўгры на твары, а так дзеўка — адным словам, файна. Кавалічы. 2. Бугаркі на скуры жывёлы, утвораныя лічынкамі аваднёў. Летам, слонца як прыпячэ, ўгрэ самы з-пад скуры каровы вылазяць, падаюць на траву. Ланявічы.

**Угрэ'ць** зак. Моцна ўдарыць /груб./. Я яму добро ўгрэў, ён міне доўго будзе помніць. Цыдовічы.

**Удаста'тку** прысл. Удосталь, уволю. Ціпер, дзякаваць Богу, маем усяго ўдастатку, маем хлеб і да хлеба. Адэльск.

**Уда'ць** зак. 1. Па-здрадніцку выдаць. Ён быў удаў нас немцам, тату чуць ні схапілі, ледво ўцёк. Лужкі. 2. Прыкінуцца, прытварыцца. Гэта такі чалавек, ён можа ўдаць, што хворы, абы тулькі на работу ні ісці. Пракопавічы.

**Уда'цца** зак. 1. Накіравацца, звярнуцца. Табе с тваей хваробай трэбо было да прафэсара ўдацца ў Вільню, кажуць, травамі лечыць. Скідзель. 2. Быць удачным; даць добрыя вынікі. Іншы рок, як паршучок удасца, та выкарміш на пудоў дванаццаць і больш. Пяслі.

**Удвайне'** прысл. Удвайне; у два разы, удубальт. Я табе ўжэ ўдвайне заплаціў, ні павінен на міне крыўдзіцца. Кругляны.

**Удву'х** ліч. Двое. Яны ўсё хутко паро-

бяць, бо удвух; удвух — гэта ні адзін. Каленікі.

**Удо'валь** прысл. Удосталь, уволю. Як выраслі дзеці, усяго ўдоваль стало, ды жыць мало засталосо. Вялікае Дзямідкава.

**Удо'т** м. 1. Удод. Ведаю, што удот — гэта птушка, але я яе ні бачыла. Свіслач. 2. Перан.: пра таго, хто мае ўпарты, замкнёны характар. Ты ад гэтаго ўдота слова ні даб'ешса, стаіць як вады ў рот набраўшы. Галавачы.

**Удрэ'бязгі** прысл. Ушчэнт, удрузг. Зачыняй ад дзіцей шуфляду, а то як далезуць, та твой хрусталь удрэбязгі пераб'юць. Галынка.

**Уду'бальт** прысл. Удвайне, у два разы. Ні аддалі тады доўгу, та ціпер працэнты ўдубальт нараслі. Батароўка.

**Удубе'ць** зак. Моцна змерзнуць, акалець. Стоячы на гуліцы, чысто ўдубеў, аш трасе, зуб на зуб ні пападае. Галынка.

**Уду'ша** ж. Астма, задышка, дыхавіца. Да нашаго дзеда нека ўдуша прыстала, ні дае заснуць, кашаль мэнчыць. Гінавічы.

**Удэ'рыць** зак. Ударыць, стукнуць, выцяць. Адыдзі ад гэтаго каня, а то ўдэрыць можа, я яго ведаю. Дубаўка. Як хвойку, у якую ўдэрыў пярун, абцясаць і палажыць у зруб хаты, та ў яе пярун ужэ нігды ні ўдэрыць /з нар. павер'яў/. Брузгі. Удэрыла kроў — адбылося кравазліццё, інсульт. Яму, кажуць, удэрыла kроў у галаву, адняло руку, другая нідзеля як ляжыць. Пышкі.

**Уе'сці** зак. Скарыстаць як ежу. Ты даў такое кіслае яблыко, што ні можно яго ўесці, скому на зубы набівае. Лікоўка.

**Уж** м. 1. Вуж. Кажуць, у Азёрах у адной хаці ўж жыў, дзіця пільнаваў, нават з ім разам малако піў. Верцялішкі. 2. Гуж. Калі ўзяўсо за уж — ні кажы, што ні дуж /прымаўка/.Бандары.

**Ужы'шча** н. Доўгая вяроўка для замацавання на возе жэрдкі ў час перавозкі сена або саломы. У нас доўгае ўжышча было, ні тулькі ім прывяжаш жэртку, а і ашчэ разоў два апкруціш воз, кап сено ні выпадало. Ніжнія Пагараны.

**Ужэ'** прысл. Ужо. Хлопцы, ужэ даволі позно, трэбо ісці дахаты. Жукевічы.

**Ужэ'ннік** м. Чыноўнік, урадовец. Раман як стаў кладаўшчыком, та ходзіць ужэ з портфялям, як ужэннік. Лікоўка.

**Узаго'н** прысл. Ворыва поля пад пасевы азімых. Я с самаго лета так і начынаю гараць узагон, каб зямля добро ўлежаласа. Каленікі.

**Уза'ўтро** прысл. Заўтра. Узаўтро будзямо аб гэтым гаварыць, а ціпер ідзі спаць, ні дуры мне галавы. Гарны.

**Уздзе'чка** ж. Вуздэчка, аброць. У міне адна ўздзечка была дарагая, у салдатаў купіў, з меднымі гузікамі. Адэльск.

**Уздэ'чка** ж. Вуздэчка, аброць. Уздэчку падай, на круку вісіць, там, каля дзвярэй. Канчатка. У нас была хітра кабыла, сама ўздэчку скіне і ўцячэ. Забагонікі.

**Уз'есціса** зак. Неўзлюбіць, займець злосць /неадабр/. Прадсядацель нешто на міне ўз'еўсо, ні дае жыць, і сам ні ведаю за што. Гліняны.

**Узіра'цца** незак. Глядзець, назіраць, пазіраць. Хочаш — ні хочаш, а трэбо, сынок, узірацца, як старэйшыя людзі жывуць, вучыцца ў іх. Баранава.

**Узя'так** м. Наяўнасць у прыродзе корма для пчол. У прошлым року ўзятак з ліпы добры быў, за двое сутак так настаўку пчолы і залілі. Абуховічы.

**Узя'цца** зак. Узяцца. Лебяды тут даўно ні было, адкуль яна магла ўзяцца? Жылічы. Узяцца за чубэ — уступіць у бойку. Былі развялі, а яны і зноў узяліса за чубэ, давай цягацца па падворку. Сухая Даліна.

**Узя'ць** зак. Узяць. Зяць любіць узяць / прымаўка/. Гожа. Я ўсё думаю, адкуль грошай будзе ўзяць, кап купіць карову, каб малако было. Казіміроўка. У іх ані ўзяць, ані ўцяць, дажыліса, што нічого німа. Скідаль. Узяць на бабыгэршкі — пасадзіць малое дзіця на плечы і насіць. Пачакай, Пецік, я хачу цібе ўзяць на бабы-гэршкі, перанясці праз рэчку, тут глыбоко. Кунцаўшчына.

**У'йма** ж. Процьма, вялікае мноства, безліч. Ні дзіво, што кукуруза рэтко пасходзіла, бо гэтых грачоў тут уйма носіцца, усё павыдзёўбвалі. Салаўі.

**Ука'зчык** м. Той, хто любіць указваць, распараджацца /неадабр./. А ты мне тут ні ўказчык, можаш другому ўказваць. Саннікі.

**Укамяне'ць** зак. Зрабіцца цвёрдым, застыць /пра астыўшую бульбу/. Бульбу даўно зварыла, мусі ўкамянела стоячы, трэбо было адразу есці. Селіванаўцы.

**Укантале'жыць** зак. Забіць /жарт./. Мусі і зноў пятуха ўканталежыла, хай спяваў бы сабе. Кунцаўшчына.

**Укара'ць** зак. Пакараць, падвергнуць пакаранню. Бацькі німа, та німа каму ўкараць, хлопяц што хоча, тое і робіць. Бубны.

**Уквэ'цаць** зак. Забрудзіць, запэцкаць, замазаць. Талеркі ні памыла, а тулькі ўквэцала, ты дзе гэта бачыла, каб гэдак мылі. Зарыца.

**Укле'іць** зак. Перан.: моцна ўдарыць / жарт./. Але ж і ўклеіў хлопцу дзягай і за што ты на яго так уз'еўсо? Бычкі.

**Укля'пацца** зак. Закахацца, улюбіцца / жарт., неадабр./. Хлопец мой укляпаўсо ў неку старую дзеўку і рады німа, кажа, жаніцца будзя. Луцкаўляны.

**Уко'паны** дзеепрым. Закопаны. Гэты стоўб глыбоко ў землю ўкопаны, яго адразу ні дастанеш. Калбасіна. Як укопаны — перан.: непарушны, нерухомы.Стаў як укопаны і стаіць, з месца ні варухнецца. Палаткова.

**Укра'дкам** прысл. Крадком, употай, скрытна, цішком. Ляпей папрасі ў чалавека, а ні ўкраткам бярэш, так нідобро. Бяляны.

**Улаго'дзіць** зак. Супакоіць, заспакоіць, сцішыць, суняць, уціхамірыць. Як разышоўсо быў, та ніхто яго ні мог улагодзіць, пакуль маці ні прышла. Васілевічы.

**Уладкава'ны** дзеепрым. Уладкаваны, уладжаны. Мой сын даўно ўжэ ўлаткаваны, работу файну мае і кватэру далі. Вулькаўцы.

**Уладкава'цца** зак. Уладкавацца, уладзіцца, прыстроіцца, паступіць. Ледво змог улаткавацца на работу, казалі, усё месц німа. Галынка.

**Уладкава'ць** зак. Уладкаваць, уладзіць. Я ўсе свае справы ўлаткаваў, можно дахаты ехаць. Вярхполле.

**Ула'сць** ж. Улада. Проціў уласці, даражэнькі, ні папрэш, нічого ні зробіш. Нямейшы.

**Уле'гцы** прысл. Улегцы; без багажу, без груза; паражняком. Я як калі ўлегцы еду, та кожнаго чалавека па дарозі падвязу, бо грэх ні падвязці. Пракопавічы.

**Уле'гчыса** зак. Уцягнуцца, запрэгчыся. Здаровя ні маяш, а ўлёгса ў гэту работу і цягнеш, як вол. Ферма.

**Уле'жна** прысл. Спакойна, бестурботна. Хоць ні ўежна, але ўлежна /прымаўка/. Верцялішкі.

**У'лей** м. Вулей, пчаліная сям'я. З зімы ў міне чамусьці адзін улей прапаў, відаць, запозно патқормку даў. Грынёўка.

**У'льга** ж. Ільгота, паблажлівасць, уступка, паблажка. Пры паляках ніякай ульгі для нас ні было, плаці падаткі і ўсё, аткуль хочаш грошы бяры. Палаткова.

**Уляга'цца** незак. Захапіцца, поўнасцю аддацца занятку. Сабака штосьці ўлягаецца, брэша і брэша, модзе, які злодзяй ходзіць. Некрашы.

**Умало'т** м. Умалот, колькасць абмалочанага збожжа. Німа чаго і раўняць лонскі ўмалот з гэтым, бо тое лето было просто ўсім на дзіво. Жытомля.

**Ўману'ць** зак. Панадзіцца, унадзіцца, узяць звычай, моду. Уманулі каровы ў канюшыну лезці, і рады з імі німа. Новая Дубавая.

**Умардава'цца** зак. Замучыцца, стаміцца, змагчыся. Чысто ўмардаваласа пры гэтых бураках, ледво дахаты валакусо. Скрабляки.

**Умеркава'ць** зак. Разлічыць, зрабіць разлік, размеркаваць. Здаецца, добро муку' ўмеркавала, павінно было на цэлы месяц хапіць, а ўсероўно ні стало. Адэльск.

**Ун** выкл. Вунь. Ун, ваша карова ў шкоду палезла, выганяйця. Свіслач.

**Уна'трыць** зак. Прывыкнуць. Ён з малого ўнатрыў, каб яму ўсё, што захоча, давалі. Хамякі.

**Уначэ'** прысл. Ноччу. Хібо яму дня ні хватая, што ён і ўначэ сядзіць над гэтымі кнішкамі? Ферма.

**У'ндзе** прысл. Там. Ты шукаеш яго, а ён ундзе, стаіць з некім чалавекам. Круглікі.

**Уну'рыцца** зак. Панурыцца, апусціць галаву. Унурыцца і стаіць, як стоўб, слова ад яго ні даб'ешса, ён у міне такі. Каменка.

**У'нцыя** ж. Старая аптэчная мера вагі, роўная 29,8 грама. Узяў сабе паўтары ўнцыі соды ў аптэцы і пакуль што будзя, ні трэбо больш. Клачкі.

**Уня'ць** зак. 1. Суцішыць, суняць, супакоіць. Як пачала па мужыку вычытваць, плакаць, та ні маглі яе ўняць, чысто сплакаласа. Гушчыцы. 2. Утаймаваць. Яго толькі адзін бацько мог уняць, як ашчэ сілу меў. Капцёўка.

**Упадаба'ць** зак. Палюбіць, адчуць прывязанасць. Я ўпадабаў гэтаго чалавека, ён мне ўсероўно як родны бацько: параіць, паможа. Дуброва.

**У'пал** м. Спёка, спякота, гарачыня. Упал страшэнны, усё павысмальвало, павыгарало, хоць бы які дождж'ык пашоў. Занявічы.

**Упапяро'к** прысл. Упоперак, напоперак. Ты што да яго маяш, здаецца, ён табе ўпапярок дарогі ні стаяў. Жылічы. Упапярок дарогі ні едзь, а то машына можа наскочыць. Каменка.

**У'пар** м. Пра ўпартае дзіця. Стане як упар каля печкі, і што яму ні кажы, та як гарох ап сцену, ні слухае. Скамарошкі.

**Упарчы'вы** прым. Наравісты, упарты /пра каня/. Конь у яго ўпарчывы, як станя, та яго хоць забі, з месца ні зварухнецца. Сапоцкін.

**Упа'свіцца** зак. Распаўнець, растаўсцець, зрабіцца сытым. Але ш твая кабыла і ўпасвіласа, аж блішчыць, мусі адным гаўсом корміш? Баброўнікі.

**Упе'рці** зак. З'есці, зжэрці /груб./. Здаровы, як конь, ён табе можа адразу с кілё каўбасы ўперці. Баброўня.

**Упе'рыць** зак. Моцна ўдарыць /груб./. Як трымаў у руках граблі, так і ўперыў па нідаварку, аж лёскат пайшоў. Клачкі.

**Упі'рыць** зак. Моцна ўдарыць /груб./. Ні лезь да яго, а то можа ўпірыць, і тады будзяш ведаць. Аленічы.

**Уплята'ць** незак. З апетытам есці. Я гляджу, дзе мае мясо, а зноў бачу, пат сталом сядзіць кот і ўплятае. Александрова.

**Упо'кат** прысл. Упокат, покатам. Дзе тут было ўсіх гэтых вясельнікаў разлажыць спаць, на саломі ўсе спалі, упокат. Палаткова.

**Упо'руч** прысл. Поруч, побач, адзін каля аднаго. Яны з маладосці добро жылі, і ціпер, як сядуць упоруч, та на іх любо паглядзець. Багушоўка.

**Упо'тай** прысл. Употай, скрытна, тайком. Што гэта за чалавек: што ні робіць, та ўсе ўпотай, каб ніхто ні ведаў. Віцькі.

**Упо'тайкі** прысл. Тое, што і ўпотай. Усё ўпотайкі зрабілі, ніхто ні ведаў і ні бачыў, як тое вяселя было. Свіслач.

**Упра'віцца** зак. Ухадзіцца; справіцца з усімі работамі перад надыходам ночы. Пакуль напаіў і даў нанач жывіні, та ледво ўспеў да цямна ўправіцца. Зарыца.

**Упрака'ць** незак. Папракаць, дакараць. Ні трэбо ўпракаць мне, я і сам ведаю, што нідобро зрабіў. Казловічы.

**Упро'галадзь** прысл. Галаднавата, не даядаючы. Гэтыя пасляваенныя дзеці ўпрогаладзь жылі, але як яны ўчыліса — ні тое, што вы. Бубны.

**Упру'дзіць** зак. Моцна ўдарыць. Як маладзілі, та Іван снапоў ні развязваў, а як упрудзіць пару разоў, так перавясло і пэнкало, сноп сам развязваўсо. Луцкаўляны.

**Упрэ'ць** зак. Упрэць, упарыцца, пакрыцца потам. Упрэў, як вош, с кожнаго валаска цячэ. Батароўка. Бульба ўпрэла, можаш адцэджваць. Путрышкі.

**Упу'цкацца** зак. Запэцкацца, замазацца. Упуцкаліса, як чэрці, а ну, зараз жа мыцца! Скідаль.

**Упэ'цкаць** зак. Упэцкаць, запэцкаць, забрудзіць. Ні пускай на землю дзіця, а то можа сабе ручкі ўпэцкаць лазячы. Будоўля.

**Упяка'ць** незак. Перан.: дапякаць, выводзіць з раўнавагі, данімаць. Ні трэбо было на каждым кроку яму ўпякаць, та можа і жыў бы з табой. Бычкі.

**Урабі'ць** зак. Запэцкаць, забрудзіць. Ты

ў што гэта спадніцу так урабіла? Паглядзі, якая яна на табе. Бяляны.

**Ура'днік** м. Ураднік; ніжэйшы чын павятовай паліцыі ў царскай Расіі. Кажуць, да той вайны ў насураднікам быў некі Лукашык, ні так даўно памёр. Кавалічы.

**Ура'зіць** зак. Зняважыць, абразіць. Ні злуй на міне, я цібе ні хацеў уразіць, так толькі сказаў. Хліставічы.

**Уракчы'** зак. Сурочыць, урачы. Глядзі, ні паказвайця дзіцей гэтай бабі — ўракчы можа, у яе гочы нідобрыя. Селюкі.

**Урачы'** зак. Урачы, сурочыць. Каб баба ні магла дзіця ўрачы, трэбо тры разы плюнуць і сказаць: "Соль табе ў гочы, дзяркач у зубы, а гарачы камень — на пуп.» Круглікі.

**Уро'кі** мн. Сурокі. Я сам у гэтыя ўрокі ні веру, але людзі кажуць, што на свеце ўсё бывае. Багушоўка.

**Уро'скід** прысл. Стосаб зяблівага ворыва. На зіму пад ярыну ў нас усе ўроскід гаралі. Барбарычы.

**Уро'чнік** м. Лекавая трава, якая выкарыстоўвалася ў народнай медыцыне. Каб ведзьмы ні маглі адбіраць у кароў малака, напарыш урочніку і мыяш каровам лымя. Навасёлкі.

**Урэ'мтаць** зак. Утаймаваць, супакоіць, уняць. Як разышоўсо, та суседзі ледво змаглі яго ўрэмтаць, спаць палажылі. Пракопавічы.

**Урэ'х** м. Агрэх, прапушчаная пры ворыве лапінка на полі. Казалі: хто зробіць сеючы ўрэх на полі, та ў таго будзя мрэц, нехто памрэ /з нар. прыкметаў/. Лаша.

**Усарна'чыць** зак. Прымусіць узяць, навязаць сілком, уперці. Ні хацеў браць, та ледво яму неяк усарначыў, ні хочучы ўзяў. Зарубічы.

**Усеадно'** прысл. Усероўна. Усеадно да нас прыдзяш, нікуды ні дзенешса. Баранава.

**Усе'нькі** займ. Увесь. Колькі ў нас таго гаўса было, за два дні ўсенькі пажалі. Хамякі

**Усеро'ўно** прысл. Усё роўна. Усероўно сваго дзіцяці шкада, якое яно ні было б. Барбарычы.

**Ускy'рыць** зак. Паспець, улажыцца ў час. Думаю, што ўску'раю ўсе парабіць, пакуль яны прыедуць. Дарашэвічы.

**Услуха'цца** незак. Слухаць. Я ні хачу ўслуха'цца, што ён пляце, гэта зусім ні так было, як ён кажа. Баяры.

**Усміра'ць** незак. Утаймоўваць, уціхамірваць, супакойваць. Дзеці, ні дурэйця, а то я вас зараз дзягай усміру, усміраць я ўмею. Ялоўшчына. У хаці як падымуць неку сварку, та кожны рас трэбо ісці ўсміраць, так ні паміранца. Малая Капліца.

**Уста'ва** ж. Закон, парадак, загад. Ну, мусі, так і трэбо, калі такая ўстава; нічого ні зробіш, мусіш падчыняцца. Гібулічы.

**Усталява'цца** зак. Стаць на правільны шлях. Думалі, што з яго нічого ні будзя, ні зможа ўсталявацца, а, зноў, бачыце, што за чалавек стаў. Кругляны.

**Устаткава'цца** зак. Тое, што і ўсталявацца. Пакуль ні жаніўсо, акіяк ні мог устаткавацца, ішоў, як вецяр, а ціпер жонку слухая. Эйсманты.

**Уста'ць** зак. Устаць, падняцца. Хвароба нека да чалавека прычапіласа, з пасцелі ўстаць ні можа, ляжыць. Шэмбелеўцы. Устаць у свіныя галасы — позна ўстаць. Людзі наробяцца, а ён табе можа ўстаць ў свіныя галасы, і хоць бы што яму. Цвіклічы.

**Усто'нжка** ж. Стужка. Ты ні малая ўжэ, сама сабе можаш устоншку ўплятаць, мне надаело. Ланявічы.

**Устрапястава'ць** зак. Наслядзіць, нарабіць слядоў. Во, пусціла ў хату качанят, та ўсю падлогу ўстрапяставалі, а ціпер бяры ды мый. Рагачы.

**Устрашы'ць** зак. Запалохаць, запужаць, застрашыць. Устрашыў хлопца, баіцца да хаты свае падысці, звер, ні чалавек. Пяслі.

**Устрэ'ць** зак. Сустрэць, спаткаць. Ён пат самы вечар да нас прыедзя, та ты ідзі яго ўстрэнь, там каля мосціка. Чашчаўляны.

**Уступа'цца** незак. Абувацца на басанож. Жывей уступайса ў хадаке ды ідзі ў хлеў, карова, мусі, целіцца. Зарубічы.

**Уступі'цца** зак. Заступіцца, стаць на абарону. Ты як старэйшы павінен заўсё-

ды ўступіцца за меншаго брацiка. Пярэселка.

**Усты'д** м. Сорам. Устыду ніякаго ні маяш, да чаго ты дажыўсо с сваей гарэлкай, людзі сміюцца. Панямунь.

**Устыда'цца** незак. Сароміцца. Ён ашчэ малады, дзяўчат будзя ўстыдацца, хай з вамі ні йдзе. Пальніца.

**Устэ'рня** ж. Вялікі будынак у панскім маёнтку, у якім жылі парабкі /устар./. Ашчэ нідаўно ў Ляхнові ўстэрня стаяла, здалёк яе было відаць, чырвонай чарапіцай накрыта. Рагачы.

**Усумо'нацъ** зак. Дагадзіць, унаравіць. Я ніяк ні магу ўсумонаць яму, што ні зробіш — усе ні так, як ён хоча. Стральцы.

**Усу'нуць** зак. 1. Усунуць, усадзіць. Зусім ні бачу, ні магу ніткі ў голку ўсунуць. Капцёўка. Усунуць нос — перан.: умяшацца не ў сваю справу. І трэбо было табе свой нос усунуць, там і без цібе абышлосо б. Нямейшы.

**Усухамя'тку** прысл. Сухама, без вадкага і гарачага. Ты чаму гэта ўсухамятку хлеб ясі, вячэры ні можаш даждацца ці што? Грыўкі.

**Усхо'дзіць** незак. Усходзіць, узыходзіць. Паглядзі, як харашэ слонца ўсходзіць, пагодны дзень, відаць, будзе. Каробчыцы.

**Усце'лька** ж. Вусцілка; подсцілка ў сярэдзіне абутку, да якой мацуецца падэшва. Падэшвы нешто атстаюць, відаць, слабую ўсцельку шавец даў. Кавальцы.

**Усьмя'тку** прысл. Усмятку. Я свайму заўсёды вару яйца усьмятку, бо крутых зусім ні есць. Індура.

**У'сы** мн., м. Вусы. Ціпер нека мода пашла на ўсы. Старыя і маладыя носяць усы. Зялёная. Мы самы з усамі /прымаўка/. Капцёўка.

**Усы'паць** зак. 1. Усыпаць, насыпаць. Можа пудоў дваццаць жыта ў засек усыпаў, а мо і больш, добро ні ведаю. Зарачанка. 2. Перан.: моцна пабіць, адлупцаваць. Але ж і ўсыпаў хлопцу ні за што, ні пра што. Агароднікі.

**Уся'к** прысл. Усяк, усяляк, па-рознаму. Усяк пробаваў з ім гаварыць і нічого ні памагло, ні паслухаў міне. Запур'е.

**Усяля'к** прысл. Тое, што і ўсяк. Усяляк стараўсо перад людзьмі міне чарніць, але на яго ніхто ні ўслухаўсо. Іванаўцы.

**Усяля'кі** займ. Усякі. На нашай зямле ўсялякай нечысці пабывало, але такой ашчэ ні было. Гібулічы.

**Усяню'тко** займ. Усё /узмацн./. Я гэтай рукой усянютко раблю, хоць яна мне і баліць. Адэльск.

**Утаймава'ць** зак. 1. Утаймаваць, уціхамірыць, уняць. Жарабца нашаго толькі тато мог утаймаваць, а так нікого ні патпускаў, кусаўсо. Свіслач. 2. Перан.: затрымаць. Як абрэзаў сярпом паляц, та кроў аніяк ні мог ўтаймаваць, пакуль ні прылажыў крываўнікам. Казловічы.

**Уталантава'ць** зак. Утаптаць, выбіць / пра пасевы/. Ці ты бачыў, гэта ж за гумнамі каровы рунь чысто ўталантавалі, с карэньмі павыносілі. Ферма.

**Утало'піцца** зак. Утаропіцца. Ты чо гэта на міне ўталопіўсо, мусі ні пазнаў? Ферма.

**Утамава'ць** зак. Перан. Тое, што і ўтаймаваць у 2-м знач. У гэтым месцы рэчку аніяк ні маглі ўтамаваць, што ні кідалі, усё панясла вада, размыла. Сухая Даліна. Кроў в носа як адбіласа, та ніяк ні маглі ўтамаваць, так ішла. Рыдзелі.

**Утарна'біцца** зак. Залезці, забрацца з вялікай цяжкасцю; ускарабкацца. У аўтабус ледво ўтарнабіўсо, людзей бітком было набіто, ні павярнуцца. Каленікі.

**Утарна'біць** зак. Узваліць /узмацн./. Мяшок гэты адзін аніяк ні мог утарнабіць на воз, мусяў прасіць, кап памаглі. Кавалічы.

**Утаро'піцца** зак. Утаропіцца; утаропіць вочы, позірк. На нашу бабу нешто як надыдзя, та яна ўтаропіцца, глядзіць, кажа, што нехто ідзе да яе. Горніца.

**Утаро'піць** зак. Утаропіць /вочы, позірк/. З пасцелі, бедны, зусім ні ўстае, тулькі ўтаропіць на цібе гочы і глядзіць. Жытомля.

**Ута'хт** прысл. Аднолькава, згодна, не пярэчачы, падтакваючы. За ім гавары

тулькі ўтахт, так, як ён хоча, тады добрым будзяш. Забагонікі.

**У'тлы** прым. Хваравіты. Мой меншы зусім некі утлы, чуць што, так і зноў захварэе, ляжыць. Забалаць.

**Уто'йваць** незак. Утойваць, таіць, скрываць. Ад міне ні трэбо ўтойваць, ты ведаеш, што я нікому ні скажу. Луцкаўляны. Німа чо ўтойваць, я ўжэ даўно знаю, людзі сказалі. Жытародзь.

**Уто'к** м. Уток, папярэчныя ніці тканіны, якія пераплятаюцца з асновай. Ты на ўток прадзі ні так плоско, а круцей, каб ніці ні рваліса. Палаткова.

**Уто'пленік** м. Тапелец. Чуем, усе гавораць, што некаго ўтопленіка злавілі, ну, я таксамо пабег да рэчкі паглядзець. Свіслач.

**Уто'ры** мн. Спецыяльныя выразы ў клёпках для ўстаўкі дна ў бандарскіх вырабах. Я як устаўляю ў бочку дно, та стараюсо, каб шчыльно ўваходзіло ў ўторы, каб ніякаго лёзу ні было. Бандары.

**Уто'чкі** мн. Боты, у якіх да старых халяваў прышыты новыя перады. Халявы ашчэ добрыя, трэбо заказаць, каб Антон уточкі зрабіў, можа ашчэ з рок які прахаджу. Белева.

**У'траніца** ж. Заранка, ранішняя зорка. Паглядзі, утраніца ўзышла, на свет будзя занімацца. Бакуны.

**Утранца'цца** незак. Умешвацца. Я ў гэту справу ні буду ўтранцацца, хай робяць, як хочуць. Рацічы.

**Утра'та** ж. Страта, трата. У гэтым я ніякай утраты ні маю, свае грошы вярнуў, нават і зарабіў. Зарубічы.

**Утра'ціць** зак. Страціць, згубіць. Звязаўсо з гэтымі бабамі, та ўсю апіню ў людзей утраціў, за чалавека ніхто ні мая. Саломенка.

**Уту'лка** ж. Утулка, дэталь у коле воза ў выглядзе чыгуннай трубкі. Во, еду да каваля, утулка пэнкнула, хай нову ўставіць. Кругляны.

**Ухайда'каць** зак. Забіць, забіць напавал, зарэзаць /груб./. Нашто нам мэнчыцца, давай лепш клікнем свінабоя, і ён нам раз-два паршука ўхайдакае. Лаша.

**Ухавё'ртка** ж. Вухавёртка; грызу'чы агародні і пладовы шкоднік, які жыве ва ўцяпленні вулляў. Як у вуляі завядзецца много ўхаверткаў, та трэбо змяніць уцяпленне, іначай ні выведзяш. Табала.

**Ухапі'ць** зак. Украсці. У чалавека што ўхапіць — велькі грэх, Бог ні даруе. Лаша.

**Ухо'даваць** зак. Забіць, зарэзаць. Глядзі, бычка ўміг уходавалі, ані мэкнуў, тулькі нагамі дрыгануў. Грыўкі.

**Ухо'джвацца** незак. Уходжвацца; заканчваць работы перад надыходам ночы. Ужэ змяркае, пайду ўходжвацца; пакуль напаю, падам нанач, та і сцямнее. Луцкаўляны.

**Уце'нты** прысл. Упарты, зацяты. А то ж чалавек уценты, як упрэцца, та хоць кала яму на галаве цяшы. Бандары.

**У'ці-у'ці!** выкл. Вокліч, якім падзываюць качак. Уці-уці-уці!, хадзеця, мае качанятка, хадзеця есці. Круглікі.

**Уціхамі'рыць** зак. Уціхамірыць, утаймаваць, уняць. Яго просто німа каму ўціхамірыць, а так сеў бы, як міленькі, і ні пікнуў бы. Баброўнікі.

**Уця'цца** зак. Займець злосць, неўзлюбіць, уз'есціся. Я ведаю, за што ён на міне ўцяўсо — за тое, што праўду ў вочы яму сказаў. Адэльск.

**Уця'ць** зак. Перан.: укусіць, паесці. А ні ўцяць ні ўзяць /прымаўка /. Зарубічы.

**Уча'дзець** зак. Учадзець, атруціцца чадам. Адчыні шыбар, а то ўчадзець можно, мусі торпа ні перагарэла. Губінка. У нас двое дзіцей учадзяло, та іх труны паставілі ў цэркву; уначы яны адышлі і ў куточку замерзлі ад марозу, ляжалі адзін каля аднаго. Лаша.

**Учапе'рыцца** зак. Моцна учапіцца. Дзіця як учаперыласо за матку, та немяц ніяк ні мог адарваць, так і застрэліў. Скідаль.

**Уча'стак** м. Участак, зямельны надзел. У гэтым року цэлы ўчастак бульбай засадзілі, бо з яе найбольш карысці. Скамарошкі.

**Учо'рака** прысл. Учора. Учорака хлопцаў да войска атпраўлялі, з музыкай, сваякоў много было. Верцялішкі.

**Учэ'пісты** дзеепрым. Задзірсты, задзірлівы; схільны да боек, сварак. Ну і чалавек учэпісты, абы за што, так і прычэпіцца, так і завядзецца. Кавальцы.

**У'шалка** ж. Гушкалка, арэлі. Як малымі былі, та зробім сабе ўшалку і ўшаямсо цэлы дзень, пакуль маці ні пакліча. Копанькі.

**Уша'т** м. Цэбар. Як купім ашчэ двое парасят, та гэтаго ўшата бульбы будзя мало на раз, трэбо ашчэ будзя варыць. Бандары.

**Ушва'лак** м. Дубіна, друк, тоўстая палка. У міне ў руках быў добры ўшвалак, хай, думаю, тулькі паткнецца паліцыянт. Белева. 2. Перан.: здаровы, мажны чалавек. Што і казаць, добры ўшвалак, яго ўсе баяліса навокруг. Кунцаўшчына.

**У'шлы** прым. 1. Слабы фізічна, недаразвіты. Куранята ў гэтым року зусім некія ушлыя, мусі з іх нічого ні будзе, паздыхаюць. Дубоўка. 2. Перан.: хітры, пранырлівы. Але ж і ушлы, тулькі і глядзіць, кап каго абдурыць, упісаць ў дурні. Баранава.

**Ушпа'рыць** зак. Моцна ўдарыць. Ён як ушпарыць пугай па кабылі, так тая так панясла, што думалі, калёса паспадаюць. Казіміроўка.

**Ушпілі'ць** зак. Моцна сцебануць. Але ж і ўшпіліў карові пугай, бедна, аш прысела. Зарубічы.

**Ушчапі'ць** зак. Прышчапіць. На весну трэбо будзе ўшчапіць гэту дзічку, хай расце, ні я, та можа дзеці прыждуць. Каменка.

**Ушчэ'нт** прысл. Ушчэнт, удрузг. У гэту вайну, як нашы наступалі, та пат Пышкамі немцаў ушчэнт разбілі, мало каторы ўцёк. Ласосна.

**Ушчэ'пка** ж. Прышчэп, прышчэпка, прышчэпленая расліна. У міне ўшчэпка за рок больш як на мэтар вырасла, але вецяр зламаў. Пагараны.

**Ушыпу'ліцца** зак. Уціснуцца. Людзей поўна хата была, ледво змог ушыпуліцца паміж імі, далезці да стала. Індура.

**Ушы'тка** ж. Шыцік, рачны маленькі чарвяк, які жыве ў рухомым доміку- трубачцы. Ушытка бывае чорна і жоўта. На жоўту ўшытку рыба лепей ловіцца. Ласосна.

**Ушэ'сце** н. Рэлігійнае свята ў шэсць нядзель пасля вялікадня. Да ўшэсця царскія варота ў цэркві адчынены, а ўжэ як ушэсце пройдзе — зачынены. Зарубічы.

**Ую'н** м. Мінога ручаёвая /падклас рыбападобных жывёл/. Уюнэ ў рэчцы на пераездах круцяцца — пара лён сеяць /з нар. прыкметаў/. Лаша.

# Ф

**Фае'рка** ж. Фаерка, камфорка. Недзе падзела фаеркі і сама ні ведаю дзе. Зарыца.

**Файкава'ць** незак. Курыць. Прывык да люлькі, з зубоў ні выпускае, файкуе і файкуе. Кунцаўшчына.

**Фа'йно** прысл. Добра, прыгожа, цудоўна. Як файно зроблено, паглядзець толькі! Лаша.

**Фа'йны** прым. Добры, прыгожы, цудоўны. Каб устроіцца дзе на файну работу ў Гродні, добро было б. Казіміроўка. Файны хлопец, што і казаць. Пяслі.

**Файтла'па** м. Нязграбны чалавек /груб./ Гэтаго файтлапу і да войска ні ўзялі, бо што ён там рабіць будзе? Квасоўка.

**Фа'лда** ж. Складка. Спадніцу сабе файну пашыла, у фалды. Жукевічы. Некія фалды зрабіліса, ніяк ні разгладжу. Грыўкі.

**Фалдава'нка** ж. Гафрыраваная спадніца. Спадніца, пашытая ў фалды, складкі. У маей мамы ашчэ нідаўно фалдаванка была, святам надзявала. Эйсманты.

**Фальба'нка** ж. Саматканая спадніца, па-

шытая ў складкі. Помню, як яна да нас першы рас прышла, та была маладой, у фальбанцы пекнай. Караневічы.

**Фальцава'ць** незак. Выстругваць спецыяльным рубанкам фальцы /паглыбленні/ ў дошках. Дошкі ўжэ падсохлі, можно будзе пачаць фальцаваць. Дзекалавічы.

**Фальш** м. Абман, мана, няпраўда, хлусня. Гэта ўсё фальш, што кажа, нідзе ён ні быў, нічого ні бачыў. Каленікі.

**Фалю'ш** м. Валюшня, валюш; майстэрня, у якой валяць сукно, шэрсць. Тато сукно вазіў валяць аж да Лунай, там фалюш быў. Свіслач. Кажуць, найлепшы фалюш быў каля Гродна, але мы туды сукна валяць ні вазілі. Каўпакі.

**Фанабэ'рысты** прым. Фанабэрысты, ганарысты, зухаваты. Ён фанабэрысты кавалер быў, натта ж задаваўсо. Кунцаўшчына.

**Фанабэ'рыцца** незак. Фанабэрыцца, ганарыцца. Хоць людзі за нішто яго маюць, а ён усероўно фанабэрыцца, корчыць нешто с сібе. Рагачы.

**Фанабэ'рыя** ж. Фанабэрыстасць, ганарыстаць, пагардлівасць. А гэта што ў цібе за фанабэрыя, адкуль яна ўзяласа? Індура.

**Фана'р** м. Ліхтар. Як трэбо было хутко, та нашы мужчыны і пры фанарэ малацілі. Хамякі.

**Фарбава'ць** незак. Фарбаваць. Заўтро будзямо матке фарбаваць, фарбы купілі. Лаша. Нікаторыя аддавалі пражу да Індоры фарбаваць, а мы самы ўсе фарбавалі. Капцёўка.

**Фарба'рня** ж. Фарбавальня. У Скідзелі фарбарню трымаў Ёсяль, на які хочаш колер пафарбаваць мог. Загорцы.

**Фарблё'нка** ж. Спадніца з саматканага, фарбаванага сукна. Гэта хто багацейшы, та фарблёнку насіў, а мы — простыя андараке. Струбка.

**Фарва'тар** м. Фарватэр, суднаходны шлях у рацэ. Фарватар тут шырокі, параход смело можа прайсці. Загорцы.

**Фармава'ць** незак. Фармаваць, надаваць пэўную форму. Ні кожны мог добро фармаваць цэглу, трэбо было мець да гэтаго знароўку і сілу. Дзекалавічы.

**Фарсу'н** м. Фанабэрысты, ганарысты чалавек, зазнайка, хвалько, самахвал, франт. Ён фарсун некі, усе тулькі хваліцца, франціць. Кунцаўшчына.

**Фарту'х** м. Фартух. У нас фартухе былі размаітыя, я сабе купіла фартух за шэсць рублёў с палярынкамі такімі. Эйсманты.

**Фарфа'л** зак. Брак, памылка. Ну, брат, нічого ні зробіш — фарфал, трэбо нанова рабіць. Рацічы.

**Фастро'т** м. Факстрот. Фастрот натто модны танец быў перад вайною, але ні ўсе яго ўмелі скакаць. Копанікі.

**Фаты'га** ж. Клопат, турбота, справа. Як кажуць, за дзенькуе ніц ні купуе, за фатыгу трэбо заплаціць, кап крыўды ні бымо. Скрынікі.

**Фах** м. Спецыяльнасць, прафесія. Добро, калі маяш у руках які-небудзь фах, з голаду ні прападзеш. Пракопавічы.

**Фа'цат** м. Франт, моднік. Знюхаласа з гэтым фацатам, рады німа, ідзе і ідзе. Ласосна

**Фацэ'тны** прым. У значэнні: вясёлы, забаўны, ахвотны павесяліцца. Ля, некі фацэтны кавалер, мусі які шляхціц, і зноў да Мані прышоў. Балічы.

**Фі'га** ж. І. Невялікі скрутак апрацаванага лёну. На кудзелю, як робіш, та больш як тры фігі лёну ішло. Забагонікі. 2. Дуля, кукіш. Рабілі, рабілі і фігу за гэта маям. Шынкаўцы.

**Фі'глі** мн. Фокусы, капрызы, выдумкі, дзівацтва. А гэта што за фіглі ты мне паказваеш? Кунцаўшчына. Ён велькі майстар на фіглі, на адных фіглях і жыве. Лаша.

**Фі'лінг** м. Тонкая мастацкая апрацоўка вырабаў з дрэва; разьба па дрэву. Дзверцы да шафы і то ў філінг зрабіў, ні так сабе. Дзекалавічы.

**Філінго'вы** прым. Фігурны, па-мастацку зроблены. Ціпер у кожнай хаці дзверы філінговыя, ні то, што некалі было. Саломенка.

**Фіра'нка** ж. Фіранка, занавеска. Новыя павесіла фіранкі, та ведаеш, аш святлей у хаці стало. Жукевічы.

**Флё'ндра** ж. Любіцель прагульвацца, снойдацца без патрэбы /лаянк./.

Флёндра, ты дзе гэта валочышса, прыпынку табе німа? Цвіклічы.

**Флё'рка** ж. Хлорная вапна, хлёрка. Усадзіла хусцінку ў флёрку і ўсероўно ні бела, запушчана. Лікоўка.

**Фля'нсы** мн. Расада. Бураке добро ні пасходзілі, та я флянсамі панасаджвала, можа прымуцца. Зарубічы.

**Фля'шкі** ж. Бутэлька гарэлкі /груб./. Адразу бяры дзве фляшкі, адной будзя замало. Зарубічы.

**Фо'кус** м. 1. Лоўкі прыём; трук, заснаваны на падмане зроку, увагі. Фокус –марокус, а дурному радасць /прымаўка/. Лаша. 2. Перан.: капрыз, выдумка, дзівацтва. Ты мне свае капрызы ні паказвай, ні на таго нарваўсо. Путрышкі.

**Фо'люш** м. Валюшня, валюш. Фолюш дый Фолюш называюць, а я і ні ведаў, што ў ім сукно валілі. Ласосна.

**Форс** м. Ганарыстасць. Дзеўка, як кажуць, форс свой мая, за быля каго ні пойдзя. Літвінкі.

**Форт** м. Форт, абарончае ўмацаванне. Вакол Гродна было аж трынаццаць фартоў, міне самого пасылалі с канём каменя вазіць. Малахавічы.

**Фра'ер** м. Скандаліст, завадатар сварак, боек; задзіра, франт /неадабр./. Такіх фраераў, як ты, я бачыў, німа чаго міне палохаць. Капцёўка.

**Фраму'га** ж. Верхняя частка акна або дзвярэй. Ты чо адчыніла фрамугу, сквязняк некі, дзіця можа прастудзіцца. Рудавіцы.

**Франт** м. Франт; малады чалавек, які любіць добра адзявацца; ганарысты малады чалавек. Франт — на ўвесь кант /прымаўка/. Лаша. Ён франтам хадзіў, пакуль ні жаніўса, гэта ціпер ён асеў. Рыбніца.

**Фра'нцік** м. Франт /жарт./ Францік, ён першы некалі ў Лунай боты сабе заказаў. Лугавая. Нашаго Стася ўсе францікам называлі, бо харашэ хадзіў. Лугавая.

**Фра'хціка** ж. Практыка. На ўсё, як той казаў, фрахціку трэбо мець, знароўку. Лаша.

**Фрэ'ндзлі** мн. Махры. Настольнік з фрэндзлямі засцялі, людзі зараз прыдуць. Луцкаўляны.

**Фуго'ўнік** м. Невялікі гэбаль для вырабу пазаў /фугаў/ у гонце. Фугоўнік як добро бярэ, та гонту ўміг дапасуеш адна да адной, глатко прыдзецца. Рыбніца.

**Фу'кнуць** зак. Дзьмухнуць. Ці ш так лямпу пагасіш, трэбо мацней фукнуць. Пыра.

**Фульто'н** м. Сталярная пілка з малымі зубамі для апрацоўкі тонкіх дэталей. Гэты фультан я берагу, сталь натто добра, швэцкая. Дзекалавічы.

**Фундава'ць** незак. Частаваць. Фундаваць ні кажды раз зможаш, грошай ні стане. Бакуны.

**Фу'ра** ж. Поўны воз. Цэлу фуру збожа прадаў, а грошай мало, бо таннае яно ў гэтым року. Брузгі.

**Фурго'н** м. Крытая павозка. Фургонаў у нас ні было, гэта ў маёнтку Ляхнові былі. Рагачы.

**Фу'рман** м. Фурман, вазніца, рамізнік. Яго дзед у пана фурманам быў, таму іх і празываюць Фурманавымі. Дзекалавічы.

**Футры'на** ж. Аснова акна, дзвярэй. Футрыны ў вокнах зусім пагнілі, мусі трэбо новыя ўстаўляць. Жукевічы.

**Фэ'йчар** м. Фельчар. Антасёва дачка, ведаеш, за некаго фэйчара вышла, у Гродні жыве. Зарубічы.

**Фэ** выкл. Фэ, фу /выказванне агіды/. Фэ, як умурзаўса, ідзі хучэй памыйса. Белева.

**Фэ'ляр** м. Загана, брак, дэфект. Гэты конь, відаць, фэляр мая, бо гаспадар мало за яго просіць. Казіміроўка.

**Фэст** м. Вялікае рэлігійнае свята пры царкве або касцеле. На фэст да нас з'язджаліса людзі адусюль, нават з-за Нёмана прыязджалі. Прыгодзічы.

**Фэ'сткі** мн. Семя сланечніка /устар./. Хвароба, за цэлы вечар фэсткаў напалушчваюць, панакідаюь, а ты падмятай за імі. Рагачы.

# Х

**Хава'нкі** мн. Хованкі. Хлопцы, давайце ў хаванкі гуляць. Калбасіна.

**Хава'ць** незак. Гадаваць, утрымліваць. У прошлым року мы аш трое цялят хавалі, файныя цялушачкі былі. Кулёўцы.

**Хава'ць** незак. Хаваць, утайваць. Ад міне, ат сіроты, нават хлеб хавалі, каб лішняго ні з'еў. Пракопавічы.

**Хава'ць** незак. Хаваць нябожчыка. Накажэця дзяцьку, заўтро дзядулю будзямо хаваць. Сухая Даліна.

**Хадаке'** мн. 1. Абутак на драўлянай падэшве. Пры немцах хадаке ўсе насілі, куплялі ў Скідалі. Саволеўка. 2. Нейкі скураны абутак, які святам насіла мясцовая шляхта. У хадаках толькі да касцёла хадзілі, пасля клалі ў пучке саломы, каб ні псаваліса. Занявічы. 3. Апоркі, старыя боты з адрэзанымі халявамі. Хадаке добро мецьуступішса і ідзеш у хлеў. Зарубічы. 4. Лапці. Зробіш сабе хадаке з лыка і ходзіш, пакуль ні парвуцца. Ахрымаўцы.

**Хадзі'ць** незак. 1. Хадзіць, ісці, рухацца. Прывык хадзіць па хатах, валачыцца, прыпынку німа. Ферма. Хлопцы, хадземця з намі, весялей будзя. Усава. 2. Заляцацца да жанчыны. Кажуць, наш Стась да Гэлі пачаў хадзіць, можа і пажэняцца? Скамарошкі. Хадзіць хадуном — трэсціся, хістацца. Такі вецяр ўзяўсо, што хата хадуном ходзіць. Свіслач.

**Хаду'лі** мн. Хадулі, дыбы. Павыдумлялі гэтыя хадулі і дыбаеце, пакуль лабэ ні паразбіваеце. Гродна.

**Хаду'н** м. Хадок. Які з яго хадун, ён як жыве пехатой ні хадзіў, усе ездзіў. Зарубічы.

**Хаза'н** м. Служыцель культу ў яўрэйскай рэлігійнай абшчыне, які за плату забіваў птушак /устар./. Каля нас жыў хазан. Як пачнуць нясці куры, та той ні паспяваў рэзаць. Азёры.

**Хаза'р** м. Свіное мяса і сала, якое забаранялася есць веруючым яўрэям / устар./. Гэта хазар, нам ні можно есці: грэх. Індура.

**Хазы'н** м. Тое, што і хазан. Хазын, кажуць, спярша памоліцца, а тады курэй рэжа. Табольская Будка.

**Хай** м. Бязладны, шматгалосы крык, гармідар, вэрхал. Дзеці ў хаці як паднялі хай, та я падумаў, што там пажар які. Кунцаўшчына.

**Хай** часц. Няхай. Хай будзе, як ты хочаш. Круглікі.

**Ха'ла** ж. Здобная булка; пірог, якія пяклі яўрэі на свае свята. Іршко, як мы малыя былі, халы даваў пакаштаваць нам, прывозіў з Індоры. Белева.

**Халадні'к** м. Халаднік. Помню, маці возьмя жытнёвых каласоў, з гуркоў лісточкаў, запарыць гарачай вадой, паставіць, каб закісла — і ўжэ халаднік, пілі або елі з бульбай, як хто хацеў. Калбасіна.

**Хала'т** м. Бурка. Вазьмі халат у дарогу, можа які дождж будзе. Караневічы.

**Хале'ра** ж. /груб./. Лаянкавае слова. Халера на гэтых немцаў, што яны натварылі. Скідаль. Да халеры — У значэнні: вельмі многа. У яго, кажуць, тых грошай да халеры, можа тры машыны купіць. Адэльск.

**Хале'ра** ж. 1. Халера /хвароба/. Некалі думалі, што халеру на людзей нехто насылае, але гэта ніпраўда. Загараны. 2. Перан. у значэнні: дрэнны, злы і г.д. / лаянк./. Ну і халера чалавек, тыле школы нарабіў, каб яму ўсё адрыгнуласо. Кашэўнікі.

**Хаму'ль-хаму'ль** зак. Ціхенька, непрыкметна ўцячы, скрыцца з вачэй. Як паглядзеў што б'юцца, та ён, доўго ні чакаючы, хамуль-хамуль с хаты, тулькі яго і бачылі. Рагачы.

**Халэ'мус** м. Гібель, смерць /лаянк./. А халэмус на вас прыдзе, ні дачакаеце, каб вы тут панавалі. Індура.

**Халя'ва** ж. 1. Халява, верхняя частка бота. Ля, халявы ашчэ добрыя, а перадэ зусім падраліса, трэбо новыя. Рагачы. Пазнаць пана па халявах /прымаўка/. Лікоўка. 2. Перан.: горла, рот /

груб./. Ты чо гэта сваю халяву дзярэш, разышоўсо? Дубаўка.

**Халяры'сты** прым. Халярычны, гарачы, які лёгка ўзбуджаецца. Але ж і халярысты чалавек, абы-што — так і ўскіпіць. Бакуны.

**Хана'** ж. Смерць, гібель. Як пачалася бамбёшка, думалі, што ўсім хана будзя, ні выжывем. Скідаль.

**Хапу'н** м. 1. Яўрэйскае рэлігійнае свята перад Новым годам. У яўрэяў, мусі, зараз хапун будзя, зноў усю ноч маліцца будуць. Пракопавічы. 2. Міфічная асоба ў выглядзе чорта /д'ябла/, якая ў час свята Хапуна хапае людзей. Усероўно хапун вас знойдзя, нідзе ні дзенецяса. Круглікі. 3. Злодзей. Усе ведалі, што Мішка Гарцёмаў — хапун, бярэ, што пад рукі ні пападае. Пагараны.

**Хапу'н** м. 1. Мужчынская верхняя, кароткая вопратка, бекеша. Надзенеш сабе хапун у дарозі, і ўжэ ні халадно. Сапоцкін. 2. Бурка. Пагода ці ніпагода, а свой хапун у дарозі ні пашкодзіць. Копанікі.

**Хараню'чкі,** харанюкі' мн. 1. Кураняты, якія курыца вывела без ведама гаспадароў. Сваіх курэй было даволі, а тут ашчэ курыца харанючак прывяла. Карозічы. 2. Перан.: пра слабых, недагледжаных дзяцей. Міхалавы дзеткі без маткі зусім як харанюкі. Баранава.

**Хараша'ць** незак. Кастрыраваць, пакладаць. Наш тато сам ўмеў харашаць паршучкоў, нават другім харашаў, як прасілі. Свіслач.

**Харашэ'** прысл. Хораша, прыгожа. Век харашэ ні праходзіш і смашно ні пераясі /прымаўка/. Горніца.

**Харля'к** м. Хваравіты чалавек. От, некі харляк, усе кашляе, а адкуль будзя ў яго сіла. Балічы.

**Харо'нга** ж. Харугва, пратэса. Як велька свято, та вакол цэрквы с крэсным ходам хадзілі, с харонгамі. Свіслач.

**Харо'шайшы** прым. Прыгажэйшы. Гэты хлопяц харошайшы за тваго Віталя, спраўнейшы. Бандары.

**Ха'ўкаць** незак. Пазяхаць. Сядзіць і толькі хаўкае, ляпей ішоў бы спаць. Зарубічы.

**Хаўтурэ'** мн. Памінкі. Панскія натуры патрабуюць пышныя хаўтуры /прымаўка/. Пагараны. Хаўтурэ — гэта вам ні вяселя, німа чаго расседжвацца. Баяры.

**Хаўхо'з** м. Калгас. Што і казаць, хто хадзіў у хаўхоз, той пасля і пенсю палучыў. Зялёная.

**Ха'халь** м. 1. Вялікая луста. Зараз вячэра будзя, а ён узяў хахаль хлеба і есць. Балічы. 2. Паклоннік, палюбоўнік. Настуся некага хахаля мая, з Гродна прыязджае. Ласосна.

**Хваіна'** ж. Хвойнік. Ні гаралі, та хваіна павырастала, плуг ні возьмя. Свіслач.

**Хвалько'** м. Хвалько, самахвал. Хвалько некі, тулько пра сібе і гаворыць, другіх ні ўспамінае. Дарашэвічы.

**Хвалява'ць** незак. Валяць сукно ў валюшні. Хвалявадь сукно ні так просто, на гэта машыны спецыяльныя патрэбны, у хаці гэтаго ні зробіш. Лойкі.

**Хвараве'ка** м. Хваравіты чалавек. Ён хваравека, колькі ні жыве, та ўсё хварэя. Сонічы

**Хва'рба** ж. Фарба. Хварба ўсяляка была ў Індоры, купіш і сабе хварбуяш матке. Кунцаўшчына.

**Хварбава'ць** незак. Фарбаваць. У нас кожна баба ўмела хварбаваць, на які хочаш коляр афарбуя. Пракопавічы.

**Хваро'ст** м. Хвораст. Гэта ціпер хварост па ўсім лесі валяецца, а да вайны складалі яго ў кубікі і прадавалі людзям. Зарубічы.

**Хвярту'х** м. Фартух. Да печы надзеняш хвартух і ўжэ добро, ні зафэйдаяшса. Рацічы.

**Хвартушо'к** м. Фартух /памянш./. Завяжы дзіцяці хвартушок, каб ядучы ні запэцкаласо. Цвіклічы.

**Хвастану'ць** зак. Моцна ўдарыць. Трэ было так хвастануць па нідавярку, каб ён дзісятаму заказаў. Баранава.

**Хва'цкі** прым. Хвацкі, удалы, баявы. Хвацкі хлопец, да ўсяго спраўны, некаму шчасце пападзе. Лаша.

**Хвашча'й** м. Хвошч. Хвашчай у саломі, файна будзя сечка. Кунцаўшчына.

**Хві'га** ж. Фіга, дуля, кукіш /груб./. Без хвігі ні да носа /выслоўе/. Балічы. Што

ты ў яе просіш, яна толькі фігу можа даць. Прынёманская.

**Хвілі'на** ж. Мінута. Здаецца выйшаў на хвіліну, а прабыў больш часа. Бакуны. Выйдзі на хвіліну, нешто табе скажу. Клачкі.

**Хвошч** м. Хвошч. Нікаторыя і ціпер парацць хвошч, п'юць, кажуць, памагая ад хваробы. Свіслач.

**Хі'біць** зак. Прамахнуцца, не трапіць у цэль. Не было таго выпатку, каб ён хібіў, гэта быў, брат, варшаўскі стралок. Гродна.

**Хіме'ры** мн. Капрызы, выдумкі, дзівацтва. Ат тваіх хімераў галава кругам ходзіць, ты сам ні ведаеш, чаго хочаш. Лаша.

**Хітрэ'ц** м. Хітрун /асудж./ Ну і хітрэц, ні можа жыць, каб каго ні абмануў. Баброўнікі

**Хлапча'к** м. Хлопчык, хлапчук. Хлапчак некі прыходзіў да нас, нечаго ў таты прасіў. Сінявічы.

**Хлеб** м. Хлеб. Мы елі хлеб траякі: чорны, белы і ніякі /прымаўка/. Пагараны. Хлеб аддáны — пра цяжкае жыццё, долю. Хлеб адданы, якім хлебам карміў ён сваіх бацькоў, такім хлебам кормяць і яго дзеці. Свіслач. Хлеб пытляваны — хлеб з прасеянай жытняй мукі. Нават з багатых рэтка хто хлеб пытляваны пек, гэта хібо калі святам тулькі. Луцкаўляны. Хлеб сітні — паўпшанічны хлеб. Сітняго хлеба ніхто ні пёк, яго ў мястэчках куплялі. Рагачы. Хлеб пчаліны — пылок, які пчолы збіраюць на кветках. Бес хлеба пчалінаго пчолы ні перазімуюць, трэбо хоць дзве рамкі на зіму паставіць. Грынёўка.

**Хле'бны** прым. 1. Хлебны /зроблены з хлеба/. У нас хлебны квас ні выходзіў, мы яго ў квасках трымалі. Бандары. 2. Багаты, ураджайны. Такого хлебнаго року за маёй памяцю ні было. Луцкаўляны. Хлебны пірог — перапечка, невялікі хлеб у выглядзе аладкі. Для нас, дзіцей, хлебны пірог быў самы найсмашнейшы, мы яго ждалі як нівядомо чаго. Клінчаны.

**Хлеў** м. Хлеў. Жэнь каровы просто ў хлеў, каб у гарод ні ўвайшлі. Парэчча.

**Хлюкаце'ць** незак. Ціха булькацець, пераліваціца. Нешто ў адной нашай курыцы ў горлі пачало хлюкацець, ні есць нічого. Гібулічы.

**Хлюст** м. Пранырлівы, нахабны чалавек. Гэ, брат, гэта хлюст ашчэ той, ты з ім піва ні зварыш. Лаша.

**Хля'ба** ж. Худая, схуднелая істота /чалавек, жывёліна/. Кабыла — хляба нека, як ні кармі, усероўно галодна, баке ўпаўшыя. На ёй далёко ні заедзяш. Рагачы.

**Хляба'к** м. Сумка, у якой салдаты даваеннай Польшчы насілі хлеб /устар./. У маго дзеда ашчэ і ціпер есць хлябак, хлеб носіць, як кароў пасе. Аульс.

**Хлябусце'ць** незак. Пераліваціца, хлюпаць. Выснякай нос дзіцяці, а то хлябусціць, ні можа сапсці беднае. Гарны.

**Хля'хсцік** м. Хлясцік. У кожнай бурцы хляхсцік быў прышыты, мода такая была. Занявічы.

**Хма'рыцца** незак. Хмарыцца, рабіцца пахмурна. Нешто пачало хмарыцца, на дождж, відаць, збярэцца. Сваццк.

**Хму'рыцца** незак. Тое, што і хмарыцца. Трэбо сено хучэй у капке складаць, а то хмурыцца, каб дождж ні быў. Бакуны.

**Хо'дзікі** мн. Насценны гадзіннік з падвешанымі гіркамі. Я да сваіх ходзікаў прывык, як цікаюць, та нават засынаеш хучэй. Скідаль.

**Хо'дка** ж. Снапы, прыгатаваныя на адзін абмалот у малатарню. Толькі за адну хотку вымалацілі больш дзвух коп жыта. Баброўнікі.

**Хо'днік** м. 1. Тратуар. Ціпер ходнікі ні толькі ў горадзі, але і па вёсках, нагі ні намочыш. Скідаль. 2. Дарожка, палавік. Некалі гэтых ходнікаў ні зналі, та дураты ні было, а ціпер бяры ды выбівай кожны дзень. Скідаль.

**Хо'лад** м. Холад, халодная пара. Зараз наступяць халадэ, а бульба ні выбрана. Лойкі.

**Хо'лер** м. Халера /лаянк./. Хай яе холяр возьмя, хата збрыдла, цешча ні дае жыць. Рацічы.

**Хорт** м. Хорт. Як на паляване ісці, тады ўздумаў хартэ карміць /прымаўка/. Кузьмічы

**Хо'ры** мн. Хоры, узвышанае месца ў царкве для хора. Пеўчыя на хорах толькі ў велькае свята спявалі, а так усе на клірасі. Лаша.

**Хоць** злуч. Хоць, хаця. Ён хоць стары, але яры /прымаўка/. Казіміроўка.

**Хоць** нарадзі, а даўгі аддай. Лікоўка. Хоць вады напіса — у значэнні: вельмі прыгожая. Нічого ні скажаш, дзеўка — хоць вады напіса, любо паглядзець. Пад'ятлы. Хоць сакеру вешай — пра цяжкае, нясвежае паветра ў памяшканні. Ну і накурылі мужчыны ў хаці, хоць сакеру вешай. Кавалічы.

**Храбу'ст** м. Лугавая расліна з шырокімі крохкімі лістамі. Храбуст коні добро елі, а мы нават свіням давалі. Свіслач.

**Храбусце'ць** незак. Храбусцець, храбустаць, хрумстаць. Глянь, гоўца ўлезлі ў капусту і храбусцяць сабе. Кунцаўшчына.

**Храбу'шч** м. Тое, што і храбуст. У нас храбушч за зелье ні лічылі, бо другого ўдоваль было. Кунцаўшчына.

**Хра'па** м. 1. Храпа ў жывёл. Сам вінаваты, а каня ў храпу б'е /прымаўка/. Каўпакі. 2. Перан.: твар /груб., лаянк./. Ты куды суняш сваю храпу, патрэбны ты тут як у мосці дзірка. Свіслач. 3. Груда, замерзлая гразь. Храпа на дарозі, ехаць цяшко, натто ш кідае воз. Лікоўка.

**Храсто'к** м. Расток. Бульба храстке папускала, трэбо садзіць. Дарашэвічы.

**Храсці'ць** незак. Прарошчваць. Мы бульбу заўсёды храсцім, тады яна і ўзыходзіць раней. Віцькі.

**Хро'сны** м. Хросны бацька. Мне хросны кожны раз валачонна даваў на вялікдзень, сам прыносіў. Балічы.

**Хру'ля** ж. У значэнні: вельмі худая. Хруля, а ні карова, дзе табе малака яна дасць. Кругляны.

**Хруст** м. Хруст, хрушчы. Печыва з пшанічнай мукі, яек і цукру. У нас хрустэ тулькі нікаторыя пяклі, а так больш лазанкі на куцю варылі. Рагачы.

**Хрушч** м. Хрушч, майскі жук. Некалі гэтых хрушчоў было, як ганія, ціпер чамусьці прапалі. Свентаянск.

**Хрыбя'ціна** ж. Хрыбет /груб./. Мусі, так і будзеш вычаўпляць, пакуль хто хрыбяціну ні скруціць. Хліставічы.

**Хрысці'ны** мн. Хрысціны, хрэсьбіны. Хрысціны ў брата былі, гэта ж другі хлопец у Мані радзіўсо. Славічы.

**Хрышчо'ны** м. Хросны бацька. Хрышчоны даўно памёр, а хрышчона ашчэ жыве, да нас прыходзіць. Квасоўка.

**Хрэн** м. Хрэн. Наша маці любіць хрэн з буракамі рабіць, каб ні такі моцны быў. Ферма. Стары хрэн — у значэнні: стары чалавек /лаянк., зневаж./. Стары хрэн капае хрэн /выслоўе/. Падкрыжакі.

**Худашча'вы** прым. Хударлявы. Мой нігды тоўстым ні быў, заўсёды худашчавы, і ціпер такі. Саломенка.

**Худбо'л** м. Футбол. Кнішкі ў рукі ні бярэ, худбол толькі ганяе, якая там будзя вучоба. Гожа.

**Худо'ба** ж. 1. Жывёла. Худобу трэбо любіць, тады яна і пойдзе ў руку. Агароднікі. 2. Худзізна. От, нека худоба, поправы яму німа. Лаша.

**Хунт** м. Фунт, 409,5 гр. У кілі лічыцца два с паловай хунта. Рудавіцы. Хунт — гэта мера вагі, 409 грамаў і 32 лоты. Клачкі.

**Хурма'нка** ж. Фурманка, падвода. Бывала, на кірмаш да Лунай як наедзе хурманак, та ні прайсці, адна пры адной стаіць. Літвінкі.

**Ху'стка** ж. Хустка. Велькай хусткай у дарозі апкрыясса, і ўжэ вецяр цібе ні прадуя. Саломенка. Влучкова хустка — фабрычная шарсцяная каляровая хустка. Влучковыя хусткі такія пушыстыя былі, цёплыя, можно было купіць за дзесяць рублёў. Эйсманты.

**Ху'сця** мн. Адзенне, пасцельная бялізна. Я на рэццы хусця мыла, на бярозу вешала /з народ. песні/. Рудавіцы.

**Хучэ'й** прысл. Хутчэй, жывей. Хучэй грушы на вярбе вырастуць, чым ты брыгадзірам станеш. Гліняны.

**Хці'вы** прым. Прагны, пражэрлівы. Натта ж гэты чалавек хцівы, кап прымёў — усё забраў бы. Лугавая.

**Хэнць** ж. Ахвота. Нека хэнць падбіла міне схадзіць тады па грыбэ. Грандзічы.

**Хэ'ўра** ж. Вялікі натоўп, гурт, кампанія, зборышча /груб./. А гэта што тут за хэўра ззабраласа, што яны тут вынюхваюць. Ракопавічы.

# Ц

**Цабэ'рак** м. Невялікі цэбар. Цабэрак унясі ў прымен, а то свіням даваць зараз трэбо, замерзне на холадзі. Губінка.

**Цага'н** м. Вялікі металічны гаршчок. Як спарыш цэлы цаган бульбы, та свіням на ўвесь дзень хапае. Казіміроўка.

**Цадзі'лко** н. 1. Анучка з тонкага кужэльнага палатна або спецыяльнае дробнае сіцячка для працэджвання малака. Малако працаджу, та цадзілко адразу мыю, каб чыста было і мухі ні апанавалі. Квасоўка. 2. Перан.: пра чалавека з маруднай, манатоннай манерай размовы. Гэты цадзілко пакуль слово скажа, та абаранак можно ззесці. Свіслач.

**Цалё'ўка** ж. Дошка, таўшчынёй 2,5 см. У нас былі свае цалёўкі, та Санька сам нарабіў шалёвак і хату апшаляваў. Свіслач.

**Цаль** м. 1. Канец плыта. Тарнуй улево, трымай, каб цаль ні закінуло. Дзекалавічы. 2. Непрыкметная пад вадой выспачка, востраў. Як сядзе плыт на цаль, та ўжэ бяда, плытнікі скідалі ганавіцы, лезлі ў воду і спіхалі бусакамі. Навасёлкі.

**Цалю'сенькі** прым. Цэлы, увесь /узмацн./. Насыпаў цалюсенькі мяшок гаўса, ледво запёр да адрыны. Жукевічы. Майка зусім цалюсенька, а ён ужэ кінуў. Вішнявец.

**Цалю'ські** прым. Цэлы, увесь /узмацн./. Ты сабе што думаеш? Цалюські дзень недзя прападаў, тулькі ціпер з'явіўсо. Аульс.

**Цалю'ткі** прым. Цэлы, увесь/узмацн./. Кап ты цалюткі дзень сярпом папажала, та ведала б, аткуль хлеб бярэцца. Мількаўшчына.

**Ца'ля** ж. Старая мера даўжыні, роўная 2,5см. Гэтай дошкі будзя мо больш як чатэры цалі таўшчыні. Дарашэвічы.

**Цаляке'** мн. Цэлае зерне, што трапляецца ў муцэ пасля памолу. Ці ж з гэтай мукі хлеп спячэш, тут трэця часць цалякоў. Баранава.

**Цамбраві'на** ж. Круг бетонны для студні. Гэта ж аж дваццаць цамбравін упусцілі ў студню, ледво вады дасталі. Гібулічы. Якраз пасярэдзіні студні цамбравіна пэнкнула, та чуць майстра ні заваліло. Лаша.

**Цапі'ло** н. Цапільна; палка ў цэпа, да якой прымацаваны біч. Найспраўнейша цапіло гэта з ляшчыны, яно павінно гнуцца гэдак трошкі. Гліняны.

**Цапі'ўня** н. Тое, што і цапіло. Гэты цэп у міне ўжэ рок дзесяць служыць, бачыш, якое цапіўня глатка стало ад рук. Карозічы.

**Цацалі'ст** м. Сацыяліст. Пры паляках патпольшчыкаў усе цацалістамі называлі, як толькі што якое, так і цацаліст. Круглікі.

**Ца'цкавацца** незак. Забаўляцца, дагаджаць, задавальняць жаданні, цацкацца /неадабр./. Ці доўго ты будзеш з ім цацкавацца? Гібулічы.

**Цва'ны** прым. Хітры, рызыкоўны. Але ж і цваны, як папаў у беду, та прытварыўсо дурным, ціпер прыціх трохі. Батароўка.

**Цваня'к** м. Хітрун. Гэта ашчэ той цваняк, яго ніхто ні правядзе, выкруціцца з любой бяды. Вішнявец.

**Цветабо'й** м. Пара цвіцення. Цветабой пачаўсо, глядзі, пчолы аж звіняць на вішнях. Бaброўня.

**Цві'кля** ж. Клін матэрыі, які ўстаўляецца ў рукаў кашулі. Як уставіш добро цвіклі, та рукавэ інача ляжаць, форму маюць. Рудавіцы.

**Цві'лік** м. Тое, што і цвікля. Гэты кусок кужалю пакінь на цвілікі, у рукавэ будзеш устаўляць. Бакуны.

**Цвілы'** прым. Цвілы, запляснелы. Даўней цвілы хлеб елі і здаровыя былі, ніхто ні хварэў. Верцялішкі.

**Цвіль** ж. Цвіль, плесня. Наша старая сама прасіла: «Дайце мне цвілого хлеба», любіла, як цвіль на хлебі. Круглікі. У нас казалі: "Хлеб з цвіллю як ззясі, та грому ні будзяш баяцца." Лікоўка.

**Цвінта'р** м. Месца вакол царквы. На

цвінтарэ жабраке ўсе сядзелі, ні пройдзяш так, трэбо кожнаму нешто даць. Лаша.

**Цвінтары'** мн. Старыя закінутыя могілкі. На цвінтарах каровы толькі пасем, даўно ніхто ні хавае. М. Парэчча.

**Цвірку'н** м. Цвырнун. Цвіркун у хаці нейкі завёўсо, ні дае спаць. Кунцаўшчына.

**Цві'чыць** незак. Дрэсіраваць, муштраваць. Каб цібе цвічыў мужык так, як мой Косця, та ты па вяровачцы хадзіла б. Рагачы.

**Цвічэ'не** н. Абучэнне, навучанне, муштра, манеўры. Ярапланы зноў лётаюць, хібо цвічэне дзесьці праходзяць. Індура.

**Цекуне'ц** м. Сыпучы пясок. Цекунец на дарозі, конь ледво воз цягня. Ліхачы.

**Целяпа'йло** м. Чалавек, які вельмі марудна ўсё робіць. Целяпайло некі, робіць як мокра гарыць. Рудавіцы.

**Целяпа'цца** незак. Марудзіць, рабіць вельмі павольна. Целяпаецца ў гародзі, і то добро, усе неку работу робіць. Жылічы.

**Целяпе'й** м. Бесхарактарны, непаваротлівы чалавек /зневаж./. Сякі-такі целяпей — і то будзе ляпей /выслоўе, жонка пра мужыка/. Гібулічы. Ці ж гэты целяпей чаго даб'ецца, яго самого трэбо піхаць у плечы, каб дзе ішоў. Солы.

**Це'нжар** м. Цяжар. Ці ж гэта бабі такі ценжар падымаць, сам бяры. Карозічы.

**Церабі'ць** незак. 1. Ачышчаць буракі ад бацьвіння, карэнняў і зямлі. Бураке ўчора выбіралі, церабіць пойдзямо. Каленікі. 2. Абсякаць на дрэве голле. Хвойку як спусцім, адразу і цярэбім, бо німа як траляваць. Зарубічы.

**Це'рмяць** ж. Кастра, кастрыца, адходы ад лёну, канапель. Мы цермяцю падрубы ў хаці апсыпалі, на столь сыпалі, каб цяплей было. Бандары.

**Це'рніца** ж. Драўляная прылада для першапачатковай апрацоўкі ільну. Церніцы мы куплялі ў Лазах або ў Бандарах, бо там майстрэ добрыя. Бубны.

**Це'рпкі** прым. Даўкі; які выклікае аскому. Ці ж гэта грушы, яны церпкія, есці ні можно. Малахавічы.

**Це'рціса** незак. У значэнні: жыць пры кім-небудзь. Мой дзед увесь свой век цёрса каля паноў, але панам так і ні стаў. Рудавіцы.

**Цё'зка** м., ж. Цёзка. Мы з ім цёскі, толькі ні з адной вёскі /выслоўе/. Свіслач.

**Цёнг** м. 1. Цяга ў печы. Цёнгу зусім німа, паглядзі, мо люфта заваліласа сажай. Кавалічы. 2. Скразняк, пройма. Зачыні акно, а то цёнг некі, шыю можа скруціць. Зарубічы. Адным цёнгам — безупынна, бесперапынна, бесперастанку, увесь час. Ні даваў жыць, адным цёнгам крычаў: паедзям да цёткі і паедзям. Кругляны.

**Цё'нгле** прысл. Пастаянна, заўсёды, увесь час. Ён цёнгле абадраны хадзіў, жонка зусім ні глядзела. Агароднікі. У міне цёнгле есць работа, гэта як рабіць ні хочаш, та яе німа. Каленікі.

**Цё'пкацца** незак. Растрэпвацца, раскалмачвацца. Што ты хусцінку ні зарубіла, бераге ж цёпкаюцца, ці часу табе німа? Грыўкі.

**Цё'ска** ж. Лучына. Я ашчэ сам помню, як у дзеда Матука цёскамі ў хаці свяцілі. Калбасіна.

**Ці'брыць** незак. Красці, браць чужое / неадабр/. Ох, і цібрыць ён майстар, так і глядзіць, дзе што ні так ляжыць. Індура.

**Ціву'н** м. Наглядчык у часы прыгону. Ні такі страшны цівун, як яго бізун /прымаўка/. Падліпкі.

**Ці'каць** незак. Цікаць /пра ход гадзінніка/. Чуяш, часэ чамусьці перасталі цікаць, мо вышлі ўсе. Дубоўка.

**Ціліфо'н** м. Тэлефон. Ціпер Мішы ціліфон маглі правясці, бо дзепутатам стаў. Дзевятоўка.

**Ці'на** ж. Ціна, водарасці ў стаячай або малапраточнай вадзе. Воду ў сажалцы зусім ціна зацягнула, дзе тут тая рыба будзе. Балічы. Заплёнтаўсо ў ціну, ледво ногі выцягнуў. Занявічы.

**Ціпе'р** прысл. Цяпер, зараз. І ціпер можно знайсці работу, тулькі гультае ў хаці сядзяць. Баброўнікі. Ідзеце ціпер палуднаваць, а работа ў лес ні ўцячэ. Балічы.

**Ціпе'рака** прысл. Цяпер, зараз. Ціперака яму ні да вяселя, калі хата згарэла. Аульс.

**Ціпе'рачы** прысл. Цяпер, зараз. Ціперачы трэбо працаваць, каб мець хлеб і да хлеба. Кукалі.

**Ціпеслі'вы** прым. Мітуслівы, паспешлівы, хлапатлівы. Яна нека ціпеслівая, паніку падымае з нічого, бегае, а што рабіць — сама ні ведае. Рудавіцы.

**Ці'пка** ж. Курачка /дзіцяч. слова/. Ну, ідзі, Косцік, ціпкаў будзямо карміць. Рагачы. Дурненькі, ні бойса, гэта ціпка, яна яячко табе знясе. Пагараны.

**Ціпцю'х** м. 1. Кволая, фізічна недаразвітая істота. Які з яго кавалер, ціпцюх некі. Рыбніца. 2. Пампон. Купіў шапку хлопцу з ціпцюхом, та бяды толькі набраўсо, кожны палохае, што адарве. Луцкаўляны.

**Ці'п-ці'п** выкл. Вокліч, якім падзываюць курэй. Ціп-ціп-ціп, кураняткі мае! Лаша.

**Ціп-ціп!** Ту-ту-ту! выкл. Вокліч, якім падзываюць курэй. Ціп-ціп! Ту-ту-ту, курачкі. Лойкі.

**Ціхо'ня** м., ж. Ціхі, смірны чалавек; ціхоня. Здаецца, ціхоня, а ты бачыш, што выробляя? Малая Альшанка.

**Цкава'ць** незак. 1. Цкаваць. Прывык цкаваць свіней сабакамі, чысто вушы паабгрызалі. Сухая Даліна. 2. Перан.: падбухторваць, падбіваць. Ён майстар цкаваць, так і звядзе хлопцаў, кап тыя пабіліса. Зарубічы.

**Цмэ'нтаж** м. Могілкі, могільнік. Мой тато ні тут, на Парэцкім цмэнтажу пахаваны. М. Парэчча.

**Цнатлі'вы** прым. Маральна чысты, бязгрэшны, праведны. Наш Франак цнатлівы, нават паненак і тых устыдаецца, чырванее. Лугавая.

**Цуба'ніць** незак. Барабаніць, сячы. Дождж усю ноч цубаніў па блясі, спаць ні даваў. Кунцаўшчына.

**Цуба'сіць** незак. Моцна біць /груб./. Здаецца, і хмара нівелька была, а град як пачаў цубасіць, та чуць ні ўсё жыто палажыў. Малая Жорнаўка.

**Цу'гам** прысл. Цугам; запрэжаныя гужам коні. Наш пан часто цугам ездзіў, гэта тады, калі кепска дарога была. Круглікі.

**Цугле'й** м. Цуглі. Я заўсёды даю цуглей у зубы каню і еду сабе, ужэ ні панясе. Азеркі. Гатовых цуглей ні было, та я ў каваля сваго заказваў. Грандзічы.

**Цу'глі** мн. Цуглі. Як дасі каню цуглі ў зубы, та ўжэ ўтрымаяш, можаш ехаць спакойно. Балічы.

**Цугу'ндар** м. Цуглі. У нас палахлівы конь быў, та заўсёды цугундар давалі, бо машыны натто баяўсо. Кунцаўшчына. Браць на цугундар — перан.: падпарадкоўваць, прымушаць да паслухмянасці. Ого, яго баба адразу ўзяла на цугундар, ані пікне ціпер. Рагачы.

**Цу'кер** м. Цукар. Цукру ні было за што купіць і дарагі быў, каву с сахарынай пілі. Караневічы.

**Цуке'рнік** м. Прадавец цукерак /устар./. Як фэст, та цукернікі як пастануць з цукеркамі пат касцёлам, ні прайсці, так і заманьваюць згуляць, каб абдурыць. Індура.

**Цукро'ўка** ж. Гатунак грушы. Мы цукроўкі сушылі, яны такія нівелькія, вельмі салоткія былі. Кунцаўшчына.

**Цу'ндало** м., н. Той, хто любіць бадзяцца, хадзіць без справы, валачыцца. Цундало, ты дзе гэта цэлы дзень цундаяш, у хаці ні прыпыняешса? Гродна.

**Цу'ндаць** незак. Хадзіць, бадзяцца без справы. Прывык халернік цундаць, пад'есць толькі і зноў недзе цундае. Рацічы.

**Цу'нтар** м. Спаленая ільняная або баваўняная анучка для крэсіва. Я цунтар насіў у пудэлачку, паложыш на крэмень і красаяш, пакуль загарыцца. Кунцаўшчына.

**Цура'** ж. Цура, пакрышаны хлеб з вадой ці малаком. Зубоў німа, та нарабіла сабе цуры і ем во памаленьку. Дарашэвічы.

**Цу'рацца** незак. Цурацца, чужацца, ухіляцца. Вы нас ні цурайцеса, заяжджайце, як будзеце дзе бліско. Батароўка.

**Цурко'м** прысл. Цурком, струменьчыкам, буйнымі кроплямі. І аткуль такая гарачыня, пот цурком льецца, ні вытрымаць. Карозічы. Вада ў склеп

цурком цячэ, відаць, недзе дзірачку прабіла. Круглікі.

**Цыба'сты** прым. Тое, што і цыбаты. А што гэта за цыбасты хлопец каля цібе ўвінаўсо, ці не с Капцёўкі які? Караневічы.

**Цыба'ты** прым. Цыбаты; пра таго, хто мае доўгія ногі. Ты нашто гэтаго цыбатаго пятуха на зіму пакінула, былі ж лепшыя пятушкі. Баранавічы.

**Цы'бы** мн. Доўгія ногі /жарт./. Ты дзе свае цыбы суняш, тут і так німа дзе прайсці. Сухая Даліна.

**Цы'віль** м. Цывільны, неваенны чалавек. А каля жаўнераў адзін цывіль усе цёрсо, я думаў, што загатавіцель які. Занявічы.

**Цыга'н** м. Цыган. У нас, як вясна, так цыганэ і стаяць пад гарой, будаў шэсцьсем, кастрэ паляць. Свіслач.

**Цыгано'к** м. Дэталь у калаўроце ў выглядзе планкі, якая прыводзіць у рух вялікае кола. Цыганок бэнтаецца, гэта ні работа, прасці німа як. Брузгі.

**Цы'мас** м. Цымус, салодкая яўрэйская ежа, прыгатаваная з бручкі, морквы, яек на гусіным шмальцы. Цымасу я ні каштаваў, толькі бачыў, як яго елі, жоўты такі. Пракопавічы. 2. Вельмі смачны, непараўнальны, непераўзыдзены па смакавых якасцях. Ну, што, як на смак? — Цымас! — Я ш табе казаў, што каяцца ні будзяш. Лаша.

**Цы'мус** м. 1. Тое, што цымас у 2-м знач. Ты папробуй, гэта ж цымус, ты такого зроду ні каштаваў. Ласосна. 2. Самая сутнасць, самы сэнс. У гэтым і ўвесь цымус, што ніхто нічого аб нашых планах ні ведае. Гродна.

**Цы'нгель** м. Курок, спускавы кручок. Ён незнарок націснуў на цынгель, так дубальтоўка і высмаліла, чысто дзіцей перапалохаў. Гродна.

**Цынтрыфу'га** ж. Цэнтрыфуга, медагонка. У нас цынтрыфуга на дзве рамкі, а бываюць і на чатэры, даражэйшыя. Грынёўка.

**Цынцыле'я** ж. Падтыннік, травяністая расліна сямейства макавых, з жоўтымі кветкамі; чыстацел. Цынцылея ўсюды расце, пат плотам, на сметніку ў нас расла, ад экзэмы, кажуць, памагае. Кунцаўшчына.

**Цырава'ць** незак. Цыраваць, заштукоўваць дзірку ў тканіне. У нас рэтко каторая баба ўмела цыраваць, гэта ў горадзі кожна ўмела. Лугавая.

**Цыра'нка** ж. Цыранка, чырок, невялікая дзікая качка. З зімы як наляціць у луг цыранак, та вады ні знаць, столькі іх было. Сухая Даліна.

**Цыра'та** ж. Цырата. Ціпер ужэ дадумаліса цыратамі сцены выклейваць, самы ні ведаюць, што ўжэ вычаўпляць. Забагонікі.

**Цы'ркаць** незак. 1. У значэнні: даіць карову. Якая там у нас карова, цыркала, цыркала, ледво с паўзбанка надаіла. Лугавая. 2. Сплёўваць праз зубы. Ты што гэта за прывычку ўзяў праз зубы цыркаць, сядзіць і цыркае. Кунцаўшчына.

**Цы'ркель** м. Цыркуль, бандарская прылада для вымярэння дна ў бочках і г.д. Цыркель кожны гаспадар меў, без цыркеля дна ў дзежцы ні ўставіш. Азяркі, Грандзічы.

**Цы'цалы** мн. Невялічкая квадратная скураная скрыначка, якую яўрэі ў час малення прывязвалі на левую руку або прымацоўвалі да ілба. Як у нас Лэйшко печ рабіў, та нам, дзецям, натто было страшно, як ён маліўсо, крычаў нешто з цыцаламі на лобі. Кунцаўшчына.

**Цы'цка** ж. 1. Цыцка, адна з грудзей ў жанчыны. Фэ, такі велькі хлопец, а цыцкі ў мацяры просіць, брытко. Зарубічы. 2. Сасок у вымі. Адна цыцка ў нашай каровы фальшыва, малака зусім німа. Дзекалавічы.

**Цьвярдзі'ць** незак. Даказваць, паўтараць, настойваць на сваім. У адзін голас цьвярдзілі, што рок будзе мокры, а зноў — во як усё павысыхало. Копанікі.

**Цьма** ж. Маленькі начны матылёк шэрага колеру, лахматы, які часта вечарам улятае ў хату і мітусліва лётае, б'ецца аб шкло. Зачыняй акно, а то і зноў цьма ўляціць. Рацічы.

**Цьма** ж. 1. Цемра, цемрадзь. Цьма нека, нічого ні бачу перад сабой. Кун-

цаўшчына. 2. Процьма, вялікае мноства, безліч. Камароў цьма, у гочы лезуць, ні даюць жыць. Зарубічы. Цьма-цьмушча — вельмі многа, безліч. Мухаў у хаці цьма-цьмушча, аж у гаршке паналазілі, ратунку ад іх німа. Лаша.

**Цэ'бар** м. Посуд з клёпак для прыгатавання свіной ежы. Бульба свіная зварылаcа, патсунь бліжай цэбар, высыпаць трэбо. Бакуны.

**Цэ'баць** незак. Ісці вялікімі крокамі / жарт., неадабр./. Гэты магазын яму, відаць, аш пахне, што ён зраня да яго так і цэбае. Лаша.

**Цэ'бер** м. Тое, што і цэбар. У нас адзін цэбар быў такі, што трэбо было ўдвох нясці, адзін ні даваў рады. Галавачы.

**Цэ'лкі** прым. Меткі, трапны. Я, брат, ні цэлкі, колькі ні страляў, аніяк у цэль ні пападаў. Галаўнічы.

**Цэ'рква** ж. Царква. Кажуць, Лашанская цэрква ашчэ пры паншчыні была, пры некім Ханькоўскім бацюшцы. Лаша.

**Цэ'тлік** м. Распіска, квітанцыя. Глядзі, каб цэтлік дзе ні згубіў, а то і зноў будзеш плаціць. Кавалічы.

**Цэ'ўка** ж. 1. Шпулька, шпуля /у кроснах/. Бусел клякоча, цаўке сукаць хоча / прымаўка/. Зарубічы. Цэўкі добро было з белага бэзу рабіць, бо там сарцавіна мяхкая. Рагачы. 2. Трубчастая частка галёначнай косці. Цэўка зраслаcа, але як на перамену пагоды, та нага ўсе роўно ные. Дарашэвічы.

**Цю'каць** незак. У значэнні: ісці / пра гадзіннік /. Глядзі, часэ ледво цюкаюць, мусі стануць. Каўпакі.

**Цю'кнуць** зак. 1. Прыйсці на думку. Перша, што цюкнуло мне ў голаў, гэта грошы, мацнуў за кішэнь — німа. Гарны. 2. Выпіць спіртнога /жарт./ Па стакану цюкнулі, бачу — ні ў галаве, ні ў воку. Саволеўка. Стукнуць /жарт./. Я яго, здаецца, лёганько цюкнуў, а ён так і сеў. Грынёўка.

**Цюль** м. Цюль, туля, гардзіна. Учора цюлю набрала, будзе на ўсе вокна. Свіслач. Да вайны цюлю ні было, ніхто тых вокнаў і ні завешваў, ні хаваліса так, так як ціпер. Лаша.

**Цю'нькі** мн. Хатні мяккі сялянскі абутак, звязаны з тоўстых нітак. У хаці ў цюньках файно было хадзіць: і лёхко, і ногі ні мерзнуць. Шэмбелеўцы.

**Цю'паць** незак. Ісці дробнымі крокамі. Стары ледво ўжэ цюпае, зусім аслаб. Рацачы.

**Цюрка'ч** м. Цвыркун; тое, што і цьвіркун. Хвароба на яго, цюркач як завядзецца ў хаці, та ўжэ ні выжанеш, ні дасць заснуць. Гродна.

**Цю'рыш** выкл. Покліч, якім адганяюць куранят. Цюрыш, а цюрыш! Вы куды гэта лезяце! Кунцаўшчына.

**Цю'хна** ж. Бесхарактарны, няўклюдны чалавек. Прападзе дзеўка, аддалі замуж за гэтаго цюхну, а ціпер што хочаш рабі. Рагачы.

**Цю'цельку** прысл. Трошкі, крыху. Да твае рубашкі цюцельку матэрыі ні хватае, трэбо дакупіць. Свіслач. Цю'целька ў цю'цельку — вельмі дакладна, кропля ў кроплю. Як даваў сланіну, та ўжэ так важыў, цюцелька ў цюцельку, каб нічуць ні передаць. Квасоўка.

**Цю'цька** м., ж. Сабачка /дзіцяч. слова/. Колік, туды ні ідзі, там цюцька укусіць можа. Вялікая Альшанка.

**Цю-цю-на!** выкл. Вокліч, якім падзываюць сабаку. Цю-цю-на! Бобік, хадзі сюды! Баяры.

**Ця'га** ж. Цяга. Во, як комін прачысцілі, та і цяга стала, аж рве, так цягне. Скамарошкі

**Цягаві'ты** прым. Цягавіты, дужы. Але ж і цягавіты быў конь, з любого месца воз выцягне. Ласосна.

**Цяга'ць** незак. 1. Цягаць, валачыць. Ціпер добро, што салому даюць, ні трэбо начамі цягаць ад стагоў. Старая Дубавая. 2. Насіць адзенне /неадабр./. Ці ж на работу гэта пальто цягаць, у цібе фуфайкі німа, ці што? Гожа.

**Цяга'шчы** прым. 1. Бадзяжны, бяздомны. Некі цягашчы сабака пристаў да нас, пабыў дзень і зноў недзе пацягнуўсо. Кульбакі. 2. У значэнні: шукальнік любоўных прыгод, марально няўстойлівы. Што і казаць, цягашчы чалавек, ужэ другую жонку кінуў, і зноў недзе пацягнуўсо. Кульбакі.

**Ця'жкі** прым. Цяжкі. Цяжкі быў час, хай ён згарыць і ніколі ні вернецца. Лапенкі.

**Цяка'й** дзеясл. Уцякай. Я яму тады і сказаў: цякай, пакуль галава на плячах, а то дастанеш. Грандзічы.

**Цякуне'ц** м. Сыпучы пясок. Цякунец-пясок у жмені ні ўтрымаеш, так і цячэ. Гожа

**Цяльпе'х** м. Бесхарактарны, непаваротлівы чалавек. Альбо гэты цяльпех што талковае зробіць, яму тулькі на пячэ сядзець. Балічы.

**Цяля'чына** ж. Цяляціна. Ціпер цялят ні рэжуць, гадуюць, таму і цялячыны німа. Сухая Даліна.

**Ця'мця-ля'мця** м., ж. Недаразвіты, няўклюдны чалавек. Я думала, што ён цямця-лямця, а гэта такі праныра, што свет ні бачыў такого. Славічы.

**Ця'ты** дзеепрым. Зацяты, займеўшы злосць. Ён на гэтаго франта быў цяты, шукаў толькі прычыны, кап пабіцца. Баранава.

**Цяро'мшына** ж. Сляды ад пабоеў /нар. — паэт./. Мне твая бітва ні першына', на маіх плячах — цяромшына /з нар. песні/. Свіслач.

**Цяруха'** ж. Пацёртыя рэшткі сена або саломы. У тую весну ў нас ў адрыні тулькі адна цяруха засталаса, карові ні было чаго на раз даць. Карозічы.

**Цярэ'шня** ж. Чарэшня. У гэтым року цярэшні ўрадзілі, а вось вішняў зусім німа. Гібулічы.

# Ч

**Чабо'р** м. Чабор. У нас чабору ніхто ні збіраў, гэта ў другіх сёлах збіралі, парылі і пілі як чай.Чабор — добры меданос, як зацвіце, та нашы пчолы аж звіняць над ім. Асочнікі.

**Ча'йка** ж. Ладка. Да Коматава на фэст мы на чайцы пераплывалі Нёман. Віцькі.

**Чаку'шка** ж. Бутэлька гарэлкі ёмістасцю ў чвэрць літра. Я свайму прынясу чакушку, хай лепей ў хаці вып'е, чым дзесьці будзе піць. Гродна.

**Чалаве'к** м. Муж, мужчына ў адносінах да сваей жонкі. Мой чалавек учора як паехаў да сваіх, та і ашчэ німа. Навасёлкі. Чалавек без жоўці — добры па характару. Гэта чалавек без жоўці, ён нігды ні злуе, ні чулі, кап с кім сварыўсо б. Зарубічы.

**Чалаве'чак** м. Зрэнка /у воку/. Гэта добро, што я гоко закрыў, а так парнуў бы ў самы чалавечак і хадзіў бы сляпым. Лаша.

**Чало'** н. Эліта; лепшыя, адборныя зярняты, пакінутыя на насенне. Я на насене адбіраю самае чало, таму і пшаніца ў міне лепша, як у другіх. Сухая Даліна.

**Чаля'дня** ж. Пакой у панскім палацы, у якім жылі дваровыя слугі, чэлядзь. Чалядня ў нашаго пана была каля самаго пакоя, у ёй пакаёўкі тулькі жылі. Рагачы.

**Чама'йда** м., ж. Бязвольны, бесхарактарны чалавек. Хай другі раз чамайдай ні будзя, добро пільнуя, а то самого забяруць і панясуць. Сухмяні.

**Ча'мкаць** незак. Марудна жаваць ежу. Некай сухой каўбасы далі, та як пачаў чамкаць, мо с паўгадзіны чамкаў, пакуль праглынуў. Мігова.

**Чамярге'с** м. Самагон /жарт., груб./. Чамяргесу можно хучэй дастаць у лясных вёсках, бо там вальней выгнаць. Каменка.

**Чамяры'ца** ж. Гарэлка /устар./. Пятрусь, пойдзямо да міне, мо чамярыцы вып'ямо, весялей будзя. Лаша.

**Чан** м. Вялікі посуд са змеевіком, у якім адбываецца ахаладжэнне і дыстыляцыя шкіпінара /у смалакурнай вытворчасці/. Мы ўвесь час глядзімо, каб ў чані заўсёды была халодая вада, тады добро скіпідар цячэ. Рыбніца.

**Чапа'ць** незак. Чапаць, кратаць, кранаць, рухаць. Ні чапай Рыгара, хай сядзіць, як гара /прымаўка /. Аульс.

**Чапе'ц** м. Чапец, каптур; галаўны жано-

чы ўбор, які насілі пад хусткамі. Хібо яна ў чапцэ радзіласа? /прымаўка /. Галаўнічы.

**Ча'пля** ж. 1. Чапля, балотная птушка. Некалі гэтых чапляў было, стаялі над рэчкай, шыі выцягнуўшы, а ціпер ні адной ні ўбачыш, недзе падзеліса. Сонічы. 2. Слімак, смоўж. Чапля жыве на нізкіх месцах, дзе вільгаці много. Прыгодзічы.

**Чапэ'** мн., чап м. Шыпы ў сталярных дэталях. Чапэ добро ні запілаваў, а ціпер падганяй, каб уваходзілі. Дзекалавічы.

**Чараві'кі** мн., м. Чаравікі. У міне пяцёра дзіцей, та адных чаравікаў ні накупішса, ні кажучы ўжэ пра другое. Грандзічы.

**Чарано'к** м. Чаранок; ручка прадмета, за якую бяруцца рукой пры карыстанні. Чаранок гэты зрабіў с сухой бярозы, думаю, што моцны будзя, можаш капаць. Мількаўшчына.

**Чарапа'ха** ж. Рапуха; палявая жывёліна сямейства бясхвостых земнаводных, падобна на жабу, з бугрыстай скурай. Чарапаха ў норах жыве, пчолаў хватае. Я сам бачыў, як прылезла да лятка і хацела пчол лавіць. Табольская Будка.

**Чара'пкацца** незак. 1. Драпацца. Чую, нехто стаў чарапкацца; каль я адчыніў дзверы, а зноў бачу — наша кацяня. Грандзічы. 2. Карабкацца; узлазіць з цяжкасцю. На гару як стаў чарапкацца, та ледво ўзлез: так было сліско. Агароднікі.

**Чарассядзе'льнік** м. Пасак; частка конскай вупражы — рэмень, працягнуты ад адной аглоблі да другой цераз падсядзёлак. Я заўсёды стараюсо мацней падцягнуць чарассядзельнік, каб едучы аглоблі ні бэнталіса. Бандары.

**Чарапо'к** м. 1. Чарка /устар./. Давай ашчэ па аднаму чарапку вып'ям, ні замного будзя. Баранава. 2. Галава ж. /жарт./. Як я бачу, твой чарапок зусім ні варыць, нічого ты ні разумееш. Кунцаўшчына.

**Чараўні'к** м. Чараўнік, чарадзей, вядзьмар. Кавале, пчалярэ, леснікe — усе яны чараўнікe, звязаны з нічыстай сілай, што хочаш, могуць зрабіць. Лаша.

**Чарва'** ж. Чарва, пчаліны расплод у ячэях. Як тулькі пчолы зробяць аблёт, так і гляджу, ці чарва есць, ці німа. Ахрымаўцы.

**Чарве'не** н. Працэс адкладкі пчалінай маткай яечак у ячэі. Як чарвене роўнае, адразу відаць, што маладая матка, добро чарвіць. Грынёўка.

**Ча'рка** ж. Чарка, кілішак. Пасля той хваробы мой чаркі і ў рукі ні бярэ, глядзець ні можа, як хто п'е. Мішкенікі. Давай, куме, чаркі, у міне есць што выпіць, ні трэбо ісці. Асташа.

**Чаркава'ць** незак. Выпіваць /пра гарэлку/. Яны часценько збяруцца сабе ды давай чаркаваць. Горніца.

**Чарнакні'жнік** м. Вядзьмар, чарадзей /устар./ У нас Міхайлоўскаго чарнакніжнікам празывалі, бо ён усе некія кнішкі чытаў, людзей лячыў травамі. Каўпакі.

**Чарні'ліца** ж. Чарнільніца. После вайны чарніліцаў не было, та кажды вучань насіў чарніло ў маленькіх бутылачках. Лікоўка.

**Чаро'муха** ж. Чаромха. Кажуць, што кара' чаромухі памагае ад немачы, трэбо парыць і піць па адной шклянцы ў дзень. Капцёўка.

**Чаро'пка** ж. Макацёр; гліняная пасудзіна, у якой труць мак. Ціпер каб і хацеў чаропку купіць, та ні купіш, у магазінах ні прадаюць. Пагараны. На куцю маці насыпле ў чаропку маку, а я качалкам тру, пакуль белы ні станя. Кашэўнікі.

**Чартапало'х** м. Чартапалох. Тут у нас пад бокам пустэча была, та пчолы ўсе туды лятaлі, там цвіў баркун, сінявей, чартапалох. Калбасіна.

**Чарэ'нь** ж. Спод у хлебнай печы. Чарэнь аж бела, трэбо ўжэ хлеб садзіць. Лікоўка.

**Часа'ць** незак. Шпарка ісці, бегчы. Гляджу, хто там па сцежаццы так чэша, а зноў гэта мой Жучок. Зарубічы.

**Часны'к** м. Часнок. Ні еш часныку — з рота ні будзя смярдзець /прымаўка/. Гібулічы.

**Часо'ўня** ж. Капліца. Невялікая цэркаўка без алтара. Кажуць, што лашанская ча-

соўня ў 1863 року пастаўлена, пасля вайны згарэла, дзеці патпалілі. Ферма.

**Частава'ць** незак. Частаваць. Я ні магу яго кожны раз частаваць, аткуль яму вазьму. Хамякі.

**Часы'** мн. Гадзіннік. Хто даўней тыя часы знаў, а ціпер кожнае дзіця на руццэ носіць, ведае, каторы час. Скамарошкі.

**Часце'нько** прысл. Вельмі часта. Ён дахаты часценько прыходзіў навесяле, падвыпіўшы. Калбасіна.

**Ча'ўкаць** незак. Марудна жаваць ежу. Як пачне чаўкаць, та чаўкае, чаўкае, ледво праглыне: стары, што і казаць. Дарашэвічы.

**Чаўны'к** м. Чаўнок. Гэты чаўнык век будзя служыць, хіба ён зношваецца, як помню, та такі ён. Капцёўка.

**Чаўпсці'** незак. Рабіць нешта незвычайнае, вытвараць, вычвараць. Што ты чаўпеш с гэтымі дзяцьмі, пат старасць яны табе за ўсё гэта атплацяць. Сухмяні.

**Ча'хнуць** незак. Чахнуць, сохнуць, марнець. На вачах хлопец стаў чахнуць, і сама ні ведаю, што з ім. Дубоўка.

**Чацьвярта'к** м. Чацвярціна; чацвёртая частка зямельнага надзелу /каля 3 га /. Як бацько памёр, та яны падзялілі зямлю, ледво па чацьвяртаку прышлоса на кожнаго. Кавалічы.

**Чачо'тка** ж. Від вельмі цвёрдай бярозавай драўніны; пакручасты камель бярозы. Як парабіў чаранке да долатаў з чачоткі, та і ціпер служаць, ні адзін ні раскалоўсо. Дарашэвічы.

**Чашчаві'к** м. Падбярозавік, грыб. Адных чашчавікоў кош набраў, ледво дахаты прынёс. Пагараны.

**Чварагра'нны** прым. Чатырохгранны; які мае чатыры грані. Помню, даўней прадаваліса і чварагранныя гаршке, у міне самой доўгі час быў чварагранны гаршчок. Эйсманты.

**Чвара'к** м. Дом ў маёнтку, у якім жылі дваровыя слугі, парабкі. Усе парапке' ў нашаго пана жылі ў адным чвараку, мо сем'яў дзесяць ці больш. Зарубічы.

**Чва'рыць** незак. Выдумляць, гаварыць няпраўду, глупства. Гэты дзядзько, мусі, чварыць, ні так усё было, як ён кажа. Ахрымаўцы.

**Чвэ'клы** мн. Драўляныя цвічкі, якімі падбіваюць падэшву абутку, гвазды. Каб чвэклы добро ішлі ў падошву, та я спачатку тыкаю іх у мыло, а тады забіваю. Індура.

**Чвэ'ртка** ж. Бутэлька гарэлкі ёмістасцю ў чвэрць літра. Мы прынясем сабе чвэртку і вып'ем удвох, нам будзя даволі, бо я много ні п'ю. Адэльск.

**Чвэрць** ж. Чвэрць; чацвёртая частка цэнтнера збожжа /1,5 пуда, 25 кг/. Во, прадаў чвэрць жыта, і пакуль што будзя грошай на абыходы. Клачкі.

**Чвэ'рыць** незак. Выдумляць, гаварыць няпраўду, глупства. Як пачаў чвэрыць, та мы за галавы браліса, як можно так глатко дурыць людзей. Клачкі.

**Чвэ'хаць** незак. Чмыхаць /пра цягнік/. Глядзі, паравоз нешто цяшкае цягне, ледво чвэхае, ідзе. Батароўка.

**Чкэ'-чкэ'-чкэ'!** выкл. Вокліч, якім падзываюць свіней. Маці як пакліча: «Чкэ-чкэ-чкэ!"- так свіня як могуць бягуць с поля дахаты. Баброўнікі.

**Члу'нак** м. Сустаў. Нешто ў члунках круціць, мо дзе які раматызм прыстае. Кавалічы

**Чма'рыць** незак. Тое, што і чвэрыць. Кап хоць, праўда, чмарыць умеў, а то нясе неку ерась. Кунцаўшчына.

**Чмель** м. Чмель. Канюшына пад бокам, але нашы пчолы з яе меду ні бяруць, гэта тулькі чмяле з яе могуць браць. Кадыш.

**Чмо'ніць** незак. Выдумляць; гаварыць няпраўду, глупства. Што ты чмоніш, гэта зусім ні так было, як ты пляцеш. Белева.

**Чмо'хкаць** незак. Цмокаць. Паршучка некаго ніўдачнаго купілі, дасі есць, та тулькі чмохкае, ні есць. Аульс.

**Чмут** м. Ашуканец, махляр, жулік. Хіба ш ты яго ні ведаеш, гэта ж чмут; ён як жыве, та ўсе чмуціць, махлюе. Сухая Даліна.

**Чмута'** ж. Чары, зацьменне свядомасці, гіпноз, ачмурэнне. Цыганка ёй, мусі, чмуту ў гочы пусціла, калі яна нічого ні помніць, што рабіла. Зарубічы.

**Чмуці'ць** незак. Выдумляць, хлусіць, уводзіць у зман. Пакінь чмуціць, ні ду-

май, што тут усе дурныя. Баранава.

**Чмэ'хаць** незак. Курыць, пускаць дым з люлькі. Пакінь чмэхаць, накурыў, што ў хаці хоць сакеру вешай. Свіслач.

**Чо** займ. Чаго. Здаецца, чо яму ні хватало, усяго меў, а шчасця, бач, ні было. Пералом.

**Чо'баты** мн. Галоўкі; боты з адрэзанымі халявамі. Во, ат старых ботаў тулькі чобаты засталіса, добро каля хаты хадзіць. Бакуны.

**Чо'вен** м. Човен. Я некалі на сваім чоўні даяжджаў аж да самых Ярмоліч, там рыбы много было. Балічы. Бачыш, човен пацёк, ізноў трэбо смаліць. Кашэўнікі.

**Чо'рны** прым. Чорны. Надыходзіць чорна хмара, а за ею — сіня, нарадзіла наша ўдава салдацкаго сына /з нар. песні/. Рудавіцы. Чорны бэз — бузіна, кустовая расліна з чорнымі ягадамі. З чорнаго бэзу мы ўсе сікаўкі сабе рабілі, ходзім і адзін аднаго абліваям вадой. Кунцаўшчына. Чорны хлеб — хлеб з прымессю мякіны і іншых сурагатаў /устар./. Мне баба казала, што некалі пяклі чорны хлеб, у ім была толькі палова жыта, другая палова — з мякіны, жалудоў і бульбы. Лаша. Чорныя ягады — чарніцы, чарніца ж. Як паясі ягадаў, та аж у році стане чорна, як у сабакі. Зарубічы.

**Чорт** м. Чорт, д'ябал, нячыстая сіла. Дзе чорт ні йме, туды бабу пашле / прымаўка/. Лікоўка. Чорт душу выме, а поп шкуру здыме /прымаўка/. Лаша. Я сама бачыла, як ночу нат хатай нешто паляцело, гэта чорт грошы панёс. Кунцаўшчына. Чорт дзеці калыша — у значэнні: нават нячыстая сіла яму дапамагае. Багатаму чорт дзеці калыша, а ў беднаго с калубелі выкідае /прымаўка/. Селюкі.

**Чо'ртавы** прым. Чортавы, які мае адносіны да чорта. Як закруціць вецер, як падыме пясок уверх, та наш дзед казаў: «Во, чортаво вяселе едзе.» Лаша. Чортава скура — корт; бавоўняная, цёмнага колеру тканіна для рабочага і спартыўнага адзення. Як пашыла дзецям каптанчыкі з чортавай скуры, та і ашчэ ходзяць, зносу ім німа. Кунцаўшчына.

**Чо'санкі** мн. Самаробныя валёнкі. Я сам чосанкі рабіў, за вечар пар дзве скачаеш. Ласосна.

**Чо'ўкаць** незак. Марудна жаваць ежу. Ты ўжэ чоўкаеш, як стары, хіба зубоў ні маеш? Ты ж яшчэ малады. Батароўка.

**Чо'хмацца** незак. 1. Чухацца. Ты чо гэта чохмаешса, мо дзе якой кароcты набраўсо? Баброўнікі. 2. Марудзіць. Ні чохмайса, а жывей прыбірайса і едзь, людзі даўно паехалі. Казловічы.

**Чуга'н** м. Чыгун, гаршчок. Насып у чуган бульбы ды пастаў у печ, хай варыцца. Хамякі.

**Чу'дзіло** н., м. Дзівак. Чудзіло ты ні чалавек, гаворыш і сам сабе ні верыш. Дарашэвічы

**Чужане'ц** м. Чужы, не родны. Ён мне чужы чужанец, ні сват, ні брат. Баброўня.

**Чу'йка** ж. Світка, бравэрка, армяк, старадаўняя сялянская верхняя адзежына з тоўстага саматканага сукна. Чуйку можно было п пашыць, але краўца добраго німа. Васілевічы.

**Чу'каць** незак. Гушкаць, пагойдваць / пра дзіця/. Прывыкло, каб яго чукалі, і рады німа, плача. Круглікі.

**Чу'парачкі** мн., на чупарачкі — на кукішкі. Вазьмі слончык і сядзь, ці гэта старому чалавеку на чупарачках сядзець, ногі адбярэ. Баранава.

**Чу'пачкі** мн., на чупачкі — на дыбачкі, на пальчыкі. Хоча быць большай, та ўсе на чупачкі падмошчваецца. Жукевічы. Я на чупачках паціху прашла, каб іх ні разбудзіць, і жывей лягла. Грабяні.

**Чупіра'дло** н. Страшыдла, страхоцце, пачвара /груб./. Гэта ні баба, а нека чупірадло, дзе ён такую і знайшоў. Балічы.

**Чу'тачку** прысл. Трошкі, крышачку. Дай я хоць чутачку прылягу, а то гочы зліпаюцца, ні магу сядзець. Луцкаўляны.

**Чу'ткі** прым. Чуйны, чуткі. Наш сабака чуткі, хай хто дзе павінецца, так і забрэша. Барбарычы.

**Чу'хацца** незак. Чухацца. Свіня нешто пачала чухацца, паглядзі, некія паршы напалі. Кавалічы.

**Чу'хаць** незак. Чухаць. Што ты стаў чухаць патыліцу? Старая Дубавая.

**Чухме'ль** м. Неахайны чалавек /пагард./. Чухмель, ён рэтко калі мыецца, так і ходзіць. Адэльск.

**Чухмо'ліцца** незак. 1. Чухацца. Тулькі што чыстую сарочку надзеў, бачу: і зноў нешто чухмоліцца. Кунцаўчына. 2. Перан.: марудзіць. Ні трэбо чухмоліцца, а збірай свае рэчы і ідзі жывей. Каўпакі.

**Чуча'к** м. Тумак, кухталь, штуршок. Але ж і надаваў яму чучакоў, будзя ведаць, як лезці ў чужое. Некрашы.

**Чу'чарапка** ж. Смоўж, балацянік звычайны з вежападобнай ракавінай, які жыве ў сажалках, у прыбярэжных зонах рэк. Чучарапка жыве ў затоках Нёмна. Пустыя чучарапкі збіралі, гулялі імі, як дзецьмі былі. Прыгодзічы.

**Чу'чка** ж. Верх сагнутага сустава пальца. Як упаў, хвароба на яго, та чысто чучке пааббіваў, во, аш кроў цячэ. Гібулічы.

**Чу'шка** ж. Свінка, парася /дзіцяч. слова/. Хадзем, сынок, я табе маленькую чушку пакажу, во, там яна бегая. Зарубічы.

**Чыгуно'к** м. Чыгун /памянш./. Зварыш у маленькім чыгунку бульбы, і нам на дваіх больш і ні трэбо. Панямунь.

**Чыгу'нчык** м. Невялікі чыгун. У гэтым чыгунчыку маці грэцку кашу варыла і малако нам, дзецям, парыла. Перстунь. Учора сабе файны паліваны чыгунчык купіла, такі нівелькі, якраз на нашу сям'ю. Ялоўшчына.

**Чыкілда'ць** незак. Ісці кульгаючы, чыкілдаць. Даволі табе чыкілдаць, хадзі падвязу, усероўно паражняком еду. Пілюкі.

**Чынава'ціна** ж. Самаробная тканіна з самага горшага гатунку ільну. З чынаваціны мы тулькі мяшке шылі, а нікаторыя і конскія торбы. Караневічы.

**Чыні'ць** незак. Рабіць, ствараць. Прырода, брат, чыніць чалавека, каб ён правільны быў, а выходзіць часамі наадварот. Рагачы.

**Чы'нна** прысл. Важна, паважна, прыстойна. Бачу, усе мужыке так чынно на лаўках сядзяць, ну і я да іх прымасціўсо, прысеў. Казловічы.

**Чы'н-чы'нам,** чын-чынаро'м — Як след, як мае быць, як трэба. Хату атстроіў чын-чынам, тулькі самому ў ёй ні прышлоса жыць. Квасоўка. Кошык атрымаўсо чын-чынаром. Лікоўка.

**Чынэ'** мн. Дзве часткі асновы, памік якімі прасоўваецца чаўнок. Як добро на панажэ наступіш, та і чынэ большыя, лёхко чаўнык пралазіць. Цвіклічы.

**Чыпу'рыцца** незак. Прыбірацца, прыхарашвацца, прыгожа адзявацца. Яна нешто стала чыпурыцца, відаць, хоча яму спадабацца. Сіўкава. Чыпурыцца як вош на марозі /прымаўка/. Свіслач.

**Чырвонагало'вік** м. Падасінавік /грыб/. Чырвонагаловікі я так сушу, як і баравіке, розніцы німа. Перстунь.

**Чырвонапё'рка** ж. Чырвонапёрка. Чырвонапёрка — натто ж палахлівая рыба, як дасць у волак, тулькі трымай. Лаша.

**Чыры'каць** незак. Чырыкаць /пра вераб'ёў/. Гараб'е, відаць, весну пачулі, чуяш, як чырыкаюць? Прыгодзічы.

**Чы'слінка** ж. Некалькі нітак, складзеных удоўж; адна з частак, на якія дзеліцца маток пражы. У пасмі ні больш, як чатэры чыслінкі, а ў чыслінцы нітак можа быць і больш і менш.Сіўкава.

**Чы'сто** прысл. Зусім, цалкам, поўнасцю, дачыста. З нашаго сяла ўсе чысто хаты згарэлі, ні адной ні засталосо. Кунцаўшчына. Хвароба на яго, ходзячы за гэтым дзецям, чысто прыстаў, ледво ногі валаку. Путна.

**Чы'хаўка** ж. Чыхаўка, чханне. Нека чыхаўка на хлопца напала, мусі прастыў. Пышкі.

**Чэ'злы** прым. Чэзлы, худасочны, чахлы, змарнелы. У гэтым месцы лес некі чэзлы, ніяк ні расце. Баяры.

**Чэ'знуць** незак. Чэзнуць, хірэць, занепадаць. Бачу, на вачах чалавек чэзне, а памагчы нічого ні можаш. Радзевічы.

**Чэ'лядзь** ж. Дваровыя слугі /устар./. Чэлядзь у палацы ні жыла, я і сама добро ні ведаю, дзе яна жыла. Дзекалавічы. У нас, як каму трэбо было згадзіць чэлядзь, та ехалі да Забагонікаў, аттуль прывозілі пастушкоў. Эйсманты.

**Чэ'пак** м. Чапец, жаночы галаўны ўбор.

Чэпакі насілі замужнія шляхцянкі, мода такая тады была. Эйсманты.

**Чэ'пчык** м. Чапец, жаночы галаўны ўбор. Ашчэ мая баба ў куфры чэпчык хавае, што некалі насіла. Сухая Даліна.

**Чэ'раво** н. Чэрава, жывот /устар./. Глядзі, свіня чэраво як атпусціла, мусі, ізноў будзе паросна. Саломенка. Ад'еўсо, як стаў начальнікам, во, якое чэраво носіць. Батароўка.

**Чэ'рап** м. Чэрап. У яго, кажуць, чэрап прабіты, ашчэ ў тую вайну раніло ў галаў. Жукевічы.

**Чэ'рхаць** незак. Запальваць запалкі /чыркаць/. Ні давай дзіцяці запалкаў чэрхаць, а то хату можа спаліць, як застанецца адно. Казловічы.

**Чэшчаві'к** м. Падбярозавік /грыб/. Я чэшчавіка лічу нараўне з белым грыбам, бо яго можно і сушыць, і варыць, і смажыць. Зарубічы.

# Ш

**Ша!** выкл. Ціха! Супакойцеся! Ша, дзеці, ні крычэця, малы Ванячка спіць. Каленікі

**Ша'бас** м. Суботні адпачынак у веруючых яўрэяў. Ужэ шабас, нічого ні купіце, крамы пазачынены. Пракопавічы.

**Шабасо'ўка** ж. Яўрэйскі народны танец, полька. Ірэшко як урэжа, бывало, на скрыпцы шабасоўку, та ногі самы ідуць скакаць. Кунцаўшчына.

**Шабулды'х** У значэнні: упасці, ускочыць у воду, утварыўшы характэрны гук. Я іду, а зноў чую: нехто шабулдых у воду і паплыў. Балічы.

**Шабулды'хнуць** зак. Упасці ў воду. Трымайса за парэнчу, а то тут адзін як шабулдыхнуў, та на другі дзень ледво нашлі. Занявічы.

**Шавалу'-шавалу'** прысл. Паволі, няспешна, не спяшаючыся. Пакуль маці злезя с тае печы, та я ні чакаючы шавалу-шавалу ды на двор, дый дроў ёй прынясу. Свіслач.

**Ша'вец** м. Шавец. У Індоры свой шавец быў — Алтар, у яго ўсе заказвалі абутак. Кунцаўшчына.

**Ша'ер-ма'ер** м. Ашуканства, абман. Я тут бачу, ў вас усё робіцца на шаер-маер, ні так, як трэбо. Малая Жорнаўка. Гэта табе ні шаер-маер, плаці грошы, калі згадзіліса. Індура.

**Шайта'н** м. Сатана, д'ябал, чорт. А шайтан яго ведае, хто тут з вас праўду кажа. Свіслач. Гэта куды цібе шайтан нясе, табе што ў галаву ўлезло? Клачкі.

**Шаке'ра** ж. Сякера. Шакеру зусім выбілі, палена ні маю чым зацясаць. Сабаляны.

**Шала'нда** ж. Пласкадонная несамаходная баржа. Багер-машына як пачала чысціць дно Нёмана, та шаланды ні паспявалі пясок адвозіць, столькі яго было. Ласосна.

**Шалапа'й** м. Гультай, вісус, свавольнік, несур'ёзны чалавек /лаянк./. Шалапай некі, і што с таго, што дзіплом мае? Каўпакі.

**Шалапу'т** м. Несур'ёзны чалавек, вісус, свавольнік, гарэза /лаянк./. Шалапут ты, дый годзі, куды табе раўняцца да другіх хлопцаў. Агароднікі.

**Шала'ш** м. Будан. Глядзі, які шалаш сабе зрабіў сторож, балото будзе пільнаваць. Караневічы.

**Шалдыбу'х** у знач. выкл. Тое, што і шабулдых. Я тут да яго, а ён шалдыбух у воду і паплыў. Ласосна.

**Ша'лік** м. Шалік, шаль, шаля. Шаліка я нігды ні насіў і ціпер ні хачу насіць, нашто ён мне. Квасоўка.

**Шалпата'ць,** шалпата'цца незак. Шалясцець, шамацець, утвараць шоргат. Нешто за дзвярамі шалпочацца, мо дзе якая мыш завялаcа? Старая Дубавая.

**Шалупі'ны** мн. Шалупіны, лупіны. На вялікдзень яйца я ў шалупінах з цыбулі хварбую, а нікаторыя — у крапіве, яны такія зялёненькія выходзяць. Лікоўка.

**Шальмава'ць** незак. Дурэць, сваволіць, дурыцца. Дзеці, гуляйце ў хаці, тулькі ні трэбо шальмаваць. Жытародзь.

**Шаляно'ўка** ж. Шарсцяная каляровая хусцінка. Кабеты і дзяўчата тады шаляноўкі насілі, яны на той час даволі дарагія былі, ні кожна магла купіць. Эйсманты.

**Шаляшо'к** м. 1. Грошык. Дам я курам шаляшок, паляцеця на таржок і купіця піражок. Сядзьце на калочку, з'ешце па кусочку /з дзіцяч. калыханкі /. Свіслач. 2. Таблетка. Некіх шаляшкоў прыпісаў наш фейчар, але нічога яны ні памаглі. Рудавіцы.

**Ша'мацьь** незак. Есці /дзіцяч. слова/. Бедны, мусі добро прагаладаўсо, калі ўзяў кусочак хлеба і шамаеш. Старая Дубавая.

**Шампо'ліць** незак. Невыразна гаварыць. Нешто сабе шамполіць пад нос, нічога ні разбярэш. Белева.

**Шамята'ць** незак. Марудна есці, жаваць. Як пачне шамятаць, та с паўгадзіны шамеча, пакуль палкне. Жытародзь.

**Шанава'не** н. Прывітанне. Мае шанаване, пане Мацею, як здароўе, як дзеткі жывуць? Ланявічы.

**Шанда'** ж. Від крапівы /глухая крапіва/. Шанды нарвеш, кінеш свіням, і ядуць, тулькі вушы трасуцца. Дарашэвічы.

**Шанц** м. Шанц, шчасце. Пападаў ёй шанц выйсці за добраго хлопца, ды людзі ні дапусцілі. Рацічы.

**Шанцава'ць** незак. Шанцаваць, везці. Перастало яму на свіней шанцаваць, гэта ж такія былі свіня і звяліса. Занявічы.

**Ша'пка** ж. 1. Шапка, галаўны убор. Шапку файну купіў, паглядзі якая. Кашэўнікі. 2. Распасцёрты сноп жыта, якім накрываюць другія снапы, каб не намоклі падчас дажджу. Вецяр шапке з дзісяткоў паскідаў, ідзі панакрывай. Белева. Варшаўская шапка — летняя шапка сіняга колеру з невялікім брылем. Мой татко ўсе ў варшаўскай шапцы фарсіў, ніякіх кепак ні прызнаваў. Кукалі.

**Шапта'ць** незак. Шаптаць, гаварыць шопатам. Перастань шаптаць ёй на вухо, кажы, каб усе чулі. Дарашэвічы.

**Шапту'х** м. Порхаўка, шарападобны грыб. Шаптухе — гэта ні грыбэ, а ніказорыя кажуць, што іх ядуць. Хамякі.

**Шапяля'віць** незак. Шапяляць, невыразна гаварыць. Нешто шапялявіць, а ні магу разабраць, чаго хоча. Дзекалавічы.

**Шапяля'вы** дзеепрым. Шапялявы; той, хто невыразна гаворыць, шапялявіць. Гэта ш такая дзеўка, а за Хведара шапяляваго замуж пашла. Сухая Даліна.

**Шапята'ць** незак. Шаптаць, гаварыць шопатам. Прывык шапятаць, усе нечаго баіцца, гавары, каб усе чулі! Баяры. Стары наш сядзе каля печы і нешто сабе шапеча, гаворыць сам с сабой. Лугавая.

**Шарава'ць** незак. Шараваць, церці, чысціць. Гэту падлогу трэбо будзя добро шараваць венікам, каб адмыць, бачыш, што нарабілі! Сухая Даліна.

**Шаранча'** ж., мн. Страказа, драпежнае насякомае з доўгім брушкам і дзвюма парамі празрыстых сеткаватых крылаў. Шаранча бывая сіня і шэра, шаранча ўсялякая бывая. Гродна.

**Шара'к** м. Заяц. Іду я, значыць, гэдак, а зноў як выскачыць шарак і просто на міне, чуць з ног ні збіў. Пагараны.

**Шарахце'ць** незак. Шамацець, шоргаць, шархацець. Нешто па стрэсі шарахціць, можа дождж пайшоў? Рацічы.

**Шара'чак** м. Самаробная шарсцяная тканіна, з якой сяляне шылі касцюмы. Шарачак найбольш ткалі з бавэлны і шарсцяной пражы. Сабаляны. Шарачак у нас розны быў, нікаторыя фарбавалі матке на гранатовы колер і ткалі. Эйсманты.

**Шара'чка** ж. Спадніна з самаробнай тканіны. Дзяўке ў нас насілі шарачкі — такія спадніцы с сіваго паўсукна. Бакуны.

**Шарачко'вы** прым. Сшыты з шарсцяной самаробнай тканіны шэрага колеру. Пашыла сваім хлопцам шарачкавыя каптанікі, а то былі зусім паабрываліса. Брузгі.

**Шарва'рак** м. Дарожная павіннасць у сялян у даваеннай Польшчы. У каго зямлі было больш, таму і шарварку прысылалі больш адрабляць, нам дзён дзесяць трэбо было адрабляць. Луцкаўляны.

**Шарло'та** ж. Басота, бедната, басякі / зневаж. /. Куды ты лезяш, там адна шарлота пазбіраласа, нікого люцкаго німа. Лугавая.

**Шарма'нка** ж. Катрынка, пераносны механічны арган. У нас на шарманцы ніхто ні іграў, хіба тулькі які жабрак на фэсці пад цэрквай. Лаша.

**Шаро'ш** м. Шарош; рух лёду па рацэ перад замярзаннем. Праз Нёман ціпер на чайцы ні пераедзеш, бачыш, які шарош ідзе. Кашэўнікі.

**Шаратаўня'** ж. Той, хто многа гаворыць без патрэбы, без толку, раскідае рэчы. Шаратаўня нека, ходзіць, нішто на месцы ні ўляжыць, куралём ляціць, нічого потым ні знойдзяш. Свіслач.

**Шаршу'баль** м. Рубанак з лязом для першапачатковай апрацоўкі драўніны. Нешто мой шаршубаль папсаваўсо, стаў забівацца, аніяк ні бярэ. Бандары.

**Ша'ры** прым. Шэры. Шары коляр — гэта ні зусім белы, толькі цемнаваты такі, а і сама добро ні ведаю, як сказаць. Хамякі. Шара гадзіна — час паміж заходам сонца і наступленнем ночы. У шару гадзіну ў хатах нічого ні рабілі, атпачывалі, нікаторыя байкі баялі, загадкі адгадвалі, аш пакуль ні запаляць лямпы. Кунцаўшчына. Шара ранета — сорт зімовай яблыні; ранет зімовы. На шарай ранеці ў гэтым року зусім цвету ні было, і сам ні ведаю чаму. Кузьмічы.

**Шарэ'ць** незак. Цямнець, змяркацца. Дзень зусім кароткі стаў, пяць часоў, а ўжэ шарэя. Дарашэвічы.

**Шасдзё'ннік** м. гіст. 1. Прыгонны селянін, які шэсць дзён у тыдні працаваў на пана і толькі адзін дзень на сябе / устар./. 2. Перан.: вельмі бедны чалавек. Ты што, за гэтаго шасдзённіка дачку замуж хочаш аддаць, хіба розуму ні маяш? Пад'ятлы.

**Шасна'стка** ж. Старая мера вагі збожжа /каля двух пудоў/. Некалі прадасі шаснастку жыта Моўшцы — і ўжэ маяш за што выпіць. Клачкі.

**Шаста'к** м. Старая мера зямлі /каля 2-х дзесяцін, або 2-х гектараў/. Шастак, матуленьку, прадаў кашуляньку /з нар. прыпевак/. Кунцаўшчына. У яго тулькі шастак зямлі, а ён жаніцца задумаў яшчэ. Бубны.

**Ша'стаць** незак. Шастаць, шамацець. Набраў нешто ў голаў, усё яму здаецца, што на гарэ нехто ходзіць, шастае. Кругляны.

**Шасцідзё'нік** м. Тое, што і шасдзённік. Шасцідзённік, бывало, карову выпусціць пасвіць, а ўсе на яго: "Ты шасцідзённік, карову і то пасеш ні на сваім, а на чужым». Бакуны.

**Шасціру'чка** ж. Каса даўжынёй у шэсць абхватаў далоні. Шасціручкай шырокаго пракоса ні возьмеш, ею добро тулькі крапіву касіць. Брузгі.

**Шасцьдзё'ннік** м. Тое, што і шасцідзённік. Кедысь паншчына была, та шэсць дзён працаваў на пана, таму і называюць міне шасцьдзённікам. Цыдовічы.

**Шата'н** м. Д'ябал, чорт. А цібе куды гэта шатан нясе, ты куды лезяш? Кузьмічы.

**Шаткава'ць** незак. Рэзаць, крышыць капусту на засол. Давайце капусту будзямо шаткаваць, я шаткаўніцу прынёс. Ласосна.

**Шаткаўні'ца** ж. Шаткаўніца. Даўней ніхто ніякіх шаткаўніцаў ні ведаў, капусту рукамі крышылі, і ні горша была. Пракопавічы.

**Шатрава'ць** незак. Абдзіраць зерне для далейшай апрацоўкі. Ячмень трэбо было шатраваць, а тады на крупе ўжэ пускалі. Луцкаўляны.

**Шаўбу'сь** у знач. выкл. У значэнні: упасці ў воду. Чую, нехто шаўбусь у воду, каль я прыгледзяўсо, а зноў гэта бабёр, іх тут процьма развялосо. Занявічы.

**Шаўбу'хнуць** зак. Упасці ў воду. Ён як шаўбухнуў, та думалі, што ўжэ ўсё: мінут дзве ні было, а зноў галава аш пат тым берагам паказаласа. Карозічы.

**Шаўпата'ць** незак. Шамацець, шоргаць. Адну зіму ў нас ёжык быў, та як пачне ноччу бегаць, шаўпатаць, та ні заснеш. Навасёлкі.

**Шаўпята'ць** незак. Жаваць, ціхенька есці. Ты гэта што шаўпечаш, схаваўшыся ў куточак, пакажы? Каўпакі.

**Шаўхату'н** м. Той, хто шапялява, невыразна гаворыць. Ля, і зноў той шаўхатун да нашай Надзі прышоў, нешто ёй кажа. Свіслач.

**Шаўхяну'ць** зак. Падаць голас, адазвацца. У сяле была такая цішыня, нідзе ніхто ні шаўхяне, аш пакуль ні закрычалі: пажар! Хамякі.

**Ша'фа** ж. Шафа. У нас шафы ніякай ні было, усё ў куфрах трымалі, гэта ціпер усюды шафы сталі мець. Вішнявец.

**Ша'фер** м. Шафер; таварыш жаніха ў вясельным абрадзе; дружок. Як ён жаніўсо, та я ашчэ шаферам яму быў, гэта даўно было. Клачкі.

**Ша'ферка** ж. Шаферка, дружка. Глядзі, якая пекна ў яго шаферка, цэлы вечар з ею скача. Клачкі.

**Ша'фка** ж. Невялікая шафа, буфет. Гэта шафка даўно тут стаіць, а што ў ёй, я і сама ні ведаю. Сухмяні.

**Ша'хер-ма'хер** м. Ашуканства, абман. Як я паглядзеў, та ў вас ўсё робіцца на шахер-махер, абы больш грошай зарабіць. Кавалічы.

**Ша'шкі** мн. Дзіцячая гульня пераважна хлопчыкаў; тое, што і гульня ў бабкі. Як прыехалі з Расіі, та ў шашкі ўсе гулялі, на грошы, хто больш выіграе. Караневічы.

**Шашо'к** м. Шашок, тхор. У прошлым року, хвароба на яго, у нашай бабы шашок усе куры пахватаў, ні адной ні пакінуў. Грыўкі.

**Шашо'к** м. Прылада, якую вешалі цяляці на мысу, каб не магло ссаць карову. Татко здзярэ з вожыка шкурку, прышые да палатна і вешае цяляці на мысу, яно як парне карові голкамі, так тая — нагой і ні дасць ссаць. Ліхачы.

**Шашо'к** м. Збожжа, украдзенае сынам ад бацькі на выпіўку /устар./. Бацько ў міне скупы, та я ўхаплю шашка — і ўжэ есць на гарэлку. Капцёўка.

**Шва'гер** м. Швагер, брат жонкі; муж сястры або жончынай сястры. Учора ў міне швагер быў, ездзілі да Лунай на кірмаш, карову яму купілі. Карозічы.

**Шваге'рка** ж. Жончына сястра. Мне Надзя прыходзіцца тулькі швагерка, а ні сваячка. Адамавічы.

**Швагру'сь** м. Швагер /ласк./. Німа што казаць, швагрусь у міне добры, ні забывае, сют-туд і зноў заедзя паглядзець, як мы жывем. Цвіклічы.

**Шва'йка** ж. Шыла, завостраны металічны шпіль для забівання свіней. Як усадзіў паршуку пад лапатку швайку, так той і заснуў, ні піснуў нават. Малышчына.

**Швайкава'ць** незак. Кампасціраваць /пра талоны, білеты/. Жывей трэбо швайкаваць талоны, а то кантралёр ідзе, білеты можа праверыць. Гродна.

**Шваргіта'ць** незак. Гаварыць на незразумелай мове. Бачу, немцы спалохаліса, сталі нешто шваргітаць, бегаць, як апараныя. Скідаль.

**Шварцава'ць** незак. Накіроўваць /пра плыт/. Шварцуй! Шварцуй бліжай да берага! Глядзі, каб ні занясло хваста! Дарашэвічы.

**Шварцу'га** ж. Прывязка з кручаных дубцоў, якой змацоўваюцца бярвенні ў плыце. Давай набярэм гэтых шварцугаў сухіх, добро будзя печ напаліць на хлеб. Дарашэвічы.

**Шва'чка** ж. Швачка, краўчыха. Кажуць, яна недзе на швачку вучыцца, захацела швачкай быць. Чэхаўшчына.

**Шво'ран** м. Шпень, які змацоўвае перадок з астатняй часткай воза і дае магчымасць рабіць павароты. Глядзі, кап шворан не выпаў, як па каменях хутко будзяш ехаць. Грыўкі.

**Шво'рын** м. 1. Тое, што і шворан. Мне шворан як зрабіў каваль, та і ціпер недзе ляжыць, ні з'ездзіўсо. Круглікі. 2. Дэталь у калаўроце ў выглядзе драўлянага шпянька з разьбой, якая мацуе шпульку і рэгулюе нацяжэнне шнура. Паткруці шворын, а то шнур спадае, добро ні на-цягнуты. Бакуны.

**Шво'рыць** незак. Шукаць, вынюхваць / неадабр./. Ты чо тут шворыш, хіба што тут згубіў? Бакуны.

**Швэд** м. Швед /у значэнні: шведы /. С той пары, як швэд у нас быў, пазасталосо много швэтскіх магліцаў, курганоў. Дубніца.

**Швэ'да** м., ж. Світар. Швэда ўдаласа, цёплая, і каптана ні трэбо, у ёй ні змерзняш. Радзевічы.

**Швэ'нда** м., ж. Бадзяга; чалавек, які любіць сланяцца без справы; валацуга /неадабр./. Або гэта чалавек — швэн-

да нека, ідзе і ідзе, сам ні ведае куды. Кулёўцы.

**Швэ'ндацца** незак. Швэндацца, бадзяцца, снoўдацца без справы. Цэлы дзень недзе швэндаецца, а пад вечар прыходзіць, кажа: есці дай. Верцялішкі.

**Швэ'тар** м. Світар. Во, глянь, які табе швэтар прывязла, будзяш мець у чым хадзіць. Сіўкава.

**Шкада'** прысл. Шкада. Неяк шкада стало хлопца, і за што яго так пакаралі? Радзевічы

**Шка'лік** м. Невялікая чарка. Э, дзе той шкалік падзела, што я знайшоў. Гібулічы. Дзе наша ні прападало, давай ашчэ па аднаму шкаліку вып'емо, весялей будзя. Гродна.

**Шка'па** ж. Пра слабога, худога каня. Неку шкапу купіў, ні ведаю, ці што з яе будзя, ці паправіцца. Азёры. Добрай кабылы купіць ні мог і шкапы якой купляць ні буду. Азёры.

**Шкаплё'ры** мн. Нанізаныя на нітку кавалачкі тканіны з вобразамі святых. Шкаплёры бабы насілі на шыі, а потым палілі іх на агне, каб разам і грахе згарэлі. Эйсманты.

**Шкарлу'па** ж. Шкарлупіна. Шкарлупаў курам як кіняш, та яны аж б'юцца, так ядзяць, бо вапны ім трэбо. Лойкі.

**Шкарлу'піна** ж. Шкарлупіна. Шкарлупінаў гэтых назбіраласо, трэбо патаўчы і курам кінуць — ім вапны трэбо. Вішнявец.

**Шке'лко** н. Шкельца, кавалачак шкла. Возьмяш каляровае шкелко, наставіш на слонца і ўзіраешса, бо так гочы слепнуць. Сцяцкі.

**Шке'льца** н. Шкельца. Во, паглядзеця, якое я файнае шкельца знайшоў, як свеціцца. Кавалічы.

**Шкло** н. Шкло, шыба. Шкло ні заўсёды ў магазінах бывае, яго пад зіму тулькі завозяць. Бушнева.

**Шкляр** м. Шкларэз /спец./. Мне шкляра ні трэбо, бо маю свой файны, сам шыбу ўстаўлю. Дзекалавічы.

**Шклярэ'з** м. Шкларэз /прылада для рэзкі шкла/. Помню добро, што купіў сабе шклярэз, а куды палажыў, ніяк ні здумаю. Путрышкі.

**Шклячко'** н. Шкельца, кавалачак каляровага шкла. Паглядзі, дзіця нека шклячко знайшло, каб ні парэзало сабе рук. Рагачы.

**Шко'да** ж. Патрава, знішчэнне жывёлай пасеваў. Ні пускайце кароў блізко жыта, шкоды наробяць, ні ўтрымаеце. Беражаны.

**Шко'дліві** прым. Шкодны. Шкодліві конь так і стараецца, каб дзе ўлезці, шкоды нарабіць. Каробчыцы.

**Шко'ла** ж. Яўрэйская бажніца. У Індоры і ціпер яўрэўская школа стаіць, немяц у вайну ні спаліў. Пракопавічы.

**Шко'лка** ж. Плодагадавальнік, у якім вырошчваюць саджанцы пладовых раслін. У нашага тата свая школка была, і сабе было сажанцаў, і людзям прадаваў, як хто хацеў. Пагараны.

**Шкумя'ціць** незак. Мяць, камячыць, рваць на кавалкі. Даў дзіцяці папер, та яно шкумяціло, шкумяціло і кінуло. Рагачы.

**Шламба'ч** м. Той, у каго празмерна вялікія або пляскатыя ступні ног /зневаж./. Шламбач некі, ні адны боты на тваю ногу ні прыдуцца, трэбо на заказ рабіць. Кунцаўшчына.

**Шламбачэ'** мн. Апоркі; старыя боты з адрэзанымі халявамі. Ці ў цібе чаравікаў німа, што насадзіў некія шламбачэ на ногі і лазіш? Баброўнікі.

**Шле'і** мн. Шляя, частка конскай збруі. У шлеях ездзілі сапоцкінскія гаспадарэ, у нас ніхто ні ездзіў, тулькі, можа, які багаты шляхціц. Кунцаўшчына.

**Шле'йкі** мн. Шлейкі, падцяжкі. Я сваім дзецям нагавіцы заўсёды с шлейкамі шыла, каб ні спадалі. Хамякі.

**Шлі'шпер** м. Металічны шпянёк у калаўроце, на якім трымаецца шпулька /устар./. Шлішпер з аднаго канца зусім тонкі, а з другого — таўшчэйшы, з дзірачкай, праз якую працягваюць нітку. Круглікі. Шлішперы аднекуль прывозілі, іх кавале ні рабілі. Круглікі.

**Шло'мбаць** незак. Шлёпаць ботамі па вадзе, гразі. Хай яго, надаело шломбаць па гэтаму калу, боты чысто прамоклі. Квасоўка.

**Шлыг** выкл. Шусь. Боты завелькія, ні трэ-

бо нацягаць, а ногу ў бот — шлыг, і ты хутко абуты. Балічы.

**Шлы'гацца** незак. Совацца. Твае чаравікі мне не падыдуць, завелькія, ногі ў іх будуць шлыгацца. Баброўнікі.

**Шлэ'каць** незак. Ісці кульгаючы, дыбаць. Ён быў зусім ні хадзіў, тулькі ціпер стаў на двор выходзіць, с кійком шлэкае. Лаша.

**Шлэ'ндаць** незак. Бадзяцца, траціць час, сланяцца без справы. І хочацца яму шлэндаць у такую пагоду, гэта ш такая макрата, усё раскісло. Няцечы.

**Шлюб** м. Шлюб, шлюбнае жыццё. Шлюб пат плотам, а вяселе — потым /прымаўка/. Пракопавічы.

**Шлю'мпарка** ж. Прастытутка /лаянк./. Ой, шлюмпарка гэта, хто яе ні ведае, яна ўсюды пабывала. Гродна.

**Шлю'ха** ж. Прастытутка /лаянк./. Што і казаць, шлюха гэта, с кім яна ні цягаласа, с кім ні жыла. Гродна.

**Шляг** м. Беражок; аблямоўка ў тканіне, хустцы. Натта ш пекны шляг у гэтай хусцінцы, паглядзі, во які. Эйсманты.

**Шля'га** ж. Шляга; прылада для трамбавання; дубіна з патоўшчаным канцом. Шлягай як даў па лёдзі, так рыба і вывернуласа ўверх жватом, заблішчала. Балічы.

**Шлямава'ць** незак. Чысціць кішкі, рыхтаваць іх для вырабу каўбас. Кішке ў паршука зусім ні моцныя, німа як шлямаваць, рвуцца пад нажом. Карозічы.

**Шля'хнуць** зак. Прапасці, загінуць. Пасля гэтых прымараскаў бульба можа зусім шляхнуць, бычыш, як пачарнела. Свіслач.

**Шля'хта** ж. Дробнапамеснае дваранства. Што ціпер рабіць будзем, панове шляхта, з чаго пачнем? Хліставічы. Шарачкова шляхта — збяднелае дробнапамеснае дваранства. Шарачкова шляхта ў Скрабляках, кажуць, жыла зусім бедна, зямлі мало было. Адэльск.

**Шля'хціц** м. 1. Шляхціц, дробнапамесны дваранін, жыхар засценка. Шляхціц хоць абдзёрты, але гонар свой трымаў, быля с кім ні гаварыў. Літвінкі. 2. Хлясцік, паясок у вопратцы, прышыты ззаду. Шляхціц у бурцы адарваўсо, паглядзі: бэнтаяцца. Свіслач. Шляхціц-махціц — празыўка шляхты. Шляхціц-махціц кундаляў сын, ззеў гаўно — думаў, што сыр /выслоўе/. Балічы.

**Шляхцю'к** м. Шляхціц-падлетак. Глядзі, некі модны шляхцюк прышоў на гуляне. Квасоўка.

**Шляя'** ж. Шляя, частка конскай збруі. У нас шлеяў ні было, гэта ў Адамавічах ці ў якіх Рацічах тулькі ездзілі ў шляях. Бакуны.

**Шма'гло** прысл. Важка. Вазьмі лепей гэты цэп, ён шмагло б'е, добро ім малаціць. Рагачы.

**Шма'глы** прым. Важкі, гнуткі, пругкі. На, вазьмі гэты дубец, шмаглы, добро будзя кабылу паганяць. Горніца.

**Шма'лец** м. Шмалец, гусіны тлушч. Во, паглядзі, скольні шмальцу з гускі натапіла, цэлу міску. Верхнія Пагараны.

**Шмараві'дло** н. Каламазь, калёсная мазь. Купі шмаравідла ды калёса пашмаруй, а то рыпяць, як едзяш, на ўсю аколіцу. Рацічы.

**Шмаргану'ць** зак. Моцна ўдэрыць. Як шмарганут па каню пугай, та той аж задам закруціў. Кашэўнікі.

**Шмі'гло** н. Прапелер. Паглядзі, як шмігло ў самалёці работае, ні згледзіш, як круціцца. Караліно.

**Шмо'ргаць** незак. Шморгаць, чмыхаць. Ты чо стаў носам шморгаць, мусі ні падабаецца, што табе кажу? Лаша.

**Шмурга'ць** незак. Кідаць са злосцю. Ты што тут свае парадкі наводзіш, пачаў шмургаць адзежу, я табе пашмургаю. Зарубічы.

**Шмуры'гаць** незак. Насіцца, ездзіць без патрэбы. Удзень адзін за другім аўтобусы шмурыгаюць, а пад вечар, калі людзі з работы — ніводнаго ні ўгледзіш. Гродна.

**Шмыг** выкл. Скок. Я сяджу ціхенька, а мыш — шмыг у дзірачку і схаваласа. Рудавіцы. Што гэта за сабака? Я — да яго, а ён шмыг у буду і ні аказаўсо. Зарыца.

**Шмы'га** ж. 1. Цыркуль. Я шмыгай любы вугал змераю, які хочаш, ад бацькі навучыўсо. Канюхі. 2. Празмерна вяртля-

вае, непаседлівае дзіця. Шмыга нека ні дзіця, адной мінюткі ні пасядзіць. Свіслач.

**Шмыгану'ць** зак. Непрыкметна знікнуць, хутка ўцячы. Ніхто ні зглездзеў, як ён шмыгануў с хаты, тулькі яго і бачылі. Луцкаўляны.

**Шмы'гаць** незак. 1. Хадзіць часта тудысюды, у розных напрамках. Дзеці, ні трэбо так часто шмыгаць з надворку ў хату, бо холаду нанясеця. Каленікі. 2. Шумна ўцягваць носам паветра. І німа чаго тут шмыгаць носам, міне гэтым ні разжаліш. Лікоўка.

**Шмыгля'сты** прым. Высокарослы і танклявы. Ля, які шмыглясты хлопяц стаіць і нешто ў тата пытаецца. Стральцы.

**Шмэльц** м. Утыль-сыравіна. Старыя самалёты спісалі, усе на шмэльц пашлі. Гродна.

**Шна'йда** ж. Прылада ў кустарных цагельнях у выглядзе цыліндра для перамешвання гліны. Як я помню, та шнайду круцілі рукамі, а потым ужэ сталі коньмі круціць. Дзекалавічы.

**Шна'йдар** м. Тое, што і шнайда. Міне паставілі да шнайдара, я гліну насыпаў, работа даволі цяжкая. Літвінкі.

**Шнар** м. Шрам. У яго ўсё зажыло, тулькі адзін шнар на шчацэ застаўсо. Кругляны.

**Шнур** м. Шнур, дэталь у калаўроце. Шнур нешто стаў спадаць, мусі калясэ ні так, як трэбо, ідзе. Капцёўка.

**Шны'рыць** незак. Насіцца ў розных напрамках, вышукваючы што-небудзь. Такія, як ён, рабіць ні любяць, толькі шнырыць прывыклі, шукаюць лёхкаго хлеба. Абуховічы.

**Шнюр** м. Шнур, дэталь у калаўроце. Як дзе называлі, а ў нас — шнюр, я сама яго з ніцей рабіла, як трэба было. Казіміроўка.

**Шнюрке'** мн., шнюро'к м. Завяжы шнюркe у чаравіках, хай ні матляюцца па зямле. Бакуны.

**Шо'лам** м. Шорах, шоргат, шастанне, шамаценне. У каморцы некі шолам, мусі нехто есць, чуеш, здаецца, ходзіць. Кунцаўшчына.

**Шо'па** ж. 1. Вазоўня, паветка на чатырох слупах для вазоў. Укаці вос пат шопу, хай на дажджэ ні мокня. Зарубічы. 2. Доўгая павець для цэглы ў цагельным заводзе. Ніпаляную цэглу пат шопу клалі, каб дождж ні размыў. Дзекалавічы.

**Шо'пка** ж. Трохсценная прыбудоўка пры адрыне для сячкарні, захоўвання сечкі і мякіны. Шопка ні ў кожнаго гаспадара была, нікаторыя сечку рэзалі ў адрыні. Дарашэвічы.

**Шо'плік** м. Сявенька, сяўня. Ні хапіло аднаго шопліка гаўса, каб гоны дасеяць, трэбо ізноў ісці набіраць. Бандары.

**Шо'ркі** мн. Дэталі ў шпульцы ў выглядзе сагнутых драцяных зубчыкаў, праз якія праходзіць нітка. У шоркі пальцаў ні сунь, а то абдзяруць. Лікоўка.

**Шо'ры** мн. Набедрыкі, набэдрыкі, набадры. Папраў шоры на кабылі, а то зусім набок з'ехалі. Брузгі.

**Шост** м. Доўгая жэрдачка ў курнай хаце, на якую вешалі адзенне. Як ішлі спаць, та ўсю адзежу вешалі на шост, кап ні валяласа на зямле. Канчатка.

**Шош** м. Шаша. Шош сліскі, нібяспечно ехаць, а яшчэ нікуты кань. Рацічы.

**Шпа'даль** м. Лапата, рыдлёўка. Узяў бы шпадаль ды гарод кончыў бы капаць, пара цыбулю садзіць. Перстунь.

**Шпана'** ж. Хуліганы, жулікі /пра падросткаў, груб./. Тут тулькі адна шпана пазбіраласа, німа с кім гаварыць. Рагачы.

**Шпаню'к** м. Жулікаваты хлопец, падлетак /лаянк./. Я гэтых шпанюкоў цярпець ні магу, так і круцяцца, каб якую шкоду зрабіць. Карозічы.

**Шпа'ра** ж. 1. Трэшчына, расколіна. У сценах шпараў ні пазатыкаў, дзе тут будзе тое цяпло. Кулёўцы. 2. Прамежкавая прастора паміж пальцамі рукі. Воду прыгаршчамі ні наносіш, прас шпары выцяча, вазьмі ляпей кубак. Ласосна.

**Шпару'на** ж. Трэшчына, расколіна. Узяў бы ды гэтыя шпаруны хоць глінай пазамазваў, і то выгляд быў бы інакшы. Бабpoўнікі.

**Шпа'рыць** незак. Перан.: вельмі хутка штосьці рабіць. Ён чалавек патсу'хі,

лёхкі да хады, шпарыць як малады, з ім ні ззыдзешса. Белева. Дзе яна толькі навучыласа так шпарыць па-німецку? Капцёўка.

**Шпахлява'ць** незак. Шпакляваць; замазваць спецыяльнай замазкай няроўнасці паверхні, трэшчыны. У тваей кватэры спачатку трэбо сцены шпахляваць, а тады ўжэ бяліць, так нічого ні будзя. Пракопавічы.

**Шпень** м. Прылада ў выглядзе завостранага кіёчка для вязання снапоў. Пат шпень таксамо трэбо ўмець вязаць, у міне неяк добро ні палучаласо, равёсла рваліса. Ліхачы.

**Шпікулява'ць** незак. Спекуляваць. Прывыклі шпікуляваць і шпікулююць, а рабіць німа каму. Гарны.

**Шпіль** м. Тое, што і шпень. У нас шпілём усе вязалі снапэ, як звяжаш, та ні развяжацца, кідай яго, як хочаш. Канчатка.

**Шпі'лька** ж. 1. Шпілька, заколка для валос. У міне доўгія валасэ, та я шпількамі прыколваю, прыколяш — і ўжэ ў вочы ні лезуць. Лаша. 2. Кіёчак у церніцы для замацавання верхніка. Шпільку табе зрабіў з моцнаго дзерава, будзя трымаць, верхнік ні выскачыць. Бакуны.

**Шпіля'р** м. Шыла /плоскае/. Шавец возьмя шпіляр, наколя, наколя дзірак у падэшве, а тады ўжэ забівая гвоздзі. Індура.

**Шпінгале'т** м. Перан.: хлопчык-падростак /жарт./. Надаеў мне твой шпінгалет, усюды лезе, дзе можно і дзе ні можно. Зарубічы. А гэта чый тут шпінгалет круціцца, яму тут чо трэбо? Жытародзь.

**Шпі'нгаць** незак. Ці'каць /пра гадзіннік/. Часэ ледво шпінгаюць, мусі стануць. Занявічы.

**Шпі'ндаль** м. Тое, што і шпень. У Адалькаўшчыні снапэ вязалі пад шпіндаль, рукамі ніхто ні вязаў. Круглікі.

**Шпі'ндзель** м. Свердзел. У міне свой шпіндзель быў, а ціпер ідзі пазычай, прасі, кап хто даў. Копанікі.

**Шпо'кнуць** зак. Цмокнуць, пацалаваць. Дай я цібе, дзетка, шпокну ў шчочку і пойдзяш спацькі. Кунцаўшчына.

**Шпо'нка** ж. 1. Запонка, засцёжка для манжэтаў сарочкі. Файныя шпонкі ўчора сабе купіў, а то ніякіх ужэ ні было. Балічы. 2. Кнопка /адзежная/. Як шпонкі ў плаці, та і хутко зашпіляць: раз, два — і зашпіліш. Дарашэвічы.

**Шпо'ны** мн. Кіпцюры. Ого, наша кошка як выпусціць шпоны, та ніякі сабака ні патступіцца, гочы выдзяра. Рудавіцы.

**Шпуль** м. Прылада ў выглядзе завостранага кіёчка для вязання снапоў. Я шпуль з ляшчыны заўсёды сабе рабіў, ён лёхкі такі і ім добро вязаць. Батароўка.

**Шпу'нда** ж. Нізкая, тоўстая жанчына / груб./. З гэтай шпундай і ў людзі німа як паказацца, усе глядзяць, як на дзіво якое. Кунцаўшчына.

**Шпунт** м. Шпонка, металічны клінок для замацоўвання дэталяў у машыне. Нешто калясэ ні круціцца, мусі, шпунт выпаў. Баяры.

**Шпургану'ць** зак. Шпурнуць, кінуць, запусціць. Але ж і шпургануў камень; барані, Божа, у каго папаў — на месцы труп. Каменка.

**Шпурля'ць** незак. Шпурляць, кідаць. Пакінь шпурляць каменя, ты мне ўсю рыбу перапалохаяш. Ласосна.

**Шпы'рка** ж. Свіное сала. А мой ты галубок, дай цыганцы хоць трошкі шпыркі, я табе на руку паваражу. Лаша.

**Шпэк** м. Свіное сала. Раз да нас прылез некі нямчурыско і кажа: "Матко, шпэк ё?", а маці яму: "Хваробу табе ў бок, а ні шпэк." Свіслач.

**Шпэ'кты** мн. Аранжарэя, памяшканне для вырошчвання раслін. У Адалькаўшчыні былі свае шпэкты, агароднік там разводзіў розныя кветкі. Круглікі.

**Шру'ба** ж. 1. Гайка. Мусі, шруба заіржавела, аніяк ні аткручу, ключ ні бярэ. Баброўнікі. 2. Драўляная дэталь у калаўроце з вінтавой нарэзкай. Паткруці шрубу, а то шнур спадае, слапко нацягнуты. Лікоўка.

**Шрубста'к** м. Ціскі. Паглядзі, які я шрупстак сабе прыдбаў, ціпер што хочаш магу зрабіць. Дзекалавічы.

**Шта'ба** ж. Завала; прыстасаванне ў форме металічнага стрыжня для запіран-

ня дзвярэй. Штаба ціпер рэтко ў каго есць, гэта як коней кралі, та дзверы на штабы бралі. Лугавая.

**Шта'бель** м. Штабель. Давайце дошкі складзем у штабель, хай падсохнуць, а тады будзямо габляваць. Грандзічы.

**Штама'йза** ж. Стамеска. У міне штамайзы ўсялякія есць, нават адну круглую маю. Свіслач.

**Што-ко'львек** займ. Што-небудзь. Хоць што-кольвек даў бы гэтаму чалавеку, хай ішоў бы сабе з Богам. Шчачынова.

**Што-кольвечы** займ. Што-небудзь. Кап што-кольвечы гэта лякарство яму памагло, а то нічого, ашчэ горш стало. Жытаўшчына.

**Штосі'лы** прысл. З усёй сілы. Відаць, яму натто ж балело, бо крычаў штосілы, як галава магла знясці. Рагачы.

**Штоф** м. Старая мера колькасці вадкасці, роўная 1/10 вядра. Штоф мае два паўштофа, гэта значыць: аж дзве бутэлькі. Клачкі.

**Шту'ка** ж. Бервяно. Як добра дзераво, та больш адной штукі на воз ні возьмяш, я больш нігды ні браў. Пяслі.

**Штукава'ць** незак. З некалькіх кускоў рабіць адно цэлае; падоўжваць, дарочваць. Штукаваў, штукаваў, ледво неяк зрабіў, матэрыялу малавато было. Круглікі.

**Штупо'рыць** незак. Стопарыць, закліноўваць. Калясо ў возі штупорыць, хоць бы як да хаты даехаць. Рацічы.

**Шту'рхаць** незак. Штурхаць, пхаць. Я думаў, што спіць, давай яго штурхаць, а ён –ані паварухнуўсо, як ляжаў, так і ляжыць. Некрашы.

**Шты'бало** н. Дзіця, якое толькі пачало хадзіць /жарт./. А мае ш ты маленькае штыбало, ідзі ножкамі, тулькі ні ўпадзі. Кунцаўшчына.

**Шты'баць** незак. Спрабаваць хадзіць, няўмела хадзіць /пра дзяцей/. Колік наш паволі пачынае штыбаць, на ношках трымаецца, але доўго ні можа. Лаша.

**Шты'бно** прысл. Цвёрда, упэўнена. Хоць ён і даволі стары, але на нагах трымаецца ашчэ штыбно, ходзіць бес кія. Лікоўка.

**Штымава'ць** незак. Адпавядаць, стасавацца, быць у суладнасці. Нешто, брат, у цібе зусім ні штымуе, трэбо ашчэ гэты край падпілаваць. Дзекалавічы.

**Шты'рбаць** незак. Штурхаць, пароць, калоць. Чарвяка пачні штырбаць, та і той раззлуецца, ні тулькі сабака. Баранава.

**Шты'рхаць** незак. Штурхаць, трывожыць. Нашто яго штырхаць, ён і сам устане, ведае, што дзісь рабочы дзень. Рацічы.

**Шу'бянік** м. Свавольнік, дураслівец, разбойнік /жарт./. Гэтаго шубяніка ў хаці ні ўтрымаяш, як вырвецца, так і пашоў на рэчку. Навумавічы.

**Шу'гало** н. Гушкалка, арэлі. Шугало зробім сабе на дзераві і давай шугацца, аш пакуль хто ні пражане. Зарубічы.

**Шу'гаўка** ж. Гушкалка, арэлі. Міне малого маці ні пускала на шугаўку, баялаcа, каб ні ўпаў. Кунцаўшчына.

**Шу'гацца** незак. Гайдацца. Як пачнем шугацца, та і сцямнее, а мы ўсе шугаямсо. Сухмяні.

**Шу'гаць** незак. Гайдаць, гойдаць. Пакінь шугаць дзіця, бачыш, як баіцца, учапіласо ручкамі за вяроўку. Баброўнікі.

**Шу'ло** н. Шула; адзін з бакавых слупоў у дзвярах адрыны. Шуло, мусі, зусім згніло, бачыш, як адна сцяна падаласа, перакасіласа. Хамякі.

**Шу'льман** м. Старшы над плытагонамі. Во, шульман на чайцы едзя, плытэ будуць ісці. Дарашэвічы.

**Шу'лэф** м. Яўрэйскі рынак. Ашчэ цёмно, а яўрэі на шулэф свой збяруцца, нешто гаргічуць. Гродна.

**Шуля'к** м. Каршун, драпежная птушка. Нешто куры закрычалі і разбегліса, мо дзе шуляк нагнаў. Бычкі.

**Шу'ляр** м. Ашуканец, махляр, жулік, прайдзісвет. Ого, гэтаго шуляра на акругу ўсе знаюць, ён ні аднаго абмануў, падвядзе і цібе. Кáвалічы.

**Шумаве'не** н. Шумавінне, накіп. Мясо, мусі, ні зусім свежае, бо шумавене пашло, ні ўспяваю апалонікам збіраць. Гродна.

**Шу'пля** ж. Яйка, пабітае ў час велікодных гульняў. Як моцна яйцэ пападзецца, та поўныя кішане шупляў навыбіваяш. Лікоўка.

**Шупля'к** м. Тое, што і шупля. Паглядзі, Іван, колькі я шуплякоў навыбіваў. Ліхачы

**Шурмава'ць** незак. Шукаць, утвараючы ўсюды беспарадак. Перастань шурмаваць, усероўна нічога ні знойдзеш. Палаткова. Што ты тут шурмуеш, што табе трэбо? Навасёлкі.

**Шурпа'ты** прым. Шурпаты, няроўны. Ад гэтай работы во якія шурпатыя рукі парабіліса, аж брытко глядзець. Кашэўнікі.

**Шу'рцы** мн., м. Свавольнікі, гарэзы, дурасліўцы /пра дзяцей, жарт./. За цэлы дзень мне гэтыя шурцы голаў адурылі, але куды ад іх падзенешса. Адэльск. А гэта чые тут шурцы бегаюць, крычаць пад акном? Сапоцкін.

**Шуршэ'ць** незак. Шамацець, шоргаць. Першы мароз як выпаў, так трава і пачала шуршэць пад нагамі, як ідзеш. Зарыца.

**Шу'фля** ж. 1. Шуфель, саўковая рыдлёўка. Ашчэ шуфлю пяску ў раствор паткінь, а то занатто рэткі. Пракопавічы. 2. Пабітае яйцо ў час велікодных гульняў. У міне цэлых яец ні засталосо, адны шуфлі, усе папрабіваў. Прыгодзічы. Глядзі, колькі ў міне шуфляў, поўныя кішане налажыў. Азёры.

**Шуфлява'ць** незак. Пералапачваць, перамешваць. Жыто давай будзямо шуфляваць, каб ні спрэло, сырое зусім. Лаша. 2. Перан.: ашукваць, махляваць. Калі праўду сказаць, ні шуфляваць з малаком, та дзе тут яго аддасі. Баранавічы.

**Шчабята'ць** незак. Шчабятаць. Вечарам салавейкі як пачнуць шчабятаць, та і спаць ні хочацца, здаецца, сядзеў бы ўсю ноч і слухаў. Рудавіцы.

**Шчаве'й** м. Шчаўе. У нас шчавей на балоці рос, пайду пад вечар і назбіраю, колькі трэбо на дзень. Асташа.

**Шчадзё'р** м. Шчадрэц; у народных абрадах вечар перад Новым годам. У шчадзёр хлопцу ні можно было ехаць да дзеўчыны ў сваты, казалі: «Хто прыедзя ў сваты шчадрамі, та пойдзя віхрамі». Селюкі.

**Шчадрава'ць** незак. Хадзіць у ноч перад Новым годам па дварах з віншавальнымі песнямі. У нас і ціпер нікаторыя хлопцы жартам ідуць па хатах шчадраваць, сміюцца. Селюкі.

**Шчадрэ'** мн. Тыя, хто ходзіць на шчадрэц з віншавальнымі песнямі; шчадруюць. Шчадрэ ўвойдуць у хату і пытаюцца: "Хто ў дома?" — "Пан гаспадар жыто сее." — "З каласочка — жыта бочка, а з дугого — жыта много." Клачкі.

**Шчака'** ж. Шчака. Здаецца, і ні так зуб балеў, а паглядзі, як шчоку разнясло, спухла. Пышкі.

**Шчалба'н** м. Пстрычка. Давайце, хлопцы, гуляць на шчалбанэ, хто каму больш шчалбаноў надае. Гродна.

**Шчалу'біна** ж. Шчыліна. Шчалубіна, мусі, у дне бочкі, капуста пацякла, змарнуецца. Кавалічы.

**Шчамі'ць** незак. 1. Балець, ныць. Нешто сэрца шчаміць, неку беду чуе. Бычкі. 2. Ціснуць. Боты добрыя сабе купіў, але ў адным пальцы шчаміць, ні магу хадзіць. Баранава.

**Шчанё'** н. Шчаня. Малы сабачка да здыхаты шчанё /прымаўка/. Свіслач. Ён да нас шчанём прыбіўсо, а ціпер, бачыш, які сабака вырас. Хамякі.

**Шчаню'к** м. 1. Шчаня. Гэта ні шчанюк, а ўжэ стары сабака, можа пакусаць. Гліняны. 2. Перан.: хлопчык-падлетак /лаянк./. Гэты шчанюк старэйшаму чалавеку ні дасць і слова сказаць. Каўпакі.

**Шчапа'** ж. Трэскі. Як хату ставілі, та шчапы было навалам, маці ўсё лета ею варыла. Сухая Даліна.

**Шчапі'цца** зак. Задрацца; пачаць сварку, бойку. Абы за што так і зноў гатовы шчапіцца, адзін аднаму ні папусціць, ні ўступіць. Рагачы.

**Шчарба'ты** прым. 1. Шчарбаты, вышчарблены, вызублены. Некі шчарбаты гаршчок прынёс, нашто ён мне патрэбны? Чэхаўшчына. 2. Бяззубы. Я тулькі ціпер і ўбачыў, што ты шчарбаты стаў, зубоў ні маяш. Аленічы.

**Шчарбе'ль** м. Пра таго, у каго не хапае зубоў у роце. Ён ад роду шчарбель, пярэднія зубы ні выраслі, так ходзіць. Кругляны.

**Шчарбі'на** ж. Шчарбіна, пустата на месцы адсутных зубоў. Уставіў бы сабе пярэднія зубы, а то ходзіш с шчарбінай, гаварыць добра ні можаш. Чэхаўшчына.

**Шчару'біна** ж. Шчыліна, трэшчына. Шчарубіна зрабіласа ў фундаманце, пэўно, вада яго падмыла. Лікоўка.

**Шчаці'на** ж. Шчацінне, шчэць. Шчаціна дораго некалі плаціласа, адна шчацінка каштавала грош, шаўцэ купляли. Індура.

**Шчу'біцца** зак. Задрацца, пачаць бойку, сварку. Забяры яго, а то і зноў могуць шчубіцца, ім гэта ні ўпершыню. Струбка.

**Шчу'паць** незак. Мацаць, шчупаць. У нас аднаго курашчупам празываюць, бо ён курэй шчупае, глядзіць, катора курыца з яйцом. Рудавіцы.

**Шчур** м. Пацук. Ціпер гэтых шчуроў усюды развялосо, рады німа, у міне адзежу пагрызлі. Грандзічы.

**Шчы'каўка** ж. Ікаўка, іканне. Хвароба на яе, нека шчыкаўка на дзіця напала, мусі змерзло. Лікоўка.

**Шчы'каць** незак. Ікаць. Ты што і зноў пачаў шчыкаць, на малака гарачаго напіса, мо пройдзя. Гарны.

**Шчы'ліна** ж. Шчыліна. Адрыну нідаўно паставілі, ашчэ добро сцены ні аселі, бачыш, якія шчыліны. Рацічы.

**Шчыме'ць** незак. Шчымець, балець, ныць. У грудзях стало чамусьці шчымець, мусі сэрца здае. Міцкевічы.

**Шчыпярэ'** мн. Зялёныя парасткі цыбулі. Пасадзіла трошкі цыбулі, яна ўжэ ні вырасце, але хай будзя на шчыпярэ. Ласосна.

**Шчы'ры** прым. 1. Шчыры, адкрыты, праўдзівы. Што і казаць, шчыры чалавек быў, стараўсо кожнаму памагчы ў бядзе. Зялёная. 2. Баравік, белы грыб. Наша мама як пойдзя ў Бракаво, так і прывалачэ поўны прыпол адных шчырых. Свіслач.

**Шчыт** м. Франтон, верхняя частка фасада будынка. Як прыехалі з бежанства, та ніякіх дошчак ні было, шчытэ завешвалі паркамі. Пагараны.

**Шчэ'бель** м. Шчэбень, каменны друз. Шчебелю панавозілі, мусі дарогу будуць строіць. Бакуны.

**Шчэ'бень** м. Шчэбень, каменны друз. З жарнавого камяня шчэбень ні палучыцца, а тулькі мял, парашок адзін. Зарубічы.

**Шыбава'ць** незак. Шыбаваць, шпарка ісці, рухацца. Ужэ даволі позно, трэбо дахаты шыбаваць, пакуль відно. Кунцаўшчына. Ты гэта куды шыбуеш, спяшаесса? Лаша.

**Шы'бар** м. Шыбер, прыстасаванне ў выглядзе засаўкі для закрывання коміна. Глядзі, мо дзе зарано шыбар закрыла, каб які чад ні быў. Каменка.

**Шы'дзіць** незак. Насміхацца, здзекліва смяяцца. Ні трэбо шыдзіць са старого чалавека, бо і сам будаеш старым. Занявічы. Ты што з яго шыдзіш? Талочкі.

**Шыдэ'лка** ж. Вялікая шарсцяная хустка. Як халадно стане, та шыдэлкай закруцішса і вецер цібе ні прадуе. Пыра.

**Шы'йка** ж. Верхняя вузкая частка бутэлькі, пасуды. Поўнай бутэлькі ніхто ні налівая, а тулькі па шыйку. Каменка.

**Шык** м. Шык, паказная роскаш, франтаватасць. Ён заўсёды любіў хадзіць с шыкам, хоць і бедны быў. Саломенка. Вось гэтыя шыкі нас і згубілі, давялі да ручкі. Рацічы.

**Шыкава'цца** незак. Рыхтацца. Ужэ людзі да свята пачалі шыкавацца, трэбо і нам што рабіць, хоць хату пабяліць. Старая Дубавая.

**Шыкава'ць** незак. Рыхтаваць. Дачка замуж ідзе, а ты, бацьку, скрабі патыліцу, шыкуй грошы на вяселе. Жытародзь.

**Шы'каць** незак. Траціць без патрэбы грошы. Ні трэбо было грошай так шыкаць, а расшыкаў, та ціпер ідзі пазычай. Грыўкі.

**Шы'на** ж. 1. Металічная або гумовая накладка, якая нацягваецца на вобад кола. Кап шына моцно трымаласа на калясе, та каваль яе ў гарне награвае, а тады ўжэ насаджвае на обад. Зарыца. 2. Цвёрдая накладка на месцы пе-

ралома косці. Косць мусі зрасласа, бо дохтар сказаў, што заўтро шыну будзе здымаць. Грандзічы.

**Шынк** м. Шынок, карчма. Як які багаты яўрэй, та шынк трымаў і з гэтаго жыў, а як бедны — та возчыкам быў. Азёры.

**Шынкава'ць** незак. Шаткаваць, крышыць капусту на засол. Бочку вымыла, заўтро капусту будзямо шынкаваць. Калбасіна.

**Шынка'р** м. Шынкар, карчмар. Шынкар ведаў людзей ва ўсёй акрузі, ведаў, як хто жыве, што мая. Бакуны.

**Шынка'рачка** ж. Дачка шынкара. Ён ідзе да шынкарачкі, ідзе і ні каецца /з нар. песні/. Лаша.

**Шынка'рка** ж. Шынкарка, жонка шынкара. У нідзелю, як людзей наб'ецца ў карчму, та дзе тут адзін шынкар справіцца, памагала яму шынкарка. Лікоўка.

**Шыплюке'** мн. Шыплюк м. 1. Недаразвітыя пярынкі ў выглядзе шпілек, якія застаюцца на забітай птушцы пасля яе скубання. Здаецца, і старраласа добро скубаць курыцу, а бачыш, колькі шыплюкоў засталосо. Круглікі. 2. Збітая ў камякі воўна. А гэта што за праява: уся воўна ў адных шыплюках, машына ні зможа часаць, прыдзецца рукамі. Свіслач.

**Шыпля'віць** незак. Шапялявіць, шапялява гаварыць. Ён з маленства ў міне шыплявіць, нічого ні зробіш. Баранава.

**Шыпту'х** м. Порхаўка, шарападобны грыб. Ты бачыш, як пасля дажджу шыптухе з зямлі павылазілі, колькі іх? Дзекалавічы.

**Шыпу'ліцца** незак. Гэта ні сабака, што ў буду шыпуліцца, як чалавека ўбачыць. Луцкаўляны.

**Шыпу'ль** м. 1. Трэ'ска. Запалі вось гэты шыпуль ды пасвяці, а то нічого ні бачу. Кавалічы. 2. Перан.: той, хто ў час касьбы стараўся непрыкметна прыкасіць сабе травы ў суседа /лаянк./. У нас аднаго шыпулём празвалі, бо ён так і шыпуліўсо, кап хоць трошкі чужого захапіць, прыкасіць. Сухая Даліна.

**Шыпшы'на** ж. Шыпшына. Шыпшына натта ш цвіце харашэ, але я ні бачыў, каб на яе пчолы сядалі, мёд бралі. Бабро̆унікі.

**Шыпшы'ннік** м. Кусты шыпшыны. Праз гэты шыпшыннік, брат, ні пралезяш, паабдзіраяшса, ляпей абыдзі. Чэхаўшчына.

**Шы'ршы** прым. Шырэйшы. У гэтым месцы, здаецца, Нёман шыршы, давай падавайса ўправо. Славічы.

**Шыры'га** ж. Тоўсты і доўгі кол, замацаваны паміж бярвеннямі, які служыць для тармажэння ці затрымання плыта. Шырыгі рабілі з моцнаго дзерава, з бярозы або дуба, кап пад напорам ні зламаліса. Селюкі.

**Шыры'ндзіць** незак. Жартаваць, кпіць. Нідавярак, прышоў у хату і давай шырындзіць, пакуль дзед ні выгнаў. Гродна.

**Шы'тка** ж. Шыцік, маленькі чарвячок, які жыве на дне рэчак, вакол сябе будуе домік-трубачку і ў ёй жыве. Валерык мой рыбу лапае толькі на шытку і добро лапаецца. Рацічы.

**Шы'то-кры'то** прысл. Без агалоскі. Маўчы, нікому ні кажы, хай будзе шыто-крыто. Няцечы.

**Шыхава'ць** незак. Шанцаваць. Яму з маленства шыхуе, ніякай бяды ні хваробы ні ведаў. Жытародзь.

**Шы'шка** ж. Сорт бульбы, якую сяляне садзілі да вайны. Шышка — такая бульба некалі была, нівелька, мела многа ачок. Сапоцкін.

**Шэ'йгец** м. Хлопчык гадоў 10-ці /жарт./. Гэта чый шэйгец каля вазоў круціцца, нечаго шукая. Індура.

**Шэ'лег** м. У выразе: ні на шэлег — ні крышку, ні кроплі праўды. У яго праўды ні на шэлег, ён усе круціць, шукае дурнейшых за сібе. Путна.

**Шэ'льма** ж. Дурасліўка, свавольніца, гарэза /лаянк./. Ты дзе гэта, шэльма, цэлы дзень прападала, дзіця адно ў хаці пакінула. Табала.

**Шэржап-пшэ-пшэ!** Выкл. Вокліч, якім падзываюць кароў. Шэржап-пшэ-пшэ-пшэ! Шэржап-пшэ-пшэ-пшэ! Хадзі ў хлеў. Кунцаўшчына.

**Шэ'рхнуць** незак. Падмярзаць, цвярдзець пад марозам. Зямля стала шэрхнуць, зараз можно будзя ехаць, відаць, добро падмерзне. Сухая Даліна.

# Э

**Эвакуа'цыя** ж. Эвакуацыя. Ён, кажуць, у эвакуацыі быў, пад немца ні папаў. Грандзічы.

**Экано'мія** ж. Ашчаднае расходаванне. У іх ніякай эканоміі німа; як есць, та кажды дзень свято. Сіўкава.

**Эказ'фія** ж. Касцельная служба па памершаму. Учора далі на экаэфію па нібошчыку-тату, крэўныя прыедуць. Лойкі.

**Э'кспрас** м. Экспарт. Мая кабыла файна была, пашла на экспрас, за граніцу. Зарубічы

**Эскава'тар** м. Экскаватар. Ля, эскаватар прыехаў, мусі будзя нешто капаць. Русота.

**Эле'ктрык** м. Электрык. Учора да нас электрык прыходзіў, нешто папраўляў. Сонічы

**Эле'ктрыка** ж. Электрычнасць. Ціпер і на гуліцы відно, усюды электрыка гарыць. Вялікая Альшанка.

**Эле'пстрыка** ж. Электрычнасць, электрычнае святло. Элепстрыку пагасі, трэбо дзецям спаць лажыцца. Круглікі.

**Эліва'тар** м. Эляватар, зернясховішча. Гэта ш трэбо, цэлы дзень прастаялі, пакуль збожа на эліватар здалі. Свіслач.

**Э'мка** ж. Гатунак бульбы, якую сяляне садзілі ў Заходняй Беларусі. У другіх была эмка, а ў нас яе ні было, чырвону садзілі. Каленікі.

**Эта'пам** прысл. Прымусам, пад канвоем, па этапу. Казюка паліцыя даставіла да Зарубіч этапам, ён тады, можно сказаць, хлопчыкам яшчэ быў. Кавалічы.

**Эшало'н** м. Эшалон, чыгуначны састаў. Як аб'явілі тады мабілізацыю, та я ў першы эшалон папаў, адразу на фронт. М. Парэчча.

# Ю

**Юбіле'й** м. Юбілей. Нідаўно юбілей Антасёў адзначалі, 80 рок стукнуло, але яшчэ добро трымаецца. Малая Жорнаўка.

**Ю'да** м. Юда, здраднік. Ні вер гэтаму Юду, ён ні аднаго немцам прадаў. Гродна.

**Юр** м. Перыяд палавой узбуджанасці. Юр некі на яго надышоў, усе недзе бяжыць, каб ён бегаў на вяроўцы. Старая Руда.

**Юргі'ня** ж. Вяргіня. Я натто люблю юргіні, як цвітуць, хаця яны і ні пахнуць зусім. Скамарошкі.

**Юро'к** м. Прылада для наматвання ніцей у выглядзе кароткай палачкі з дзіркай, праз якую праходзіць нітка. Юрок — гэта, кап пальцы ніткай ні парэзаць, бо нітак много прыходзіласо матаць. Рацічы.

**Юр'я** м. Рэлігійнае свята 23 красавіка па ст.ст.. Два Юр'і ды абодва дурні, адзін халодны, другі галодны /прымаўка/. Баранава. На Юр'я, кажуць, слонца іграе, скача. Копанікі.

**Ю'ська** ж. Свіння /дзіцяч. слова/. Я пайду юськам есці даваць, а ты паглядзі ў акенца, як яны будуць амаць. Грыўкі.

**Юсь-юсь!** Вокліч, якім падзываюць свіней. Юсь-юсь-юсь! Свінькі, хадзеця ў хлеў. Капцёўка.

**Ю'ха** ж. Кроў /груб./. Як даўсо носам, так юха і пайшла, ні маглі ўтаймаваць. Шэмбелеўцы.

**Ю'хт** м. Спецыяльна выробленая і дублёная скура. Юхт моцны быў, як зробіш юхтавыя боты, та зносу ім німа. Сухая Даліна.

**Ю'шка** ж. Юшка, крышка для закрывання коміна. Зачыні юшку, каб цяпло с печы ні выцягвало. Лікоўка.

**Ю'шка** ж. 1. Страва, прыгатаваная з хлеба, свіной крыві і хлебнага квасу. Я юшку любіў і ціпер еў бы, кап хто зварыў ды даў. Жукевічы. 2. Кроў /груб./ Спусціў юшку, ціпер будзя ведаць, як другі раз лезці. Адэльск.

# Я

**Я'блыко** н. Яблык. Яблыко ад яблыні далёко ні падая /прымаўка/. Жукевічы.

**Я'гада** ж. Ягада. Ад ягадаў сыты ні будзеш, гэта дзецям толькі забава, ласункі. Дайлідкі. Чорныя ягады — чарніцы. У прошлым року гэтых чорных ягадаў было да хваробы, вёдрамі з лесу насілі. Іванаўцы. Чырвоныя ягады — суніцы. Дохтар казаў, што чырвоныя ягады самыя спажыўныя, але папробуў іх назбіраць. Салацце.

**Я'гаднік** м. Ягаднік. Ягадніку много, а вось ягадаў чамусьці німа, рок, відаць, такі.

**Зарубічы.**

**Ягі'нты** мн. Назва жыхароў былой вёскі Ягінты ў Баранавіцкім сельсавеце. Ягінты — гэта бойкія людзі, яны нават паміж сабою ні ўжываліса. Пад'ятлы.

**Ягня'тко** н. Ягнятка. Недзе ягнятко бляе, мусі адбіласо ад гавец. Кунцаўшына.

**Я'граст** м. Агрэст, куставая садовая расліна. Яграст любіць чарназём, на нашым пяску ні хоча расці. Сіўкава.

**Яда'** ж. Ежа. У нас велька дружына, аж дзесяць чалавек, адкуль ім яды настарчышса. Агароднікі. Ціпер яды ні бракуе, ні тое, што калісьці, хлеба і таго ні было. Каўпакі.

**Яда'к** м. Ядок. Ядакоў было много, кожны хацеў есці, але што ім дасі. Рудавіцы.

**Ядва'бны** прым. Шаўковы /устар./. Да вайны мало ў каго былі ядвабныя сукенкі, можа, толькі ў самых багатых. Эйсманты.

**Ядро'нка** ж. Кароўка сямікрапінкавая; тое, што і божа кароўка. Ядронка бывае з чорнымі кропачкамі, жоўтымі, а бывае і з краснымі кропінкамі. Забагонікі.

**Ядро'ны** прым. Ядроны, буйны, сочны. Глянь, жыто якое ядрона, а каласэ якія, аж да зямлі гнуцца. Батароўка.

**Яду'н** м. Ядок. Рабіць, як той казаў, німа каму, а ядуноў — поўна хата, тулькі падавай. Баброўнікі.

**Яе'чко** н. Яечка. Ціхо, дзетачка, ні плач, мама зараз яечко табе зварыць. Агароднікі.

**Яе'шня** ж. Яечня. Ужэ чаго-чаго, а кап святам яешні ні было на стале, у нас такого ні бывало. Кавальцы.

**Яжэ'лі** злучн. Каб, калі б. Яжэлі ні гарэлка, та людзі ніякай бяды ні ведалі б. Свіслач.

**Яздо'к** м. Яздок, коннік. Які з яго яздок, калі кабылы баіцца. Вішнявец. З яго такі яздок: ашчэ ні сеў на каня, а ўжэ падае. Баяры.

**Язы'** мн. Невялікая запруда /гаць/ з лазы, абкладзеная дзёрнам. Помню, збярэмсо, перагародзім рэчку язамі і купаемсо сабе, скольні хочам, рыбу рукамі ловім. Малыя Кавалічы.

**Язы'к** м. Язык. Глянь, высуня язык і падрочваецца, як малы які. Каўпакі. Трымаць язык за зубамі — не гаварыць лішняга, захоўваць тайну. Ты ў міне глядзі, трымай язык за зубамі, нікому ні пісьні. Лаша.

**Языка'сты** прым. Языкасты, языкаты. Хлопцы ў нас языкастыя, з імі сам чорт ні збрэшацца. Карозічы.

**Язьмі'н** м. Язмі'н. Чамусьці пчолы на язьмін ні сядаюць, а так добро пахня. Пяслі.

**Яйбо'гу** выкл. Далібог, дальбог, праўда, сапраўды, на самай справе. Яйбогу, с хаты паганю яго, як ні кіне гэтай дурной сваей прывычкі. Сухмяні.

**Яйцэ'** н. Яйцо, яйка. Ашчэ кураня ў яйцэ, а ўжэ курыцу вучыць /выслоўе/. Яскевічы.

**Як** злуч. Як. Як баба захоча, та і мёртвы зарагоча /прымаўка/. Каўпакі. Як аглобля — высокі, высакарослы. Баба як аглобля, а мужык маленькі — во дзе пара падабраласа. Рацічы. Як віціна — прыгожая, стройная дзяўчына. Дзеўка, як віціна, любо паглядзець. Літвінкі. Як вярба — Стройная /жанчына/. Дзеўка была, як вярба, а ціпер што з яе сталасо! Клінчаны. Як дунай — пра ўсё, што выклікае захапленне прыгажосцю, ростам, багаццем і г.д. Паглядзеце, хлопяц, як дунай,

дзе такому пару падбярэш. Рыбніца. Пшаніца як дунай, вуж ні пралезя. Пяслі. Як дуб — моцны, высокі, стройны, здаровы. Мужчына як дуб, ніяка хвароба да яго ні прыстае. Прывалка. Як дым — высокі, густы, буйны і г.д. Лес падняўсо як дым. Ліхачы. Як дзяркач — пра таго, хто задзірысты, супярэчлівы па характару. Праціўны чалавек, як дзяркач: слова ні дасць сказаць, так і рэжа. Свіслач. Як звон — вельмі добры, высокай якасці, з добрага матэрыялу. Алесь хату выстраіў, як звон глядзіцца. Баброўнікі. Як зэ'гер — выверaны, адладжаны, падагнаны, дасканалы, як гадзіннік. У яго гаспадарка як зэгер, усё да рук даведзена. Круглікі. Як кветка — прыгажуня. Гэля наша як кветка, чысто маці. Жукевічы. Як лён — пра прыгожую дзяўчыну. Яся наша як лён, сватоў — ні адбіцца, усе едуць і едуць. Баранавічы. Як лес — густы, высокі, урадлівы, багаты. Жыто за гумнамі як лес, сярпом ні зрэжаш. Гарны. Як мае быць — як належыць, як павінна быць. Я з ім разлічыўсо як мае быць, ні пакрыўдзіў. Лаша. Як маскаль — пра здаровую, энергічную, прадпрымальную жанчыну. Баба як маскаль, усюды дойдзе, даб'ецца свагo. Сухая Даліна. Як пасвісцёл — худы і высокі. Хлопец яе як пасвісцёл: вырас пад небо, а дурны як трэбо. Карозічы. Як хмара — густы, высокі, урадлівы, багаты. Жыто як хмара, заяц ні праб'ецца. Баранава. Як шклянка — адладжаны, добра арганізаваны, добраўпарадкаваны. Гаспадарка як шклянка, чаго тулькі тут німа. Батароўка.

**Які'** займ. Які. Якім чалавекам да вайны ён быў, ніхто ні ведае. Гібулічы. Якім макарам — якім чынам. Якім макарам ён сюды ўлез і хто яму дазволіў — ні ведаю. Горніца.

**Які'йсьці** займ. Якісьці, нейкі. Да іх якійсьці сабака прыбіўсо, ніяк ні аджануць. Гродна.

**Які-ко'львек** займ. Які-небудзь. Можа для яе і знойдзецца які-кольвек чалавек, ашчэ ні старая. Круглікі.

**Які'ясьці** прын. Каля, прыкладна. У гэтым мяшку засталосо якіясьці пудоў два жыта, ні больш. Гродна.

**Яко'сь** прысл. Нeяк, нейк. Якось да вас ні выпадае заяжджаць, далёко. Хліставічы.

**Якра'з** прысл. Якраз, у самы раз. Боты падышлі на ногу якраз, ні завелькія. Ферма.

**Я'ксьці** прысл. Неяк, чамусьці, чамусь. Яксьці ні хацеласо туды ехаць, як душа чула, што бяда будзе. Гродна.

**Ялаве'ц** м. Ядлавец. Дзе ялавец рос, та ўсе гоўца пасвілі, нічого ні расло. Горніца.

**Я'лавіна** ж. Цаліна. Зямля нічэпана, ялавіна, тут ні знаеш, як з плугам даступіцца да яе. Круглікі.

**Я'лавіца** ж. Ялаўка, ялавіца /пра карову/. Ялавіца, хацеў на мясо здаць, але перадумаў, мо пабегае. Каўпакі.

**Я'лавічына** ж. Ялавічына. Для старэйшых ялавічыну здаравей есці, як свініну, яна ні так шкодзіць. Караневічы.

**Я'лаўка** ж. Ялаўка, маладая карова, якая яшчэ не цялілася. Яна ў нас ялаўка, ашчэ ні пабегала, нівядомо, калі тое малако ад яе будземо мець. Кашэўнікі.

**Я'лац** м. Ялец, рыба сямейства карпавых. Ялцы як далі ў волак, та аш куль ні вытрымаў. Балічы.

**Яліна'** ж. Яліна, елка. Яліна ты мая зялёная, старана ты мая, дый вясёлая /з нар. песні/. Свіслач.

**Я'мачка** ж. Вочка на клубні. Як много ямачак на бульбіне, та і пад кальвам бульбы будзе много. Васілевічы.

**Я'міна** ж. Яма. Адзін чалавек капаў яміну, а пан яму ды і кажа: «Дзень добры, Мікалаю", а ён: «Але, паночку, яміну капаю.» Лаша.

**Я'мнік** м. Парода норных сабак; такса. У нас быў ямнік, такі на крывых ношках, лісу з нары так і выпра, дастане. Гродна.

**Ян** м. Купалле, старажытнае славянскае свята ў ноч з 23 на 24 чэрвеня па ст.ст.; рэлігійнае свята 24 чэрвеня па ст.ст. Нігды ні забуду, як папаў раз на Яна на Нёман. Ён увесь аж зіхацеў ад агнёў, ат тых свечак, што дзяўчата пускалі з вянкамі на воду. Зарубічы.

**Янта'р** м. Янтар, бурштын. Пацёркі з ян-

тару, кажуць, памагаюць, як хто носіць на шыі, ад горла, ад зобу. Гожа.

**Яр** м. Яр, роў, канава. За ярамі — та роўна з валамі, а як прышла сюды, та роўна з намі /прыказка/. Літвінкі.

**Ярапла'н** м. Самалёт. Пры паляках яраплан раз быў сеў на адрыну, стрэху праламаў, я сам бачыў. Рудавіцы.

**Ярмо'** н. 1. Ярмо, прыстасаванне для запрагання рагатай жывёлы.У тую вайну, помню, валэ нават у анцілеры былі, запрагуць іх ў ярмо, і яны пушкі цягалі. Кунцаўшчына. 2. Перан.: нявоЛя, прыгнёт. Толькі тады адно ярмо скінулі, а тут другое — немяц. Скідаль.

**Ярмо'лка** ж. Невялікая круглая шапка, якую некалі насілі старыя яўрэі. Ярмолкі, відаць, самы шылі, бо нідзе іх ні прадавалі, яны былі чорныя, з маленькім казырком. Жытародзь.

**Я'ры** прым. Заўзяты, неўтаймоўны, нястрымны, люты. Ён с тых ярых багамолаў, што вечна ў касцелі прападаюць. Баранава.

**Я'ры** прым. У значэнні: падкі да жанчын. Ён і ў маладосці быў яры да кабет, а ціпер, пат старасць, і зусім здурэў. Копанікі.

**Ярына'** ж. Ярына, збожжа, якое высяваецца вясной. Ярына дзісь зусім слабая, па прыгорках пажаўцела, мусі ат холаду. Віцькі.

**Я'сек** м. Невялікая дэкаратыўная падушачка. Я сама вышывала гэты ясек, яшчэ трэбо два такіх на другую канапу. Лойкі.

**Ясё'нка** і асёнка ж. Дэмісезоннае паліто. Даўней у ясёнках тулькі панэ хадзілі, хто там з нас іх меў. Рацічы.

**Яску'лка** ж. Ластаўка. Ядна яскулка вёсны ні зробіць /прымаўка/. Кузьмічы. Відаць, заўтро пагоды ні будзе, бо яскулкі натто ніско лятаюць. Батароўка.

**Я'сна** мн. Дзясны, дзёсны. Асталіса карэня ў яснах і пабальваюць, як тулькі прастыну. Лікоўка.

**Я'тка** ж. Мясная лаўка, палатка па продажу мяса і вырабаў з яго. Зойдзеш, бывало, у ятку, та гэты свінабой каля цібе, як можа, круціцца, кап тулькі што купіў. Гродна.

**Яці'ца** ж., мн. Аўсянік, крылатае насякомае, якое жыве некалькі дзён. Яціцу вельмі любіць рыба, наядаецца так, што аж пэнкая. Яе любяць птушкі, нават лятучыя мышы. Пагараны.

**Яцьвя'гі** мн., м. Назва жыхароў вёскі Яцвезь у Васілевіцкім сельсавеце. Як немяц быў, та яцьвягаў, кажуць, много вывез і мусі пастраляў. Сіневічы.

**Ячме'ніско** н. Поле, на якім рос ячмень. Як пажнуць, так ячменіско стараешса жывей згараць, каб доўго ні ляжало. Бакуны.

**Ячме'нішча** н. Тое, што і ячменіско. Мы гэтай восеню каровы на ячменішчы пасвілі, там файная канюшына была. Баброўнікі.

**Ячме'нка** ж. Ячная салома. Ячменку добро каровам даваць, ні трэбо і сена. Лаша.

**Ячме'нь** м. Ячмень, гнойнае запаленне павек вачэй. Нешто гэту весну ячмень прычапіўсо да хлопца, толькі адзін прайшоў, як зноў бачу, веко чырвонае. Капцёўка.

**Ячэ'йка** ж. Ячэя, паглыбленне ў пчаліных сотах. Трэбо гэту рамку замяніць, бачыш, колькі трутнёвых ячэяк панастроілі. Сыпаная Гара.

**Я'шчарыца** ж. Яшчарка. Яшчарыца ні кусаецца, я яе нават за пазухай насіў, нічуць ні баяўсо. Лаша.

**Я'шчык** м. Паштовая скрынка. На, будзеш ісці каля канторы — кінь у яшчык пісьмо, ні забудзь. Круглікі.

# УСТОЙЛІВЫЯ ВЫСЛОЎІ

Абое рабое. Хамякі.

Абы балото, а чорт знойдзецца. Верцялішкі.

Абы грошы — будзеш харошы. Кунцаўшчына.

Абы дзень да вечара. Рыдзелі.

Шыто-крыто. Лаша.

Абяцанкі — цацанкі, а дурному радасць. Балічы.

Ад бяссонніцы працай лечацца. Абухава.

Адвага і гарады бярэ.Гродна.

Аддай рукамі, хадзі нагамі. Стрэльчыкі.

Ад дрэннага семя не жджы добрага племя. Свіслач.

Адклад не йдзе ў лад. Грандзічы.

Адна галава разумна, а дзве разумней. Караневічы.

Адна бяда не ходзіць, а за сабой другую водзіць. Круглікі.

Адна дурная гаўца ўсё стада збунтуе. Хамякі.

Адна ластаўка вясны не чыніць. Гродна.

Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці век жыве. Гліняны.

Адно і то неладно. Гродна.

Адну бяду перабудзеш, та дзесяць прыбудзе. Рагачы.

Ад пят да галавы. Кунцаўшчына.

Ад перабірачкі дастанеш балячкі. Стрэльчыкі.

Ад работы і коні здыхаюць. Лаша.

Адумаўся Гаўрыла, як паўстрахі згарэла. Свіслач.

Адным гарэхам дзеляцца. Бяляны.

Адзін з'еш вала — адна хвала. Парэчча.

Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай. Кунцаўшчына.

Адзін ў Міры, другі — у Сібіры, а ты ў нас. Свіслач.

А кадук яго ведае. Бакуны.

Альбо грай, альбо грошы аддай. Рагачы.

А мы людзі цёмныя, нам абы грошы і харч харошы. Гібулічы.

Ані ўзяць, ані ўцяць. Лікоўка.

Ані гу-гу! Белева.

А наша Сора та шые, та пора. Квасоўка.

Апошняя ў папа жонка. Круглікі.

А ў ваце — сядзі ў хаце. Свіслач.

А ў Лашы людзі нашы, як ухопяць, так і ўтопяць. Кунцаўшчына.

А ў марцы, як у гарцы, удзень плюшчыць, а ўначэ трашчыць. Каменка.

А ў Польшчы кожны хоча быць большы. Гродна.

Аўчынная латка, як родная матка. Парэчча.

Баба з возу — каню лягчэй. Стрэльчыкі.

Баба і чорта змане. Асочнікі.

Баба і чорта перахітрыць. Пракопавічы.

Баба надвое варажыла. Гібулічы.

Бабе дарога — ад печы да парога. Старая Дубавая.

Бабёр-дабёр, толькі адна бабрыха кепска. Кунцаўшчына.

Бабу не мужык б'е, а язык. Машталеры.

Багатаму бедны не сябра. Бандары.

Багатаму па смерць пасылаць. Віцькі.

Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. Прывалка.

Багач: кідай рагач, бяры сявенку і сей памаленьку. Рагачы.

Бацька калёснага скрыпу баяўса, а сын у музыканты падаўса. Гродна.

Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей. Бакуны.

Баязліваму і корч — мядзведзь. Абухава.

Баяліса не цівуна, а яго бізуна. Круглікі.

Без каляктыву жыццё нешчасліва. Грандзічы.

Без кораня і палын не расце. Круглікі.

Без прычыны галава не баліць. Сабаляны.

Без чорта балота не бывае. Забагонікі.

Без хлеба няма абеда. Гліняны.

Біся, сварыся, а свайго берага дзяржыся. Рыдзелі.

Біткам набіто. Каўпакі.

Біцца як рыба аб лёд. Кулёўцы.

Бог да бог, ды сам не будзь плох. Капцёўка.

Бога хвалі і чорта не гняві. Цыдовічы.

Бог даў, бог і ўзяў. Гожа.

Бог за адну жонку, а я за другую. Гродна.

Бойся бога, а чорта шануй. Рыбніца.

Бог сцярог, што з сястрою не лёг. Батароўка.

Боўтнуў, як баран у воду. Балічы.

Брат любіць сястру багатую, а жонку здаровую. Дарашэвічы.

Будзеш мяне бачыць, як сваё вуха. Селюкі.

Будзе дзень — будзе і ежа. Забагонікі.

Бывала — буяла, а цяпер і гарэць не хоча. Верцялішкі.

Бывае ў жыцці агарчэнне, замест хлеба трэбо есці пячэнне Гібулічы.

Была б ахвота, наладзіцца ўсякая работа. Абухава.

Была б свіння, а мука будзе. Азёры.

Было, было, ды выпала дно. Гродна.

Быў конік, ды з'ездзіўся. Хамуты.

Быў чалавек, дый ўзяў да ажаніўся. Перстунь.

Быў бы дожджык, быў бы гром, нам не трэба аграном. Адэльск.

Бычкі бушуюць — весну чуюць. Кунцаўшчына.

Б'юць і плакаць не даюць. Парэчча.

Бяда на бядзе едзе і бядой паганяя. Рацічы.

Бяры свае цацкі і цякай да хаткі. Грандзічы.

Бярозавай кашы даць. Баяры.

Ваду вары, вада будзе. Ферма.

Валам валіць. Баранавічы.

Вазьмі акрайчык, каб быў сын Мікалайчык. Трычы.

Ванэля ўсім на хлеб не намеля, а толькі тым, хто ўмея. Галавачы.

Ваўка баяцца — у лес не хадзіць. Зарубічы.

Век векаваць. Доргунь.

Век векам яны нічога не мелі. Караневічы.

Век жыві, век вучыся, а дурнем памрэш. Адэльск.

Велькі пад неба, а дурны, як трэба. Каўпакі.

Віламі па вадзе пісана. Тужаўляны.

Вішчыць, як парася ў плоце. Рыбніца.

Водка горка, яе п'юць, замужам кепска, а ідуць. Саннікі.

Водка горка — хлопцы п'юць, замуж кепскі — дзеўкі йдуць. Перстунь.

Вока мець. Пяслі.

Волас сівее, а розум дурэе. Дубніца.

Волас сівее, розум слабее. Перстунь.

Вольнаму — воля, а спасённаму — рай. Зарыца.

Вольнаму — воля, а шалёнаму — лес. Скамарошкі.

Воля птушцы даражэй за залатую клетку. Няцечы.

Воўк і лічанае бярэ. Карозічы.

Воўк сабакі не баіцца, але звягу ненавідзіць. Лугавая.

Восень — работ восім. Перстунь.

Воўчае мясо да лесу цягне. Грыўкі.

Вочы баяцца, а рукі робяць. Балічы.

Вочы відалі, што купавалі. Сапоцкін.

Вочы відалі, што пакупалі, а ціпер плачце, хоць павылазце. Адэльск.

Вучыся з маладога, та пад старасць, як знойдзеш. Барбарычы.

Вучыцца ніколі не позна. Гожа.

Выбіцца з сілы. Хамякі.

Вывучыць праз качаргу скакаць. Пагараны.

Вывесці на чысту воду. Тужаўляны.

Вырас да неба, а дурны як трэба. Лаша.

Высахнуць у гарохаву лапатку. Ніжнія Пагараны.

Высахла баба ў скрыпку. Радзевічы.

Выскачыў як Піліп з канапель. Лакно.

Высока лятае, ды нізка сядае. Сабаляны.

Выцягнуло, як канапліну. Гібулічы.

Вясна красна цвятамі, а восень — пірагамі. Дзекалавічы.

Вясна лето корміць. Сухая Даліна.

Вясну хваляць за дажджы, а лето за снапы. Малахавічы.

Вясняны дзень корміць рок. Рыбніца.

Галавою сцяны не праб'еш. Абуховічы.

Галлем, быську, каля плота, якая плата, такая работа. Ніжнія Пагараны.

Галоднай куме хлеб на ўме. Сабаляны.

Гара з гарой не ззыдзецца, а чалавек з чалавекам ззыдзецца. Табала.

Гарбатага толькі магіла выправіць. Палаткова.

Гаркае, як сабака. Доргунь.

Гарэлка на ногі нікога не паставіла. Свіслач.

Гасцям гадзі і сябе глядзі. Рудавіцы.

Гаспадарку вясці — не барадой трасці. Круглікі.

Глядзіць як баран на новыя варота. Лікоўка.

Гнілому цяляці хвост абарвалі. Свіслач.

Гной адвязеш — хлеба прывязеш. Адамавічы.

Год на год не прыходзіцца. Індура.

Гола хоць шаром пакаці. Рагачы.

Голад не цётка, піражка не дасць. Агароднікі.

Голад у свет гоніць. Рыдзелі.

Голуб міру ўецца, капіталіст трасецца. Малахавічы.

Голы і поля не пяройдзя. Зарыца.

Голы, як бізун. Малахавічы.

Голы разбоя не баіцца. Адэльск.

Гора скача, гора плача, гора песенькі пяе. Казіміроўка.

Горка есці, ды шкада кідаць. Хамуты.

Горка рэдзька, ды ядуць, кепска замужам, ды ідуць. Пагараны.

Горка рэдзька, ды ядуць, ліха замужам, да ідуць.

Горла шырока, ды кішка тонка. Грандзічы.

Горш таму наску, што ў пяску. Свіслач.

Грамніца — зімы палавіца. Скрабляні.

Грошы шчот любяць. Дубоўка.

Грошай, як у чорта. Караневічы.

Грошы, як вада, ідуць. Кунцаўшчына.

Грыбоў хоць граблямі заграбай. Луцкаўляны.

Гультай за работу — мазалі за рукі. Дарашэвічы.

Гусь свіне не таварыш. Кругляны.

Дабры ўсе бабры, адна выдра ліхая, бо яе доля такая. Зарыца.

Давалі ды з рук не пускалі. Луцкаўляны.

Даваць храпака. Пракопавічы.

Давясці да халоднай вады. Саломенка.

Дагадзіў, як ксёндз Магдулі. Путрышкі.

Дажыўся да ручкі. Цвіклічы.

Дажыліся палякі, што ні хлеба, ні табакі. Баранава.

Дай божа і нашаму цяляці ваўка дагнаці. Свіслач.

Дай, божа, у добры час сказаць, а ў ліхі прамаўчаць. Кукалі.

Дай мне знаць, з кім век векаваць. Жыдомля.

Далей сваго носа не бачыць. Балічы.

Далей у лес — больш дроў. Зарубічы.

Да Міколы няма дабра ніколі. Лаша.

Да пары збан воду носіць, ухо адарвецца і збан паб'ецца. Бяляны.

Дармоваму каню ў зубы не глядзяць. Скамарошкі.

Дарагая ложка да абеду. Салаўі.

Дар за дар, дарма — ніц. Караневічы.

Дасць бог дзень, дасць бог пішчу. Рыбніца.

Да святога духа не скідай кажуха. Занявічы.

Даў бог цяля, ды хлява на яго няма. Рыбніца.

Даў бог вала, ды няма на яго хлява. Караліно.

Да цябе не п'юць, не кажы «Будзь здароў!». Верцялішкі.

Два века жыць не будзеш. Старая Дубавая.

Два Юр'і абодва дурні: адзін халодны, другі — галодны. Свіслач.

Дзе бяда, там нуда. Літвінкі.

Дзе густа, а дзе пуста. Кругляны.

Дзе далінка, там і хлеба асмінка. Каўпакі.

Дзе двух б'юцца, там трэці карыстае. Каменка.

Дзе далок, там і панок. Селюкі.

Дзе далінка, там і хлеба скарынка. Лаша.

Дзе коратка, там і рвецца. Скідаль.

Дзе лепшы далок, там і панок. Пагараны.

Дзеля дружбы цыган павесіўся. Караневічы.

Дзень хваляць, калі пройдзе, а мужыка — калі памрэ. Свіслач.

Дзе п'юць, там і разліюць. Карозічы.

Дзе свае сабакі грызуцца, туды не лезь. Радзевічы.

Дзесятая вада па кісяле. Падліпкі.

Дзе сам чорт не дойдзе, туды бабу пашле. Балічы.

Дзеткі радасць, дзеткі і гора. Завадзічы.

Дзеці, дзеці, добра з вамі ў леце, а зімой, хоць аб печ галавой. Лаша.

Дзеці гадаваць — ночы не спаць. Ліхачы.

Дзеці гадаваць — гора гараваць. Жылічы.

Дзеці — расплыліся па ўсім свеце. Зарубічы.

Дзе чарка і аладка, там і грамадка. Гродна.

Дзе чорт сам няйме, туды бабу пашле. Адэльск.

Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота, там — пуста. Малахавічы.

Дзіравага мяшка не напоўніш. Ласосна.

Дзісяй гулі, учора гулі, будзем хадзіць без кашулі. Квасоўка.

Дзяцей як бобу, а хлеба — ні дробу. Гліняны.

Добрае далёка чуваць, а кепскае яшчэ далей. Рацічы.

Добра жывецца, так і песня пяецца. Калбасіна.

Добра ў гасцях, а дома яшчэ ляпей. Індура.

Добра працуеш — павагу маеш. Канюхі.

Добро пець лалом за чужым сталом. Гродна.

Добро з тым сварыцца, хто бога баіцца. Свіслач.

Добры чалавек: як спіць, та з кіем каля яго можно прайсці. Сцяцкі.

Дождж ідзе не тады, калі ждуць, а калі жнуць. Дзекалавічы.

Дождж не тады ідзе, калі просяць, а калі косяць. Дарашэвічы.

Дождж у маі — будзя хлеб на гультаі. Малая Капліца.

Дом не з каўбас, каты не з'ядуць. Жукевічы.

Доўг цяляці не прывядзе. Верцялішкі.

Дрэнная тая дамова, дзе быка бадзе карова. Гродна.

Думы за гарамі, а смерць за плячамі. Тарусічы.

Дурнога вучыць — што хворага лячыць. Галавачы.

Дурны пакуль пальцам не памацае, не паверыць. Гібулічы.

Дурны не дагадаецца, а разумны прамаўчыць. Казіміроука.

Дурня корчыць. Цвіклічы.

Дурняў не сеюць, не гаруць, яны самыя растуць. Галавачы.

Духе з цябе выпра. Лаша.

Еж, калі рот свеж, а памрэш — калом не ўваб'еш. Круглікі.

Ён нагаворыць табе бочку арыштантаў. Белева.

Жаба на языку не спячэцца. Грыўкі.

Жаданая праца як узыход сонца. Ласосна.

Ждала мясаеду — думала паеду, мясаед прайшоў і ніхто не зайшоў. Скідаль.

Жыве як баран да рэзі. Хамякі.

Жыве як у бога за плячыма. Вішнявец.

Жыве як у бога за пазухай. Караневічы.

Жывы ў землю не палезяш. Чэхаўшчына.

Жыццё пражыць — не парог пераступіць. Пыра.

Забляялі козы, прывялі маладую ў слёзы. Эйсманты.

За ганучу падняў бучу. Парэчча.

З аднаго вала дзве шкуры не здзярэш. Рыбніца.

За дурной галавой і нагам не спакой. Лэйгабалі.

Закон як дышла, куды павярнуў, туды і вышла. Батароўка.

За камаром не ганіся з малатком. Гліняны.

За кампаню цыган павесіўся. Нямейшы.

Заліць вочы. Ласосна.

Замуж выйсці — трэбо знаць: позно легчы, рано ўстаць. Навасёлкі.

Запасайся на сто лет, а смерці, што дня спадзявайся. Грандзічы.

Запас бяды не чыніць. Лугавая.

Запыні чорта з дзвярэй, та ён у акно. Каменка.

За пяць пальцаў не купіш. Лужкі.

Зарабіў як Заблоцкі на мыле. Скрабляркі.

За рубель бацьку роднага прадасць. Гожа.

За свой грош усюды харош. Славічы.

За свае грошы — усюды харошы. Цыдовічы.

Затуліўшыся ў куток, па тры чарачкі у раток. Пагараны.

За такі алей хай будзе так весялей. Гібулічы.

Захочаш сабаку удэрыць — кій знойдзяш. Лугавая.

Збіцца з панталыгу. Скамарошкі.

Збіцца з толку. Вялікая Альшанка.

З богам, Параска, дарога як ляска. Радзевічы.

З богам, Параска, калі людзі ўдаюцца. Зарубічы.

З вады сухім выйсці. Тарусічы.

З велькай хмары — малы дождж. Лужкі.

Згубіўшы галаву па валасах не плачуць. Лікоўка.

Згінуў як карова языком злізала. Літвінкі.

Здаецца, укусіў бы сябе за локаць, ды не дастанеш. Бычкі.

Здаровя за грошы не купіш. Каўняны.

Здаровя лёгка страціць, ды цяжко набыць. Стрыеўка.

Здароў буду — грошай дабуду. Азёры.

З добрым мужыком і свінка — гаспадынька. Саломенка.

З добрым мужыком нажывешся, а з кепскім нагаруешся. Азёры.

З ім кашы не зварыш. Пушкары.

Зімой снегу не дапросішся. Пагараны.

Зімовы Мікола замасціў і загваздзіў. Парэчча.

З каласочка — жыта бочка. Клачкі.

З камарыны нос. Пыра.

З кута ў кут і вечар тут. Прывалка.

З кропляў — мора, з зерняў — тона. Грандзічы.

З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Хамуты.

Злазь з даху і не псуй гонты. Квасоўка.

Злосці — поўныя косці. Бакуны.

З лясочку прыдзе, а з пясочку — не. Радзевічы.

З міру па нітцы — голаму рубашка. Славічы.

З малой іскры бывае вялікі пажар. Гродна.

З мужыком цесна, а без мужыка — сумна. Гібулічы.

Знае кот, чыё сало з'еў. Палаткова.

Знаем без папа, што ў нядзелю свята. Губінка.

Знаю, што з раю, ды з якога — не знаю. Гродна.

З песні слова не выкінеш. Лікоўка.

З працы не паставіш палацы, а толькі горб нажывеш. Скрабнякі.

Зубы зэліць. Пруды.

З усіх бакоў скубуць. Пышкі.

З чужой бяды не смейся. Эйсманты.

З'еш адзін хоць вала — адна хвала. Хлістовічы.

З'еў воўк кабылу, пакінуў хвост і грыву. Мяшкенікі.

Зяць — любіць узяць. Сапоцкін.

Зяваць — ваду хлябаць. Абухава.

І вашым і нашым. Нералом.

І воўк сыты і козы цэлыя. Коматава.

І камень не вечны. Пальніца.

І канцы ў воду. Гожа.

І кот не любіць у адну дзірку лазіць, не толькі мужык. Лікоўка.

Ілья нарабіў гнілля. Ласосна.

Ілья накідаў у раку гнілля. Пышкі.

І мясаед прайшоў, і ніхто не зайшоў. Адэльск.

І пылінкі у роце не мела. Дарашэвічы.

Іскры з вачэй сыплюцца. Жукевічы.

І свінка — гаспадынька, калі мукі скрынка. Круглікі.

Ісці блізкі свет. Лукавіца.

І тут гу-гу і там гу-гу — і нічого разабраць не магу. Жыдомля.

І ў добрай сям'е вырадак бывае. Палаткова.

Іспас — памілуй нас, будзем гавець табе дзве нядзелі ў гарачы час. Рудавіцы.

Каб ведаў, што ўпаду, та саломкі падаслаў бы. Радзевічы.

Каб заможна жыць, трэбо працу любіць. Зарубічы.

Каб знаў, што ўпадзеш, та сеў бы. Навасёлкі.

Каб каза не скакала, та нагі б не зламала. Адамавічы.

Каб не затыкі ды датыкі, та і сарока кросна ткала б. Жыдомля.

Каб на цябе яма ззяла. Малая Альшанка.

Каб рыбку з'есці, трэбо ў воду ўлезці. Славічы.

Каб сем год мак не радзіў, та голаду не будзе. Свіслач.

Каб ты хадзіў па свету і зямлі не бачыў. Кунцаўшчына.

Каб ты зязюлькі не чуў. Гродна.

Каб ты пашоў з Бэркам навыперадкі. Кунцаўшчына.

Каб ты пад сабой зямлі не бачыў. Гібулічы.

Каб тулькі была лужа, а свіня знойдзецца. Лаша.

Каб тыя мыслі да напраўду вышлі. Гліняны.

Каб той розум, ды спераду. Круглікі.

Каб у ганоры быць, трэба працу любіць. Ланявічы.

Каб хто ў небе пабываў ды ў бога запытаў. Пагараны.

Каб цябе ваўке зарэзалі. Мігова.

Каб цябе качкі стапталі. Кунцаўшчына.

Калі гною густо, не будзе ў полі пусто. Радзевічы.

Калі грыбна, та і людна. Прывалка.

Калі даюць — бяры, а калі б'юць — уцякай. Бяляны.

Калі дзіця падае — бог падстаўляе падушку, а калі стары падае, та чорт барану. Свіслач.

Калі дождж ідзе у маі, будзе хлеб на гультаі. Лікоўка.

Калі есць хлеб і вада, та не бяда. Гожа.

Калі заб'еш бабра, не будзеш мець дабра. Баброўнікі.

Калі курэц, трэба мець сваю люльку і тытунец. Зарубічы.

Калі конь цягне, на яго кладуць і пугай б'юць. Караневічы.

Калі маеш дачку, трымай гарэлку ў глячку. Зарубічы.

Калі на паляване ісці, тады здумаў хартоў карміць. Свіслач.

Калі няма таланта, та не паможа і дамінанта. Гродна.

Калі навука ідзе туга — паможа бацькава папруга. Гродна.

Калі нам жаніцца, та і ноч малая. Дубоўка.

Калі на грамніцы пятух нап'ецца вадзіцы, та на Юр'я вол наесца травіцы. Капцёўка.

Калі не пераскочыў, не кажы «гоп!». Капцёўка.

Калі прайшоў Гога — хвалі бога. Грандзічы.

Калі папаў паміж вроны, та і кракай, як і оны. Занявічы.

Калі падае дождж у маю, будзе хлеб і гультаю. Кунцаўшчына.

Калі ўзяўся за дугу, не кажы, што не магу. Радзевічы.

Калі хочаш сабаку ўдэрыць, кій знойдзецца. Белева.

Калі чорт сам не зможа — баба дапаможа. Брузгі.

Калі што-такое, та будзем рабіць другое. Лаша.

Каля добрага навучышся, а каля дрэннага — намучышся. Аульс.

Каму баліць, таму далягае. Баброўня.

Кармі свіню мукою, та пойдзе рукою. Дарашэвічы.

Карміць чорта лысага. Адэльск.

Каму што, а галоднай куме хлеб на уме. Галавачы.

Кашу маслам не запсуеш. Галаўнічы.

Кепска, пане Грыгоры: што далей усе горай. Квасоўка.

Кінь за сабой, та знойдзеш перад сабой. Скідаль.

Кладзі гной густа, не будзе ў адрыне пуста. Ніжнія Пагараны.

Клін клінам выганяюць. Гродна.

Кожнага чалавека свая вош грызе. Лікоўка.

Кожнаму сваё дзіця міла. Кунцаўшчына.

Кожны розна па свайму бацьку плача: хто ў кулак, а хто і ніяк. Лаша.

Кожны баран за свае ногі будзе павешаны. Гродна.

Конь на чатырох нагах, ды капыціцца, а чалавек на дзвюх. Бакуны.

Красавік сухі і цёплы май — будзе каша і каравай. Лікоўка.

Красць тысячы, каб было за што вісеці. Кульбакі.

Круціцца на языку. Круглікі.

Круці, не круці, а мусіш умярці. Палаткова.

Круць, верць — у чаропку смерць. Зарыца.

Купіў бы сяло, ды грошай гало. Васілевічы.

Куралём ляцець. Крыўляны.

Купіў бы сяло, жыў бы весяло, дый грошай гало. Рудавіцы.

Ласка не каляска, сеўшы не паедзеш. Скідаль.

Ласкавае цялятко дзве маткі ссе. Радзевічы.

Ластаўкай віцца. Зарыца.

Ласы, як кот на каўбасы. Селюкі.

Лата на лаце і шва не знаці. Капцёўка.

Лёгкае пер'е, ды на страху не закінеш. Перстунь.

Ледво ногі валачы. Каўпакі.

Лежма ляжаць. Баброўнікі.

Лепш у магіле гніць, чым з немцамі жыць. Рыбніца.

Летам вядро вывьеш, а сухі будзеш, а ўвосень з ложкі ў балоце застрагнеш. Лікоўка.

Летам прынясеш, зімой прыбярэш. Завадзічы.

Лётае, як жыд бровар запаліўшы. Дарашэвічы.

Летні дзень год корміць. Белева.

Лето робіць на зіму, а зіма на лето. Дзекалавічы.

Лій ваду, вада будзе. Малая Капліца.

Лішняга і свіня не ядуць. Стрыеўка.

Лоб нізкі, нос слізкі, відаць, лізаў панскія міскі. Скідаль.

Ложка дзёгцю сапсуе бочку мёду. Балічы.

Любі жонку, як душу, а калаці, як грушу. Лаша.

Любіў рак жабу, аж вочы выеў. Гліняны.

Любіць чужымі рукамі жар заграбаць. Адэльск.

Любіліся, кахаліся, як малыя дзеці, а ціпер разышліся, як туман па свеце. Радзевічы.

Любіліся, кахаліся, як галубкі ў стрэсе, а разышліся, як ягадкі ў лесе. Зарыца.

Любіш узяць, любі і аддаць. Пруды.

Людскія слёзы не падаюць на камень. Скамарошкі.

Людзі не родзяцца калекамі, а чыняцца. Дарашэвічы.

Люлі, люлі, дзіця, спаць, адна матка — бацькоў пяць. Адэльск.

Ляжаць логма. Кульбакі.

Ляпей бачыць на грамніцы ваўка ў аборы, чым сонца ў каморы. Пруды.

Ляпей быць галавою ў камара, чым нагою ў слана. Радзевічы.

Ляпей есці бульбу з вадою, чым мясо з бядою. Верцялішкі.

Ляпей з разумным згубіць, чым з дурным знайсці. Ліхачы.

Ляпей рано замуж выйсці, чым старой дзеўкай быць. Балічы.

Ляпей у пяску гніць, як з нямілым жыць. Саломенка.

Ляпнуў, як пасталом па вадзе. Сухмяні.

Маладая — пад хвост курам заглядае. Сухая Даліна.

Маладога кроў грэе. Азёры.

Малако ў каровы на языку. Дубоўка.

Малая сабака да здыхаты шчаня. Свіслач.

Маёва раса лепш, як гарнец гаўса. Квасоўка.

Май — валам дай, а сам на печ ўцякай. Караневічы.

Малоць языком. Сабаляны.

Малыя дзеці спаць не даюць, а вялікія — жыць не даюць. Лікоўка.

Марац укусіць за палец. Грыўкі.

Маці пазнае дачку і ў чырвоным андарачку. Карозічы.

Машына любіць розум і ўмелыя рукі. Малахавічы.

Менш гавары, а больш слухай. Грандзічы.

Меля языком, як сабака хвастом. Парэчча.

Мінуліся тыя рачкі, што выпірало бачкі. Гібулічы.

Мужык дурны, як варона, а хітры, як чорт. Кунцаўшчына.

Мужык і жонка — адна машонка. Караневічы.

Мужык і жонка — адна кішонка. Пяслі.

Мужык з пастол, а саджай яго за стол. Свіслач.

Мужык і чорта перахітрыць. Сапоцкін.

Музыкі рэжуць як па жывіні. Лікоўка.

Мы калгасным ураджаем усіх ворагаў пужаем. Малахавічы.

Мыслі за гарамі, а смерць — за плячамі. Хамякі.

Мякінай набіта галава. Караневічы.

Мятліца — хлеба палавіца. Агароднікі.

На беду многа не трэба. Тумашы.

Набраўся, як жаба калу. Ласосна.

На бога ўпавай і сам не зявай. Кругляны.

Набожна як свіня падарожна. Гібулічы.

На бязрыбі і рак рыба. Лікоўка.

Нават вухам не вядзе. Рацічы.

Нават і ў голаў не бярэ. Трычы.

На вус наматваць. Горніца.

На грамніцы палова зіміцы. Бяляны.

Нагаворыць цэлую бочку арыштантаў. Цвіклічы.

На грамніцы ляпей бачыць ваўка ў аборы, чым сонца ў каморы. Лаша.

На ём аж скура гаворыць. Баброўня.

На ём далёка не заедзяш, дзе сеў, там і злезеш. Каменка.

На Ілью поўную печ хлеба налью. Рудавіцы.

На Казімера зіма ўмера. Гневеншчызна.

На Мацея зіма пацея. Адэльск.

Наняўся як прадаўся. Баранавічы.

На пана хварэць. Каленікі.

На пахілае дзерава і козы скачуць. Прывалка.

Нарабіў чорт балота, ды няма каго саджаць. Гродна.

На радзіме і паміраць лягчэй. Струбка.

На сваім сметніку і пятух праў. Батароўка.

Наставіўся, як мыш на крупэ. Скідаль.

На тое і Юлька, каб была чыста кашулька. Сухая Даліна.

На твой гнеў — не гароджаны хлеў. Кругляны.

Наўперад бог даў пальцы, чым відэльцы. Радзевічы.

На чужы раток не накінеш платок. Сцяцкі.

На чыім возе едзеш, таму і песні спявай. Рыдзелі.

На шыі сядзіць. Грандзічы.

На Юр'я мароз — сей гару і даліну, будзе гавёс. Горніца.

Наша Фядора та шые та пора. Лікоўка.

Ні адна птушка ў свае гняздо не гадзіць. Трычы.

Не будзь вельмі добрым, а то сві'ня з'ядзяць. Сухая Даліна.

Ні богу свечка, ні чорту качарга. Кунцаўшчына.

Не бяда, калі есць лебяда. Каўпакі.

Не бяры чужога і не бойся нікога. Гожа.

Не важна, што бумажна, абы шахацела. Парэчча.

Не выйдзе з маіх рук. Кульбакі.

Не гані каня дубцом, а гані гаўсом. Рыбніца.

Не дай бог свіне рог, а то ўвесь свет запора. Парэчча.

Не дастае адной клепкі. Балічы.

Не дай і не лай. Рацічы.

Не даць радачкі. Перстунь.

Не дуры галавы. Пракопавічы.

Не дай бог свіне рог, а мужыку панства. Рагачы.

Недасол на стале, а перасол пад сталом. Жукевічы.

Не еж часныку, та з рота не будзе смярдзець. Лойкі.

Не жолаб да каня ідзе, а конь да жолаба. Белыя Балоты.

Не заўсёды світае, як певень спявае. Глядавічы.

Не зведаўшы броду, не сунься ў воду. Занявічы.

Не знаеш броду, не лезь у воду. Славічы.

Не капай на другога ямы, бо сам увалішся. Казловічы.

Не кармі свіню вадой, а кармі яе мукой. Гожа.

Не карай, божа, нічым, як другам ліхім. Цыдовічы.

Не капай пад кім ямы, бо сам увалішся. Гарны.

Не мець дзе галавы падзець. Сонічы.

Не май сто рублёў, а май сто сяброў. Падкрыжакі.

Не нашаму цяляці ваўка дагнаці. Малая Альшанка.

Не плаціць багаты, а вінаваты. Доргунь.

Не пішы пяром, а пішы ўмом. Малахавічы.

Не прапіла, не праела, а так марна прайшло. Казіміроўка.

Не прыедзе сват на кане, дык прыедзе на кіе. Дарашэвічы.

Не пазычыш — адна бяда, а пазычыш — дзве бяды. Свіслач.

Не радзіся дзеўкай краснай, а радзіся шчаснай. Забагонікі.

Не руш Рыгара, хай сядзіць, як гара. Баброўнікі.

Не с пасагам жыць, а з чалавекам. Путрышкі.

Не столькі работы, сколькі хвальботы. Дзекалавічы.

Не садзі носа ў чужое проса. Казловічы.

Не такіх відалі, ды чэрці пабралі. Свіслач.

Не той сябра, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа. Пальніца.

Не таму не стало, што ў сторану скакало, а таму, што мало нажала. Радзевічы.

Не ад таго мы збяднелі, што прапілі і праелі, а ад таго, што мало мелі. Сухая Даліна.

Не тая ліса, што зрадзіла, а тая, што ўскарміла. Кульбакі.

Не той тавар, што ляжыць, а той, што бяжыць. Путрышкі.

Не такі чорт страшны, як яго малююць. Малая Жорнаўка.

Не той хлеб, што ў полі, а той, што ў стадолі. Гушчыцы.

Не трэба халаста, абы жонка была таўста. Галавачы.

Не ўсе дома. Сабаляны.

Не ўсё золата, што блішчыць. Сінявічы.

Не чапай чужога цела, і тваё будзя цэла. Кукалі.

Не чапай чужога, не бойся нікога. Балічы.

Не шукай бяды, бяда сама прыдзе. Скідаль.

Нікому свайго розуму не ўставіш. Саволеўка.

Ні роду ні плоду, як камень у воду. Балічы.

Ні села ні пала, а бабе давай сала. Радзевічы.

Ні ў пяць ні ў дзесяць. Нямейшы.

Ніхто не ведае, як хто абедае. Баяры.

Нішто само ў рукі не прыдзе. Васілевічы.

Ні село ні пало, а бабе рабі купало. Зарыца.

Ні з музыкі, ні з муляра век не будзе гаспадара. Адэльск.

Ні поп, не адзявайся ў рызу. Індура.

Ні слуху ні духу. Кашэўнікі.

Ні ў склад, ні ў лад, пацалуй кабылу ў зад. Радзевічы.

Ні тая карова, што многа рыкае, а тая, што малака дае.Гожа.

Ніпоўна вока. Пышкі.

Няма тае хаткі, каб не было звадкі. Адэльск.

Нядбаліца горш як п'яніца. Грандзічы.

Нявеста славіцца працаю, а не падушкамі. Калбасіна.

Нязнайка ў хаці сядзіць, а знайка па дарогах бегае. Лікоўка.

Няпрошаны госць горш татарына. Саломенка.

Нязванаму госцю месца няма. Лойкі.

Няма лепшай рэчы, як свіныя плечы. Каўпакі.

Няма лепшай рэчы, як на сваей печы. Гліняны.

Паабедаў, а жывот і не ведаў. Зарыца.

Па адзежы сустракаюць, а па розуму праважаюць. Пералом.

Па гарэ каб ты хадзіў і слонца не бачыў. Парэчча.

Пагонішся за двума зайцамі, ні аднаго не ззымаеш. Караневічы.

Падвясці пад дурнога хату. Пракопавічы.

Падвясці пад касцёл. Пяслі.

Падлез, як кашаль пад хваробу. Хамякі.

Пад ляжачы камень і вада не пацячэ. Бяляны.

Паехаў сабакам па сено. Тумашы.

Пазбірала талаку — пагуляла на таку. Малахавічы.

Пазнаць пана па халявах. Занявічы.

Пазнаць пана па гузіках. Парэчча.

Пазнаюць дачку і ў чырвоным андарачку. Скідаль.

Пайшоў сабакам сено касіць. Тумашы.

Пакуль з багатаго пух, та з беднаго — дух. Адэльск.

Пакуль сонца зыйдзе, раса вочы выесць. Скрыннікі.

Пакуль сыты з'едзецца, та худы здохне. Сапоцкін.

Пакуль чужы скрывіцца, та свой заплача. Дзекалавічы.

Палуднічкі гудуць, а нам есці не нясуць. Свіслач.

Палуднічкі гудуць, жанцам спаць не даюць. Кунцаўшчына.

Па ласым кусе і вады нап'юся. Вялікая Альшанка.

Па малаку і ног не павалаку. Парэчча.

Палохана варона і куста баіцца. Круглікі.

Па Міколе не сей ніколі. Грыўкі.

Пана клянуць, а ён таўсцее. Брузгі.

Папаласа, як сляпой курыцы зерне. Копанькі.

Панская хвароба, як беднаго здароўе. Скрабляки.

Панскія натуры патрабуюць пышныя хаўтуры. Селюкі.

Панэ сварацца, а ў мужыкоў чубэ трашчаць. Адэльск.

Папову дачку пазнаюць і ў чырвоным андарачку. Парэчча.

Папрацуеш да поту, з'ясі ў ахвоту. Лукавіца.

Пасаліўшы, можно есці. Тужаўляны.

Патрэбны як у мосці дзірка. Верцялішкі.

Патрэбны да зарэзу. Пруды.

Пашлі дурнога, а за ім — другога. Грандзічы.

Пашло ўсё прахам, пропадам. Навасёлкі.

Пашоў шукаць ветра ў полі. Рагачы.

Па-шляхоцку — папалам клёцку, а ў мужыцкім шчоце — па тры клёцкі ў роце. Гродна.

Першы дзень госць — золато, другі — серабро, трэці — медзь, дадому едзь. Гродна.

П'е гарэлку, як шавец. Парэчча.

Піво — не пераліўкі. Солы.

Пілі б да елі б, ды нечаго. Свіслач.

Пільнуй себе і будзе з цебе. Сцяцкі.

Пі, сынок, пі, толькі не пахмяляйся. Гожа.

Плачце, вочы, хоць павылазце. Літвінкі.

Прыйдзе Рыгорка, будзё табе горка. Курпікі.

Прышый-прысцябай. Галавачы.

Поп людзей навучае, а сам бабу валяе. Караневічы.

Пра яго людзі як у бубен б'юць. Табала.

Прайшлі тыя часы, што поп еў каўбасы. Балічы.

Працуй, нябожа, тады і бог дапаможа. Хлістовічы.

Праца нікога ні крыўдзіць. Парэчча.

Прыйдзе мароз і на крапіву. Свіслач.

Прыйшоў Пятрок — адпаў лісток, прыйшоў Ілья — адпало два, прыйшоў Іспас — лето ад нас. Гожа.

Прапаў, як камень у воду. Віцькі.

Праўда наверх выйдзе. Кульбакі.

Праўды ні на голку няма. Карозічы.

Праўды на грош няма. Белева.

Праўда вочы коле. Кашэўнікі.

Праўда крыўдзе вочы пора. Лукавіца.

Праўда халодная, а мана цёплая. Гліняны.

Прыкусі язык. Хамуты.

Прымачы хлеб сабачы. Скраблякі.

Прыйшоў Спас — лето ад нас. Баранава.

Прышый кабылі хвост. Лойкі.

Прыяцелі прызнаюцца ў бядзе. Сапоцкін.

Прэ не ў свае духе. Баброўнікі.

Пусці свіню пад стол, та яна залезе і на стол. Дзекалавічы.

Пусціўся ў сабачую шкуру. Адэльск.

Пытаецца люты, ці добра абуты. Пагараны.

Рабі, нябожа, та і бог дапаможа. Мігова.

Рабіць на показкі. Чэхаўшчына.

Рабіць па канец рук. Караліно.

Рабіць абы з рук. Старая Руда.

Рабіць абы дзень да вечара. Парэчча.

Рабіць, як баран на трыбух. Карозічы.

Работа не воўк — у лес не пабяжыць. Перстунь.

Работы да самай суботы. Радзевічы.

Рад бы касіць, ды няма каму касу насіць. Яцвезь.

Радаваўся старац, што пражыў марац, а прышоў май — і паняслі ў гай. Старая Дубавая.

Раз радзіла маць, раз трэба і паміраць. Ласосна.

Ранак — панак. Перстунь.

Раней гнаў пан, а ціпер — план. Бакуны.

Ранняя птушачка зубкі калупае, а позная птушачка вочкі праціраe. Доргунь.

Расце на лес гледзячы. Кашэўнікі.

Расцэнкі, як гармонік, як хочаш, так і расцягай. Аульс.

Рыбка ў рацэ, а не ў руцэ. Сухая Даліна.

Рызыкант на ўвесь кант. Сабаляны.

Сабака брэша — вецер носіць. Радзевічы.

Сабакі не брахалі, а сало ўкралі. Жытародзь.

Сабака і на бога брэша. Пруды.

Сава не прывядзе сакала, а такога чорта, як і сама. Лойкі.

Сады садзі і ў маладосці, і ў старосці. Малахавічы.

Садзі там вішню, дзе зямля лішня. Салаўі.

Салаўя баснямі не кормяць. Караліно.

Сам не гам і каму не дам. Баранавічы.

Сані наладзіў, а каня няма. Гліняны.

Сваіх многа, а як прыдзецца жаніцца, няма за каго зачапіцца. Табала.

Сваё дзіця не кацянё, за плот не выкіняш. Адэльск.

Свайго злодзея не ўпільнуеш. Капцёўка.

Свайго кепскага не хвалі, а чужога добрага не гань. Копанькі.

Свату перша чарка і перша палка. Каўпакі.

Свая кашуля бліжэй цела. Скраблякі.

Свая хатка што родная матка. Баяры.

Свет не без добрых людзей. Гарны.

Свет вялікі, а дзецца няма куды. Караневічы.

Свіне не да парасят, калі яе смаляць. Цыдовічы.

Свіня пройдзе і то рохне, а чалавек не адазвецца. Свіслач.

Свістаў, пакуль дастаў, папасвішчаш, пакуль ззышчаш. Рацічы.

Свішчы, не свішчы, а салаўём не будзеш. Навумавічы.

Свой сваяка бачыць здаляка. Парэчча.

Свой у боку, а сусед — у воку. Караневічы.

Свой з сваім біся, кусайся, а чужы не мяшайся. Скрыннікі.

Сілаю не будзеш мілаю. Тумашы.

Скажы слова на пазногаць, а даложаць на локаць. Гліняны.

Сказаў як звязаў. Дубоўка.

Скаліць зубы. Табала.

Скрыпучае дзерава перастаіць і здаровае. Струбка.

Скупому два разы баліць. Грыўкі.

Сколькі вутка не мудрыць, а лебедзем не будзе. Казіміроўка.

Сколькі вяроўку не ві, а канец ёй будзе. Путрышкі.

Славіцца хата не вугламі, а пірагамі. Скідаль.

Служы пану верне, та ён табе перне. Ласосна.

Слухай другіх і свой розум май. Гліняны.

Слухай мяне, та бяда не міне. Свіслач.

Слова да слова — будзе мова. Грандзічы.

Слязьмі бядзе не паможаш. Старая Руда.

Смерць без прычыны не бывае. Шэмблеўцы.

Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — сена набярэцца. Малая Альшанка.

Спіць як пяньку прадаўшы. Гродна.

Спіць і ў вус не дуе. Каленікі.

Спіць як пшаніцу прадаўшы. Індура.

Сполка — гэта колка. Кавалічы.

Спрытны на прыказкі, як скура на прывязкі. Літвінкі.

Спрытны і да гулянячка і да рыканячка, а запражы ў саху, та ён возьмя ды ляжа. Грыўкі.

Стаіць пад фігурай, а чорт пад скурай. Іванаўцы.

Стало немцам не да юру — абы вынесці сваю шкуру. Гродна.

Стогне для мадэлі, каб людзі глядзелі. Хамякі.

Стары друг лепшы новых двух. Скідаль.

Старая міласць не ржавее. Клачкі.

Стралой камень не праб'еш. Пыра.

Страляў у сокала, а папаў у варону. Гліняны.

Сухі мажац, мокры квецень, а май халодны — будзе рок хлебародны. Парэчча.

Суша не высушыць, а мача — вымачыць. Дайлідкі.

Схапіў шаты-латы і дахаты. Лугавая.

Сцяражонага і бог сцеражэ. Квасоўка.

Сыты галоднаму не верыць. Дзекалавічы.

Сыты галоднаго не разумее. Гінавічы.

Сыты галоднаму не раўня. Рыдзелі

Сякі-такі целяпей і то будзе ляпей. Гібулічы.

Сяк-так, накасяк, абы не па-людску. Каўпакі.

Таварышы пазнаюцца ў бядзе. Гінавічы.

Тады будзе жаніцца, як быке будуць цяліцца. Сяцкі.

Такі свет настаў: ні палажы, ні пастаў. Гарны.

Там у іх печкі і лаўкі. Пракопавічы.

Там чорту выгода, дзе ў сям'е нязгода. Індура.

Тапелец і за брытву ўхопіцца. Парэчча.

Таўчэцца як Марко па пекле. Рагачы.

Твае дзеці — табе і глядзеці. Кавалічы.

Толькі тады ад зямлі пазнаць смак зможаш, калі гной паложыш. Эйсманты.

Трымаць хвост пісталетам. Кунцаўшчына.

Трэбо жыць як набяжыць. Путрышкі.

Трэпле языком, як сабака хвастом. Луцкаўляны.

Тут такі парадак, як у дурного ў торбе. Галаўнічы.

Ты пражыла сем год у свёкра і не ведаеш, што сука без хваста. Рудавіцы.

Ты яму белае, а ён — чорнае. Абухава.

У адным месцы густа, а ў другім — пуста. Саволеўка.

У адзін дзень — дзесяць перамен. Прывалка.

У бальніцы і сцены лечаць. Гродна.

У бутылку заглядаць. Рыдзелі.

У ваці — сядзі ў хаці. Кульбакі.

У вочы лісам, а за вочы ваўком. Скідаль.

У галоты найбольш работы. Старая Руда.

У гасцях добра, а дома яшчэ ляпей. Баброўнікі.

У дрыжыкі кідае. Лаша.

Узяў кабылу на сваю галаву. Баранава.

У каго дочак сем — і доля ўсем, а ў каго адна — і доля жадна. Парэчча.

У каго есць матка, у таго і галоўка гладка. Караліно.

У кожнага зубы белыя. Пушкары.

Укралі — і сабакі не брахалі. Прыгодзічы.

Укусіў бы сябе за локаць, ды не дастанеш. Чэхаўшчына.

У каго матка, у таго і галоўка гладка. Скраблякі.

У людзей пытай, ды свой розум май. Парэчча.

Улез у нерат — ні ўзад ні ўперад. Новая Руда.

У марцы як у гарцы. Дзекалавічы.

У марцы як у гарцы: уноч пячэ, а ўдзень цячэ. Пышкі.

У міру як на вялікім піру: хто скача, а хто і плача. Гродна.

У нас заўсёды так, калі есці — ложак брак. Галаўнічы.

Уначы трашчыць, а ўдзень плюшчыць. Белева.

У Нясвіжы людзі хіжы, салому таўкуць, бліны пякуць, сена смажаць, бліны мажуць. Гродна.

Упопярак дарогі стаяць. Дзекалавічы.

У папа рукавы шырокія, іх ніколі поўных не насыплеш, людзі сыпалі і саракоўкі і рублі і не насыпалі. Гродна.

У полі набярэцца, дома нажарэцца і усё мало — крычыць. Жукевічы.

У раду як у мяду. Саломекка.

Усадзіў бог душу ні ў пень ні ў грушу. Лугавая.

У свіні рыло, каб рыла. Пыра.

Устаў у свіныя галасы. Цвіклічы.

Устаў, яшчэ чэрці на кулачкі не зыходзіліся. Кукцаўшчына.

У суботу — на работу, у нядзелю — на вяселле. Завадзічы.

Усе чэрці адной шэрсці. Гожа.

Усе дабры бабры, адны выдры ліхі. Азёры..

Усе бабры дабры, адна выдра кепска. Баброўня.

Усе словы вы казаў, нават матаў не хватае. Лікоўка.

Усё забыто, што зямлёю прыкрыто. Малая Аяьшанка.

Усё забыто, што ў землю зарыто. Кунцаўшчыка.

Усе за аднаго, адзін бог за ўсіх. Гродна.

Усё прайшоў: трубы і чортавы зубы. Батароўка.

У страха вочы вялікія. Лугавая.

Усюды добра, а дома ляпей. Грыўкі.

Усяго смашнаго не параясі і харошаго не пераходзіш. Панямунь

У труну грошай не кладуць. Азёры.

У хаце ўсероўна як у загаце. Свіслач.

У цябе стан, як у бабы, рукі, ногі, як у жабы. Грынёўка.

Учора гулі, дзісяй — гулі, будзем хадзіць без кашулі. Квасоўка.

У чужую душу не ўлезеш. Баброўнікі.

У чужыя коледы не мяшайся. Караневічы.

Учапіўся як смала да кала. Жытаўшчына.

У чым у касцелі, у тым і ў пасцелі. Адамавічы.

У яго на вярбе грушы растуць. Грыўкі.

У яго жаба на языку не спячэцца. Круглікі.

У яго толку ні на голку. Гарны.

Фашысты высока масціліся, ды нізко зваліліся. Малахавічы.

Хай той бык здохне, якога каровы боруць. Пагаракы,

Хай бог дае, як сам знае. Занявічы.

Хлеб да сыра не прымочка. Зарубічы.

Хлеб не нявеста, які ўдасца, такі і з'есца. Карозічы.

Хлопец хоць вады напіса. Ніжнія Пагараны.

Ходзіць ходырам. Зарубічы.

Холад малайцу не перашкода. Баранава.

Хоць бокам каціся. Кавалічы.

Хоць боса хаджу, але з перцам ем. Азёры.

Хоць бы каза бела, абы пасаг мела. Грандзічы.

Хоць будзь ты найлепшы плавук, а не вырабішся з маіх рук. Панямунь.

Хоць гаць гаці. Ланявічы.

Хоць да раны прыкладай. Бяляны.

Хоць з ветрам пусці. Селюкі.

Хоць за вала, абы дома не была. Зарачанка.

Хоць малая, але дарагая. Асташа.

Хоць не ўежна, але ўлежна. Свіслач.

Хоць сакерку на нос вешай. Кунцаўшчына.

Хоць стары, але яры. Каробчыцы.

Хоць у мора, а за табой — тваё гора. Адэльск.

Хоць у вір галавою, а бяда за табою. Баброўня.

Хто высока заглядае, той нізко сядае. Гліняны.

Хто вясной скача, той зімою плача. Абуховічы.

Хто дарогу прастуе, той дома не начуе. Парэчча.

Хто без навукі — той як бязрукі. Грандзічы.

Хто больш крадзе, той больш і моліцца. Казіміроўка.

Хто дзіцей сваіх у працы шкадуе, той сабе вяроўкі рыхтуе. Каўпакі.

Хто дарогу пытае, той не блукае. Сапоцкін.

Хто каго любіць, той таго і чубіць. Навасёлкі.

Хто коньмі гандлюе, у таго хамут пустуе. Кульбакі.

Хто мову і веру мяняў, той не толькі сябе, а і матку родну прадаў. Гродна.

Хто мову мяняў, той родную маці прадаў. Прывалка.

Хто многа абяцае, той слова стрымае. Ферма.

Хто поле троіць, той хлеб кроіць. Агароднікі.

Хто пытае, той не блудзіць. Асочнікі.

Хто працуе, той і мае. Барбарычы.

Хто сам сябе хваліць, няхай у таго пярун смаліць. Аленічы.

Хто хутка есць, той хутка і робіць. Яцвезь.

Хто хлусіць, той у пекло ісці мусіць. Пракопавічы.

Хто хлеб з сабою носіць, той есці не просіць. Багушоўка.

Хто чужых жонак любіць, той сябе губіць. Бандары.

Цікавы, як Марцін да кавы. Хліставічы.

Цікавай Барбары нос адарвалі. Эйсманты.

Ці п'яны, ці дурны — адно і тое. Грандзічы.

Ці ты з Турэччыны, ці ты з Нямеччыны, ці ты з Навагрудчыны. Свіслач.

Ці што робіць, ці што не — бутэлячка ў кішане. Пагараны.

Цяпло як у вуху. Круглікі.

Чалавек, вядома, бывалы, прайшоў трубы і чортавы зубы. Батароўка.

Чакайце аладак, зяць паехаў пшаніцу сеяць. Сухая Даліна.

Чаму ў маладосці навучыўся, тое на старасць як знайшоў. Рацічы.

Чорт не бярэ і богу не патрэбны. Балічы.

Чорт сем пар лапцяў падраў, пакуль пару да пары дабраў. Рацічы.

Чужога не гань і свайго не хвалі. Галабачы.

Чужой працай сыты не будзеш. Батароўка.

Чужым розумам не пражывеш. Парэчча.

Чужая сям'я — цёмны лес. Кругляны.

Чулі звон, ды не ведаюць, дзе ён. Свіслач.

Чужую бяду і пальцам развяду. Сухмяні.

Чые ва'ды відзіш пад лесам, а сваіх не бачыш пад носам. Адэльск.

Чыя рака, таго і рыба. Грандзічы.

Чым за морам віно піць, лепш з Нёмна вадзіцу. Гродна.

Шавец у дзіравых ботах ходзіць. Індура.

Шкада кідаць і горка есці. Дубоўка.

Шлюб пад плотам, а вяселе потым. Вялікая Альшанка.

Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе. Ланявічы.

Што зарабіў, тое і сцерабіў. Кадыш.

Што каму на ўме, той тое і дзяўбе. Іванаўцы.

Што край, то абычай. Лікоўка.

Што па той чэсці, калі няма чаго есці. Александрова.

Што старана, то і навіна. Арэхавічы.

Што сам не з'ясі, тое на рынак нясі. Гібулічы.

Што ў цвярозага на ўме, тое ў п'янага на языку. Караневічы.

Што ў цвярозага на ўме, тое ў п'янага на губе. Пагараны.

Шылам кашу есці. Лакно.

Шыла ў мяшку не ўтоіш. Астравок.

Шыла ў мяшку не ўтоіш, ката ў гаршку не схаваеш. Няцечы.

Юр'я пасе кароў, а Мікола коней. Лаша.

Юр'я сказаў: жыто ўраджу, а Мікалай: пачакай, пагляджу. Лаша.

Юр'ява раса — не трэба гаўса. Квасоўка.

Яблыко ад яблыні далёка не падая. Адамавічы.

Яблыку няма дзе ўпасці. Абуховічы.

Я гэту бяду пальцам развяду. Славічы.

Язык без косці, што хоча, тое і хвосці. Радзевічы.

Язык і да Кіева давядзе. Скідаль.

Як асінка затрасецца, тады волік напасецца. Азёры.

Як баба захоча, та і мёртвы зарагоча. Каўпакі.

Як будзе воўк шчэнем і брахне на пень, тады будзе гэты дзень. Свіслач.

Як вадой плывуць грошы. Барбарычы.

Як вокам акінуць. Сахзавод.

Як вутка не мудрыць, а лебедзем не будзя. Лакно.

Як гарохам аб сценку. Трычы.

Якая птушка, такі і галасок. Гліняны.

Якая рука, такая і рукавіца. Гліняны.

Як дбаеш, так і маеш. Старая Дубавая.

Як дасі дзецям волю, сам пападзеш у няволю. Грыўкі.

Як да жніва, та ледво жыва, а як да танцу, та «Мой каханцу». Азёры.

Як есць, так і родзіць. Лаша.

Як з казла малака. Стрэльчыкі.

Як з раніцы, так і да вечара. Грандзічы.

Як з яйца, так і да канца. Дзекалавічы.

Як зарупіць, так і вочы пралупіць. Кунцаўшчына.

Як за багатым, так кожны з хаты, як за бедняком, та толькі дзяк з папом. Дзекалавічы.

Як зэгер. Кунцаўшчына.

Як звон. Пагараны.

Якія самы, такія і сані. Струбка.

Які ставок, такі млын, які ойцец, такі сын. Ніжнія Пагараны.

Як костка не мясо, так швагер не фамілія. Верцялішкі.

Як кум не сваяк, так сыр не закуска. Лаша.

Як кум не сваяк, так сыр да хлеба не прымачка. Зарубічы.

Як куму не выдусіш, та на тым свеце мусіш. Адэльск.

Як клічуць, так і адгукаюцца. Пыра.

Як лес няроўны, так і людзі. Бросты.

Як мукі сцячэ, та і свінка хлеб спячэ. Бубны.

Як мукі скрыня, та і свінка гаспадыня. Зарыца.

Як Мікола па лёдзе, та коляды па водзе. Кунцаўшчына.

Як мокрае гарыць. Сцяцкі.

Як не будзя вода, та будзе пагода. Свіслач.

Як ні рабі, а ўсім добрым не будзеш. Скраблякі.

Як ні кінь, та ўсё клін. Вішнявец.

Як ні круці, усераўно мусіш умярці. Вусенікі.

Як не еў, та не мог, а як паеў, та ні рук, ні ног. Лаша.

Як прадаў кароўку, аддай і вяроўку. Лікоўка.

Як пастараўса, так і маеш. Скраблякі.

Як пасцелеш, так і выспішса. Цвіклічы.

Як плакаў, бог аднакаў, як стаў скакаць, стаў бог даваць. Адэльск.

Як прыдзе бяда, та не палезя ў рот і яда. Кавалічы.

Як пячонка не мясо, так швагер не фамілія. Лаша.

Як па малаку — па два валаку, а па вадзе — ўзяў адну і годзі. Батароўка.

Як пойдзе на ліхо, та бог розум адыме. Дарашэвічы.

Як сыр у масле купаецца. Сапоцкін.

Як сама лахудра, не паможа і пудра. Адэльск.

Як сват у хату, та сваха за яйца. Лікоўка.

Як стане на палено, та свіні па калено. Карозічы.

Як стане на лапух, та табе па трыбух. Карозічы.

Як сем год міне, та і пад лаўкай засне. Малая Жорнаўка.

Як свет светам стаў, та поп не свістаў, а цяпер і поп свішча. Балічы.

Як ты мне, так і я табе. Круглікі.

Як топішса, та і за брытву ўхопішса. Ласосна.

Як ты да людзей, так і людзі да цябе. Гродна.

Як топішся, та і за саломку ўхопішся. Парэчча.

Як у студзені сакавік, та ў сакавіку будзе студзень. Гродна.

Як цябе вялі, а мне грошы далі. Свіслач.

Як языком злізала. Малая Альшанка.

Якая работа, такая і плата. Скрыннікі.

Якое дрэво, такі клін, які бацька, такі сын. Талочкі.

Якое жарабя ўродзіцца, такім і здохне. Кавалічы.

Якое гняздзечко, такое і яечко. Яцьвезь.

Якія самі, такія і сані. Коматава.

Яму, відаць, адной клепкі не дастае. Рагачы.

Яму хоць кол на галаве чашы. Караневічы.

Ямо хлеб траякі: белы, чорны і ніякі. Пагараны.

Я не сонцо, усіх не абагрэю. Скідаль.

Я чужую бяду пальцам развяду. Славічы.

Яшчэ жарабя ў мяшку, а гобруць на яго шыюць. Рудавіцы.

Яшчэ рыба не ў руцэ, а ў рацэ. Луцкаўляны.

# ГІДРОНІМЫ І ТАПОНІМЫ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНУ

**Абу'хава** — вёска ў Абухаўскім с/савеце.

**Абру'б** (абруп) м. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Казіміроўка ў Путрышкаўскім сельсавеце. Ад абрубіць, адмераць, адвесці кавалак зямлі.

**Абрэ'мшчына** ж. Былое памесце, фальварак на поўдзень ад вёскі Каленікі ў Квасоўскім сельсавеце. Сюды часта заязджала да свае сяброўкі Марысі Абрэмскай польская пісьменніца Эліза Ажэшка.

**Агаро'днікі** мн. Вёска ў Квасоўскім сельсавеце над ручаём

**Чартарыя.** Відаць, ад імя сацыяльнай групы збяднелых сялян -агароднікаў, якія склаліся ў ХУІ ст. Агароднікі ў тыя часы атрымоўвалі, дробныя надзелы зямлі, былі прыпісаны да работ ў маёнтку.

**Ада'лькаўшчына** ж. Урочышча, на захад ад вёскі Круглікі ў Індурскім сельсавеце, былы маёнтак Пачабутаў, сваякоў вядомага вучонага, гуманіста, астранома і асветніка Марціна Пачабута -Адляніцкага. Назва, відаць, ад прозвішча ўладальніка маёнтка — Адалько, Адляніцкі.

**Агі'ншчына** ж. Урочышча, былы палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Путрышкі ў Путрышкаўскім сельсавеце. Ад прозвішча ўладальніка гэтай зямлі — Агінскага.

**Адля'нскае** балота н. Сенажаць над рэчкай Одлай, на поўдзень ад вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце.

**Адэ'льск** м. Вёска, цэнтр Адэльскага сельсавета, былы заштатны горад Адэльск (дакументы называюць яго ў 1551 годзе). У Адэльску 14 студзеня 1863 года была створана і дзейнічала спецыяльная следчая камісія па барацьбе з паўстанцамі Кастуся Каліноўскага, для выяўлення асоб, якія распаўсюджвалі газету «Мужыцкая праўда». На чале камісіі стаяў генерал Абрамовіч.

**Азяры'шча** Сала'цкае, Салацкае азярышча — урочышча, упадзіна, дно вялікага возера, якое сплыло ў 1841 годзе.

**Аліза'рава** н. Алізарава, палетак ворнай зямлі недалёка ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце. У аснове назвы — прозвішча Алізар.

**Але'шнік** м. Урочышча, выган побач з вёскай Жукевічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Алу'дзі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Але'нічы** мн. Вёска ў Верцялішкаўскім сельсавеце, былая аколіца.

**Альша'нка** ж. Невялікі ручай каля вёсак Малая і Вялікая Альшанкі ў Каробчыцкім сельсавеце. Альшанка некалі рэчкай была.

**Альшына'** крынічная ж. Альшына каля крыніц, урочышча побач вёскі Пад'ятлы ў Баранавіцкім сельсавеце, балоцістае месца з мноствам крыніц, парослае альшыной.

**Аса'ды** мн. Пасёлак пасяленцаў — каланістаў на лашанскіх землях з польскіх добраахвотнікаў, якія бралі актыўны ўдзел у 20-м годзе ХХ ст. ў вайне супраць Чырвонай Арміі.

**Арэ'хавічы** мн. Хутар, былая ваколіца ў Азёрскім сельсавеце.

**Асако'ва** гара ж. Урочышча, узвышша на захад ад вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Асенячко'ва** поле н. Урочышча недалёка ад вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Асімке'** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі, які належаў сялянам вёскі Баранава недалёка ад вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Асо'вы** груд (грут) м. Урочышча, сенажаць на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Асьмі'нкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Атво'й** м. Самае глыбокае месца ў рацэ Свіслач побач з палацам графіні Красінскай.

**Аўгусто'ўскі** канал м. Канал, які злучае

Нёман з прытокам ракі Віслы, пракапаны ў 1824–1830 гадах, даўжыня яго 97,4 км. Назва ад горада Аўгустова.

**Аўгусто'вак** м. Урочышча, заходняя частка горада Гродна, на ўсход ад урочышча Фолюш, былы маёнтак пана Маўрыца О'Брыен дэ Ласі. Ад прозвішча былога польскага караля Станіслава Аўгуста, які з 1795 года жыў у Гродне, часта сюды заязджаў.

**Ау'льс** м. Чыгуначная станцыя ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Ахры'маўцы** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце. Ад імя Ахрым. Насельніцтва Ахрымаўцаў займалася ганчарнымі вырабамі.

**Ба'біна** гара' ж. Урочышча, узвышша на захад ад вёскі Лэйгабалі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Бабро'ўнікі** мн, Вёска ў Індурскім сельсавеце. Група былых феадальна-залежных сялян у былым Вялікім княстве Літоўскім (14–18 ст.), галоўным заняткам якіх было паляванне на баброў, здабыча футра, мяса і бабровага струменю.

**Бабро'ўня** ж. Вёска ў Скідальскім сельсавеце, да 1905 года — урочышча Баброўня. Занятак жыхароў гэтай вёсачкі такі, як і ў вёсцы Баброўнікі, — паляванне на баброў. Радзіма старэйшага паэта Заходняй Беларусі Міхася Васілька.

**Багушо'ўка** ж. Вёска ў Гожскім сельсавеце. Назва — ад прозвішча Богуш.

**База'рніца** ж. Урочышча, узвышша на поўдзень ад вёскі Пад'ятлы ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Байго'дава** гара' ж. Урочышча, адна з вяршыняў Магілянскіх гор, што ў Бераставіцкім раёне

**Бакуны'** мн. Вёска ў Каробчыцкім сельсавеце. У вёсцы Бакуны было 15 участкаў зямлі, надзел па 24 дзісяціны. Зямля пясчаная з каменямі.

**Баламу'таў** вятра'к м. Вятраны млын, які стаяў на ўзвышшы за вёскай Малыя Кавалічы ў Індурскім сельсавеце да 1920 года, належаў Баламуту.

**Балі'чы** мн. Вёска над ракой Свіслаччу ў Індурскім сельсавеце. Радзіма першага Наркома асветы Беларусі Баліцкага Антона Васільевіча.

**Бало'та** канчатко'ва н. Урочышча, сенажаць каля вёскі Канчатка ў Азёрскім сельсавеце.

**Бало'цячкі** мн. Урочышча, сенажаць недалёка ад вёскі Навасёлкі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Бало'цячкі** мн. Сенажаць на поўдзень ад вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце.

**Бандары'** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце. Ад заняткаў жыхароў, што займаліся бандарствам (выраблялі балеі, цабэркі, дзежкі, бойкі, кваскі, бочкі, даёнкі, конаўкі, стаўніцы для захоўвання збожжа, кублы для адзежы).

**Бара'нава** н. Вёска ў Квасоўскім сельсавеце. Сяляне гэтай вёскі выступалі супраць камасацыі. Сярод барацьбітоў супраць польскіх акупантаў былі Косця і Арсень Бараноўскія, Міхаіл Шулейка, Косця Говар, Нарэйка і іншыя.

**Баркі'** мн. Урочышча, лес на ўсход ад вёскі Лешчыцы ў Скідальскім сельсавеце.

**Барыса'ўскі** бераг м. Урочышча, стромы бераг над ракой Свіслаччу побач з вёскай Балічы ў Індурскім сельсавеце.

**Бастру'ча** гара'. Урочышча, узвышша каля вёскі Васілевічы у Васілевіцкім сельсавеце. Тут некалі хавалі няшлюбных дзяцей -«баструкоў".

**Батра'ччына** ж. Урочышча на ўсход ад вёскі Кавалічы ў Індурскім сельсавеце, на захад ад вёскі Лаша. На Батраччыні зямля была батракоў, сена у іх зусім не было. Кавалічы

**Батра'цкія** мо'гілкі мн. Старыя могілкі на ўсход ад урочышча Аўгустовак, побач з каплічкай ампіровай з XIX ст., сямейнага маўзалея 0'Брыен дэ Ласі ў Аўгустоўку.

**Батра'цкае** н. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце (для батракоў — малазямельных сялян).

**Бая'ры** мн. Вёскі ў Верцялішкаўскім і Індурскім сельсаветах. Ад назвы невялікай сацыяльнай групы дробных землеўладальнікаў — баяр, служылых людзей, вядомых на Беларусі з XIУ ст. Спачатку баяры былі старшынамі, ста-

рэйшымі ў дружынах князя, пазней яны неслі службу па ахове граніц, перавозу пошты.

**Бая'ры** мн. Два дамы ў пачатку вёскі Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце, жыхары якіх у мінулым развозілі суконныя вырабы з тутэйшай мануфактуры ўласніка Галера на продаж у Вільню і іншыя гарады. Баяры тут жылі, ашчэ і ціпер жыве адна баба, яе Уляй Баярскай празываюць, таму што яна з тых баяр. Сухая Даліна.

**Беразнякі'** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Парэчча ў Парэцкім сельсавеце

**Бе'льская** гара' ж. Адна з вяршыняў Магілянскіх гор недалёка ад вёскі Канюхі ў Бераставіцкім раёне. Бельска гара бо проціў Бельскаго поля, яе з Індуры добро відаць. Індура.

**Бе'лева** н. Вёска ў Індурскім сельсавеце, раней называлася. Былёва.

**Бярозавы** пале'так м. Урочышча, палетак ворнай зямлі, каля вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Блех** м. Урочышча, выган сарвітутны сялян з вёскі Ліцвінкі ў Квасоўскім сельсавеце на поўдзень ад вёскі, над ракой Свіслаччу (плошча ў 12 га, з якіх 8 га належала пану і толькі 4 га сялянам).

**Бо'лы** мн. Урочышча, сенажаць на захад ад вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце. Болы — гэта балото, топленіца. З Болаў выцякае Горніцкая рэчка. Капцёўка.

**Бо'рак** м. Урочышча, невялікі лясок на ўсход ад вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце.

**Бо'ркі** мн. Урочышча, сенажаць на захад ад вёскі Калбасіна Каробчыцкім сельсавеце.

**Бо'р** м. Урочышча, лес каля вёскі Пышкі у Баранавіцкім сельсавеце.

**Бор** м. Урочышча, лес сасновы на поўдзень ад вёскі Казіміроўка ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Бо'чкаўнішкі** мн. Урочышча, лес на поўнач ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Бра'кава** н. Урочышча, лес на поўдзень ад вёскі Свіслач у Квасоўскім сельсавеце.

**Бру'ке** мн. Урочышча на поўдзень ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Брузгі'** мн. Вёска ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Брыбу'ляўшчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі недалёка ад вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце.

**Бу'бавіца** ж. Урочышча, узвышша на захад ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Бубны'** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце.

**Буві'шкі** мн. Урочышча, сенажаць на ўсход ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Бу'днікаў** вятра'к м. Вятраны млын, які стаяў на ўзвышшы на паўднёвы ўсход ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце. Належаў селяніну Будніку.

**Бу'ракаў** бе'раг м. Урочышча, сенажаць над рэчкай Свіслаччу, каля вёскі Балічы ў Індурскім сельсавеце.

**Бу'рдаў** роў. Урочышча, вялікі роў зарослы лазняком, каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Бурла'цкае** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце.

**Бу'ртачкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі побач былой ваколіцы Занявічы ў Індурскім сельсавеце.

**Бу'халаўшчына** ж. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі

**Путрышкі** ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Бучы'на** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі над Нёманам побач з вёскай Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Быко'ўшчына** ж. Урочышча, выган каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Бэ'касаў** луг м. Урочышча, луг на ўсход ад вёскі Зарубічы ў Капцёўскім сельсавеце, побач могілак.

**Бэ'вараў** луг. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце.

**Бэ'ркі** мн. Урочышча, выган і хутар на ім на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Бярве'нка** ж. Невялічкі левы прыток рэчкі Пыранкі (басейн Котры), у Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Бяро'зава** гара ж. Урочышча, узвышша

на ўсход ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Бяло'кава** гара ж. Урочышча, узвышша каля вёскі Лэйгабалі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Вадаты'нец** м. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Каханова (Прыгодзічы) у Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Вае'нныя** могілкі м. Старыя могілкі з часоў першай імперыялістычнай вайны, на ўсход ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце, на іх пахаваныя рускія і нямецкія салдаты.

**Вайтаўско'е** н. Урочышча, балота, сенажаць над ракой Свіслаччу побач вадзяного млына Вайтаўшчына ў Індурскім сельсавеце.

**Валавічо'ўцы** мн. Вёска ў Гінавіцкім сельсавеце над рэчкай Чорная Ганча.

**Ваню'чка** ж. Невялікі прыток ракі Індуркі (басейн Свіслачы) у Індурскім сельсавеце.

**Васарабы'** мн. Вёска ў Лойкаўскім сельсавеце.

**Васігё'ры** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад г. п. Сапоцкін.

**Ваўкаўня'** ж. Урочышча на ўсход ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Ваўкаўня'** ж. Урочышча, узвышша каля вёскі Саннікі ў Баранавіцкім сельсавеце. На Ваўкаўне некалі ваўкоў лавілі, прывяжуць парася за ногу, штурхаюць, яно пішчыць, так ваўке і ідуць. Саннікі.

**Ваўкаўня'** ж. Урочышча на ўсход ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце, яр, праз які праходзіла дарога (тут часта бачылі ваўкоў).

**Вежа'** ж. Урочышча, высокае узвышша на ўсход ад г. п. Сапоцкін.

**Ве'лько** по'ле н. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Ве'шанка** ж. Урочышча, вялікі роў, яр каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім

**сельсавеце,** над Нёманам, у якім пасля падаўлення паўстання 1863 года вешалі паўстанцаў.

**Вераске'** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі недалёка вёскі Селюкі ў Абухаўскім сельсавеце.

**Вербало'таўка** ж. Невялікая рэчачка, якая бярэ пачатак з балота каля вёскі Казіміроўка ў Путрышкаўскім сельсавеце, працякае каля вёсак Багушоўка, Гожа і ўпадае ў рэчку Гажанку (басейн Нёмана).

**Верхаво'дзішкі** мн. Урочышча, сенажаць над рэчкай Ласасянкай у Баранавіцкім сельсавец е. Належала сялянам в. Копанькі.

**Ві'лы** мн. Урочышча, развілкі чыгуначнай дарогі каля вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Вір** м. Самае глыбокае месца на рацэ Свіслачы супроць вёскі Занявічы ў Індурскім сельсавеце.

**Віхно'ўшчына** ж. Урочышча, лес на поўдзень ад вёскі Свіслач ў Квасоўскім сельсавеце. Назва ад уласніка лесу — Віхноўскага.

**Віхно'ўскія** равэ' мн. Доўгі яр над ракой Свіслаччу на поўнач ад вёскі Сцяцкі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Віцько'ўскі** роў. Доўгі, глыбокі яр каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Во'йкуцішкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Вор** м. Урочышча, невялікі лес на поўдзень ад вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Вы'крут** м. Невялікае возера недалёка ад вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Вы'цераб** (выцярап) м. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Вяліка'е** поле н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Казіміроўка ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Вярці'мы** мн. Урочышча каля вёскі Струбка ў Каробчыцкім сельсавеце, на поўдзень ад вёскі Бакуны, дзе некалі стаяла карчма.

**Вятра'к** Панчынскага м. Вятрак, які стаяў на ўзвышшы на поўнач ад вёскі Падліпкі ў Адэльскім сельсавеце, уласнасць Пан-чынскага.

**Вятра'к** Пытлевіча м. Ветравы млын, які стаяў на поўдзень ад вёскі Луцкаўляны ў Індурскім сельсавеце на узвышшы, уласнікам яго быў Пытлевіч.

**Вярэ'йкава** гара. Урочышча, лес на

захад ад вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце. Ад прозвішча селяніна — Вярэйка.

**Габіна'** ж. Урочышча, невялікі лес каля вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце. Ад назвы пароды дрэва — габ «бераст».

**Гажа'нка** ж. Прыток ракі Нёмана, цячэ праз вёску Гожу ў Гожскім сельсавеце.

**Го'жа** ж. Вёска ў Гожскім сельсавеце, раней называлася Ожа.

**Галы'нка** ж. Вёска ў Сапоцкінскім пасялковым савеце.

**Ганча'рушкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі з пясчанай камяністай глебай, на поўнач ад вёскі Белева ў Індурскім сельсавеце, на поўдзень ад вёскі Лаша.

**Гарабе'й** м. Урочышча над ракой Свіслаччу, каля вёскі Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце, некалі тут стаяла цагельня, уласнікам яе быў селянін па мянушцы «Гарабей».

**Гарадні'ца** ж. Урочышча, паўднёва-ўсходняя частка горада Гродна, рэчышча ракі Гараднічанкі, правага прытоку Нёмана.

**Гарадзі'шча** н. Урочышча на рацэ Одле каля вёскі Адэльск у Адэльскім, сельсавеце, месца ў рэчышчы, дзе многа крыніц.

**Гарадзі'шча** ж. Пляцоўка 16–18 метраў, умацаваная двума валамі і ровам. Каля вёскі Індуры ў Індурскім сельсавеце з магутнымі абарончымі збудаваннямі над ракой Індуркай. Пры раскопках знойдзены кераміка з славянскім арнаментам, жалезныя і касцяныя прылады працы і зброя, косці свойскіх і дзікіх жывёлаў, зярняты. Гарадзішча адносіцца да 11–13 ст. і было, мабыць, сялібай феадала. Выяўленыя рэчы вельмі блізкія да знаходак 11–13 ст. у Гродне. Там, дзе Гарадзішча, кажуць, горад быў, праваліўса пад землю. Пры паляках Гарадзішча чамусьці называлі «Гурай крулёвы Боны». Індура.

**Гарадзі'шча** ж. Урочышча на ўсход ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Гардзі'шкі** мн. Урочышча, лес (невялікі) на паўночны ўсход ад гарадскога пасёлка Сапоцкін.

**Гаро'дчыкі** (гароччыкі) мн. Агародчыкі перад хатамі ў вёсцы Канчатка ў Азёрскім сельсавеце над возерам Кань.

**Гарніча'нка** ж. Левы прыток ракі Нёмана, выцякае з балоцечка за вёскай Капцёўкай у Капцёўскім сельсавеце, працякае праз вёску Капцёўку, каля вёскі Горніца, Жукевічы і за вёскай Ка-вальцы ўпадае ў Нёман. Рэчка Гарнічанка ў асобных ме'сцах летам перасыхае.

**Гарэ'лы** луг м. Урочышча каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Гаць** ж. Стаў на рацэ Свіслачы каля вёскі Балічы ў Індурскім сельсавеце ва ўрочышчы Вайтаўшчына.

**Гэ'йшышкі** мн. Урочышча, лес, праз які цячэ рэчка Гэйшышкі каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Гэ'йшышкі** мн. Невялікі прыток ракі Ласасянкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Гядо'ва** шы'йка. Урочышча, сенажаць каля вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце. Ад прозвішча Геда.

**Гядо'вы** лужок м. Выган каля вёскі Адэльск ў Адэльскім сельсавеце. Ад прозвішча Геда.

**Гядо'ва** гара'. ж. Урочышча, узвышша каля вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце. На Гядовай гарэ вятрак стаяў, ён і сам, Геда, там жыў. Адэльск.

**Гібу'лічы** мн. Вёска на поўдзень ад Гродна ў Капцёўскім сельсавеце. Ад прозвішча першага пасяленца гэтых месц — Гібулы.

**Гі'нцярава** н. Урочышча, мокры луг недалёка ад вёскі Пяслі ў Адэльскім сельсавеце над рэчкай, якая называлася Лашанкай. Ад прозвішча Гінцяр.

**Гігяню'шкі** мн. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Глі'нішча** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Гліня'ны** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце. Вёска славілася сваімі ганчарнымі вырабамі, асабліва з чорнай

гліны. У Глінянах і цагельня была, рабілі цэглу. Гліняны.

**Гірэ'лі** мн. Урочышча, выган каля вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Глушы'ца** ж. Старое рэчышча ракі Свіслач на поўнач ад урочышча Дзерачынак у Квасоўскім сельсавеце.

**Глыбіна'** ж. Самае глыбокае месца ў рэчцы Лашанцы каля вёскі Пяслі ў Адэльскім сельсавеце.

**Глыбо'ка** Далі'на ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Глыбо'кія** я'мы. Віры на рацэ Свіслачы каля вёскі Занявічы ў Індурскім сельсавеце.

**Го'га** м. ж. Парогі на рацэ Нёмане на поўнач ад Гродна, за Мелавымі гарамі, на якіх разбіваліся плыты плытагонаў.

**Го'жка** (гошка) ж. Урочышча, месца, дзе была сядзіба былога маёнтка пана Кандрата Прушынскага, на поўдзень ад вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце.

**Го'ры** мн. Урочышча, лес каля вёскі Каўпакі побач Каўпацкай школы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Го'страва** н.. Вострава — урочышча, палетак ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Го'стра** гара' ж. Вострая гара — узвышша каля вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Го'страва** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Бакуны ў Каробчыцкім сельсавеце, каля 5-га Фарта, урочышча.

**Грабо'ва** гара'. Узвышша недалёка вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце. Грабова гара, бо грабоў много было.

**Грэ'мзы** мн. Урочышча, сенажаць на ўсход ад вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце.

**Гра'ндзічы** мн. Вёска на поўнач ад Гродна, цэнтр Грандзіцкага сельсавета. У Грандзічах у жніўні 1862 года была знойдзена газета «Мужыцкая праўда» (2-і нумар). Распаўсюджваў яе жыхар гэтай вёскі Антон Яроцкі.

**Груд** высо'кі м. Урочышча на поўнач ад вёскі Свіслач у Квасоўскім сельсавеце (недалёка ад урочышча Борак), насыпанае штучна ўзвышша, дзе пахаваныя шведскія палкаводцы.

**Грымя'чка** ж. Крыніца, з якой выцякае невялікі ручай і ўпадае ў Нёман каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Грыўкі'** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце на ўсход ад вёскі Капцёўка. Назва ад першага перасяленца ў гэтых месцах Грыўка.

**Гумні'шачкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Гу'рная** Сві'слач ж. Урочышча на ўсход ад вёскі Сухая Даліна, каля вёскі Ліцвінкі ў Квасоўскім сельсавеце, былы маёнтак паноў Пуслоўскіх, пазней — Красінскай.

**Гу'шчыцы** мн. Вёска на поўнач ад Скідаля над рэчкай Котрай, дзе захаваліся старыя абарончыя валы з часоў шведскай вайны і акопы.

**Добраво'льшчына** ж. Урочышча на поўдзень ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце, каля вёскі Скамарошкі.

**Дада'так** м. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце, недалёка ад вёскі Грандзічы.

**Дайлі'дкі** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце.

**Дварцы'** мн. Урочышча, хутар у Вертялішкаўскім сельсавеце.

**Дво'рышча** ж. Урочышча на захад ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Дво'рышча** н. Урочышча, сенажаць на поўнач ад вёскі Занявічы, над ракой Свіслаччу ў Індурскім сельсавеце.

**Дзі'нтава** возера н. Невялікае возера каля вёскі Ліхачы ў Парэцкім сельсавеце.

**Дзіра'** ж. Урочышча, пляцоўка каля Каўпацкай школы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Дзяркаўшчы'на** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце, з мноствам крыніц і каменяў.

**Дзяўгу'ты** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Копанькі ў Кароб-

чыцкім сельсавеце.

**До'мшышкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля Адэльска ў Адэльскім сельсавеце.

**До'ўжыца ж** Невялікі прыток рэчкі Спужанкі (басейн ракі Котра) каля г. п. Скідаля ў Скідальскім сельсавеце.

**Дрыгво'** н. Урочышча, мокрае месца, дрыгва на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Дуб-возера** (дуб-возяро) н Невялікае возера каля вёскі Запур'е ў Парэцкім сельсавеце.

**Ду'бішча** н. Урочышча на поўнач ад вёскі Сухая Даліна ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ду'бніца-Курпё'ўская** ж. Вёска ў Баранавіцкім сельсавеце -Дубніца.

**Ду'брава** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўдзень ад вёскі Лэйгабалі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Дубро'ва** ж. Урочышча, балота на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Дубро'ва** ж. Урочышча, лес і вёска ў Гожскім сельсавеце. У Дуброве дубоў много было. Дуброва

**Дубро'ва** ж. Урочышча, лес на паўночны ўсход ад Скідаля ў Скідальскім сельсавеце.

**Дубро'ўка ж** Урочышча, лес (невялікі) на поўдзень ад вёскі Калбасіна, недалёка ад вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Дубэ'** мн. Дубы, урочышча, сенажаць недалёка ад вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ду'мбло** н. Урочышча, сенажаць каля вескі Пяслі ў Адэльскім сельсавеце.

**Е'шмы** мн. Урочышча, сенажаць каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Жандо'вы** лес м. Дзяржаўны лес — лес каля вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Жве'гра** ж. Урочышча, выток ракі Ласасянкі каля вёскі Падліпкі ў Адэльскім сельсавеце.

**Жыдо'ўскі** цме'нтаж м. Старыя яўрэйскія могілкі каля г п. Сапоцкін.

**Забаго'ннікі** мн. Вёска ў Верцялішкаўскім сельсавеце, за багном.

**Забало'це** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Зарубічы ў Капцёўскім сельсавеце, які належаў сялянам з вёскі Баранава. Называлі Забалоце, таму што **за** балотамі Баранава.

**Завара'мі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Баранавічы ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Завяршчы'зна** ж. Урочышча, частка горада Гродна на правым баку рэчкі Гараднічанкі.

**Загаро'днікі** мн. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце над рэчкай Одлай.

**Заго'нчыкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Жукевічы ў Капцёўскім сельсавеце. Загончыкі — гэта такія вузянькія палоскі зямлі былі, што ледва бараной пряедзяш, каня ні заверняш. Каўпакі.

**Загу'мнае** н. Палетак ворнай зямлі каля вёскі Пяслі ў Адэльскім сельсавеце.

**Заду'бе** н. Урочышча, назва былога маёнтка князя Вязеньскага, яго сядзібы ў вёсцы Азёры ў Азёрскім сельсавеце.

**Закі'шкі** мн. Урочышча, лес на ўсход ад вёскі Лэйгабалі ў Капцёўскім сельсавеце.

**За Марго'вай дарогай ж.** Палетак ворнай зямлі каля вёскі Ліцвінкі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Запур'е** н. Хутар ў Парэцкім сельсавеце, раней была вёска. Зарача'нка ж. Вёска ў Лойкаўскім сельсавеце. Да 1901 года

**Баля** Царкоўная, да 1964 года — Баля Касцельная, а з 1964 года — Зарачанка.

**Зарачанка** называецца, бо яна за рэчкай знаходзіцца.

**Зару'бічы** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце.

**Зарэ'чка** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Парэчча ў Парэцкім сельсавеце.

**Засце'нак** м. Урочышча на захад ад вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Засце'нкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Копанькі Каробчыцкім сельсавеце.

**За** Чарну'хай. Палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Азёры ў Азёрскім сельсавеце.

**За'ячава** гара ж. Урочышча, узвышша

каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Збанко'ва** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Азёры ў Азёрскім сельсавеце.

**Зво'наўка** ж. Урочышча, узвышша ў лесе паміж вёска м і Пагараны і Славічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Звяры'нец** (зьвярыняц) м. Урочышча з мноствам крыніц, парослае алешнікам, на захад ад вёскі Свіслачы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Звіно'** — гара ж. Урочышча каля вёскі Навасёлкі ў Абухаўскім над Нёманам.

**Звяры'нец** м. Урочышча, мокрае месца, парослае алешнікам з мноствам крыніц на захад ад вёскі Падліпкі ў Адэльскім сельсавеце

**Зо'кужышкі** мн. Палетак ворнай зямлі на захад **ад** вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Інду'ра** ж. Цэнтр Індурскага сельсавета, за 25 км на поўдзень ад Гродна, былое мястэчка (да 1939 года), дакументы называюць з 1542 г. Мястэчка належала магнатам Давойнам, пасля перайшло да Кішкаў, затым было аддадзена ў пасаг старасцянцы Жмудскай, жонцы князя Крыштофа Радзівіла, віленскага гетмана Вялікага кн. Літ. А пасля яно перайшло ва ўладанне дома Радзівілаў. Да 1939 г. некаторыя сяляне навакольных вёсак мястэчка называлі Нандора, а раней яшчэ, у час прыгоннага ладу, Індуру называлі Намодры.

**Інду'рка** ж. Рэчка, левы прыток ракі Свіслачы (бас. Нёмана). Даўжыня — 20 км.

**Кавалё'ўка** ж. Урочышча, сенажаць каля вёскі Балічы ў Індурскім сельсавеце, над ракой Свіслаччу і яе прытокам — Кавалёўкай.

**Кавалі'цкая** рэчка ж. Частка рэчкі Лашанкі, прытока ракі Свіслачы, каля вёскі Кавалічы ў Індурскім сельсавеце.

**Кава'лкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Забагонікі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Ка'даўб** (кадаўп) м. Назва крыніцы ва ўрочышчы Плавінскім недалёка ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце. Кадаўб — гэта дубовая бочка без дна, што ўстаўлена ў зрой, таму і крыніца называецца Кадаўб. Клінчаны.

**Казё'нкі** мн. Урочышча, лес каля вёскі Табольская Будка ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Кала'чык** м. Урочышча, могілкі, на захад ад вёскі Луцкаўляны ў Індурскім сельсавеце.

**Калачо'ўскі** палетак м. Урочышча, палетак ворнай зямлі з пясчанай глебай на поўнач ад вёскі Пагараны ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ка'лбікаўшчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Кало'дчык** (калоччык) м. Крыніца на ўсход ад вёскі Бакуны ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Кало'жа** ж. Урочышча, старая назва часткі горада Гродна, паселішча каля царквы Каложы. Князь Вітаўт у XIУ ст., пасля паходу на Пскоў прывёз захопленых палонных, пасяліў іх каля замка і назваў гэта месца Каложай, якая была і ў Пскове. Адсюль і царква Барыса і Глеба стала называцца Каложай.

**Кало'да** ж. Невялікі ручай у лесе побач вёскі Казіміроўкі ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Каме'начка** ж. Рэчка, правы прыток ракі Ласасянкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Ка'менка** ж, Невялікая рэчка, якая цячэ каля вескі Каменка ў Каробчыцкім сельсавеце і ўпадае ў раку Ласасянку.

**Каме'нная** даро'га ж. Старая, мошчаная, залітая бетонам дарога ва ўрочышчы Пескі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ка'меніца** ж. Урочышча, поле недалёка ад вёскі Дубавая ў Індурскім сельсавеце. На Каменіцы земля ніважная, адны каменя, нічого ні расце. Адэльск.

**Каміна'рава** сту'дня ж. Старая студня ў вёсцы Гібулічы ў Капцёўскім сельсавеце. Назва ад камінар (селянін, пры паляках хадзіў у Гродна чысціць каміны).

**Камла'тчына** (камлаччына) ж. Урочышча, балоцістае месца на ўсход ад вёскі

Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Камяні'стае** н. Урочышча, хутар з 3-х хатаў на захад ад вёскі

**Цыдовічы** ў Гожскім сельсавеце і палетак ворнай зямлі.

**Ка'мятнае** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Канто'ршчына** ж. Урочышча на захад ад вёскі Горніца ў Капцёўскім сельсавеце, месца, дзе некалі стаяў будынак, у якім размяшчалася Горніцкая валасць.

**Канча'тка** ж. Вёска ў Азёрскім сельсавеце, якая знаходзіцца над затокай Белага возера — Кан, адсюль і назва Канчатка. А вёску чамусьці сталі называць Камчаткай. У нашай вёсцы Канчатка каля 100 хатаў.

**Канюхі'** мн. Вёска ў Азёрскім сельсавеце.

**Канюха'ўскі** роў. Вялікі яр каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце. У Канюхоўскім рове цячэ рэчка, много крыніцаў. Віцькі.

**Капіта'нская** дарога ж. Старая, закінутая дарога, абсаджаная таполямі, вымашчаная каменнем, на паўночны ўсход ад Гібуліч у Капцёўскім сельсавеце, вядзе да вёскі Пагараны.

**Каплі'ца** князя Чацьвяртынскага ж. Усыпальніца, капліца князёў Чацьвяртынскіх у старым парку горада Скідаля, архітэктурны помнік XIX ст.

**Капцё'ўка** ж. Вёска, цэнтр Капцёўскага сельсавета. У гэтай вёсцы з 1855 года па 1861 год служыў у царкве дзячком Іван Ануфрыевіч Карскі (дзядзька заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі Яфіма Фёдаравіча Карскага), фалькларыст, этнограф, караспандэнт П. В. Шэйна.

**Карале'ўскі** дуб (дуп) м. Дуб каля вёскі Парэчча ў Парэцкім сельсавеце, якому, як лічаць, больш за 1000 год. Кажуць, што пад Каралеўскім дубам кароль Аўгуст адпачываў, таму і Каралеўскі дуб называецца. Парэчча.

**Каралі'нка** ж. Урочышча над рэчкай Тарусіцкай у Баранавіцкім сельсавеце, дзе некалі стаяў вадзяны млын Пралейкі.

**Караняві'цкія** горы мн. Урочышча, узвышша недалёка ад вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Караліно'** н. Вёска ў Баранавіцкім сельсавеце. Гэту вёску наведваў польскі кароль Станіслаў Аўгуст, які жыў да 1795 года ў Гродне.

**Ка'рлава** н. Урочышча, шырокая мяжа паміж зямлёй вёсак Адамавічы і Салаўі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Карпаста'ў** м. Стаў у гарадскім парку ў Сапоцкіне.

**Касма'та** гара ж. Курган побач з вёскай Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Катале'шнік** м. Урочышча, пералесак на 300 м² плошчы на поўнач ад вёскі Дубніца ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Катко'ўшчына** ж. Урочышча, лес (мяшанай пароды) на ўсход ад вёскі Казіміроўкі ў Путрышкаўскім сельсавеце. Ад прозвішча ўласніка лесу — Каткоўскі.

**Ка'лбасіна** н. Вёска ў Каробчьшкім сельсавеце і былы маёнтак, якія належалі Сапегам, пазней ордану Дамініканаў.

**Каўпакі'** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце. Побач з вёскай курганны могільнік 11–13 ст, на якім зберагтлося 15 курганоў. 12 насыпаў даследаваліся ў 1975 годзе. Усе курганы маюць каменную муроўку. Знойдзены сярзбраныя і медныя скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі, абломкі сярпа, крэсіва, нож, бітыя гліняныя гаршкі.

**Каце'лькаўшчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Баранавічы ў Баранавіцкім сельсавеце

**Каша'ча** горка ж. Урочышча, узвышша на захад ад вёскі Шчачынова ў Путрышкаўскім сельсавеце і палетак ворнай зямлі.

**Квасо'ўскія** мануфакту'ры мн. Урочышча Ліпкі на ўсход ад вёскі Квасоўка ў Квасоўскім сельсавеце, тут у час прыгонніцтва размяшчаліся мануфактуры пана Людгарда Бухавецкага.

**Квасо'ўка** ж. Невялікі ручай, пры-

ток ракі Свіслачы (басейн Нёмана) у Квасоўскім сельсавеце, цячэ каля вёскі Квасоўка.

**Кла'дзі** мн. Урочышча, сенажаць каля касцёла Тэалін на поўдзень ад г. п. Сапоцкін.

**Кле'раўшчына** ж. Урочышча, лес на захад ад вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Клін** м. Урочышча, глыбокі яр каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Клінча'ны** мн. Вёска ў Адэльскім сельсавеце.

**Кло'ні** мн. Урочышча, лес на поўнач ад вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Кляшто'рнае** н. Урочышча каля вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце. Вёска і зямля з 1664 года належала Гродзенскай калегіі іезуітаў, былі іх уласнасцю, кляшторнымі.

**Кны'шава** крыні'ца ж. Крыніца, якая выцякае са стромага берагу Нёмана каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Ко'паніца** ж. Урочышча, сажалка каля вёскі Дзекалавічы ў Квасоўскім сельсавеце, над Нёманам.

**Ко'паніца** ж. Урочышча, узвышша каля вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ко'паніца** ж. Штучны вадаём каля вёскі Забагонікі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Ко'паніца** ж. Штучны вадаем каля ракі Свіслачы, побач з вёскай Свіслач ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ко'пішча** н. Урочышча, старыя, закінутыя яўрэйскія могілкі на ўзвышшы, на поўдзень ад вёскі Індура ў Індурскім сельсавеце.

**Ко'псата** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Парэчча ў Парэцкім сельсавеце.

**Ко'пцы** мн. Урочышча, старыя капцы, насыпаныя ў гарадскім пасёлку Сапоцкін, каля старога касцёла Тэалін, дзе знаходзіцца 13 старажытных капцоў, насыпаў, магіл ці рэдутаў з часоў шведскай вайны.

**Ко'пцы** м н. Насыпы на ўзвышшы пры ўездзе ў Сапоцкін, з часоў швэдскай вайны.

**Ко'тра** ж. Рака і вёска ў Абухаўскім сельсавеце, прыток Нёмана, даўжыня 140 к м, прытокі: Скраблянка, Нявіша, Пыранка.

**Ко'сцева** балота н. Урочышча, багон, каля вёскі Гарны ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ко'сцелка** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Каханова (Прыгодзічы) у Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Крамі'нка** ж. Урочышча, лес каля вёскі Табольская Будка ў Верцялішкаўскім сельсавеце,

**Крапі'ўна** гара ж Урочышча, узвышша ў лесе каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Кра'сная** гара' ж. Урочышча, узвышша на поўнач ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце.

**Кру'глік** м. Урочышча, лес на ўсход ад вёскі Казіміроўка ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Кру'глік** м. Урочышча, дубовы лес на поўдзень ад вёскі Свіслач у Квасоўскім сельсавеце.

**Кру'глік** м. Урочышча, сенажаць на паўночны захад ад вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Кру'глікі** мн. Вёска ўІндурскім сельсавеце.

**Кру'глічак** м. Урочышча, узвышша (з мноствам валуноў) на паўночны захад ад вёскі Круглікі ў Індурскім сельсавеце.

**Кругля'ны** мн. Вёска ў Квасоўскім сельсавеце.

**Кру'кавыя** го'ры мн. Урочышча, узвышша на поўнач ад вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце. На Крукавых горах крукоў збіраласо многа, каб пажывіцца. Пышкі.

**Круле'ўска** кухня ж. Урочышча побач з хутарам Запур'е ў Парэцкім сельсавеце. Кажуць, сюды прыязджаў кароль на ловы, тут стаяла крулеўская кухня. Запур'е.

**Кру'паўшчына** ж. Урочышча каля вёскі Пагараны ў Капцёўскім сельсавеце.

**Кру'шнікі** мн. Урочышча, лес, парослы алешнікам, вербалозам каля г. Скіда-

ля, над рэчкай Котрай.

**Кру'цькаў** бераг (берах) м. Урочышча, выган над ракой Свіслаччу ў Індурскім сельсавеце.

**Крыжава'я** даро'га ж. Скрыжаваная дарога на захад ад вёскі Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце,

**К'удабелішкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі паміж вёскамі Радзевічы і Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Ку'дра** ж. Урочышча, балоцістае месца паміж вёскамі Эйсманты і Табала ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Кужы'шкі** мн. Урочышча, лес каля вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Куляшо'ўка** мн. Урочышча, узвышша на захад ад Сапоцкіна.

**Куляшоўка** — гэто хутар, дзе Куляшэ жылі. Сапоцкін.

**Куляшо'ўка** ж. Урочышча, узвышша на поўдзень ад г. п. Сапоцкін, за рэчкай Свянціцай.

**Крыні'ца** на Камяністым ж. Крыніца на камяністай глебе, на захад ад вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце.

**Крыні'цы** мн. Палетак ворнай зямлі каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ку'нцаўшчына** ж. Вёска ў Індурскім сельсавеце на поўдзень ад вёскі Лаша. Кажуць, да 1855 года яна называлася Капцоўкай, пазней перайшла да пана Яна Кунца, стала называцца Кунцаўшчынай.

**Купі'сты** луг м. Урочышча, мокры луг з купінамі на паўднёвы ўсход ад вёскі Гібулічы ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Купі'сьцік** м. Урочышча, луг з купінамі травы на поўнач ад вёскі Каханова ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Курга'н** м. Урочышча, лес паміж вёскамі Селюкі і Загорцы ў Абухаўскім сельсавеце.

**Курга'н** м. Насыпаны высокі ўзгорак на балоце на поўдзень ад вёскі Сухая Даліна, над ракой Свіслаччу ў Індурскім сельсавеце. Кажуць, што Курган швэды насыпалі. Землю шапкамі насілі і сыпалі. Некі важны швэд у ім пахаваны. Сухая Даліна.

**Курга'н** м. Урочышча, насыпаны ўзгорачак зямлі, за 1,5 км на поўнач ад вёскі Яскевічы ў Індурскім сельсавеце.

**Ла'бна** — Агаро'днікі н. Вёска ў Гінавіцкім сельсавеце.

**Лакно'** н. Вёска каля возера ў Азёрскім сельсавеце.

**Ланяві'чы** мн. Частка вёскі Ліцвінак у Квасоўскім сельсавеце. Жыхары гэтай часткі вёскі лічыліся казёнымі сялянамі, на паншчыну не хадзілі. У іх было ў два разы больш зямлі.

**Лапе'нкі** мн. Вёска ў Грандзіцкім сельсавеце.

**Лазо'ўка** ж. Невялікая рэчка на поўнач ад вёскі Галавічы ў Верцялішкаўскім сельсавеце (бас. Нёмана).

**Лазы'** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце.

**Ласася'нка** ж. Рэчка, левы прыток Нёмана ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Ласо'сна** ж. Вёска ў Баранавіцкім сельсавеце над рэчкай Ласасянкай; некалі тут была фабрыка бялізны (выраблялі дарагія абрусы, паясы), фабрыка сукна, два вадзяныя млыны.

**Ла'ша** ж. Вёска Пяслі, якая да 1652 года называлася Лаша.

**Ла'ша** ж. Вёска над рэчкай Лашанкай у Індурскім сельсавеце. Радзіма заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі акадэміка Яфіма Фёдаравіча Карскага.

**Лё'йстры** мн. Урочышча на поўнач ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце, над рэчкай Лашанкай; нізкая, заўсёды мокрая мясціна.

**Лёт'аўка** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Пышкі; ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Ліко'ўка** ж. Вёска над рэчкай Лікоўкай у Квасоўскім сельсавеце да 1652 года называлася Ількаўкай. У гэтай вёсцы на адным з агародаў у 1954 годзе быў знойдзены Лікоўскі скарб — 6495 медных і сярэбраных манет, агульнай вагой каля 10 кг. Зберагаецца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.

**Ліхо'е** возера н. Невялікае глыбокае возера каля вёскі Ліхачы ў Парэцкім сельсавеце.

**Лі'пкі** мн. Урочышча, сядзіба былога маёнтка Бухавецкіх, уладальнікаў ткацкіх мануфактураў на поўдзень ад

вёскі Агароднікі ў Квасоўскім сельсавеце. Сюды часта прыязджала польская пісьменніца Э. Ажэшка да свае сяброўкі Салюсі Бухавецкай.

**Лі'пніцкая** гара ж. Урочышча, узвышша каля вёскі Верцялішкі ў цэнтры Вярцялішкаўскага сельсавета.

**Лісадо'ўка** ж. Урочышча, узвышша каля г. п. Сапоцкін. Гарадзішча, руіны былога літоўскага замка.

**Лі'ся** гара' ж. Лісіная гара, урочышча, узвышша недалёка ад вёскі Кадыш у Васілевіцкім сельсавеце.

**Лі'ся** гара ж. Лісіная гара, урочышча, узвышша на поўнач ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Ліхасе'льцы** мн. Вёска ў Гінавіцкім сельсавеце. Ліхасельцы зусім бедная вёска, і зямля кепская, нічога ні расло. Рацічы.

**Ліхачы'** мн. Вёска ў Парэцкім сельсавеце над возерам Ліхім.

**Ліцьві'нкі** мн. Частка вёскі Ланявічы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ло'зы** мн. Урочышча каля вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ло'зы** мн. Урочышча, плёс на Нёмане каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце. Некалі было плёсо, бераг падмывало, насадзілі лазы — і перастало, ціпер Лозамі называюць, бабрэ водзяцца. Віцькі.

**Лугі'** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі на паўднёвы ўсход ад вёскі Падліпкі ў Адэльскім сельсавеце.

**Лужа'не** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі і луг каля вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце.

**Лукашо'ва** возера н. Старыца рэчкі Лашанкі на ўсход ад вёскі Малыя Кавалічы ў Індурскім сельсавеце.

**Лу'кі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі побач вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Лу'кі** мн. Урочышча, сенажаць на захад ад вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Луцкаўля'ны** мн. Вёска ў Індурскім сельсавеце.

**Лу'чкі** мн. Урочышча, сенажаць над рэчкай Індуркай недалёка ад вёскі, Баброўнікі ў Індурскім сельсавеце.

**Лы'са** гара ж. Урочышча, на поўнач ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце. Тут нічого ні расло, так гэту гару людзі і назвалі

**Лысай** гарой. Клінчаны.

**Лы'са** гара' ж. Узвышша вёскі **Віцькі** ў Квасоўскім сельсавеце, над Нёманам.

**Лы'са** гара' ж. Урочышча, узвышша на поўдзень ад вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Лы'сая** гара' ж. Урочышча, старыя могілкі над Нёманам каля вёскі Пагараны ў Капцёўскім сельсавеце.

**Лэ'йгабалі** мн. Вёска ў Каробчыцкім сельсавеце. У нас у Лэйгабалях 40 хат, усе каталікі, а гаворяць па-беларуску. Лэйгабалі.

**Лэ'йгабалі** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ляво'ш** м. Урочышча, недалёка вёскі Эйсманты ў Верцялішкаўскім сельсавеце, палетак ворнай зямлі, на якім нічога не расце.

**Лядо'ўня** ж. Урочышча, два крутыя ўзвышшы каля вёскі Копанькі, ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Маё'рчыкава** гара ж. Узвышша на захад ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце. На Маёрчыкавай гарэ жыў асаднік, адстаўны маёр, таму і Маёрчыкава гара. Верцялішкі.

**Маё'ршчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі недалёка ад вёскі Круглікі ў Індурскім сельсавеце. Маёршчына называяцца, бо гэта зямля была адстаўнога маёра Аляксандровіча. Круглікі.

**Максі'маў** вір м. Глыбокае месца на рэчцы Лашанцы каля вёскі Лаша ў Індурскім сельсавеце. Дзед казаў, што тут хлопяц утапіўсо, Максім, таму і называюць Максімаў вір. Лаша.

**Мала'хавічы** мн. Вёска ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Мала'хавічы** мн. Урочышча, сенажаць сялян вёскі Баранава ў Квасоўскім сельсавеце.

**Мала'я** Альша'ніца ж. Вёска ў Каробчыцкім сельсавеце. У Малой Аль-

шанцы выраблялі гаршке, збанке, верцяхі з чырвонай гліны, прадавалі ў Гродні. Гібулічы.

**Мала'я** Каплі'ца ж. Вёска ў Путрышкаўскім сельсавеце. Радзіма польскага і беларускага паэта Легатовіча Ігната Сямёнавіча.

**Ма'рнаў** роў м. Урочышча, яр каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Маро'заўшчына** ж. Урочышча, мокрае, багністае месца, выган недалёка ад вёскі Горніца ў Капцёўскім сельсавеце.

**Марто'ва** н. Мартова, урочышча, падзолістая глеба на ўсход ад вёскі Свіслач у Квасоўскім сельсавеце.

**Марцё'лішкі** мн. Урочышча, сенажаць над рэчкай Ласоснай паміж вёскамі Копанькі і Нямейшы ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Ма'скава** гара ж. Урочышча, узвышша каля вёскі Лэйгабалі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Маскалё'ўшчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Ферма ў Квасоўскім сельсавеце.

**Маске'ляўшчына** ж. Урочышча, поле з курганом.

**Масці'шчы** мн. Урочышча, сенажаць на ўсход ад вёскі Цыдовічы

**ў** Гожскім сельсавеце. На Мосцішчы заўсёды мокро, бо много крыніцаў. Цыдовічы.

**Машо'нка** ж. Возера недалёка хутара Запур'е ў Парэцкім сельсавеце.

**Мелавы'я** го'ры. Урочышча з залежамі крэйды, на правым беразе ракі Нёмана, за 8 км на поўнач ад Гродна. Залежы фасфарытаў.

**Мелавы'** роў м. Яр на поўнач ад вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Мелавы'** роў м. Яр недалёка вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце, з яго сяляне бралі крэйду для пабелкі.

**Ме'льніца** Матушы'нскаго ж. Урочышча, дзе быў паравы млын уласніка Матушынскага ў канцы вёскі Гарны ў Капцёўскім сельсавеце.

**Месіко'ўшчына** ж. Урочышча, узвышша (горка) побач з вёскай Дубніца ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Міку'льшчына** ж. Урочышча, балоцісты выган каля вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Мілашэ'ўскага** вятра'к м. Урочы-шча, узвышанае месца недалёка ад вёскі Баранава ў Капцёўскім сельсавеце, тут некалі стаяў вятрак селяніна Мілашэўскага.

**Мі'лькаўшчына** ж. Вёска ў Скідальскім сельсавеце, тут нарадзілася і доўгі час жыла польская пісьменніца Эліза Ажэшка з Паўлоўскіх (1841 г.).

**Міняві'цкая** даро'га ж. Дарога са Свіслачы да вёскі Мінявічы (у Квасоўскім і Глядавіцкім сельсаветах).

**Міняві'чы** мн. Вёска (на поўнач ад саўгаса «Свіслач») над Нёманам і двор Каменскіх, дзе свой летні адпачынак праводзіла польская пісьменніца Эліза Ажэшка, тут напісала яна сваю аповесць «Над Нёманам». Радзіма паэта Міхася Явара (сапраўднае прозвішча Карась).

**Мі'нкаўцы** мн. Хутар за вёскай Адэльск, жыхары яго ў 1863 годзе прымалі актыўны ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Вёска Мінкаўцы адышла да Польшчы, засталося некалькі хат.

**Мішке'нікі** мн. Вёска ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Млін** Пяскі'. Урочышча над рэчкай Татаркай (басейн Нёмана) каля вёскі Тарусічы ў Баранавіцкім сельсавеце; некалі тут быў вадзяны млын.

**Млы'н** Кліксы м. Млын уласніка Кліксы ў Каробчыцкім сельсавеце на рэчцы Ласасянцы.

**Млы'н** Чахаўля'нскі м. Урочышча, дзе стаіць вадзяны млын на рацэ Ласасянцы ў вёсцы Чэхаўшчызна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Мо'гліцы** мн. Старыя могілкі, на якіх не хаваюць нябожчыкаў,

**недалёка** ад вёскі Бяляны ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Мо'гліцы** мн. Закінутыя старыя могілкі каля вёскі Грабяні ў Адэльскім сельсавеце.

**Мо'гліцы** мн. Урочышча, бярозавы лес на месцы старых могілкаў каля вёскі Ліхачы ў Парэцкім сельсавеце.

**Мо'гліцы** мн. Старыя яўрэйскія могілкі на поўдзень ад вёскі Індура

у Індурскім сельсавеце.

**Мо'гліцкі** луг. м. Урочышча, луг на ўсход ад вёскі Зарубічы ў Квасоўскім сельсавеце, побач з могілкамі.

**Мо'ліцы** мн. Старыя могілкі недалёка ад вёскі Радзевічы ў Адэльскім сельсавеце.

**Мо'ліцы** мн. Старыя могілкі каля вёскі Бакуны ў Карбчыцкім сельсавеце.

**Мо'жнева** н. Возера недалёка ад Скідаля ў Скідальскім сельсавеце.

**Мо'раўшчына** ж. Былая шляхецкая аколіца недалёка ад вёскі Іванаўцы ў Адэльскім сельсавеце.

**Мо'сцішкі** мн. Урочышча на поўдзень ад вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце.

**Мурава'нка** ж. Населены пункт, урочышча на поўдзень ад вёскі Казловічы ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Мушы'нскай** млын м. Вадзяны млын (які належаў Мушынскай) на рацэ Татарцы ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Мядзве'дзіца** ж. Невялічкая рэчка побач з вёскай Галынка ў Сапоцкінскім пасялковым савеце.

**Мядзве'жы** лясок м. Урочышча, лясок паміж вёскамі Славічы і Жылічы ў Капцёўскім сельсавеце.

На Дзяркаўшчы'не крыніца ж. Крыніца, якая была на Дзяркаўшчыне ва ўрочышчы на поўдзень ад вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

На Маро'заўшчыне крыніца ж. Крыніца ва ўрочышчы Марозаўшчына на захад ад вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

На Міку'ляўшчыне крыніца ж. Крыніца ва ўрочышчы Мікуляўшчына на ўсход ад вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Некрашы'** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце. Ад прозвішча Некраш.

**Німе'цкія** магілы. Могілкі, на якіх пахаваныя нямецкія салдаты з часоў першай сусветнай вайны, каля вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце.

**Но'вая** Руда' ж. Вёска ў Парэцкім сельсавеце.

**Но'рка** ж. Невялікая рэчка, якая каля вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце, ўпадае ў раку Татарка.

**Но'рушкава** гара ж. Узвышша каля вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Но'чаўшчына** ж. Урочышча, сенажаць на захад ад вёскі Капцёўка **ў** Капцёўскім сельсавеце.

**О'страва** н. Урочышча, дрыгвістая мясціна на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Падбо'рць** ж. Урочышча, яр каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Падбу'дкі** мн. Урочышча, сенажаць на поўнач ад вёскі Прывалкі ў Гожскім сельсавеце, над Нёманам.

**Падбяля'нская** рэчка ж. Ручай каля вёскі Хамуты ў Парэцкім сельсавеце.

**Падваўкаўня'** ж. Урочышча, лес каля вёскі Табольская Будка ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Падрэ'чка** ж. Невялікая рэчка каля вёскі Каўняны ў Васілевіцкім сельсавеце.

**Падгру'шкі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Паддуба'мі** мн. Урочышча, сенажаць каля вёскі Путрышкі ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Падка'менскае** н. Урочышча, сенажаць на паўднёвы захад ад вёскі Палаткова ў Капцёўскім сельсавеце. Гэто нашо балото, што пад Камянкай. Палаткова.

**Пад** Ку'нцаўшчынай ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Сухая Даліна, недалёка ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце.

**Падкрыжа'кі** мн. Вёска на паўночны ўсход ад Гродна ў Грандзіцкім сельсавеце.

**Падляні'ца** ж. Урочышча каля вёскі Ліхачы і хутара Запур'е ў Парэцкім сельсавеце.

**Падо'ле** н. Падольная вуліца ў Гродне, зараз таксама названа Падольнай вуліцай, над Нёмнам.

**Падмо'крыя** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўдзень ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце. Падмокрыя — гэта палетак быў, адна макрата. Прывалка.

**Пад** Фэ'рмай ж. Урочышча, выган сялян вёскі Ланявічы, на паўночны ўсход ад Ліцвінак ў Квасоўскім сельсавеце.

**Падцаге'льня** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўдзень ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце. Пад-

цагельня — гэта зямля, што пад самай цагельняй была. Прывалка.

**Пад'яле'не** н. Урочышча на ўсход ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Пад'я'тлы** ж. Вёска ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Пажа'рна** ж. Урочышча, мяшаны лес на паўночны ўсход ад вёскі Гібулічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Пай** м. Урочышча на паўночны захад ад вёскі Гібулічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Пала'ц** Красі'нскай м. Палац былой графіні Красінскай у Свіслачы **Квасоўскага** сельсавета.

**Па'нскі** агаро'д м. Урочышча каля вёскі Парэчча ў Парэцкім сельсавеце. Тут растуць тры вялізныя дубы. Адзін з іх мае ў абводзе 7,20 м. Дуб з выгаралым дуплом. Да 1939 года ў дупле была маленькая каплічка. Каля дуба мясцовыя жыхары адпраўлялі маёвыя маленні, набажэнства. Гэтаму дубу, кажуць, больш як 500 год. Лічыцца за найстарэйшае дрэва былой Гродзенскай пушчы.

**Паняму'нь** н. Вёска ў Путрышкаўскім сельсавеце. З палацам паляўнічым з часоў польскага караля Станіслава Аўгуста, у якім ён часта бываў. Некалі ён належаў вядомаму польскаму пісьменніку Ю. У. Нямцэвічу. Тут часта адпачываў са сваёй сям'ёй акадэмік Я. Ф. Карскі, а таксама польская пісьменніца Э. Ажэшка і этнограф — фальклярыст Ян Карловіч.

**Паняму'нь** н. Назва часткі вёскі Жукевічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Папо'ўская** мяжа ж. Урочышча, шырокая мяжа, якая раздзяляла папоўскую зямлю і сялянскую, на захад ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Папо'ўшчына** ж. Урочышча, лес на ўсход ад вёскі Дубніца ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Парэ'чча** н. Мястэчка — цэнтр Парэцкага сельсавета, за 30 км на ўсход ад Гродна. Раней называлася «Друскенікі».

**Пацэ'нская** сажалка ж. Старое рэчышча ракі Свіслач каля былой аколіцы Пацэнкі (цяпер Лугавая) у Індурскім сельсавеце.

**Пацяро'б** (пацяроп) м. Урочышча, лясок на ўсход ад вёскі Капцёўкі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Пераб'і'тка** ж. Невялікі ручай, які выцякае з балота каля вёскі Рудавіцы у Квасоўскім сельсавеце.

**Пенякі'** мн. Урочышча побач з вёскай Табольская Будка ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Перало'м** м. Вёска ў Гожскім сельсавеце, на правым беразе Нёмна. У ёй у XIУ ст. быў пагранічны літоўскі замак, тут у 1378 годзе адбылася бітва літвінаў з крыжаносцамі.

**Пе'скі** мн. Урочышча недалёка ад вёскі Віцькі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Пе'чышча** м. Урочышча, высокі гліністы бераг над рэчкай Лашанкай на поўдзень ад вёскі Лаша ў Індурскім сельсавеце.

**Пілі'пка** гара' ж. Пііліпава гара, урочышча, сенажаць над ракой Свіслаччу, побач з урочышчам Вайтоўшчына.

**Пія'вічыны** мн. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце. Піявічыны — гэта сенакос наш так называяцца, бо многа піявіц было за мосцікам. Цыдовічы.

**Плаві'нска** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Плавы'** мн. Вёска ў Абухаўскім сельсавеце.

**Плетараўшчы'на** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Рудавіцы ў Квасоўскім сельсавеце. Назва паходзіць ад уладальніка былога маёнтка Плятара.

**Пле'цы** мн. Урочышча, агароды ў вёсцы Ліхачы ў Парэцкім сельсавеце.

**Пні** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце. Некалі лес быў, карчэ капалі, а ціпер поле, палетак, Пні называяцца. Клінчаны.

**По'валак** м. Урочышча, палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Капцёўкі ў Капцёўскім сельсавеце.

**По'камянкі** мн. Урочышча, узвышша каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**По'плава** н. Урочышча, нізкае, мокрае мёсца на паўночны ўсход ад вёскі Кал-

басіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**По'плава** н. Урочышча, пралесак, праз які працякае ручай Поплава, каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Празаро'кі** мн. Урочышча на поўнач ад вёскі Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце, над ракой Свіслаччу.

**Прасняко'ўшчына** ж. Урочышча, лес і поле на ўсход ад вёскі Гібулічы ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Про'дзі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі недалёка ад вёскі Лэйгабалі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Про'нтаў** роў м. Урочышча, глыбокі яр каля вёскі Галаўнічы ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Пры'ня-гара** ж. Урочышча, высокі бераг над Нёманам каля вёскі Навасёлкі ў Абухаўскім сельсавеце.

**Прысту'пічы** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце. Насельніцтва апрача земляробства займалася ганчарствам.

**Пу'жаўшчына** ж. Урочышча над прытокам ракі Лашанкі Лікоўкай, сенажаць на паўночны захад ад вёскі Лаша ў Індурскім сельсавеце.

**Пу'ндзішкі** мн. Урочышча каля вёскі Табольская Будка ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Пу'тна** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце.

**Пу'тнаўскі** лес м. Урочышча, лес на захад ад вёскі Зарубічы, побач з вёскай Путна ў Капцёўскім сельсавеце.

**Путры'шкі** мн. Вёска ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Пучке'раўшчына** ж. Урочышча, сенажаць на поўдзень ад вёскі Старая Дубавая ў Адэльскім сельсавеце.

**Пыра'нка** ж. Рэчка, правы прыток ракі Котры (басейн Нёмана), пачатак бярэ з Малочнага возера, працякае праз Белае возера і Рыбніцкае. Даўжыня 44 км. Галоўны прыток — Бярвенка.

**Пы'шкі** мн. Урочышча, лес на поўнач ад Гродна, над Нёманам.

**Пы'шкі** мн. Вёска ў Баранавіцкім сельсавеце, над Нёманам.

**Пяке'лка** ж. Невялікая рэчка, якая працякае каля ўрочышча Абрэмшчына, вёскі Каленікі, недалёка ад вёскі (былой аколіцы) Занявічы ў Індурскім сельсавеце і ўпадае ў раку Свіслач.

**Пяслі'** мн. Вёска ў Адэльскім сельсавеце. Да 1652 года называлася Лаша, над рэчкай Лашанкай.

**Пясчына'** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце. Пясчына — гэта поле, ўсероўно засейваласо, хоць і пясчына была. Рацічы.

**Пятро'паль** м. Урочышча ў Путрышкаўскім сельсавеце недалёка ад вёскі Путрышкі.

**Пятухо'ва** гара' ж. Урочышча на поўдзень ад вёскі Рацічы ў Гінавіцкім сельсавеце, узгорак.

**Пятухо'віна** н. Урочышча, сенажаць каля вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце.

**Пяце'ляўшчына** ж. Урочышча, выган каля вёскі Віцькі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ра'йста** ж. Урочышча, тарфяное балота, катлавіна на поўнач ад вёскі Гожа ў Гожскім сельсавеце.

**Ра'гінаў** луг м. Урочышча, луг побач з вёскай Лэйгабалі ў Каробчыцкім сельсавеце. Рагінаў луг, бо проціў Рагінавага поля быў. Лэйгабалі.

**Раза'лін** м. Урочышча, былое памесце Сямёна Легатовіча недалёка ад вёскі Путрышкі ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Райгро'д** м. Урочышча на паўночны ўсход ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце, вялізная ўпадзіна, якую займаюць багны, сенажаці, палі.

**Ракаўшчы'на** ж. Урочышча на захад ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце.

**Рама'н-во'зера** н. Невялікае возера каля вёскі Хамуты ў Парэцкім сельсавеце.

**Ра'па** Жы'ліцкая ж. Парогі, папярочны камяністы выступ на дне Нёмана каля вёскі Жылічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ра'па** Кашо'ўніцкая ж. Парогі, камяністы папярочны выступ на дне Нёмана каля вёскі Кашэўнікі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ра'ці** н. Урочышча ў Зарубіцкім лесе на паўночны захад ад вёскі ў Кап-

цёўскім сельсавеце.

**Раўча'ны** равок н. Невялікі прыток ракі Ласасянкі на захад ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Ро'йстры** мн. Урочышча, невялікі лужок каля вёскі Лэйгабалі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Руда'** ж. Урочышча, сенажаць, мокрае мясціна недалёка ад вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Руда'віца** ж. Вёска ў Квасоўскім сельсавеце, на ўскраіне мокрага балота з мноствам крыніц.

**Руда'віцкае** бало'та н. Балота, якое знаходзіцца каля вёскі Рудавіцы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Ру'дня** ж. Урочышча, сенажаць на захад ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Рум** м. Урочышча, месца над Нёманам на паўднёвы ўсход ад вёскі Дарашэвічы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Румлё'ўка** ж. Урочышча над Нёманам у паўднёвай частцы горада Гродна.

**Ру'скія** магі'лы. Магілы рускіх салдат з вайны 1915 года, у выглядзе насыпаў, капцоў.

**Ручаі'на** ж, Урочышча, мокры выган каля вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ры'баў** луг (лух). Луг, урочышча, выган недалёка ад вёскі Радзевічы ў Адэльскім сельсавеце.

**Рыдзялі'** мн. Вёска ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Рэ'зікі** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Забагонікі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Рэ'чкі.** Урочышча, невялікія лужкі ў лесе каля вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Саба'ча** го'рка. Урочышча, два насыпаныя ўзвышшы ў выглядзе каўпакоў на ўсход ад Гродна.

**Саба'чы** роў. Урочышча, невялікі яр і палетак ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Шчачынова ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Садзі'ба** ж. Урочышча палетак ворнай зямлі каля вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Садзі'бы** мн. Урочышча, выган, парослы кустамі, каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Са'джалка** ж. Невялікі стаў у вёсцы Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Са'жалка** ж. Невялікія два вадаёмы ва ўрочышчы Мэнцаль на ўсход ад вёскі Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце.

**Са'жаўка** ж. Сажалка, невялікі натуральны вадаём пасярэдзіне вёскі Гібулічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Са'ла** н. Урочышча, высокі бераг Нёмана каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Салда'цкі** роў м. Урочышча, яр, які перасякаў дарогу, што ішла з Гродна на Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Саліно'ўшчына** ж. Урочышча, лес на ўсход ад вёскі Гібулічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Сало'менка** ж. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце. Радзіма вядомага беларускага астранома, гуманіста, асветніка Марціна Пачабута-Адляніцкага.

**Са'льніцкія** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі і балота каля вёскі Грабяні ў Адэльскім сельсавеце.

**Саніко'ўшчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі і балота каля вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце.

**Са'нкаўка** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на поўдзень ад вёскі Хлістовічы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Са'нкаўшчына** ж. Урочышча, сенажаць над рэчкай Одлай на поўдзень ад вёскі Адэльск у Адэльскім сельсавеце.

**Са'ннікі** мн. Вёска на поўдзень ад вёскі Бяляны ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Са'нцава** н. Урочышча, луг каля вёскі Баранавічы ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Сапо'цкін** м. Гарадскі пасёлак (з 1940 года), цэнтр Сапоцкінскага пасялковага савета Гродзенскага раёна.

**Сервіту'т** м. Урочышча, выган на поўдзень ад вёскі Ліцвінак у Квасоўскім сельсавеце.

**Сватэ'** мн. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Светая'нск** м. Вёска ў Гожскім сельсавеце.

**Сві'дзеншчына** ж. Урочышча, сенажаць каля вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сель-

савеце.

**Свідзяне'ц** м. Выган на паўднёвы захад ад Капцёўкі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Сві'слач** ж. Вёска ў Квасоўскім сельсавеце.

**Свякло'ўская** гара. Урочышча, узгорачак каля вёскі Свіслачы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Сіняві'чы** мн. Вёска ў Васілевіцкім сельсавеце, над Нёманам.

**Сі'ўкава** н. Вёска ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Скамаро'шкі** мн. Вёска на поўдзень ад Гродна (3 км).

**Слабо'дка** ж. Частка горада Гродна, дзе быў стары рынак.

**Скі'даль** м. Горад (з 1974 года) раённага падпарадкавання, цэнтр Скідальскага сельсавета.

**Скі'льма** ж. Урочышча, лес на паўднёвы ўсход ад вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Скраблякі'** мн. Вёска ў Адэльскім сельсавеце (былая аколіца збяднелай шляхты).

**Смуга'** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі і сенажаць каля вёскі Лэйгабалі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Спуша'нка** ж. Рэчка, правы прыток ракі Скідалькі-прытока ракі Котры (бас. Нёмана).

**Стане'ўшчына** ж. Урочышча, сенажаць над ракой Свіслаччу недалёка ад вёскі Занявічы ў Індурскім сельсавеце.

**Станіславо'ва** н. Урочышча ва ўсходняй часцы горада Гродна.

**Старавіна'** ж. Урочышча, сенажаць над рэчкай каля вёскі Пяслі ў Адэльскім сельсавеце.

**Старавіна'** ж. Урочышча, хутар каля вёскі Нямейшы ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Старавіна'** ж. Урочышча, сенажаць над рэчкай Ласасянкай на захад ад вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Стара'я** Руда' ж. Вёска ў Парэцкім сельсавеце на поўдзень ад вёскі Парэчча.

**Стаха'ва** бало'та н. Урочышча, сенажаць каля вёскі Гарны ў Квасоўскім сельсавеце.

**Стральцы'** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце.

**Сту'дня** Гібу'лава ж. Студня старая ў полі ва ўрочышчы Лугавая Беразіна на поўдзень ад вёскі Гібулічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Студзіне'ц** м. Крыніца недалёка ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Студзя'нка** ж. Урочышча, лес на поўдзень ад вёскі Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Су'салы** мн. Урочышча, лугавіна з крыніцай на ўсход ад вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Сухадо'ўскі** млін. Сухадалянскі млын, урочышча, дзе некалі знаходзіўся вадзяны млын.

**Суха'я** Далі'на. Урочышча, доўгі яр без вады на ўсход ад вёскі Шчачынова ў Путрышкаўскім сельсавеце.

**Суха'я** Далі'на. Вёска ў Індурскім сельсавеце на левым беразе ракі Свіслач.

**Сухмяні'** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце.

**Схадо'ўскі** вы'ган. Сухадалінскі выган, які належаў вёсцы Сухая Даліна ў Індурскім сельсавеце.

**Сцяна'** ж. Урочышча, сенажаць на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Сцяцкі'** мн. Вёска ў Квасоўскім сельсавеце над рэчкай Свіслаччу.

**Табо'льская** Бу'дка ж. Вёска ў Верцялішкаўскім сельсавеце. Назва ад чыгуначнай вартаўнічай будкі, якая знаходзіцца недалёка ад вёскі Табала.

**Та'ляўшчына** ж. Урочышча, лес на поўнач ад вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Тамашэ'ўскага** двор. Былы маёнтак, які належаў абшарніку Тамашэўскаму, урочышча на поўнач ад вёскі Рудавіцы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Тара'сікава** дзя'лка. Урочышча, старыя могілкі каля вёскі Гарны ў Квасоўскім сельсавеце.

**Тарасюкі'** м н. Вёска ў Скідальскім сельсавеце.

**Трыбушо'ўшчына** ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі і мокрае балота на ўсход ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Татар'е'.** Урочышча паміж аколіцай Мораўшчынай і вёскай Саломенкай у Кап-

цёўскім сельсавеце, дзе жылі татары.

**Тата'рка** ж. Невялічкая рэчка, прыток Ласасянкі, якая працякае каля вёскі Бяляны, Караліно ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Тата'ршчына** ж. Урочышча на ўсход ад вёскі Саннікаў над рэчкай Татаркай у Баранавіцкім сельсавеце.

**Тата'ршчына** ж. Урочышча на паўночны захад ад вёскі Саломенка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ту'раў** луг (лух). Урочышча, луг у Зарубіцкім лесе побач з вёскай Путна на ўсход ад вёскі Зарубічы ў Індурскім сельсавеце.

**Туро'ўскага** са'жалка ж. Сажалка, штучны вадаём недалёка ад сядзібы селяніна Туроўскага ў вёсцы Зарубічы ў Індурскім сельсавеце.

**Тэалі'н** м. Урочышча ў гарадскім пасёлку Сапоцкін каля старога касцёла.

**У'збераж** (узбераш) ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Ліхачы ў Парэцкім сельсавеце.

**Удзе'шкі** мн. Урочышча, мокрае балота на ўсход ад вёскі Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце.

**Уну'каўшчына** ж. Палетак ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Калбасіна ў Каробчыцкім сельсавеце.

**У'сава** к. Вёска (да 1964 года Вулька Даргунская) ў Сапоцкінскім пасялковым савеце. Носіць імя Героя Савецкага Саюза Віктара Міхайлавіча Усава.

**Фаршта'т** м. Урочышча, старая назва занёманскай часткі Гродна з часоў княжання Вітаўта, вялікага князя літоўскага (1350–1430), дзе былі паселены немцы-прамыслоўцы.

**Федары'шкі** мн. Урочышча, сенажаць недалёка ад вёскі Пяслі ў Адэльскім сельсавеце.

**Фе'нькава** н. Урочышча, мяшаны лес за 10 км на поўдзень ад горада Скідаля.

**Фо'люш** м. Урочышча над ракой Ласасянкай на захад ад Гродна; тут некалі была сукнавальная фабрыка і фабрыка паясоў.

**Францу'зава** гара ж. Узвышша на паўночны ўсход ад вёскі Падліпкі ў Адэльскім сельсавеце.

**Фэ'рма,** невялікі населены пункт, вёсачка ў Квасоўскім сельсавеце.

**Фэ'рмянскае** бало'та н. Урочышча, сенажаць і выган сялян з вёскі Фэрма.

**Хамі'цкая** рэ'чка ж. Старое рэчышча ракі Свіслачы на поўнач ад вёскі Свіслач у Квасоўскім сельсавеце.

**Хваты'** мн. Вёска ў Скідальскім сельсавеце, з 1972 года ўвайшла ў склад горада Скідаля.

**Хлебада'й** м. Урочышча на захад ад вёскі Кругілікі ў Індурскім сельсавеце, былы маёнтак.

**Хліставі'чы** мн. Вёска, былая ваколіца ў Квасоўскім сельсавеце. Хме'ляўшчына ж. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Хмяльні'цкія** сажа'лкі мн. Сажалкі, рэшткі старога рэчышча ракі Свіслачы каля вёскі Лугавая (раней — Пацэнкі) у Індурскім сельсавеце.

**Цаге'льня** ж. Урочышча (некалі тут размяшчалася цагельня) каля вёскі Дзекалавічы ў Квасоўскім сельсавеце.

**Цаге'льня** ж. Урочышча на поўдзень ад вёскі Ліцвінкі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Цві'клічы** мн. Вёска ў Капцёўскім сельсавеце.

**Цві'лягншчына** ж. Урочышча, сенажаць на ўсход ад вёскі Капцёўка ў Капцёўскім сельсавеце.

**Цвінта'рушкі** мн. Урочышча (некалі стаяў стары касцёл) у вёсцы Адэльск у Адэльскім сельсавеце.

**Церахо'ўскае** бало'та м. Выган каля вёскі Горніца ў Капцёўскім сельсавеце.

**Цімо'шава** н. Палетак ворнай зямлі на захад ад вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Цыдо'вічы** мн. Вёска ў Гожскім сельсавеце над рэчкай Гажанкай.

**Цыхуно'ў** вятра'к м. Ветраны млын, які стаяў на ўзвышшы на захад ад вёскі Кунцаўшчына ў Індурскім сельсавеце (быў уласнасцю Цыхуноў).

**Ця'глава** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі недалёка ад вёскі Навасёлкі ў Абухаўскім сельсавеце.

**Чарну'шка** ж. Ручай, які працякае каля

вёскі Рыбніца, Цыдовічы ў Гожскім сельсавеце і ўпадае ў рэчку Гажанку.

**Чартары'я** ж. Невялікі ручай, які бярэ пачатак з крыніцы ва ўрочышчы Сарасек на ўсход ад вёскі Квасоўка ў Квасоўскім сельсавеце.

**Часо'ўня** ж. Капліца на старых лашанскіх могілках на поўдзень ад вёскі Лаша ў Індурскім сельсавеце.

**Чвэ'рця** ж. Урочышча, дадатак ворнай зямлі сялян вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Чо'рна** рэ'чка ж. Ручай, які працякае праз лес на поўдзень ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Чо'ртава** азярцо' н. Урочышча, невялікае возера ў лесе, на поўнач ад вёскі Верцялішкі ў Верцялішкаўскім сельсавеце.

**Чо'ртава** печ ж. Урочышча, зваленыя гурбы камення на полі.

**Чо'ртавыя** пе'чы мн. Урочышча, упадзіна, парослая купавістай травой, асакой каля вёскі Копанькі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Чыры'лаўшчына** ж. Урочышча, сенажаць каля вёскі Баранавічы ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Шамату'льскія** далы. Урочышча, палетак ворнай зямлі на паўночны захад ад вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Шашу'еў** клін. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Пышкі ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Швэ'дскія** магі'лкі мн. Старыя могілкі, на якіх многа пліт без надпісаў, курганны могільнік 11–13 ст. за 1 км на поўдзень ад вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце (15 курганоў).

**Швэ'дскія** магі'лкі мн. Старыя могілкі недалёка ад урочышча Пескі ў Квасоўскім сельсавеце.

**Шляхе'цкая** гара'ж. Урочышча каля вёскі Лэйгабалі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Шмургу'ні** мн. Урочышча, лес на захад ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Шні'пчын** бе'раг (берах) м. Урочышча, сенажаць каля рэчкі Свіслачы ў Індурскім сельсавеце недалёка ад вёскі Балічы.

**Шула'йце** н. Урочышча, палетак ворнай зямлі на ўсход ад вёскі Прывалка ў Гожскім сельсавеце.

**Шуляко'вы** вятрак м. Вятраны млын, які стаяў на ўзвышшы каля Гарадзішча на поўнач ад былога мястэчка Індуры ў Індурскім сельсавеце і належаў Шуляку.

**Шумялё'вы** плёс м. Плёс на рацэ Свіслачы побач вёскі (былой аколіцы) Занявічы ў Індурскім сельсавеце.

**Шы'баў** луг м. Выган на поўнач ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Шы'йка** ж. Урочышча, сенажаць на захад ад вёскі Скамарошкі ў Каробчыцкім сельсавеце.

**Шы'йка** ж. Урочышча, сенажаць на поўнач ад вёскі Пад'ятлы ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Шымако'ва** н. Урочышча, кусок ворнай зямлі на поўнач ад вёскі Клінчаны ў Адэльскім сельсавеце.

**Шы'рнаўка** ж. Урочышча, луг з сажалкай каля вёскі Караневічы ў Капцёўскім сельсавеце.

**Ю'рздыка** ж. Урочышча, частка горада Гродна каля Барысаглебскай царквы.

**Ю'рздыка-Індура** ж. Усходняя частка былога мястэчка ў Індурскім сельсавеце.

**Ю'ркава** гара ж. Узвышша ў выглядзе каўпака на паўночны захад ад вёскі Каўпакі ў Капцёўскім сельсавеце.

**Яп'нты** мн. Вёска ў Баранавіцкім сельсавеце.

**Я'сень** м. Урочышча, палетак ворнай зямлі каля вёскі Ліхачы ў Парэцкім сельсавеце.

**Ясудо'ўка** ж. Урочышча, узвышша, парослае лесам на паўночны захад ад гарадскога пасёлка Сапоцкін, на якім да сённяшняга дня захаваліся руіны старога літоўскага замка, гарадзішча.

**Я'страбава** н. Урочышча, недалёка ад вёскі Горніца ў Капцёўскім сельсавеце.

**Я'твезі** мн. Урочышча, былая вёска ў Баранавіцкім сельсавеце, недалёка ад вёскі Рагачы.

**Я'ткі** мн. Старая частка горада Гродна.

**Я'цвезь** (Яцьвясь) ж. Вёска ў Васілевіцкім сельсавеце.

**Я'цвезь** (яцьвясь) ж. Урочышча, месца былога фальварка ў Васілевіцкім сельсавеце недалёка ад вёскі Васарабы над Нёманам.

# СКАРАЧЭННІ

абразл. — з адценнем абразлівасці
адз. — адзіночны лік
выкл. — выклічнік
груб. — з адценнем грубасці
дзеепрым. — дзеепрыметнік
зак. — закончанае трыванне
зборн. — зборны назоўнік
злучн. — злучнік
ж. — жаночы род
жарт. — жартаўлівае
ліч. — лічэбнік
м. — мужчынскі род
мн. — множны лік
н. — ніякі род
незак. — незакончанае трыванне
перан. — пераноснае значэнне
прым. — прыметнік
прыназ. — прыназоўнік
прысл. — прыслоўе
часц. — часціца
экспр. — з адценнем экспрэсіўнасці

**Шукайце кнігі з лагатыпам "ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ" ў кнігарнях, інтэрнэт-кнігарнях, а таксама ў прыватных распаўсюднікаў:**

**«Гародня** X – XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам»
**Юры** ГАРДЗЕЕЎ «Тапанімія старажытнай Гародні (XII-XVIII стст.)»
**Аляксандр** КРАЎЦЭВІЧ «Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248–1341)»
**Зоська** ВЕРАС «Я помню ўсё»
**Наталля** МАЛІНОЎСКАЯ-ФРАНКЕ «Забыты вернісаж». Творчасць мастакоў Гарадзеншчыны 1860-х – 1930-х гг.
**Зянон** ПАЗЬНЯК «Добрая фатаграфія»
**Ларыса** ГЕНІЮШ «Лісты з Зэльвы»
**«Гродназнаўства.** Гісторыя еўрапейскага горада»
**Біяграфія** гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы
**Васіль** БЫКАЎ. «Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957–1972). Незавершанае. Нататнікі»
**Юры** ГАРДЗЕЕЎ «Магдэбургская Гародня»
**Данута** БІЧЭЛЬ «Хадзі на мой голас»
**Пётр** СЯЎРУК «Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху»
**Аляксей** КАРПЮК «Развітанне з ілюзіямі»
**«Зрабаваны** народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі»
**Алесь** КРАЎЦЭВІЧ «Рыцары і дойліды Гародні»
**Сяргей** ШАПРАН «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця» Т. 1–2
**Апанас** ЦЫХУН «...Улюбёны я ў сваю зямлю»
**Дзмітры** ЛЮЦІК «Нёманскі Фронт. 12–25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна
ў данясеннях, успамінах, статыстыцы»
**Юры** ГУМЯНЮК «Назаві мяне геніем»
**Гародня. 50 год** без Фары Вітаўта (мультымедыйны дыск)
**DZIECIUKI** «Гарадзенскі гармідар» (дыск)

**Серыя «Сучасная гарадзенская проза»**
**Віктар** ШАЛКЕВІЧ «Рэквіем па непатрэбных рэчах»
**Аркадзь** ЖУКОЎСКІ «Галс»
**Віктар** САЗОНАЎ «Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі»
**Валянцін** ДУБАТОЎКА «Чорная воля»
**Віктар** САЗОНАЎ «Паэзія прозы»

**Серыя «Краязнаўства Беларусі»**
**Уладзімір** ХІЛЬМАНОВІЧ «Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны»

**Матэрыялы міжнароднай навуковай гістарычнай канферэнцыі**
**«Гарадзенскі палімпсест»** – 2008, 2009, 2010, 2011, 2012, 2013

**Гарадскі гістарычна-культуралагічны часопіс**
**«Гарадзенскі** гадавік – 2012»
**«Гарадзенскі** гадавік – 2013»

ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

